УДК 796/799(476)(092)
ББК 75(4Беи)
М99

**Мяснікоў, А. Ф.**
М99 Сто асоб беларускага спорту : нарысы / Анатоль Мяснікоў. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2009. — 424 с.

ISBN 978-985-6720-76-8.

«Сто асоб беларускага спорту» А. Мяснікова — незвычайнае выданне. З яго старонак у невялікіх нарысах паўстае багатае на падзеі і напружаныя моманты жыццё неардынарных асоб, якія і ў недалёкім мінулым, і сёння славяць нашу незалежную Беларусь на высокай і адказнай арэне — спартыўнай.

Кніга адрасавана ўсім, хто цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны, шануе імёны яе слынных алімпійцаў.

**УДК 796/799(476)(092)**
**ББК 75(4Беи)**

**ISBN 978-985-6720-76-8**

Слова да чытача

## ДЗЕЛЯ ГЭТАГА ВАРТА ЖЫЦЬ...

Меў рацыю Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, заявіўшы аднаго разу аб тым, што для таго, каб у свеце ведалі пра нашу маладую суверэнную дзяржаву, спартсмены робяць больш, чым дыпламаты. Сапраўды, практычна кожны тыдзень прадстаўнікі краіны дабіваюцца перамог на міжнародных спаборніцтвах і турнірах самага высокага рангу, а ў гонар іх узнімаецца флаг нашай Айчыны і выконваецца Дзяржаўны гімн. І ў многіх кутках самых розных кантынентаў людзі ўсё больш і больш даведваюцца пра нашу Бацькаўшчыну, чым насамрэч можна і трэба ганарыцца.

Вялікі англійскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Джон Галсуорсі пісаў: «Выратавальнай сілай у нашым свеце з'яўляецца спорт — над ім па-ранейшаму лунае сцяг аптымізму, тут захоўваюць правілы і паважаюць праціўніка незалежна ад таго, на чыім баку перамога…» Простыя і, разам з тым, мудрыя словы! Спорт, нароўні з мастацтвам, можа і павінен выратаваць свет, зрабіць яго больш трывалым, надзейным, калі можна так сказаць, больш шчырым і праведным. Менавіта праз спорт чалавецтва пашырае гарызонты свайго супрацоўніцтва, а народы самых розных краін спазнаюць тыя таямніцы і сакрэты жыцця і дзейнасці, якія ім яшчэ не вядомыя…

Пра Беларусь спартыўную свет пачуў упершыню ў далёкім ужо 1956-м, калі мала каму вядомы атлет Міхаіл Крываносаў смела ўступіў у барацьбу з мацнейшымі кідальнікамі молата і сенсацыйна заваяваў сярэбраны медаль XVI Алімпійскіх гульняў у аўстралійскім Мельбурне. І ёсць нешта вельмі сімвалічнае ў тым, што менавіта кіданне молата нароўні з іншымі такімі папулярнымі відамі спорту, як цяжкая атлетыка, штурханне ядра, барацьба, надоўга стане пасля таго свайго роду візітнай карткай нашай рэспублікі ў складзе Саюза ССР, а потым — і пасля набыцця ёй самастойнасці і суверэнітэту. Пагартайце алімпійскую гісторыю, учытайцеся ў яе радкі, і вы пераканаецеся, што беларускія штангісты і барцы, кідальнікі молата і штурхальнікі ядра не адно дзесяцігоддзе ўтрымлівалі ў гэтых сілавых спартыўных дысцыплінах неафіцыйны тытул самых моцных людзей планеты Зямля. Бліскучыя, іншы раз проста непаўторныя дасягненні тых сапраўдных волатаў: неаднаразовых чэмпіёнаў свету і Еўропы, пераможцаў і прызёраў многіх алімпіяд і самых буйных міжнародных турніраў штангістаў Леаніда Тараненкі, Аляксандра Курловіча, Андрэя Арамнава, барцоў Аляксандра Мядзведзя і Алега Караваева, кідальнікаў молата Рамуальда Кліма, Івана Ціха-

на, Аксаны Мяньковай, штурхальнікаў ядра Эліны Зверавай, Яніны Карольчык, Надзеі Астапчук прымусілі свет гаварыць пра Беларусь з вялікай павагай і прызнаннем, здымаць капялюш перад імі, нашымі слыннымі і вялікімі атлетамі.

Разам з дзяржавай, яе народам наш спорт і яго лепшыя прадстаўнікі прайшлі складаны, неардынарны, часам непрадказальны шлях. Асабліва шмат выпрабаванняў — і перш за ўсё арганізацыйных — выпала на іх долю напрыканцы XX — а пачатку XXI стагоддзя.

Як вядома, пасля распаду Саюза ССР краса і гонар нашага народа — савецкі спорт — упершыню за гады існавання дзяржавы апынуўся на мяжы выжывання. Літаральна адразу былі ліквідаваны тыя трывалыя, у прамым сэнсе слова — жыватворныя сувязі, што складваліся і фарміраваліся многімі пакаленнямі нашых папярэднікаў. Па розныя бакі дзяржаўных граніц засталіся бацькі і дзеці, вучні і настаўнікі, трэнеры і спартсмены. Многія трэніровачныя базы і навуковыя цэнтры, створаныя агульнымі сіламі і намаганнямі, сталі раптам недаступнымі, чужымі. Больш таго, у многіх месцах так званы «дзікі» рынак пераўтварыў спартыўныя аб’екты, у тым ліку і такія буйныя, як палацы спорту і стадыёны, у прадмет куплі-продажу, прычым вельмі часта — далёка ад фізкультурна-спартыўнай скіраванасці і прызначэння.

Адным словам, сітуацыя складвалася — без перабольшання — катастрафічная. У гэтых складаных і неардынарных умовах кіраўніцтва незалежнай Беларусі знайшло магчымасці, каб не даць загінуць спорту, тым набыткам, што мы мелі. Нашай дзяржаве, па сутнасці, адзінай сярод былых саюзных рэспублік СССР, удалося захаваць інфраструктуру і, што асабліва важна, асноўныя фізкультурна-спартыўныя кадры. А кадры, як вядома, вырашаюць усё!

На шчасце, крызіс, абазначаны ў беларускім фізкультурна-спартыўным руху на пачатку 1990-х гадоў, быў пераадолены параўнальна хутка і без асаблівых выдаткаў. Добра разумеючы вялікую значнасць гэтай галіны ў справе аздараўлення нацыі, кіраўніцтва суверэннай рэспублікі надало фізічнай культуры і спорту статус аднаго з галоўных дзяржаўных прыярытэтаў. Так, упершыню ў гісторыі беларускага фізкультурна-спартыўнага руху быў утвораны самастойны дзяржаўны орган кіравання галіной — Міністэрства спорту і турызму. У незвычайна цяжкіх эканамічных і фінансавых умовах былі адшуканы магчымасці для першачарговага фінансавання нашых патрэб, рэканструяваны ранейшыя і пабудаваны многія новыя фізкультурна-спартыўныя аб’екты. Для выдатных спартсменаў рэспублікі, тых, хто насамрэч праслаўляе нашу Бацькаўшчыну, устаноўлены прэзідэнцкія стыпендыі.

Галоўным паказчыкам развіцця спорту (а значыць, і фізічнага стану грамадства) у той ці іншай краіне — незалежна ад эканамічнага, сацыяльнага, маральна-палітычнага становішча — з’яўляюцца вынікі Алімпійскіх гульняў: самых прэстыжных, высокаарганізава-

ных і слынных спаборніцтваў на планеце. Гэта — аксіёма. І не выпадкова дзяржавы, якія яшчэ два-тры дзесяцігоддзі назад мы па «заімшэлай» традыцыі лічылі ледзь ці не самымі адсталымі, апошнім часам, што называецца, кінулі на алімпіяды не толькі пільны позірк, але і выдзелілі вялізныя матэрыяльныя сродкі, сканцэнтравалі на іх сваю найпершую ўвагу і павагу.

Калі казаць шчыра, мы, па сутнасці, заўсёды ведалі і ведаем: выступаць на Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету і Еўропы, дамагацца там такіх паказчыкаў, якіх дасягнулі тыя ж Аляксандр Мядзведзь і Вольга Корбут, Алена Бялова і Уладзімір Парфяновіч, Віктар Сідзяк і Віталь Шчэрба, Андрэй Арамнаў і Аксана Мянькова, а таксама дзесяткі іншых пасланцоў Беларусі, — не проста ганарова і адказна, але і прэстыжна: як для саміх атлетаў, так і для дзяржавы. Для нас гэта стала асабліва відавочным і важным, пачынаючы з апошняга дзесяцігоддзя XX стагоддзя, калі суверэнная Рэспубліка Беларусь атрымала магчымасць самастойна заявіць аб сабе, сваіх выхаванцах на самым высокім спартыўным узроўні — і перш за ўсё на Алімпіядах. Думаю, не перабольшу, калі адзначу: беларусы дастойна выконваюць гэту высокую і адказную місію.

Сэнс і значэнне вялікага спорту заўсёды зводзіліся да аднаго, галоўнага: прадэманстраваць самыя лепшыя магчымасці асобы Чалавека. І ў антычнасці, і ў наш час гэта ўдаецца лепшым з лепшых, тым, хто Богам надзелены атлетычнымі дадзенымі, хто, ахвяраваўшы самымі рознымі спакусамі жыцця, аддае свой час, свае сілы, волю і майстэрства развіццю, удасканаленню, гармоніі свайго арганізма.

Спортам займаюцца тысячы і мільёны людзей. Чэмпіёнамі і прызёрамі Алімпіяд, першынстваў свету і кантынентаў становяцца сотні — не больш. І пагэтаму становяцца зразумелымі паважлівыя адносіны, усеагульныя любоў і шанаванне да тых, хто, ашчасліўлены талентам і незвычайнай працавітасцю, узнімаецца на самыя высокія ў свеце п'едэсталы гонару — алімпійскія, сусветныя, кантынентальныя.

Усё сказанае вышэй — не проста гучныя словы, не голая дыдактыка, а сама рэальнасць, наша штодзённая рэчаіснасць. А зрабіў я гэта невялікае адступленне дзеля таго, каб яшчэ раз засяродзіць увагу і нашу агульную пашану да тых, хто выходзіць на спартыўныя арэны сусветных форумаў і дэманструе лепшыя якасці Чалавека. Гэтыя людзі — без перабольшання! — наша гордасць, наша годнасць, наша сумленне!

Ім, гордасці, годнасці і сумленню Чалавецтва, спакон веку прысвячаюцца і самыя цёплыя, высокія і шчырыя словы самых знакамітых, таленавітых і здольных творцаў — пісьменнікаў, паэтаў, філосафаў, гісторыкаў, публіцыстаў. Героям спорту адрасоўвалі свае шчырыя пасланні слынныя сыны антычнасці: Платон і Сакрат, Дыяген і Геракліт, Герадот і Фукідзід, Сафокл і Еўрыпід, нават, на першы погляд, далёкія ад высокіх слоў і прамоў матэматык Піфагор і заснавальнік медыцыны Гіпакрат.

Сёння ж іх — гордасць, годнасць і сумленне Чалавецтва — славяць іншыя творцы: нашы з вамі, паважаны чытач, сучаснікі.

…Нельга ўявіць сённяшні дзень нашага чалавека без тэлебачання, газеты, радыё, інтэрнэта. Тысячы і мільёны людзей ва ўсіх кутках планеты пачынаюць і заканчваюць працоўны, а тым больш — выхадны дзень са знаёмства з навінамі жыцця, у тым ліку — і спартыўнага. І калі ў гэтым сапраўдным акіяне інфармацыі мы пачуем імя таго ці іншага атлета і ўсяго толькі некалькі слоў пра ягонае новае, нябачнае раней дасягненне, — на душы і ў сэрцы становіцца радасна і цёпла! Тыя ж радасць і цеплыня павялічваюцца шматкрат, калі той атлет — наш зямляк!

Паважаны чытач!

Ты трымаеш у руках унікальную кнігу. Яна прысвечана, з аднаго боку, звычайным, а з другога — незвычайным людзям — Героям спорту. Людзям, таленавітым ад прыроды, непаўторным па фізічных даных, унікальным па патэнцыяльных магчымасцях… Людзям неардынарных лёсаў! Кожны з іх, знайшоўшы сябе ў жыцці ў цэлым, у вялікім спорце — у прыватнасці, здзейсніў сапраўдны подзвіг. Большасць з герояў гэтай кнігі пакарылі самы сапраўдны, спартыўны Алімп, некаторыя — у дадатак — яшчэ і сусветны, і еўрапейскі п’едэсталы гонару. Асобныя ж, таксама паспытаўшы алімпійскага «хлеба», некалькі недацягнулі да звання алімпійскага героя, аднак сталі ўладальнікамі ўзнагарод на чэмпіянатах і першынствах свету і Еўропы. І тым, і іншым — нізкі паклон і самая шчырая падзяка за здзейсненае!

Прачытайце гэту кнігу — з самага пачатку і да канца. Вы не толькі далучыцеся да слаўных спраў і здзяйсненняў ста асоб беларускага спорту, але і пазнаёміцеся з творчасцю такой жа таленавітай асобы, як аўтар кнігі — пісьменнік, публіцыст і гісторык Анатоль Мяснікоў.

Мы знаёмыя вось ужо тры (!) дзесяцігоддзі. Столькі ж, і нават больш, гадоў прысвяціў Анатоль Мяснікоў шчыраванню на ніве беларускай нацыянальнай журналістыкі. Прысвяціў, да яго гонару, не адной якой-небудзь вузкай тэме ці тэматыцы, а надзвычай плённа і пладавіта папрацаваў над праблемамі і пытаннямі гісторыі, культуры, навукі і, на наша агульнае шчасце, фізічнай культуры і спорту. Нарысы і эсэ, замалёўкі і праблемныя артыкулы Анатоля Фёдаравіча ўжо з пачатку 1970-х гадоў пачалі ў прамым сэнсе слова ўпрыгожваць старонкі такіх вядомых у нашай рэспубліцы газет, як «Чырвоная змена» і «Звязда», у якіх ён працаваў, а таксама іншых выданняў: часопісаў «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Крыніца», газет «Советская Белоруссия», «Сельская газета» (цяпер гэта «Белорусская нива»), «Знамя юности»… Інакш кажучы, не было ў Беларусі рэспубліканскага перыядычнага выдання, чытачы якога не маглі б пазнаёміцца з высокамастацкімі пісьменніцкімі і журналісцкімі творамі Анатоля Мяснікова. Кіраўніцтва дзяржаў-

ных органаў і фізкультурна-спартыўных арганізацый заахвочвала і падтрымлівала яго здольнасці, няўрымслівасць і вялікую працавітасць: на працягу 1980-х — 2005-х гадоў па камандзіроўках гэтых структур Анатоль Фёдаравіч асвятляў многія сусветныя і еўрапейскія чэмпіянаты і буйныя міжнародныя спаборніцтвы па самых розных відах спорту, што праводзіліся больш чым у трыццаці краінах: Аб'яднаных Арабскіх Эміратах і Андоры, Аўстрыі і Бельгіі, Босніі і Герцагавіне і Венгрыі, Вялікабрытаніі і Галандыі, Германіі і Грэцыі, Ізраілі і Іспаніі, Італіі і Польшчы, Расіі і Сан-Марына, Тайвані і Чарнагорыі, Швейцарыі і Швецыі…

Практычна з усімі героямі сваіх твораў аўтар быў і застаецца ў добрым знаёмстве, шматкрат прысутнічаў на спаборніцтвах з іх удзелам, дзесяткі разоў гутарыў з імі… Многія факты і дэталі з іх багатых і непаўторных біяграфій былі ўжо абнародаваны чытачам, многія выносяцца на суд упершыню. Мяне асабіста, як чытача, уразілі ў кнізе дакладнасць падзей і праўдзівасць, дакументальнасць часу ў цэлым і многіх момантаў і сітуацый — у прыватнасці, якія многімі з нас ці то забыліся ўжо, ці то проста не адклаліся ў памяці… Анатоль Мяснікоў, да яго гонару, надзвычай глыбока пранікае не толькі ў псіхалогію спорту, але і ў асаблівасці характараў, звычак і паводзін «зорак» беларускага спорту. Прываблівае і тая чуллівасць, з якой ён ставіцца да многіх сваіх герояў…

У добры шлях, «Сто асоб беларускага спорту»!

***Аляксандр ГРЫГАРАЎ,***
***міністр спорту і турызму***
***Рэспублікі Беларусь,***
***кандыдат педагагічных навук,***
***заслужаны трэнер Беларусі***

*Раздзел I*

## ПЕРШЫ КРОК ЗРАБІЛА «КАРАЛЕВА»…

*На галоўных спартыўных форумах сучаснасці — Алімпійскіх гульнях — самую вялікую колькасць узнагарод (звыш 40 камплектаў) разыгрываюць прадстаўнікі лёгкай атлетыкі: спрынтэры і стаеры, скакуны і хадакі, кідальнікі і штурхальнікі, бар'ерысты і мнагаборцы…*

*Хто, калі і пры якіх абставінах назваў лёгкую атлетыку «каралевай спорту», зараз наўрад ці ўжо высветліш. А вось за што, за якія вартасці і адметнасці — меркаваць можна без асаблівых намаганняў. Лёгкая атлетыка — гэта сама прыгажосць, непараўнальнасць тэмпераменту, непрадказальнасць барацьбы, незафіксаванасць напружання… А яшчэ — гэта самы масавы від спорту на планеце: заняткі ім даступныя кожнаму і ў любых умовах. У выніку ўсяго гэтага і б'юць прадстаўнікі «каралевы спорту» сусветныя, алімпійскія, еўрапейскія і нацыянальныя рэкорды часцей, чым ва ўсіх астатніх відах алімпійскай праграмы разам узятых!*

*На сусветнай і еўрапейскай арэнах, а потым — і на Алімпійскіх гульнях прадстаўнікі Беларусі дэбютавалі ў свой час менавіта ў лёгкаатлетычных дысцыплінах, і зрабілі гэта даволі-такі паспяхова і гучна. У такім далёкім ужо 1952 годзе кідальнік молата Міхаіл Крываносаў стаў чэмпіёнам Савецкага Саюза: пазней ён будзе ўганараваны гэтым высокім званнем пяць разоў. Яшчэ праз два гады — у 1954-м — на чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы ў Швейцарыі на п'едэстал гонару за залатымі чэмпіёнскімі ўзнагародамі беларусы ўзнімуцца ажно чатыры разы: двойчы — Марыя Іткіна (бег на 200 метраў і эстафета 4 х 100 метраў), той жа Міхаіл Крываносаў і Анатоль Юлін — за перамогу ў бегу на 400 метраў з бар'ерамі. У 1955 годзе прадстаўнік беларускай «каралевы спорту» ўпіша сваё імя і ў табліцу сусветных*

*рэкордаў: у спартыўнай хадзьбе на 20 кіламетраў яго ўстановіць Канстанцін Кудраў.*

*Гэтаксама паступова, аднак даволі ўпэўнена і пераканаўча будуць падступацца нашы лёгкаатлеты і да алімпійскіх узнагарод — самых важкіх і каштоўных у вялікім спорце. На Алімпіядзе-52 у Хельсінкі Анатолю Юліну не хопіць да бронзавага медаля ўсяго аднаго імгнення — ён заняў тады 4 месца. Аднак ужо на Гульнях 1956 года Міхаіл Крываносаў, а на Алімпіядзе-60 — Уладзімір Гараеў (трайны скачок) прынясуць Беларусі першыя сярэбраныя алімпійскія ўзнагароды.*

*А потым будзе Токіо, дзе ў 1964-м на XVIII Алімпійскіх гульнях нікому не вядомы спартсмен з Беларусі Рамуальд Клім заваюе залатую алімпійскую ўзнагароду.*

*Наступная «залатая» прыступка алімпійскага п'едэстала беларускім лёгкаатлетам пакарыцца толькі праз 24 гады: на Гульнях-88 у Сеуле чэмпіёнкай стане Таццяна Ледаўская ў эстафеце 4 х 400 метраў. Праўда, будуць перад тым і пасля таго сярэбраныя і бронзавыя алімпійскія медалі нашых прадстаўнікоў «каралевы спорту» Уладзіміра Лавецкага, Пятра Пачанчука, Ігара Лапшына, Яўгена Іўчанкі, Мікалая Кірава, Яўгена Гаўрыленкі, Аляксандра Каваленкі, Наталлі Шыколенка, Ігара Астапковіча, Наталлі Сазановіч, Уладзіміра Дуброўшчыка, Эліны Зверавай, Васіля Капцюха, Ірыны Ятчанка... Аднак жа ўзнагароды вышэйшай пробы ў Беларусі па-ранейшаму будуць рэдкасцю: два наступныя залатыя медалі заваююць Яніна Карольчык у штурханні ядра (2000 год) і Юлія Несцярэнка ў бегу на 100 метраў (2004 год).*

*Поўны камплект алімпійскіх узнагарод атрымаюць прадстаўнікі нашай Бацькаўшчыны на XXIX Алімпійскіх гульнях 2008 года. Зноў вызначацца штурхальнікі ядра. Аксана Мянькова стане першай беларускай — уладальніцай залатой узнагароды ў кіданні молата і, такім чынам, годна прадоўжыць справу мужчын-малатабойцаў: Міхаіла Крываносава, Рамуальда Кліма, Ігара Астапковіча... Сямейным дуэтам выйдуць у сектар для штурхання ядра Наталля і Андрэй Міхневічы і прывязуць з Пекіна ў родны Мінск сярэбраную і бронзавую ўзнагароды.*

*У цэлым паспяхова будуць выступаць беларусы на еўрапейскіх і сусветных чэмпіянатах. Пачынаючы з 1958 года, залатыя медалі на кантынентальных першынствах, чэмпіянатах свету і розыгрышах Кубка Еўропы заваююць Кацярына Ермалаева, Марыя Дубаграева, Раман Крашаніннікаў, Уладзіслаў Сапея, Віктар Баліхін, Аляксандр Грыгор'еў, Аляксандр Трашчыла, Юрый Чырванёў, Аляксандр Паташоў, Равіля Аглетдзінава, Наталля Духнова, Валянціна Цыбульская, тыя ж Марыя Іткіна, Міхаіл Крываносаў, Рамуальд Клім, Таццяна Ледаўская, Ігар Лапшын, Ігар Астапковіч, Уладзімір Дуброўшчык…*

*Менавіта набыткі гэтых і некаторых іншых беларускіх атлетаў на міжнароднай спартыўнай арэне і прымусілі спецыялістаў, трэнераў і журналістаў загаварыць аб існаванні беларускай лёгкаатлетычнай школы. І яна насамрэч з'явілася, існавала не адно дзесяцігоддзе, існуе, дзякуй Богу, і сёння: са сваімі традыцыямі, набыткамі і заваёвамі. І не казаць пра яе — гэта значыць зневажаць і забыць імёны і справы тых жа Марыі Лявонцьеўны Іткінай, Міхаіла Пятровіча Крываносава, Уладзіміра Міхайлавіча Гараева, Рамуальда Іосіфавіча Кліма і многіх іншых, можа і менш вядомых, аднак жа такіх таленавітых і здатных спартсменаў, якія ў прамым сэнсе слова потам і крывёй пракладвалі шлях беларускага спорту да алімпійскай спартыўнай вяршыні!*

*Вось толькі некалькі Асоб з той вялікай кагорты сапраўдных герояў беларускай лёгкаатлетычнай школы.*



## *Міхаіл Крываносаў:*

# «МНЕ ВЫПАЛА БЫЦЬ ПЕРШАПРАХОДЦАМ!»

*Міхаіл Крываносаў нарадзіўся 1 мая 1929 года ў горадзе Крычаве Магілёўскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Сярэбраны прызёр XVI Алімпійскіх гульняў у Мельбурне (1956) у кіданні молата. Чэмпіён Еўропы 1954 года ў Берне (Швейцарыя), сярэбраны прызёр еўрапейскага першынства 1958 года ў Стакгольме. Шасціразовы чэмпіён Савецкага Саюза — 1952, 1954, 1955, 1956, 1957 і 1958 гадоў. Уладальнік 6 рэкордаў свету і 11 — Савецкага Саюза. Заслужаны трэнер Беларусі, заслужаны дзеяч фізічнай культуры рэспублікі. Кандыдат педагагічных навук, прафесар. Узнагароджаны ордэнам Леніна. Ганаровы грамадзянін горада Крычава. Першы трэнер — Яўген Шукевіч.*

Пра першыя пасляваенныя гады, умовы жыцця тагачаснай моладзі і школьнікаў мы ведаем сёння шмат. Галодныя, напаўраспранутыя, яны поруч з дарослымі садзіліся за штурвалы трактароў і аўтамашын, узнімаліся на рыштаванні новабудоўляў, браліся за косы і граблі, каб дапамагчы як мага хутчэй загаіць раны на роднай Бацькаўшчыне.

Пятнаццацігадовы крычаўскі школьнік Міша Крываносаў быў сярод сваіх аднагодкаў.

Неўзабаве пасля вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх акупантаў ён апынуўся тут, у беларускай сталіцы. Горад ляжаў у руінах, яму так патрэбны былі рабочыя рукі! І падлетак з ахвотай працаваў, дапамагаючы старэйшым на падсобных работах. Прыцемкамі, калі сябры і старэйшыя разыходзіліся па дамах, ён спяшаўся на такі ж, як і ўвесь горад, практычна поўнасцю зруйнаваны бомбамі і артылерыйскімі снарадамі стадыён даваеннага Інстытута фізкультуры, дзе разам з такімі ж хлопцамі

знаходзіў занятак па душы: ганяў самаробны футбольны мяч, бегаў стометроўкі і сярэднія дыстанцыі, кідаў дыск і штурхаў ядро… Міша Крываносаў рыхтаваўся да паступлення ў Беларускі інстытут фізічнай культуры.

У інстытут ён паступіў, што называецца, без праблем. Фізічную загартоўку меў выдатную, ды і па школьных дысцыплінах ні ў чым не ўступаў сваім аднагодкам і нават старэйшым таварышам-абітурыентам. Сярод першых і адным з любімых выкладчыкаў стаў неўзабаве сціплы, ветлівы і вельмі сімпатычны па адносінах да студэнтаў педагог — Яўген Міхайлавіч Шукевіч.

Заняткі агульнафізічнай падрыхтоўкай, спецыяльнымі практыкаваннямі на развіццё вынослівасці і загартаванасці, каардынацыі рухаў у сектары для кідання молата спаўна захапілі юнака. Яўген Міхайлавіч, здаралася, проста сілай забіраў у яго сталёвы снарад і выпраўляў у інтэрнат: маўляў, не перагружайся, сачы за сабой сам… Затое пасля таго як Крываносаў пачаў кідаць молат да адзнакі 45—46 метраў, радаваліся абодва — і настаўнік, і вучань — ну нібы дзеці-немаўляты! Яшчэ б: нарматыў для таго, каб стаць прэтэндэнтам на ўдзел у Алімпійскіх гульнях 1952 года, быў, што называецца, зусім побач: ён раўняўся 48 метрам 90 сантыметрам… І 23-гадовы спартсмен неўзабаве выканаў яго!

…Алімпійская сталіца 1952 года — фінскі Хельсінкі — сустрэла савецкіх спартсменаў — дэбютантаў вышэйшага спартыўнага форуму — самымі сапраўднымі сюрпрызамі, і пры гэтым — шмат у якіх адносінах. І найперш — у сектарах для скачкоў, кіданняў і штурханняў спартыўных снарадаў. Беларускі кідальнік молата Міхаіл Крываносаў на першым этапе барацьбы за ўзнагароды трымаўся дастойна і на роўных з супернікамі: згаданы вышэй кваліфікацыйны рубеж ён перавыканаў на 2 метры 25 сантыметраў, паказаўшы, такім чынам, даволі прыстойны для таго часу вынік — 51,15. Фінальныя спробы абяцалі напружаную і бескампрамісную барацьбу…

Ды не вытрымаў дэбютант псіхалагічных нагрузак, не справіўся і з маладымі, нацягнутымі, бы тая струна, нервамі… Усе тры фінальныя кідкі атрымалі «незалік», і як вынік — апошняе сярод 24 удзельнікаў месца…

Дадому ехаў — нібы з самай цяжкай і знясільваючай катаргі.

Яўген Шукевіч, тым не менш, свайго вучня не лаяў, а нават… пахваліў. Маўляў, не багі гаршкі абпальваюць… Пайшлі на трэніроўку!

Тая трэніроўка (чытайце: падрыхтоўка да наступных Алімпійскіх гульняў) працягвалася-доўжылася ні многа ні мала — роўна чатыры гады!

Да алімпійскіх баталій 1956 года ў Мельбурне заставалася зусім няшмат часу, як пачалася самая звычайная «перапасоўка», і не чым-небудзь, а ўсё тым жа спартыўным сямікілаграмовым молатам — паміж двума самымі моцнымі на той час атлетамі, якія выраслі, сталі на ногі і загартаваліся як спартсмены на розных, супрацьлеглых кантынентах — еўрапейскім і амерыканскім. Гутарка ідзе пра мінчаніна Міхаіла Крываносава і амерыканца Гаральда Каналі. Некалькі разоў іхняя завочная спрэчка за права валодання сусветным рэкордам заканчвалася на карысць то аднаго, то другога. Сустрэча твар у твар на вечназялёным аўстралійскім кантыненце павінна была расставіць усе кропкі над «і»…

За чатыры гады, што мінулі пасля Гульняў у Хельсінкі, алімпійская кваліфікацыя «вырасла» больш чым на 5 метраў і складала ўжо 54 метры. І Каналі, і Крываносаў выканалі яе без асаблівых праблем. Абодва асноўныя прэтэндэнты на залаты медаль мельбурнскай чаканкі настройваліся на барацьбу ў фінальнай стадыі спаборніцтваў.

У першай спробе Міхаіл пасылае снарад за адзнаку 60 метраў. Гаральд адказвае тым жа… Другі выхад у сектар: Крываносаў зноў выходзіць наперад — адразу 63 метры і новы алімпійскі рэкорд. Каналі некалькі разгубіўся: такога павароту падзей амерыканец яўна не чакаў... У трэцяй спробе беларус ставіць перад сапернікам яшчэ больш складаную задачу: павялічвае алімпійскі рэкорд яшчэ на… тры сантыметры — 63,03… На жаль, тры апошнія спробы (а на той Алімпіядзе ўсяго іх было шэсць) нашаму волату не падпарадкаваліся. Амерыканец жа знайшоў у сабе сілы сканцэнтравацца і літаральна вырваў перамогу з рук Крываносава, паслаўшы снарад на 16 сантыметраў далей за яго — 63 метры 19 сантыметраў прынеслі яму золата XVI Гульняў.

— Быў шанц у мяне, быў! — з горыччу і не адзін раз узрушана расказваў мне потым Міхаіл Пятровіч. — У самай апошняй, шостай спробе, пачаўшы ўжо раскрутку молата вакол сябе, я адчуў, што заблытваюся ва ўласных шараварах, у якіх выступалі тады «малатабойцы», і вырашыў спыніцца, каб пачаць усё спачатку… Правілы дазвалялі рабіць гэта, толькі я не павінен быў пакідаць сектар для кідання молата.

Аднак шаравары злосна пажартавалі з мяне: нага зачапілася за шырокую штаніну, і я міжволі апынуўся па-за кругам. Вярнуцца назад і паўтарыць спробу мне зусім законна не дазволілі суддзі…

Тым не менш, за сярэбраную алімпійскую ўзнагароду, да якой волат з Беларусі ішоў звыш дзесяці гадоў, яго ніхто не меў права нават папракнуць. Балазе, гэта быў першы медаль алімпійскай чаканкі ў гісторыі ўсяго беларускага спорту!

Там, у далёкай і такой загадкава-таямнічай Аўстраліі, Міхаіл Крываносаў пакляўся сам сабе дабіцца яшчэ раз права выйсці на алімпійскую арэну і ўсё ж такі заваяваць вышэйшую ўзнагароду гэтага сусветнага спартыўнага форуму. І ён — мужны і самаадданы спартсмен-патрыёт — потым зноў і зноў выходзіў у сектар, раз за разам пасылаючы снарад да запаветнага алімпійскага нарматыву. Ды лёс, на вялікі жаль, распарадзіўся інакш. За год да стартаў у алімпійскім Рыме (1960) на адной з трэніровак 30-гадовы Міхаіл Пятровіч Крываносаў не ўтрымаў штангу, і тая моцна траўміравала яго…

Вялікі спорт давялося пакінуць назаўсёды…

Наступныя 15 гадоў жыцця ён прысвяціў не менш удзячнай і патрэбнай справе — рабоце трэнерам. Спачатку перадаваў свой неацэнны і багаты вопыт кідальнікам молата і штурхальнікам ядра са зборнай Беларусі, потым яго запрасілі ў нацыянальную каманду Савецкага Саюза. Вобразна кажучы, мельбурнскі сярэбраны вопыт Міхаіла Пятровіча паспрыяў узыходжанню на вышэйшую прыступку п’едэстала гонару Васіля Рудзянкова, Рамуальда Кліма і Анатоля Бандарчука, заваяванню сярэбранай узнагароды тым жа Клімам і бронзавай — Васілём Хмялеўскім на Алімпійскіх гульнях наступных двух дзесяцігоддзяў — з 1964 па 1984 год…

Ніхто са спартыўных спецыялістаў, кіраўнікоў, трэнераў і журналістаў гэта не возьмецца аспрэчваць!..

Свой след — такі ж непаўторны і адметны — пакінуў Міхаіл Крываносаў і ў спартыўнай педагогіцы, стаўшы спачатку кандыдатам навук, а потым — і прафесарам. У Беларускім інстытуце фізічнай культуры, дзе ён сам адразу пасля вайны зрабіў першыя крокі ў вялікім спорце, у яго сёння шмат паслядоўнікаў і вучняў.



## *Рамуальд Клім:*

# З НАВІЧКОЎ — У ЧЭМПІЁНЫ!

*Рамуальд Клім нарадзіўся 25 мая 1933 года ў вёсцы Хвоева Нясвіжскага раёна на Міншчыне. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XVIII Алімпійскіх гульняў у Токіо (1964) у кіданні молата. Сярэбраны прызёр XIX Алімпіяды ў Мехіка (1968). Чэмпіён Еўропы 1966 года. Уладальнік Кубка кантынента 1965 і 1967 гадоў. Чатырохразовы чэмпіён Савецкага Саюза — 1966, 1967, 1968 і 1971 гадоў. Двухразовы пераможца Спартакіяд народаў СССР — 1967 і 1971 гадоў. Рэкардсмен свету і Еўропы, дзевяціразовы рэкардсмен Савецкага Саюза. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры і спорту Беларусі. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Яўген Шукевіч.*

З молатам — сямікілаграмовым спартыўным снарадам, у якога круты, часцяком непрадказальны «нораў», — ён быў, што называецца, на «ты». Чаму? Адказаць на гэта пытанне цяжка. Мабыць, не апошнюю ролю адыграла тое, што пазнаёміўся з ім Рамуальд Іосіфавіч ужо ў сталым узросце… А мабыць, і таму, што сябравалі яны — вялікі спартсмен і «з характарам» спартыўны снарад — так доўга і надзейна!..

Але як бы тое ні было, у складаным і неадназначным відзе спорту — кіданні молата — Рамуальд Клім пакінуў свой — адметны і непаўторны след…

Хоць у вялікі спорт ён прыйшоў… чыста выпадкова. Падчас прызыву на вайсковую службу ў рады Савецкай Арміі Нясвіжскі раённы камітэт камсамола рэкамендаваў яго — высокага, стройнага, фізічна здаровага і загартаванага хлапца — не куды-небудзь, а ў ваенна-марскі флот. Так і сказалі: глядзі,

не падвядзі! Радасці было — пяром не апішаш! У родную вёску на зборы ў дарогу не бег — ляцеў на крылах!

Рэкамендацыя камсамола — добра, але канчатковы вердыкт выносіў міжраённы ваенны камісарыят у Баранавічах. Прыбыўшы туды, Рамуальд, што называецца, дарваўся да сваёй самай запаветнай дзіцяча-юнацкай мары — марожанага. І грошы такія-сякія былі, і яно, запаветнае, у прамым сэнсе слова — на кожным кроку. Наеўся — ад пуза… З вечара зашчымела ў горле, раніцай — узнялася тэмпература…

Мара развеялася, бы ранішні туман: мандатная камісія ваеннага камісарыята не тое што не падтрымала хадайніцтва нясвіжскіх камсамольскіх лідэраў, а наогул камісавала юнака: прызнала нягодным да страявой…

Бацька і маці ў роспачы развялі рукамі. Сын ніводнага разу не хварэў, не ведаў роўных сабе на ўроках фізкультуры і раённых спартакіядах сярод школьнікаў у кіданні дыска, штурханні ядра, бегу на самыя розныя дыстанцыі, а тут — на табе! Дзе ж справядлівасць?

Павярнуць ходу падзей было немагчыма…

— Калі расчараванні мінулі, дамашнія супакоіліся, — расказваў потым Рамуальд Іосіфавіч, — паўстала новая праблема: што рабіць далей? Тата і мама былі людзі памяркоўныя, сур’ёзныя, аднак калі я падаў сваю ідэю — ледзь не ў адзін голас запратэставалі: маўляў, яшчэ да чаго дадумайся…

Дадумаўся ж сын ну проста да самага нечаканага: пайсці вучыцца ў Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры.

— Здурнеў! — выгукнуў бацька, Іосіф Міхайлавіч. — Хто ж фізкультурай на хлеб зарабляе?!.

— А мама, хоць і была моцная духам, проста ўзяла і заплакала, — успамінаў аднойчы Клім-малодшы. — Праўда, тут жа тата адумаўся: рабі, маўляў, як лічыш за лепшае…

У БДІФК студэнт-першакурснік Рамуальд Клім прадоўжыў спецыялізацыю па лёгкай атлетыцы, а дакладней — па кіданні дыска. Справы спачатку пайшлі няблага: літаральна праз паўгода выканаў нарматыў другога дарослага разраду. І тут рост паказчыкаў раптам спыніўся: ну нібы стары Хатабыч заваражыў…

Адзін з выкладчыкаў тады і параіў яму: трэба, маўляў, змяніць спецыялізацыю. «Паспрабуй заняцца кіданнем молата», — падказаў ён маладому чалавеку, які вось-вось гатовы быў кінуцца ў роспач.

І ўжо праз тыдзень-другі Клім знаёміўся з новым для сябе спартыўным снарадам — молатам. Тым самым, з якім і пасябруе потым на ўсё астатняе жыццё…

Яўген Міхайлавіч Шукевіч, у рукі якога трапіў Рамуальд, быў ужо ў спартыўным свеце чалавекам надзвычай знакамітым. І не дзіва: гэта ён даў першыя ўрокі майстэрства, а калі казаць дакладней — вывеў у вялікі спорт такіх вядомых майстроў-«малатабойцаў», як Міхаіл Крываносаў і Васіль Рудзянкоў, якія першымі з савецкіх спартсменаў праклалі дарогу да алімпійскага п'едэстала: першы з іх стаў сярэбраным прызёрам Гульняў 1956 года ў Мельбурне, другі (праўда, пераехаўшы незадоўга да Алімпіяды ў Маскву) стаў Алімпійскім чэмпіёнам у 1960 годзе ў Рыме.

Лёсам было наканавана наступным алімпійскім лаўрэатам стаць менавіта яму — Рамуальду Кліму.

Падчас заканчэння вучобы ў інстытуце фізкультуры (на календары быў 1955 год) Рамуальд быў першаразраднікам у кіданні молата. Паказчык не благі, але ж і далёка не выдатны… А тут яшчэ шляхі-дарогі вучня і настаўніка рэзка разыходзяцца: выпускніка БДІФК Кліма накіроўваюць на выкладчыцкую працу ў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, а Шукевіч неўзабаве пераязджае на сталае месца жыхарства ў Віцебск. Дзякуй Богу, напрыканцы 1950-х іхнія лёсы сыходзяцца зноў: на гэты раз у горадзе над Заходняй Дзвіной. Яўген Міхайлавіч працаваў там у мясцовай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе, а ў вольны час з ахвотай зноў пачаў даваць урокі 25-гадоваму Рамуальду Кліму.

Не адзін вечар, і нават ноч правялі яны разам — за разлікамі і складаннем схем і заданняў для трэніровак. Былі разлічаны дзесяткі, а можа, і сотні траекторый палёту молата ў паветры, а непасрэдна ў сектары для кіданняў — адшліфаваны кожны з элементаў кідка снарада… «І пры гэтым, — з гонарам за свайго першага і адзінага настаўніка казаў потым Рамуальд Іосіфавіч, — мы ніводнага разу не паспрачаліся… Мы разам шукалі рашэнні і заўсёды знаходзілі іх!»

— Сіла ёсць — розуму не трэба! — гэта не пра наш від спорту і не пра наш з табой занятак, — не адзін раз казаў Яўген Шукевіч свайму апантанаму справай вучню і паслядоўніку. — Сіла сілай, аднак кідальнік молата павінен быць у лепшым значэнні слоў выдатным танцорам, адчуваць рытм і гармонію выканання задумы. Тады і снарад паляціць за рэкордную адзнаку…

У 1959 годзе на чэмпіянаце сацыялістычных краін сярод сельскай моладзі (праводзіліся ў той час і такія спаборніцтвы) віцебскі спартсмен упэўнена заняў першае месца. Паказаны ім вынік прыцягнуў увагу спецыялістаў зборнай Савецкага Саюза, аднак у галоўную каманду краіны Кліма браць не спяшаліся: маўляў, стараваты… Прайшлі яшчэ чатыры доўгія, напоўненыя напружанымі і самаахвярнымі трэніроўкамі і пошукамі, гады, і вось нарэшце прыходзіць першы выклік-запрашэнне на вялікія і адказныя міжнародныя спаборніцтвы — мемарыял братоў Знаменскіх. На іх, а таксама на наступных стартах — і перш за ўсё на Спартакіядзе народаў Савецкага Саюза таго ж 1963-га, Рамуальд бярэ трэцюю прыступку п’едэстала гонару, што прымушае кіраўніцтва нацыянальнай зборнай зноў і зноў вяртацца да разгляду ягонай кандыдатуры. Часу на адтэрміноўку было няшмат: што называецца, на носе былі Алімпійскія гульні 1964 года ў Токіо. Напружыўшыся да немагчымага рубяжу, шматкрат павялічыўшы інтэнсіўнасць трэніровак, 30-гадовы Рамуальд Клім выйграў Кубак Балтыкі і паказаў другі ў краіне вынік — 67 метраў 91 сантыметр…

Шлях у зборную для ўдзелу ў падрыхтоўцы да Гульняў-1964 быў адчынены!

Вялікай перадалімпійскай праверкай гатоўнасці не толькі кідальнікаў молата, але і ўсіх савецкіх лёгкаатлетаў стаў іхні традыцыйны на той час матч зборных СССР і ЗША, які прайшоў перад Гульнямі ў амерыканскім Лос-Анджэлесе. Не інакш як бітвай гігантаў ахрысцілі той турнір тагачасныя савецкія і амерыканскія журналісты. Пераможцы ж яго станавіліся, зазвычай, і галоўнымі прэтэндэнтамі на самыя высокія алімпійскія ўзнагароды.

— Там, за акіянам, у неверагодна вірлівай і проста ажыятажнай абстаноўцы я ўпершыню сустрэўся тварам у твар са славутым амерыканскім кідальнікам молата Гаральдам Каналі, — расказваў Рамуальд Іосіфавіч. — І не проста сустрэўся, а і перамог яго, тым самым значна павялічыўшы свой шанц на ўдзел у Алімпійскіх гульнях у Токіо.

У Гаральда Каналі, у яго «дома», малавядомы каму са спецыялістаў беларускі кідальнік выйграў амаль што паўтара метра: для кідання молата адрыў — больш чым унушальны.

Аднак не амерыканскі сапернік стаў для нашага атлета галоўным канкурэнтам у барацьбе за вышэйшую ўзнагароду, а яшчэ больш унушальных габарытаў венгр Дзьюла Жывоцкі і зусім юны немец з ФРГ Увэ Байер. І Кліма, і Каналі яны

пераўзыходзілі ростам, асабістай вагой ды і ўзростам: гадоў на пяць — першы і больш чым на дзесяць — другі былі маладзейшыя. Першыя два паказчыкі — на карысць венгра і немца, апошні, хутчэй за ўсё, даваў перавагу больш сталым беларусу і амерыканцу…

У адной з першых спроб Жывоцкі кінуў молат да 69-мятровай адзнакі, Байер — крыху за 68 метраў. Для тых умоў (а ішоў над Токіо пралівны дождж) — даволі добрыя вынікі. Але вось выходзіць у сектар Клім, упэўнена раскручваецца і пасылае снарад туды ж — у невядомасць. «69 метраў 74 сантыметры — новы алімпійскі рэкорд!» — гучыць над такійскім стадыёнам аб'ява дыктара-інфарматара.

Залаты медаль чэмпіёна XVIII Алімпійскіх гульняў атрымаў не амерыканскую, не венгерскую і не нямецкую, як аб тым марылі аматары і спецыялісты спорту, а нашу, беларускую, прапіску!

— Я на ўсё жыццё запомніў той дзень і тую дату — 17 кастрычніка 1964 года! — з вялікім гонарам і высокім усведамленнем адказнасці перад Бацькаўшчынай не адзін раз паўтараў потым Рамуальд Іосіфавіч.

Такім чынам, галоўная са спартыўных вышынь — алімпійская — была пакорана. Рамуальду ішоў 32-і год: многія ў зборнай, у тым ліку і трэнеры, звалі яго паважліва-ветліва — Іосіфавіч. Не-не, ён зусім не адчуваў у гэтым нейкіх там падвохаў, тонкіх намёкаў на адстаўку з радоў галоўнай каманды Савецкага Саюза. Наадварот: ёй Клім вельмі і вельмі быў патрэбны! І перш за ўсё таму, што, вобразна кажучы, ачуняўшы ад паражэння на Алімпіядзе ў Токіо, сапернікі з самых розных краін кінуліся браць рэванш.

Роўна праз год пасля Гульняў-64 амерыканскі волат Гаральд Канолі давёў сусветны рэкорд да 71 метра 26 сантыметраў. Рамуальд Клім адказаў еўрапейскім вышэйшым дасягненнем — 71 метр 2 сантыметры. Літаральна тут жа, напрыканцы таго ж 1965-га, на спаборніцтвах у венгерскім Дэбрэцыне небезвядомы Дзьюла Жывоцкі адсунуў рэкордную адзнаку адразу амаль што на два з паловай метры (!) — 73,74. На розыгрышы Кубка Еўропы Жывоцкі і Клім зноў сышліся твар у твар, і зноў наш волат выйграў у масцітага саперніка — на гэты раз звыш двух метраў!

Спецыялісты і мільёны аматараў «каралевы спорту» з нецярпеннем чакалі іхняй чарговай дуэлі — на XIX Алімпійскіх гульнях у Мехіка.

…Тыя ж сапернікі, тое ж высокае напружанне барацьбы, тыя ж перапоўненыя трыбуны алімпійскага стадыёна мексіканскай сталіцы… У трэцяй, а потым і ў чацвёртай спробе алімпійскі чэмпіён устанаўлівае новыя рэкорды Гульняў. Здавалася, да другога трыумфу на галоўных сусветных спартыўных форумах рукой падаць… Ды інакш думаў усё той жа Жывоцкі: у перадапошняй, пятай спробе ён у прамым сэнсе слова вырывае перамогу з рук Кліма, паказаўшы вынік, блізкі да свайго сусветнага рэкорду, — 73 метры 28 сантыметраў.

Усяго 8 сантыметраў уступіў яму Рамуальд Клім, і быў узнагараваны сярэбраным медалём Алімпіяды 1968 года.

А праз год — у 1969-м — 36-гадовы Рамуальд Клім упісаўтакі сваё прозвішча ў спіс рэкардсменаў свету ў кіданні молата. На міжнародных спаборніцтвах у Будапешце (зноў тая ж Венгрыя, зноў тыя ж сапернікі!) ён паслаў сямікілаграмовы снарад на 74 метры 52 сантыметры і, такім чынам, у прамым сэнсе слова прымусіў і канкурэнтаў, і мільёны аматараў спорту зняць перад ім капелюшы.

У такім узросце і пры такой жорсткай, бескампраміснай канкурэнцыі мацнейшымі з мацнейшых насамрэч становяцца адзінкі!



## *Марыя Іткіна:*

## АЛІМПІЙСКІ П'ЕДЭСТАЛ БЫЎ ПОБАЧ...

*Марыя Іткіна нарадзілася 3 мая 1932 года ў горадзе Смаленску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чатырохразовая чэмпіёнка Еўропы па лёгкай атлетыцы: у бегу на 200 метраў і ў эстафеце 4 х 100 метраў (1954 год), у бегу на 400 метраў (1958 і 1962 гады). Бронзавы прызёр чэмпіяната кантынента 1958 года ў бегу на 200 метраў. Уладальніца Кубка Еўропы 1965 года ў бегу на 400 метраў. Пераможца матчаў СССР — ЗША (1957), СССР — ФРГ (1958), СССР — Англія (1962 і 1964 гады). Шматразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза ў бегу на 100 метраў (1960, 1961, 1962, 1963); на 200 метраў (1954, 1956, 1957, 1958, 1960, 1961, 1962); на 400 метраў (1958, 1959, 1960, 1963, 1964, 1965); у эстафеце 4 х 100 метраў (1964 год). Адзінаццаціразовая рэкардсменка свету, рэкардсменка Савецкага Саюза ў бегу на 400 метраў. Заслужаны трэнер Беларусі, заслужаны дзеяч фізічнай культуры рэспублікі. Першыя трэнеры — Мікалай Шастакоў і Барыс Левінсон.*

Ёсць у вялікім спорце такія няўдачнікі — і не адзін. Выйграўшы мноства самых вялікіх і прэстыжных спаборніцтваў і турніраў, не адзін год дэманструючы на сусветных спартыўных арэнах высокае майстэрства і волю да перамогі, яны ніяк «не могуць» пакарыць самую галоўную вяршыню ў свеце — алімпійскую!

— Крыўдна? — спытаўся я аднойчы ў Марыі Іткінай...

І, не дачакаўшыся адказу, зразумеў: я пасыпаў соллю на яе рану!

…На працягу амаль што цэлага дзесяцігоддзя (для лёгкай атлетыкі — самы сапраўдны рэкорд даўгалецця!) роўных на еўрапейскай лёгкаатлетычнай арэне ёй не было. Уважлі-

вы чытач, пазнаёміўшыся вышэй з дасягненнямі Марыі Лявонцьеўны, у гэтым пераканаецца ўвачавідкі… Перад таленавітай, настойлівай беларускай бягунняй не маглі, як кажуць, устаяць саапернікі з самых развітых у лёгкаатлетычных адносінах краін. Прычым, выступала Марыя Іткіна на дыстанцыях, якія патрабуюць самых рознабаковых «кандыцый» і якасцей. 100 і 200 метраў — спрынт; 400 — гэта ўжо сярэдняя дыстанцыя, і адольваць іх можна (і, вядома ж, трэба!), дэманструючы на першых дзвюх — неверагодную хуткасць і імклівасць, на апошняй, акрамя названых якасцей, яшчэ і разважлівасць і памяркоўнасць, так званую ўнутраную выкладку і расклад па дыстанцыі сваіх фізічных сіл…

На XVI Алімпійскія гульні 1956 года ў Мельбурн 24-гадовая мінчанка Марыя Іткіна ехала ў рангу чэмпіёнкі Савецкага Саюза і двухразовай чэмпіёнкі Еўропы. Кіраўніцтва зборнай СССР запланавала ёй два старты — на дыстанцыі 200 метраў і ў эстафеце 4 х 100 метраў. У папярэднім забегу на 200-метроўцы, паказаўшы вынік 24,1 секунды, яна была першай, што і дало ёй права адразу ж трапіць у паўфінал. Пагоршыўшы свой паказчык усяго толькі на 0,2 секунды, Іткіна была чацвёртай, а ў выніку заняла сёмае месца. Для дэбюту, у прынцыпе, не так і дрэнна, хаця сама спартсменка разлічвала на больш высокае месца: усё ж такі дзеючая чэмпіёнка Еўропы…

Выступленне ж савецкай эстафетнай каманды было больш крыўднае і балючае. У папярэднім забегу з паказчыкам 46,1 секунды наш квартэт быў трэцім, а вось у рашаючым, фінальным старце, прайграўшы 1,6 секунды саперніцам з Аўстраліі, адно імгненне не дацягнуў да алімпійскага п’едэстала і стаў чацвёртым…

Горшага месца, чым чацвёртае, шмат разоў казалі мне беларускія алімпійцы самых розных пакаленняў, у вялікім спорце наогул не бывае, бо п’едэстал — побач з табой!

Ці наадварот: ты побач з ім!

Даказаць сваё законнае права на алімпійскі медаль Марыя Іткіна мела намер праз чатыры гады — на XVII Гульнях 1960 года ў Рыме. І ёй быў дадзены для гэтага яшчэ больш вялікі шанц: акрамя папярэдняй алімпійскай праграмы — бегу на 200 метраў і ў эстафеце, кіраўніцтва Федэрацыі лёгкай атлетыкі і трэнерскі савет заявілі нашу прадстаўніцу на кароткі спрынт! Падстаў для таго было больш чым дастаткова: у міжалімпійскае чатырохгоддзе — на працягу 1956—1960 гадоў — яна ў прамым сэнсе слова не ведала сабе роўных і на ўнутрысаюз-

ных, і на кантынентальных лёгкаатлетычных стартах, выйграўшы тытулы пераможцы чэмпіяната і Кубка Еўропы, шэсць разоў — Савецкага Саюза, а таксама ўпэўнена перамогшы ў двухбаковых матчах зборнай краіны з амерыканскімі і англійскімі лёгкаатлетамі.

Аднак…

На рымскім лёгкаатлетычным стадыёне Марыю чакала… расчараванне. На стометровай дыстанцыі, паказаўшы добрыя вынікі на папярэдніх стартах, яна ўпэўнена выйшла ў фінальны забег, дзе была толькі чацвёртай. Выйграўшы раней і ў аўстралійкі Мэцьюз, і ў Хендрыкс з ФРГ, да п’едэстала зноў не хапіла аднаго імгнення…

Далей — болей.

На дыстанцыі 200 метраў той жа чацвёрты паказчык — 24,7 секунды!..

І ў эстафеце 4 х 100 метраў — ужо да слёз і ўнутранага душэўнага болю той жа радок на алімпійскім табло — чацвёртае месца…

…Пазней, ужо ў пачатку XXI стагоддзя, нейкія зласліўцы-«жартаўнікі» прапануюць уручаць тым «няўдачнікам», якія займаюць на спаборніцтвах высокага рангу чацвёртыя месцы, драўляныя медалі. Здзек ды і толькі!

Марыя Іткіна свае чатыры (!) чацвёртыя месцы на дзвюх Алімпіядах няўдачай не лічыць. Дарэчы, на наступных Гульнях — Алімпіядзе 1964 года ў Токіо — яна выступала таксама: на гэты раз на 400-метровай дыстанцыі, і заняла месца крышачку ніжэй — пятае.

Зноў была крыўда! На сябе і толькі на сябе…

Але ж — не расчараванне…

Бо зрабіла выдатная беларуская спартсменка ўсё, што магла!



## *Таццяна Ледаўская:*

## БАР’ЕРЫ НА ШЛЯХУ

*Таццяна Ледаўская нарадзілася 21 мая 1966 года ў горадзе Шчокіна Тульскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XXIV Алімпійскіх гульняў 1988 года (Сеул) па лёгкай атлетыцы ў эстафеце 4 х 400 метраў. Сярэбраны прызёр той жа Алімпіяды ў бегу на 400 метраў. Двухразовая чэмпіёнка свету 1991 года ў бегу на 400 метраў з бар’ерамі і ў эстафеце 4 х 400 метраў. Рэкардсменка свету ў эстафеце 4 х 400 метраў. Сярэбраны прызёр розыгрышу Кубка свету 1989 года. Чэмпіёнка Еўропы — 1990 у бегу на 400 метраў з бар’ерамі, сярэбраны прызёр у эстафеце 4 х 400 метраў. Бронзавы прызёр розыгрышу Кубка кантынента 1989 года. Трохразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза 1988, 1989 і 1990 гадоў у бегу на 400 метраў з бар’ерамі. Уладальніца сярэбранай узнагароды Сусветнай Універсіяды — 1989. Узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Анатоль Бадуеў.*

…Тады яе шкадавалі вельмі і вельмі многія прыхільнікі «каралевы спорту». І асабліва — у нас, у Беларусі. Да фінішнай рысы алімпійскай 400-метроўкі з бар’ерамі ў далёкім Сеуле заставаўся… адзін крок — ні больш і не менш. І яна, шчаслівая прадстаўніца такой таямнічай для ўсяго спартыўнага свету Беларусі, Таня Ледаўская, паспяхова адолеўшы апошні бар’ер на дыстанцыі і не ўбачыўшы за сваёй спінай нікога з саперніц, у пераможным парыве, гэтаксама, як сотні, тысячы спартсменаў і да яе, і пасля яе падчас трыумфу, ускінула ўверх рукі! Перамога! Ды, як кажуць у такіх выпадках, не тут тое было: у прамым сэнсе слова апошні крок зрабіла некалькі шырэйшым лёгкаатлетка з Аўстраліі Дэбі Флінтоф-Кінг і параўнялася з нашай спартсменкай. Каб выявіць пераможцу ў бегу

на дыстанцыі 400 метраў з бар'ерамі, служыцелі спартыўнай Феміды былі вымушаны звярнуцца па дапамогу да электронных сродкаў фіксацыі вынікаў. 53,17 секунды фіксуюць яны вынік Дэбі, 53,18 — Таццяны. Усяго толькі адна сотая доля секунды! Менш за імгненне, але ж якое! Мільёны аматараў спорту на экранах тэлевізараў тады ўбачылі непаўторнае шчасце на твары аўстралійкі, і — непамернае расчараванне ў вачах мінчанкі. Дарэчы, сёмае месца ў тым напружаным і ў пэўнай меры трагічным фінальным алімпійскім забегу заняла сяброўка Таццяны Ледаўской па беларускай лёгкаатлетычнай школе Таццяна Курачкіна.

Што ж: спорт ёсць спорт! Нехта перамагае ў ім, хтосьці вымушаны задавальняцца другімі ролямі, а большасць і наогул застаецца «па-за гульнёй»… Сярэбраны ж алімпійскі медаль сеульскай чаканкі стаў тады для 22-гадовай беларускай спартсменкі Таццяны Ледаўской толькі першай прыступкай да сусветнай славы і прызнання.

Ужо праз некалькі дзён там жа, у сталіцы Паўднёвай Карэі, яна зноў выйшла на старт па праграме Алімпійскіх гульняў. Выйшла ў саставе эстафетнай зборнай Савецкага Саюза разам з сяброўкамі і даказала, што напярэдадні, на тым злашчасным чатырохсотмятровым крузе з бар'ерамі на алімпійскім стадыёне Сеула нічога асаблівага і не здарылася…

Эстафета 4 х 400 метраў у лёгкай атлетыцы — від непараўнальны, таямнічы, непрадказальны. Выявіць чатырох здольных і мацнейшых дзяўчат — майстроў бегу на доўгай спрынтэрскай дыстанцыі — справа, вядома ж, тонкая і няпростая, аднак куды больш складана адшліфаваць бег, адрэгуляваць сам працэс перадачы спартсменкамі эстафеты. Майстэрства, вядома ж, майстэрствам, аднак тут так патрэбныя ўзаемаразуменне, узгодненасць дзеянняў, узаемадапаўняльнасць…

Настаўнікам зборнай Савецкага Саюза па лёгкай атлетыцы тады ўдалося выявіць, падрыхтаваць і, як кажуць у такіх выпадках самі спецыялісты і трэнеры, давесці той квартэт спартсменак да аптымальных кандыцый якраз у самы патрэбны момант. Сотні трэніровачных забегаў-размінак, дзесяткі стартаў на афіцыйных і таварысцкіх спаборніцтвах і сустрэчах пераканалі: калектыў ёсць, і яму па сілах выкананне любых задумак і ўстановак!

Першай старт даручылі прымаць ёй, Тані Ледаўской. Прыродная сканцэнтраванасць, сабранасць і рашучасць мінчанкі павінны былі задаць тон усёй эстафеце: гэта так важна і адказ-

на! Трэнерскую ўстаноўку яна рэалізавала спаўна. Прыняўшая ад яе эстафетную палачку Вольга Назарава таксама бліскуча выканала заданне: на віражы сеульскага стадыёна яна на некалькі імгненняў выйшла наперад, дакладна перадала эстафету Марыі Пінігінай, і тая стрымгалоў паімчала далей… І вось запаветная, з залатым адценнем, эстафетная палачка трапляе ў такія ж надзейныя і майстравітыя рукі Вольгі Брызгінай — тагачаснага лідэра савецкай лёгкай атлетыкі. Намаганнямі Ледаўской, Назаравай і Пінігінай ёй былі створаны такія ўмовы, што ўпусціць свой шанц нашы лёгкаатлеткі ўжо проста не маглі. Паказаўшы вынік 3 мінуты 15,18 секунды, зборная Савецкага Саюза ўстанавіла новы сусветны і алімпійскі рэкорды і на 0,33 секунды апярэдзіла сваіх спрадвечных саперніц — лёгкаатлетак Злучаных Штатаў Амерыкі. Дарэчы, той паказчык шмат гадоў так і не маглі пераўзысці прадстаўніцы наступных пакаленняў лёгкаатлетаў…

А з тых чатырох уладальніц залатых алімпійскіх медалёў на Гульнях-88 самай шчаслівай была, несумненна, яна — Таццяна Ледаўская!

Талентам, самаадданасцю і сваім потам заваяваўшы месца пад сонцам — у нацыянальнай зборнай вялікага, непераможнага, лёгкаатлетычнага Савецкага Саюза, Таццяна яшчэ тры гады (у адзіночку на дыстанцыі 400 метраў з бар’ерамі і ў эстафеце 4 х 400 метраў) збірала вялікі ўраджай спартыўных узнагарод на самых адказных і прэстыжных спаборніцтвах і турнірах. Трыумфальным шэсцем нашай вялікай зямлячкі было азнаменавана яе выступленне на сусветным чэмпіянаце 1991 года, дзе яна — такая гордая за Беларусь! — двойчы ўзнялася на вышэйшую ступеньку п’едэстала гонару за перамогі ў сваіх каронных лёгкаатлетычных дысцыплінах.

Яе першым і адзіным трэнерам на ўсё спартыўнае жыццё быў і застаўся выдатны спецыяліст лёгкай атлетыкі Анатоль Бадуеў. Трэніруючыся і выступаючы пад ягоным кіраўніцтвам і кантролем, Таццяна Ледаўская нейк міжволі і сама прыахвоцілася да нялёгкага, такога адказнага трэнерскага «хлеба». Праз некалькі гадоў пасля развітання з вялікім спортам у яе з’явіліся свае вучні і выхаванцы. І ўжо на Гульнях XXIX Алімпіяды ў Пекіне ў 2008 годзе Таццяна Міхайлаўна выступала ў новай для сябе якасці — аднаго з настаўнікаў лёгкаатлетычнай зборнай суверэннай Рэспублікі Беларусь.



## *Эліна Зверава:*

## ТАКОЕ ЗАЙЗДРОСНАЕ ДАЎГАЛЕЦЦЕ!

*Эліна Зверава нарадзілася 16 лістапада 1960 года ў горадзе Туле (Расія). Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіёнка XXVII Алімпійскіх гульняў 2000 года (Сідней) у кіданні дыска. Бронзавы прызёр Гульняў XXVI Алімпіяды 1996 года (Атланта). Двухразовая чэмпіёнка свету 1995 і 2001 гадоў. Сярэбраны прызёр сусветнага першынства 1997-га і чэмпіяната Еўропы 1994 года. Сярэбраны прызёр розыгрыша Кубка свету 1994 года. Уладальніца Кубка Еўропы 2000 года. Пераможца Гульняў добрай волі 2001 года. Шматразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза 1983—1991 гадоў. Узнагароджана ордэнам Айчыны III ступені і медалём «За працоўныя заслугі». Першы трэнер — Валерый Коваль.*

Тула — горад у Расійскай Федэрацыі незвычайны, своеасаблівы. З аднаго боку — тут выраблялася і вырабляецца славутая тульская стралковая зброя… З другога — ён пастаўшчык ледзь не на ўсю Еўропу не менш знакамітых самавараў… Ну, і нарэшце — слынны тульскі велатрэк, на якім падрыхтавана не адно пакаленне выдатных велагоншчыкаў ранейшага, савецкага часу, ды і канца мінулага — пачатку новага стагоддзя…

Там, у незвычайным горадзе Тула, нават і не падазраючы, што будзе наперадзе, напачатку шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя і зрабіла першыя самастойныя крокі па жыцці будучая зорка беларускай лёгкай атлетыкі Эліна Зверава. А было ўсё тое вось як…

Ужо падчас вучобы дзяўчынкі ў другім класе, мама Люба за руку прывяла яе ў секцыю фігурнага катання. Балазе, на сусветным спартыўным небасхіле ва ўсю ззялі імёны славутых

савецкіх зорак: спачатку — Людмілы Белавусавай і Алега Пратапопава, потым — Ірыны Радніной і Аляксандра Зайцава, Людмілы Пахомавай і Аляксандра Гаршкова… Іх у прамым сэнсе слова любілі ўсе і кожны! І як вынік — сотні, калі не тысячы татаў і мам аддавалі сваіх дзетак у фігурнае катанне: маўляў, а раптам…

Даволі хутка — усяго толькі за некалькі гадоў заняткаў у секцыі — Эла выканала нарматыў трэцяга дарослага разраду. Маці не магла нарадавацца за дачку, хаця і бачыла, адчувала: не ляжыць у дзяўчынкі душа да гэтага, няхай сабе прыгожага і таямнічага, віду спорту.

А сама Эліна тым часам хадзіла-бегала па ўсёй Туле — з адной секцыі ў другую, з другой — у трэцюю. Наведвалася на велатрэк і ў плавальны басейн, у секцыі баскетбалістаў і валейбалістаў, да лёгкаатлетаў і мнагаборцаў комплексу «Гатоў да працы і абароны СССР»… Словам, настойліва шукала сябе і ніяк не магла канчаткова вызначыцца.

І, як даволі часта здараецца ў такой сітуацыі, дапамог Яго Вялікасць Выпадак.

Падчас самага першага знаёмства з лёгкай атлетыкай, звярнуў на Эліну ўвагу трэнер па штурханні ядра і кіданні дыска Валерый Коваль. Прапанаваў ёй паспрабаваць свае сілы ў гэтых няпростых відах спорту, запрасіў у сваю групу падрыхтоўкі…

І працэс, як кажуць, пайшоў!

…Эліна была ўжо майстрам спорту, знаходзілася, так бы мовіць, на алоўку ў спецыялістаў і трэнераў зборнай Савецкага Саюза, калі на адным з чарговых збораў савецкіх майстроў лёгкай атлетыкі ў Адлеры яна пазнаёмілася з вядомым тады спецыялістам Мечыславам Аўсянікам. Месцам сталай працы яго быў расійскі горад Краснадар, дзе Мечыслаў Мікалаевіч і каваў маладыя і зусім яшчэ юныя кадры для «каралевы спорту», і перш за ўсё — у кіданні дыска і штурханні ядра. Праўда, адносіны з Усесаюзнай федэрацыяй лёгкай атлетыкі ў Аўсяніка былі, мякка кажучы, нацягнутыя, і ён неўзабаве прыняў прапанову Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў Беларусі аб пераездзе на працу ў сталіцу нашай рэспублікі. Разам з Мечыславам Мікалаевічам у Мінск пераехала цэлая група здольных і перспектыўных спартсменаў, у ліку якіх была і яго новая вучаніца дыскаболка Эліна Зверава.

У беларускую сталіцу сярод іншых атлетаў прыехаў і кідальнік кап'я Віктар Бочын. У 1986 годзе Віктар і Эліна ўзялі шлюб, утварыўшы, такім чынам, даволі перспектыўны сямей-

ны спартыўны дуэт. На наступны год у іх нарадзілася дачка, і Зверава вымушана была ўзяць, так бы мовіць, тайм-аўт. Трэба адзначыць, што трэнер спартсменкі Мечыслаў Аўсянік такі ход падзей не адобрыў… Іхняя сумесная праца была спынена, і кідальніца дыска Эліна Зверава прадоўжыла далейшую падрыхтоўку пад кіраўніцтвам свайго мужа Віктара Бочына.

Прахадным рубяжом у нацыянальную зборную Савецкага Саюза па кіданні дыска была тады 71-мятровая адзнака. Пачынаючы з 1987 года Зверава шматкрат пасылала снарад да запаветнага рубяжа, аднак выступіць на адказных міжнародных спаборніцтвах ёй па-ранейшаму не давяралі. Нарэшце ў 1988-м на прэстыжным лёгкаатлетычным турніры — мемарыяле братоў Знаменскіх — яна паказвае вынік 71 метр 58 сантыметраў, што прымусіла трэнерскі штаб галоўнай каманды краіны перагледзець свае адносіны да сталай і стабільнай спартсменкі. Ёй даверылі права выступіць на XXIV Алімпійскіх гульнях у Сеуле.

У лепшай сваёй спробе пад спякотным карэйскім сонцам прадстаўніца Беларусі паказала вынік 68 метраў 94 сантыметры, якога хапіла ўсяго толькі для пятага месца. Такі паказчык кіраўнікоў савецкага спартыўнага руху, вядома ж, не задаволіў, і яе проста адлучылі ад выступленняў на важных лёгкаатлетычных спаборніцтвах. Давала аб сабе знаць і траўма пазваночніка, якая, калі быць шчырымі, непакоіла яе потым на працягу ўсяго наступнага спартыўнага шляху.

Тым не менш, мэту перад сабой жонка і муж — Эліна Зверава і Віктар Бочын — бачылі выразна і дакладна: не проста ўдзел у наступных Алімпійскіх гульнях, але і ўзыходжанне на галоўны ў міжнародным спартыўным руху п’едэстал гонару…

Вось так: не больш і не менш!

На XXV Алімпіяду ў Барселоне (1992), як вядома, было прынята рашэнне накіраваць аб’яднаную каманду Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Канкурэнцыя за месца ў зборнай літаральна па ўсіх відах лёгкаатлетычнай праграмы была больш чым жорсткая і бескампрамісная, аднак наша прадстаўніца задачу, пастаўленую перад ёй, выканала спаўна і дастойна. Кідка да адзнакі 68 метраў 82 сантыметры хапіла не толькі для перамогі на летнім першынстве Садружнасці Незалежных Дзяржаў, але і для фактычнага атрымання пуцёўкі ў сталіцу Каталоніі. Ды не: спрацавалі ранейшыя закулісныя сілы, і замест беларускай кідальніцы дыска на Алімпійскія гульні паехалі прадстаўніцы расійскай школы лёгкай атлетыкі.

Пакараць наступныя п’едэсталы гонару на міжнародных спаборніцтвах ёй дазволіла стварэнне самастойнай нацыянальнай зборнай суверэннай Рэспублікі Беларусь.

1993 год: Эліна Зверава выйграе сярэбраныя медалі на чэмпіянаце Еўропы і розыгрышы Кубка свету!

1995: на сусветным першынстве ў Гётэборгу да беларускай кідальніцы дыска прыходзіць неверагодна вялікі поспех — яна выйграе залатую ўзнагароду!

І вось — чарговыя, XXVI Алімпійскія гульні 1996 года ў Атланце. У другой фінальнай спробе Эліна кідае дыск да адзнакі 65 метраў 64 сантыметры, і хоць уступае пераможцы Інгрыдзе Вілуды з Германіі ажно 4 метры, гэтага аказваецца дастаткова для ўзыходжання на трэцюю прыступку алімпійскага п’едэстала гонару.

Яшчэ больш трыумфальна выступіла яна праз чатыры гады — у 2000-м на Гульнях XXVII Алімпіяды ў аўстралійскім Сіднеі. Кідок снарада на адзнаку 68 метраў 40 сантыметраў стаў недасягальным для яе моцных і спрактыкаваных саперніц. Ёсць алімпійскае золата — адна з першых вышэйшых узнагарод Алімпійскіх гульняў для нацыянальнай зборнай маладой суверэннай Рэспублікі Беларусь!

Заслужаны майстар спорту Эліна Зверава прадэманстравала свой прыродны талент і выдатную фізічную падрыхтаванасць яшчэ на дзвюх Алімпіядах: 2004 года ў Афінах і 2008-га — у Пекіне. І калі на радзіме Гульняў сучаснасці яна была толькі пятнаццатай, дык на кітайскай зямлі да п’едэстала гонару яна не дацягнула самую нязначнасць, і ў выніку, заняўшы ганаровае шостае месца, прынесла зборнай Беларусі заліковыя алімпійскія ачкі…

Не прынята заглядваць у жаночы пашпарт, аднак здымем перад мужнай спартсменкай капялюш і зазначым: у далёкім і шматмільённым Пекіне Эліне Аляксандраўне Зверавай было ўжо амаль што 48 (!) гадоў…



## *Яніна Карольчык (Правалінская):*

## У КУЛАКУ — ВОЛЯ І МАЙСТЭРСТВА

*Яніна Карольчык нарадзілася 26 снежня 1976 года ў вёсцы Хрышчонавічы Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіёнка XXVII Алімпійскіх гульняў 2000 года (Сідней) у штурханні ядра. Чэмпіёнка свету 2001 года. Бронзавы прызёр чэмпіяната Еўропы 1998 года. Двухразовы бронзавы прызёр еўрапейскага першынства 1997 года сярод моладзі ў штурханні ядра і кіданні дыска. Сярэбраны прызёр юніёрскага чэмпіянату Еўропы 1995 года. Пераможца турніраў Гран-пры 2000 і 2001 гадоў. Узнагароджана ордэнам Айчыны III ступені. Першы трэнер — Рыгор Сініцын.*

Колькі памятае сябе Яніна, яна заўсёды і ва ўсім імкнулася быць падобнай на свайго бацьку. Гэта ён, механізатар вядомага на Гродзеншчыне саўгаса «Поразаўскі» Свіслацкага раёна Дзіслаў Міхайлавіч Карольчык, з самага маленства прывіў ёй любоў і павагу да вясковага жыцця і працы. Прывіў, што называецца, уласным прыкладам і адносінамі да справы, за якую браўся не адно дзесяцігоддзе. Назіральная і нераўнадушная да бацькавых спраў Яніна бачыла і разумела, з якой адказнасцю, любоўю і павагай ён араў зямлю, сеяў збожжа і збіраў ураджай! І так — на працягу ажно трыццаці гадоў. Мала хто з поразаўскіх механізатараў мог стаць упоравень з Дзіславам Карольчыкам, зрабіць тую ці іншую работу лепш, чым ён… Не менш шчыравала і мама. І каб аблегчыць ім працу, дзяўчынка заўсёды старалася рабіць па хатняй гаспадарцы ўсё, што было ёй пад сілу: карміць-паіць жывёлу, даглядаць агарод, бегаць па грыбы-ягады…

Ад Хрышчонавіч да Поразава, дзе знаходзілася сярэдняя школа, у якой вучылася Яніна, — звыш чатырох кіламетраў. Няблізка, але штодзень даводзілася адольваць гэту адлегласць туды і назад. Прыродныя фізічныя даныя плюс загартоўка працай і «падарожжамі» на вучобу і паспрыялі развіццю яе лепшых якасцей.

А яшчэ, ужо падчас вучобы ў дзесяцігодцы, захапілася Яніна лёгкай атлетыкай і настольным тэнісам. На абласным кросе сярод школьнікаў Гродзеншчыны прадстаўніцу Свіслацкага раёна Яніну Карольчык запрыкмеціў трэнер-прафесіянал па штурханні ядра і кіданні дыска Рыгор Сініцын. Ён і прапанаваў васьмікласніцы Поразаўскай школы перавесціся на вучобу ў Гродзенскае абласное вучылішча алімпійскага рэзерву.

І пачаліся самыя сапраўдныя спартыўныя будні, напоўненыя трэніроўкамі, спецыяльнымі заданнямі, размінкамі. Кожны рух, кожны элемент абыходжання з ядром і дыскам паўтараліся дзесяткі і сотні разоў, адпрацоўваліся да аўтаматызму. Рыгор Сініцын валодаў сучаснай на той перыяд методыкай падрыхтоўкі спартсменаў, так што трапіла Яніна да вопытнага і спрактыкаванага педагога…

На міжнароднай спартыўнай арэне Карольчык дэбютавала ў 19-гадовым узросце. Гэта было выступленне на чэмпіянаце кантынента сярод юніёраў у венгерскім горадзе Ныірэдзьхаза. Сярод удзельніц спаборніцтваў у штурханні ядра яна паказала вынік 16 метраў 98 сантыметраў і ўпершыню ў жыцці ўзнялася на п’едэстал гонару за заслужанай узнагародай — сярэбраным медалём.

Наступны, 1996 год, прынёс таленавітай спартсменцы нямала радасных і прыемных падзей і перамен. На маладзёжным еўрапейскім першынстве па лёгкай атлетыцы ў фінскім горадзе Турку яна выступіла ў дзвюх дысцыплінах — штурханні ядра і кіданні дыска — і ў кожнай атрымала бронзавыя ўзнагароды. Незадоўга да таго Яніна здала выпускныя экзамены ў Гродзенскім вучылішчы алімпійскага рэзерву і пераехала ў беларускую сталіцу, дзе ўлілася ў вядомую тады ў спартыўным свеце лёгкаатлетычную школу пад кіраўніцтвам заслужанага трэнера СССР і Беларусі Мечыслава Аўсяніка.

Я добра ведаў гэтага таленавітага чалавека і непаўторнага спецыяліста. Шмат разоў сустракаўся з ім, мы гутарылі на самыя розныя — і не толькі спартыўна-фізкультурныя — тэмы. Гэта быў энцыклапедычных ведаў і самых сучасных ініцыя-

тыў педагог і настаўнік. І як не пашчасціла многім нашым атлетам — і перш за ўсё такім, як Яніна Карольчык, — што Мечыслаў Мікалаевіч Аўсянік дачасна, так нечакана і зарана пайшоў з жыцця…

Узнагароды на юніёрскім і маладзёжным першынствах Еўропы, як і належала таму быць, сталі для нашай спартсменкі пропускам у так званую дарослую зборную Беларусі. Пачынаючы з 1998 года, Яніна пакідае дыск і па прапанове новага настаўніка сканцэнтроўвае сваю падрыхтоўку і выступленні толькі на штурханні ядра. Рашэнне адзіна правільнае і заканамернае: па-першае, сумяшчэнне дзвюх лёгкаатлетычных дысцыплін сёння не па сілах нават супервыдатным атлетам; па-другое, у штурханні ядра ў Карольчык спецыялісты і трэнеры ўстанавілі, так бы мовіць, вялікі патэнцыял.

Падрыхтоўку Яніны Карольчык да Гульняў XXVII Алімпіяды 2000 года пасля смерці Мечыслава Аўсяніка спачатку ўзначаліў Аляксандр Літвіненка. Узаемаразумення, на жаль, не знайшлі, і штурхальніца ядра перайшла пад апеку Аляксандра Яфімава — спецыяліста, які, што называецца, ведаў толк у тагачаснай лёгкай атлетыцы, і ў прыватнасці — у штурханні ядра. Разам унеслі некалькі карэктываў, удасканалілі рухі, дадалі ў дзеянні рэзкасці і магутнасці… Металічны шарык, як называюць ядро самі атлеты, павінен быў паляцець яшчэ далей!

І вось ён, алімпійскі Сідней, на вечназялёным аўстралійскім кантыненце…

Першая спроба, кваліфікацыйная — 19 метраў 36 сантыметраў — і першае месца сярод фіналістак. Саперніцы насцярожыліся: Карольчык у добрай форме! Аднак адказ на пытанне, хто ёсць хто, быў яшчэ наперадзе, для чаго спартсменкам па рэгламенту адводзілася па шэсць спроб кожнай. І прэтэндэнткі на алімпійскае золата — і перш за ўсё нямецкія штурхальніцы ядра Астрыд Кумбернус і Эрыка Кляйнерт, расіянкі Ларыса Пеляшэнка і Святлана Крывялёва — спрабуюць даць беларусцы самы сапраўдны бой. На першую фінальную спробу Карольчык — 19 метраў 43 сантыметры — яны адказваюць наступнымі паказчыкамі: 19,38 — Кумбернус і 19,16 — Пеляшэнка. Другая, трэцяя, чацвёртая і пятая спробы Яніне яўна не ўдаюцца, і лідэрства захоплівае Пеляшэнка — 19 метраў 92 сантыметры. Стала зразумелым: пераможа ў апошняй спробе той, у каго на месцы нервы і хто захаваў больш фізічных сіл…

Пеляшэнка прымае віншаванні: яна сярод прызёраў будзе абавязкова! На другое месца выходзіць Кумбернус — 19 метраў 62 сантыметры. Карольчык збірае ў кулак волю і майстэрства, імкліва раскручваецца і магутным кідком накіроўвае снарад далёка ў сектар… 20 метраў 56 сантыметраў — такі вынік не сніўся не толькі самой беларускай спартсменцы, але і яе асноўным саперніцам. Здзіўлена пакачаўшы галовамі, Ларыса Пеляшэнка, Святлана Крывялёва, Астрыд Кумбернус і Эрыка Кляйнерт усё ж павіншавалі Яніну Карольчык з залатым медалём алімпійскай чэмпіёнкі ў штурханні ядра.

Чэмпіёнка Гульняў 2000 года Яніна Карольчык Алімпіяду-2004 у Афінах прапусціла па сямейных абставінах. У 2008 годзе ёй далі яшчэ адну магчымасць вярнуцца ў алімпійскую эліту штурхальніц ядра. На жаль, спроба аказалася няўдалай: наша слынная спартсменка не трапіла ў фінальную стадыю барацьбы за золата пекінскай чаканкі. Аднак і ад гэтага бляск вышэйшай узнагароды сіднейскай Алімпіяды ніколькі не паблякнуў…



## *Наталля Сазановіч:*

## СТАРТ АДЗІН, ВЫПРАБАВАННЯЎ — СЕМ!

*Наталля Сазановіч нарадзілася 15 жніўня 1973 года ў горадзе Баранавічы. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Сярэбраны прызёр XXVI Алімпійскіх гульняў 1996 года (Атланта) у лёгкаатлетычным сяміборстве, бронзавы прызёр Гульняў XXVII Алімпіяды 2000 года (Сідней). Чэмпіёнка Еўропы сярод юніёраў (1991), чэмпіёнка свету сярод юніёраў (1992). Двухразовая ўладальніца Кубка Еўропы 1995 і 1996 гадоў у камандных спаборніцтвах. Сярэбраны і бронзавы прызёр чэмпіянатаў свету 2001 і 2003 гадоў. Бронзавы прызёр еўрапейскага першынства 1998 года. Ганаровы грамадзянін горада Гомеля. Першыя трэнеры — Міхаіл і Тамара Канаплёвы.*

Хоць слова рыцар — мужчынскага роду, ім вельмі часта называюць і іх, прадстаўніц лёгкаатлетычнага сяміборства. І не без падстаў на тое. Выступіць аднолькава роўна ажно ў сямі відах «каралевы спорту» — у бегу на 100 метраў з бар’ерамі, 200 і 800 метраў, скачках у вышыню і даўжыню, штурханні ядра і кіданні кап’я — па сілах толькі сапраўдным «рыцарам без страху і папроку»!

Беларуская сяміборка Наталля Сазановіч — адна з найбольш слынных і знакамітых «рыцараў» сямі якасцяў…

Першыя сакрэты лёгкай атлетыкі яна пачала асвойваць у родных Баранавічах яшчэ падчас вучобы ў школе. Займалася пад кіраўніцтвам Вольгі Кандрацюк, і аб вялікім спорце нават не марыла. Ды так распарадзіўся лёс, што ўбачылі яе за справай — на лёгкаатлетычных дарожках і ў сектарах — спецыялісты па сяміборству Міхаіл і Тамара Канаплёвы з Гомеля. Пазнаёміліся, разгаварыліся… Канаплёвы прапанавалі Наталлі

паступіць на вучобу да іх — у Гомельскае абласное вучылішча алімпійскага рэзерву.

— Памятаю, Міхаіл Уладзіміравіч Канаплёў тады так і сказаў мне: хочаш стаць чэмпіёнкай свету — трэба пастаянна і сур'ёзна трэніравацца, — успамінала пазней Наталля.

Стаць чэмпіёнкай — можа і не свету, а рэспублікі, яна, вядома ж, была не супраць…

Памяняла Наташа родныя Баранавічы на Гомель — горад яшчэ большы і зусім незнаёмы. На трэніроўках займалася шчыра і ахвотна, а дадому… пісала пісьмы, поўныя скаргаў і незадавальнення: маўляў, забярыце мяне адсюль! Дзякуй Богу, бацькі праявілі стрыманасць і, відавочна, прадбачлівасць: у дачкі, што называецца, ужо шмат што атрымлівалася…

У 1988-м 15-гадовая Наталля ўстанавіла новы рэкорд Савецкага Саюза сярод юніёраў у закрытых памяшканнях, выканала нарматыў майстра спорту СССР. Для такога працаёмкага і складанага віду спорту, як сяміборства, паказчык рэдкі і ў пэўнай меры — нечаканы. За наступнымі выступленнямі юнай гамяльчанкі пачалі пільна назіраць спецыялісты і трэнеры зборных каманд тагачаснага Савецкага Саюза. Неўзабаве ёй давяраюць месца ў камандзе юніёраў краіны, і беларуская спартсменка з гонарам пачынае апраўдваць надзеі і спадзяванні, што звязваліся з яе выступленнямі на міжнароднай спартыўнай арэне. На працягу 1991—1992 гадоў яна выйграла спачатку юніёрскае першынство кантынента, а потым — і чэмпіянат свету.

Якраз тады самастойнай лёгкаатлетычнай дружынай пачала выступаць на буйнейшых міжнародных спаборніцтвах нацыянальная зборная суверэннай Рэспублікі Беларусь. Наталля Сазановіч стала ў ёй адным з паўнапраўных і паўнамоцных лідэраў. Гамяльчанка спаўна апраўдала ўскладзеныя на яе надзеі. Пасля таго, як беларуская каманда сяміборак на чале з Наталляй у 1995 і 1996 гадах (адпаведна ў галандскім горадзе Хельмонд і нямецкім — Гале) два разы запар заваявала Кубак Еўропы, перад ёй спартыўным кіраўніцтвам Беларусі была пастаўлена новая — надзвычай высокая і складаная задача: увайсці ў лік прызёраў на XXVI Алімпійскіх гульнях у Атланце.

Яна апраўдала і гэтае спадзяванне…

У спякотнай і тлумнай амерыканскай алімпійскай сталіцы 1996 года наша спартсменка паказала свае — стабільныя і лепшыя — вынікі практычна ва ўсіх сямі лёгкаатлетычных дысцыплінах. 13,56 секунды на дыстанцыі 100 метраў з бар'е-

рамі прынеслі ёй 11 месца, аднак яна не адчайвалася: маўляў, наперадзе будуць лепшыя паказчыкі. Праўда, прыйшлі яны не адразу: 180 сантыметраў у скачках у вышыню дазволілі ёй быць сёмай, а вось 14 метраў 52 сантыметры ў штурханні ядра ўжо моцна парадавалі саму спартсменку — гэта быў трэці паказчык сярод усіх удзельніц… Нарэшце, надышоў час выступаць у самых любімых яе відах — бегу на 200 метраў і скачках у даўжыню. Так званы доўгі спрынт Наталля адолела за 23,72 секунды, а ў сектары для скачкоў паказала 6 метраў 70 сантыметраў — лепшыя вынікі сярод усіх удзельніц алімпійскіх стартаў. І хоць потым былі 9 месца ў кіданні кап'я (46 метраў) і 15 — у бегу на 800 метраў (2 мінуты 17,92 секунды), месца на алімпійскім п'едэстале гонару Сазановіч заняла высокае і заслужанае: набраўшы ў суме 6563 ачкі і ўступіўшы 217 ачкоў саперніцы з Сірыі Г. Шуаа, яна заваявала сярэбраны медаль.

Гэта была адна з самых каштоўных і высокіх узнагарод беларускай алімпійскай каманды на Гульнях 1996 года ў Атланце.

Да наступных галоўных сусветных спартыўных спаборніцтваў — Алімпійскіх гульняў — 2000 было чатыры гады, і Наталля Сазановіч шчыра прызналася тады: вялікі спорт яна не пакідае. Ды і чаго было ставіць гэтае пытанне: спартсменка была ў росквіце свайго спартыўнага таленту і здольнасцей. Праверыўшы свае сілы на чарговым чэмпіянаце кантынента ў 1998 годзе і заваяваўшы там бронзавую ўзнагароду (выступіць лепш перашкодзіла тады траўма), Наталля крыху больш чым за год да алімпійскіх стартаў у Сіднеі нарадзіла дачку Юлю і… вярнулася ў сяміборства. Упэўнена выканаўшы алімпійскі нарматыў, наша слынная спартсменка пачала збірацца ў чарговую алімпійскую сталіцу — аўстралійскі Сідней-2000.

Прадэманстраваўшы свае тагачасныя магчымасці і паказаўшы ў скачках у вышыню 184 сантыметры і ў даўжыню — 6 метраў 50 сантыметраў, а таксама штурхнуўшы ядро на 14 метраў 79 сантыметраў і заняўшы ў гэтых дысцыплінах адпаведна першае, другое і трэцяе месцы, Наталля Сазановіч даволі роўна выступіла ў астатніх нумарах праграмы па сяміборству і зноў праклала сабе сцяжынку да алімпійскага п'едэстала — на гэты раз да яго бронзавай прыступкі. Дарэчы, набраныя ёй 6527 ачкоў уступалі ўсяго толькі 57 ачкоў другому прызёру Гульняў — англійскай спартсменцы Д. Льюіс.

Адно, як кажуць, імгненне!

Парадавала Наталля сваіх шматлікіх прыхільнікаў і пасля алімпійскіх стартаў у Сіднеі. Сярэбраны медаль чэмпіяната свету 2001 года ў канадскім Эдмантане і бронзавы — у 2003 годзе ў сталіцы Францыі Парыжы таксама дасталіся ёй у жорсткай і бескампраміснай барацьбе. Тады ўсе адчулі і зразумелі: гомельская спартсменка рыхтуецца да сваёй трэцяй Алімпіяды!

На жаль, выступіць у поўную сілу на Гульнях-2004 Сазановіч перашкодзілі траўмы, якія адчуваліся ўсё часцей і часцей. Паспрабаваўшы сябе ў некалькіх нумарах сяміборства, яна вымушана была зняцца са спаборніцтваў у Афінах — на радзіме Алімпійскіх гульняў сучаснасці…

Аднак сярэбраны і бронзавы алімпійскія радкі, упісаныя заслужаным майстрам спорту Рэспублікі Беларусь Наталляй Сазановіч у спартыўны летапіс нашай суверэннай дзяржавы, — прыклад, варты гонару для ўсіх нас і пераймання іншымі атлетамі!



## *Іван Ціхан:*

## МОЛАТ — РАЗ,<br>МОЛАТ — ДВА,<br>МОЛАТ — ТРЫ!

*Іван Ціхан нарадзіўся 24 ліпеня 1976 года ў горадзе Слоніме Гродзенскай вобласці. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Сярэбраны прызёр XXVIII Алімпійскіх гульняў у Афінах (2004) у кіданні молата. Трохразовы чэмпіён свету 2003, 2005 і 2007 гадоў. Чэмпіён Еўропы — 2006. Пераможца Сусветных атлетычных фіналаў 2005 і 2007 гадоў. Трэнер — Сяргей Літвінаў.*

У жыцці яму ўсё ж такі пашанцавала: адзін раз і назаўсёды! А шанц той заключаецца ў тым, што таленавіты ад роду атлет Ваня Ціхан нарадзіўся, вырас і стаў, што называецца, на ногі не абы-дзе, а ў Беларусі — самай што ні ёсць вядучай спартыўнай дзяржаве, і перш за ўсё — з самымі перадавымі і адметнымі традыцыямі і навацыямі ў абраным ім відзе спорту — кіданні молата…

Уважлівы чытач, той, які знаёміцца з нашай кнігай не выбарачна, а спасцігае яе запар, старонку за старонкай, безумоўна ж, пераканаўся і ўпэўніўся: мы, беларусы, — самыя тытулаваныя, спрактыкаваныя і, прабачце за нясціпласць, таленавітыя «малатабойцы»… На еўрапейскім кантыненце, ва ўсім спартыўным свеце!

Назву для аповеду пра Івана Ціхана не трэба было выдумляць, засакрэчваць, так бы мовіць — інтрыгаваць ёй… Яе, тую назву, падказала само жыццё. «Молат — раз!» — гэта набыткі першапраходца беларускага кідання молата Міхаіла Пятровіча Крываносава… «Молат — два!» — гэта ўжо наступныя крокі па цярністай спартыўнай сцяжынцы-дарозе, ажыццёўленыя Рамуальдам Іосіфавічам Клімам — па сутнасці, засна-

вальнікам і роданачальнікам беларускай нацыянальнай школы «малатабойцаў». І не маем мы аніякага маральнага права не адзначыць: за яго ўзыходжаннем на еўрапейскі, сусветны і, нарэшце, алімпійскі п'едэсталы стаяў адзін і той жа настаўнік — вялікі трэнер Яўген Міхайлавіч Шукевіч!

Ну, а «Молат — тры!» — гэта, безумоўна, пра яго самога — трохразовага чэмпіёна свету, сярэбранага прызёра XXVIII Алімпійскіх гульняў у Афінах у кіданні молата, нашага земляка і сучасніка Івана Ціхана! Сімвалічна, ці не праўда: і трэці па ліку ён у прадстаўнічай іерархіі нашых кідальнікаў молата, і на вышэйшую прыступку сусветных першынстваў таксама ўзнімаўся ўжо ні многа ні мала — тройчы… Толькі вось алімпійскі п'едэстал пакуль што пакарыўся яму толькі аднойчы!

Пакуль што…

Паболей бы нашай маладой і суверэннай Беларусі вось такіх зорак, паболей бы і іх спартыўных узыходжанняў на п'едэсталы гонару самых розных узроўняў: еўрапейскіх, сусветных, алімпійскіх!

…Ад Івана Ціхана — ва ўсіх без выключэння адносінах лідэра сусветнага спартыўнага сезона — 2008 у алімпійскім Пекіне чакалі аднаго: залатога медаля і толькі! Што ў тых адносінах першае, другое ці трэцяе, разабрацца практычна было немагчыма. Мяркуйце, што называецца, самі. Узрост — 32 гады: самы росквіт сіл і таленту для дадзенага віду спорту. Вынік сезона — 84 метры 51 сантыметр: сапернікі не пасылалі молат нават блізка да гэтай адзнакі… Ну, і ўсеагульнае прызнанне: усё ж такі ўладальнік залатых узнагарод трох апошніх сусветных першынстваў!

Інакш кажучы, шэсць гадоў сапернікі толькі і сачылі за яго перамаганосным шэсцем па сусветных спартыўных арэнах…

Дзеля справядлівасці адзначым: у тыя гады ён не-не ды і ўступаў сваім галоўным канкурэнтам. Што ж, жывы, як кажуць, чалавек: дзесьці не паспеў набраць лепшую спартыўную форму; іншы раз не атрымлівалася прыладкавацца да ўмоў спаборніцтваў; а больш за ўсё не давалі спакою траўмы… Тым не менш, сам спартсмен не супакойваўся і рана ці позна разлічваў пакарыць і алімпійскі п'едэстал гонару.

На XXVII Гульнях у Сіднеі (2000) дэбютант Іван Ціхан паслаў снарад на 78 метраў 85 сантыметраў, чаго, аднак, хапіла толькі для чацвёртага месца. Што ж, для дэбюту не так і дрэнна!

На XXVIII Алімпійскіх гульнях у Афінах (2004) узбагачаны вялікім міжнародным вопытам і ўганараваны ўжо некалькімі

надзвычай высокімі ўзнагародамі беларускі «малатабоец» быў гатовы даць канкурэнтам самы рашучы бой. Ужо ў кваліфікацыйных спаборніцтвах ён захапіў лідэрства, паслаўшы снарад на 80 метраў 78 сантыметраў, праўда, апярэдзіў венгра Крысціяна Парса ўсяго толькі на 28 сантыметраў. Аднак у фінальнай стадыі барацьбы свае сілы лепш за ўсіх размеркаваў японскі спартсмен Кодзі Мурафусі: яго вынік 82 метры 91 сантыметр быў ажно на 3,10 метра лепшы, чым у Ціхана, які заняў другое месца. Аднак сярэбраны алімпійскі медаль нашага атлета тады быў высока ацэнены ўсімі і кожным!

Кропкі над «і» павінны былі расставіць трэція ў ягоным жыцці Гульні (2008 год).

Кіраўніцтва беларускага спорту перад стартамі ў Пекіне за выступленні нашых кідальнікаў молата было, што называецца, спакойным. Два з трох атлетаў, заяўленых для ўдзелу ў алімпійскіх стартах, маглі (і павінны былі!) рэальна прэтэндаваць на… дзве з трох узнагарод. Акрамя Івана Ціхана, даўно ішоў да вышэйшага сусветнага спартыўнага п’едэстала гонару і навапалачанін Вадзім Дзевятоўскі, для якога Гульні таксама былі ўжо трэцімі ў жыцці, а на апошніх з іх — Афіны-2004 — ён (о, іронія лёсу!) заняў… чацвёртае месца! Былі ў Дзевятоўскага і больш радасныя імгненні ў спартыўнай біяграфіі: сярэбраны медаль сусветнага першынства — 2005 і бронзавы — чэмпіяната кантынента — 2006.

Але…

Пасля алімпійскага паядынку Іван Ціхан прызнаўся, што з-за праблем са здароўем ён вельмі рэдка выступаў на спаборніцтвах на працягу спартыўнага сезона — 2008, чым і была абумоўлена адносна невысокая дальнасць яго кідкоў непасрэдна там, у Пекіне. «Калі б мой стан дазваляў спаборнічаць часцей, вынікі былі б іншымі», — сказаў ён журналістам.

Што ж, так яно і было. А ў выніку трохразовы чэмпіён свету паслаў молат на 81 метр 51 сантыметр — роўна на тры метры бліжэй за сваю ж рэкордную адзнаку. Сапернікі выступілі лепш: атлет са Славеніі Прымаж Козмус паказаў вынік 82 метры 2 сантыметры і стаў алімпійскім чэмпіёнам. 31-гадовы Вадзім Дзевятоўскі заваяваў алімпійскае серабро, а 32-гадовы Іван Ціхан — бронзу.

Аднак і бронзавы вынік Ціхана, і сярэбраны — Дзевятоўскага былі аспрэчаны антыдопінгавай камісіяй Міжнароднага Алімпійскага камітэта...



## *Юлія Несцярэнка:*

## БЕЛАЯ ЛАНЬ СЯРОД ЧОРНЫХ ПАНТЭР

*Юлія Несцярэнка (Барцэвіч) нарадзілася 15 чэрвеня 1979 года ў горадзе Брэсце. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіёнка XXVIII Алімпійскіх гульняў у Афінах (2004) па лёгкай атлетыцы. Бронзавы прызёр чэмпіяната свету 2004 года. Узнагароджана ордэнам Айчыны III ступені. Ганаровы грамадзянін горада Брэста. Першы трэнер — Сяргей Саляманові́ч.*

Ведаю дакладна, што называецца — з першых крыніц. Падчас трыумфальнага выступлення на Алімпійскіх гульнях — 2004 у Афінах нікому не вядомай бягунні з Беларусі Юліі Несцярэнка наша Бацькаўшчына, вобразна кажучы, падзялілася на два лагеры. Прадстаўнікі аднаго з іх кінуліся ў інтэрнэт шукаць хоць якія-небудзь звесткі-падрабязнасці пра яе; прыхільнікі ж другога боку з задавальненнем — ці не ўсю наступную ноч! — паціралі рукі. Маўляў, вось так, ведай нашых: адна беларуска выйграла ў фінальным алімпійскім забегу на 100 метраў адразу ў пяці чарнаскурых «пантэр»…

З таго моманту і замацавалася за Юліяй мянушка — Белая Лань! Не думаю, што хто-кольвечы з жанчын, ды яшчэ — спартсменак, адмовіўся б ад такога пачэснага і неверагоднага гучнага і аб’ектыўнага «тытула»!

На маю думку, лёгкую атлетыку называюць «каралевай спорту» перш за ўсё таму, што ў яе разнастайнай і надзвычай вялікай і насычанай рознымі дысцыплінамі праграме ёсць такі від, як спрынт на дыстанцыі 100 метраў.

Той, хто хоць аднойчы бачыў гэтае відовішча, ужо наўрад ці зможа застацца да яго абыякавым. Па-першае, прыгожыя

статныя фігуры атлетаў… Па-другое, неймаверная (усяго толькі 9—10 секунд барацьбы!) сканцэнтраванасць на стартавых калодках… І па-трэцяе, імклівасць і незвычайнай напружанасці самааддача — ад першага метра і да апошняга, усяго толькі — сотага…

Можна адзначыць і яшчэ з дзесятак вартасцей і адрозненняў лёгкаатлетаў-спрынтэраў ад іншых прадстаўнікоў Яе Вялікасці Каралевы Спорту. І ўсе яны будуць і да месца, і, што называецца, па заслугах. Ды лепш, як кажуць, адзін раз убачыць…

Тэлевізійныя рэпартажы з Афін — радзімы Алімпійскіх гульняў сучаснасці наогул і сталіцы XXVIII Гульняў, — у прыватнасці, дазволілі нам спаўна пераканацца ва ўсім вышэй сказаным.

…Пра яе ніхто — ні з аматараў лёгкай атлетыкі, ні са спецыялістаў, а тым больш — з саперніц — да стартаў Алімпіяды-2004 не ведаў і практычна не чуў. На вуснах ва ўсіх — і не адзін ужо год! — былі іншыя імёны і прозвішчы. Жывая легенда, 44-гадовая (!) Мэрлін Оці, Гейл Дзіверс — чатырохразовая пераможца Алімпійскіх гульняў (!), Лорын Уільямс (усе — ЗША), Вераніка Кемпбэл (Ямайка), Кім Гевар (Бельгія), Івет Лалава (Балгарыя), не кажучы пра легендарных чэмпіёнак папярэдніх Алімпійскіх гульняў і свету Мэрыон Джонс, Келі Уайт, Кацярыну Тану, дарэчы, дыскваліфікаваных напярэдадні Гульняў-2004 за ўжыванне допінгавых прэпаратаў, — гэтымі і некаторымі іншымі імёнамі напрыканцы мінулага, XX стагоддзя — на пачатку XXI, ганарыўся спартыўны свет. Ім, і толькі ім — вядомая ж справа, не ўсім разам, а камусьці адной, — аддавалі перавагу на алімпійскім фінішы ў Афінах-2004 усе без выключэння, вобразна кажучы, дзеючыя асобы і выканаўцы…

Толькі тым магутны і прыцягальны вялікі спорт, што ў яго ход дзеянняў і канчатковыя вынікі вельмі часта ўмешваецца непрадказальнасць, нечаканасць, тое, што не зусім справядліва многія называюць Яго Вялікасць Выпадак.

Але ж ці бываюць выпадкі без тых ці іншых заканамернасцей?!

І вось яны — Гульні-2004 у саміх Афінах!

З першага старту — папярэдняга забегу — Юля Несцярэнка ўрываецца ў эліту нечакана, вобразна кажучы, без запрашэння. З вынікам 10,93 секунды яна займае першы радок і на 0,29 секунды апярэджвае Абіадун Аджэпітан з Вялікабрытаніі. Першы вынік у Юлі і па выніках чвэрцьфіналаў — 10,99 (на 0,1 секунды лепш, чым паказчык Шэрон Сімпсан з Ямайкі)… Са-

перніцы і іхнія настаўнікі пакуль што спакойныя і стрыманыя: карты на такіх адказных стартах вопытныя і спрактыкаваныя атлеты раскрываць, як вядома, не спяшаюцца.

Аднак паўфінальны паказчык (а гэта ўжо не жарт!) — 10,92 секунды і тое ж першае месца — прымушаюць канкурэнтаў глядзець у бок беларускай спартсменкі не толькі з павагай і ўвагай, але і з пэўнай зайздрасцю: маўляў, і імклівая яна, і з нервамі ўсё ў парадку… Спахапіліся? Вядома ж! І за справу вырашылі, нарэшце, узяцца: сур'ёзна і адказна…

Той справай быў фінальны забег на дыстанцыі 100 метраў сярод жанчын па праграме XXVIII Алімпіяды 2004 года!

Лорын Уільямс, Вераніка Кэмпбэл, Івет Лалава… На іх, і толькі на іх былі скіраваны дзесяткі кіна- і тэлекамер, сотні фотааб'ектываў, мільёны позіркаў аматараў спорту. І яны, што называецца, узяліся за справу так, як таго ад іх чакалі: выйшлі наперад літаральна з першых метраў пасля старту. Юлія Несцярэнка тут жа, толькі ёй адной вядомымі намаганнямі, уключыла дадатковую скорасць, і вось ужо яна трэцяя, другая… І нарэшце — першая! Лорын Уільямс у адчаі кідаецца на фінішы наперад усёй сваёй постаццю, — ды не дапамагае і гэта. 10,93 секунды — фіксуецца вынік Юліі Несцярэнка, 10,96 — паказчык Лорын Уільямс.

…Пяць чарнаскурых «пантэр» сусветнай лёгкай атлетыкі ўпершыню ў гісторыі Алімпійскіх гульняў уступілі самую высокую і каштоўную ўзнагароду — залаты чэмпіёнскі медаль на дыстанцыі 100 метраў — абсалютна невядомай ім саперніцы!

Затое пасля таго трыумфальнага фінішу яе прызнаў увесь спартыўны свет!

...І перад той вялікай перамогай, і пасля яе Юлія Барцэвіч-Несцярэнка заўсёды прасіла згадваць побач з яе прозвішчам імёны сваіх настаўнікаў — тых, хто знайшоў і вывеў будучую алімпійскую чэмпіёнку ў людзі. Гэта — школьны настаўнік фізічнай культуры Сяргей Саляманавіч, выкладчык Брэсцкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву па лёгкай атлетыцы Барыс Хаткевіч, выкладчыца Рэспубліканскага вучылішча алімпійскага рэзерву Вікторыя Божадарава, брэсцкі трэнер Віктар Ярашэвіч і, вядома ж, муж і самы першы дарадчык Дзмітрый Несцярэнка.

Лаўровы вянок алімпійскай чэмпіёнкі Афін-2004 па праву належыць і кожнаму з іх!




## *Аксана Мянькова:*

# МОЛАТ У РУКАХ… ФОТАМАДЭЛІ

*Аксана Мянькова нарадзілася 28 сакавіка 1982 года ў горадзе Крычаве Магілёўскай вобласці. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіёнка XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) у кіданні молата. Сярэбраны прызёр маладзёжнага першынства кантынента 2003 года. Бронзавы прызёр розыгрышу Кубка Еўропы 2007 года. Пераможца суперлігі Кубка Еўропы 2008 года. Першыя трэнеры — Эдуард Прыгонікер і Валерый Варанцоў.*

…На яе разлічвалі, і, калі казаць шчыра, — вельмі моцна. У алімпійскі Пекін беларуская кідальніца молата Аксана Мянькова ехала яўным лідэрам сезона: да яе паказчыка — 77 метраў 32 сантыметры — многія з саперніц на той момант недацягвалі па два-тры метры і нават больш. Хаця і сама Аксана, і яе трэнер Валерый Варанцоў іх з рахунку ні ў якім разе не скідвалі. Бо былі тыя саперніцы — самы сапраўдны гонар сусветнай лёгкай атлетыкі: двухразовая чэмпіёнка свету Йіпсі Марэна з Кубы, алімпійская чэмпіёнка 2000 года Каміла Скалімоўска з Польшчы, пераможца сусветнага першынства — 2007 Беці Хайдлер з Германіі… У любы момант гатовы былі ўмяшацца ў размеркаванне месцаў на алімпійскім п’едэстале гонару Марціна Грашнова са Славакіі і, вядома ж, кітаянка Чжан Вэнь Сю, на якую гаспадары Гульняў-2008 вельмі і вельмі спадзяваліся… Маглі і павінны былі падтрымаць нашага лідэра яшчэ дзве прадстаўніцы беларускай зборнай — Дар’я Пчэльнік і Марыя Смалячкова, якія ў папярэднія гады на міжнароднай арэне таксама паказвалі даволі-такі прыстойныя вынікі. Першая з іх была ў 2007-м пераможцам даволі прэстыжнай Сусветнай Уні-

версіяды, а другая ў тым жа годзе выйграла залаты медаль на маладзёжным чэмпіянаце кантынента.

Інакш кажучы, у сектары для кідання молата сышліся спартыўныя шляхі-дарогі лепшых з лепшых прадстаўніц гэтага, некалькі незвычайнага для прыгожай палавіны чалавецтва, віду спорту…

Зазвычай кідальнікі молата (як, уласна кажучы, і штурхальнікі ядра, і кідальнікі дыска і кап'я) ужо падчас першай спробы імкнуцца, што называецца, заявіць аб сабе, сваіх намерах і патэнцыяльных рэзервах. Першая спроба адначасова — гэта і ежа для роздуму сапернікам. Апошнія з іх часцяком спахопліваюцца, кідаюцца ў пагоню, што зрэдку ўдаецца, а іншы раз — і не… І гэта ўжо называецца псіхалагічнай падрыхтоўкай, гатоўнасцю весці барацьбу на роўных і да канца!

У алімпійскім Пекіне Аксана Мянькова з першай жа спробы фінальных спаборніцтваў і пачала правяраць сваіх асноўных канкурэнтак менавіта на псіхалагічную гатоўнасць…

74 метры 40 сантыметраў — вынік, паказаны ёй падчас першага выхаду ў сектар, прымусіў саперніц усур'ёз задумацца над зыходам барацьбы, бо гэта ўжо дасягненне экстракласа! Першую, другую, трэцюю, чацвёртую спробы выконваюць саперніцы — паказчык беларускі па-ранейшаму вышэйшы. Аднак Аксана дачасна перамогу не святкавала: ведала, што кожная з пералічаных вышэй канкурэнтак можа вырвацца ўперад у самы непадыходзячы момант… Што і зрабіла ў час пятага выхаду ў сектар Йіпсі Марэна — 74 метры 70 сантыметраў, і першая ўжо яна. Але ненадоўга стала лідэрам двухразовая чэмпіёнка свету: Мянькова тут жа вяртае сабе першы радок на электронным табло… Ніякага хвалявання, упэўненая раскрутка молата, і снарад ляціць за флажок ранейшага алімпійскага рэкорда. 76 метраў 34 сантыметры — і ўсе: удзельніцы барацьбы, іх трэнеры, спецыялісты і шматтысячная аўдыторыя аматараў лёгкай атлетыкі — зразумелі, што гэта вынік новай алімпійскай чэмпіёнкі!

…Шлях яе ў вялікі спорт самы тыповы і зусім не характэрны. Падчас школьных спаборніцтваў у адной з крычаўскіх школ на сціплую, аднак вельмі настойлівую дзяўчынку-шасцікласніцу звярнуў увагу трэнер па лёгкай атлетыцы Эдуард Прыгонікер. Пагаварылі па душах, дамовіліся заняцца… лёгкаатлетычным мнагаборствам. Аксана пагадзілася, але ўжо на адной з першых трэніровак вельмі моцна спалохалася… скачкоў у вышыню. Прыгонікер прапанаваў дзяўчынцы папрацаваць з ядром. Зноў знайшлі паразуменне… Аднак на абласных

спаборніцтвах у Магілёве юную штурхальніцу ядра заўважыў былы вядомы кідальнік молата Валерый Варанцоў і параіў ёй паспрабаваць свае сілы ў «сваім» відзе спорту.

Выбар быў зроблены канчаткова!

…У сусветную эліту «малатабойцаў»-жанчын яна ўвайшла ўсяго толькі некалькі гадоў назад. У 2007-м заняла трэцяе месца на розыгрышы Кубка Еўропы, але літаральна тут жа не выканала ніводнай заліковай спробы на самым галоўным старце года — чэмпіянаце свету. Дзеля справядлівасці адзначым: на тым чэмпіянаце наша кідальніца выступала з моцнай траўмай спіны… Тым не менш, самыя нецярплівыя спецыялісты ў роспачы махнулі на яе рукой.

І толькі блізкія ёй людзі: мама Любоў Васільеўна і тата Уладзімір Іванавіч, муж Алег Палоннікаў і, вядома ж, трэнеры Эдуард Прыгонікер і Валерый Варанцоў — верылі, што іхняя любіміца Аксана яшчэ скажа сваё слова…

І яна сказала, ды так, што спартыўны свет у здзіўленні застыў: Аксана Мянькова ўзнялася на вышэйшую прыступку п’едэстала гонару XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне!

Мала хто з нас, сустрэўшы яе на вуліцы ці ў грамадскім транспарце, зразумее, што перад ім — спартсменка-прафесіянал у кіданні молата. 186 сантыметраў рост, 76 кілаграмаў вагі… Плюс прыгожы, мілавідны твар… Фотамадэль ды і толькі!

Хоць, уласна кажучы, а чаму і не фотамадэль?! З молатам у руках…

Радасна і прыемна за Аксану Мянькову і вось чаму. Некалькі дзесяцігоддзяў запар (!) праслаўлялі Беларусь у кіданні молата мужчыны: Міхаіл Крываносаў, Рамуальд Клім, Аляксей Балтоўскі, Валерый Варанцоў, Ігар Астапковіч, Іван Ціхан. А цяпер вось і прадстаўніца прыгожай паловы чалавецтва спаўна і годна вызначылася на самым высокім міжнародным узроўні!

Што ні кажы, багатая і надзвычай урадлівая на сапраўдных волатаў зямля беларуская…



## *Наталля і Андрэй Міхневічы:*

## СЕРАБРО + БРОНЗА + ЛЮБОЎ У ЖЫЦЦІ

*Наталля Міхневіч (Харанека) нарадзілася 25 мая 1982 года ў гарадскім пасёлку Высокае Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Сярэбраны прызёр XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) у штурханні ядра. Чэмпіёнка свету і Еўропы 2006 года. Пераможца Сусветнага атлетычнага фіналу 2006 года. Першы трэнер — Людміла Нікіпарчык.*

*Андрэй Міхневіч нарадзіўся 12 чэрвеня 1976 года ў горадзе Бабруйску. Бронзавы прызёр XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) у штурханні ядра. Чэмпіён свету 2003 года. Сярэбраны прызёр сусветнага першынства — 2006, бронзавы — чэмпіянату свету 2007 года. Першы трэнер — Эдзіта Гурская.*

Выпадак, калі на Алімпійскіх гульнях узнагароды выйграюць прадстаўнікі адной сям'і, у беларускім спорце ўжо быў. На XXVII Алімпіядзе ў Сіднеі ў 2000 годзе бронзавыя медалі заваявалі муж і жонка Ігар Астапковіч (кіданне молата) і Ірына Ятчанка (кіданне дыска). На Гульнях-2008 іх пераўзышлі Наталля і Андрэй Міхневічы, якія прынеслі ў скарбонку нацыянальнай зборнай Беларусі сярэбраную і бронзавую ўзнагароды…

Першыя старонкі іхніх спартыўных біяграфій вельмі падобныя. Падчас вучобы ў школе ўбачылі ўпершыню спартсменаў — штурхальнікаў ядра, зацікавіліся… Паспрабавалі самі — спадабалася яшчэ больш… Запісаліся ў спартыўныя секцыі, і, як кажуць у такіх выпадках, працэс пайшоў!

Першая (і адзіная) трэнер-настаўніца Наташы Харанека Людміла Канстанцінаўна Нікіпарчык заўсёды адзначала ў сваёй вучаніцы яе самаадданасць і вернасць выбранай справе.

На ўсіх трэніроўках спартсменка сабраная, арганізаваная, напоўніцу сур'ёзная і сканцэнтраваная. Выкананне кожнага задання, кожнай трэнерскай устаноўкі ці заўвагі для Наташы — закон. Штосьці не атрымліваецца, паўторыць не тое што сем, а дзесяць разоў, але свайго даб'ецца. Не менш важна і каштоўна і тое, што ўсяму Харанека ведала і ведае рэальную цану: сабе, сваім здольнасцям, магчымасцям саперніц і нават таму, што абавязкова трэба зрабіць сёння ці заўтра, каб потым, барані Божа, не шкадаваць аб страчаным, не звальваць віну на каго-небудзь іншага…

Каштоўныя якасці, ці не праўда?!

У 17-гадовым узросце Наташа Харанека выканала нарматыў майстра спорту СССР у штурханні ядра, заваявала сярэбраную ўзнагароду на юнацкім чэмпіянаце свету. Праз год была ўзята новая вышыня — атрыманы бронзавы медаль на юніёрскім сусветным першынстве. 2003 год прынёс чарговы поспех: Наталля перамагла на маладзёжным першынстве Еўропы. Тады і праявіліся яе лепшыя якасці, сапраўдныя прафесіянальныя адносіны да справы…

Андрэй Міхневіч некалькі іншы: і па характары, і па стаўленні да сябе, да сваіх канкурэнтаў. Знешне — самаўпэўнены, але гэта толькі знешне: ён, на думку спецыялістаў і трэнераў, якія працуюць са спартсменам, усяго толькі «некалькі амбіцыёзны»… Як зазначыў аднойчы галоўны трэнер зборнай Беларусі Анатоль Бадуеў, Міхневіч не любіць, каб на яго ціснулі. Довады і аргументы апанентаў прызнае толькі аргументаваныя і важкія, а ва ўсім іншым разлічвае на сябе і свой, ужо даволі багаты, вопыт выступленняў на спаборніцтвах самага высокага рангу. Тых жа высокарангавых стартаў у яговым спартыўным жыцці было даволі багата: толькі на Алімпійскіх гульнях ён пабываў тройчы.

Дарэчы, аб Алімпіядах. Да сваёй бронзавай прыступкі п'едэстала гонару Андрэй дабіраўся паволі, аднак — упэўнена. На Гульнях-2000 быў на дзевятым месцы (фіну Арна Хар'ю прайграў 1 метр 81 сантыметр); на Алімпіядзе 2004 года стаў пятым, уступіўшы ўкраінскаму штурхальніку Юрыю Біланогу 56 сантыметраў. Такая разбежка ў штурханні ядра — «дистанция огромного размера». Аб гэтым пераканаўча засведчылі вынікі атлетаў, паказаныя ў сектары алімпійскага Пекіна…

Паколькі Андрэй выступаў у кітайскай сталіцы раней, чым Наталля, мы таксама вытрымаем, так бы мовіць, паслядоўнасць іхняга ўзыходжання на алімпійскі п'едэстал.

Падбору атлетаў, што выйшлі ў лік 12 фіналістаў у штурханні ядра, пазайздросціў бы любы від спорту. Тры амерыкан-

цы (!), кожны з якіх — Крысціян Кэнтуэл, Адам Нельсан і Рыз Хоф — у свой час быў чэмпіёнам свету, два расіяніны, паляк, канадзец, украінец і галандзец, плюс тры (вось гэта дасягненне!) беларусы: вопытныя і спрактыкаваныя турнірныя байцы Андрэй Міхневіч, Павел Лыжын і Юрый Бялоў. Пасля прадстаўлення фіналістаў паважанай кітайскай шматтысячнай публіцы стадыён доўга пасылаў ім бурныя апладысменты.

Тэарэтычна кожны з іх мог стаць калі не пераможцам, дык прызёрам Гульняў, адназначна. Практычна ўсе яны выступалі на Алімпіядзе-2004 у Афінах, якая, дарэчы, закончылася трыумфальнай перамогай таго ж Адама Нельсана са Злучаных Штатаў Амерыкі. Магчымасці адзін аднаго спартсмены ведалі не горш, чым свае, таму адразу ж, што называецца, без разведкі, рванулі на «перадавую»…

Першы арыенцір — і даволі высокі — зрабіў наш Міхневіч: 20 метраў 73 сантыметры. Яго тут жа паляпшае паляк Томаш Маеўскі — 20,80. Ва ўсіх іншых прэтэндэнтаў паказчыкі пакуль што былі горшыя… У другой спробе зноў Міхневіч вяртае сабе лепшы паказчык — 21 метр 5 сантыметраў: гэта ўжо заяўка на месца на п’едэстале! Праўда, далей, ужо ў трэцяй і чацвёртай спробах, спахапіліся і іншыя волаты, і вось ужо наперадзе Маеўскі — 21 метр 21 сантыметр.

У заключнай спробе штурхальнікі канчаткова праявілі свае магчымасці. Той жа Томаш Маеўскі адсоўвае сцяжок, што фіксуе вынікі, на адзнаку 21 метр 51 сантыметр. «Прачнуўся» нарэшце і адзін з амерыканцаў: Крысціян Кэнтуэл запісвае ў свой актыў 21,09 і ўсяго толькі на 4 сантыметры абыходзіць Андрэя Міхневіча! А мы вышэй вялі размову пра адставанне ажно на 1,81 метра і 56 сантыметраў…

Вядома, Андрэй быў расчараваны сваім выступленнем. «Дрэнны атлет, які не марыць стаць алімпійскім чэмпіёнам, — сказаў ён адразу пасля спаборніцтваў. — З другога боку, у той канкрэтны момант Маеўскі і Кэнтуэл былі гатовыя лепш, чым я. — І памаўчаўшы, бронзавы прызёр Гульняў дадаў: — Спадзяюся, гэта не апошняя мая алімпійская ўзнагарода…»

Віншаванні з больш высокай узнагародай Наталля Міхневіч прымала на наступны дзень…

Раскладка патэнцыяльных сіл і фізічных магчымасцей у іх, як і ў штурхальнікаў-мужчын, была добра вядома ўсім загадзя. Фаварытаў, праўда, было менш, аднак, на наша шчасце, і тут сярод трох найбольш верагодных прэтэндэнтак на алімпійскае золата часцей за ўсё называліся прозвішчы Валеры Вілі з Но-

вай Зеландыі і дзвюх беларусак — Надзеі Астапчук і Наталлі Міхневіч. Праўда, мала хто рызыкаваў аддаваць перавагу каму-небудзь канкрэтна з іх: маўляў, шанцы практычна аднолькавыя…



*Андрэй Міхневіч*

На Гульнях 2004 у Афінах Надзея Астапчук і Наталля (тады яшчэ Харанека) плакалі ў прамым сэнсе слова… І, на вялікі жаль, зусім не ад шчасця, ад самага сапраўднага спартыўнага гора: яны занялі тады адпаведна чацвёртае і пятае месцы… Алімпійскі п’едэстал быў побач, аднак дастаўся зусім не ім!

Да гонару нашых спартсменак, яны не разгубіліся, і наступнае міжалімпійскае чатырохгоддзе ў прамым сэнсе слова стала перыядам іхняга трыумфу. Астапчук выйграла залатыя ўзнагароды на чэмпіянатах свету і Еўропы 2005 года, Харанека гэтак жа ўпэўнена ўзнялася на вышэйшую прыступку п’едэстала гонару на сусветным і еўрапейскім першынствах 2006 года! Такога трыумфальнага выступлення не ведала раней ніводная нацыянальная школа лёгкай атлетыкі ва ўсім свеце…

Узяць рэванш і ў алімпійскім сектары для штурхання ядра нашы спартсменкі былі гатовыя: у рэйтынгавым спісе лепшых паказчыкаў сезона-2008 Надзея Астапчук з вынікам 20 метраў 98 сантыметраў была на першым месцы, а Наталля Міхневіч (Харанека) з паказчыкам 20,83 — на другім.

Аднак… Першы свой выхад у сектар новазеландка Валеры Вілі адзначыла вынікам 20 метраў 56 сантыметраў. Для чэмпіёнкі свету — 2008 Вілі — новы асабісты рэкорд. І як ні стараліся беларускія прадстаўніцы палепшыць гэты вынік, нічога, на жаль, не атрымалася. Валеры Вілі стала ўладальніцай залатога алімпійскага медаля, Наталля Міхневіч — сярэбранага, а Надзея Астапчук — бронзавага…

Зноў было крыўдна?

Але гэта — спорт, і ў ім перамагае канкрэтны чалавек.

Сярэбраныя і бронзавыя ўзнагароды таксама здабываюць таленавітыя і самыя дастойныя людзі! Наталля і Андрэй Міхневічы, як і Надзея Астапчук, — з той кагорты…

*Раздзел II*

## МЯДЗВЕДЗЯМІ НЕ НАРАДЖАЮЦЦА, ІМІ — СТАНОВЯЦЦА!

*Спартыўная барацьба — вельмі старажытны від спорту. Яшчэ ў 772 годзе да нашай эры на спаборніцтвах другой Алімпіяды выступалі мацнейшыя на той час барцы. Іх паядынкі з'яўляліся фінальным нумарам алімпійскай праграмы.*

*Асаблівай папулярнасцю карысталася барацьба ў старажытнай Грэцыі. Дастаткова сказаць, што пераможцамі і ўдзельнікамі спаборніцтваў па барацьбе на старажытных Алімпійскіх гульнях (а яны, як вядома, праводзіліся і тады) былі такія вядомыя паэты, філосафы і палкаводцы, як Платон, Піндар, Алінад, Піфагор…*

*У 394 годзе нашай эры правядзенне Алімпійскіх гульняў было спынена. Заняпала разам з імі і спартыўная барацьба. І толькі на пачатку XIX стагоддзя ў Парыжы былі распрацаваны і зацверджаны асноўныя палажэнні новай спартыўнай барацьбы. Яна атрымала назву французскай. У 1848 годзе ў сталіцы Францыі адкрылася першая атлетычная арэна барцоў-прафесіяналаў. Неўзабаве французы запрасілі да сябе на спаборніцтвы спартсменаў іншых краін. Французская барацьба набывала міжнароднае прызнанне.*

*Зараз барацьба як від спорту мае не адзін дзесятак разнавіднасцей. Вольная і грэка-рымская, самба і дзюдо — гэта, так бы мовіць, афіцыйныя стылі, якія прызнаны ўжо не адно дзесяцігоддзе і зацверджаны ў сусветным спартыўным календары. А колькі яшчэ ёсць нацыянальных відаў барацьбы, якія ў многіх краінах свету маюць як свае правілы «высвятлення адносін», так і назвы! Грузіны, якія з'яўляюцца аднымі з заканадаўцаў моды ў афіцыйных стылях, заўсёды сцвярджаюць, што іх карані — у нацыянальнай барацьбе «чыдаоба»; армяне*

*шануюць і паважаюць сваю — «кох»; узбекі — «кураш»; азербайджанцы — «гюлеш»; таджыкі — «гушці»; малдаване — «трынтэ-дрантэ»...*

*Моцна любілі і шчыра ганарыліся «сваёй» барацьбой і нашы продкі-беларусы. На Купалле і Каляды, іншыя святы, нярэдка нават прама ў полі ці на сенакосе, сыходзіліся сам-насам сяляне-волаты, каб высветліць: хто ўсё ж такі мацнейшы? Назвы тых паядынкаў, дарэчы, былі цікавыя і нават арыгінальныя — баруканне ў абхват і баруканне на паясах. Моцных, іншым часам проста непераможных атлетаў мела па сутнасці кожная акруга, кожны больш-менш вялікі населены пункт...*

*Мінскія аматары спартыўнай барацьбы яшчэ ў 1914 годзе правялі першы чэмпіянат горада. Сотні прыхільнікаў сачылі тады за паядынкамі, захапляліся сілай і мужнасцю волатаў. Васіль Сакалдынскі і Іван Зуеў сталі чэмпіёнамі, і іх у прамым сэнсе слова насілі на руках.*

*Праз 10 гадоў — у 1924-м — адбыўся першы ўсесаюзны чэмпіянат. 41 спартсмен з 15 гарадоў змагаўся за перамогу. Былі там і прадстаўнікі Беларусі, аднак выступілі яны няўдала.*

*На шырокую міжнародную спартыўную арэну майстры барацьбы Савецкага Саюза, а значыць, і Беларусі выйшлі неўзабаве пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. У 1947 годзе Міжнародная федэрацыя барацьбы (ФІЛА) прыняла ў свае шэрагі нацыянальную Федэрацыю барацьбы СССР. Праўда, за тымі ж грузінамі, малдаванамі, а яшчэ — за прадстаўнікамі Расіі і Украіны прабіцца пад сцяг зборнай СССР для выступлення на чэмпіянатах свету ці Еўропы, а тым болей — на Алімпійскіх гульнях, было справай надзвычай складанай. Так, на Гульнях 1952 і 1956 гадоў, якія праходзілі адпаведна ў Хельсінкі і Мельбурне, савецкая каманда была без беларусаў. Затое потым прыйшоў наш час...*

*На Алімпіядзе-60, якая праходзіла ў Рыме, адразу два беларускія майстры класічнай (так тады называлася цяперашняя грэка-рымская) барацьбы — Алег Караваеў і Мікалай Чучалаў — дэбютавалі ў складзе зборнай Савецкага Саюза. Дэбютавалі больш чым паспяхова: Караваеў*

*стаў алімпійскім чэмпіёнам, а Чучалаў заняў ганаровае і высокае 6 месца.*

*Заслужаны майстар спорту Алег Караваеў шэсць разоў быў чэмпіёнам Савецкага Саюза, двойчы — пераможцам першынстваў свету. Праўда, потым на працягу ажно 7 гадоў — з 1963-га па 1970-ы — у складзе зборнай СССР па класічнай барацьбе нашых прадстаўнікоў не было. Нават у 1967 годзе, калі чарговы чэмпіянат Еўропы праходзіў у Мінскім Палацы спорту, ніводзін з беларускіх атлетаў не трапіў у каманду. Аднак для трэнераў, спецыялістаў і саміх спартсменаў рэспублікі гэта быў час настойлівых пошукаў новай методыкі падрыхтоўкі майстроў высокага класа, выхавання новых талентаў для айчыннай класічнай барацьбы.*

*Шлях, пракладзены Алегам Караваевым, новыя прыёмы і методыкі трэніровак, распрацаваныя заслужанымі трэнерамі Савецкага Саюза Міхаілам Мірскім, Гары Ніікалаёнкам, Уладзімірам Ізапольскім, Іосіфам Аборскім, Мікалаем Чучалавым, Вячаславам Максімовічам і іншымі спецыялістамі класічнай барацьбы, рана ці позна павінны былі знайсці працяг і паглыбленне, даць аддачу. І гэта здарылася. Праўда, наступны алімпійскі чэмпіён у нас вырас толькі праз 28 (!) гадоў: ім у 1988-м стаў Камандар Маджыдаў. Затое сапраўднае сузор'е талентаў было падрыхтавана для выступленняў у складзе зборнай СССР на чэмпіянатах свету і Еўропы. Залатыя ўзнагароды на гэтых спаборніцтвах атрымлівалі Уладзімір Зубкоў (чатыры разы!), Леанід Ліберман, Ігар Каныгін, Міхаіл Пракудзін, Аганес Аруцюнян, Анатоль Федарэнка, Сяргей Дземяшкевіч... Сярэбранымі і бронзавымі прызёрамі Алімпійскіх гульняў у розны час станавіліся Ігар Каныгін, Сяргей Дземяшкевіч, Аляксандр Паўлаў, Валерый Ціленьць, Сяргей Ліштван, Вячаслаў Макаранка, Дзмітрый Дзябелка...*

*А паралельна — ужо ў вольнай барацьбе — наступіла самая сапраўдная эра славутага беларускага волата Аляксандра Мядзведзя.*

*...Адзін пералік ягоных тытулаў і званняў прымушае, што называецца, зняць капялюш: Аляксандр Мядзведзь —*

*пераможца трох Алімпійскіх гульняў, сяміразовы чэмпіён свету, трохразовы — Еўропы, васьміразовы пераможца першынстваў Савецкага Саюза. Няшмат ва ўсім свеце атлетаў, якія маюць такі вось паслужны спіс! 29 Алімпіяд праведзена ўжо на працягу XX — пачатку XXI стагоддзя, а на трох Гульнях запар перамагалі адзінкі: баксёры Ласла Пап з Венгрыі і кубінец Тэафіла Стывенсан, савецкія спартсмены Вячаслаў Іваноў (веславанне) і Аляксандр Карэлін (класічная барацьба)... І ён — Аляксандр Васільевіч Мядзведзь!*

*Пачынаючы з 70-х гадоў мінулага стагоддзя пераможцамі і прызёрамі чэмпіянатаў свету і Еўропы па вольнай барацьбе станавіліся таксама Леанід Кітоў, Васіль Сюльжын, Аляксей Мядзведзь (сын Аляксандра Васільевіча), Ваха Яўлоеў, Анвар Сабееў, Вугар Аруджаў, Сяргей Смаль, Аляксей Мядзведзеў, Алег Гогаль, Герман Кантоеў, Аляксандр Гузаў, Сяргей Дземчанка, Ігар Козыр... Былі і ўзнагароды Алімпійскіх гульняў: у 1992-м у Барселоне сярэбраны медаль атрымаў Сяргей Смаль, бронзавы — Вугар Аруджаў; у 1996-м у Атланце серабро здабыў Аляксей Мядзведзеў. Бронзавым прызёрам XXIX Гульняў у Пекіне стаў Мурад Гайдараў.*

*Акрамя гэтага чэмпіёнамі свету і Еўропы станавіліся выхаванцы беларускай школы самба Віталь Пясняк, Уладзімір Бухвал, Уладзімір Япрынцаў, Націк Багіраў, Яўген Далінін, Віталь Данілаў, Канстанцін Сямёнаў, Мікалай Цыпандзін, Віктар Юркевіч і іншыя атлеты. Калі ж гэты від спартыўнай барацьбы з пачатку 1990-х гадоў быў афіцыйна прызнаны і як жаночы від спорту, знайшлі сябе ў ім і нашы прадстаўніцы: у суперцяжкай вагавай катэгорыі Вераніка Казлоўская, напрыклад, першай у свеце пайшла, што называецца, у адрыў — яна станавілася чэмпіёнкай свету 7 (!) разоў, выйграла і некалькі тытулаў мацнейшай на кантыненце. Яшчэ дзве выхаванкі беларускай школы самба: Тамара Масквіна перамагала на сусветных першынствах пяць разоў, а Святлана Селіханава — чатыры...*

*Пра лепшых з лепшых — нашы асобныя аповеды.*




## *Аляксандр Мядзведзь:*

## БАРАЦЬБА БЫ ПЕСНЯ

*Аляксандр Мядзведзь нарадзіўся 16 верасня 1937 года ў г. Белая Царква (Украіна). Заслужаны майстар спорту СССР. Трохразовы алімпійскі чэмпіён: пераможца XVIII Гульняў у Токіо (1964), XIX Алімпіяды ў Мехіка (1968) і XX Алімпійскіх гульняў у Мюнхене (1972) па вольнай барацьбе ў паўцяжкай і цяжкай вагавых катэгорыях. Сямiразовы чэмпіён свету — 1962, 1963, 1966, 1967, 1969, 1970, 1971 гадоў. Трохразовы чэмпіён Еўропы — 1966, 1968 і 1971 гадоў. Дзевяціразовы чэмпіён Савецкага Саюза — 1961—1969 гадоў. Трохразовы пераможца Спартакіяд народаў СССР — 1963, 1967 і 1971 гадоў. Заслужаны трэнер Беларусі і Савецкага Саюза. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры і спорту БССР. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга і двума — «Знак Пашаны», спецыяльным прызам ЮНЕСКА «За высакароднасць у спорце», а таксама Залатым ордэнам і Залатой галінкай Міжнароднай асацыяцыі асацыіраваных стыляў барацьбы, якая прызнала яго лепшым барцом вольнага стылю XX стагоддзя. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Прафесар. Ганаровы грамадзянін гарадоў Мінска, Белая Царква, Махачкала, Хасав'юрт. Першыя трэнеры — Павел Грыгор'еў і Баляслаў Рыбалка.*

Ён не толькі вялікі, гэты МЯДЗВЕДЗЬ!
Ён — непаўторны!
Зычлівы і дабрадушны, абаяльны і сціплы.
Чалавек, Працаўнік, Спартсмен.
Быў і застаўся непераможным!

…Не адно дзесяцігоддзе мінула ўжо пасля таго моманту, а ён, той момант, і сёння стаіць перад вачамі надзвычай выразна і яскрава. І нават не момант быў гэта, а ўсяго толькі імгненне! Наш Мядзведзь, які толькі што выйграў фінальны пояды-

нак у балгарына Асмана Дураліева ў алімпійскім Мюнхене-72, апусціўся на калені (уявіце: на каленях — сам Мядзведзь!) і пацалаваў барцоўскі дыван! У палацы «Месэгелендэ» адразу мала хто зразумеў гэты жэст. А было тое знакам удзячнасці і вернасці — тысячам і мільёнам аматараў спорту і яму, барцоўскаму дывану…

Гэта быў знак развітання са спортам — вялікім, непаўторным, такім доўгім імгненнем у жыцці. Імгненнем, якое стала для яго самога, для нас, землякоў і прыхільнікаў Мядзведзя, сапраўднай волатаўскай сімфоніяй!

Сёння, з вышыні пражытых гадоў, жыццё, а тым больш спартыўны шлях не здаюцца яму нейкім трыумфам, непераможным шэсцем па спартыўных арэнах дзесяткаў краін свету. Не, зусім не! На тое ён і Мядзведзь, каб і тады, у імгненні трыумфу, і зараз, калі прайшло дастаткова часу для асэнсавання таго самага шляху, рабіць рэальныя, цвярозыя «зямныя» высновы. А гэта, пагадзіцеся, няпроста. Няпроста хоць бы па той самай «зямной» прычыне, што ўвесь час ты навідавоку, больш таго — у цэнтры ўвагі. А ўстаяць ад такой «увагі» (і сама рэчаіснасць дае таму дзесяткі, калі не сотні прыкладаў) вельмі і вельмі нялёгка…

Ён жа быў і застаецца самім сабой — Мядзведзем.

У журналістаў ёсць надзвычай дакладная і «правільная» песня, свайго роду гімн: «Если б снова начать, я бы выбрал опять…» Аднаго разу я перайначыў гэтыя словы ў гутарцы з Аляксандрам Васільевічам. І ён, як умее рабіць тое толькі ён, Мядзведзь, на момант задумаўшыся, адказаў коратка і проста:

— Я таксама пайшоў бы тым самым шляхам…

Гэта значць тым, па якім ішоў усё сваё свядомае жыццё!

Ён бязмерна даражыць і ганарыцца адным: тымі людзьмі, якіх сустрэў на сваім жыццёвым шляху, з якімі пасябраваў, якім — адзін раз і на ўсё жыццё — паверыў, уручыў ім усё сваё, асабістае: думкі і пачуцці, планы і задумы. У тым ліку і няздзейсненыя.

…З вольнай барацьбой ён пазнаёміўся ў маленстве. Праўда, асалоды тады не адчуў:

— Паклаў усіх на лапаткі. Гонару хапала, а радасці — аніякай, — успамінаў пазней Аляксандр Васільевіч.

На шчасце, секцыю барацьбы ён не пакінуў і тады, калі пайшоў вучыцца ў вячэрнюю школу, адначасова працуючы слесарам-мантажнікам на заводзе.

У снежні 1956-га Аляксандра прызвалі на службу ў рады Савецкай Арміі. Адразу ж накіравалі на ўборку ўраджаю ў да-

лёкія казахстанскія стэпы. Між іншым, менавіта там Мядзведзь атрымаў першую ў жыцці ўзнагароду — медаль «За асваенне цаліны». Праходзіць жа службу далей яго накіравалі ў Беларускую вайсковую акругу.

Лёс? Аляксандр Васільевіч не сумняваўся:

— Так. Лёс-шчаслівчык!

Бо менавіта тут і сустрэў ён людзей, якімі бязмерна даражыць і ганарыцца.

На чэмпіянаце БелВА (хто ведае, а можа, і раней), які Мядзведзь, дарэчы, выйграў, яго прыкмеціў такі ж сціплы, маўклівы, але энергічны і настойлівы трэнер Павел Грыгор'еў. Ударылі, што называецца, па руках, пачалі неўзабаве працаваць разам. Сілы ў Сашы хапала з лішкам… Яе, аднак, трэба было накіраваць у патрэбнае рэчышча, гэта значыць упарадкаваць, пачаць выкарыстоўваць рацыянальна, інакш кажучы — адшліфаваць, удасканаліць, далучыць да яе, той сілы, майстэрства, волю, настойлівасць, працавітасць і г. д.

Неўзабаве вакол Мядзведзя ўтварыўся свайго роду трэнерскі штаб: да Паўла Васільевіча Грыгор'ева далучыўся Баляслаў Міхайлавіч Рыбалка. Да практыкі была далучана тэорыя, якая ў спорце ўжо ў той час адыгрывала вельмі і вельмі вялікае значэнне.

…І пайшла гэта слаўная неразлучная тройца ад адной спартыўнай вышыні да другой, ад другой — да трэцяй! Хаця і не адразу…

1957 год: на чэмпіянаце Савецкага Саюза Саша — дзесяты. Расчараваны? Так. Аднак Грыгор'еў супакойвае:

— Нармальна! Усё па заслугах…

Год 1958-ы: шостае месца на тым жа чэмпіянаце СССР. Зноў задавальнення аніякага, аднак трэнеры зборнай Савецкага Саюза запрашаюць Мядзведзя на трэніровачныя зборы: маўляў, малады, перспектыўны, ды і першым нумарам каманды даволі добрым спарынг-партнёрам будзе…

1959 год: на II Спартакіядзе народаў СССР — спаборніцтвах вельмі прадстаўнічых і аўтарытэтных — беларускі армеец заваёўвае бронзавы медаль. Міне яшчэ два гады, і ў 1961-м ён «перакуе» яго на самую высокую ўзнагароду: на спаборніцтвах у Мінску, які стане да таго часу для Мядзведзя родным, адзіным і на ўсё жыццё, ён заваёўвае залатую ўзнагароду чэмпіёна Савецкага Саюза.

— Ведаў бы ты, — успамінаў аднаго разу Аляксандр Васільевіч, — які я быў тады шчаслівы!

Настаўнікі зборнай СССР апынуліся перад дылемай: каго выбіраць, на каго рабіць стаўку далей? А справа была ў тым, што ў цяжкай вагавой катэгорыі, у якой перамог наш малады атлет, тады мелася цэлае сузор'е выдатных атлетаў: масквіч Іваніцкі, Дзарасаў з Арджанікідзе, тбілісцы Кандэлакі і Кікнадзе… Трох апошніх (сёння гэта ўжо не сакрэт!) маглі проста «адсунуць», спісаць, але ж з Аляксандрам Іваніцкім так зрабіць аніяк не маглі: ён і барэц вопытны і моцны, і да Алімпіяды 1964 года паспяхова дацягнуць можа…

Выйсце са становішча, як звычайна, знайшлі кампраміснае: а чаму б Мядзведзю не скінуць дзесятак «лішніх» кілаграмаў і не перайсці ў паўцяжкую вагавую катэгорыю?

Саша і яго трэнеры пагадзіліся.

— Быў я тады малады, здаровы. Дзесяць кілаграмаў туды, дзесяць — сюды… Затое «свяціў» мне і чэмпіянат свету, і іншыя буйныя міжнародныя спаборніцтвы…

Надзеі і разлікі трэнераў і спецыялістаў ён апраўдаў на ўсе сто працэнтаў. У 1961-м стаў бронзавым прызёрам, а ў 1962 і 1963 гадах — чэмпіёнам свету. Шлях на Алімпійскія гульні 1964 года быў адчынены!

Гэты шлях паклаў пачатак тром алімпійскім бліскучым перамогам Аляксандра Мядзведзя…

Не думаю, што сёння, праз некалькі дзесяцігоддзяў, падасца тое самаўпэўненасцю ці недаацэнкай сапернікаў, аднак факт застаецца фактам: на Гульні-64 у Токіо Саша ехаў з адзінай надзеяй — толькі залаты алімпійскі медаль!

— Сілы я адчуваў, сапернікаў не баяўся, — дзяліўся ён пазней сваімі ўражаннямі. — Насцярожвала толькі адна акалічнасць: баяўся, што згонка вагі можа адбіцца непасрэдна на дыване…

Дзякуй богу, тая згонка-мардаванне (памятаеце, ажно 10 кілаграмаў?!) на яго зусім не падзейнічала.

Сапернікамі ж Аляксандра былі проста неардынарныя асобы, легендарныя на той час спартсмены. Двое з іх — турак Ахмед Айік і іранец Гулам-Раза Тахці — ужо тады з'яўляліся нацыянальнымі героямі сваіх краін: менавіта так улады Турцыі і Ірана ацанілі іх уклад у сусветны спартыўны рух. Аднак і яны не ўстаялі супраць сілы, майстэрства і настойлівасці беларускага прадстаўніка вольнай барацьбы. У фінальным жа паядынку за алімпійскі чэмпіёнскі тытул Мядзведзь наогул устанавіў рэкорд, дастойны Кнігі рэкордаў Гінеса: балгарына Саіда Мустафава ён перамог за… 29 секунд!

У 1966-м ён зноў стаў чэмпіёнам свету — усё ў той жа паўцяжкай вагавой катэгорыі. І толькі пасля гэтага нашага атлета, што называецца, паставілі на сваё, «мядзведзева», месца — перавялі ў цяжкавагавікі.

Напярэдадні выступленняў у алімпійскім Мехіка ён супакойваў недаверлівых журналістаў:

— Калі я заваяваў залаты медаль на сусветным першынстве-66 у Дэлі, у мяне, здаецца, паверылі і трэнеры, і спецыялісты, як кажуць, беспаваротна…

1968 год, Мехіка… Мядзведзю — трыццаць адзін: узрост росквіту чалавечага арганізма, пік спартыўнай дасканаласці і мудрасці. Але… Цяжкавата ўжо ў такім узросце прывыкаць да ўмоў высакагор'я: усё ж такі вышыня 2240 метраў над узроўнем мора…

— Ціск падскочыў, не даваў спакою, — згадваў Аляксандр Васільевіч. — Але ж калі прыехаў на Алімпіяду, даверылі табе, — змагайся, не панікуй і не адступай!

Сапернікі дасталіся яшчэ з тых часоў, калі сярод цяжкавагавікоў выступаў Аляксандр Іваніцкі: амерыканец Лары Крыстаф, немец з ФРГ Вільфрыд Дзітрых, Асман Дураліеў з Балгарыі… Што ні паядынак — напружанне сіл на мяжы чалавечых магчымасцей. У рашаючым паядынку лёс звёў Мядзведзя з Дзітрыхам, старым знаёмым: яшчэ ў 1961 годзе Саша прайграў яму на сусветным першынстве…

У адным з эпізодаў алімпійскага фіналу хітры і спрактыкаваны немец схапіў нашага волата за палец і выкруціў яго з сустава. Спынілі паядынак, падбег урач…

— Не, — сказаў Мядзведзь, — я гатовы працягваць сустрэчу…

Здаровай рукой ён паставіў палец на месца і подбегам назад — у цэнтр дывана. Дзітрых быў проста дэмаралізаваны.

— Балюча было? — неяк наіўна спытаў я ў Аляксандра Васільевіча падчас ягонага аповеду пра той незабыўны эпізод.

— Так сабе, — па-свойму проста адказаў ён.

Другі залаты алімпійскі медаль Аляксандра Мядзведзя атрымаў тады мінскую прапіску.

— Доўга думаў я, разважаў: што рабіць далей? — прыгадваў ён. — Рана ці позна, аднак узрост нагадвае спартсмену пра сябе… Нагадаў і мне. Да наступных Алімпійскіх гульняў было чатыры гады. І ўсё ж адчуваў я: ёсць яшчэ порах!..

І каб не сумняваліся ў тым іншыя, Мядзведзь па-ранейшаму працаваў: шчыра, натхнёна, з дня ў дзень, з месяца ў ме-

сяц… На барцоўскіх дыванах Аргенціны, Канады і Балгарыі выйграў залатыя медалі яшчэ трох чэмпіянатаў свету. Пытання «Хто будзе прадстаўляць савецкі спорт на Алімпіядзе 1972 года ў цяжкай вагавой катэгорыі сярод барцоў вольнага стылю?» зноў ні ў кога не было…

Немец Дзітрых і балгарын Дураліеў зноў сталі ягонымі асноўнымі канкурэнтамі. А яшчэ — волат-«машына» з-за акіяна, амерыканец Крыс Тэйлар, 196 кілаграмаў асабістай вагі якога гаварылі самі за сябе.

— Можаш верыць, можаш — не, — казаў мне Мядзведзь, — але я яго ў прамым сэнсе слова баяўся. Уяўляеш, калі б такая аграмадзіна рухнула мне на руку ці нагу, што з іх засталося б…

Калі яны выйшлі на мюнхенскі дыван, адны прысутныя ў зале заапладыіравалі, іншыя — проста засмяяліся: вагавыя кандыдыі саперніка… 

— Дарэчы, рухаўся Крыс на барцоўскім дыване вельмі нават энергічна, — гаварыў Аляксандр Васільевіч. — А я проста не мог падступіцца да яго, не тое што зрушыць з месца…

Выбраў усё ж такі наш атлет момант, зрабіў падсечку, і рухнуў Тэйлар на дыван.

— Ды так, што памост, на якім ляжаў дыван, захістаўся, — дадаў Мядзведзь.

У наступным крузе спаборніцтваў стомленага і змучанага барацьбой з «гара»-чалавекам Крысам Тэйларам, арганізатары Алімпіяды-72 вывелі беларускага спартсмена на свайго прадстаўніка — Вільфрыда Дзітрыха. Разлік быў просты і зразумелы: тут ужо немец не спасуе! Ды не: мацнейшы ёсць мацнейшы, перамог Саша і яго! У рашаючым, фінальным паядынку зноў адолеў і Асмана Дураліева…

Гэта быў трэці алімпійскі трыумф нашага славутага волата!

Ён ніколі не лічыў, колькі паядынкаў выйграў наогул. Аднак статыстыка, як кажуць, ведае ўсё. Яна і сведчыць: за сваю кар’еру Аляксандр Васільевіч выйграў больш чым у ста (!) сапернікаў. Уяўляеце: перамог на дыване, у адкрытай, бескампраміснай сутычцы звыш ста (!) такіх жа, як і сам, здаровых, моцных (як сказаў мне аднойчы сам Васільевіч, «Як дубы!») мужчын-асілкаў, суперцяжкавагавікоў…

Вось і не пагадзіцеся пасля гэтага: такія людзі насамрэч нараджаюцца адзін раз у стагоддзе!



## *Алег Караваеў:*

## «МАЯ СТЫХІЯ — МОЙ НАКАТ»

*Алег Караваеў нарадзіўся 20 мая 1936 года ў Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XVII Алімпійскіх гульняў у Рыме (1960) па класічнай (грэка-рымскай) барацьбе ў вагавой катэгорыі да 57 кілаграмаў. Двухразовы чэмпіён свету 1958 і 1961 гадоў. Сяміразовы чэмпіён Савецкага Саюза: 1956, 1957, 1958, 1959, 1960, 1962 гадоў у асабістым першынстве і 1960 года — у камандных спаборніцтвах. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалём «За працоўную адзнаку». Першыя трэнеры — Іосіф Аборскі і Міхаіл Мірскі.*

У гісторыі савецкага, ды, відаць, і еўрапейскага спорту зусім няшмат такіх спартсменаў, якія, пачаўшы займацца любімым відам у 16 гадоў, ужо праз чатыры гады (!) узнімаліся на вышэйшую прыступку п'едэстала гонару буйнога спартыўнага форуму. Алег Караваеў — адно з тых нешматлікіх выключэнняў. Калі ўпершыню выйшаў на барцоўскі дыван у 1952-м, ён ужо ў 1956-м стаў пераможцам чэмпіяната Савецкага Саюза па грэка-рымскай (тады яна называлася класічнай) барацьбе. А было тады Алегу ўсяго толькі дваццаць!

Да заняткаў класічнай барацьбой яго далучыў родны брат Ігар. Аднойчы, падчас школьных канікулаў, той, будучы ўжо чэмпіёнам Савецкага Саюза па вольнай барацьбе, прывёз Алега ў Маскву і пазнаёміў са сваім трэнерам Андрэем Чэлідзе. Акінуўшы падлетка сваім мудрым грузінскім позіркам, Андрэй Сяргеевіч запрасіў яго на самы сапраўдны барцоўскі дыван, паставіў спачатку «на мост», а потым давай кідаць так, што ў таго бедалагі ўваччу пацямнела… Потым, падазваўшы старэйшага брата, усміхнуўся і сказаў уголас:

— Харошый малчык! Будет толк!

Першы ўрок не толькі не спалохаў Аліка, а наадварот — падахвоціў пасля вяртання ў родны Мінск заняцца пошукам секцыі па класічнай барацьбе. І знайшоў-такі: якраз тады, у пачатку 1950-ых гадоў, беларуская сталіца спакваля напаўнялася дзесяткамі вучняў трэнера па класічнай барацьбе Іосіфа Іванавіча Аборскага.

У тым жа 1952-м, літаральна праз некалькі месяцаў пасля першых заняткаў, Алег Караваеў прыняў удзел у першынстве горада. Яшчэ праз некалькі месяцаў яго вязуць на чэмпіянат Цэнтральнага савета фізкультурна-спартыўнага таварыства «Труд», адкуль юны мінчанін вяртаецца з залатым медалём пераможцы. Пазней Іосіф Аборскі часцяком расказваў журналістам пра тую першую ўдачу:

— Толькі адзін раз — перад самым пачаткам спаборніцтваў — Алежка крыху здрэйфіў. Маўляў, хіба спраўлюся я з імі, Іосіф Іванавіч? У іх жа ва ўсіх — вусы, а я нават ніводнага разу яшчэ і не галіўся… «Справішся, — падахвоціў я яго, — затое ты самы юны сярод іх. А вусы — дзеля красы, сам ведаеш. Вучыся за вусамі бачыць сэрца і волю саперніка…»

Восем паядынкаў правёў на тым турніры юны беларус. І ўсе восем выйграў на тушэ. Пазней ужо стала вядома: многія са спецыялістаў, якія прысутнічалі на чэмпіянаце «Труда», адзначалі: з гэтага падлетка вырасце сапраўдны чэмпіён!

Праз тры гады 19-гадовы Караваеў дэбютаваў на ўсесаюзнай арэне сярод дарослых барцоў.

Дзесяць гадоў разам з Іосіфам Іванавічам Аборскім яго песцілі і па-бацькоўску апякалі яшчэ два выдатныя спецыялісты класічнай барацьбы — Міхаіл Іванавіч Мірскі і Аляксей Рыгоравіч Куцэнка. Менавіта гэтыя тры настаўнікі і сталі заснавальнікамі беларускай школы класічнай барацьбы, пагалоска аб якой якраз тады, у другой палове пяцідзесятых, і пайшла па ўсім Савецкім Саюзе і нават далёка за межамі нашай тагачаснай агульнай Айчыны…

Цэлае сузор'е выдатных майстроў дывана падрыхтавалі гэтыя трэнеры. Іван Коршунаў, Віталь Фефелаў, Мікалай Чучалаў, Віталь Жыценеў, Іван Лакціёнаў, Сяргей Шчадрынскі, Васіль Секуноў, Дзмітрый Коган, Сяргей Залускі, Уладзімір Сусіч — перад імі ў прамым сэнсе слова не магла ўстаяць нават зборная СССР. Залатыя, сярэбраныя і бронзавыя медалі чэмпіянатаў Савецкага Саюза і Спартакіяд народаў СССР у асабістым і камандным заліках, Кубкі Савецкага Саюза

з году ў год прывозілі яны ў беларускую сталіцу. Душой і сапраўдным правафланговым таго дружнага самаадданага калектыву быў ён — Алег Караваеў, прадстаўнік самай лёгкай вагавай катэгорыі.

У ягонай асабістай спартыўнай біяграфіі было нямала яркіх і непаўторных старонак. Вось толькі адна з іх. На ІІ Спартакіядзе народаў СССР ніводзін з савернікаў Алега Караваева не здолеў правесці супраць яго хоць бы адзін прыём! І гэта пры тым, што яму супрацьстаялі алімпійскі чэмпіён (!) масквіч Барыс Гурэвіч і пастаянныя члены зборнай Савецкага Саюза — Самвел Аруцюнян з Арменіі і грузін Вагіз Чытыашвілі…

У 1958 годзе беларускі лёгкавагавік упершыню быў уключаны ў састаў зборнай Савецкага Саюза для выступлення на сусветным першынстве. Яно праходзіла ў сталіцы Венгрыі — Будапешце, і мясцовыя аматары спорту наўрад ці сумняваліся ў перамозе свайго куміра — алімпійскага чэмпіёна 1956 года Імрэ Ходаша…

Тое, што тварылася ў зале падчас іхняй сустрэчы на дыване, наўрад ці можна ўявіць сабе — не тое што апісаць… Шматтысячны хор падтрымкі проста заглушаў усе без выключэння каманды суддзі, парады і падказкі трэнераў. Будапешцкая зала патрабавала перамогі чэмпіёна Алімпіяды над нейкім там чэмпіёнам Савецкага Саюза з Мінска, абсалютна нікому не вядомага на міжнароднай спартыўнай арэне.

Алег разумеў: проста так венгра не возьмеш. Ды і сам Ходаш раптам павёў сябе больш чым арыгінальна: раз за разам пазбягаючы барацьбы, кантактаў з савецкім атлетам, ён проста ўхіляўся ад вядзення паядынку. Караваеў тут жа зразумеў: варта весці сваю гульню… І вось ужо пайшлі ў ход ягоныя любімыя прыёмы: так званыя захопы, перавароты, вокамгненныя кідкі… Гучыць фінальны гонг, які паведамляе аб першай, як потым высветліцца, самай гучнай сенсацыі ўсяго сусветнага першынства 1958 года — перамозе дэбютанта спаборніцтваў такога рангу над не абы-кім, а над самім алімпійскім чэмпіёнам!

Датчанін Хенрык Андэрсен наогул не паспеў разабрацца, куды і дзеля чаго ён выйшаў… Не паспеў, што называецца, азірнуцца — не тое што прыладкавацца да саперніка з невядомай і наогул экзатычнай для яго Беларусі, — як адразу ж трапіў на любімы Караваевым прыём і апынуўся на лапатках! Тая ж шматтысячная будапешцкая зала на гэты раз вітала ўжо нашага таленавітага спартсмена.

Дзінка Петкаў з Балгарыі вырашыў паарыгінальнічаць: пачаў дэманстраваць не тое што самаўпэўненасць, а звычайную… абыякавасць. Алег Караваеў запрымеціў гэта, аднак выгляду не зрабіў… Рашучы рух наперад, захоп тулава саперніка, пераварот накатам — і той таксама на лапатках!

Зала заходзілася ад воклічу «Брава!»…

Датэрмінова выйграўшы паядынак на тушэ ў румына Георга Чэрны, чэмпіёнам свету 1958 года стаў беларускі атлет Алег Караваеў.

А наперадзе было, несумненна, самае галоўнае выпрабаванне для нашага спартсмена — Гульні XVII Алімпіяды ў Рыме.

Увесь 1959 год і пачатак 1960-га праходзілі пад знакам падрыхтоўкі да Алімпіяды. Кіраўніцтва нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза вырашыла як мага паўней і глыбей праверыць патэнцыяльныя магчымасці кожнага барца класічнага стылю, каб пераканацца ў іх рэальных сілах. Так званая абкатка прэтэндэнтаў на паездку ў сталіцу Італіі павінна была перш за ўсё адбыцца на чэмпіянатах СССР.

— У тым, што Алік стане чэмпіёнам Савецкага Саюза вясной 1960 года сумненняў не было, — піша ў сваёй аўтабіяграфічнай аповесці «Солёный ковёр» двухразовы чэмпіён краіны, сябар Караваева па зборнай Беларусі Сяргей Залускі. — Ён і Спартакіяду выйграў з яўнай перавагай над усімі супернікамі, і цяпер быў у выдатнай форме. Пуцёўка ў Рым, можна лічыць, ужо ляжала ў яго ў кішэні, але ён усё фантазіраваў і фантазіраваў на дыване, не даючы перадышкі ні сабе, ні канкурэнтам. Гледзячы на Алега, стараліся і мы, пераймаючы ўсе навінкі, зараджаючыся яго запалам. Добры то быў час, напоўнены цяжкай працай і мужчынскай дружбай…

Такім чынам, на Гульні ў Італію наш спартсмен — на той час чэмпіён свету і пяціразовы пераможца першынстваў Савецкага Саюза — ехаў яўным фаварытам. І толькі цуд ці, не дай бог, вялікая недарэчнасць маглі перашкодзіць ягонаму ўзыходжанню на верхнюю прыступку алімпійскага п’едэстала.

Тая недарэчнасць ледзь не сыграла з ім злосны жарт. У першай сустрэчы з нарвежцам Джонам Твейтанам Алег даволі хутка і ўпэўнена выйшаў наперад з перавагай у 18 ачкоў. Ды падалося яму, што гэтага мала, і кінуўся наперад — адчайна, без аглядкі, нібыта ў самую важную і рашаючую атаку. Прыём атрымаўся, а ў адказ нарвежац правёў свой контраргумент і апынуўся «партызан» Караваеў на тым самым злашчасным «масту»… Савецкія трэнеры схапіліся за сэрцы…

Але трэба было быць Караваевым — сапраўдным вядучым кожнага паядынку, ягоным аўтарам і рэжысёрам адначасова. Напружыўшы ўсе свае сілы, зрабіўшы ўсяго толькі адзін, зусім не з класічнай барацьбы рух, Алег выйшаў «у стойку» і за 20 наступных секунд (!) паклаў скандынава на лапаткі.

«Больш так жартаваць з сапернікамі не буду!» — сам сабе пакляўся беларускі атлет пасля той, ледзь не стаўшай трагічнай сітуацыі. І не толькі пакляўся, але і стрымаў слова. Другую сустрэчу на дыване супраць бельгійца Ван дэр Верховена закончыў з яўнай перавагай усяго толькі за 1 мінуту 28 секунд. Не намнога больш пратрымаўся супраць Караваева і японец Акіра Ісігушы, якога хапіла на 3 мінуты 4 секунды…

А потым быў алімпійскі фінал, у якім наш атлет выканаў сапраўдную «волатаўскую сімфонію» класічнай барацьбы. Зноў заміралі сэрцы ў кіраўнікоў савецкай каманды, а балельшчыкі з самых розных краін свету, сабраўшыся на алімпійскае свята ў Рыме, у чарговы раз авацыяй сустракалі кожны прыём, выкананы Алегам, кожны рух ягоных рук, ног, цела… Яго, што называецца, ведаў у твар увесь спартыўны свет.

Ніводнай секунды (так-так, менавіта секунды!) для перадышкі не атрымаў у той сустрэчы стары знаёмы Караваева — румын Георг Чэрны. Атрымаўшы ў шостым запар паядынку шостую перамогу, Алег заваяваў такі жаданы залаты алімпійскі медаль. Арганізатары XVII Гульняў, спецыялісты і трэнеры нацыянальных зборных прызналі яго самым тэхнічным спартсменам Алімпіяды.

…Караваеўскія прыёмы — накат, пераварот (іх, дарэчы, у арсенале класічнай барацьбы было ажно 18 варыянтаў), дзеянні ў партэры — не на адно дзесяцігоддзе ўвайшлі потым у арсенал тактычных дзеянняў многіх слынных прадстаўнікоў барацьбы класічнага (цяпер гэта грэка-рымскі) стылю. Многія з іх даюць плён і сёння…

Георг Чэрны быў для Алега Караваева сапернікам на дыване, а ў жыцці — сябрам і аднадумцам. У адным са спартыўных выданняў я прачытаў вось такія словы румына пра нашага непаўторнага і непараўнальнага атлета:

— Ён — маэстра дывана, экспрэсіяніст. Кампазіцыі прыёмаў, якія ён тварыў, проста выдатныя. І вось што цікава: напалавіну гэта было натхненне, напалавіну — тонкі і неверагодна дакладны разлік…

Лепш і танчэй наўрад ці скажаш!

**P. S.**

За некалькі гадоў да пачатку працы над рукапісам гэтай кнігі я сустрэўся  і вельмі блізка пазнаёміўся і пасябраваў з Паўлам Іосіфавічам Сідорыкам — чалавекам, які ў свой час займаўся класічнай барацьбой разам з Алегам Караваевым у адной і той жа спартыўнай школе — школе «папы Мірскага», заслужанага трэнера Савецкага Саюза і Беларусі Міхаіла Іванавіча Мірскага. Па-руску «папой» Міхаіла Іванавіча звалі-называлі-клікалі ўсе: і перш за ўсё атлеты, хто хоць аднойчы трапляў пад ягонае ўздзеянне і ў пэўнай меры выхаванне, — Алег Караваеў і Мікалай Чучалаў, Віталь Фефелаў і Іван Коршунаў, Сяргей Залускі і Анатоль Зяленка — усе тыя прызнаныя майстры класічнай (грэка-рымскай) барацьбы, што сталі на «крыло», выраслі і загартаваліся ў заснаванай Мірскім і ягонымі пасляваеннымі прыхільнікамі беларускай школе адзінаборстваў. Сталі, выраслі, загартаваліся, а потым шчыра і беззапаветна аддзячылі і яму, вялікаму і непараўнальнаму «папе» Мірскаму, і ўсяму беларускаму спорту сваімі насамрэч вялікімі і надзвычай значнымі Перамогамі на ўсесаюзнай, еўрапейскай і алімпійскай арэнах!

Не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што «папой» называлі Міхаіла Іванавіча Мірскага і мы, пачынаючыя і толькі-толькі набіраючыя вышыні спартыўныя журналісты…

Ды неяк не прынята пра гэта казаць!

…Павел жа Сідорык, сам не раз трапляўшы пад славуты караваеўскі «накат», папрасіў мяне аб адным: маўляў, напішы, што  Алежка Караваеў і ўсе мы — насамрэч дзеці аднаго «папы»-бацькі, нашага незабыўнага Міхаіла Іванавіча Мірскага! А Алег — проста таленавіты і, прабач, геніяльны быў сярод нас…

Гэту просьбу Паўла Сідорыка, а разам з тым і тысяч іншых прыхільнікаў таленту Алега Караваева,  я выконваю з вялікім задавальненнем і прызнаннем…

Такія зоркі, як ён, нараджаюцца і свецяць так, на жаль, рэдка, але ж — ярка і непараўнальна!



## *Уладзімір Зубкоў:*

## ТАКІЯ ЦЯЖКІЯ П'ЕДЭСТАЛЫ

*Уладзімір Зубкоў нарадзіўся 30 красавіка 1948 года ў горадзе Новасібірску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чатырохразовы чэмпіён свету — 1971, 1973, 1974 і 1975 гадоў па класічнай (грэка-рымскай) барацьбе ў найлягчэйшай вагавой катэгорыі. Сярэбраны прызёр сусветнага першынства 1970 года. Бронзавы прызёр еўрапейскага чэмпіянату 1972 года. Чэмпіён Савецкага Саюза 1973 года. Першы трэнер — Гары Нікалаёнак.*

…Адвячоркам, не спяшаючыся, яны выйшлі са спартыўнай залы. Імжэў дробны дождж. Ішлі моўчкі, кожны думаў аб нечым сваім. Першым маўчанне парушыў Валодзя Зубкоў:

— А можа, усё-такі не выходзіць мне на дыван?..

Яго трэнер Гары Васільевіч Нікалаёнак адказаў катэгарычна і нават рэзка:

— Не! Трэба!..

І зноў кожны аддаўся сваім думкам…

Нікалаёнак разважаў прыкладна так. Траўма ў Валодзі не вельмі сур'ёзная, і выступіць на мемарыяле імя Івана Паддубнага ён мог, тым больш што праходзілі спаборніцтвы ў родным Мінску.

Не-не, яны не спрачаліся і тым больш зусім не высвятлялі адносіны. Хоць, лічылі абодва, падставы для дзелавой спрэчкі ёсць. Яны — раіліся. Часта здаралася так ва ўзаемаадносінах настаўніка і вучня: на трэніроўцы, занятках ды нават у тралейбусе ці аўтобусе Нікалаёнак і Зубкоў раптам пачыналі горача абмяркоўваць момант з таго ці іншага адказнага паядынку. Спахопяцца, успомняць, што знаходзяцца не адны, — змоўкнуць. А на прыпынку — зноў за сваё…

На тым жа міжнародным турніры імя Паддубнага, які адбыўся ў 1972-м у Мінску, Уладзімір Зубкоў на дыван усё ж такі выйшаў. Аднак першы ж паядынак прайграў масквічу Уладзіміру Нецвятаеву. Тады і пачуў я ад вопытных спецыялістаў, што спартыўная кар'ера чэмпіёна свету Зубкова неўзабаве бясслаўна скончыцца і, маўляў, наогул яго перамога на сусветным першынстве была проста выпадковай.

— Спачатку я захапляўся ягоным характарам, — згадваў мне Гары Нікалаёнак свае першыя ўражанні ад сустрэчы і знаёмства з Зубковым. — Памятаеце, і вам я казаў: ціхі Валодзя, маўклівы, а вось трэніруецца настойліва і самаадданa… Я і зараз гатовы пацвердзіць гэта. Толькі своеасаблівы ён, непаўторны. Ціхі — на першы погляд; маўклівы — падчас сустрэчы з незнаёмым чалавекам… Так, Зубкоў любіць працаваць на трэніроўках. Але ж карысна, для справы! Калі будзеце на трэніроўцы барцоў, звярніце ўвагу, як многія дарэмна марнуюць вельмі многа часу. Развучваюць і шліфуюць прыёмы, якія ўжо даўно забытыя і карысці ад якіх — аніякай. Не справай займаюцца, а проста бавяць час, адведзены для заняткаў. Вінаваты ў гэтым як самі спартсмены, так і іхнія трэнеры. Яны не могуць ды і не ўмеюць зацікавіць сваіх выхаванцаў тактычнымі навінкамі, творча пабудаваць трэніроўку. Такіх падзёншчыкаў — спартсменаў і трэнераў, безадказных і няздольных — я асабіста не цярплю!..

Калі ж мы развітваліся, Гары Васільевіч сказаў тады:

— Зубкоў — чалавек іншага складу. Прыгадаеце некалі мае словы: у яго — вялікая будучыня.

Пазней я шматкрат сустракаўся і з самім настаўнікам, і з ягоным вучнем. І заўсёды захапляўся іх узаемаадносінамі, той павагай, з якой ставіліся яны адзін да аднаго.

…Яны сустрэліся ў сярэдзіне 1968 года. Пасля службы ў радах Савецкай Арміі дваццацігадовы чэмпіён Узброеных Сіл СССР Уладзімір Зубкоў прыехаў у сталіцу Беларусі, каб паступіць на вучобу ў Беларускі інстытут фізічнай культуры. Невысокага росту, добра складзены юнак тады і прыглянуўся маладому выкладчыку ВНУ Гары Васільевічу Нікалаёнку. Лекцыі, практычныя заняткі, амаль штодзённыя трэніроўкі… На ўсё хапала ў яго часу. А яшчэ сябры па вучобе і выкладчыкі інстытута адразу ж устанавілі, што Зубкоў добра грае на гітары, пад уласны акампанемент няблага выконвае задушэўныя лірычныя песні. На студэнцкіх вечарах, на канцэртах інстытуцкай агітбрыгады яму шчыра апладзіравалі аднакашнікі, рабочыя і калгаснікі…

У 1969 годзе тэхнічны камітэт Міжнароднай федэрацыі барацьбы (ФІЛА) увёў у класічнай барацьбе (цяпер яна, як вядома, называецца грэка-рымскай) новую вагавую катэгорыю — да 48 кілаграмаў. На чэмпіянаце свету таго ж года была разыграна і першая залатая ўзнагарода ў новай вазе. Яе ўладальнікам стаў румынскі барэц Георге Бярчану.

Настаўнікі зборнай Савецкага Саюза доўга і настойліва шукалі прэтэндэнта ў новую вагавую катэгорыю для выступлення на сусветным першынстве 1970 года. Перабралі з дзесятак кандыдатур, але спыніць свой выбар ніяк не маглі: той не дацягвае да міжнароднага дывана; іншы — не вельмі вынослівы; трэці — нейкі вельмі ўжо палахлівы… Урэшце, прагаласавалі за 22-гадовага мінскага студэнта Уладзіміра Зубкова.

Спякотным ліпеньскім днём 1970 года канадскі горад Эдмантан сустракаў мацнейшых барцоў-«класікаў» з усіх куткоў свету. Вядома, прэтэндэнтам нумар адзін на перамогу ў найлягчэйшай вагавой катэгорыі лічыўся згаданы вышэй Георге Бярчану. Упэўнена перамагаючы аднаго саперніка за другім, спартсмен з Румыніі і набліжаўся да новага чэмпіёнскага тытула. Не ўступаў канкурэнтам і беларускі спартсмен. У паядынку паміж імі і вырашаўся лёс залатога медаля чэмпіёна свету.

Кіраўнік савецкай дэлегацыі на сусветным першынстве-1970, заслужаны майстар спорту Анатоль Колесаў расказваў мне потым:

— Да тых, хто выступіў у Эдмантане найбольш удала, я ў першую чаргу адношу і сярэбранага прызёра першынства «класікаў» у вагавой катэгорыі да 48 кілаграмаў Уладзіміра Зубкова. Фінальную сустрэчу супраць чэмпіёна свету 1969 года Георге Бярчану ён прайграў толькі з-за нявопытнасці…

А першы трыумф Валодзі на сусветным першынстве адбыўся ўжо ў наступным, 1971 годзе. Турнір, што праходзіў у сталіцы Балгарыі Сафіі, у чарговы раз сабраў зорак самай першай велічыні. Зубкоў прыехаў на чэмпіянат у надзвычай добрай спартыўнай форме: яго кандыцыі, як сказаў потым Гары Нікалаёнак, былі «проста цудоўнымі». Добра ведаў наш спартсмен і ўсе без выключэння моцныя і слабыя бакі сапернікаў, што, дарэчы, у спартыўных адзінаборствах з'яўляецца надзвычай важным фактарам. Дасканала валодаў Зубкоў і ўсімі самымі сучаснымі прыёмамі класічнай барацьбы…

У першым крузе ягоным сапернікам стаў тэхнічны іранец Алі Абадзі. Валодзя павёў паядынак на контратаках, што, урэшце, і прынесла яму перамогу. Не ўстаяў і японскі атлет Мацуда.

У фінале ж сустрэліся Уладзімір Зубкоў і спартсмен з Турцыі Хазыр Сары. Сапернік трымаўся вельмі асцярожна, раз за разам пазбягаючы так званай кантактнай барацьбы. І ўсё ж Зубкоў знайшоў імгненне і злавіў турка на прыём… На чацвёртай мінуце паядынак быў спынены: чыстая перамога барца ў форме зборнай Савецкага Саюза!

— Для нас тая перамога была надзвычай важная, — не адзін раз казалі потым і сам Валодзя, і Гары Васільевіч. — Мы паверылі ў свае сілы і патэнцыяльныя магчымасці канчаткова і беззваротна.

Аднак на дасягнутым спартсмен і трэнер не спыніліся. Пяць разоў на тыдзень сустракаліся яны ў спартыўнай зале Беларускага інстытута фізічнай культуры, не адзін месяц правялі на спартыўных зборах у саставе нацыянальнай каманды краіны. Скрупулёзна знаёміліся з навінкамі тэорыі, развучвалі новыя прыёмы, шліфавалі тэхніку і ўмельства. Заслужаны майстар спорту Уладзімір Зубкоў і заслужаны трэнер Савецкага Саюза Гары Нікалаёнак рыхтаваліся да штурму новых вышыняў.

Неаднаразовыя перамогі на чэмпіянатах СССР і буйных міжнародных турнірах, тым не менш, чаргаваліся і з паражэннямі: часцяком «незапланаванымі», прыкрымі, зрэдку — з дапамогай суддзяў — несумленных служыцеляў Феміды. Што ж, без гэтага і ў вялікім спорце не абыходзіцца… Толькі адзін 1972 год прынёс Уладзіміру Зубкову столькі няўдач, што іншы на ягоным месцы і расчараваўся б, і наогул пакінуў бы вялікі дыван.

Незадоўга да пачатку чарговых, ХХ Алімпійскіх гульняў у Мюнхене спартсмены класічнай барацьбы разыгралі ўзнагароды на еўрапейскім першынстве ў польскім горадзе Катавіцы. Гэта была свайго роду разведка боем: праверка гатоўнасці атлетаў перад галоўным стартам чатырохгоддзя. Арганізатары першынства яўна спяшаліся, хаця для барцоў па два і нават па тры паядынкі ў дзень было не ў навінку… Валодзю ж Зубкову яны наладзілі выпрабаванне — горш і не прыдумаеш: спачатку яму трэба было «высветліць адносіны» са старым знаёмым — туркам Хазырам Сары, а праз гадзіну-другую — з прадстаўніком тагачаснай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Петэрам Капролем. З неймаверна вялікімі намаганнямі беларускі спартсмен выйграў у абодвух, аднак сіл тыя паядынкі аднялі вельмі і вельмі шмат. Іх, тых сіл, на фінальныя сустрэчы яўна не хапіла, ды і супрацьстаялі яму сапернікі самыя што ні ёсць агрэсіўныя і знакамітыя: па-ранейшаму нязгасны Георге Бярчану з Румы-

нii i не менш амбiцыйны балгарын Стэфан Ангелаў. Уступiўшы i першаму, i другому, Зубкоў атрымаў тады «толькi» бронзавую ўзнагароду.

Не атрымаўся ў 24-гадовага прадстаўнiка зборнай Савецкага Саюза i алiмпiйскi дэбют-72. У першым жа паядынку жараб’ёўка звяла яго з тым жа Ангелавым. З перавагай у два балы напружаную сустрэчу выйграў беларускi спартсмен. Але кiраўнiкi спартыўнай дэлегацыi Балгарыi апратэставалi рашэнне суддзяў: нiбыта Зубкоў няправiльна выканаў адзiн з прыёмаў… Тэхнiчны камiтэт Алiмпiяды задаволiў пратэст i Уладзiмiру было залiчана паражэнне. Моцна перажываў гэта наш спартсмен. А тут яшчэ наступным сапернiкам прызначаецца… Бярчану. Не змог сканцэнтравацца i, як кажуць, аднавiцца псiхалагiчна, таму i прайграў гэту сустрэчу…

I зноў наш атлет найлягчэйшай вагавай катэгорыi знайшоў унутраныя рэзервы, каб застацца на дыване з адной-адзiнай мэтай-задумай: даказаць усiм, што ён — мацнейшы! Зноў i зноў выходзiў на трэнiроўкi, шлiфаваў, удасканальваў майстэрства… Верыў: наперадзе яшчэ не адна перамога. I яны насамрэч прыходзiлi: сусветныя чэмпiянаты 1973, 1974 i 1975 гадоў ён выйграў проста ў блiскучым стылi, стаўшы, такiм чынам, чатырохразовым чэмпiёнам свету! Больш таго, апошнюю пераможную кропку ў сваёй багатай, такой напружанай i непрадказальнай спартыўнай бiяграфii Уладзiмiр паставiў на сусветным першынстве-75, якое праходзiла ў родным для яго Мiнску.



## *Камандар Маджыдаў:*

## «НАСТАЎНІК! ВЫХАВАЙ ВУЧНЯ…»

*Камандар Маджыдаў нарадзіўся 17 кастрычніка 1961 года ў горадзе Дманісі ў Грузіі. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па грэка-рымскай барацьбе. Двухразовы чэмпіён свету — 1986 і 1989 гадоў. Пераможца міжнароднага турніру «Дружба-84». Уладальнік Кубка свету 1983 і 1990 гадоў. Трохразовы чэмпіён Еўропы — 1984, 1985 і 1991 гадоў. Чэмпіён Савецкага Саюза 1991 года. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў і медалём «За працоўную адзнаку». Першы трэнер — Фікрэт Таіраў.*

Грузія, Азербайджан, Беларусь… Сёння гэта тры суверэнныя дзяржавы, якія вядуць на міжнароднай арэне сваю самастойную палітыку, спавядаюць прынцыпы незалежнасці ў эканамічным, сацыяльным, культурным жыцці. У фізкультурна-спартыўнай дзейнасці — таксама. А яшчэ ж зусім нядаўна — на пачатку апошняга дзесяцігоддзя ўжо мінулага XX стагоддзя — прадстаўнікі гэтых трох саюзных рэспублік былога Саюза ССР на міжнароднай спартыўнай арэне выступалі пад адзіным дзяржаўным флагам. І практычна ніхто не высвятляў тады, хто ты па нацыянальнасці — грузін, азербайджанец ці беларус.

І шматлікія перамогі на тых спартыўных арэнах адзначалі адзінай камандай-сям'ёй!

У той адзінай савецкай шматнацыянальнай зборнай па грэка-рымскай барацьбе напрыканцы яе існавання ці не самай яркай і каларытнай фігурай быў Камандар Маджыдаў, спартыўны лёс якога быў незвычайны і непаўторны, бо меў дачыненне да кожнай з трох згаданых вышэй саюзных рэспублік СССР.

Грузія…

Пад яе спякотным сонцам у сярэдзіне кастрычніка 1961 года ў невялікім гарадку Дманісі ў звычайнай сям'і нарадзіўся хлопчык, якому далі рэдкае імя — Камандар. Расло немаўляці жвавым і цікаўным, ды напаткала Маджыдавых вялікае непапраўнае гора: у аўтамабільнай катастрофе загінуў бацька. Сям'я была вымушана пакінуць ранейшае месца жыхарства…

Азербайджан…

Сюды, у сталіцу такой жа сонечнай і ўтульнай саюзнай рэспублікі, і пераехалі Маджыдавы. Камандар пайшоў у мясцовую школу. Як і ў кожнага з нас, падчас вучобы вольнага часу заставалася шмат, і хлопчык пачаў задумвацца над пошукамі любімага занятку. Але думаць вельмі доўга практычна не давялося: ну які юны грузін ці азербайджанец не спрабаваў свае сілы ў нацыянальных відах барацьбы?! І не важна, што ў Грузіі тая барацьба называецца «чыдаоба», а ў Азербайджане — «гюлеш», галоўнае, што канчатковая мэта «высвятлення адносінаў» у ёй адна і тая ж — перамога!

А перамагае, як вядома, мацнейшы…

У Азербайджане Камандар Маджыдаў пачаў перамагаць сваіх равеснікаў даволі рана. Яго, натуральна ж, заўважылі і ацанілі: пачалі запрашаць на вучэбна-трэніровачныя зборы спачатку каманды школьнікаў рэспублікі, потым — юнацкай і маладзёжнай зборных. Інакш кажучы, ужо ў дваццацігадовым узросце таленавітага маладога бакінскага барца грэка-рымскага стылю (тады гэты від барацьбы называўся класічным) ведалі, што называецца, у твар…

Беларусь…

У 1982 годзе ў паўднёвым Кіславодску праходзілі ўсесаюзныя спаборніцтвы сярод маладых барцоў. Нашу рэспубліку на іх прадстаўлялі ў асноўным студэнты мінскіх вышэйшых навучальных устаноў, а ўзначальваў каманду вядомы ў мінулым атлет, а тады ўжо выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта Віктар Рудзянкоў. Студэнты — народ камунікабельны і гаварлівы, і нехта з іх на поўным сур'ёзе сказаў універсітэцкаму трэнеру аб тым, што адзін з сапернікаў-азербайджанцаў, што выступае ў вагавой катэгорыі да 62 кілаграмаў, не супраць памяняць сваё цяперашняе месца жыхарства і стаць… мінчанінам.

— Пра каго размова я, уласна кажучы, ведаў, — многа разоў расказваў потым мой знаёмы па вучобе ў БДУ Віктар Рудзянкоў. — Не звярнуць увагу на Камандара Маджыдава падчас яго выступлення на барцоўскім дыване мог толькі вельмі далёкі ад барацьбы чалавек. Імклівасць рухаў, віртуознасць, добрая тэх-

нічная аснашчанасць — усім тым, што высока цэніцца і паважаецца ў нашым відзе спорту, гэты малады чалавек ужо тады валодаў цалкам і дасканала. І тут раптам такая пагалоска…

Трэнер і спартсмен сустрэліся адзін раз, другі, трэці… Пагутарылі шчыра і адкрыта, і Маджыдаў прызнаўся, што вельмі хоча папрацаваць у беларускай камандзе, пазаймацца пад кіраўніцтвам нашых спецыялістаў і трэнераў. І Рудзянкоў не здзівіўся такому павароту падзей: слава пра беларускую школу класічнай барацьбы ўжо тады грымела па ўсёй краіне і далёка за яе межамі. А адно з падраздзяленняў той школы якраз і знаходзілася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе пад кіраўніцтвам вядомых у недалёкім мінулым атлетаў майстра спорту міжнароднага класа, былога чэмпіёна Савецкага Саюза Віталя Фефелава, майстра спорту Віктара Рудзянкова і іншых і займаліся многія маладыя і перспектыўныя барцы-«класікі».

Прайшоўшы некалькі жорсткіх выпрабаванняў падчас падрыхтоўкі і паступлення на юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта, Камандар Маджыдаў стаў-такі мінчанінам: спачатку — студэнтам, а потым — і адным з вядучых прадстаўнікоў сталічнай гарадской фізкультурна-спартыўнай арганізацыі.

У 1983 годзе Маджыдаў — «зялёны» навабранец нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза — становіцца ўладальнікам аднаго з самых пачэсных прызоў — Кубка свету. На працягу двух наступных спартыўных сезонаў — 1984-га і 1985-га — выйграе першынствы кантынента, а ў 1986-м зноў заваюе Кубак свету. Байкаціраваўшы Алімпійскія гульні 1984 года ў Лос-Анджэлесе, савецкія спартыўныя дзеячы дамагліся правядзення альтэрнатыўных спаборніцтваў пад назвай «Дружба-84», у іх праграму ўвайшоў і турнір па класічнай барацьбе. Прадстаўнік Беларускага студэнцкага фізкультурна-спартыўнага таварыства «Буравеснік» Камандар Маджыдаў выйграў і яго!

Аднак, як і многія іншыя моцныя і, па сутнасці, непераможныя атлеты, ён марыў аб адным, ці не самым галоўным у сваім спартыўным жыцці — выступленні на Алімпіядзе… І гэта магчымасць па заслугах была прадстаўлена мінскаму студэнту праз чатыры гады — у 1988-м.

Правёўшы да таго часу не адзін дзесятак паядынкаў на самым высокім міжнародным узроўні, Камандар добра ведаў сваіх патэнцыяльных сапернікаў у барацьбе за алімпійскае золата Сеула-88. Першым сярод іх значыўся, вядома ж, балгарын Жэчэ Вангелаў, з якім спартыўны лёс шматкрат зводзіў Маджыдава на барцоўскім дыване. Як правіла перамагаў наш атлет, аднак даваліся тыя паядынкі з неймаверна цяжкім напружаннем

і заканчваліся з мінімальнай перавагай… Ды і іншыя спартсмены — і перш за ўсё прадстаўнікі такіх «барцоўскіх» дзяржаў, як Злучаныя Штаты Амерыкі, Іран, Францыя, Польшча, Венгрыя, Румынія — не павінны былі ігнаравацца.

Шэсць паядынкаў — напружаных і неймаверна складаных — правёў на алімпійскім дыване ў сталіцы Паўднёвай Карэі наш прадстаўнік. Выйграў паслядоўна ў іранца Джавада-Салеха і карэйца Ан Дэ Хьюна, паляка Трача і француза Жалабера, усяго толькі з лікам 2:1 адолеў непрыступнага амерыканца Андэрсана… У рашаючай сутычцы з ім, як і варта было чакаць, рыхтаваўся да «высвятлення адносінаў» Жэчэ Вангелаў.

…Памятаю па рэпартажу на тэлебачанні: сапернікі пайшлі адзін на аднаго адразу ж, што называецца, без разведкі. Абодва былі ў росквіце сіл і талентаў, для абодвух сакрэтаў у грэка-рымскай барацьбе не было ўжо аніякіх. Камандар выглядаў не толькі лепш падрыхтаваным менавіта да гэтай сустрэчы, але і больш сканцэнтраваным, абачлівым. Неўзабаве павёў у ліку і не ўступіў ініцыятывы да самай фінальнай сірэны. 6:2 на карысць савецкага атлета — такі лік быў зафіксаваны на алімпійскім табло Сеула. Золата Гульняў XXIV Алімпіяды атрымала мінскую прапіску!

Гатовы быў выступіць Камандар Маджыдаў і на наступнай Алімпіядзе-92. Аднак у барацьбе за месца пад сонцам у саставе аб’яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў нязначна ўступіў у адборачным турніры больш актыўнаму саперніку з Расійскай Федэрацыі, і ў Барселону паехаў той атлет… Тым не менш Маджыдаў не пакінуў любімую справу. Заняўся трэнерскай дзейнасцю, падтрымліваў і сябе ў належнай спартыўнай форме…

На XXVI Алімпійскіх гульнях 1996 года ў Атланце Камандар выступіў у двух іпастасях — трэнера і спартсмена адначасова. Выступаючы ў вагавай катэгорыі да 68 кілаграмаў, папярэднія паядынкі ён правёў увогуле няблага, аднак у барацьбе за бронзавы медаль уступіў расіяніну Аляксандру Траццякову і ў выніку стаў чацвёртым…

Затое парадавалі і яго, і ўсіх нас вучні і паслядоўнікі маладога трэнера Маджыдава: Аляксандр Паўлаў і Сяргей Ліштван заваявалі на Гульнях-96 сярэбраныя, а Валерый Цыленьць — бронзавую ўзнагароды.

Эстафета трапіла ў надзейныя рукі!



## *Ігар Макараў:*

# СЯБРЫ ПАЗНАЮЦЦА НЕ ТОЛЬКІ Ў БЯДЗЕ…

*Ігар Макараў нарадзіўся 20 ліпеня 1979 года ў горадзе Кімры Цвярской вобласці ў Расіі. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXVIII Алімпійскіх гульняў у Афінах (2004) па дзюдо. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету 2003 года. Бронзавы прызёр чэмпіянатаў Еўропы 2002 і 2003 гадоў. Сярэбраны прызёр маладзёжнага першынства кантынента 1998 года. Узнагароджаны ордэнам «За асабістую мужнасць». Ганаровы грамадзянін горада Гомеля. Першы трэнер — Уладзімір Асін.*

Калі казаць шчыра, сям'я Макаравых у горадзе над Сожам апынулася… чыста выпадкова. У 1987 годзе высокаадукаваны і перспектыўны інжынер-геафізік Віктар Макараў, як модна было казаць у савецкія часы, па службе быў пераведзены ў Гомель на практычна засакрэчаны завод «Сейсматэхніка». Абсалютна незнаёмы горад, поўная адсутнасць знаёмых і сяброў і ў бацькоў, і ў двух сыноў. Для сталых людзей справа, што называецца, нажыўная, а вось для 8 і 13-гадовага хлопцаў… Старэйшы ўжо тры гады займаўся дзюдо, малодшы ж таксама прыглядваўся да спорту. З цяжкасцю, аднак адшукалі бацькі ў Гомелі ці не адзіную па гэтаму віду барацьбы секцыю і аддалі туды сыноў — і старэйшага, і малодшага!

У 1993-м сямікласнік з Гомеля Ігар Макараў выйграў юнацкі чэмпіянат рэспублікі па дзюдо, некалькі таварысцкіх сустрэч у саставе юнацкай зборнай Беларусі. І на тых спаборніцтвах, і на наступных турнірах з яго ўдзелам спецыялісты адзначалі далёка не дзіцячую сабранасць юнага спартсмена, ягоную сур'ёзнасць і настроенасць на паядынак. «Неблагога рыхтуеш

хлопца, — не адзін раз казалі калегі настаўніку Ігара Уладзіміру Асіну. — Глядзіш, праз год-другі і Гомель на сусветнай спартыўнай карце абазначыш…»

— Ніколі не думай аб высокіх месцах, узнагародах, рэгаліях, — пастаянна настройваў Уладзімір Асін свайго здольнага і настойлівага вучня. — Ведай, слабых сапернікаў не бывае!

І тады, падчас першай сустрэчы і знаёмства, і потым, на працягу амаль што дваццацігадовага сумеснага шляху да алімпійскага п’едэстала, Уладзімір Уладзіміравіч лічыў сам і змог пераканаць у тым і вучня, што спорт — від мастацтва: цяжкі, адказны, непаўторны. Выпадкова можна выйграць адзін паядынак, ну, максімум, два! У астатніх дасць аб сабе знаць Яе Вялікасць Праца…

У 1998-м да 19-гадовага дзюдаіста з Гомеля прыходзіць першы поспех на міжнароднай арэне: ён заваёўвае сярэбраную ўзнагароду на маладзёжным першынстве кантынента. На еўрапейскіх і сусветных турнірах Беларусь выступала ўжо самастойнай камандай, так што маладому таленавітаму спартсмену засвяціла добрая перспектыва і ў нацыянальнай зборнай нашай краіны.

Для многіх, нават ад прыроды таленавітых спартсменаў пераход з маладзёжнай каманды ў «дарослую» — працэс складаны і хваравіты. Сапраўды, не кожнаму ўдаецца адразу ж знайсці сябе, сваё месца сярод шматкрат выпрабаваных і загартаваных спартсменаў. Ды і апошнія з іх — і перш за ўсё тыя, хто разумее ці ўсведамляе, што сённяшні дэбютант ужо заўтра пацясніць яго, ветэрана, — не надта каб ахвотна пагадзяцца саступіць месца ў зборнай… Канкурэнцыя ёсць канкурэнцыя, а ў спорце яна асабліва жорсткая! Інакш кажучы, з боку маладых атлетаў яна патрабуе перш за ўсё ўзважаных дзеянняў і абдуманых падыходаў. І Ігар Макараў гэта выдатна ўсведамляў. Як і патрабаваў таго Уладзімір Уладзіміравіч Асін, ён паранейшаму шмат працаваў, шліфуючы майстэрства, узбагачаючы свой арсенал новымі прыёмамі, тактычнымі дзеяннямі. «З пераходам яго ў дарослую зборную Беларусі, — казаў потым Уладзімір Асін, — мы сталі адзіным мозгам, адзінай мышцай, адзіным арганізмам…»

У самым пачатку новага, XXI стагоддзя яны адчулі: час заяўляць аб сабе! Не-не, і Макараў, і Асін аб гэтым услых нікому і ніколі не казалі. Проста набліжаўся момант ісціны — час, калі Ігар павінен быў стрэліць паказчыкамі, калі можна так сказаць, адпаведнымі ягонаму патэнцыялу. На жаль (а можа, і не на жаль!)

вышэйшая прыступка п'едэстала гонару на самых важных і адказных міжнародных спаборніцтвах заставалася для гомельскага дзюдаіста недасягальнай. Еўрапейскія першынствы 2002 і 2003 гадоў прынеслі яму бронзавыя медалі, чэмпіянат свету 2003 года — тое ж самае. Праўда, апошні турнір стаў знамянальны іншым: бронза сусветнага першынства аўтаматычна давала яму ліцэнзію на ўдзел у Гульнях XXVIII Алімпіяды ў самой Грэцыі.

Алімпійская жараб'ёўка адразу ж паднесла яму сюрпрыз, прызначыўшы ў самыя першыя сапернікі… добрага сябра са зборнай Казахстана Асхата Жыткеева. Што ж, сябры — сябрамі, а сапернікі — сапернікамі… 3 мінуты 44 секунды спатрэбіліся беларускаму паўцяжкавагавіку для перамогі над казахам. У наступнай сустрэчы — ужо адной восьмай фінала — не на шмат больш, усяго толькі на адну мінуту, пратрымаўся супраць Макарава фін Ціма Пелтала. На наступных этапах — у адной чацвёртай і паўфінале — канкурэнты былі больш моцныя і спрактыкаваныя: спачатку Іверы Джыкараулі з Грузіі, потым Элка ван дэр Геест з Галандыі. З грузінам у Ігара былі свае рахункі: менавіта яму ён прайграў у фінале розыгрышу Кубка Еўропы — 2002, так што, як кажуць, надарылася магчымасць вярнуць доўг… І гэта нашаму атлету спаўна ўдалося! Што ж датычыцца славутага галандца, то Макараў ведаў ягоныя слабыя месцы і, правёўшы так званы «бакавы пераварот», упэўнена адчыніў сабе дзверы на рашаючы, фінальны паядынак…

Вольнага часу ў алімпійцаў-дзюдаістаў практычна не было, аднак Ігар выдзеліў усё ж такі некалькі мінут, каб выслухаць парады вернага сябра Асхата Жыткеева адносна таго, як паводзіць сябе ў вырашальным паядынку супраць карэйскага дзюдаіста Ян Сун Хо. Справа ж была ў тым, што беларускі спартсмен упершыню ў жыцці бачыў карэйца, а Асхат сустракаўся з ім і нават перамагаў яго… А пра паражэнне Ігара ў першым жа паядынку на Алімпіядзе казах нават і думаць не хацеў!

А мы кажам: сябры пазнаюцца ў бядзе... Не толькі!

…За 14 секунд да фінальнай сірэны беларускаму волату дзюдо ўдалося злавіць саперніка на свой самы любімы прыём — «бакавы пераварот» — і ў неверагоднай радасці высока над галавой ускінуць рукі — Перамога!

Спецыялісты дзюдо перад пачаткам Алімпіяды-2004 у адзін голас сцвярджалі: у вагавой катэгорыі да 100 кілаграмаў на перамогу можа разлічваць практычна кожны з 32 удзельнікаў. Залаты ж алімпійскі медаль быў адзін. Ён і атрымаў нашу, беларускую прапіску!

*Раздзел III*

## ЗВОН КЛІНКОЎ — МАГІЧНАЯ МЕЛОДЫЯ…

*Тыя часы і сёння ўспамінаюцца многімі з цеплынёй і вялікай павагай да іх галоўных дзеючых асоб…*

*60—80-я гады XX стагоддзя. З усіх куткоў свету — з Рыма і Токіо, Мехіка і Мюнхена, Манрэаля і Будапешта — штогод, а іншым разам і часцей, прыходзілі да нас звесткі аб бліскучых выступленнях на самых буйных міжнародных спаборніцтвах каманд савецкіх фехтавальшчыкаў і ў іх радах — прадстаўнікоў Беларусі. Ужо на першай Алімпіядзе з удзелам зборнай СССР — у 1952 годзе ў Хельсінкі — выйшлі на сцежку бою беларусы Герман Бокун і Юрый Дзексбах. Узнагарод, на жаль, не заваявалі, аднак каштоўны вопыт і для сябе, і для сваіх паслядоўнікаў набылі.*

*Не было медалёў у беларускіх «мушкецёраў» і на XVI Алімпійскіх гульнях 1956 года ў Мельбурне… А вось ужо ў 1960-м, на XVII Гульнях у Рыме, першую залатую ўзнагароду атрымала мінчанка Таццяна Пятрэнка (Самусенка), а яе таварышы па беларускай школе фехтавання Аляксандр Паўлоўскі і Арнольд Чарнушэвіч былі ўзнагароджаны бронзавымі медалямі.*

*Гэта быў самы сапраўдны прарыў беларускіх майстроў клінка на міжнародную спартыўную арэну. Мяркуйце самі. У наступным 1961 годзе той жа Арнольд Чарнушэвіч і Дзіяна Ніканчыкава становяцца пераможцамі сусветнага чэмпіянату. У 1963-м — трыумф-бенефіс Таццяны Самусенка: яна — чэмпіёнка свету і ўладальніца галоўнага прэстыжнага прыза фехтавальшчыкаў «Сярэбраная рапіра». Усяго ж на працягу сваёй доўгай і бліскучай спартыўнай кар’еры Таццяна Дзмітрыеўна стане трохразовай алімпійскай чэмпіёнкай, столькі ж заваюе залатых узнагарод на чэмпіянатах свету, выйграе не адзін прэстыжны прыз і кубак…*

*Яшчэ далей пойдзе яе сяброўка па зборнай Савецкага Саюза, таксама мінчанка, Алена Новікава (Бялова). У яе*

*спартыўную калекцыю трапяць чатыры залатыя алімпійскія ўзнагароды, і восем (!) залатых медалёў пераможцы сусветных першынстваў.*

*Акрамя гэтых «залатых» дзяўчат, трохразовым алімпійскім чэмпіёнам быў наш шабліст Віктар Сідзяк. Чэмпіёнам, двойчы сярэбраным і двойчы бронзавым прызёрам Алімпійскіх гульняў стане рапірыст Аляксандр Раманькоў: дададзім яшчэ, што дзесяць (!) залатых узнагарод у асабістых і камандных першынствах ён атрымаў на сусветных чэмпіянатах. Уладальнікамі залатых алімпійскіх медалёў у камандных паядынках станавіліся нашы фехтавальшчыкі Мікалай Алёхін і Барыс Карэцкі; алімпійскае серабро і бронзу заваёўвалі таксама Аляксей Нíканчыкаў, Аляксандр Паўлоўскі, Юрый Смаляноў, Арнольд Чарнушэвіч, Ігар Валетаў, Аляксандр Коцешаў, Ірына Ушакова, Уладзімір Лапіцкі…*

*Вось і атрымліваецца: амаль што тры дзесяцігоддзі (!) імёны і справы выхаванцаў беларускай школы фехтавання на рапірах, шаблях і шпагах былі ў эпіцэнтры сусветнага спартыўнага жыцця. Іхнім майстэрствам, віртуознай тэхнікай, мужнасцю, смеласцю і высакароднасцю (такт-так, і высакароднасцю таксама: без яе фехтаванне ніколі б не было рыцарскім відам спартыўнай барацьбы на шпагах, шаблях, рапірах!) шчыра і непадробна захапляліся тысячы і мільёны прыхільнікаў, а такія тэмпераментныя і ведаючыя падрабязнасці мушкецёрскай доблесці, як французы і італьянцы, наогул прыходзілі ў сапраўднае захапленне, назіраючы за паядынкамі з удзелам тых жа Таццяны Самусенка, Алены Бяловай, Віктара Сідзяка, Аляксея Нíканчыкава, Аляксандра Раманькова… Дзіва, што менавіта яны, «нейкія» там беларусы, першымі парушылі панаванне спартсменаў Францыі і Італіі на алімпійскай, сусветнай і еўрапейскай арэнах!*

*Побач з імёнамі гэтых і іншых вялікіх майстроў сталёвага клінка нязменна называліся і імёны выхавацеляў таленавітых рыцараў, а найперш — кіраўнікоў нашай фехтавальнай школы: Германа Мацвеевіча і Ларысы Пятроўны Бокунаў, Аляксандра Леанідавіча Феля і Эрнэста Уладзіміравіча Асіеўскага.*



## *Таццяна Самусенка:*

## МУШКЕЦЁР — СПРАВА... ЖАНОЧАЯ

*Таццяна Самусенка (дзявочае прозвішча Пятрэнка) нарадзілася 2 лютага 1938 года ў Астрашыцкім Гарадку на Міншчыне. Заслужаны майстар спорту СССР. Трохразовая алімпійская чэмпіёнка: пераможца XVII Гульняў у Рыме (1960), XIX Алімпіяды ў Мехіка (1968) і XX Гульняў у Мюнхене (1972) па фехтаванню ў камандных спаборніцтвах. Сярэбраны прызёр XVIII Алімпіяды ў Токіо (1964) у складзе зборнай Савецкага Саюза. Чэмпіёнка свету 1966 года ў асабістым першынстве. Чэмпіёнка свету 1963, 1965, 1966, 1970 гадоў у камандных спаборніцтвах. Уладальніца сярэбраных узнагарод чэмпіянатаў свету 1959, 1962, 1967, 1969 гадоў. Уладальніца каманднага Кубка Еўропы 1967 і 1969 гадоў. Сярэбраны прызёр Кубка кантынента 1968 года. Васьміразовая чэмпіёнка СССР. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры і спорту БССР. Узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі «За працоўную адзнаку» і «За працоўную доблесць». Першы трэнер — Ларыса Бокун.*

…Першае ўражанне ад наведвання кватэры Таццяны Дзмітрыеўны было адно: не квартэра, а сапраўдны музей. Залатыя, сярэбраныя і бронзавыя медалі алімпійскіх, сусветных і еўрапейскіх форумаў; кубкі, прызы і самыя неверагодныя па афармленню падарункі; іншыя, зусім не зразумелыя простаму смертнаму, узнагароды… Памятаю, Таццяна Самусенка перахапіла маё зусім юнае яшчэ здзіўленне (а было гэта так далёка — у 1971-м!) і, што называецца, апусціла мяне на зямлю, маўляў, няўжо вы такіх прызоў і ўзнагарод не бачылі і наогул — што тут такога — у маім спартыўным жыцці-быцці?!

Потым ужо, падчас нашых наступных шматлікіх сустрэч і гутарак, Таццяна Дзмітрыеўна неяк раскрылася, і мы знайшлі з ёй, што называецца, агульную мову. Згадваю: аднаго разу нават Аляксандр Васільевіч Мядзведзь нашай гутарцы пазайздросціў, маўляў, няўжо пра фехтаванне можна так шмат гаварыць, думаць, спрачацца…

Што ні кажы: мудрымі і надзвычай лагоднымі і пакладзістымі былі яны, нашы першыя, а значыць, самыя дарагія і каштоўныя алімпійскія чэмпіёны, пераможцы сусветных і еўрапейскіх чэмпіянатаў і першынстваў…

Таццяна Самусенка — самая першая і самая галоўная, самая адметная сярод такіх!

Яна ніколі і нішто не ўтойвала, казала праўду і пра тое, што і як было, і пра тое, чым тая ці іншая падзея неяк адзывалася, — як тады, у сямідзесятыя гады мінулага ўжо XX стагоддзя, казалі, адрыгалася… Да прыкладу, Таццяна Дзмітрыеўна амаль што адзіная была супраць байкоту савецкімі ўладамі Алімпійскіх гульняў у 1984 годзе, маўляў, ну і што, каму гэта пайшло на карысць?!..

…Затое пра сваё дзіцячае разуменне спорту яна гатова была расказваць доўга і з надзвычай вялікім захапленнем.

— Добра памятаю, — чую я з даўніх дыктафонных запісаў сакавіты і такі задорны голас Таццяны Дзмітрыеўны, — як у 1952 годзе ў 24-ю мінскую сярэднюю школу, дзе я вучылася, прыйшлі трэнер па фехтаванню Ларыса Пятроўна Бокун і яе муж — неаднаразовы чэмпіён Беларусі, удзельнік Алімпійскіх гульняў Герман Мацвеевіч Бокун. У самым вялікім класе сабралася, лічыце, ці не ўся школа, мы так уважліва і з неверагодна вялікім захапленнем выслухалі тады гасцей. Аповяды ж фехтавальшчыкаў, іхнія паказальныя паядынкі выклікалі ў школе надзвычай вялікі ажыятаж, і ў фехтаванне пайшлі лепшыя з лепшых выхаванцаў сярэдняй школы № 24 сталіцы Беларусі...

Многіх вучняў захапілі тады меладычны звон клінкоў і беласнежныя фехтавальныя касцюмы. Тэмперамент жа і імклівасць рухаў наогул сталі паўсядзённымі складнікамі жыцця школьнікаў. Секцыя фехтавання, што адкрылася ў школе № 24, стала іхняй марай і штодзённым памкненнем.

За два гады заняткаў пад кіраўніцтвам Ларысы Бокун лепшая з яе вучаніц Таня Пятрэнка дасягнула неверагодных вышынь. Яна выйграла некалькі турніраў сярод школьніц-ад-

нагодак, а ў 1954-м наогул заваявала ці не самую пачэсную ўзнагароду сярод сяброўак ва ўсім Савецкім Саюзе — залаты медаль чэмпіёнкі СССР сярод дзяўчат.

— А ці былі іншыя мары? — спытаўся я аднойчы ў Таццяны Дзмітрыеўны.

— А як жа! — адказала яна. — І гімнасткай марыла я быць, і плыўчыхай, і нават канькабежкай.

І ў тым жа 1954-м яна… пакінула фехтавальную секцыю.

— А перамог канькабежны спорт, — згадвала пазней Таццяна. — Тады ў Мінску быў сапраўдны бум на канькі. Захапіў ён і мяне…

Вяртанню ў фехтаванне паспрыяў выпадак. У 1957 годзе на стадыёне «Дынама» ў беларускай сталіцы, дзе трэніравалася Таня Пятрэнка, зімой нечакана растала лёдавая канькабежная дарожка. Тады і сустрэлася яна з Германам Бокунам, які толькі што пакінуў вялікі спорт як спартсмен і працаваў ужо трэнерам па фехтаванню.

— Не той справай займаешся ты, Танечка, — спыніў яе Герман Мацвеевіч. — Тваё месца ў нас на фехтавальнай дарожцы…

Запярэчыць, непагадзіцца з Германам Мацвеевічам Таццяна тады не змагла. Яна вярнулася ў фехтаванне — на гэты раз назаўсёды!

Трэнер у гэтым відзе спорту — фігура асаблівая. Ён перш за ўсё партнёр вучня. Яны заўсёды побач — там, на фехтавальнай дарожцы. Грудзі трэнера першымі прымаюць сотні і нават тысячы ўколаў вучнёўскага фехтавальнага клінка. «Так што настаўніку-серадняўчку ў нашым відзе рабіць проста няма чаго», — сказала мне аднойчы Таццяна Дзмітрыеўна.

Што ж, насамрэч, майстэрства словамі перадаць няпроста. Ім трэба авалодаць на практыцы, убачыць і пераняць… І толькі ўлюбёны ў сваю справу чалавек, markNo рознабакова падрыхтаваны спецыяліст здольны на практыцы навучыць і падрыхтаваць сабе замену.

— Імі і былі ў наш час Іван Манаенка і Леў Кузняцоў, Марк Мідлер і Герман Свешнікаў — у зборнай Савецкага Саюза, такім чалавекам быў у нас у Беларусі ён — Герман Мацвеевіч Бокун, — шматкрат адзначала ў гутарках са мной Таццяна Самусенка.

Штодзённыя трэніроўкі, урокі майстэрства, праведзеныя пад кіраўніцтвам Германа Бокуна, літаральна адразу ж прынеслі вынікі. Спачатку Таня выйграла маладзёжнае першын-

ство Беларусі, потым — чэмпіянат Савецкага Саюза сярод аднагодкаў. У 1958 годзе стала пятай на чэмпіянаце свету сярод моладзі, а ўжо праз некалькі месяцаў — у 1959-м — заваявала бронзавую ўзнагароду на сусветным першынстве ў Будапешце, на гэты раз — сярод дарослых…

Ёй было тады ўсяго толькі дваццаць…

Месца ў нацыянальнай зборнай СССР было гарантавана. А першым сур'ёзным выпрабаваннем для яе стала выступленне на XVII Алімпійскіх гульнях у Рыме ў 1960 годзе.

Яна трапіла ў самую што ні ёсць зорную каманду — зборную Савецкага Саюза. Трапіла і заняла ў ёй такое ж пачэснае, ганаровае, а разам з тым і надзвычай адказнае месца лідэра побач з такімі славутымі фехтавальшчыцамі, як Галіна Гарохава, Аляксандра Забеліна і Валянціна Растворава. Утварыўся квартэт, які пераможнымі крокамі трыумфальна прайшоў па спартыўных арэнах дзесяткаў краін свету.

Тады ж, у алімпійскім Рыме, гэты квартэт не пакінуў саперніцам аніякіх шанцаў на перамогу. У фінальных баях супраць такой жа зорнай каманды Венгрыі стопрацэнтны вынік змагла паказаць толькі яна — Таццяна Самусенка, выйграўшы свае чатыры паядынкі з чатырох. З лікам 4:3 адолела яна Дэмёлкі, 4:1 — Ковач, 3:0 — Рэйтэ, якія, як потым высветлілася, наогул усур'ёз не прымалі дэбютантку савецкай зборнай.

— Той зорны, як вы кажаце, калектыў праіснаваў практычна без змен яшчэ 12 гадоў, — расказвала мне потым Таццяна Дзмітрыеўна. — І не проста праіснаваў, а запісаў на свой рахунак некалькі дзесяткаў бліскучых перамог!

…Найбольшае ўражанне і на спецыялістаў, і на мільёны аматараў фехтавання зрабілі паядынкі савецкіх майстроў клінка ў алімпійскім Мюнхене ў 1972 годзе. Тыя ж тры спартсменкі з чатырох, толькі пакінуўшую вялікі спорт Валянціну Растворава замяніла яшчэ адна выхаванка беларускай фехтавальнай школы — Алена Бялова-Новікава. Тыя ж і саперніцы ў фінальных паядынках за алімпійскае золата — фехтавальшчыцы са зборнай Венгрыі.

На дарожцы два квартэты — восем жанчын у беласнежных касцюмах. Усе сур'ёзныя, сканцэнтраваныя і настроеныя толькі на паядынкі. Ускідваюцца ўверх рапіры — спартсменкі вітаюць саперніц і гледачоў.

Невысокі памост пакідаюць шэсць фехтавальшчыц. На дарожцы застаюцца дзве: права пачаць сустрэчу прадастаўляецца Таццяне Самусенка і Марыі Сальнокі.

Да таго паядынку венгерская рапірыстка яшчэ не дабівалася значных поспехаў на міжнароднай арэне. А ў душы ж кожнага спартсмена абавязкова тоіцца такое жаданне. Сальнокі — не выключэнне. Яна добра ведала, хто ёй супрацьстаіць: заслужаны майстар спорту СССР, пераможца Алімпіяд 1960 і 1968 гадоў у камандных спаборніцтвах Таццяна Самусенка.

Не, Марыя Сальнокі зусім не баялася саперніцы: не ў характары гэта венгерскай спартсменкі. Разлічваючы на сваю маладосць і агрэсіўнасць, яна проста асцярожнічала, чакала свайго імгнення для атакі. Чатыры з пяці адведзеных на паядынак мінут так і не хапіла саперніцам хоць бы на адзін выніковы ўкол. Пайшла апошняя мінута. Беларуска не вытрымлівае (вось вам і вопыт, і спрактыкаванасць!) і кідаецца ў атаку. Прамахнулася і сама атрымала ўкол. Аднак Таццяна імкнецца трымацца спакойна, па-свойму «заводзіць» Марыю. І раптам… атрымлівае другі ўкол. Да канца паядынка Самусенка паспела адыграць толькі адзін…

І наступны паядынак выйгралі саперніцы савецкай зборнай: Бобіш перамагла Аляксандру Забеліну. Доўгачаканая перамога прыйшла толькі ў трэцяй сустрэчы: чэмпіёнку свету і Алімпійскіх гульняў Ільдыку Рэйтэ адалела-такі Галіна Гарохава. Аднак два наступныя баі зноў за венгерскімі фехтавальшчыцамі: Алена Бялова-Новікава і Аляксандра Забеліна ўступілі адпаведна Шварцэнберген і Сальнокі.

— Што мы адчувалі ў той момант? — перапытала мяне Таццяна Дзмітрыеўна. — Вядома ж, знайшліся «аптымісты», якія палічылі, што нашы саперніцы зрабілі сваю справу. Я ж была ўпэўнена: мы пераможам! Тым саставам, якім мы выступалі на Алімпіядзе-72, можна было выйграць нават у зборнай усяго свету… Мяркуйце самі, усе мы былі з 10—20-гадовым спартыўным стажам, прайгравалі ў розны час і больш буйна, чым 1:4, і, урэшце, перамагалі.

Больш чым самі спартсменкі, хваляваліся і перажывалі іхнія трэнеры. Ларыса Бокун наогул адвярнулася ад дарожкі, Леў Сайчук раз за разам ускокваў з месца і тут жа зноў садзіўся на стул, Іван Манаенка апусціў галаву ледзь ці не да падлогі, а Герман Бокун штосьці мармытаў сам сабе…

А Таццяна Самусенка выходзіць на дарожку і перад тым, як надзець маску, пасылае балельшчыкам і саперніцы сваю непаўторную… ўсмешку. Быццам усё нармальна, нібы ўсё так і павінна быць… Самаўпэўненасць? Не!

Тры атакі запар праводзіць беларуска і наносіць саперніцы тры ўколы. Чацвёрты, проста неверагодны рух рапірай — і лік ужо 4:0! Ільдыка Рэйтэ — такі загартаваны фехтавальнымі паядынкамі баец — у роспачы зрывае са свайго твару маску…

Савецкая каманда перахоплівае ініцыятыву. Яна — у няспынным наступленні. З астатніх васьмі баёў Аляксандра Забеліна, Алена Бялова-Новікава, Галіна Гарохава і Таццяна Самусенка выйграюць сем. Агульны лік — 9:5. Алімпійскае золата 1972 года зноў атрымала савецкую прапіску.

Гэта былі чацвёртыя Алімпійскія гульні ў яе спартыўнай біяграфіі. У саставе савецкай зборнай Таццяна Самусенка тройчы ўзнімалася на іх на вышэйшую прыступку п'едэстала гонару, а адзін раз станавілася сярэбраным прызёрам.

Чатыры Алімпіяды ў спартыўнай біяграфіі сустрэнеш далёка не ў кожнага, нават слыннага і непаўторнага спартсмена…

Пакінуўшы фехтавальную дарожку ў 34-гадовым узросце, Таццяна Дзмітрыеўна не здрадзіла любімаму занятку. Спачатку працавала з дзецьмі, перадаючы ім свой багаты і непараўнальна каштоўны вопыт. Потым была прызначана дырэктарам спецыялізаванай школы па фехтаванню. У 1994-м стварыла і ўзначаліла Беларускі рэспубліканскі фехтавальны клуб «Залаты клінок», праз год стала ініцыятарам правядзення ў Мінску міжнароднага турніра па фехтаванню імя Германа Мацвеевіча Бокуна, свайго любімага настаўніка і педагога.



## *Алена Бялова:*

## ТЫТУЛ — ЗА ТЫТУЛАМ, ЗВАННЕ — ЗА ЗВАННЕМ…

*Алена Бялова нарадзілася 28 ліпеня 1947 года ў горадзе Савецкая Гавань Хабараўскага края. Заслужаны майстар спорту СССР. Чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка: пераможца XIX Гульняў у Мехіка (1968) у асабістым першынстве і камандных спаборніцтвах, XX Алімпіяды ў Мюнхене (1972) і XXI Гульняў у Манрэалі (1976) па фехтаванню ў камандных спаборніцтвах. Сярэбраны прызёр XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) у камандных спаборніцтвах, бронзавы — XXI Гульняў у Манрэалі (1976) у асабістым заліку. Васьміразовая чэмпіёнка свету — 1969, 1970, 1971, 1974, 1975, 1977, 1978, 1979 гадоў, адзінаццаціразовая пераможца Кубка Еўропы — 1968—1978 гадоў у асабістым першынстве і камандных спаборніцтвах. Трохразовая пераможца міжнароднага турніру «Сярэбраная рапіра» (Італія), двухразовая — спаборніцтваў імя Жанці (Францыя). Чатырохразовая пераможца турніру «Сямі нацый» (Германія). Чэмпіёнка Савецкага Саюза 1968 і 1980 гадоў у асабістым першынстве і камандных спаборніцтвах. Пераможца Кубка СССР 1969—1978 гадоў. Узнагароджана ордэнам Дружбы народаў і двума — «Знак Пашаны», ордэнам Айчыны III ступені, а таксама Сярэбраным ордэнам Міжнароднага Алімпійскага камітэта. Занесена ў Кнігу рэкордаў Гінеса як рэкардсменка па колькасці заваяваных алімпійскіх узнагарод па фехтаванню на рапірах сярод жанчын. Уладальніца трафея «За алімпійскія ідэалы», заснаванага да стагоддзя МАК. Заслужаны трэнер Беларусі. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры і спорту БССР. Першы трэнер — Герман Бокун.*

Сустрэча Алены Бяловай з прэзідэнтам Міжнароднага алімпійскага камітэта Жакам Рагэ стала гістарычнай ужо праз некалькі мінут пасля яе заканчэння. Я там не быў, але чуў ад вельмі дасведчаных і кампетэнтных асоб, таму і хачу ім верыць… Верыць, каб перадаць і зафіксаваць для той жа беларускай спартыўнай

гісторыі гэты незвычайны і неардынарны факт. Дык вось: калі пазнаёміўся з нашай славутай фехтавальшчыцай, кіраўнік міжнароднага спартыўнага руху сказаў: «У вас адной больш алімпійскіх медалёў, чым заваявала ўся мая Бельгія…»

…У кволыя і такія няўмелыя дзявочыя рукі яна ўзяла рапіру ў няпоўныя 15 гадоў. А адбылося гэта зусім выпадкова…

Тады яна вучылася ў восьмым класе і з вялікім захапленнем, нават апантана займалася баскетболам. На пляцоўцы, здавалася, гатова была праводзіць цэлы дзень, раз за разам змагаючыся з сяброўкамі па секцыі, а часцяком нават з хлопцамі за аранжавы баскетбольны мяч. Умела Лена і фінт зрабіць, і здалёку надзвычай дакладна па кальцу кінуць… Адным словам, у баскетболе толк ведала добра.

Баскетбольны трэнер Георгій Грудо верыў у яе патэнцыял. Інакш і не падтрымліваў бы, і не раіў бы ў «другі бок», на іншыя, значыцца, віды спорту, нават і касавурыцца...

Аднойчы старэйшая сястра Ларыса запрасіла Алёнку на фехтавальныя спаборніцтвы. Вырашыла паказаць апошняй, што свет на баскетболе зусім не сышоўся клінам, а ёсць у ім і куды больш прыгожыя віды спорту… Беласнежныя касцюмы, таямнічыя фехтавальныя маскі і, вядома ж, сама рапіра — ну не маглі яны і насамрэч не заінтрыгаваць дзяўчынку. «А ў мяне атрымаецца?» — толькі і паспела Лена задаць сястры пытанне, бо тая прадстаўляла ўжо малую свайму трэнеру…

— Сёстры? Падобныя, вельмі нават падобныя… Няўжо спадабалася табе ў нас? — Ларыса Бокун не была б Ларысай Бокун, калі б адразу, з першага позірку і адной толькі фразай не авалодала б дзіцячай душой Новікавай-малодшай. — Прыходзь заўтра з Ларысай і ты…

Спачатку Лена вырашыла… схітраваць: хадзіла (і паспявала!) і на баскетбол, і на фехтаванне. Плюс музыка, танцы, спевы… Пяць (!) захапленняў на адну дзіцячую душу было зашмат, і бацькі ўсё часцей і часцей казалі ёй: «Спыніся, азірніся і зрабі нарэшце выбар…» І яна той выбар зрабіла… напісаўшы Георгію Грудо да слёз мілае пісьмо-запіску: «Паважаны Георгій Міхайлавіч! Прабачце, але я буду займацца толькі фехтаваннем…»

Праз тры месяцы пасля заняткаў фехтаваннем Ларыса і Герман Бокуны павезлі мінскіх школьнікаў на турнір у Львоў. Прайграўшы толькі адзін, праўда, рашаючы, паядынак, Лена Новікава заняла тады ганаровае другое месца. Герман Мацвеевіч тады ж і выгукнуў: «Быць табе, дзяўчынка, алімпійскай чэмпіёнкай!»

Ці не ў такіх выпадках кажуць: «нібы ў ваду глядзеў»?!

Аднойчы, калі журналісты папрасілі Ларысу Пятроўну Бокун расказаць пра спартыўныя «сакрэты» Алены, тая сказала наступнае: «Яе самым першым, а потым і наступным перамогам спрыялі Богам дадзеныя талент і працавітасць. Спачатку Лене не хапала тэхнікі, але яна з поспехам кампенсавала гэта хуткасцю і вокамгненнай рэакцыяй, набытымі падчас заняткаў баскетболам. Пра яе апантанасць і казаць шмат не трэба… Кожны выхад на фехтавальную дарожку для яе — самы важны і рашаючы. Выйграе яна — плача ад радасці, прайграе — зноў жа слёзы: ад гора!..»

І толькі праз некалькі гадоў навучылася яна спакойна і больш-менш стрымана аналізаваць свае дзеянні, трымацца ў баях упэўнена і рашуча.

Ужо праз чатыры гады пасля першага наведвання фехтавальнай секцыі яна стала чэмпіёнкай Беларусі. У наступным, 1967 годзе Лена Новікава (Бяловай яна стане пазней) выйграе сярэбраны медаль на спаборніцтвах па праграме Спартакіяды народаў СССР і, такім чынам, па праву зойме месца ў радах нацыянальнай зборнай нашай краіны. Той самай зборнай, у якой, як кажуць, быў тады самы што ні ёсць зорны састаў: Галіна Гарохава, Аляксандра Забеліна, Валянціна Растворава, Таццяна Самусенка ззялі на еўрапейскім і сусветным спартыўным гарызонце ва ўсёй велічы і прыгажосці.

І тым не менш яе сустрэлі і прынялі як сваю. Кіраўнікі і спецыялісты фехтавання выдатна разумелі: рана ці позна, але прыйдзе час змены пакаленняў, і зборнай Савецкага Саюза спатрэбяцца свежыя сілы. Менавіта ў ёй, маладой беларускай спартсменцы Алене Новікавай, яны і ўбачылі заўтрашні дзень савецкага фехтавання.

Алімпійскі 1968 год у яе спартыўнай біяграфіі стаў, безумоўна, самым багатым і на турніры, і, што больш важна, на бліскучыя перамогі на іх. У сакавіку маладая беларуская фехтавальшчыца выйграла надзвычай прэстыжныя міжнародныя спаборніцтвы ў Італіі — «Кубак Марціні». У красавіку заваявала Кубак Беларусі. У маі спартыўны шлях зноў прывёў у Італію, на гэты раз на розыгрыш «Сярэбранай рапіры» — спаборніцтвы, якія цаніліся нават вышэй, чым сусветнае першынство. У жніўні — апошні з турніраў-«гігантаў» — чэмпіянат Савецкага Саюза… Складвалася ўражанне, што Алена проста не можа спыніцца, раз за разам звяргаючы з фехтавальнай дарожкі адзін аўтарытэт за другім. Прызы і вышэйшыя ўзнагароды яна везла ў Мінск, вобразна кажучы, чамаданамі…

Толькі гэта была, як кажуць музыкі, уверцюра…

Восенню таго ж 1968-га на самым галоўным турніры чатырохгоддзя, на XIX Алімпійскіх гульнях у Мехіка, дэбютантка савецкай зборнай зноў — у пяты раз запар за год! — кінула выклік усяму жаночаму фехтавальнаму свету. І не проста кінула выклік, але і заваявала абедзьве залатыя ўзнагароды і ў асабістым, і ў камандным заліках.

…І былі яшчэ два залатыя алімпійскія медалі — за перамогі ў камандных паядынках на Гульнях 1972 і 1976 гадоў адпаведна ў Мюнхене і Манрэалі. І калі на Алімпіядзе-68 яе вялі за сабой згаданыя вышэй Аляксандра Забеліна, Галіна Гарохава і Таццяна Самусенка, дык на Гульнях 1972 і 1976 гадоў бясспрэчным і аўтарытэтным лідэрам зборнай Савецкага Саюза ўжо па праву была яна — Алена Бялова!

Толькі адзін пералік прозвішчаў самых яркіх зорак сусветнага жаночага фехтавання, якія так і не знайшлі контраргументаў у паядынках супраць Алены Дзмітрыеўны, сведчыць: яна насамрэч была проста неператможнай. Сяброўка па зборнай Савецкага Саюза Гарохава, француженка Гапэ, Рэйто з Венгрыі, шведка Пальм і Пілер з ФРГ не ўстаялі супраць яе адной у асабістых паядынках у далёкім Мехіка… На Алімпіядзе ў Манрэалі, выступаючы ў камандных спаборніцтвах, лідэр зборнай СССР правяла супраць мацнейшых прадстаўніц каманд Венгрыі, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і Францыі 13 баёў і ва ўсіх атрымала перамогі! Прычым у трох фінальных сустрэчах супраць прадстаўніц каманды Венгрыі Алена Бялова прапусціла ўсяго толькі пяць уколаў. Гэта была свайго роду расплата за трохі няўдалае выступленне нашай спартсменкі напярэдадні — у асабістым алімпійскім турніры. Апынуўшыся сярод такіх саперніц, як Ханіш (ФРГ), Каліна (Італія), Дзюмон (Францыя), венгеркі Бабіш і Шварцэнбергер, тыя здолелі-такі «ў складчыну» адцясніць нашу фехтавальшчыцу на бронзавую прыступку п'едэстала гонару.

Роўна 20 гадоў (!) правяла яна ў вялікім спорце як спартсменка. На чатырох Алімпіядах (!) атрымала чатыры залатыя і па адной сярэбранай і бронзавай узнагародзе. Калі ж Яго Вялікасць Спорт сказаў ёй «Бывай!», з дзеючых спартсменак Алена Дзмітрыеўна перайшла ў спартыўныя педагогі. Скончыўшы Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага, а потым — аспірантуру, яшчэ ў 1978 годзе, падчас трыумфальных выступленняў на дарожцы, яна бліскуча абараніла дысертацыю на атрыманне вучонай ступені кандыдата педагагічных навук.



## *Віктар Сідзяк:*

## САМЫ СУРОВЫ З МУШКЕЦЁРАЎ

*Віктар Сідзяк нарадзіўся 24 лістапада 1943 года ў горадзе Анжэра-Суджэнск Кемераўскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чатырохразовы алімпійскі чэмпіён: пераможца XIX Гульняў у Мехіка (1968) у камандных спаборніцтвах, XX Алімпіяды ў Мюнхене (1972) у асабістым першынстве, XXI Гульняў у Манрэалі (1976) і XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) па фехтаванню ў камандных спаборніцтвах. Сярэбраны прызёр XX Алімпійскіх гульняў у камандных паядынках, бронзавы — XXI Алімпіяды ў асабістым першынстве. Адзінаццаціразовы чэмпіён свету — 1969—1980 гадоў. Трохразовы ўладальнік Кубка свету — 1969, 1972 і 1973 гадоў. Пятнаццаціразовы ўладальнік Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў. Сяміразовы чэмпіён Савецкага Саюза ў камандным заліку і двухразовы — у асабістым першынстве. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі «За працоўную адзнаку» і «За працоўную доблесць». Першы трэнер — Генадзь Галіакбараў.*

Лепшым з лепшых беларускіх алімпійцаў для мяне быў, ёсць і застанецца ён — фехтавальшчык-мушкецёр Віктар Аляксандравіч Сідзяк! Спытаць жа ў яго я заўсёды хацеў, ды так і не адважыўся, пра адно і тое ж: ці не крыўдуе ён на свой лёс?

Лёс сапраўднага… няўдачніка.

Віктар Аляксандравіч Сідзяк — чатырохразовы пераможца Алімпійскіх гульняў! — і раптам няўдачнік?

Так, няўдачнік!

Паводле патэнцыяльных магчымасцей ён мог (і павінен быў!) выйграць, як мінімум, шэсць, а то і болей залатых медалёў алімпійскай чаканкі. І гэта, дарэчы, не толькі маё, журналісцка-пісьменніцкае меркаванне-фантазія, але і

даволі абгрунтаваны псіхалагічна-медыцынскі прагноз-заключэнне, зробленае самымі вялікімі спартыўна-медыцынскімі экспертамі таго часу — канца сямідзесятых — пачатку васьмідзесятых гадоў.

Выйграў жа Віктар тое, што, як кажуць, было наканавана Усявышнім…

Але ж ці мала?!

…Колькі эпітэтаў, метафар і параўнанняў ужывалі ў дачыненні да яго мае сябры-журналісты! Не сумняваюся, што самы трапны і непараўнальна дакладны з іх — «Мушкецёр!» — таксама ўпершыню да фехтавальшчыкаў быў ужыты менавіта ў адносінах да яго — Віктара Сідзяка!

…Яго дзяцінства прайшло ў Данецку. Падчас вучобы ў шостым класе адно захапленне мяняў на другое: спачатку быў бокс, потым — футбол. Апошні падабаўся больш за іншыя віды спорту, і асабліва — гульня ў варотах. Чуў Віця што-кольвечы пра пасляваенную легенду савецкага футбола — выдатнага варатара Аляксея Хоміча, слава пра якога найбольш загрымела пасля турнэ маскоўскіх дынамаўцаў па Вялікабрытаніі, і хлопчыку так хацелася быць падобным на яго!

Аднак аднаго разу школьны сябрук Сідзяка Валік Свішчанка настаяў наведаць з ім секцыю фехтавання, што дзейнічала ў самым цэнтры Данецка. «Што ж, пайшлі, пагляджу, можа і насамрэч цікава! — падумаў Віця. — Толькі ад футбола ты мяне не адлучыш…» Аднак пасля таго як спачатку ўбачыў фехтавальную амуніцыю, а пасля — сам паядынак з удзелам таго ж Валіка, пачухаў патыліцу, задумаўся… А тут і трэнер Свішчанкі падышоў:

— Паназіраў я за табой і хачу сказаць адно: тваё месца побач з Валікам, — толькі і сказаў тады Генадзь Іванавіч Галіакбараў. — Прыходзь, не пашкадуеш!

А Свішчанка, падбегшы да сябра, накінуўся на таго, бы на роднага брата, маўляў, пагаджайся, Віцёк!

Ну хіба можна было ўстаяць, адмовіцца. Махнуў Сідзяк рукой і на месца ў футбольных варотах, і на сваю дваровую каманду…

І не пашкадаваў потым аб тым рашэнні аніводнага разу!

Скончыўшы сем класаў, у няпоўныя 15 гадоў, Віктар занёс заяву аб пераходзе ў вячэрнюю школу. «Буду працаваць і вучыцца», — сказаў бацькам. Тата — галоўны інжынер аднаго з данецкіх прадпрыемстваў — не пярэчыў, мама ж, пусціўшы

слязу: «Ну які ж з цябе працаўнік?!» — у глыбіні душы таксама пагадзілася… Бачыла і разумела: юнак шукае сябе ў жыцці.

На Данецкім энергетычным заводзе работу яму далі не вельмі цяжкую і складаную, так што спраўляўся Віктар са сваімі абавязкамі даволі паспяхова. Праўда, вельмі мала часу заставалася на трэніроўкі… А тут яшчэ камандзіроўкі пачалі блытаць планы. Распарадак дня пачаў парушацца, ды і Генадзь Галіакбараў раз за разам быў незадаволены. Што было рабіць?

— З горам папалам дацягнуў да выпускнога за дзесяцігодку, — згадваў пазней Сідзяк. — Сабраў дакументы і аднёс іх у Данецкі політэхнічны інстытут на аддзяленне аўтаматыкі і тэлемеханікі.

Думаў, ну, нарэшце, змагу спаўна аддацца трэніроўкам і выступленням на турнірах… Ды дзе там: часу стала яшчэ менш. І ўсё ж па-ранейшаму хадзіў на заняткі фехтавальнай секцыі, паглыбляючы веды, удасканальваючы майстэрства. Верыў: ягоны час прыйдзе!

На чэмпіянаце Украіны па фехтаванню, які праходзіў у Данецку, лёс звёў 18-гадовага Віктара Сідзяка з Аляксандрам Фелем — спартсменам, што заканчваў ужо свой спартыўны шлях і меў намер заняцца трэнерскай справай. На календары быў 1961 год.

— Не памятаю ўжо, што канкрэтна сказалі мы тады адзін аднаму, аднак агульную мову знайшлі літаральна адразу, — казаў потым Віктар. — Ударылі, што называецца, па руках і вырашылі працаваць далей разам, у адной вупражы…

Вось так і ўтварыўся самы сапраўдны тандэм — вучань і настаўнік, тандэм, якому лёсам было наканавана крочыць далей па спартыўных арэнах свету ні многа ні мала — роўна два дзесяцігоддзі!

Адначасова з першымі спартыўнымі набыткамі жыццё падкідвала Віктару Сідзяку і ягонаму новаму настаўніку Аляксандру Фелю не менш складаныя і напружаныя бытавыя выпрабаванні. Праз год-другі само жыццё перакідвае Феля ў Львоў, і Сідзяк, не раздумваючы, едзе туды ж, за трэнерам. Данецкі палітэхнічны быў заменены на Львоўскі фізкультурны, аднак не гэта непакоіла-хвалявала тады дуэт спартсмен—трэнер: яны былі ўжо ў штаце нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза, якой і прадстаяла вызначыцца з саставам на XIX Алімпійскія гульні 1968 года.

…Зборная савецкіх фехтавальшчыкаў-шаблістаў тады ззяла на ўвесь спартыўны свет. Тым не менш, не давалі ветэра-

нам-«зоркам» самага сапраўднага сну і спакою падрастаючыя «падзорнікі»: спачатку — Уладзімір Назлымаў і Віктар Вінакураў, потым — Мікалай Бурцаў і Віктар Кравапускаў… Пабач з іх прозвішчамі спецыялісты і трэнеры неўзабаве будуць вымушаны паставіць і прозвішча Віктара Сідзяка, пры гэтым, праўда, вельмі доўга будуць думаць-разважаць: а дзе ж, пасля каго паставіць ва ўяўным пакуль што табелі аб рангах гэтага няўрымслівага, здольнага, але ж і вельмі амбіцыйнага шабліста…

На тое месца яго з цягам часу паставіць само спартыўнае Жыццё!

На Алімпіяду 1968 года, калі казаць шчыра, яго ўзялі авансам. Літаральна з сярэдзіны шасцідзесятых, калі савецкія майстры шаблі ўжо пачалі падрыхтоўку да будучых алімпійскіх баталій, ім вельмі і вельмі патрэбныя былі так званыя спарынг-партнёры — сапернікі для трэніровак. І не абы-якія сапернікі, а пажадана, каб надзвычай умелыя, ды яшчэ і «нязручныя» — чытайце, ляўшы. А дзе, скажыце, знайсці такога: і каб роўны, і каб нязручны?.. Адным з такіх рэдкіх спарынгаў і стаў Віктар Сідзяк.

Ды тады ж атрымалася ледзь ці не сенсацыйная нявыкрутка: спарынг-партнёр шаблістаў пачаў… выйграваць бой за боем у трывалых і надзейных штатных фехтавальшчыкаў з нацыянальнай зборнай. Такога «нахабства» савецкі спорт раней не ведаў… Цэлая так званая комплексная група ў складзе вядомых спецыялістаў, трэнераў, урачоў была спецыяльна камандзіравана для, скажам так, высвятлення становішча.

І вось першы падарунак лёсу: у той групе аказаліся проста сумленныя і шчырыя людзі, якія ў справаздачы, прадстаўленай у Спорткамітэт Саюза ССР, канстатавалі: майстар спорту Віктар Сідзяк са Львова дастойны прадстаўляць інтарэсы Савецкага Саюза на XIX Алімпійскіх гульнях у Мехіка!

Такой «навальніцы» сярод белага дня тагачасны савецкапартыйны спорт проста не ведаў аніколі!

На Алімпіяду-68 ён паехаў на роўных сярод роўных і вярнуўся адтуль з заслужанай залатой узнагародай у камандных спаборніцтвах мацнейшых шаблістаў свету!

— Я разумеў: пасля ўсяго таго мяне заўважыў — без перабольшання — увесь спартыўны свет, — дзяліўся тады навапечаны алімпійскі чэмпіён сваімі думкамі-развагамі. — Не буду ўтойваць, было, што называецца, і не па сабе: а ці па

заслугах трапіў я ў Мехіка? Дзякуй Аляксандру Леанідавічу Фелю, які сказаў адназначна, што алімпійскім пераможцам выпадкова яшчэ не станавіўся ніхто!

Напрыканцы наступнага 1969 года Віктар выйграў Кубак свету і, такім чынам, супакоіў перш за ўсё сам сябе: значыць, усё правільна, усё ідзе па графіку… А тут яшчэ адно выпрабаванне-роздум: кіраўнікі Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў Беларусі ў асобе намесніка старшыні — глыбока паважанага і бязмерна аўтарытэтнага ў фехтавальным свеце спецыяліста Германа Мацвеевіча Бокуна — афіцыйна прапаноўваюць Віктару Сідзяку і Аляксандру Фелю пераехаць са Львова ў беларускую сталіцу. Матывы? Герман Бокун адказаў, як і зазвычай, без хітрыкаў: вам, маўляў, будуць створаны абсалютна ўсе ўмовы для далейшай працы…

З 1970-га Сідзяк і Фель сталі мінчанамі.

Наступнае ж дзесяцігоддзе, 1970—1980-ы, стала ў іхняй сумеснай спартыўнай біяграфіі часам самага сапраўднага залатога зарападу!

XX Алімпіяда 1972 года ў Мюнхене павінна была даць адказ на адно, самае важнае і галоўнае пытанне: дык хто ён у свеце мушкецёраў-шаблістаў гэты так і не разгаданы яшчэ ляўша — Віктар Сідзяк? Пытанне наіўнае? А можа — рытарычнае? Не, ні тое, ні другое: пытанне паўстала ў самім фехтавальным свеце і нават ва ўсім спартыўным жыцці!

Да Гульняў-72 савецкія шаблісты ў асабістым заліку ніколі не выйгравалі залатой узнагароды. Была і каманда, былі і яркія зоркі — алімпійскага ж золата не было. Амбіцыёзнае савецкае кіраўніцтва — і партыйна-дзяржаўнае, і фізкультурна-спартыўнае — такой «несправядлівасці» доўга цярпець не магло, і на ўстаноўцы ў ЦК КПСС перад ад’ездам зборнай СССР на Алімпіяду ў Мюнхен было заяўлена адназначна: у фехтаванні выйграць «усё, што можна і не можна»… Тым больш у Мюнхене, такім нядаўнім яшчэ «гняздзе фашызму і рэваншызму»…

Віктара Сідзяка і Аляксандра Феля палітычныя матывы і ўстаноўкі хвалявалі мала. Проста першы з іх адчуваў, а другі быў перакананы ў тым, што яны падрыхтаваліся да Гульняў надзейна і спаўна, і толькі выпадковасць можа спыніць Віктара падчас штурму алімпійскага п’едэстала…

Самаўпэўненасць? Саманадзейнасць? Ні ў якім разе: звычайная вера ў сябе, свае сілы, майстэрства, калі хочаце — перавагу над сапернікамі.

І тут пачалося бог ведае што… Ужо ў самым першым, такім важным і адказным паядынку за золата ў асабістых спаборніцтвах, Сідзяк уступае сябру па зборнай СССР Уладзіміру Назлымаву. Што і казаць: запеў — на мінорнай ноце! Праўда, гэта — яшчэ толькі пачатак, а што скажуць іншыя з фінальнай шасцёркі? Тыя ж зоркі сусветнай шаблі — дзеючы чэмпіён свету Мікеле Мафей з Італіі, француз Рэджы Банісан, знакамітыя венгры Петэр Марот і Тамаш Ковач. Кожны ж таксама не лыкам шыты…

Вобразна кажучы, білі тады саапернікі адзін аднаго, не зважаючы ні на тытулы, ні на званні. Толькі Мафею ўдавалася зрэдку зусім не рэальнае: вырываў перамогі ў самых складаных, проста неверагодных сітуацыях. Але вось зыходзяцца яны на фехтавальнай дарожцы з Сідзяком, і ў зале гучыць сенсацыйнае паведамленне: з лікам 5:1 выйграе прадстаўнік зборнай Савецкага Саюза. Звяржэнне чэмпіёна свету? Як пакажа час, так тое і было. Да апошніх паядынкаў саапернікі падыйшлі з надзвычай роўнымі паказчыкамі: чатыры шаблісты мелі па тры перамогі ў чатырох праведзеных ужо баях і, такім чынам, аднолькава раўнапраўна прэтэндавалі на залаты медаль чэмпіёна Гульняў-72.

У кожнага з іх заставаўся адзін, пяты паядынак! Нашага майстра чакала «высвятленне адносін» з венграм Тамашам Ковачам.

— Вядома, і я, і Тамаш марылі толькі аб перамозе, — успамінаў пазней Сідзяк. — На тое ж настройвалі нас і трэнеры. Дзякуй Богу, я даволі хутка выйшаў наперад: 2:0, 3:1, 4:2… І раптам, што называецца, губляем галовы: апантана кідаемся адзін на аднаго… Ды безвынікова. Зноў першым авалодаў сабой я: спыніў атакуючы парыў Ковача і нанёс рашаючы ўкол у адказ. Што было потым — проста не памятаю…

А што, уласна кажучы, магло быць: шабліст з Мінска Віктар Сідзяк першым у гісторыі савецкага спорту заваяваў залаты алімпійскі медаль у асабістым заліку ў гэтым прэстыжным, ганаровым, насамрэч мушкецёрскім відзе спорту!

…На Гульнях-72 быў для Сідзяка і трагічны выпадак. Падчас камандных паядынкаў за другі ўжо камплект узнагарод жэрабя звяло ў першай жа сустрэчы непрымірымых на той час сапернікаў — зборныя Італіі і Савецкага Саюза. Цяжка меркаваць, хацеў ён таго ці не, але лідэр італьянскай каманды, чэмпіён свету Мафей вырашыў паквітацца з Сідзяком за па-

ражэнне ў асабістым турніры. І з такой апантанасцю накінуўся тэмпераментны італьянец на нашага спартсмена, што ні сам, ні суддзі не заўважылі, як нанёс ён Віктару ўдар, пасля якога асколак шаблі трапіў беларускаму майстру ў вока… Шпіталь, няўдалая спроба афтальмолагаў выняць асколак магнітам і, нарэшце, канчатковы медыцынскі вердыкт: патрэбна аперацыя! «Доктар! — ледзь ці не крычаў Віктар на ўвесь шпіталь. — Вы што, жартуеце? Заўтра ў мяне паўфінал з венграмі і фінал з тымі ж італьянцамі…»

Урачы зразумелі: яго не ўтрымаць!

Ён вярнуўся на алімпійскую арэну Мюнхена… І не проста вярнуўся: менавіта Сідзяк правёў рашаючы паядынак супраць зборнай Венгрыі, які дазволіў савецкай зборнай выйсці ў фінал. Праўда, італьянцы на гэты раз былі мацнейшымі, а нашым майстрам дасталіся сярэбраныя камандныя ўзнагароды…

Мікеле Мафей пасля таго выпадку не адзін раз сустракаўся з Віктарам Сідзяком — і на фехтавальнай дарожцы, і проста, як кажуць, у жыцці. Папрасіць прабачэння ці хоць бы па-чалавечы паспачуваць беларускаму мушкецёру — на гэта ў італьянскага спартсмена проста не знайшлося мужнасці…



## *Аляксей Ніканчыкаў:*

# ВЫПРАБАВАННЕ ЖЫЦЦЁМ

*Аляксей Ніканчыкаў нарадзіўся 30 ліпеня 1940 года ў гарадскім пасёлку Ягаднае Магаданскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі. Сярэбраны прызёр XIX Алімпійскіх гульняў у Мехіка (1968) па фехтаванню на шпагах у камандных спаборніцтвах. Пяціразовы чэмпіён свету: 1966, 1967 і 1970 гадоў у асабістым першынстве, 1967 і 1969 гадоў у камандных паядынках. Двухразовы сярэбраны (1966, 1971 гг.) і двойчы бронзавы (1962 і 1965 гг.) прызёр чэмпіянатаў свету ў камандных спаборніцтвах, уладальнік сярэбранага медаля сусветнага першынства (1969) у асабістым першынстве. Двухразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1969 і 1971 гадоў. Лепшы шпажыст свету 1969 года. Першы трэнер — Герман Бокун.*

З усіх савецкіх фехтавальшчыкаў — рапірыстаў, шпажыстаў і шаблістаў — больш за іншых на свайго (і нашага!) куміра д'Артаньяна быў падобны менавіта ён, беларускі майстар і віртуоз шпагі Аляксей Ніканчыкаў. Мала хто з нашых прыхільнікаў паядынкаў фехтавальшчыкаў-шпажыстаў бачыў баі з яго ўдзелам што называецца, на свае, вочы: міжнародныя турніры па фехтаванню на шпагах у Беларусі ніколі не праводзіліся, ды і чэмпіянаты рэспублікі — гэтаксама: проста не набіралася ўдзельнікаў для гэтага… Шкада, але ж нічога не вернеш! Тыя ж шчасліўчыкі, што бачылі Аляксея на фехтавальнай дарожцы, ці то на тэлеэкране, ці то на спаборніцтвах за мяжой, шматкрат адзначалі і ягоныя фізічныя даныя (высокі, пад два метры, рост), скаардынаванасць і фізічную дасканаласць спартсмена-фехтавальшчыка, і ўпэўненыя дзеянні на дарожцы, і насамрэч гусарскія паводзіны падчас правядзення паядынку…

Адным словам, выходзіў на паядынак і ішоў у атаку сапраўдны д'Артаньян — Аляксей Ніканчыкаў!

…На шырокую міжнародную спартыўную арэну ён выходзіў сталым і загартаваным байцом — ужо ў 25-гадовым узросце. Чаму не раней? Па-першае, неверагодна вялікая канкурэнцыя была ў радах савецкіх фехтавальшчыкаў-шпажыстаў; па-другое, ні сам Аляксей, ні кіраўніцтва беларускага фехтавання, як кажуць, засвечваць яго не спяшаліся… Не спяшаліся па розных, як мінімум, дзвюх прычынах: па-першае, ва ўсю ззялі ў зборных Савецкага Саюза жанчыны-рапірысткі з Беларусі; па-другое, выходзілі на вядучыя ролі і нашы мужчыны-шаблісты… Штаб беларускіх настаўнікаў-фехтавальшчыкаў на чале з мудрым (без перабольшання!) кіраўніком Германам Бокунам выдатна разумеў: вышэй галавы скокнуць — гэта значыць, заявіць аб сваіх высокіх прэтэнзіях і ў шпазе — можна, толькі ж хто тое дазволіць?! Масква магла сказаць (не выключаю, што і казала) адкрыта: ці не зашмат вы на сябе бераце, братцы-беларусы…

Так што рызыкнём сказаць: захапіўшыся падрыхтоўкай так званых патэнцыяльных «зборнікаў» — жанчын-рапірыстак і мужчын-шаблістаў, — беларусы ці не свядома прытрымлівалі выхад на міжнародную арэну шпажыстаў і перш за ўсё такіх самародкаў, як Аляксей Ніканчыкаў і Юрый Смалякоў… Аднак таленавітага чалавека — у якой бы сферы ён не вызначаўся! — не ўтоіш і не схаваеш... Ён заявіць аб сабе сам, самастойна!

У 1964 годзе Аляксея Ніканчыкава — у прынцыпе без асаблівых надзей на поспех — уключылі ў састаў нацыянальнай зборнай для выступлення на XVIII Алімпіядзе ў Токіо. Без надзей, таму што пры ўліку яго патэнцыяльных рэзерваў спецыялісты савецкага фехтавання працавалі на будучыню: маўляў, рана ці позна, але Аляксей павінен «стрэліць»… Аднак сёмае каманднае месца шпажыстаў нікому задавальнення не прынесла, і кожнаму з тых членаў зборнай СССР давялося потым самастойна прабівацца на ранейшыя месцы пад сонцам…

1966 год у жыцці Беларускай фізкультурна-спартыўнай арганізацыі азнаменаваўся сапраўднай сенсацыяй: тытул чэмпіёна свету па фехтаванню на шпагах заваяваў мінчанін Аляксей Ніканчыкаў. У наступным годзе ён не толькі паўтарыў свой асабісты поспех, але і шмат у чым паспрыяў перамозе савецкай зборнай у камандных спаборніцтвах. Стала відавочным: чарговыя XIX Алімпійскія гульні 1968 года ў Мехіка без яго ўдзелу таксама не абыдуцца… На гэты раз Аляксея заявілі і ў асабістых, і ў камандных паядынках.

Гісторыя паўтарылася. Калі ў Токіо сёмае месца заняла наша каманда, дык у Мехіка ўсяго толькі на гэты ж радок узняўся Ніканчыкаў у асабістым заліку. І гэта пры тым што ў папярэдніх паядынках ён прымусіў капітуляваць аўстрыйца Польхубера і мексіканца Фернандэса, фехтавальшчыка з ГДР Думке і спартсмена з Аб'яднанай Арабскай Рэспубліці Салахедзіна, ірландца Райяна і італьянца Сакара, канадца Баконьі і немца Фідлера, яшчэ аднаго мексіканца Перэса. Здавалася, устаяць у паядынках з агрэсіўным і настойлівым мінчанінам наўрад каму ці ўдасца!

Аднак… Ужо ў так званым туры прамога выбывання, калі пераможцы ідуць адразу ў фінал, Аляксей прайграе тым фехтавальшчыкам, у якіх яшчэ ўчора выйграў без асаблівых праблем: і немцу Думке, і італьянцу Сакара… Усе надзеі ён усклаў тады на баі ў камандным першынстве.

Савецкая зборная тады, што называецца, скокнула вышэй галавы. У папярэдніх паядынках нашы майстры з лікам 10:5 перамаглі амерыканцаў, 10:4 — італьянцаў, а асноўную колькасць перамог у тых баях атрымаў ён — Аляксей Ніканчыкаў. У паўфінале былі адолены заходнегерманскія фехтавальшчыкі. Фінал за залатыя ўзнагароды супраць спартсменаў Венгрыі — тагачасных непераможных мушкецёраў — савецкія шпажысты, на жаль, прайгралі з лікам 4:7, аднак за сярэбраныя медалі Алімпіяды-68 ні лідэра зборнай Ніканчыкава, ні іншых майстроў сталёвага клінка дакарыць ніхто нават і не падумаў… Дарэчы, разам з ім узнагароду атрымаў і другі нумар савецкай каманды — таксама мінчанін Юрый Смалякоў!

Пасля Алімпійскіх гульняў у Мехіка беларускі мушкецёр проста бліскуча выступіў на трох наступных сусветных першынствах і заваяваў на іх два залатыя і два сярэбраныя медалі. Упэўнена і пераканаўча, таксама двойчы, перамог і на чэмпіянатах Савецкага Саюза. Больш таго, у 1969 годзе Міжнародная федэрацыя фехтавання прысвоіла яму афіцыйны тытул лепшага фехтавальшчыка-шпажыста свету.

Аляксей Ніканчыкаў быў у зеніце славы, у росквіце свайго спартыўнага таленту і майстэрства. Ды лёс распарадзіўся інакш: у студзені 1972 года Аляксей Уладзіміравіч пакінуў гэты свет…



## *Аляксандр Раманькоў:*

# КЛІНОК, ХУТЧЭЙШЫ ЗА МАЛАНКУ

*Аляксандр Раманькоў нарадзіўся 7 лістапада 1953 года ў горадзе Карсакаў Сахалінскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па фехтаванню на рапірах у камандных спаборніцтвах, бронзавы прызёр у асабістым першынстве. Сярэбраны прызёр XXI Алімпіяды ў Манрэалі (1976) у асабістых спаборніцтвах, XXII Гульняў у Маскве (1980) у камандных спаборніцтвах, бронзавы — у асабістым першынстве. Дзесяціразовы чэмпіён свету: 1974, 1979, 1982 гадоў у асабістым першынстве і камандных спаборніцтвах, 1977 і 1983 гадоў у асабістым першынстве, 1981 і 1989 гадоў у камандных спаборніцтвах. Семнаццаціразовы чэмпіён Савецкага Саюза. Узнагароджаны ордэнамі Дружбы народаў і «Знак Пашаны», двума медалямі «За працоўную доблесць». Яго імя занесена ў Кнігу рэкордаў Гінеса як адзінага ў свеце дзесяціразовага чэмпіёна свету па фехтаванню ў асабістым і камандным першынствах. Першы трэнер — Эрнест Асіеўскі.*

### Першы крок — пачатак шляху

*— Я шчыра ўдзячны свайму трэнерскаму лёсу, што сустрэў у жыцці такога вучня, як Саша Раманькоў. Працаваць з ім — адно задавальненне. Ён такі ўважлівы, паслухмяны... А яшчэ — шчыры і зычлівы. Нічога не ўтойвае, а з вялікай ахвотай і задавальненнем перадае іншым — сваім сябрам і сапернікам на фехтавальнай дарожцы...*

*(З размовы з заслужаным трэнерам Савецкага Саюза Эрнестам Асіеўскім.)*

У жыцці ён сціплы, нешматслоўны, нават крыху сарамлівы. Разгаварыць Сашу няпроста. Усе, хто хоць крышачку ведае яго, сцвярджаюць, што ён — чалавек справы… Гэта і насамрэч так. А вось тыя, хто бачыў яго ў беласнежным касцюме і масцы на сцежцы бою, памятаюць: гэта быў непаўторны баец! Раманькова было не пазнаць: у атаку ішоў сапраўдны мушкецёр — мужны, смелы, рашучы…

У спорт яго прывёў… д'Артаньян. А здарылася гэта вось як. У дзень нараджэння (тады Раманькову споўнілася 12 гадоў) падарылі хлапчуку кніжку «Тры мушкецёры». Саша разам з сябрамі прачытаў яе за некалькі дзён. І ў Масюкоўшчынскай школе, што знаходзілася тады непадалёку ад Мінска, пачаліся сапраўдныя фехтавальныя паядынкі.

А побач, у Ждановічах, у той жа час пачынаў сваю педагагічную дзейнасць малады трэнер па фехтаванню Эрнест Уладзіміравіч Асіеўскі. У навакольных вёсках шукаў ён хлапчукоў, якія не супраць былі паспрабаваць свае сілы і здольнасці на сцяжынцы мушкецёраў. Саша Раманькоў і ягоныя аднакласнікі даведаліся пра гэта… І вось ужо пачалося звычайнае спартыўнае жыццё: агульнафізічная падрыхтоўка, кросы, вывучэнне тэарэтычных асноў фехтавання…

Сябры (яны ж і першыя сапернікі) палохалі яго:

— Вось скажам Эрнесту Уладзіміравічу, што ты — ляўша, і выганіць ён цябе з секцыі…

Саша моцна сціскаў зубы і без вялікай ахвоты браў рапіру ў правую руку. Ды не слухаўся яго сталёвы клінок…

— Гулялі мы аднаго разу ў баскетбол, — прыгадваў потым Раманькоў. — Гульня цікавая, яна вельмі спрыяе развіццю каардынацыі спартсмена. Асіеўскі, здавалася, і не глядзеў на нас, быў заняты нейкай сваёй справай. А каманда, за якую я гуляў, прайгравала. Крыўдна было… Ну і пачаў я дзейнічаць левай: закінуў адзін мяч, другі, трэці. Эрнест Уладзіміравіч заўважыў, спыніў гульню…

— Ты што, ляўша? — пытаецца ў мяне.

Утойваць было позна. Я кіўнуў галавой…

— Дык табе ж роўных неўзабаве не будзе…

Рапіра перайшла ў левую руку.

Ён працаваў і працаваў — да сёмага поту. Здавалася, не ведаў Саша стомленасці, гатовы быў праводзіць на фехтавальнай сцяжынцы цэлыя суткі. Колькі разоў Асіеўскі ў прамым сэнсе слова адбіраў у яго рапіру і адпраўляў дадому, маўляў, ідзі, хлопец, хопіць на сёння.

На першым жа сапраўдным турніры ў сваім жыцці — чэмпіянаце Мінскай вобласці сярод школьнікаў Раманькоў стаў пераможцам. На другім — спартакіядзе школьнікаў рэспублікі заняў… апошняе месца. «Фехтаванне не для мяне!» — падумаў ён і кінуў секцыю.

Падаўся Саша ў футбол…

Эрнест Уладзіміравіч ніколі не быў за тое, каб прымушаць кагосьці займацца ў секцыі. Ягоны прынцып: «Хочаш — хадзі на заняткі, не хочаш — не хадзі…» Лёс жа Раманькова яго непакоіў асабліва: «Так ахвотна працаваў, так усё атрымлівалася ў яго, і раптам…»

— Што ж ты заняткі кінуў? Прыходзь, я чакаю цябе, — сказаў Асіеўскі Сашу, сустрэўшы яго праз некалькі месяцаў.

Той вярнуўся.

На гэты раз — на гады і дзесяцігоддзі!

Ды не — на ўсё жыццё!

Дэбютаваць у вялікім спорце Раманькову давялося ў родным Мінску. На чэмпіянаце свету 1970 года сярод моладзі ён заняў дванаццатае масца. Аднак ужо на наступным сусветным першынстве ў Чыкага ён шосты… У 1973-м Аляксандр выйграў Кубак Савецкага Саюза сярод дарослых. Але спецыялісты недаверліва падвялі вынік, маўляў, чыстая выпадковасць!

Прэтэндаваць на месца ў зборнай камандзе Савецкага Саюза маладому фехтавальшчыку было цяжка. Станковіч і Чыж, Раманаў і Рузіеў — гэтых майстроў рапіры добра ведалі ў спартыўным свеце. Канкурыраваць з імі многім здавалася проста недарэчнай і марнай справай. Раманькоў жа разважаў інакш: «Смеласць гарады бярэ!» — гэты вядомы выраз стаў тады ягоным дэвізам.

На турніры мацнейшых фехтавальшчыкаў сацыялістычных краін на Кубе ён заняў другое месца, на міжнародных спаборніцтвах у італьянскім горадзе Балоння — шостае…

— Табе трэба праявіць сябе на чэмпіянаце краіны, — сказалі яму трэнеры зборнай.

Толькі чэмпіёнскі тытул адчыняў яму дзверы ў асноўны састаў галоўнай каманды Савецкага Саюза. І на тых спаборніцтвах Аляксандр выступіў проста бліскуча: пяць перамог атрымаў ён у пяці баях!

**Сталасць**

*— Я часта параўноўваў зборную краіны сярэдзіны 70-х гадоў з той, якая ў сярэдзіне 50-х пракладвала шлях савецкаму*

*фехтаванню да сусветнага прызнання. І вельмі многа агульнага знаходжу ў гэтых двух пакаленнях мушкецёраў: тэхніка, манера бою, знешні выгляд... Праўда, ёсць і істотныя адрозненні. У камандзе алімпійскіх чэмпіёнаў 1960 года не было першага нумара зборнай: у той ці іншы момант ім мог стаць кожны з фехтавальшчыкаў. У 70-я ж гады ў нашым калектыве быў адзіны прызнаны лідэр — Аляксандр Раманькоў. Ён сінтэзаваў усё лепшае, што было ў кожнага з ранейшай каманды. Раманькоў, элегантны ў баі, умеў своечасова сабрацца, што было ўласціва Юрыю Сісікіну; пастаянна трымаўся на мяжы рызыкі, як Герман Свешнікаў; любіў «гуляць» зброяй не горш, чым у свае лепшыя гады Віктар Ждановіч...*

*(З размовы з заслужаным трэнерам Савецкага Саюза Рыгорам Шварцам.)*

У 1974-м яму было ўсяго толькі дваццаць. Здавалася, час Раманькова, ягоныя буйныя перамогі яшчэ наперадзе: у фехтаванні маладосць і задзірыстасць, як правіла, адступаюць перад вопытам, сталасцю, мудрасцю, набытымі ў шматлікіх турнірах. Аднак мінскі дынамавец абвергнуў гэту ісціну — аднойчы і назаўсёды.

Ну, хто ён быў для іх — алімпійскага чэмпіёна паляка Вайцахоўскага, славутых французскіх мушкецёраў Рэвеню і Пятрушкі, не менш знакамітых у сусветным спорце італьянцаў Мантана і Семанчэлі?! Хто хоць аднойчы бачыў яго на вышэйшай прыступцы п'едэстала гонару на міжнародных турнірах, дзе гартуецца майстэрства самага высокага класа, дзе сапернікі прыглядаюцца адзін да аднаго, вывучаюць моцныя і слабыя бакі будучых прэтэндэнтаў на перамогу?! Ніхто пра Раманькова не ведаў і не чуў... Для славутых спартсменаў ён мог стаць добрым спарынг-партнёрам перад рашаючымі паядынкамі, баямі за ўзнагароды.

Мог, але ж не стаў!

Што ўтойваць, не разлічвалі на яго і трэнеры зборнай каманды краіны. Устаноўка была такой: папрацуй, даведайся, што такое фехтаванне сусветнага ўзроўню.

І Аляксандр успрыняў гэта як самае адказнае даручэнне.

Прайграй ён першыя ж баі на тым сусветным першынстве 1974 года, і яго наўрад ці дакаралі б: дэбютант, ну што з цябе возьмеш! Аднак чырвоная майка з гербам Савецкага Саюза, уручаная яму перад сусветным першынством, значыла для Раманькова вельмі і вельмі шмат.

Выхад яго ў фінал зноў расцанілі як выпадковасць. Што яму, маўляў, рабіць у такой кампаніі: Вайцахоўскі, Мантана,

Рэвеню, Пятрушка, Семанчэлі… Але толькі Рэвеню змог адолець маладога мінскага рапіріста. 5:0 — перамог Аляксандр Пятрушку; 5:1 — Мантана; 5:3 — Вайцахоўскага; 5:4 — Семанчэлі… Нават самыя вопытныя спецыялісты і балельшчыкі не маглі прыгадаць, каб фінал чэмпіянату свету так бліскуча і пераканаўча выйграў дэбютант спаборніцтваў.

Прынамсі, заўважылі спецыялісты фехтавання і іншае: высокае майстэрства, мужнасць і талент Аляксандра Раманькова. Газеты многіх краін свету апублікавалі тады выказванне славутага французскага рапіріста д'Арыоля: «Пасля таго як да рапіры падключылі электрычны шнур, яна згубіла галоўнае — класіцызм. Шмат гадоў прайшло з таго часу. І вось сёння я магу сказаць: класічны стыль вярнуўся! Вярнуўся ў дапоўненым варыянце. І яго новы аўтар — Аляксандр Раманькоў. Ён на сцяжынцы — рыцар, ігрок, майстар…»

У Францыі фехтаванне — нацыянальны від спорту. Неаднаразовы чэмпіён свету д'Арыоль, вядома ж, аўтарытэт з аўтарытэтаў. І няцяжка ўявіць, які клас, якое майстэрства трэба было прадэманстраваць Аляксандру Раманькову, каб заслужыць такую высокую адзнаку французскага маэстра.

Праз два гады Раманькоў паўтарыў свой трыумф — зноў выйграў залаты медаль чэмпіёна свету. А ў 1979 годзе ўстанавіў першы своеасаблівы рэкорд: стаў першай рапірай Зямлі ў трэці раз. Гэтым поспехам Аляксандр пацвердзіў сваю рэпутацыю лепшага з лепшых. У большасці каманд свету змяняліся пакаленні фехтавальшчыкаў, на змену тытулаваным майстрам прыходзілі маладыя амбітныя спартсмены, аднак дынамавец з Мінска шмат гадоў заставаўся на першых ролях, фехтуючы смела, упэўнена, рашуча.

### Алімпійскі… няўдачнік?

*— На XXI Алімпійскія гульні ў Манрэаль у 1976 годзе Аляксандр Раманькоў ехаў яўным фаварытам. Спецыялісты і трэнеры прадказвалі яму, як мінімум, сярэбраны медаль. Той самы мінімум і атрымаўся: перамогшы ўсіх вядомых спартсменаў, Раманькоў прайграў толькі васемнаццацігадоваму італьянцу Фабіа дэль Зота.*

*Памятаю, як перажываў ён тады. Саромеўся нават глядзець у вочы трэнерам, сябрам… Алімпійскае серабро ён лічыў для сябе няўдачай. А мы хвалілі яго, маўляў, зрабіў усё, што*

*мог. Яго алімпійскі дэбют быў адзначаны тады ўрадавым медалём «За працоўную доблесць».*

*(З размовы са старшынёй Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў Беларусі Валянцінам Сазановічам у 1976 годзе.)*

Алімпійскія гульні — гэта не прагулка па Алімпе. Па напружанасці барацьбы, адказнасці за сваё выступленне іх нельга параўноўваць з іншымі спаборніцтвамі, нават з чэмпіянатамі свету. І ход паядынкаў на Алімпіядзе вельмі часта набывае такі паварот, які не можа прадказаць ніякая электронна-вылічальная машына…

Сапраўдная барацьба — вострая, напружаная, бескампрамісная — пачалася літаральна з першых жа паядынкаў. Здавалася, нічога не бралася ў разлік і пад увагу: чэмпіён свету ты ці проста знакаміты майстар, навічок алімпійскага турніру ці ўбелены сівізной ветэран клінка… Аляксандр напачатку церпіць няўдачу, і ў фінальны турнір яму давялося прабівацца праз суцяшальныя баі. І вырашаць тую спрэчку за адзіную пуцёўку яму трэба было не з кім-небудзь, а з самім чэмпіёнам свету 1973 і 1975 гадоў французам Наэлем. Маладосць Раманькова тады і ўзяла верх над вопытам Наэля.

У алімпійскім фінале Саша выступіў добра. Чатыры перамогі, адно паражэнне — ад малавядомага да таго часу італьянца Фабіа дэль Зота. У апошняга быў такі ж паказчык, і за золата Манрэаля суддзі прызначылі перабой.

— Той паядынак склаўся зноў жа на карысць італьянца, — расказваў мне потым Аляксандр. — Хуткі, ростам амаль што два метры — ну ніяк не мог я пераадолець сябе, знайсці контрмеры супраць саперніка. Псіхалагічна Фабіа аказаўся лепш падрыхтаваным. Яму і ўручылі потым залаты алімпійскі медаль…

А яму, Аляксандру Раманькову, — сярэбраны: але ж такі каштоўны і дарагі, як і залаты!

Доўга, цэлыя тры гады, чакаў пасля таго паражэння Аляксандр Раманькоў сустрэчы з дэль Зота. Але час, здавалася, спецыяльна не спяшаўся. Атрымаўшы перамогу ў Манрэалі (яе, дарэчы, многія спецыялісты ацанілі як выпадковую), Фабіа ніяк не мог потым прабіцца ў фінал сусветнага першынства. І толькі на чэмпіянаце свету 1979 года ў Мельбурне іхнія фехтавальныя сцяжынкі сышліся зноў. І зноў утварылася сітуацыя, калі выйгрыш італьянца прыводзіў бы да перабою за першае месца…

Не, Раманькоў не проста рыхтаваўся тыя гады да рэваншу. Ён проста рваўся ў бой!

Адно імгненне — і дэль Зота вядзе 1:0. Не паспеў Саша сканцэнтравацца — і ўсё тут. Аднак спахапіўся: дзве «простыя» атакі, і лік ужо на яго карысць — 2:1. Сустрэчны ўкол — 3:1. Яшчэ адна «простая» атака — 4:1. Фабіа кідаецца ў адчайную атаку, Аляксандр адводзіць яе і наносіць рашаючы ўкол — 5:1!

Ускінуты ўгору рукі: у левай — рапіра, у правай — маска. Мы прывыклі былі: так святкаваў перамогу Аляксандр Раманькоў. Дарэчы, аднойчы я спытаў у яго, чаму ён так сціпла адзначае гэта імгненне?

— На большае проста не хапае сіл, — як заўсёды сціпла адказаў Саша.

А потым былі чарговыя чэмпіянаты свету, алімпійскія турніры ў Маскве (1980) і Сеуле (1988). І практычна на кожным з іх беларускі мушкецёр Аляксандр Раманькоў заваёўваў узнагароды. У Маскве ж і Сеуле, дзе праводзіліся самыя прэстыжныя спаборніцтвы сучаснасці — Алімпійскія гульні, ён дадаў да серабра Манрэаля-76 яшчэ адзін залаты, адзін сярэбраны і два бронзавыя медалі.

На ўрачыстай цырымоніі адкрыцця XXIX Алімпійскіх гульняў 2008 года ў Пекіне Аляксандр Раманькоў быў сцяганосцам нацыянальнай зборнай каманды Рэспублікі Беларусь. Гэта была даніна павагі і любві вялікаму і непаўторнаму Маэстра фехтавання, які стаў на ногі, вырас, загартаваўся на нашай Бацькаўшчыне і праславіў яе на ўвесь свет!

*Раздзел IV*

## КОРБУТ, ШЧЭРБА… ХТО НАСТУПНЫ?

*Задоўга да таго як напрыканцы 1991 года наша рэспубліка набыла суверэнітэт і незалежнасць, увесь свет — дарэчы, не толькі спартыўны! — ведаў: дзесьці паміж Масквой і Варшавай ёсць дзесяцімільённая Беларусь, у якой вырасла цуд-дзяўчынка з коскамі, якая ў адно імгненне стала агульнасусветнай любіміцай. Так-так — агульнасусветнай! І была гэта гімнастка Вольга Корбут.У 70-я гады XX стагоддзя яна ўсхвалявала сусветную грамадскасць выдатнымі дасягненнямі і арыгінальнымі камбінацыямі на гімнастычных снарадах, у прамым сэнсе слова прымусіла чалавецтва паглядзець на спорт як на грамадскую з'яву зусім па-іншаму, чым раней. Менавіта з падачы Корбут, па майму цвёрдаму перакананню, і стаў спорт сапраўдным паслом міру. Міру і свету! Пагутарыць з ёй, прыняць на самым высокім узроўні за вялікі гонар для сябе лічылі прэзідэнты і прэм'ер-міністры, каралі і манархі, іншыя ўладары дзяржаў на ўсіх пяці кантынентах Зямлі.*

*Былі ў нас зоркі спартыўнай гімнастыкі і да Вольгі Корбут, былі і ёсць і пасля яе. Меншай, вядома ж, яркасці, менш тытулаваныя і менш абласканыя ўвагай і ўшанаваннямі, аднак такія ж таленавітыя, здатныя і працавітыя… Да прыкладу, сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў 1960 года Мікалай Мілігула, алімпійская чэмпіёнка 1964 года Алена Валчэцкая, двухразовая пераможца Алімпіяды-68 Ларыса Петрык, беларускія партнёры Корбут па зборнай Савецкага Саюза 70-х гадоў чэмпіёнкі Гульняў 1972 года Антаніна Кошаль і Тамара Лазаковіч… Была яшчэ Нэлі Кім — уладальніца двух залатых медалёў Алімпіяды-80. Тры вышэйшыя ўзнагароды на Алімпійскіх гульнях 1988 і 1992 гадоў атрымала Святлана Багінская, адну — Святлана Баітава.*

*А потым надышла эра Віталя Шчэрбы — шасціразовага залатога лаўрэата Алімпіяды ў Барселоне. Побач з ім вырас, стаў на ногі і загартаваўся яшчэ адзін непаўторны гімнаст — двухразовы абсалютны чэмпіён свету і Еўропы Іван Іванкоў.*

*Сярэбраныя і бронзавыя медалі на Гульнях 1960-га — 1992-га гадоў заваёўвалі Мікалай Мілігула, тыя ж Ларыса Петрык, Вольга Корбут, Тамара Лазаковіч, Святлана Багінская, а таксама Аляксандр Малееў, Уладзімір Шчукін, Мікалай Нядбальскі. Яны, а таксама Таццяна Аржаннікава, Павел Сут, Алена Палявая, Аляксандр Туміловіч, Юрый Балабанаў, Алена Піскун, Дзмітрый Каспяровіч, Іван Паўлоўскі, Аляксей Сінкевіч, Віталь Рудніцкі, Аляксандр Шостак і іншыя станавіліся пераможцамі і ўладальнікамі сярэбраных і бронзавых узнагарод на чэмпіянатах свету і Еўропы, буйных міжнародных турнірах.*

*А на дыване — у мастацкай гімнастыцы — шматкрат заяўлялі аб сабе на спаборніцтвах самага высокага рангу Галіна Крыленка (Логвінава) — чэмпіёнка свету 1973 і 1977 гадоў; Вольга Рабіновіч — пераможца сусветнага першынства 1977 года; Таццяна Агрызка — чэмпіёнка свету 1992 года; Ларыса Лук'яненка — чэмпіёнка свету 1994 года… У другой жа палове 1980-х яшчэ больш яскрава ўзышла зорка Марыны Лобач: у 1987-м яна стала чэмпіёнкай свету, а ў 1988-м на XXIV Алімпійскіх гульнях у Сеуле — уладальніцай залатога медаля чэмпіёнкі.*

*Свайму станаўленню і развіццю беларускія школы спартыўнай і мастацкай гімнастыкі перш за ўсё абавязаны трэнерам Рэнальду Кнышу і Вікенцію Дзмітрыеву, Ірыне Ляпарскай і Любові Мірамановай, Віктару Хамутову і Алегу Мішчанку, Сяргею Шынкару і Валерыю Каладзінскаму… Гэта менавіта яны знайшлі, паставілі на ногі і давялі да дасканаласці майстэрства тых жа Вольгі Корбут і Алены Валчэцкай, Ларысы Петрык і Тамары Лазаковіч, Антаніны Кошаль і Святланы Багінскай, Святланы Баітавай і Віталя Шчэрбы, Івана Іванкова і Марыны Лобач…*

*На жаль, набыццё Беларуссю суверэннасці і самастойнасці прынесла нашаму спорту і нямала, так бы*

*мовіць, заганных з'яў. І адна сярод іх — ад'езд з рэспублікі вядучых спецыялістаў і трэнераў у краіны далёкага і блізкага замежжа. Вось толькі адзін факт, які насамрэч не можа не ўсхваляваць: на працягу 90-х гадоў мінулага стагоддзя за мяжу выехалі звыш 50 настаўнікаў-педагогаў толькі па спартыўнай гімнастыцы! Сёння яны з вялікім поспехам у тых жа напружаных стваральных буднях выхоўваюць зорак у Бельгіі і Галандыі, Германіі і Іспаніі, Італіі і Ірландыі, Польшчы і Францыі, нават у Злучаных Штатах Амерыкі, Аўстраліі і Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы... Тых зорак, якія ўжо зараз на спаборніцтвах самага высокага рангу, у тым ліку на чэмпіянатах свету і кантынента, Алімпійскіх гульнях даюць бой нашым, беларускім спартсменам.*

*Аднак ці варта пра тое казаць... Знаёмцеся лепш не з імі, а з нашымі людзьмі...*



## *Рэнальд Кныш, Алена Валчэцкая:*

# З ПРАВІНЦЫІ — НА АЛІМПІЙСКІ П'ЕДЭСТАЛ

*Рэнальд Кныш нарадзіўся 10 верасня 1931 года ў гарадскім пасёлку Капыль Мінскай вобласці. Заслужаны трэнер Беларусі (1960), заслужаны трэнер Савецкага Саюза (1964). Заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі (1971). З 1971 года — старшы трэнер Цэнтральнага савета спартыўнага таварыства «Чырвоны сцяг» (г. Гродна). З канца 1970-х гадоў — кіраўнік Гродзенскай школы трэнераў па спартыўнай гімнастыцы. Сярод яго вучаніц — алімпійскія чэмпіёнкі, заслужаныя майстры спорту СССР Алена Валчэцкая і Вольга Корбут, чэмпіёнка Савецкага Саюза, майстар спорту СССР міжнароднага класа Тамара Аляксеева.*

*Алена Валчэцкая нарадзілася 4 снежня 1943 года ў горадзе Гродна. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XVIII Алімпійскіх гульняў (1964) па спартыўнай гімнастыцы ў камандных спаборніцтвах. Чатырохразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза 1960, 1961, 1962, 1965 гадоў у апорным скачку, двухразовая чэмпіёнка СССР 1963, 1964 гадоў у практыкаваннях на бервяне. Заслужаны трэнер Беларусі. Першы трэнер — Рэнальд Кныш.*

Пра беларускія школы па асобных відах спорту — і перш за ўсё гімнастычную, фехтавальную, лёгкаатлетычную і барцоўскую школы — на ўсесаюзнай і міжнароднай спартыўных арэнах загаварылі ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў мінулага ХХ стагоддзя. А паспрыялі гэтаму першыя — такія ўпэўненыя і надзейныя! — крокі-выступленні беларускіх гімнастаў. Адной з першых сярод іх была мілавідная каралева гімнастыкі з Гродна Алена Валчэцкая.

…Прабіцца ў нацыянальную зборную Савецкага Саюза па спартыўнай гімнастыцы ў той час было практычна немаг-

чыма. Доўгія па гімнастычных мерках гады Ларыса Латыніна з'яўлялася бясспрэчным лідэрам. Яе праграмы амаль што на ўсіх спартыўных снарадах былі складанымі і бездакорнымі, напоўненымі многімі элементамі, якія ў гімнастыцы тады і зараз называліся і называюцца модным словам «ультра-сі». І не выпадкова, што толькі на Алімпійскіх гульнях яна сабрала і да сённяшняга дня самую вялікую колькасць залатых узнагарод — ажно дзевяць!

Другі-трэці нумары ў зборнай СССР ніяк не маглі… падзяліць — ні самі спартсмены, ні нават кіраўнікі савецкага спорту — паміж Палінай Астахавай і Соф'яй Мўратавай. Першая — даволі таленавітая, здольная, сталая і спрактыкаваная: зрываў на ўсіх снарадах яна практычна не дапускала. Другая — таксама не без боскай гімнастычнай іскрынкі… А яшчэ ў Соф'і была магутная і безадказная падтрымка ў асобе мужа — старшага трэнера нацыянальнай каманды Валерыя Муратава. Трэнер, як кажуць у такіх выпадках, ён і ёсць трэнер: што скажа, тое і будзе… І асабліва ў такіх відах спорту, як спартыўная гімнастыка, дзе падчас выстаўлення спартсмену адзнак за тое ці іншае выступленне штосьці можна і не заўважыць, а што-кольвечы — наадварот — ацаніць безпадстаўна высока…

Вялікі спорт ад гэтакіх «падыходаў», вядома ж, аніколі не выйграваў. Аднак было ж тое, было!

На першыя пазіцыі ў зборнай Савецкага Саюза нашыя спартсменкі, а найперш — іхнія асабістыя трэнеры, якія добра ведалі і выдатна ўсведамлялі тую канкрэтную сітуацыю, ніколі і не прэтэндавалі. Бо разумелі: змагацца з ветракамі не мае аніякага сэнсу. Былі яшчэ ў камандзе два-тры вакантныя месцы, за якія і мелі больш-менш рэальную магчымасць весці барацьбу іншыя прэтэндэнткі.

З самага пачатку 60-х гадоў на адну з тых вакансій у нацыянальнай камандзе і пачалі «замахвацца» прадстаўнікі нікому да таго часу невядомага правінцыяльна-гімнастычнага беларускага горада Гродна: юная Лена Валчэцкая і яе першы і нязменны настаўнік Рэнальд Кныш.

…Ёй было ўжо амаль што 12 гадкоў (для дэбюту ў спартыўнай гімнастыцы ўзрост, што называецца, крытычны), калі выкладчык фізкультуры гродзенскай школы № 8 Мікалай Траццяк параіў трэнеру па гімнастыцы Рэнальду Кнышу праверыць здольнасці і патэнцыяльныя магчымасці школьніцы-пяцікласніцы Лены Валчэцкай. Прапанаваўшы дзяўчынцы зрабіць тыя гімнастычныя практыкаванні, якія яна ўмела і магла, Рэнальд Іванавіч пагадзіўся залічыць яе ў адну са сваіх груп.

І пачаўся спартыўны шлях, такі напружаны, складаны і адказны — і для маладога спецыяліста гімнастыкі, і для ягонай здольнай, настойлівай і працавітай вучаніцы.

Усяго два гады спатрэбіліся ім для трэніровак, каб заваяваць першыя высокія ўзнагароды: у 1957-м Лена Валчэцкая стала чэмпіёнкай Беларусі! Яшчэ праз год — у няпоўныя пятнаццаць! — яна становіцца майстрам спорту СССР. На Рэнальда Кныша і яго вучаніцу пачынаюць звяртаць увагу спачатку настаўнікі юнацкай і маладзёжнай каманд краіны, а неўзабаве — і спецыялісты з галоўнай зборнай Савецкага Саюза. А тут і грунтоўны аргумент з'явіўся: у 1960 годзе мала каму вядомая гімнастка з Гродна ўпэўнена выйграе практыкаванні ў апорным скачку і атрымлівае першы залаты медаль чэмпіёнкі краіны.

Не сумняваемся, што саперніцы і іхнія настаўнікі захваляваліся і занепакоіліся, убачыўшы ў незнаёмцы канкурэнтку за месца ў складзе зборнай СССР. А што ж яны — аўтары і выканаўцы той сапраўднай спартыўнай сенсацыі?

Імклівa ўварвацца ў нацыянальную зборную — такую задачу перад сабой яны тады яшчэ не ставілі. У жорсткай канкурэнтнай барацьбе можна было і перагарэць, і проста стаць ахвярай закулісных спрэчак і інтрыг. Рэнальд Іванавіч гэта добра разумеў, таму, з аднаго боку, напаўняючы праграму Лены ўсё новымі і новымі складанымі элементамі, агульную гатоўнасць яе не фарсіраваў. Верыў: іхні час яшчэ прыйдзе!

Згаданы вышэй апорны скачок адразу ж стаў любімым «каньком» яе гімнастычнай праграмы. На чэмпіянатах Савецкага Саюза 1961 і 1962 гадоў самі спартсменкі-саперніцы і спецыялісты гімнастыкі імкнуліся ўважліва пасачыць, а па магчымасці і засняць на кінафотаплёнку смелую і нечаканую навінку ў гэтым практыкаванні — скачок з паваротам на 360 градусаў, бездакорна выкананы гродзенскай гімнасткай. Нават самыя прыдзірлівыя арбітры нязменна аддавалі Валчэцкай перавагу і выстаўлялі адзнакі чэмпіёнскай вартасці, хоць знаходзіліся і «добразычліўцы», якія ў адкрытую заклікалі «сильных мира сего» ў спартыўнай гімнастыцы забараніць выкананне гэтага элемента…

Аднак Рэнальд Кныш і Алена Валчэцкая імкнуліся не звяртаць на гэта ўвагі. Яны крочылі наперад сваёй, так бы мовіць, гродзенскай спартыўна-гімнастычнай дарогай!

Тры залатыя ўзнагароды за арыгінальныя і нікім не паўтораныя апорныя скачкі плюс два медалі вышэйшай пробы за практыкаванні на бервяне, заваяваныя Ленай на чэмпіянатах Савецкага Саюза 1960 — 1964 гадоў у жорсткай і бескампраміснай барацьбе

бе, усё ж далі ёй права заняць заслужанае месца ў складзе нацыянальнай зборнай краіны, якая рыхтавалася, а потым і накіравалася на выступленне на XVIII Алімпійскія гульні ў Токіо. Больш таго перавагу беларускай гімнастцы аддалі падчас высвятлення сітуацыі аб тым, хто на той канкрэтны момант быў мацнейшым: яна, Алена Валчэцкая, ці… усемагутная прадстаўніца клану Муратавых — Соф'я? І, як тое ні дзіўна, апошняе, важкае і рашаючае слова ў падтрымку кандыдатуры Лены тады сказаў асабісты трэнер Ларысы Латынінай Аляксандр Мішакоў…

На алімпійскі памост японскай сталіцы зборная СССР узору 1964 года выйшла ў такім складзе: Ларыса Латыніна, Паліна Астахава, Алена Валчэцкая, Людміла Громава, Людміла Люхіна і Тамара Маніна. Асноўнымі саперніцамі ў барацьбе за каманднае першынство — самае прэстыжнае ў спартыўнай гімнастыцы, як і меркавалі спецыялісты і трэнеры, сталі савецкія і чэхаславацкія спартсменкі. Першых вяла за сабой непераможная на той час прыма гімнастыкі Ларыса Латыніна; другія рабілі стаўку на новую, узыходзячую зорку гэтага віду спорту — Веру Часлаўску.

Савецкія гімнасткі пачалі выступленне не самым лепшым чынам. Першае практыкаванне — на брусах — спачатку заваліла Людміла Громава, потым — Тамара Маніна… Алена Валчэцкая, для якой гэты снарад таксама быў не самы любімы, справілася са сваёй праграмай больш-менш паспяхова, і каманда ўпэўнена пачала паказваць сябе: дэманстраваць сваё майстэрства, непаўторныя элементы, волю да перамогі… У практыкаваннях на бервяне і апорным скачку наша прадстаўніца паказала ўсе свае суперскладаныя элементы. Як заўсёды на высокім узроўні выступілі лідэры — Ларыса Латыніна і Паліна Астахава, спаўна аддаліся барацьбе іншыя гімнасткі, і вось ужо яно шчаслівае і непаўторнае імгненне Перамогі! Зборная Савецкага Саюза, апярэдзіўшы на 0,901 бала гімнастак Чэхаславакіі, заваявала залатыя ўзнагароды ў камандных спаборніцтвах па спартыўнай гімнастцы.

Алена Валчэцкая стала першай з беларускіх спартсменак, адкрыўшых залаты алімпійскі летапіс у гэтым відзе спорту. Яна стала і першай прадстаўніцай беларускай школы спартыўнай гімнастыкі, пра якую менавіта з таго моманту і пачаў гаварыць увесь спартыўны свет.



## *Вікенцій Дзмітрыеў, Ларыса Петрык:*

## БАЛЕРЫНА… ГІМНАСТЫКІ

*Вікенцій Дзмітрыеў нарадзіўся 29 сакавіка 1931 года ў сяле Гаранава Ленінградскай вобласці. Заслужаны трэнер Беларусі (1964), заслужаны трэнер Савецкага Саюза (1966). Заслужаны настаўнік БССР (1965). Заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі (1968). З 1966 года — старшы трэнер Віцебскай абласной спецыялізаванай школы алімпійскага рэзерву па спартыўнай гімнастыцы. Сярод яго вучаніц — алімпійскія чэмпіёнкі, заслужаныя майстры спорту СССР Ларыса Петрык і Тамара Лазаковіч, чэмпіёнкі Савецкага Саюза, майстры спорту СССР міжнароднага класа Святлана Кудзінава, Людміла Аргучынская, Святлана Маскалёва.*

*Ларыса Петрык нарадзілася 28 жніўня 1949 года ў горадзе Далінску Сахалінскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Двухразовая алімпійская чэмпіёнка: пераможца XIX Гульняў у Мехіка (1968) у камандных спаборніцтвах і вольных практыкаваннях па спартыўнай гімнастыцы. Бронзавы прызёр Алімпіяды-1968 у практыкаваннях на бервяне. Чэмпіёнка свету 1970 года ў камандных спаборніцтвах. Сярэбраны прызёр сусветнага першынства 1966 года ў камандных спаборніцтвах. Бронзавы прызёр чэмпіянатаў свету 1966 і 1970 гадоў у практыкаваннях на бервяне. Бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы 1965 года ў вольных практыкаваннях і на бервяне. Абсалютная чэмпіёнка Савецкага Саюза 1964 года, чэмпіёнка СССР 1966 года ў практыкаваннях на брусах. Узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Вікенцій Дзмітрыеў.*

Нароўні з гродзенскай школай, пра якую мы апавядалі вышэй, раўнапраўнай складніцай беларускай школы спартыўнай гімнастыкі была і віцебская, спецыялісты і выхаванцы якой упісалі яркія старонкі ў міжнародны спартыўны рух у цэлым, у гісторыю беларускага спорту — у прыватнасці.

Так ужо атрымалася, што эстафету ад Гродна спартыўны Віцебск падхапіў літаральна адразу ж, што называецца, з рук у рукі. «На алоўках» у спецыялістаў і трэнераў, у тым ліку — і кіраўнікоў зборнай Савецкага Саюза ўжо было імя і дасягненні Алены Валчэцкай, як сапраўднай навальніцай сярод белага дня грымнулі набыткі Ларысы Петрык.

…Чэмпіёнкі Алімпіяды-64 Ларыса Латыніна і Паліна Астахава, Алена Валчэцкая і Тамара Маніна, нягледзячы на вялізную стомленасць ад спаборніцтваў у японскай сталіцы, вырашылі паспрачацца і за ўзнагароды ўсесаюзнага першынства таго ж 1964 года. На календары быў снежань месяц, усе, у тым ліку і праслаўленыя спартсмены, героі Гульняў у Токіо, рыхтаваліся падвесці вынікі складанага і напружанага спартыўнага года. Аднак нават самыя вялікія скептыкі ў канчатковым зыходзе барацьбы на чэмпіянаце Савецкага Саюза ніколькі не сумняваліся… Размовы зводзіліся зазвычай да адных і тых жа пытанняў-здагадак: колькі медалёў вышэйшай пробы заваюе Латыніна, а колькі — Астахава; ці парадуе новымі суперскладанымі элементамі ў сваіх любімых практыкаваннях на бервяне і ў апорным скачку Валчэцкая; ці ёсць яшчэ порах у парахаўніцах у Манінай і іншых, «спісаных» ужо, слынных гімнастак недалёкага мінулага…

І раптам з Кіева, дзе праходзіла ўсесаюзнае першынство, прыйшло проста неверагоднай сенсацыйнасці паведамленне: тытул абсалютнай чэмпіёнкі Савецкага Саюза па спартыўнай гімнастыцы заваявала 15-гадовая школьніца з горада Віцебска Ларыса Петрык. У спартыўных аналах нават спецыялістаў і трэнераў, якія працавалі з юнацкімі і маладзёжнымі зборнымі краіны, гэта прозвішча зусім не значылася. Мала хто з калег па спартыўным цэху ведаў у твар і нават чуў імя настаўніка-выхаваццеля новай спартыўнай зоркі — Вікенція Дзмітрыева. Аднак факт быў зафіксаваны: Ларыса Петрык апярэдзіла ў спаборніцтвах нават самую Ларысу Латыніну, праўда, усяго толькі на 0,05 бала!

…У Віцебскай спецыялізаванай школе алімпійскага рэзерву па спартыўнай гімнастыцы мне даводзілася потым быць два разы. Ужо выйшла замуж за аднаго вядомага сталічнага гімнаста і пераехала на сталае месца жыхарства ў Маскву гонар і гімнастычная легенда горада над Заходняй Дзвіной Ларыса Петрык, бліснуўшы яркай непаўторнай бліскавіцай на тым жа гімнастычным гарызонце, пакінула вялікі спорт другая слынная выхаванка Вікенція Дзмітрыева — таксама алімпійская чэмпіёнка Тамара Лазаковіч, а там, у невялікай, аднак надзвычай утульнай гімнастычнай зале па-ранейшаму панавала

нейкая асаблівая, настоеная на чэмпіёнскім духу, атмасфера. Кожны раз больш чым па дзве гадзіны гутарылі мы з Вікенціем Дзмітрыевічам. Як і заўсёды, стрыманы і памяркоўны, разважлівы і аб'ектыўны, ён, здавалася, выкладваў з глыбінь душы і сэрца ўсё, чым яны — душа і сэрца былі напоўнены і перапоўнены. Згадваў, як не адчуваў стомы падчас шматгадзінных няспынных заняткаў з Петрык: ды і адкуль магла быць тая стомленасць, калі самому яму было ўсяго толькі 25—26 гадоў, а ёй, такой гарэзлівай і насмешліва-пацешнай, — сем-восем?! «З яе, настойлівай і надзвычай працалюбівай, можна было зрабіць не тое што сусветную зорку, а нават самую сапраўдную балерыну!» — сказаў тады пра сваю самую любімую вучаніцу — Ларысу Петрык — яе першы і адзіны настаўнік.

Яна насамрэч была спартсменкай і балерынай у адной асобе. Адразу ж прыкмеціўшы ў дзяўчынцы гнуткасць, грацыёзнасць, артыстычнасць, Вікенцій Дзмітрыеў і вырашыў паспрыяць развіццю і ўдасканаленню ў ёй менавіта гэтых, такіх каштоўных для спартыўнай гімнастыкі, якасцей. Натуральнай, зусім непадробленай была і нязменная ўсмешка на твары Ларысы падчас выступлення на тым ці іншым спартыўным снарадзе, у тым ліку і тады, калі ёй самой было і цяжка, і балюча, і крыўдна за тую ці іншую, нават нязначную прамашку ці невялікую памылку… Падключыўшы да сумеснай працы мясцовых, віцебскіх спецыялістаў-харэографаў, Вікенцій Дзмітрыевіч у прамым сэнсе слова агарошыў неўзабаве ўсю гімнастычна-спартыўную публіку незвычайнымі для таго часу вольнымі практыкаваннямі — паводле славутай рускай «Цыганачкі».

— Гэта быў так удала знойдзены, адпрацаваны і адшліфаваны сінтэз гімнастычных практыкаванняў і балетных элементаў, — расказваў Вікенцій Дзмітрыеў. — Ларыса прызнавалася мне, што, выконваючы «Цыганачку», яна не бачыла вакол сябе нікога: ні балельшчыкаў, ні спартыўны дыван, ні нават суддзяў — такіх прыдзірлівых і прадузятых! Яна працавала — ад душы і для душы…

Званне абсалютнай чэмпіёнкі Савецкага Саюза 1964 года насцеж адкрыла перад ёй дзверы ў нацыянальную зборную краіны. І не толькі таму, што яна выйграла барацьбу ў слынных і тытулаваных саперніц, а перш за ўсё таму, што ў камандзе пачаўся натуральны для спорту наогул працэс змены пакаленняў. Да чарговых Алімпійскіх гульняў заставалася крыху больш чым чатыры гады, і спецыялісты і трэнеры зборнай СССР па-

вінны былі падрыхтаваць да адказных алімпійскіх баталій, па сутнасці, новы баяздольны спартыўны калектыў.

Дзякуй Богу, лідэры для новай хвалі савецкіх гімнастак знайшліся самі сабой. Нумарам адзін сярод іх стала 15-гадовая Ларыса Петрык з Віцебска, а літаральна на наступны, 1965 год, гэтак жа нечакана, аднак — упэўнена і надоўга, «стрэліла» яшчэ адна будучая савецкая зорка — ленінградская спартсменка Наталля Кучынская.

На XIX Алімпійскіх гульнях 1968 года ў Мехіка выхаванка Вікенція Дзмітрыева выканала практычна ўсе ўстаноўкі свайго настаўніка. Камандныя спаборніцтвы, тым не менш, даліся савецкім гімнасткам вельмі і вельмі няпроста. Аднак вядомыя наперад маладым капітанам зборнай Ларысай Петрык, яны ў прамым сэнсе слова вырвалі золата з рук слынных тады чэхаславацкіх спартсменак на чале з легендарнай Верай Часлаўскай, выйграўшы ў іх 0,65 бала. На наступны дзень гімнастка з Віцебска зноў узнялася на п’едэстал гонару — на гэты раз за бронзавай узнагародай за выступленні на бервяне. Ну а потым былі вольныя практыкаванні — яе слынная і такая чаканая аматарамі і нават асобнымі суддзямі «Цыганачка»…

— Доўга і ажыўлена раіліся-спрачаліся служыцелі Феміды, выносячы вердыкты за выступленні на дыване Ларысы Петрык і Веры Часлаўскай, — расказваў потым Вікенцій Дзмітрыевіч. — Аднак ацэнкі паставілі справядлівыя і заслужаныя, праўда — аднолькавыя: далі і першай, і другой па 19,675 бала.

Абедзвюм зоркам — Ларысе Петрык з Беларусі і Веры Часлаўскай з Чэхаславакіі — на Гульнях XIX Алімпіяды за выступленні ў вольных практыкаваннях былі ўручаны вышэйшыя, залатыя алімпійскія ўзнагароды.

Услед за Гродзенскай школай спартыўнай гімнастыкі ў аналах спартыўнай гісторыі і з’явіўся запіс аб узнікненні новай, Віцебскай школы… Яе заснавальнікам стаў, такім чынам, Вікенцій Дзмітрыеў, а першаадкрывальніцай — Ларыса Петрык. А потым былі новыя набыткі, новыя імёны…

З 1992 года Ларыса Петрык жыве і працуе трэнерам у Злучаных Штатах Амерыкі…



## *Вольга Корбут:*

## ЦУД З КОСКАМІ

*Вольга Корбут нарадзілася 16 мая 1955 года ў горадзе Гродна. Заслужаны майстар спорту СССР. Чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка: пераможца XX Гульняў у Мюнхене (1972) па спартыўнай гімнастыцы ў камандных спаборніцтвах, практыкаваннях на бервяне, вольных практыкаваннях; XXI Алімпіяды ў Манрэалі (1976) — у камандных спаборніцтвах. Сярэбраны прызёр XX Гульняў у практыкаваннях на брусах, XXI Алімпіяды — у практыкаваннях на бервяне. Чэмпіёнка свету 1974 года ў апорным скачку, 1970 і 1974 гадоў — у камандных спаборніцтвах. Абсалютная чэмпіёнка СССР і Спартакіяды народаў СССР 1975 года. Чэмпіёнка Савецкага Саюза 1970 і 1974 гадоў у апорным скачку, 1969, 1974 і 1976 гадоў — у практыкаваннях на брусах. Сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы 1973 года ў асабістым першынстве. У 1972 годзе прызнана лепшай спартсменкай свету. Ганаровая грамадзянка гарадоў Гродна (Беларусь), Чыкага і Атланта (абодва — ЗША). Першыя трэнеры — Алена Валчэцкая і Рэнальд Кныш.*

…І сёння, праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля яе бліскучых і непаўторных выступленняў на самых розных гімнастычных форумах, вакол імя і спраў Вольгі Корбут столькі розных, часам рэзка супрацьлеглых, водгукаў, ацэнак, выказванняў і… неверагодных чутак. У кнігах і дакументальных фільмах, часопіснай і газетнай публіцыстыцы, не кажучы ўжо пра спецыялізаваныя спартыўныя і нават выключна палітычныя перыядычныя выданні, як кажуць, толькі гультай не рабіў спробу «сказаць сваё я» пра яе — «цуд з коскамі», «дзіця дабрыні і святла», «пасла міру», «любіміцу публікі», «дзіця планеты», «вундэркінда гімнастыкі»… Больш таго, нават самыя блізкія, здавалася б, і самыя да-

сведчаныя людзі — і перш за ўсё трэнеры і спецыялісты, якія мелі самае непасрэднае дачыненне да яе проста грандыёзнага ўзыходжання на спартыўны Алімп, і тыя раптам пачалі не толькі «пераацэньваць» і яе самую, і набыткі і дасягненні Вольгі ў спорце, але і… корпацца ў так званай бруднай бялізне… І цяжка, часам проста немагчыма ўжо разабрацца: дзе тут праўда, а дзе — выдумка ці фантазія; калі тыя дасведчаныя і, мякка кажучы, не вельмі дасведчаныя людзі былі шчырымі, праўдзівымі, сумленнымі… Калі: тады ці зараз?!

Чаму я павёў пра гэта расповед? Ды проста з той мэтай, што, на маю думку, не трэба тым людзям рабіць кульбіты — ні ў звычайным зямным жыцці, ні ў ацэнках, дадзеных некалі, раней. І нават тады, калі чыясьці слава раптам пачынае дзесьці ў глыбіні душы нараджаць сумненні: маўляў, мне ад той славы дасталося незаслужана мала…

Тое, што зроблена, — кімсьці больш здольным і таленавітым, настойлівым і працалюбівым, — зроблена: адзін раз і назаўсёды! А калі меў хто-кольвечы з нас дачыненні да тых, насамрэч вялікіх і велічных спраў і здзяйсненняў — ці то як трэнер-настаўнік, ці то як кіраўнік ці «летапісец»-журналіст, таксама, як правіла, не аказаўся абдзеленым: ні той жа славай, ні тымі ж грашамі, ні тымі ж дзяржаўнымі ўзнагародамі і ўшанаваннямі.

У гісторыі, у тым ліку і ў спартыўным летапісе — павінна застацца ўсё лепшае, велічнае, насамрэч грандыёзнае! Бруд і звядзенне рахункаў — гэта не лепшыя праявы маральнага аблічча кожнага з нас…

Вольга Корбут… З тых эпітэтаў-параўнанняў, што прыведзены вышэй, і з многіх іншых, таксама адрасаваных ёй, мне асабіста радаваў і радуе душу і сэрца адзін — «цуд з коскамі». Бо нават ад аднаго толькі згадвання гэтых слоў паўставала і да сённяшняга дня паўстае ў памяці ўсё тое, што вырабляла яна на гімнастычным памосце… «Цудам з коскамі» («чудом с косичками») шматкрат называлі яе ў беларускамоўным і рускамоўным перыядычным друку, перадачах тэлебачання і радыё мае сябры і калегі, вядомыя спартыўныя журналісты Міхаіл Мікалаевіч Супанеў, Ніна Пракаповіч, Іосіф Калюта, Валерый Холад… Прама ў вочы назваў яе «цудам з коскамі» аднаго разу і я, і бачылі б вы тады шчаслівы і такі непадробна радасны выраз яе твару!

…У вялікі спорт яна не ўвайшла, а ў прамым сэнсе слова ўварвалася — у насцеж расчыненыя дзверы.

Савецкая спартыўная гімнастыка, славутая на ўвесь свет, тады перажывала не самыя лёгкія часы: адбывалася змена пакаленняў. Месцы слынных алімпійскіх чэмпіёнак і шматразовых чэмпіёнак свету Ларысы Латынінай, Паліны Астахавай, Соф'і Муратавай, Тамары Манінай, Алены Валчэцкай, Людмілы Громавай і іншых у нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза павінны былі заняць не менш, а, можа, нават больш таленавітыя, амбітныя і працалюбівыя прадстаўніцы не тое што маладога, а зусім яшчэ юнага пакалення гімнастак. Іх шукалі, знаходзілі, рыхтавалі і, так бы мовіць, перадавалі ў рукі высокакваліфікаваных трэнераў і спецыялістаў у вялікія гарады — цэнтры гімнастычнага спорту — звычайныя настаўнікі і выкладчыкі, трэнеры-аматары і пачынаючыя спецыялісты гімнастыкі.

Перадавалі з адной-адзінай мэтай і задумай: падтрымаць і прадоўжыць сусветную славу савецкай школы спартыўнай гімнастыкі.

Беларускі горад Гродна тады ў прамым сэнсе слова жыў гімнастычнай славай Алены Валчэцкай — алімпійскай чэмпіёнкі 1964 года ў камандных спаборніцтвах. Пакінуўшы неўзабаве пасля Алімпіяды ў Токіо вялікі спорт, Алена Уладзіміраўна не кінулася ў пошукі лёгкага хлеба, а засталася — на гэты раз у ролі трэнера — там жа, у гімнастычнай зале абласнога савета дабраахвотнага спартыўнага таварыства «Чырвоны сцяг».

А некалькі раней, яшчэ ў 1962-м, на заняткі ў секцыю гімнастыкі трапіла сямігадовая Волечка Корбут. Убачыла, паспрабавала і — спадабалася ёй тут. Праўда, праз паўгода трэнер сказала катэгарычна і адназначна: нічога з цябе не атрымаецца… Маўляў, занадта ты тоўсценькая…

Аднак неўзабаве ў школе, дзе вучылася Корбут, аўральным парадкам збіралі каманду для выступлення на нейкім гарадскім турніры. Хтосьці згадаў, што Оля ўмее што-кольвечы рабіць. Паклікалі, праверылі — уключылі для ўдзелу ў тым мерапрыемстве. Яно і стала для дзяўчынкі лёсавызначальным: менавіта тады і ўбачыла яе Алена Валчэцкая.

Пасля году заняткаў, восеньскім днём 1965-га, алімпійская чэмпіёнка Алена Валчэцкая паказала сваю вучаніцу свайму быламу трэнеру Рэнальду Кнышу. Паказала і сказала: «З яе атрымаецца выдатная гімнастка!»

Тое ж, што атрымалася з Вольгі Корбут, вы ўжо ведаеце!

Праблем і пытанняў, якія, здавалася, вырашыць практычна немагчыма, на пачатку было больш чым дастаткова. І галоўнае

сярод іх адно: трэнер настойвае на захаванні рэжыму харчавання, мама — непакоіцца за здароўе дачкі… Рэнальд Іванавіч настойліва пераконвае, што ўсё пад кантролем урача, і Валянціна Іванаўна нарэшце пагаджаецца: вам, маўляў, лепш відаць, дарогі назад ужо няма…

Мама на тое і мама, каб лепш, чым хто іншы, ведаць характар дачкі, адчуваць яе памкненні!

Праз пяць гадоў на чэмпіянаце Савецкага Саюза ў Растове-на-Доне ў парадку выключэння да спаборніцтваў была дапушчана 15-гадовая школьніца з Гродна Вольга Корбут. Арганізатары і спецыялісты вельмі доўга спрачаліся наконт эксперыменту, а апошняе слова было за тагачасным бясспрэчным аўтарытэтам у савецкай і сусветнай спартыўнай гімнастыцы Ларысай Латынінай. Яна і дала дабро.

Падчас выступлення — спачатку на бервяне, а потым — на брусах — вакол гімнастычных снарадаў і на трыбуне ў спартыўнай зале насупраць іх сабраліся ледзь ці не ўсе трэнеры і аматары спорту. Хтосьці ад самога Рэнальда Кныша, хтосьці ад іншых удзельніц спаборніцтваў пачуў і, натуральна ж, сказаў знаёмым аб тым, што «нейкая Корбут — вундэркінд з Гродна» пакажа штосьці арыгінальнае… І яна насамрэч паказала: на бервяне — «сальта ў групоўцы», на брусах — «мёртвую пятлю»…

Тады і загаварыў спартыўны свет: на гімнастычным небасхіле загараецца «зорка» прадстаўніцы новай хвалі. Праз два гады — ўсяго толькі праз два! — тыя элементы з разраду «ультра-сі» будуць проста бліскуча выкананы на ХХ Алімпійскіх гульнях у Мюнхене (1972), і сусветныя гімнастычныя аўтарытэты аднагалосна прысвояць ім афіцыйныя назвы — «сальта Корбут» і «пятля Корбут»!

Наколькі нам вядома, на сённяшні дзень такіх «імянных» спартыўных элементаў-трукаў у жаночай і мужчынскай гімнастыцы ўсяго з дзесятак, не больш!

Дарэчы, трукі — трукамі, а трапіць у склад алімпійскай зборнай было вельмі няпроста. Якраз тады, на працягу 1970—1972 гадоў, і прайшоў працэс змены пакаленняў у жаночай гімнастыцы, пра які мы ўжо згадвалі вышэй. Зінаіда Дружыніна (Вароніна), Вольга Карасёва, Ларыса Петрык, Наталля Кучынская, Людміла Турышчава, Любоў Бурда, Тамара Лазаковіч, Ніна Дронава, Антаніна Кошаль, Эльвіра Саадзі і яна, Вольга Корбут, 17-гадовая навабранка каманды, — гэтыя таленавітыя

і па-свойму непаўторныя, арыгінальныя спартсменкі, змяняючы адна адну, дыктавалі моду ў зборнай Савецкага Саюза і, за выключэннем хіба што Турышчавай і Лазаковіч, дзвюх абсалютных чэмпіёнак Еўропы-1971, мелі практычна роўныя шанцы заваяваць шэсць пуцёвак на Гульні ў Мюнхен.

Вакантных месц шэсць, а прэтэндэнтак — роўна ў два разы больш!

Рэнальд Кныш кожны дзень навучаў Вольгу: ты павінна быць на галаву вышэй іх! І не проста казаў, а на кожнай трэніроўцы, па некалькі разоў у дзень, шліфаваў разам з ёй кожны элемент, кожны рух — на бервяне і брусах, у апорным скачку і вольных практыкаваннях…

Мюнхенскі «Шпортхале» стаў месцам сапраўднага трыумфу юнай беларускай спартсменкі. «Зала рэагавала на кожны мой рух проста фантастычна! — скажа яна потым, пасля вяртання ў родную Беларусь. — Я нават не разумела: за што такая вялікая падтрымка?! Побач жа выступалі іхнія, нямецкія куміры: Карын Янц, Эрыка Цухальд… Але, відаць, у гімнастыцы прысутныя разбіраліся вельмі і вельмі тонка!»

Адразу тры залатыя алімпійскія ўзнагароды: за камандныя спаборніцтвы, у практыкаваннях на бервяне і вольных практыкаваннях — плюс серабро за выступленне на брусах — такі ўраджай на турніры ў «Шпортхале» не сабраў ніводзін гімнаст! За выключэннем яе — «цуда з коскамі» з беларускага горада Гродна…

Сусветна вядомай яна стала яшчэ там, у Мюнхене. Дзесяткі інтэрв'ю, фота-, тэле- і кіназдымак. Сапраўднае мора кветак, тысячы ўсмешак, абдымкаў, поціскаў рук… Як сапраўднага «пасла міру» і «дзіця планеты» яе запрашалі і неверагодна гасцінна, шчыра і па-чалавечы з любоўю сустракалі не толькі ў Маскве, Мінску і Гродна, але і далёка за межамі Бацькаўшчыны. А як шчыра і непадробна любілі яе і ганарыліся ейнымі выступленнямі там, за акіянам! Тагачасны прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Рычард Ніксан наладзіў ёй грандыёзны прыём у Белым доме, а фотаздымак, на якім адлюстраваны прэзідэнт і Вольга Корбут з бакаламі шампанскага ў руках, абышоў тады ўсе без выключэння буйныя газеты свету!

Усе, за выключэннем… нашых, савецкіх: распіццё шампанскага з кіраўніком «варожай» дзяржавы не тое што маладым спартсменам (нагадаем: Вользе было тады крыху больш сямнаццаці!), а нават сталым людзям і з куды больш высокай рэпутацыяй, было проста забаронена. Хутчэй за ўсё — з так званых ідэалагічных меркаванняў…

Была ў яе бліскучай спартыўнай біяграфіі і яшчэ адна Алімпіяда — 1976 года. Без скідак на ранейшыя заслугі, а ў выніку ўпэўненых перамог на чэмпіянатах свету і Савецкага Саюза 1974—1975 гадоў яна пацвердзіла сваё законнае права на месца ў зборнай СССР. Але… За некалькі дзён да выхаду на памост у Манрэалі адчуўся некалі траўміраваны галенастоп. У складзе зборнай краіны яна атрымала яшчэ адзін залаты алімпійскі медаль, а вось у практыкаваннях на асобных снарадах скласці канкурэнцыю той жа Людміле Турышчавай, Нэлі Кім, румынцы Надзі Каманэчы, Карын Домбэк з ГДР проста не дазволіла старая траўма.

У 1978-м Вольга Корбут пакінула вялікі спорт. Быць на другіх ролях яна проста не пажадала… Такі ўжо быў у яе характар — спартыўны, алімпійскі!

Такім, уласна кажучы, ён і застаўся ў Вольгі Валянцінаўны і пасля развітання з гімнастычным памостам. Стаць трэнерам, каб перадаць свой, такі багаты, вопыт іншым, спадкаемцам па той жа зборнай, у яе ці то не хапіла ведаў — спецыяльных, педагагічна-выкладчыцкіх, ці то настойлівасці… А можа, жадання: ведала ж, што гэта такое — трэнерскі хлеб!

…З 1989 года Вольга Корбут жыве і працуе ў Злучаных Штатах Амерыкі.



## *Тамара Лазаковіч:*

# ТРЫУМФ З ГОРКІМ ПРЫСМАКАМ

*Тамара Лазаковіч нарадзілася 11 сакавіка 1954 года ў сяле Гусева Калінінградскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XX Алімпійскіх гульняў у Мюнхене (1972) па спартыўнай гімнастыцы ў камандных спаборніцтвах, сярэбраны прызёр у практыкаваннях на бервяне, бронзавы — у мнагаборстве і вольных практыкаваннях. Чэмпіёнка свету 1970 года ў камандных спаборніцтвах. Чэмпіёнка Еўропы 1971 года ў асабістым першынстве, практыкаваннях на бервяне і брусах. Уладальніца Кубка Еўропы ў практыкаваннях на бервяне. Першы трэнер — Вікенцій Дзмітрыеў.*

…Для беларусаў гэта была проста унікальная магчымасць убачыць на свае вочы зорак еўрапейскай спартыўнай гімнастыкі: у 1971-м у Мінскім Палацы спорту праходзіў чарговы чэмпіянат кантынента сярод жанчын. Роўна за год да Алімпійскіх гульняў у Мюнхене ён стаў, па-сутнасці, адным з апошніх этапаў праверкі «баявой гатоўнасці» нацыянальных зборных еўрапейскага кантынента перад барацьбой за галоўныя ўзнагароды апошняга чатырохгоддзя — алімпійскія. Каманды тагачаснай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Румыніі, некаторых іншых краін і, вядома ж, Савецкага Саюза перш за ўсё прыглядаліся адна да адной, імкнучыся ўбачыць навінкі ў праграмах асноўных канкурэнтак за будучыя ўзнагароды Мюнхена, мелі намер даць сваім лідэрам магчымасць адчуць атмасферу будучых, такіх важных, спартыўных баталій.

Галоўны трэнер савецкай зборнай Ларыса Латыніна з кандыдатурамі дзвюх абавязковых удзельніц еўрапейскага першынства

вызначылася задоўга да старту. Нумарам першым у яе значылася, безумоўна, Людміла Турышчава — новая, узыходзячая зорка сусветнага маштабу, ад якой усе з вялікім нецярпеннем чакалі перамог і толькі перамог! І яна — дзяўчына з неверагодна моцным характарам, ад прыроды таленавітая, гордая і нават высакамерная (зоркі маюць і на гэта права!) — спаўна апраўдвала так нечакана выпаўшае на яе долю прызначэнне сапраўднага лідэра, упэўнена вяла за сабой сяброўак па камандзе ад аднаго старту да другога. Гэта менавіта Турышчава на папярэднім чэмпіянаце свету, 1970 года, задала тон упэўненаму, практычна без памылак выступленню зборнай Савецкага Саюза, у якой, да гонару беларускай школы спартыўнай гімнастыкі, тады выступалі тытулаваная ужо залатым алімпійскім медалём Гульняў 1968 года прадстаўніца Віцебска Ларыса Петрык і зусім юная, 15-гадовая дэбютантка Вольга Корбут з Гродна.

Зборная СССР заслужана заваявала тады залатыя ўзнагароды, аднак на наступны год у ёй пачаліся кардынальныя перамены. Знізіўшы майстэрства, а больш за ўсё — не вытрымаўшы канкурэнцыі з боку зусім яшчэ юных, але ж такіх амбіцыйных дзўчатак, першымі выбылі з галоўнай каманды краіны Вольга Карасёва і, на жаль, Ларыса Петрык. Затое, услед за Корбут, у ёй дэбютавалі адна за другой яшчэ дзве беларускія спартсменкі, зусім нікому не вядомыя на міжнароднай арэне, — спачатку 17-гадовая Тамара Лазаковіч з Віцебска, а потым і яе аднагодка Антаніна Кошаль з Мінска. Адразу тры выхаванкі беларускай фізкультурна-спартыўнай арганізацыі былі занатаваны ў спіс асноўных прэтэндэнтак на падрыхтоўку для паездкі ў алімпійскі Мюнхен. Праўда, для гэтага ім і іхнім трэнерам многа патрэбна было яшчэ зрабіць, і перш за ўсё — удасканаліць свае і без таго суперскладаныя праграмы, адшліфаваць іх, давесці, як кажуць самі спартсмены, да аўтаматызму. І, вядома ж, праверыць іх на спаборніцтвах як мага высокага рангу, напрыклад такога, як еўрапейскае першынство…

Вольга Корбут у выніку настойлівых просьбаў яе трэнера Рэнальда Кныша больш рыхтавалася па індывідуальнай праграме. Тамара ж Лазаковіч пераважна знаходзілася пад пільным вокам як свайго першага настаўніка Вікенція Дзмітрыева, так і галоўнага трэнера зборнай Ларысы Латынінай. А каб яшчэ раз пераканацца ў патэнцыяльных магчымасцях віцебскай школьніцы, Ларыса Сямёнаўна і вырашыла даверыць ёй месца другога нумара савецкай каманды для выступлення на чэмпіянаце Еўропы — 1971.

ды і гаспадароў еўрапейскага першынства — беларускіх аматараў спартыўнай гімнастыкі — настаўнік зборнай СССР проста не хацела крыўдзіць…

Тыя выступленні савецкіх спартсменак Людмілы Турышчавай і Тамары Лазаковіч на арэне Мінскага Палаца спорту праходзілі пад суцэльную, шматгалосую авацыю і апладысменты, якія не сціхалі ні на імгненне. Высокае выканаўчае майстэрства плюс неўтаймоўнае імкненне і першай, і другой спартсменак да вышэйшай ступенькі еўрапейскага п'едэстала гонару не толькі радавалі аматараў спорту, але і… прывялі ў пэўную разгубленасць суддзяў. Надоўга задумваліся яны над адзнакамі для Турышчавай і Лазаковіч, а пасля выступленняў іх на тым ці іншым спартыўным снарадзе — раіліся-спрачаліся: чыя ж праграма больш дасканалая, складаная, сучасная па патрабаваннях?.. Вердыкт служыцеляў Феміды тады, памятаецца, прыйшоўся даспадобы і самім удзельніцам кантынентальнага першынства, і спецыялістам, і аматарам спартыўнай гімнастыкі: першае месца ў спрэчцы за тытул абсалютнай чэмпіёнкі Еўропы было прысуджана адразу дзвюм гімнасткам — Людміле Турышчавай і Тамары Лазаковіч!

Дадаўшы гэта высокае званне да атрыманага раней тытула абсалютнай пераможцы Спартакіяды народаў Савецкага Саюза таго ж, 1971 года, віцебская школьніца надзейна замацавалася ў радах нацыянальнай зборнай. Як кажуць у такіх выпадках, шлях на Алімпіяду быў адкрыты!

Да Гульняў яна была падрыхтавана проста бліскуча. Нястомны, такі «бяскрайні» на прыдумванне новых цэлых камбінацый і асобных элементаў іх, Вікенцій Дзмітрыевіч Дзмітрыеў у штодзённай, па некалькі гадзін, працы з Тамарай адчуваў самае звычайнае задавальненне. Яна так і казала свайму настаўніку: «Я гатова выконваць усё, што вы толькі не прапануеце!» І ён — прапаноўваў, а яна — выконвала…

У Мюнхен не ехалі — ляцелі на крылах! І наўрад ці хто разлічваў, што стане Алімпіяда трыумфам з горкім прысмакам.

Пры ўсёй велічы Ларысы Латынінай як Спартсменкі з вялікай літары (выступаючы на трох запар Алімпіядах — 1956, 1960 і 1964 гадоў яна заваявала дзевяць (!) залатых узнагарод), яна, больш чым дасканала ведаючы спорт, і ў першую чаргу — спартыўную гімнастыку, так бы мовіць, знутры, у сваёй такой жа бліскучай трэнерскай дзейнасці аддавала прыярытэт выступленням у камандным першынстве. У адной са сваіх шматлікіх кніг Ларыса Сямёнаўна потым пісала:

«Команда — неизмеримо больше, чем шесть хороших гимнасток. …Как бы ни менялся ее состав, кто бы ни стоял на правом и левом флангах, традиции сборной страны сохраняются: собрать все силы для команды. Когда тебе невыносимо трудно, нужно найти еще капельку воли, мужества, злости…»

Каб лепш зразумець, пра што, як кажуць, размова, згадаем ход барацьбы за вышэйшыя ўзнагароды на алімпійскім турніры — 1972 у Мюнхене.

У незвычайна вострай барацьбе за тытул абсалютнай чэмпіёнкі Гульняў да самага апошняга моманту лідзіравала Тамара Лазаковіч. Пасля абавязковай праграмы яна 0,1 бала выйгравала ў Карын Янц з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і 0,2 — у Людмілы Турышчавай. Аднак на наступны дзень — так ужо быў складзены рэгламент спаборніцтваў — калі падчас выканання адвольнай праграмы вырашаўся лёс каманднага першынства, яна і павінна была ў інтарэсах каманды, па-сутнасці, пагадзіцца са сваім… паражэннем. Вось што пісала Ларыса Латыніна далей:

«В Мюнхене Тамара уступает заранее. Кому? Команде! В произвольной программе мы не имели права исполнять больше четырех одинаковых прыжков из двенадцати (каждая участница прыгает дважды). Четыре хорошо разученных прыжка “сгиб — разгиб” достались Элле Саади, Люде Турищевой, и два — Оле Корбут. У Тамары очень сложный, новый прыжок — переворот вперед с поворотом в триста шестьдесят градусов…»

Першы і адзіны, такі горача любімы вучаніцай настаўнік Вікенцій Дзмітрыеў, які таксама прысутнічаў на Алімпіядзе, стрымана, аднак з пэўнай роспаччу, падбягае да Латынінай: маўляў, трэба падстрахавацца, дайце ёй дазвол на «згіб — разгіб» — усё ж такі лідэр!

«Прав ли он? — разважала потым Ларыса Сямёнаўна. — Вероятно… Ведь Дмитриев просит не только за ученицу, но и за лидера Олимпиады! Но это будет пятый одинаковый прыжок, и с командного результата снимут 0,3 балла. Конечно, потом, после победы, можно сказать: что там были эти три десятых — вон сколько выиграли. Но тогда рисковать командой не стали…»

Адным словам, дазвол Латыніна не дала… Пераварот наперад з паваротам у трыста шэсцьдзесят градусаў — новы элемент з разраду «ультра-сі» — двойчы Тамары не ўдаўся: па-першае, занадта складаны ён быў, па-другое — яна ж была,

нагадаем, лідэрам... У выніку ж недабраныя ўсяго толькі некалькі сотых бала перамясцілі яе на канчатковае трэцяе месца ў алімпійскім шматборстве…

Словы ж Ларысы Сямёнаўны з яе кнігі аб тым, што тыя сотыя бала былі «страчаны свядома, дзеля каманды», я асабіста і да сённяшняга дня ўспрымаю як самы звычайны здзек усемагутнай і, як не адзін раз сведчылі мне потым самі гімнасткі, надзвычай крутой і капрызнай Латынінай-трэнера… Здзек з адной з падначаленых, адной з самых таленавітых гімнастак сямідзесятых гадоў XX стагоддзя!

…Кніга Латынінай была напісана напрыканцы 1970-х, так што наступныя некалькі слоў: «Я до сих пор чувствую себя виноватой перед Тамарой…» — хоць у нейкай меры, хоць бы з маральнага пункту гледжання расстаўляюць кропкі над «і».

Толькі каму тое было патрэбна: алімпійскі п’едэстал быў ужо «падзелены» …

Вікенцій Дзмітрыеў словы для суцяшэння тады знайшоў толькі адны: маўляў, не перажывай — наперадзе «твая» Алімпіяда — у 1976-м у Манрэалі…

Аднак… У 18-гадовым узросце яна проста не магла цярпець несправядлівасць, прыніжэнне, зняважі. Будзем аб’ектыўнымі: з другога боку, і «зорная хвароба» авалодала Тамарай надта ўпэўнена. На жаль, беспаваротна… І літаральна ў наступным, 1973-м, яна развіталася з вялікім спортам!

У 38-гадовым узросце Тамара Васільеўна Лазаковіч наогул пакінула гэты свет…



## *Антаніна Кошаль:*

## ДАЛУЧЭННЕ ДА ЗОРАК

*Антаніна Кошаль нарадзілася 20 лістапада 1954 года ў горадзе Смалявічы Мінскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Заслужаны трэнер Беларусі. Чэмпіёнка XX Алімпійскіх гульняў (1972) у Мюнхене па спартыўнай гімнастыцы ў камандных спаборніцтвах. Чэмпіёнка Спартакіяды народаў Савецкага Саюза 1975 года, бронзавы прызёр Спартакіяды-1971. Узнагароджана медалём «За працоўную адзнаку». Першыя трэнеры — Віталь Зіцірман і Віктар Хамутоў.*

З выдатным беларускім трэнерам па спартыўнай гімнастыцы Віктарам Хамутовым лёс зводзіў Антаніну Кошаль двойчы. Прычым, скажам так, па справах, адна ад другой вельмі і вельмі нават далёкіх. І вось як тое было…

У 1965 годзе ў харэаграфічную студыю-вучылішча пры сталічным Тэатры оперы і балета выказала намер паступіць дзесяцігадовая дзяўчынка з правінцыяльных Смалявіч Тоня Кошаль. Хацець не забаранялася нічога і ніколі, калі ласка: дэманструй свае здольнасці і першае ўмельства, даказвай, што ты — не лыкам шытая, а кампетэнтная прыёмная камісія вызначыць, ёсць ці не ў цябе боская іскрынка… Два адборачныя туры Тоня мінавала паспяхова, а вось пасля трэцяга пачула вердыкт, які проста ашаламіў: маўляў, не для балета ты, дзяўчынка, народжана…

Расчараванню (ды яшчэ ў такім, дзіцячым узросце!) не было мяжы. Паплакала, пагаравала, ды што зробіш — не лёс… І пайшла дзяўчынка ў родных Смалявічах у секцыю спартыўнай гімнастыкі, у якой тады займаўся са сваімі юнымі выхаванкамі добры, шчыры і спагадлівы настаўнік Віталь Зіцірман.

Але ж пры чым тут Віктар Хамутоў?

Падчас работы прыёмнай камісіі харэаграфічнай студыі-вучылішча ў яе складзе быў трэнер па спартыўнай гімнастыцы Мінскай школы-інтэрната спартыўнага профілю Віктар Сяргеевіч Хамутоў. Просьбу-заданне балетных свяціл-спецыялістаў ён выконваў вельмі вузкую і спецыфічную: ацэньваў скаардынаванасць дзяўчынак, іх гнуткасць і фізічны патэнцыял. Цяжка меркаваць, меў ці не ён адносіны да таго, што юная Кошаль тады, у 1965-м, у Тэатры оперы і балета атрымала ад варот паварот…

Цяжка здагадвацца, давала ці не галаўны боль яму тое рашэнне, аднак літаральна праз два гады Хамутоў успомніў пра Тоню. І не проста ўспомніў, а сабраўся ў дарогу і прыехаў у Смалявічы… Грунтоўна і аргументавана, што называецца, па душах пагутарыўшы спачатку з бацькамі, а потым — і з самой дзяўчынкай, Віктар Сяргеевіч запрасіў сярэднюю з пяці дачок Кошаль да сябе, у сталічную школу-інтэрнат спартыўнага профілю.

Такім чынам, асвоіўшы на працягу двух гадоў самыя першыя азы спартыўнай гімнастыкі пад кіраўніцтвам Віталя Зіцірмана, Тоня Кошаль у трынаццацігадовым узросце трапіла ў рукі самага што ні ёсць спецыяліста-прафесіянала Віктара Хамутова.

Яшчэ праз тры гады, у 1970-м, Віктар Хамутоў рызыкнуў паказаць сваю здольную і працавітую вучаніцу шырокай спартыўнай грамадскасці: яны вырашылі выступіць на маладзёжным чэмпіянаце Савецкага Саюза. Ведалі, што крок адчайны: тады ў савецкай спартыўнай гімнастыцы ва ўзросце ад 13—15-ці  і да 23-х гадоў, дазволеных рэгламентам прымаць удзел у такіх спаборніцтвах, не тое што талентаў, а ўжо і зорак самай першай велічыні было больш чым дастаткова… Але ж кажуць у народзе: хто не рызыкуе, той не п’е шампанскае! Шампанскага — самага сапраўднага! — пасля таго чэмпіянату Хамутоў, мабыць, выпіў не адну бутэльку, і не дзіва: яго юная вучаніца Тоня Кошаль выйграла на «маладзёжцы» адразу тры залатыя ўзнагароды!

Тагачасны галоўны трэнер зборнай Савецкага Саюза Ларыса Сямёнаўна Латыніна — непаўторная ў недалёкім мінулым прыма спартыўнай гімнастыкі, а на той час (у лепшым сэнсе слова) — дыктатар і адзінаасобны вырашальнік спартыўна-гімнастычных лёсаў, уважліва пасачыўшы за практычнымі дзеяннямі Антаніны на кожным з гімнастычных сна-

радаў, вынесла свой вердыкт: рыхтуем да Алімпіяды! Аднак словы трэнера — словамі, а канчаткова вызначыць свой лёс магла толькі сама Кошаль — на штодзённых, па некалькі гадзін запар, трэніроўках…

У савецкай алімпійскай зборнай 1972 года 18-гадовая беларуская гімнастка аказалася ў самым сапраўдным сузор'і гімнастычных зорак. Адзін пералік іхніх імёнаў прымушаў самага дасведчанага і прыдзірлівага аматара і знаўцу спартыўнай гімнастыкі зняць перад імі капялюш. Мяркуйце самі: Людміла Турышчава, Вольга Корбут, Тамара Лазаковіч, Любоў Бурда, Эльвіра Саадзі… Іх аўтарытэт і прызнанне, здабытыя талентам і Боскім дарам, памножаным на працавітасць і настойлівасць, насамрэч былі прызнанымі ва ўсім свеце. Не менш ганаровае, шостае месца ў гэтым зорным калектыве было заслужана аддадзена Антаніне Кошаль, дарэчы, трэцяй прадстаўніцы беларускай школы спартыўнай гімнастыкі. Ні да таго часу, ні пасля такога шырокага прадстаўніцтва ў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза не мела ніводная гімнастычная школа! За выключэннем нашай, беларускай!..

На мюнхенскім алімпійскім гімнастычным памосце Антаніне Кошаль была адведзена надзвычай адказная роля — выступаць падчас каманднага першынства першай. Гэта значыць, быць так званай «забойшчыцай». Менавіта з яе выступленняў у вольных практыкаваннях і на бервяне суддзі пачыналі фарміраваць свае ўяўленні аб гатоўнасці савецкай зборнай у цэлым весці барацьбу за алімпійскае золата. Так, менавіта за золата і толькі за золата — іншай задачы перад тым слынным калектывам і не стаяла! І наша маладая зорачка тады, што называецца, не здрэйфіла…

Апярэдзіўшы на 3,95 бала каманду Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, зборная Савецкага Саюза ўзнялася тады за залатымі медалямі каманднага першынства на вышэйшую ступеньку п'едэстала гонару. Якой была вартасць тых балаў, можна зрабіць выснову вось з такога параўнання: у шматборстве Антаніна Кошаль набрала 74,2 бала і заняла толькі 16-е месца, адстаўшы ад залатога прызёра — усё той жа Людмілы Турышчавай, на 2,825 бала… Менш трох балаў, а паміж імі «размясціліся» ажно 14 (!) саперніц!

Балы, як бачым, на галоўных сусветных спаборніцтвах — Алімпійскіх гульнях — так проста не даюцца… Тым не менш, зрабіўшы сваю справу, наша спартсменка заслужана далучыла сваё імя да славы тагачасных гімнастычных зорак!



## *Нэлі Кім:*

# КАМУ І КІМ ДАВОДЗІЦЦА... КІМ?!

*Нэлі Кім нарадзілася 29 ліпеня 1957 года ў горадзе Шураб (Таджыкістан). Заслужаны майстар спорту СССР. Пяціразовая алімпійская чэмпіёнка па спартыўнай гімнастыцы: пераможца XXI Гульняў у Манрэалі (1976) у камандных спаборніцтвах, вольных практыкаваннях і апорным скачку, XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) у камандных спаборніцтвах і вольных практыкаваннях. Сярэбраны прызёр XXI Алімпійскіх гульняў у мнагаборстве. Чэмпіёнка свету 1974 года ў камандных спаборніцтвах. Абсалютная чэмпіёнка свету 1979 года, сярэбраны прызёр у камандных спаборніцтвах. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету 1974 года ў мнагаборстве. Двухразовая чэмпіёнка Еўропы 1975 і 1977 гадоў. Трохразовая пераможца Спартакіяды народаў СССР 1975 года. Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь. Узнагароджана двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга. Першы трэнер — Уладзімір Байдзін.*

Другая палова сямідзесятых гадоў XX стагоддзя ў спартыўнай гімнастыцы названа эпохай савецкай спартсменкі Нэлі Кім і румынскай гімнасткі Надзі Камэнэчы. Змяняючы адна другую на алімпійскім, сусветным і еўрапейскім п’едэсталах гонару, яны, здаецца, толькі і рабілі, што дзялілі паміж сабой выключна залатыя ды сярэбраныя ўзнагароды. Спартыўнай жа грамадскасці іншага і не трэба было, і мільёны аматараў гімнастыкі, і спецыялісты ды трэнеры спаўна атрымлівалі асалоду ад іхняга непаўторнага, вышэйшай якасці выканаўчага майстэрства.

Калі ўважліва прасачыць спартыўны лёс Нэлі Кім, нейкіх асаблівых штрыхоў у ім наўрад ці знойдзеш. І найперш — на

пачатку гімнастычнай кар'еры. Ёй ішоў ужо дзесяты год, калі даведалася, што ў Чымкенцкай гарадской дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе, што ў Казахстане (там тады жыла сям'я Кім), вядзецца набор у секцыю гімнастыкі. Як і яе юныя сяброўкі, нясмела пастукалася ў дзверы, пераступіла парог спартыўнай залы… Трэнер Уладзімір Байдзін гасцінна запрасіў іх у памяшканне, падоўгу пагутарыў з кожнай. Прапанаваў дзяўчаткам зрабіць «масток», паспрабаваць сесці на шпагат… У адных атрымалася, у іншых — не. Аднак ніводнай з іх беспадстаўна не адмовіў: адбор адбыўся потым, што называецца, сам па сабе…

З самага пачатку наведвання заняткаў юная Нэлі Кім за справу ўзялася самым сур'ёзным чынам. Менш чым праз год на самым складаным гімнастычным снарадзе —тбрусах вырабляла такія элементы і трукі, што ў іншых дух займала! А ёй — хоць бы што: гарэзліва смяецца ды зноў бяжыць да іншых снарадаў...

Таленавіты і ўдумлівы спецыяліст Уладзімір Байдзін бачыў і адчуваў: звычайная гімнастычная праграма неўзабаве можа стаць Нэлі проста не цікавай. Не адзін вечар правёў ён за спецыяльнай спартыўнай літаратурай, шукаючы для яе новыя, больш складаныя гімнастычныя элементы. Дзяўчынка ж, у сваю чаргу, з ранейшай ахвотай і задавальненнем бралася за іх развучванне і засваенне. І вынікі пайшлі адзін за другім. Праз тры гады заняткаў Кім была ўжо кандыдатам у майстры спорту, выйграла спаборніцтвы па праграме Спартакіяды школьнікаў Казахстана… У 14-гадовым узросце Нэлі стала пятай на маладзёжным чэмпіянаце Савецкага Саюза і ўпершыню звярнула на сябе ўвагу спецыялістаў і трэнераў са зборнай краіны.

Падрыхтаваўшы разам са сваёй вучаніцай даволі складаную і арыгінальную праграму, Уладзімір Байдзін выхад яе на шырокую спартыўную арэну фарсіраваць не спяшаўся. Тады, у першай палове 1970-х гадоў, на ўсесаюзнай і міжнароднай арэнах непадзельна гаспадарылі зоркі сусветнай велічыні — нашы суайчынніцы Людміла Турышчава і Вольга Корбут. І, калі казаць шчыра, на іхнім, так бы мовіць, фоне можна было выглядаць самай звычайнай, нічым не адметнай…

Іншая справа — спаборніцтвы на юнацкім і маладзёжным узроўнях. Спаборнічаючы са сваімі юнымі канкурэнткамі, Нэлі Кім не толькі выйгравала турнір за турнірам, але і набіралася

вопыту, вучылася валодаць сабой — асабліва падчас зрываў ці няўдалага выканання таго ці іншага складанага элемента, што ў гімнастыцы, як вядома, рэч самая што ні ёсць звычайная.

Летам 1974 года імя Кім прагучала нарэшце і ў «кампаніі» савецкіх зорак спартыўнай гімнастыкі. На розыгрышы Кубка Савецкага Саюза ў Вільнюсе, спачатку разгубіўшыся і сарваўшы некалькі камбінацый падчас выступлення на бервяне і брусах, 17-гадовая гімнастка з Чымкента на наступных снарадах сабралася-такі з сіламі і ў прамым сэнсе слова ўварвалася ў эліту: суддзі заслужана і заканамерна аддалі ёй другое месца — ўслед за самой Людмілай Турышчавай, адсунуўшы на трэці радок саму Вольгу Корбут. Яе адразу ж уключылі ў склад нацыянальнай зборнай краіны і даверылі выступленне на чарговым чэмпіянаце свету.

На сусветным першынстве 1974 года ў балгарскім курортным горадзе Варна саперніц у савецкіх гімнастак у чарговы раз не аказалася: іх суперэлітны склад адолець нікому не было па сілах. Разам з зоркамі нашай зборнай залаты медаль чэмпіёнкі за перамогу ў камандных спаборніцтвах атрымала і Нэлі Кім. Больш таго, і ў шматборстве яна адсунула ад п’едэстала гонару многіх куды больш вопытных і сталых гімнастак і ўпэўнена ўзышла на яго трэцюю, «бронзавую» ступеньку, першую ж і другую занялі, як і чакалася, Людміла Турышчава і Вольга Корбут!

Вось у такой кампаніі і ўвайшла яна ў вялікую, сусветнага ўзроўню гімнастыку. Зоркі неўзабаве развіталіся са спортам, а лідэрам міжнароднага гімнастычнага памоста заслужана і заканамерна стала яна — вучаніца Уладзіміра Барысавіча Байдзіна Нэлі Кім.

Вяршыняй яе выступленняў сталі, безумоўна ж, Гульні XXI Алімпіяды 1976 года ў Манрэалі. Тры залатыя ўзнагароды — за выступленні ў камандных спаборніцтвах, вольных практыкаваннях і апорным скачку — Кім выйграла ў вострай і бескампраміснай спрэчцы са сваімі ранейшымі тытуляванымі саперніцамі — Людмілай Турышчавай, Вольгай Корбут, Надзяй Камэнэчы. Будзем аб’ектыўнымі: тады гэта слынная тройца зразумела, што іхні час ужо мінуў…

А наступіў яе, Нэлі Кім, час панавання на міжнароднай спартыўнай арэне!

Неўзабаве пасля манрэальскага трыумфу жыццёвыя абставіны вымусілі славутую гімнастку памяняць месца жыхарства,

і яна пераехала ў сталіцу Беларусі. Мінск сустрэў яе прыветліва і гасцінна, а працаваць з Нэляй далей даў згоду вядомы ў мінулым беларускі гімнаст, сярэбраны прызёр XVII Алімпійскіх гульняў 1960 года ў Рыме Мікалай Мілігула. Спартсменцы былі створаны проста ідэальныя ўмовы для жыцця і трэніровак. І яна, нягледзячы на ранейшую жорсткую канкурэнцыю за месца ў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза, спаўна выкарыстала магчымасць утрымацца ў ёй.

Тытул абсалютнай чэмпіёнкі свету 1979 года прымусіў спецыялістаў і трэнераў адкінуць усе сумненні ў яе алімпійскай «прыгоднасці». Гульні XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) сталі другой яе найвышэйшай вяршыняй. Залаты медаль у камандных спаборніцтвах плюс такая ж узнагарода за выступленні ў вольных практыкаваннях (дарэчы, першынство ў гэтым відзе было прысуджана адразу дзвюм спартсменкам — Нэлі Кім і Надзі Камэнэчы) з’явіліся заканамернымі ўзнагародамі за самую сапраўдную спартыўную мужнасць і стойкасць у барацьбе з надзвычай моцнымі і таленавітымі саперніцамі — прадстаўніцамі ўжо новага пакалення сусветнай спартыўнай гімнастыкі.



## *Святлана Багінская:*

## ЯЕ ЗВАЛІ ПРОСТА — БАГІНЯ!

*Святлана Багінская нарадзілася 9 лютага 1973 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Трохразовая алімпійская чэмпіёнка па спартыўнай гімнастыцы: пераможца XXIV Гульняў у Сеуле (1988) у камандных спаборніцтвах і апорным скачку, XXV Алімпіяды ў Барселоне (1992) у камандным першынстве. Сярэбраны прызёр XXIV Гульняў у вольных практыкаваннях, бронзавы — у мнагаборстве. Чэмпіёнка свету 1989 і 1990 гадоў у мнагаборстве і ў камандным першынстве. Чэмпіёнка Еўропы 1986 і 1987 гадоў у мнагаборстве, 1992 года — у практыкаваннях на бервяне. Шматразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза. Першыя трэнеры — Людміла Савіна і Любоў Міраманава.*

Больш залатых алімпійскіх узнагарод у такім узросце мела толькі сама Корбут. Святлане Багінскай ледзь толькі споўнілася 19, а яна была ўжо ўганаравана ажно трыма медалямі вышэйшай вартасці. У Вольгі Корбут — для параўнання — столькі ж залатых «кругляшоў» было ў семнаццаць… Так што па таленту яны былі «родныя сёстры»!

І сёстры, і не сёстры: Корбут выступала ў вялікім спорце да дваццаці аднаго, а Багінская ў свае дзевятнаццаць (!) вырашыла… пакінуць гімнастыку. Не паказчыкі на гімнастычных снарадах, а менавіта гэта рашэнне спартсменкі зрабіла тады, у 1992-м, эфект выбухнуўшай бомбы. Сталічныя спецыялісты, кіраўнікі спартыўнага ведамства рэспублікі кінуліся шукаць прычыны такога рашэння. На стан здароўя Света, здаецца, ніколі не скардзілася, адносіны ў зборнай таксама, нібыта, на ўзроўні… І раптам — вось такая заява! Характар?

Возьмем на сябе смеласць сказаць: так, ён, характар. З аднаго боку — характар яшчэ, па-сутнасці, юначы; але ж з другога — ужо і загартаваны, выпрабаваны на дзвюх Алімпіядах, некалькіх сусветных і еўрапейскіх першынствах, чэмпіянатах Савецкага Саюза, узровень якіх, як правіла, пераўзыходзіў нават буйныя міжнародныя турніры… Дык у чым тады справа?

Быў у таго характара і трэці бок: свайго роду неўступлівасць, пэўная высакамернасць, а дакладней — адчуванне сваёй годнасці, характэрныя толькі ёй, такой маладой і таленавітай…

…Промні юпітэраў, сапраўдная авацыя шматтысячнай залы, высокія ўзнагароды і заахвочванні «зваліліся» на яе ў дзіцячым узросце. І хоць трынаццацігадовым дзяўчынкам у той жа спартыўнай ці мастацкай гімнастыцы да перамог не прывыкаць, такія ўвага і павага, якія займела Света, даюцца далёка не кожнаму.

У 1986-м Багінская выйграла, здаецца, усё, што толькі можна было: першынство Савецкага Саюза сярод сваіх аднагодак, юніёрскі чэмпіянат кантынента, некалькі міжнародных турніраў. У нацыянальнай зборнай СССР якраз адбываўся чарговы працэс змены пакаленняў — працэс складаны і хваравіты, і юнае мінскае дараванне на наступны год трапіла ў поле зроку кіраўніцтва дарослай каманды, якая завяршала ўжо падрыхтоўку да Алімпійскіх гульняў — 1988. Прагледзеўшы і ацаніўшы не адзін дзесятак здольных і добра падрыхтаваных спартсменак з многіх гімнастычных цэнтраў краіны, трэнерскі састаў зборнай Савецкага Саюза спыніў свой выбар на Алене Шушуновай, Наталлі Лашчонавай, Вользе Стражавай, Аляўціне Прахінай і дзвюх выхаванках беларускай школы гімнастыкі — Святлане Баітавай і Святлане Багінскай.

Тады і замацавалася за ёй адна-адзіная мянушка — Багіня!

Будучую Багіню для спартыўнай гімнастыкі ў адной са сталічных школ знайшла вядомая ў той час спартсменка, майстар спорту СССР міжнароднага класа Людміла Савіна, якая за некалькі гадоў да таго і сама была «на алоўку» ў спецыялістаў са зборнай краіны, аднак з-за жорсткай канкурэнцыі прабіцца туды так і не змагла. Навучыўшы Свету азам гімнастыкі, яна праз год-другі парэкамендавала яе Любові Мірамановай — здольнаму і ўмеламу спецыялісту, якая за пэўны час напружанай штодзённай працы і давяла дзяўчынку да ўзроўню нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза.

Алімпійскі Сеул — 88 адкрыў для Святланы і некалькі іншую гімнастыку, чым тая, якую ведала і высока цаніла яна сама. І сяброўкі па зборнай СССР, і настаўнікі каманды бачылі ў ёй задаткі лідэра, важака, які, акрамя выдатнага валодання сваімі асабістымі якасцямі гімнаста, здольны ў самы адказны момант пастаяць за іншых, ды і за каманду ўвогуле. Гэта асабліва выразна, а ў большай ступені — адчувальна сказваецца тады, калі бескампраміснасць барацьбы на алімпійскім узроўні нярэдка пераходзіць у жорсткасць — як у дачыненнях паміж самімі спартсменкамі, так і іхнімі асабістымі настаўнікамі, так і паміж суддзямі. І гэта ў пэўнай меры зразумела: у спартыўнай і мастацкай гімнастыцы, фігурным катанні, барацьбе, боксе і некаторых іншых відах спорту той ці іншы служка Феміды можа і «не заўважыць» той ці іншы элемент, нават з так званага разраду «ультра-сі», а можа і запярэчыць: маўляў, там і там ты, даражэнькі, не дацягнуў… Крыўдна і балюча? Яшчэ як!

Праўда, там, у паўднёвакарэйскай сталіцы, Святлану Багінскую ацанілі, як лічыла і яна сама, па вартасцях. Разам з сяброўкамі па зборнай Савецкага Саюза яе ўганаравалі залатым медалём пераможцы Гульняў у камандным першынстве. Нават нечакана для сябе, без адзінай памылачкі выканала яна апорны скачок, і на дзіцячых грудзях заззяла другая алімпійская ўзнагарода вышэйшай вартасці! Натхнёная мінчанка тут жа бліскуча адпрацавала на вольных практыкаваннях — тых самых, якія ўсё сваё ранейшае спартыўнае жыццё так не любіла! — і, уступіўшы самы што ні ёсць мізер — 0,05 бала знакамітай і шматвопытнай румынцы Даніэле Сіліваш, папоўніла сваю калекцыю ўзнагародай сярэбранай вартасці. Высока каштаваў і бронзавы медаль у самым прэстыжным відзе гімнастычнай праграмы — мнагаборстве.

Чатыры алімпійскія медалі з адных Гульняў на сваю Бацькаўшчыну прывозілі адзінкі са спартсменаў! А тут — 15-гадовая школьніца-дэбютантка…

А згаданую вышэй бескампраміснасць, што пераходзіць у жорсткасць, яна адчула на наступнай Алімпіядзе — у 1992 годзе. На ёй пад сцягам Аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў Святлана Багінская выводзіла гімнастычную дружыну ў якасці капітана. І раптам… Суддзі, якія яшчэ ўчора нарадавацца не маглі яе збалансаванай і неверагодна складанай праграмай, дакладнасцю рухаў, асабістым самавалоданнем, нібы дзесьці за кулісамі перагледзелі свае адносіны

да куміра і лідэра жаночай гімнастыкі канца 1980-х — пачатку 1990-х гадоў і пачалі адсоўваць яе ад алімпійскага п'едэстала. 0,064 бала ўступіла яна ў мнагаборстве Таццяне Гуцу з Украіны, але гэтага хапіла ўсяго толькі на пяты вынік! Яшчэ больш крыўднымі сталі для яе вынікі барацьбы ў апорным скачку: адставанне ўсяго толькі ў 0,026 бала адразу ад дзвюх саперніц — Онадзі з Венгрыі і Мілосавічы з Румыніі — прынесла Багіні… чацвёртае месца — самае што ні ёсць крыўднае ў вялікім спорце: п'едэстал жа побач!

Затое, як практычна і на ўсіх папярэдніх Алімпіядах, у якіх прымалі ўдзел савецкія гімнасткі, не было роўных ім у камандным першынстве. Гэта быў трэці залаты алімпійскі медаль, заваяваны беларускай гімнасткай на дзвюх Алімпіядах запар…

…Вось тады і аб'явіла 19-гадовая Святлана Багінская аб тым, што яна назаўсёды пакідае вялікі спорт.

Два наступныя гады праляцелі для яе хуткакрылай птушкай. Спачатку Святлана наадрэз адмовілася ад, здавалася б, даволі заманлівай прапановы вядомага расійскага гімнаста, у мінулым — двухразовага абсалютнага чэмпіёна свету і Еўропы Дзмітрыя Білазірчава працаваць у спартыўным шоу, якое ён арганізаваў. Больш перспектыўнай і радаснай для душы і сэрца здалася магчымасць паехаць за акіян: якраз у тыя гады ў Злучаныя Штаты Амерыкі, ды і ў іншыя краіны сапраўдным валам паехалі-паляцелі беларускія трэнеры і спецыялісты (і не толькі спартыўнай гімнастыкі) у пошуках, вядомая справа, «доўгага» долара. Амерыканскі Бостан прыняў яе з задавальненнем: мясцовыя дзялкі ад спорту, ведаючы тытулы і званні знакамітай гімнасткі, прапанавалі ёй выступаць перад шырокай публікай з паказальнымі нумарамі, а ў вольны час яшчэ і трэніраваць мясцовую дзятву ў тамтэйшым гімнастычным клубе.

А праз два гады — у 1994-м — з-за акіяна пачалі паступаць звесткі аб тым, што трохразовая алімпійская чэмпіёнка Святлана Багінская пачала падрыхтоўку да… чарговых Алімпійскіх гульняў. З Бостана яна перабралася ў Хьюстан, дзе ў той час на поўную магутнасць працаваў спецыялізаваны цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі амерыканскіх гімнастаў пад кіраўніцтвам Бэла Каролі. Хітры спецыяліст, даўшы дабро на тое, каб Багіня займалася ў ягонай школе, разлічваў, што называецца, забіць двух зайцоў: вучыць сваіх падначаленых на вопыце і майстэрстве Святланы, ну і дапамагчы ёй…

На першым плане быў, вядома ж, першы «заяц»! Так што нашай спартсменцы больш даводзілася працаваць самастойна.

Яе з'яўленне на роднай Беларусі ўсе сустрэлі з вялікай радасцю і задавальненнем. А інакш і быць не магло: на алімпійскі памост Гульняў-96 выходзіла не проста зорка самай першай велічыні, а найперш — прызнаны важак і лідэр. Памятаю, як нешматслоўная Святлана сказала аднойчы: «Мне цяжка разлічваць на ўзнагароды, а вось дапамагчы іншым — мой абавязак перад беларускай гімнастычнай школай, якая дала мне магчымасць стаць тым, кім я стала…»

Маладую каманду суверэннай Рэспублікі Беларусь, якая ўпершыню выступала на Алімпіядзе ў Атланце самастойнай дружынай, выскамерныя і ганарлівыя спецыялісты і трэнеры з іншых, перш за ўсё так званых гімнастычных дзяржаў усур'ёз не ўспрымалі. А нашы дзяўчаты — Алена Піскун, Вольга Юркіна, Алена Палазкова, Таццяна Жарганава, Людміла Віцюкова, Святлана Тарасевіч і яна, Святлана Багінская — зрабілі тое, што маглі, і, адпрацаваўшы свае праграмы, занялі ў камандным першынстве ганаровае для дэбютантак шостае месца. Дарэчы, сама Багіня ў апорным скачку была пятай…



## *Святлана Баітава:*

# САМАЯ ЮНАЯ ЧЭМПІЁНКА

*Святлана Баітава нарадзілася 3 верасня 1972 года ў горадзе Магілёве. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па спартыўнай гімнастыцы ў камандных спаборніцтвах. Чэмпіёнка свету 1989 года. Сярэбраны прызёр сусветнага першынства — 1987. Абсалютная чэмпіёнка Савецкага Саюза 1986 года. Сярэбраны прызёр першынства СССР — 1987. Ганаровая грамадзянка горада Магілёва. Першыя трэнеры — Галіна Харкевіч і Элеанора Чуканава.*

У савецкай, ды і сусветнай спартыўнай гімнастыцы няшмат было такіх мініяцюрных, элегантных і рухавых спартсменак, як яна. Былі «акадэмічна важныя», як Ларыса Латыніна ці Людміла Турышчава; гнуткія і непадробна пластычныя, як Ларыса Петрык ці Эрыка Цухальд; ігрывыя, як Тамара Лазаковіч ці Вольга Корбут; выбуховыя, як Надзя Камэнэчы ці Нэлі Кім… Такой жа гарэзы, як Света Баітава, — гімнасткі-«мячыка», здольнай непаўторна, з выкрутасамі, скакаць не толькі па спартыўным дыване, але і па надзвычай каверзным і непрадказальным гімнастычным бервяне, і спецыялісты, і аматары спорту больш наўрад ці бачылі…

Ужо ў пяцігадовым узросце яна займалася ў Магілёўскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе пад кіраўніцтвам свайго першага настаўніка Галіны Харкевіч. Зусім выпадкова знайшла яна малечу, якая аказалася такой рухавай і эмацыянальна зараджанай, што не пазнаёміцца з ёй было немагчыма і проста недаравальна.

Навучыўшы Свету самым першым навыкам і сакрэтам гімнастыкі, Галіна Мікалаеўна перадала яе больш вопытнаму і

спрактыкаванаму трэнеру ДЮСШ Элеаноры Чуканавай. Пачаўся ці не самы цяжкі перыяд знаёмства са спортам — развучванне і засваенне складаных, а часам і небяспечных элементаў і трукаў. Праблем з Баітавай хапала: смелая дзяўчынка, іншым разам яшчэ не ўсвядоміўшы нават паслядоўнасць выканання таго ці іншага гімнастычнага элемента, стрымгалоў кідалася выконваць яго…

…У пачатку 1990-х гадоў лёс звёў мяне з заслужаным трэнерам Савецкага Саюза, спецыялістам па спартыўнай гімнастыцы Алегам Мішчанкам з Магілёва. Апынуўшыся разам у даволі працяглай камандзіроўцы ў Галандыі, мы мелі шмат часу не толькі пазнаёміцца і пасябраваць, але і шмат аб чым пагутарыць, і перш за ўсё — на спартыўныя тэмы. Я ведаў, што Алег Рыгоравіч падрыхтаваў і выхаваў у горадзе на Дняпры цэлую плеяду майстроў спартыўнай гімнастыкі, а найбольш вядомай і тытулаванай вучаніцай яго з’яўлялася алімпійская чэмпіёнка Святлана Баітава.

Дарэчы, на работу ў Магілёў Алег Мішчанка прыехаў у другой палове 1970-х гадоў з Казахстана па запрашэнні кіраўніцтва абласнога камітэта па фізічнай культуры і спорту. Прыехаў — і не пашкадаваў: умовы для працы і жыцця вопытнаму спецыялісту былі створаны вельмі добрыя. Знайшліся сродкі на рэканструкцыю і пераабсталяванне спартыўнай залы ДЮСШ № 6, набыццё новага спартыўнага інвентару, а галоўнае, з’явілася магчымасць для ўкаранення ў штодзённую фізкультурна-спартыўную практыку новых на той час метадычных распрацовак і рэкамендацый спартыўнай навукі. Ва ўсім гэтым Алег Рыгоравіч быў самы сапраўдны дока… Пазнаёміўшы новых калег з тымі распрацоўкамі і рэкамендацыямі, Мішчанка перш за ўсё сам узяўся за падрыхтоўку юных магілёўскіх талентаў.

Адной з першых ягоных вучаніц і стала Света Баітава…

— Такіх працавітых дзяцей, як яна, я раней ніколі не сустракаў, — расказваў ён. — Не паспею што-кольвечы расказаць, растлумачыць, а яна ўжо просіцца паспрабаваць выканаць тое… Кволая, зусім з неакрэплым арганізмам, яна спаўна кампенсавала гэта сваёй неўтаймоўнай зараджанасцю, гатоўнасцю працаваць на спартыўных снарадах цэлы дзень. Колькі разоў я ці не сілай выганяў яе з нашай залы! А яна крыўдавала і нават плакала: маўляў, ну можна яшчэ разок-другі скокну…

У 1986 годзе ў савецкай спартыўнай гімнастыцы адбылася сенсацыя: абсалютнай чэмпіёнкай краіны стала 14-гадовая (!) школьніца з Магілёва Света Баітава. Ведаў наш спорт усё: і перамогі на самых адказных ўсесаюзных спаборніцтвах, і залатыя ўзнагароды на першынствах СССР падчас выступленняў на асобных снарадах 15-гадовых Ларысы Петрык, Людмілы Турышчавай і Вольгі Корбут, аднак такога — не: вялікі залаты медаль у дзіцячыя рукі яшчэ не трапляў! Можна стварыць (і тварыліся!) цуды на адным-двух снарадах, можна штосьці выйграць і выпадкова, але ж аднолькава роўна, зусім без зрываў прайсці пяць (!) гімнастычных дысцыплін мнагаборства — тут ужо, што называецца, прабачце!

Так і ўварваўся сапраўдны гімнастычны цуд з беларускага горада на Дняпры ў эліту айчыннай гімнастыкі… Больш таго, на першынстве краіны — 1987 яна пацвердзіла свой высокі клас і заваявала вялікі сярэбраны медаль у мнагаборстве.

Баітаву ўключылі ў зборную Савецкага Саюза на дарослае першынство свету 1987 года, дзе яна, выступаючы так званай «забойшчыцай», гэта значыць першай у камандзе, сітуацыю ніколькі не сапсавала, і абноўленая на той час каманда нашай краіны заваявала сярэбраныя ўзнагароды. Як Алег Мішчанка ў персанальнай рабоце са Святланай, так і ўвесь трэнерскі калектыў зборнай з падрыхтоўкай дзяўчат — дэбютантак каманды не спяшаўся: вывесці іх на лепшую спартыўную форму яны мелі намер непасрэдна да XXIV Алімпійскіх гульняў 1988 года…

Як пакажа час, гэта была тонка прадуманая і дакладна распрацаваная тактыка падрыхтоўкі спартсменак да галоўных стартаў чатырохгоддзя.

На алімпійскім памосце далёкага Сеула магілёўская гімнастка трымалася пераканаўча і дастойна. Тон выступленням савецкай зборнай «забойшчыца» Святлана Баітава задавала ўпэўнена і надзейна. І яе сяброўкам па камандзе нічога не заставалася, як падхапіць эстафету, смела дзейнічаць на кожным снарадзе, дэманстраваць усё, на што кожная з іх была здатная… Апярэдзіўшы шматвопытную румынскую зборную на чале з непараможнай на той час прымай гімнастыкі Сіліваш усяго толькі на 1,35 бала, савецкія гімнасткі ўзняліся на вышэйшую прыступку п’едэстала гонару. Адзін з шасці залатых медалёў быў уручаны ёй, сціплай юнай гімнастцы з Магілёва Святлане Баітавай.




## *Віталь Шчэрба:*

## ШЭСЦЬ «ЗАЛАТЫХ» П'ЕДЭСТАЛАЎ!

*Віталь Шчэрба нарадзіўся 13 студзеня 1972 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту. Шасціразовы алімпійскі чэмпіён па спартыўнай гімнастыцы: пераможца XXV Гульняў у Барселоне (1992) у камандных спаборніцтвах, мнагаборстве, практыкаваннях на кольцах, кані, брусах і ў апорным скачку. Уладальнік чатырох бронзавых алімпійскіх узнагарод XXVI Алімпіяды ў Атланце (1996): у мнагаборстве, апорным скачку, на брусах і перакладзіне. Дванаццаціразовы чэмпіён свету: 1991, 1992, 1993, 1994, 1995 і 1996 гадоў. Дзесяціразовы сярэбраны і чатырохразовы бронзавы прызёр чэмпіянатаў свету 1991—1996 гадоў. Двухразовы ўладальнік Кубка свету. Дзесяціразовы чэмпіён Еўропы. Пяціразовы сярэбраны і двухразовы бронзавы прызёр чэмпіянатаў кантынента. Пяціразовы чэмпіён і двухразовы сярэбраны прызёр першынстваў Савецкага Саюза 1990—1991 гадоў. Двухразовы пераможца і трохразовы сярэбраны прызёр Спартакіяды народаў СССР 1991 года. Трохразовы пераможца Гульняў добрай волі 1990 года. Узнагароджаны прызам імя Джэсі Оўэнса Міжнароднага Алімпійскага камітэта як лепшы спартсмен свету 1992 года. Першы трэнер — Леанід Выдрыцкі.*

Па колькасці залатых узнагарод, заваяваных на адных і тых жа Алімпійскіх гульнях, ён займае трэці радок у сусветным табелі аб рангах. Восем медалёў на Алімпіядзе ў Пекіне ў 2008 годзе атрымаў плывец са Злучаных Штатаў Амерыкі Майкл Фелпс; сем узнагарод вышэйшай вартасці заваяваў на Гульнях-1972 таксама амерыканскі плывец Марк Спітц, шэсць — на Алімпіядзе-1992 не менш слынны беларускі гімнаст Віталь Шчэрба!

Кар'еру гімнаста яму не прарочыў ніхто. А калі і бачыў хто-небудзь Віталя ў вялікім спорце, дык толькі ў акрабатыцы: бацькі яго былі ў гэтым відзе даволі вядомымі атлетамі, нават з'яўляліся майстрамі спорту. Генетычныя якасці, вядома ж, яму перадаліся, але тое, што ён знойдзе і заявіць аб сабе ў гімнастыцы, не мог уявіць нават блізкі да Шчэрбаў чалавек…

Мама — Валянціна Мікалаеўна — увесь час бачыла сына… дыпламатам — не менш і не больш. Таму ледзь яго не з пялёнак і арыентавала яго на авалоданне калі не англійскай, дык французскай ці нямецкай мовай, і наогул — на паступленне ў Інстытут замежных моў. У модным тады падрыхтоўчым класе яна ўгаварыла сына заняцца паглыбленым вывучэннем замежнай мовы… І літаральна тут жа — хутчэй за ўсё для таго, каб дысцыплінаваць і заахвоціць Віталіка, прывяла яго ў гімнастычную залу.

Трэнеру Леаніду Выдрыцкаму сямігадовы падлетак спачатку проста не спадабаўся. «Шчыра кажучы, — не раз паўтараў ён потым, — я ўзяў яго да сябе з-за спачування Валянціне Мікалаеўне. Даных — аніякіх: паўнаваты, няўклюдны, плечавы пояс не развіты… Але вось даю яму першае заданне — падцягнуцца на турніку — і Віталік выдае 10 падцягванняў без перадышкі! А тут яшчэ зрабіў амаль столькі ж піруэтаў і скачкоў на дыване…»

Гэта і стала першымі крокамі будучага алімпійскага героя ў Вялікі Спорт!

Ужо ў адзінаццацігадовым узросце юны Шчэрба асвоіў элементы праграмы на ўзроўні майстра спорту СССР. У такія гады да сур'ёзных спаборніцтваў нават вундэркіндаў яшчэ не дапускалі, таму Леанід Выдрыцкі спачатку разгубіўся: маўляў, што рабіць далей? У наступныя тры гады Віталік вырабляў на спартыўных снарадах такое, што ў прысутных проста дух займала! Самы час планамерна павялічваць фізічныя нагрузкі на юны, не загартаваны яшчэ арганізм, пераходзіць на двухразовыя трэніроўкі, а настаўнік, няхай сабе і вопытны ўжо спецыяліст, проста не ведаў, як гэта рабіць… Сустрэўся са сваімі добрымі знаёмымі Сяргеем Шынкаром і Леанідам Філіпёнкам, расказаў пра свайго вучня.

Падчас вучобы ўжо ў сёмым класе яны і запрасілі яго вучыцца і трэніравацца ў сталічную спартыўную школу-інтэрнат. І пачаўся ў Віталя Шчэрбы зусім новы перыяд жыцця і заняткаў — спланаваны да драбніц, распісаны ледзь не па гадзінах…

— І я аб тым потым ніводнага разу не пашкадаваў! — шчыра прызнаўся мне пазней сам майстар гімнастыкі.

Ён заўсёды ўмеў — не па ўзросце стала і прадумана! — вызначыць перад сабой мэту, абазначыць чарговы рубеж. А пачалося ўсё якраз тады, падчас вучобы ў школе-інтэрнаце. 13—14-гадовыя падлеткі сталелі там даволі хутка, думалі і разважалі сур'ёзна, з разлікам на перспектыву. Першым рубяжом таго ж Шчэрбы стала мара аб юнацкай зборнай Савецкага Саюза…

«Занадта высокая мэта!» — скажа іншы. Не, ні ў якім разе. Гэта хутчэй за ўсё — цвярозая ацэнка і самім юным спартсменам, і ягонымі новымі настаўнікамі патэнцыяльных магчымасцей таленавітага гімнаста. Вельмі ўжо проста, на першы погляд, нават лёгка даваліся яму цэлыя камбінацыі і асобныя складаныя элементы, на засваенне якіх многія спартсмены затрачвалі не адзін месяц. Аддавалі шмат часу, але ж нярэдка так і не маглі авалодаць сакрэтамі і таямніцамі тых камбінацый і элементаў…

Аднак мара аб юнацкай зборнай СССР так і засталася для Шчэрбы марай, паколькі ён з ёй проста… размінуўся. У 1986 годзе Віталь, выступаючы на маладзёжным чэмпіянаце краіны, прадэманстраваў такі неверагодны каскад складаных скачкоў і высокага палёту піруэтаў, што спецыялісты, і сярод іх такі аўтарытэтны, як шматразовы чэмпіён свету і Алімпійскіх гульняў Мікалай Андрыянаў, проста анямелі… «Так, не хапала нашаму гімнасту фізічнай дасканаласці, прадуманых пераходаў ад адной камбінацыі да другой, — каменціраваў ягоныя нумары Сяргей Шынкар, — аднак наўрад ці хто сумняваўся ў тым, што ў айчынную і сусветную гімнастыку можа ўвайсці атлет з новым бачаннем і тлумачэннем многіх традыцыйных падыходаў да справы…»

Праз тры гады 17-гадовы Шчэрба ў прамым сэнсе слова ўрываецца ў нацыянальную зборную Савецкага Саюза. На ўсесаюзным, еўрапейскім і сусветным гімнастычных памостах, здавалася, непадзельна гаспадарылі таленавітыя савецкія майстры Валерый Беленькі, Рыгор Місюцін і Ігар Карабчынскі, моцную і надзвычай сур'ёзную канкурэнцыю складалі ім традыцыйныя сапернікі са зборных Кітая, Германіі, Грэцыі, Румыніі, ЗША, Японіі... Тым не менш… Спачатку на чэмпіянаце краіны, а потым — і на еўрапейскім першынстве 1990 года юны мінчанін заваёўвае па тры вышэйшыя ўзнагароды. Столькі ж — тры залатыя медалі — атрымлівае ён і на Гульнях добрай волі — 1990 у амерыканскім горадзе Сіэтле.

Кажуць, галоўны трэнер зборнай СССР Леанід Аляксандравіч Аркаеў не жартам, а зусім усур'ёз ставіў у той час далёка не рытарычнае пытанне: «Ідзе кругам галава: не ведаю, каго заяўляць на Алімпіяду?»

Былі, аказваецца, у савецкім спорце і такія праблемы!

Але, як бы тое ні было, права выйсці на алімпійскую арэну Барселоны-1992 беларускі гімнаст атрымаў заслужана, заваяваў у сумленнай і бескампраміснай барацьбе.

Сапернікаў за залатыя ўзнагароды (а максімаліст — у лепшым значэнні гэтага слова — Віталь Шчэрба на іншай вартасці медалі і не разлічваў!) было больш чым дастаткова. Перш за ўсё гэта былі сябры па зборнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў Рыгор Місюцін, Валерый Беленькі і Ігар Карабчынскі, а таксама кітайцы Лі Сяо Шуань, Лі Шынь, Лі Інь, карэец Пак Гіл Су… Аднак практычна ніводзін з іх не здолеў на роўных паспрачацца з нашым гросмайстрам на гімнастычных снарадах. 59,025 бала ў мнагаборстве, 9,925 — за выступленне на кані, 9,937 — на кольцах, 9,9 — на брусах, 9,856 бала ў апорным скачку плюс перамога ў камандным першынстве разам з тымі ж Беленькім, Карабчынскім і Місюціным прынеслі спартсмену з беларускай сталіцы нябачны раней не толькі ў гімнастыцы, але і ў многіх іншых алімпійскіх дысцыплінах, поспех — шэсць (!) залатых алімпійскіх медалёў. І калі б не прыкрая прамашка — выхад за межы дывана — была б узнагарода такой жа вартасці і яшчэ ў адным відзе гімнастычнай праграмы — вольных практыкаваннях…

…Ужо пазней, праз некалькі гадоў пасля Алімпіяды ў Барселоне, мне двойчы давялося быць у Іспаніі, і, даведаўшыся, што я з Беларусі, гасцінныя іспанцы шчыра паціскалі мне руку і прасілі перадаць паклон «вялікаму Шчэрбу»…

Пасля таго трыумфальнага выступлення Віталя Шчэрбу прызналі лепшым спартсменам свету ў Злучаных Штатах Амерыкі і Кітаі, Іспаніі і Францыі, Вялікабрытаніі і Расіі. Падчас уручэння яму прыза Джэсі Оўэнса — самай пачэснай, высокай і ганаровай узнагароды Міжнароднага Алімпійскага камітэта, якім, дарэчы, уганаравана ўсяго толькі некалькі выдатных атлетаў сучаснасці, прэзідэнт МАК Хуан Антоніа Самаранч зазначыў: «Ваша трыумфальнае выступленне на маёй радзіме (Самаранч — іспанец. — *Заўвага А.М.*) застанецца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў на дзесяцігоддзі і стагоддзі».

Настойліва і самаадданa, як і раней, рыхтаваўся беларускі гімнаст і да наступных важных і адказных спаборніцтваў. Па-

ранейшаму выйграваў залатыя, сярэбраныя і бронзавыя медалі на сусветных і кантынентальных першынствах, заваёўваў Кубак свету і іншыя прэстыжныя ўзнагароды. Галоўнай жа мэтай заставалася ранейшая — Алімпійскія гульні!

Тым не менш, не па гадах разважлівы, памяркоўны і сур’ёзны, Віталь выдатна разумеў: двойчы ўвайсці ў адну раку не дазволяць ні сапернікі, ні суддзі. Аднак XXVI Алімпіяда 1996 года прынесла яму новае трыумфальнае (вядома ж, не на ранейшым узроўні!) дасягненне. У найвастрэйшым саперніцтве і з ранейшымі канкурэнтамі, і з новым пакаленнем гімнастаў, перш за ўсё ў асобе Аляксандра Немава з Расіі, Арнольда Векера з Германіі, грэка Ільмара Мелісанідзіса, Рашыда Шарыпава з Украіны, ён папоўніў сваю і да таго неверагодна багатую спартыўную калекцыю яшчэ чатырма (!) алімпійскімі бронзавымі ўзнагародамі. «У практыкаванні на брусах я быў лепшым і на Гульнях-1996 у Атланце, аднак спартыўная Феміда на той раз мне здрадзіла!» — з пачуццямі гумару і роспачы адначасова пракаменціраваў тады Віталь сваё ўзыходжанне на «ўсяго толькі» «бронзавую» ступеньку п’едэстала гонару.

…Дзесяць алімпійскіх узнагарод на дзвюх Алімпіядах — гэта сапраўдны спартыўны подзвіг!

Сёння шасціразовы алімпійскі чэмпіён беларус Віталь Шчэрба жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. Ён узначальвае гімнастычную школу, у якой рыхтуецца папаўненне для зборнай… ЗША па спартыўнай гімнастыцы…



## *Іван Іванкоў:*

## ДА ЗОРАК — ПРАЗ ЦЕРНІ

*Іван Іванкоў нарадзіўся 10 красавіка 1975 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту Беларусі. Пяціразовы пераможца маладзёжнага першынства Еўропы (1991) па спартыўнай гімнастыцы. Двухразовы абсалютны чэмпіён свету — 1994 і 1997 гадоў. Двухразовы абсалютны чэмпіён Еўропы — 1994 і 1996 гадоў. Сярэбраны прызёр чэмпіяната свету ў камандным заліку (1997). Чэмпіён Еўропы (1994) і бронзавы прызёр еўрапейскага першынства (1996) у камандным заліку. Пераможца матча ЗША — Кітай — Беларусь у мнагаборстве. Шматразовы чэмпіён і прызёр сусветных і еўрапейскіх чэмпіянатаў на асобных снарадах. Першыя трэнеры — Уладзімір Ваткін і Віктар Дайлідаў.*

Здаецца, не памыляемся і тут: у гісторыі сусветнай спартыўнай гімнастыкі ўсяго толькі чатыры спартсмены па два разы заваёўвалі тытул абсалютнага чэмпіёна свету. Абсалютны — гэта пераможца па суме выступленняў на шасці спартыўных снарадах: на кані, перакладзіне, брусах, кольцах, а таксама ў вольных практыкаваннях і апорным скачку. Тымі непаўторнымі атлетамі былі ў свой час легендарныя гімнасты Віктар Чукарын, Міхаіл Варонін, Дзмітрый Білазірчаў — усе, як бачым, выхаванцы і прадстаўнікі савецкай школы спартыўнай гімнастыкі. А чацвёртым у гэтым насамрэч залатым летапісе значыцца беларускі Майстар Іван Іванкоў.

Для вялікага спорту яго знайшлі ў адным з дзіцячых садкоў горада-героя Мінска. Два сябры-трэнеры — Уладзімір Ваткін і Віктар Дайлідаў у пошуках папаўнення для сваіх секцый звярнулі ўвагу на жвавага і цікаўнага хлопчыка. Падвялі яго

разам з іншымі пяцігодкамі да звычайнага турніка, прапанавалі падцягнуцца… Пяць разоў, сем, дзевяць… А заданне — дзесяць разоў, і не даецца апошні раз — хоць ты плач! «Боўтаўся я на перакладзіне, бы тая сасіска, — са сваім заўсёдным гумарам у голасе згадваў потым Ваня Іванкоў, — але нічога не атрымлівалася…» Хацеў ужо насамрэч заплакаць, але раптам «атрымалася» і дзесятае падцягванне: гэта адзін з настаўнікаў падштурхнуў ззаду падлетка ўверх…

Тады і залічылі яго ў гімнастычную секцыю…

З самага першага дня на занятках хлопчык пачаў працаваць за дваіх, а то і за траіх. Трэнеры ў прамым сэнсе слова выганялі Іванкова з залы. Так і казалі: «Ванька, ідзі дадому, мама шукаць неўзабаве прыйдзе…»

Мама, аднак, прыходзіла зрэдку, бо ведала: сын трапіў у надзейныя і трывалыя рукі.

Былі перамогі на дзіцячых і юнацкіх спаборніцтвах, юніёрскіх і маладзёжных турнірах і чэмпіянатах. Інакш кажучы, да вялікага спорту (чытайце: нацыянальнай зборнай) ён падбіраўся паволі, як і ўсе іншыя спартсмены… А вось калі дабраўся, то стрэліў так, што спартыўны свет аказаўся ў захапленні: гэтак на міжнароднай арэне да яго ніхто не дэбютаваў! Мяркуйце самі: на працягу 1994 года 19-гадовы студэнт тагачаснай Акадэміі фізічнага выхавання Іван Іванкоў стаў абсалютным чэмпіёнам свету, потым — Еўропы, а неўзабаве — і пераможцам трайнога матча гігантаў сусветнай гімнастыкі — зборных Злучаных Штатаў Амерыкі, Кітая і Беларусі (так-так, яшчэ зусім нядаўна нацыянальная зборная нашай маладой суверэннай дзяржавы па праву ўваходзіла ў тройку наймацнейшых гімнастычных краін свету!). Спартыўныя журналісты ў адзін голас назвалі юнае дараванне лепшым спартсменам Беларусі таго ж, 1994 года…

Іншы б зазнаўся, закапыліў нос… Не, Ваня Іванкоў да гэтага не апусціўся: кожную раніцу ён збіраў сваю няхітрую спартыўную амуніцыю і ў чарговы, мабыць, тысячны і тысяча першы раз, спяшаўся ў гімнастычную залу.

Наступны год прайшоў пры адносным зацішшы. Аднак гімнасты са зборнай Беларусі, у якую Іван быў ужо залічаны паўнапраўным членам, нікольні не спачывалі на лаўрах. Яны працавалі, як любяць жартаваць самі спартсмены, на поўную катушку. На спартыўнай базе ў Стайках, дзе працяглы час займаліся спартсмены, панавала сапраўдная дзелавая і творчая

атмасфера, скіраваная на дасягненне высокай канчатковай мэты: дастойнае выступленне на чарговых, XXVI Алімпійскіх гульнях у Атланце.

Тыя Гульні для ўсяго беларускага спорту былі і вельмі важнымі, і надзвычай адказнымі: упершыню ў гісторыі міжнароднага алімпійскага руху нашы спартсмены выступалі самастойнай камандай. Ужо гэты факт патрабаваў ад кожнага атлета, спецыяліста і трэнера поўнай аддачы і сур’ёзнасці пры падрыхтоўцы да стартаў. Кожнай зборнай у адпаведнасці з патэнцыяльнымі магчымасцямі спартсменаў былі пастаўлены задачы і вызначаны канкрэтныя рубяжы. Ніхто з зацікаўленых бакоў, у тым ліку і кіраўніцтва краіны, не ўтойваў, што ці не самыя вялікія надзеі мы звязвалі з выступленнем у Атланце беларускіх гімнастаў.

Разумеючы і гэту акалічнасць, гімнасты працавалі ў падрыхтоўчым цыкле да сёмага поту…

Разлікі трэнераў і спецыялістаў былі зразумелыя: два тагачасныя лідэры сусветнай спартыўнай гімнастыкі — шасціразовы чэмпіён Гульняў-1992 Віталь Шчэрба і абсалютны чэмпіён свету і Еўропы Іван Іванкоў павінны будуць не толькі сапернічаць паміж сабой за самыя высокія ўзнагароды, але і маральна падтрымліваць адзін аднаго, натхняць і настройваць на барацьбу не толькі гімнастычную зборную, але і ўсю нацыянальную каманду Беларусі…

На жаль, не атрымалася…

Здарылася тое, ад чаго ў вялікім спорце не застрахаваны ніхто. Ужо там, на амерыканскім кантыненце, у Атланце, Ваня Іванкоў, малады ды гарачы, перастараўся на трэніроўцы і атрымаў цяжкую траўму. Відавочцы расказвалі мне потым, што наш спартсмен — мужны і ўжо загартаваны — употай ад таварышаў па камандзе плакаў ад гора… На алімпійскі памост ён так і не выйшаў. Па-свойму паўздзейнічала гэта акалічнасць і на Віталя Шчэрбу, і замест «запланаваных» яму залатых узнагарод ён змог заваяваць «усяго толькі» чатыры бронзавыя медалі Алімпіяды 1996-га.

Іван Іванкоў быў вымушаны зрабіць стаўку на наступныя Алімпійскія гульні — 2000 года.

Тыя чатыры гады, што хуткакрылай птушкай праляцелі пасля Алімпіяды ў Атланце, сталі для яго адначасова і часам трыумфу, і перыядам медыцынскіх выпрабаванняў. Трыумф — новыя шматлікія перамогі, і перш за ўсё — на чэмпіянаце свету

і першынстве кантынента 1998 года, на якіх ён зноў, у другі раз запар, стаў абсалютным чэмпіёнам… Медыцынскія выпрабаванні — некалькі складаных аперацый запар: спачатку — у тым жа злашчасным 1996-м, потым — у перадалімпійскім 1999-м…

На шчасце, ён усё стрываў, перанёс, перамог, што называецца, на ўсіх франтах…

На пачатку алімпійскага 2000 года Ваня Іванкоў прыняў удзел ва ўшанаванні лепшых спартсменаў, трэнераў і спартыўных журналістаў у Нацыянальным Алімпійскім камітэце Рэспублікі Беларусь. Ён ахвотна адказваў на ўсе нашы пытанні і наогул быў тады ў добрым настроі, бо літаральна праз некалькі дзён гімнаст ад'язджаў у Фінляндыю, дзе яму павінны былі, як ён сказаў мне, давесці да канчатковай кандыцыі траўміраваную некалі нагу. Неўзабаве стала вядома: у Іванкова ўсё ў парадку. Наступныя паўгода пайшлі на ранейшую, такую звыклую, хоць і аднастайную, справу: аднаўленне спартыўных кандыцый, адпрацоўку і давядзенне да аўтаматызму поўнай алімпійскай праграмы. Тое, што Іван быў гатовы да стартаў у Сіднеі-2000, засведчыў потым і чэмпіянат Беларусі, на якім ён быў, што называецца, на галаву вышэй за астатніх членаў нацыянальнай зборнай.

— Мы лічым, што на Гульнях у Сіднеі Ваня абавязкова возьме алімпійскую вышыню! — не сумняваўся ў магчымасцях свайго вучня Віктар Дайлідаў, які, як вядома, у свой час знайшоў Іванкова для вялікага спорту, а тады, у 2000-м, узначальваў зборную нашай краіны. — Яго час якраз і надышоў…

Трыумфатар папярэдніх дзвюх Алімпіяд Віталь Шчэрба да таго часу ўжо пакінуў гімнастычны памост, так што аслабленая зборная Беларусі на аўстралійскім кантыненце выступіла ў камандным першынстве ў сваю сілу — заняла восьмае месца. Аматары і спецыялісты з нецярпеннем чакалі выступлення лідэра сусветнай спартыўнай гімнастыкі апошніх гадоў Івана Іванкова ў асабістым заліку.

У мнагаборстве ён, як кажуць, спыніўся за адзін крок ад п'едэстала: заняў чацвёртае месца, уступіўшы пераможцу — шматгадоваму лідэру зборнай Расіі Аляксандру Немаву ўсяго толькі 0,45 бала, а іншым прызёрам — яшчэ менш. Не здагадваўся і не адчуваў наш атлет, што такія ж казусы чакаюць яго і далей: на кольцах і брусах ён будзе пятым…

Сам Іванкоў назваў тады сваё выступленне поўным правалам!

Вярнуўшыся дадому, ён не адзін дзень і не адну ноч правёў за роздумам-развагамі: што рабіць далей? Да наступных Алімпійскіх гульняў былі тыя ж чатыры гады… У 2004-м яму будзе 29… Ужо 29 ці яшчэ 29?! І Ваня прыходзіць да цвёрдага пераканання: яшчэ толькі дваццаць дзевяць!

…Балячкі адчуваліся пастаянна: і ахілава сухажылле, парванае яшчэ ў 1996-м у Атланце; і праблемы з пазваночнікам… «Працяглы час усё гэта я, натуральна, цярпеў, — прызнаваўся ён пазней аднаму з маіх калег, — але станавілася ўсё горш і горш. Перад Алімпіядай 2004 года ўрачы сказалі: “Завязвай са спортам!” Лёгка, вядома, сказаць: “Завязвай…” Гэта было ж тады ўсё маё жыццё! І я прыняў рашэнне застацца ў спорце…»

Ён застаўся, каб выступіць перш за ўсё на Гульнях-2004.

Ды не далі яму магчымасці — магчымасці заслужанай, больш таго — выпакутаванай лёсам і вялікім спартыўным даўгалеццем! — узняцца на алімпійскі п’едэстал гонару. І на чацвёртай (!) у ягонай спартыўнай біяграфіі Алімпіядзе Іван Аляксандравіч Іванкоў спыніўся ад ўзнагароды за адзін крок: стаў чацвёртым у спаборніцтвах на брусах… Не, не стаў: яго на гэты раз не пусцілі да бронзавага медаля суддзі, нахабна засудзіўшы таленавітага і мужнага беларускага гімнаста…

Да сваіх зорак на сусветным і еўрапейскім спартыўным небасхіле ён насамрэч ішоў праз церні. І ад гэтага чэмпіёнскія тытулы і званні Івана Іванкова становяцца яшчэ больш важкімі і каштоўнымі.



## *Марына Лобач:*

## …І ЗАСТАЛАСЯ НЕПЕРАМОЖНАЙ!

*Марына Лобач нарадзілася 26 чэрвеня 1970 года ў горадзе Смалявічы Мінскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Абсалютная чэмпіёнка XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па мастацкай гімнастыцы. Чэмпіёнка свету 1987 года. Сярэбраны прызёр сусветнага першынства 1985 года. Чэмпіёнка Еўропы і сярэбраны прызёр еўрапейскага першынства 1988 года.Трохразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза — 1985, 1987 і 1988 гадоў. Пераможца Спартакіяды народаў СССР 1986 года. Трохразовая ўладальніца Кубка Савецкага Саюза —1985, 1987 і 1988 гадоў. Сярэбраны прызёр Гульняў добрай волі 1986 года. Узнагароджана ордэнам Дружбы народаў. Першы трэнер — Ірына Ляпарская.*

Школы, у тым ліку і фізкультурна-спартыўныя, на голым месцы і самі па сабе не з'яўляюцца. А каб тая школа заявіла аб сваім заснаванні, потым — стала, што называецца, на ногі і, нарэшце, дала канкрэтны вынік, патрэбна шмат. І найперш — спецыялісты-энтузіясты, больш-менш прымальныя ўмовы для заняткаў, уменне і магчымасць наладзіць сучасныя вучэбна-выхаваўчы і спартыўны працэсы, што і дазволіла б хлопчыкам і дзяўчынкам, якія вырашаюць звязаць свой лёс з тым ці іншым відам спорту, поўнасцю раскрыць свой патэнцыял...

Зорка Марыны Лобач запальвалася спакваля, можна з упэўненасцю сказаць — не адным пакаленнем спецыялістаў, трэнераў і саміх гімнастак-«мастачак». Нават кароткі экскурс у гісторыю беларускай мастацкай гімнастыкі пераконвае ў гэтым.

Так, аднымі з першых спецыялістаў, прызнанымі ва ўсёй краіне, сталі ў 60—70-я гады мінулага стагоддзя Ларыса Гадзі-

ева і Людміла Міснік, якія мелі самае непасрэднае дачыненне да падрыхтоўкі гімнастак Людмілы Зданюк і Наталлі Бардушка: першая з іх напрыканцы шасцідзесятых сенсацыйна стала чэмпіёнкай Савецкага Саюза, а другая ў 1969-м перамагла на такім жа першынстве сярод дзяўчат і была нават запасной удзельніцай на сусветным чэмпіянаце.

Загаварыць жа ўвесь спартыўны свет аб з'яўленні беларускай школы мастацкай гімнастыкі прымусілі сваімі выступленнямі Галіна Крыленка (дзявочае прозвішча Логвінава) і Вольга Рабіновіч. На календары былі ўжо 70-я гады, калі спачатку ў 1973-м, а потым — у 1977-м выпускніца Беларускага інстытута фізічнай культуры Галя Логвінава, паспяхова выступіўшы на шэрагу ўсесаюзных і міжнародных спаборніцтваў, уключаецца ў састаў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза і атрымлівае залатыя ўзнагароды ў групавых практыкаваннях на сусветных першынствах — адпаведна ў галандскім Ротэрдаме і швейцарскім Базелі. У тыя ж гады яна выйграе пяць тытулаў чэмпіёнкі краіны ў групавых практыкаваннях і практыкаваннях з булавамі. Разам з Логвінавай тытул чэмпіёнкі свету — 1977 атрымае і яшчэ адна мінчанка — Оля Рабіновіч.

І наўрад ці меркаваў хто-небудзь, што мінуць-праляцяць «нейкія» там дзесяць гадоў, і пад сапраўднай мацярынскай апекай двух выдатных беларускіх спецыялістаў — Ірыны Ляпарскай і той жа Галіны Крыленка (Логвінавай) стане на ногі, вырасце і загартуецца як самая сапраўдная спартыўная Асоба бліскучая і непараўнальная гімнастка — Марына Лобач!

…Суседзі і знаёмыя сям'і Лобачаў у Смалявічах доўгі час ніяк не маглі зразумець: навошта тое, чым займаецца Марынка, ёй самой, ейным бацькам? Хоць займалася яна самай звычайнай для падлетка справай — наведвала секцыю па мастацкай гімнастыцы.

Напрыканцы 1970-х гадоў у невялікі гарадок Смалявічы пасля заканчэння інстытута фізічнай культуры прыехала працаваць малады спецыяліст Ірына Ляпарская. Нагрузка ў сярэдняй школе была вялікая, аднак яна знайшла магчымасць і час адкрыць секцыю мастацкай гімнастыкі. Не вельмі каб ахвотна, аднак мясцовыя дзяўчынкі, бліжэй пазнаёміўшыся, а потым і пасябраваўшы з Ірынай Юр'еўнай, спачатку палюбілі яе, а потым і саму гімнастыку — такую прыгожую, проста чароўную і непаўторную!

Марынка была адной з першых сярод тых зусім яшчэ юных аматарак…

Ірына Ляпарская рабіла ўсё, што было ў яе сілах і магчымасцях, каб, з аднаго боку, даць сваёй самай здольнай і настойлівай вучаніцы для пачатку элементарныя навыкі і веды, а з другога — стварыць для яе і іншых дзяўчатак хоць больш-менш прымальныя ўмовы для заняткаў. Першае — атрымлівалася даволі паспяхова, другое — не вельмі… Катастрафічна (слова з лексікона самой Лобач) не хапала спартыўнага інвентару: булаў, абручоў, стужак… Булавы, для прыкладу, неўзабаве прызвычаіўся рабіць тата Марыны — Вікенцій Дзмітрыевіч. Абручы, стужкі за сваю, такую мізэрную, настаўніцкую зарплату набывала Ірына Юр'еўна.

Яна бачыла: Марынцы патрэбны іншыя — самыя сапраўдныя і самыя што ні ёсць спрыяльныя — умовы для заняткаў. Сустрэўшы аднойчы ў Мінску толькі што распачаўшую трэнерскую працу Галіну Крыленка, яна, вядома ж, з вялікім шкадаваннем і параіла ёй «паглядзець цікавую дзяўчынку»…

З таго моманту штодзённая дарога на заняткі ў секцыю да Ірыны Ляпарскай у Смалявічах змяніліся такім жа штодзённым падарожжам на электрычцы ў Мінск, у школу мастацкай гімнастыкі, да Галіны Крыленка. Так працягвацца доўга не магло і не павінна было, і неўзабаве Галіна Аляксандраўна «прабіла» для сваёй здольнай вучаніцы месца ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце спартыўнага профілю.

Заняткі гімнастыкай сталі для Марыны ў поўнай меры справай зусім яшчэ дзіцячага жыцця!

У чатырнаццаць гадоў яна — чэмпіёнка свету ў асобных практыкаваннях. У пятнаццаць — заваёўвае Кубак Савецкага Саюза. У шаснаццаць — сярэбраны прызёр Гульняў добрай волі. Дзе б яна ні выступала, за ёй пільна сочаць — і перш за ўсё кінаапературы з каманд-саперніц. І не без падстаў: тэхніка і дасканаласць практыкаванняў, якія выконвала юная беларуская гімнастка, практычна ўсімі спецыялістамі ацэньваліся як блізкія да ідэальных!

XXIV Алімпіяда ў Сеуле (1988) і насамрэч паказала: больш моцнай і элегантнай спартсменкі ў сусветнай мастацкай гімнастыцы тады проста не было. За ўсе чатыры практыкаванні — са стужкай, з булавамі, з прадметам і абручом — у фінальных спаборніцтвах суддзі аднагалосна (!) паставілі Марыне Лобач найвышэйшыя адзнакі — дзесяць!

Выйграўшы потым чарговае сусветнае першынство, некалькі іншых вялікіх міжнародных спаборніцтваў і турніраў, непаўторная беларуская гімнастка Марына Лобач пакінула вялікі спорт непераможнай!

*Раздзел V*

## ТАЯМНІЧЫ ЎСПЛЁСК ВЯСЛА

*На воднай гладзі Камсамольскага возера ў беларускай сталіцы байдаркі і каноэ можна пабачыць практычна кожны дзень: у спякоту і дождж, ранняй вясной і позняй восенню... А большасць з нас глядзяць на няструмныя гонкі весляроў і са здзіўленнем паціскаюць плячыма: маўляў, каму гэта патрэбна?..*

*Патрэбна! І ім, гэтым сталым ужо і толькі пачынаючым яшчэ гоншчыкам на байдарках і каноэ... І нам, іхнім прыхільнікам і аматарам гэтых прыгожых і эмацыянальных відаў спорту...*

*Веславанне — акадэмічнае, на байдарках і каноэ — неверагодна захапляючае і дынамічнае відовішча. Таму і захапіла яно нашых суайчыннікаў аднойчы і назаўсёды.*

*Ужо на першай Алімпіядзе з удзелам савецкіх спартсменаў у саставе зборнай СССР быў наш прадстаўнік — вясляр з Гомеля Стэфан Міхайлаў. Тады, на XV Гульнях 1952 года ў Хельсінкі, да п'едэстала гонару ён «не даплыў»: не хапіла ні вопыту, ні, уласна кажучы, майстэрства. Аднак адкуль было ўзяцца таму ж вопыту, калі афіцыйныя спаборніцтвы ў Савецкім Саюзе тады яшчэ не праводзіліся, а зборная краіны фарміравалася літаральна перад самым ад'ездам спартсменаў у Фінляндыю...*

*Праз восем гадоў на XVII Алімпійскія гульні 1960-га ў Рым прыбыў экіпаж нікому невядомых у спартыўным свеце савецкіх канаістаў у саставе гамяльчаніна Леаніда Гейштара і брастаўчаніна Сяргея Макаранкі. Дэбютанты не падвялі: залатыя алімпійскія ўзнагароды атрымалі беларускую прапіску.*

*Наступны выхад беларускіх весляроў на алімпійскую водную прастору адбыўся толькі праз 12 гадоў пасля трыумфу Гейштара і Макаранкі. Гэта было ў Мюнхене на XX Алімпійскіх гульнях. І кіраўніцтва тагачаснага са-*

*вецкага фізкультурна-спартыўнага руху, і ўвесь спартыўны свет былі здзіўлены, што беларусы змаглі ў чарговы раз вывесці на алімпійскі ўзровень не чарговую гімнастку (такога ж узроўню, як Алена Валчэцкая, Ларыса Петрык ці Вольга Корбут), не фехтавальшчыкаў накшталт Тацяны Самусенка ці Алены Бяловай, і нават не «чарговага» Аляксандра Мядзведзя, а... весляра-байдарачніка Мікалая Гарбачова... У сталіцы Баварыі, падчас яго трыумфу на воднай акваторыі тамтэйшага вяслярнага канала, пры ўручэнні яму залатой алімпійскай узнагароды журналісты з-за мяжы доўга не маглі ўцяміць: дзе знаходзіцца і што сабой уяўляе беларускі горад Рагачоў, у якім нарадзіўся і вырас Мікалай? Той самы Мікалай Гарбачоў, які разам з напарнікам з Расійскай Федэрацыі Віктарам Кратасюком рашуча і бескампрамісна пакінулі далёка ззаду ўсе без выключэння зорныя экіпажы байдарак-двоек...*

*Дарэчы, пасля разам з трыма беларускімі веслярамі — Мікалаем Хахлом, Леанідам Дзеравянкам і Мікалаем Савай — Мікалай Гарбачоў выйграў яшчэ і чэмпіянат свету на байдарцы-чацвёрцы.*

*А потым эстафету трыумфальных перамог ад іх падхапілі чэмпіён XXI Алімпійскіх гульняў 1976 года Уладзімір Раманоўскі і пераможцы сусветных і еўрапейскіх першынстваў Уладзімір Тайнікаў і Наталля Дорах. Алімпіяда-80 у Маскве стала сапраўдным бенефісам беларускага весляра Уладзіміра Парфяновіча: тройчы выходзіў ён у фінальныя заезды і кожны раз не пакідаў сапернікам аніякіх шанцаў на залатыя ўзнагароды!*

*Чэмпіёнамі і прызёрамі сусветных першынстваў па веславанню на байдарках і каноэ, акрамя згаданых вышэй спартсменаў, у 1970-я — 1980-я гады станавіліся Наталля Вакула, Тамара Шыманская, Мікалай Астапковіч, Васіль Вараб'ёў, Васіль Пусеў, Аляксандр Мызгін, Эдуард Пліткін, Дзмітрый Банькоўскі і іншыя выхаванцы беларускай школы веславання.*

*У акадэмічным веславанні ў саставе зборнай Савецкага Саюза золата маскоўскіх Гульняў-80 атрымала наша Алена Хлопцава, бронзавыя ўзнагароды — Антаніна Мельнікава, Ігар Майстрэнка і Андрэй Лугін.*

*На XXIV і XXV Алімпійскіх гульнях 1988-га і 1992-га гадоў у Сеуле і Барселоне залаты запас нашай рэспублікі ў саставе зборных СССР і Садружнасці Незалежных Дзяржаў папоўнілі весляры Віктар Рэнейскі (дзве залатыя ўзнагароды), Дзмітрый Даўгалёнак і Аляксандр Масяйкоў. У акадэмічным веславанні былі медалі іншай вартасці: бронза Кацярыны Хадатовіч, Васіля Якушы, той жа Алены Хлопцавай.*

*Пачаўшы свой алімпійскі шлях з бронзавай узнагароды XXV Гульняў 1992 года ў Барселоне, Кацярына Хадатовіч (Карстэн) трыумфальна прадоўжыла яго на вяслярных каналах наступных Алімпіяд. На XXVI і XXVII Алімпійскіх гульнях 1996-га і 2000-га гадоў у Атланце і Сіднеі яна, як кажуць, пераплавіць тую бронзу ў больш варты метал — золата. На XXVIII Гульнях 2004 года ў Афінах Кацярына Вялікая, як назавуць яе журналісты і аматары веславання, папоўніць сваю калекцыю медалём сярэбранай вартасці. А на XXIX Алімпіядзе-2008 у Пекіне зноў — на пятых Гульнях запар! — яна ўзнімецца на п'едэстал гонару за пятай (!) па ліку алімпійскай узнагародай: за бронзавым медалём.*

*На Алімпійскіх гульнях у Пекіне залатыя ўзнагароды атрымалі беларускія весляры браты Аляксандр і Андрэй Багдановічы (каноэ-двойка), а таксама Раман Петрушэнка, Вадзім Махнеў, Аляксей Аблмасаў і Артур Літвінчук (байдарка-чацвёрка).*

*Узнагароды на Алімпіядах, чэмпіянатах свету і самых буйных міжнародных спаборніцтвах заваёўвалі таксама Наталля Лаўрыненка, Аляксандра Панькіна, Наталля Волчак, Тамара Давыдзенка, Валянціна Скрабатун, Алена Мікуліч, Наталля Стасюк, Марына Знак, Яраслава Паўловіч, Алена Макушкіна, Ірына Цяцерына, Алена Брацішка, Наталля Гелах, Юлія Бічык, Вольга Трацэўская, Марына Кузьмар, Вольга Тагаева, Наталля Ляліна, Святлана Паляшчук і іншыя прадстаўнікі беларускай школы акадэмічнага веславання.*




## *Леанід Гейштар і Сяргей Макаранка:*

## ДВОЕ Ў ЛОДЦЫ АБЫХОДЗЯЦЬ САПЕРНІКАЎ

*Леанід Гейштар нарадзіўся 15 кастрычніка 1936 года ў Гомелі. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XVII Алімпійскіх гульняў у Рыме (1960) па веславанню на каноэ на дыстанцыі 1000 метраў. Чэмпіён свету 1963 года. Двухразовы чэмпіён Еўропы 1961 і 1963 гадоў. Шматразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1959 — 1963 гадоў. Заслужаны трэнер БССР. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры і спорту Беларусі. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Ганаровы грамадзянін г. Гомеля. Член-карэспандэнт Беларускай інжынерна-тэхналагічнай акадэміі. Першы трэнер — Аляксандр Дзібета.*

*Сяргей Макаранка нарадзіўся 11 верасня 1937 года ў горадзе Крывы Рог на Украіне. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён Гульняў XVII Алімпіяды ў Рыме (1960) па веславанню на каноэ на дыстанцыі 1000 метраў. Чэмпіён свету 1963 года. Двухразовы чэмпіён Еўропы 1961 і 1963 гадоў. Неаднаразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1959 — 1963 гадоў. Заслужаны трэнер БССР. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры і спорту Беларусі. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Уладзімір Піліпенка.*

Першыя беларусы-пераможцы сучасных Алімпійскіх гульняў — менавіта з такімі ганаровымі тытуламі ўвайшлі ў спартыўны летапіс Беларусі гэтыя два сціплыя і самаадданыя, а разам з тым — мужныя і працавітыя майстры сваёй справы. Справы, імя якой — веславанне на каноэ…

…На ўсё жыццё запомніў Лёня Гейштар вочы сваёй мамы, вочы, поўныя слёз, трывогі і клопату за лёс сваіх пяцярых дзяцей, з якімі засталася яна адна пасля пераможных залпаў Вялікай Айчыннай. З вайны не вярнуўся дадому муж і бацька, і шматдзетнай сям’і Гейштараў з Гомеля давялося самастойна шукаць шляхі-дарогі для пасляваеннага выжывання…

Фізічная культура і спорт захапілі яго адразу ж. Часта згадваў Леанід, як на першых жа спаборніцтвах — першынстве Гомеля па лыжных гонках на дыстанцыі 5 кіламетраў — адразу пасля фінішу ён упаў, страціўшы прытомнасць. Падбеглі, падхапілі на рукі сябры і выкладчык фізкультуры. «У чым справа, Лёня?» — наперабой пачалі пытацца тыя. А падлетак толькі і сказаў, што шмат дзён не еў нават хлеба…

…А ў другім абласным цэнтры Беларусі — Брэсце — у такіх жа ўмовах жыў і ўставаў на ногі яшчэ адзін падлетак — Сярожа Макаранка. Такое ж паходжанне са шматдзетнай сям'і, такое ж дзяцінства бязбацькавіча… Яму не было яшчэ і чатырох гадкоў, калі з-за Буга з'явіліся варожыя самалёты і пачалі засыпаць стаўшы родным горад (незадоўга да пачатку Вялікай Айчыннай сям'я палітрука Макаранкі была пераведзена па вайсковай службе з Крывога Рога ў Брэст) сотнямі і тысячамі бомбаў і мін. Бацька ўважліва паглядзеў у блакітныя вочкі сына, моцна-моцна прыціснуў яго да сябе і, па-даросламу адказаўшы на пытанне хлопчыка: «Куды ты, тата?», адным словам — «На вайну!», знік за дзвярыма кватэры-казармы.

Знік, так і не вярнуўшыся адтуль — з той праклятай, нікому не патрэбнай бойні-вайны…

…Маленькая, але такая ўтульная хатка, у якой пасля вайны жылі Гейштары, стаяла на самым беразе Сожа. Вясной, падчас паўнаводдзя, яе заўсёды затоплівала вадой, і дзецям у школу, а маме на працу даводзілася дабірацца адным спосабам — на самаробнай лодцы. Маму, трох родных сясцёр і брата, а таксама і суседзяў вазіў зазвычай Лёня, так што азы веславання (чытайце: сваёй будучай прафесіі) ён пачаў асвойваць, па-сутнасці, з маленства…

…Пайшоўшы ў старэйшыя класы агульнаадукацыйнай школы, Сярожа Макаранка пачаў дапамагаць маме зарабляць на жыццё. Асабліва падчас летніх канікулаў. Працу ж знайшоў сабе не з лёгкіх — грузчыка на адной з баржаў, што курсіравала, перавозячы грузы, па Мухаўцу… З якой вялікай радасцю нёс дадому тую невялічкую зарплату, што выдавалі, па сутнасці, за непасільную працу.

— У 1955 годзе я ўпершыню сеў у спартыўнае судна пад назвай каноэ, — згадваў аднойчы Сяргей Лаўрэнавіч. — Чаму ў каноэ? Проста так загадаў мой першы спартыўны настаўнік Уладзімір Карпавіч Піліпенка. А пярэчыць яму мы, няхай сабе ўжо і дарослыя людзі, не мелі ніякага права…



*Сяргей Макаранка*

— А вось у мяне першага трэнера, па-сутнасці, і не было, — Леанід Рыгоравіч, памятаецца, са скрухай у голасе паківаў галавой. — Не было і ўсё тут! Навучыўся веславаць сам, сіл жа набраўся потым, калі таксама самастойна пачаў зарабляць на жыццё…

Вось так, паралельнымі, што называецца, курсамі, нават не падазраючы аб існаванні адзін аднаго, ішлі сваімі шляхамі-дарогамі ў вялікі спорт два неверагодна настойлівыя, працавітыя, таленавітыя чалавекі.

На першых больш-менш значных спаборніцтвах, па-ранейшаму не будучы знаёмымі адзін з другім, яны выступілі ў адзін і той жа год — у 1955-м. Леанід Гейштар, прыйшоўшы ў секцыю веславання на каноэ за 45 дзён да таго, выйграў першынство Гомеля і Гомельскай вобласці, а Сяргей Макаранка на рэспубліканскіх гонках заняў другое месца на дыстанцыі 5 тысяч метраў. Прыкладна ў адзін час, нягледзячы амаль што на аднагадовую розніцу ва ўзросце, іх прызвалі на службу ў рады Савецкай Арміі. Учарашні гамяльчанін праходзіў службу ў далёкай Башкірыі, ранейшы ж жыхар Брэста трапіў ва Уручча пад Мінскам — ва ўзвод ваеннага мнагаборства…

У 1959-м, калі абодва весляры трапілі ўжо на аловак кіраўнікоў зборнай Беларусі, усяго толькі за 10 дзён да стартаў па праграме Спартакіяды народаў Савецкага Саюза іх вырашылі аб’яднаць у адзін экіпаж. Вырашылі — і зрабілі! У Маскве, на Хімкінскім вадасховішчы і адбыўся дэбют будучых алімпійскіх трыумфатараў.

23 экіпажы з самых розных куткоў неабсяжнага Савецкага Саюза выйшлі тады на старт на дыстанцыі 10 тысяч метраў. І якія экіпажы! Практычна ніхто не сумняваўся, што залатыя ўзнагароды ў вострай і бескампраміснай барацьбе разыграюць паміж сабой пары канаістаў у складзе чэмпіёнаў Алімпійскіх гульняў 1956 года ў Мельбурне Паўла Харына і Хрысціяна Боцева і пераможцаў сусветнага першынства 1958 года Уладзіміра Якуніна і Сцяпана Ашчэпкава. І менавіта апошні дуэт з самага пачатку гонкі завалодаў ініцыятывай і ўпэўнена выйшаў напе-

рад. Гейштар жа і Макаранка, дапусціўшы на старце невялікую замінку, трымаліся пакуль што на другой пазіцыі…

Але вось пасля першай трэці дыстанцыі наперад пачалі выходзіць нікому невядомыя беларускія канаісты. Тытулаваныя сапернікі, захопленыя спрэчкай паміж сабой, не звяртаюць на іх аніякай увагі: маўляў, не такіх мы бачылі... І сапраўды, да фінішу было яшчэ так далёка — больш чым шэсць з паловай кіламетраў!

— Нашу невядомасць мы самі выкарысталі больш чым удала, — казаў потым Леанід Гейштар. — Упэўнена, так, як маглі і ўмелі, робячы сваю справу, мы і дайшлі да фінішу. Дайшлі першымі — пераможцамі Спартакіяды народаў СССР!

Шлях у зборную Савецкага Саюза быў прыадкрыты… Прыадкрыты, а не насцеж раскрыты, таму што асноўнымі членамі галоўнай каманды краіны па-ранейшаму лічыліся тытулаваныя экіпажы ў складзе Харына, Боцева, Якуніна і Ашчэпкава. Ім жа, адчайным дэбютантам усесаюзных спаборніцтваў, няхай сабе і пераможцам Спартакіяды, права заняць месца сярод прэтэндэнтаў на паездку ў алімпійскі Рым трэба было яшчэ пацвердзіць. І не дзе-небудзь, а на чарговым асабіста-камандным чэмпіянаце Савецкага Саюза 1960 года.

Усю зіму, што папярэднічала таму чэмпіянату, яны працавалі да сёмага поту. Шэсць разоў на тыдзень, па дзве-тры гадзіны адпрацоўвалі Леанід Гейштар і Сяргей Макаранка сваю праграму. Адпрацоўвалі далёка адзін ад аднаго: першы — у Гомелі, другі — у Брэсце. І тым не менш, на чэмпіянат СССР у пачатку ліпеня 1960-га прыбылі ў поўнай баявой гатоўнасці.

Сваю каронную дыстанцыю 10 тысяч метраў яны выйгралі без праблем, абыйшоўшы сярэбраных прызёраў масквічоў Алега Сурына і Віктара Кісялёва на 43 секунды, а асноўных канкурэнтаў — Паўла Харына і Хрысціяна Боцева ажно на 1 мінуту 19 секунд. Але ж дзесяцікіламетроўка — не алімпійскі від праграмы. Права «заказаць білет» у сталіцу Італіі яны павінны былі на дыстанцыі ажно ў дзесяць разоў карацейшай праграмы — алімпійскім аднакіламетровым адрэзку.

— Гэта была бескампрамісная гонка роўных сапернікаў, — расказваў потым Сяргей Макаранка. — Нас падзяліла адно імгненне — 0,2 секунды… Але — на карысць Харына і Боцева. Аднак канчатковы лёс алімпійскай пуцёўкі вызначалі трэнеры, і яны амаль што аднагалосна аддалі перавагу беларускаму экіпажу. Так і сказалі: «За стабільнасць і ўменне весці барацьбу ў экстрэмальных умовах…»

Алімпійскія ўзнагароды на многіх дыстанцыях на маляўнічым італьянскім возеры Альбана разыгрывалі 173 весляры з 24 краін свету. Савецкія майстры вясла выступалі спачатку не вельмі ўдала… Байдарачнікі наогул не атрымалі ўзнагарод, а з канаістаў толькі адно серабро заваяваў Аляксандр Сілаеў. Так што самыя апошнія надзеі трэнеры і кіраўнікі савецкага спорту звязалі толькі з імі — Леанідам Гейштарам і Сяргеем Макаранкам.

…Раніца 29 верасня 1960-га выдалася нават для Італіі невыносна спякотнай. Калі ж спартсмены прыехалі на старт, ртутны слупок тэрмометра паказваў за 40 градусаў! Ад невыноснай спякоты ў Макаранкі забалела галава, аднак ён не толькі не падаў віду, а нават не сказаў аб гэтым Гейштару. Ведаў: на іх жа глядзіць увесь Савецкі Саюз…

І вось судны на вадзе. Шэсць фіналістаў — роўных сярод роўных — выстройваюцца на лініі старту… У аднаго з экіпажаў нервы не вытрымліваюць — фальстарт! Другая спроба — і беларусы адразу ж вырываюцца наперад. 60 і нават болей грабкоў у мінуту: секунда ў секунду, бы па гадзінніку-хранометру… Застаюцца ззаду венгерскія весляры, не вытрымліваюць зададзенага тэмпу і гаспадары — італьянцы, яўныя фаварыты перадстартавых прагнозаў.

Усяго на тры секунды раней за экіпаж з Італіі фінішавалі нашы майстры. Але гэта былі насамрэч «залатыя» алімпійскія імгненні!

Моцныя поціскі рук, абдымкі і нават мужчынскія скупыя пацалункі — усё было ў першыя гадзіны і дні пасля трыумфу. Там жа, ў Рыме, Леанід Гейштар і Сяргей Макаранка далі адзін аднаму слова дацягнуць да наступных Алімпійскіх гульняў… І да вызначанай мэты беларусы ішлі мэтанакіравана і надзвычай упэўнена. Выйгралі чэмпіянаты свету і двойчы — кантынента, яшчэ тры разы — першынствы Савецкага Саюза, так званы «Перадалімпійскі тыдзень» непасрэдна ў сталіцы XVIII Гульняў-64 — у Токіо. Інакш кажучы, роўных ім па майстэрству і сілах у свеце не было… Няшчасце ж чакала на чэмпіянаце Савецкага Саюза, калі літаральна за дзень да рашаючага старту на той жа кіламетровай дыстанцыі моцна захварэў Леанід Рыгоравіч.

У японскую сталіцу абараняць гонар краіны паехаў іншы экіпаж…



## *Мікалай Гарбачоў:*

## З НЕВЯДОМАСЦІ — ДА СУСВЕТНАЙ СЛАВЫ

*Мікалай Гарбачоў нарадзіўся 15 мая 1948 года ў горадзе Рагачове. Заслужаны майстар спорту СССР. Алімпійскі чэмпіён: пераможца XX Гульняў у Мюнхене (1972) у веславанні на байдарцы-двойцы на дыстанцыі 1000 метраў разам з Віктарам Кратасюком з Грузіі. Чэмпіён свету 1974 года. Чэмпіён Еўропы 1971 і 1975 гадоў. Бронзавы прызёр чэмпіянатаў свету і Еўропы 1971 і 1975 гадоў. Сяміразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1968, 1970, 1971, 1972, 1973, 1974 і 1975 гадоў. Чэмпіён Спартакіяды народаў СССР 1971 года. Заслужаны трэнер Беларусі. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Ганаровы грамадзянін горада Рагачова. Першы трэнер — Віктар Станібула.*

Нарадзіцца, жыць і расці ў Рагачове, дзе імчаць свае празрыстыя і чыстыя воды дзве ракі-прыгажуні — Днепр і Друць, і не захапіцца плаваннем ці веславаннем на спартыўных суднах — ні тады, некалькі дзесяцігоддзяў назад, ні зараз проста недаравальна! Асабліва для прадстаўнікоў юнага пакалення. Бо менавіта там, на берагах Дняпра і Друці, і праходзіла, праходзіць і будзе праходзіць самая радасная і бесклапотная частка жыцця — маленства і юнацтва.

…Аднойчы пяцёрка неразлучных рагачоўскіх хлапчукоў — Саша Мазэпін, Міша Мар’янін, Лёша Памазанаў, Валік Ярмоленка і ён, Коля Гарбачоў, сядзелі на беразе Дняпра і за нічым бавілі час. Не заўважылі, як непадалёку прычаліла лодка, назву якой яны даведаліся потым — байдарка. Асцярожна падыйшлі, пачалі з цікаўнасцю разглядаць…

— Падабаецца? — спытаў мужчына, выцягваючы судна на пясчаны дняпроўскі бераг.

— Яшчэ як! — за ўсіх адказаў самы смелы з тых хлопчыкаў Коля Гарбачоў.

— Што ж, прыходзьце заўтра ў спартшколу, — запрасіў іх гаспадар байдаркі. — Паглядзім, а раптам што-небудзь у вас і атрымаецца…

Назаўтра ўвесь дружны квінтэт вучняй-чацвёртакласнікаў з рагачоўскай сярэдняй школы № 2 быў ужо ў ДзЮСШ.

Першым, хто бліжэй пазнаёміў Гарбачова з байдаркай, быў аднагодак Лёня Рэуцёнак. Ён, аказваецца, ужо цэлы год ганяў судна па водных прасторах Дняпра і Друці. Паказаў, як трэба круціць вяслом, папярэдзіў аб небяспецы перакуліцца і, падштурхнуўшы байдарку з берага, пажадаў: «Плыві!»…

І Коля паплыў… З невядомасці да самай сапраўднай сусветнай славы!

Так і палюбіў ён новы для сябе від спорту. А ранейшыя захапленні — лыжы і баскетбол — спачатку адышлі на другі план, а неўзабаве і наогул былі забытыя. Веславанне ж авалодала Мікалаем Гарбачовым на ўсё далейшае жыццё!

Першым і адзіным настаўнікам стаў для яго Віктар Станібула, неверагодна сціплы і добразычлівы чалавек. Памятаю, як пазней, калі ягоны лепшы вучань Гарбачоў скарыў ужо алімпійскі п’едэстал, я спрабаваў узяць у Віктара Сцяпанавіча інтэрв’ю. Ды практычна нічога не атрымалася: не пра Мікалая, а тым больш не пра сябе гаварыў мне трэнер, а пра прыгажосць рагачоўскіх краявідаў, пра тых хлопчыкаў і дзяўчынак, якія пасля трыумфальнага выступлення Гарбачова на Алімпійскіх гульнях 1972 года, што называецца, валам павалілі ў рагачоўскую ДзЮСШ, вядома ж, на аддзяленне веславання на байдарках і каноэ!

І гэта, як я правільна зразумеў, стала для выдатнага педагога Віктара Сцяпанавіча Станібулы самай высокай і заслужанай узнагародай. І для яго вучня — Мікалая Сцяпанавіча Гарбачова — таксама…

Але ўсё гэта будзе потым. А да таго зорнага імгнення была больш чым дзесяцігадовая сумесная праца — штодзённая, напружаная, да самазабыцця…

Віктар Станібула не быў з тых спартыўных педагогаў, якіх вучні ўпотай называюць дыктатарамі. Ён быў хутчэй за ўсё лібералам, аднадумцам сваіх выхаванцаў. Цаніў у іх разважлівасць і памяркоўнасць, жаданне і памкненне да ўсяго дайсці самім, ва ўсім, што называецца, разабрацца… Ды і самім хлопцам падабаўся такі падыход: значыць, цэніць іх шэф, паважае, бачыць у кожным няхай сабе і маленькую, але ж — асобу…

Пасадзіўшы спачатку ў адну байдарку-двойку сваіх лепшых выхаванцаў, — Леаніда Рэуцёнка і Мікалая Гарбачова — настаўнік атрымаў разам з імі і першыя перамогі і ўзнагароды. Спачатку гэта былі залатыя медалі на Спартакіядзе школьнікаў Беларусі, а неўзабаве — сярэбраныя ўзнагароды на такіх жа спаборніцтвах сярод школьнікаў Савецкага Саюза.

…Яшчэ праз сем гадоў — у 1966-м — ён стане майстрам спорту СССР. «Ну і што?!» — скажа іншы чытач. А вось што: Мікалай першым у Рагачове атрымае гэта высокае і пачэснае спартыўнае званне. Менавіта тады і возьмуць яго на аловак спецыялісты і трэнеры нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза.

Апошнія бачылі: вясляр з Беларусі вельмі хутка знаходзіць агульную мову з партнёрамі менавіта ў байдарцы-двойцы. І вось ужо выступае ён з Сяргеем Арыстахавым, потым — з Уладзімірам Земляковым… «Штосьці, — як казалі настаўнікі, — атрымлівалася, штосьці — не…» Саміх спартсменаў у тонкасці справы тады пасвячаць было не прынята, аднак сам Мікалай не надта і імкнуўся ведаць усё… Ён добра разумеў і ўсведамляў адно, самае, несумненна, галоўнае: кіраўнікі зборнай шукалі-падбіралі яму партнёра — такога ж стабільнага і надзейнага, як і ён.

Аднойчы на зборах перад пачаткам чарговай трэніроўкі да яго падыйшоў невысокага росту светлавалосы малады чалавек. Падаў руку, назваўся:

— Віктар Кратасюк, з Грузіі. Ёсць меркаванне, што будзем спрабаваць сябе разам, у адной лодцы…

Агульную мову яны знайшлі літаральна ж адразу, як толькі селі ў байдарку-двойку. Абодва — і Гарбачоў, і Кратасюк — былі фізічна моцныя, у тэхнічных адносінах дасканалыя. Сінхроннасці ж і зладжанасці, упэўненасці і поўнага ўзаемаразумення дасягнулі практычна адразу — усяго пасля некалькіх заездаў. Адзін з трэнераў зборнай Савецкага Саюза Міхаіл Пісараў ад задавальнення паціраў рукі: у алімпійскай дысцыпліне — веславанні на байдарцы-двойцы на дыстанцыі 1000 метраў — пытанне, па ягонаму цвёрдаму перакананню, было паспяхова вырашана…

Мікалай і Віктар, і сапраўды, не давалі падстаў для расчараванняў ці нават для сумненняў у сваёй стабільнасці і надзейнасці.

…Аб сваім удзеле ў алімпійскай рэгаце ў Мюнхене-72 на дыстанцыі 1000 метраў заявіла рэкордная колькасць удзельнікаў — 25 экіпажаў. І практычна кожны з іх — весляры з Румыніі і Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, Аўстрыі і Францыі, Бельгіі

і Іспаніі, Канады і Італіі, нават з Новай Зеландыі і Берага Слановай Косці — гатовы былі павесці штурм алімпійскага п’едэстала гонару. На штучным канале Фельдмохінг, а потым і на канале Обершляйсхай, дзе праходзілі фінальныя гонкі, ад напружання і напалу спаборніцтваў вада аж закіпала…

І папярэдні, і паўфінальны заезды экіпаж Гарбачоў — Кратасюк выйграў, што называецца, без праблем: у першым з іх румыны, якія занялі другое месца, адсталі больш чым на секунду, у другім — аўстрыйцы фінішавалі толькі праз 3 з паловай секунды. На імклівай тысячаметроўцы такое адставанне больш чым дастатковае для спакойнай і стрыманай падрыхтоўкі да самага рашаючага заезду — фінальнага.

— Трэба было бачыць, — казаў потым Мікалай, — як нерваваліся нашы асноўныя сапернікі — венгры Дэме і Раткаі, палякі Шушкевіч і Пішч, весляры з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Райнэр і Златнаў, румыны Еосніца і Сімончанка…Мы ж, паверце, не хваляваліся зусім!

Аднак канкурэнцыю ім сапернікі склалі вельмі і вельмі моцную. І найперш — венгерскія і польскія весляры, якія былі больш вопытныя і загартаваныя на спаборніцтвах такога высокага рангу. З першых метраў фінальнай гонкі барацьба разгарэлася не на жарт. Больш таго, за некалькі дзесяткаў метраў перамога ледзь не выслізнула з рук нашых весляроў: яны адчулі — венгры побач! «Цiснем на поўную!» — крыкнуў Мікалай свайму некалькі маладзейшаму партнёру. І яны «цісканулі»…

На фінішы «залаты» савецкі экіпаж адарваўся ад «сярэбраных» сапернікаў з Венгрыі ўсяго толькі на імгненне — на 0,77 секунды! Яшчэ праз дзве з паловай секунды фінішавалі бронзавыя прызёры Алімпіяды — палякі…

А потым былі перамогі на чэмпіянатах кантынента і свету, на самых буйных спартыўных рэгатах. Выступаў Мікалай Гарбачоў не толькі на сваёй кароннай дыстанцыі — 1000 метраў, — але і на неалімпійскай дыстанцыі ў дзесяць разоў даўжэйшай, прычым не толькі ў двойцы, але і ў складзе чацвёркі. Разам з землякамі-беларусамі Мікалаем Хахлом, Леанідам Дзеравянкам, Уладзімірам Савай перамагаў на чэмпіянатах Савецкага Саюза і на Спартакіядзе народаў СССР; пад сцягам зборнай краіны змагаўся і перамагаў разам з Хейна Курветам, Уладзімірам Клімавым, Уладзімірам Земляковым і, вядома ж, з нязменным сябрам і такім надзейным партнёрам, як Віктар Кратасюк з далёкага грузінскага горада Поці…



## *Уладзімір Раманоўскі:*

## ЁСЦЬ НА КАРЦЕ РЭЧКА ШЧАРА…

*Уладзімір Раманоўскі нарадзіўся 21 ліпеня 1957 года ў горадзе Слоніме. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXI Алімпійскіх гульняў у Манрэалі (1976) у веславанні на байдарцы-двойцы на дыстанцыі 1000 метраў разам з Сяргеем Нагорным, сярэбраны прызёр Гульняў на дыстанцыі 500 метраў. Чэмпіён свету 1981 і 1982 гадоў, чэмпіён Еўропы 1975 года сярод юніёраў. Чэмпіён Спартакіяды народаў СССР 1979 года. Сяміразовы чэмпіён Савецкага Саюза. Першыя трэнеры — Мікалай Дуброўскі і Леанід Рэуцёнак.*

Рэчка Шчара ў Слоніме — зусім не вірлівая і не хуткаплынная, а наадварот — спакойная і ціхмяная. Нібы і не спяшаецца яна са сваімі водамі да бацькі-Нёмана, каб, зліўшыся з ім, паімчаць далей — аж да Куршскага заліва Балтыйскага мора… А дзе лепш адпачыць, праверыць свае сілы і майстэрства ў плаванні ці гонцы на лодках, калі не на вось такім прыгожым і маляўнічым улонні прыроды!

Слонімскія падлеткі так і робяць: выдасца вольная хвілінка-другая, і бягуць-спяшаюцца яны на сваю Шчару… Валодзя Раманоўскі ў такія далёкія ўжо шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя таксама імкнуўся не адставаць ад равеснікаў. Любіў і паплаваць, і пазагараць, ну, а самым любімым заняткам быў, вядома ж, футбол. І раптам…

Да заканчэння заняткаў у школе заставалася некалькі дзён, калі на дошцы для аб’яў з’явілася паперка-запрашэнне: жадаючыя могуць запісацца ў секцыю веславання на байдарках. Аб’ява зацікавіла многіх, у тым ліку і 12-гадовага Валодзю. Сабралася групка сяброў і паімчалася на бераг Шчары…

Трэнер дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, якая належала таварыству «Дынама», Мікалай Дуброўскі сустрэў падлеткаў у добрым настроі. На беразе якраз знаходзіліся некалькі байдарак, і ён — добрай душы чалавек — дазволіў найбольш смелым хлапчукам пакатацца на спартыўным судне. Рамаlоўскі рызыкнуў, і яму моцна спадабалася…

Ні сам падлетак, ні трэнер і не падазравалі, што гэта быў выбар лёсу!

Ужо праз год роўных яму не было. І не толькі сярод аднагодкаў, а нават і старэйшыя сябры па секцыі ўступалі яму і падчас трэніровак, і на першых вяслярных стартах. Рабіць хлопцу ў групе Мікалая Мікалаевіча Дуброўскага, як кажуць, не было чаго, і яго перавялі да Леаніда Пятровіча Рэуцёнка, які працаваў у «класе» вышэй.

— Цяжка было? — пацікавіўся я пазней у весляра.

Ён адказаў шчыра і адкрыта:

— Вядома ж. Павялічыліся нагрузкі, ды і спаборніцтвы часцей праводзіліся. Аднак адступаць ад мэты я не збіраўся…

А мэта тая была адна: выйграваць і выйграваць!

У 1973-м 16-гадовы Уладзімір Рамаlоўскі выступае на першых у сваім жыцці важных спаборніцтвах — рэспубліканскім першынстве сярод школьнікаў. І адразу ж пераможа на дыстанцыі 100 метраў на байдарцы. Кіраўнікі рэспубліканскай федэрацыі веславання на байдарках і каноэ адразу ж уключаюць яго ў састаў каманды для выступлення на ўсесаюзным юнацкім чэмпіянаце. Перамог Валодзя і там, быў уключаны ў зборную Савецкага Саюза, і ў яе саставе выйграў чэмпіянат Еўропы сярод юніёраў.

Нішто сабе ўзлёт, ці не праўда?!

Аднак галоўныя старты, выпрабаванні і перамогі былі ў яго наперадзе…

У 1975 годзе Раманоўскі атрымлівае запрашэнне ў нацыянальную зборную краіны. І ён сам, і Леанід Рэуцёнак разумелі: юнаку адводзіцца роля так званага спарынг-партнёра — гэта значыць напарніка для паўсядзённых трэніровак лідэраў савецкай каманды. А тымі лідэрамі, між іншым, былі таксама выхаванцы беларускай школы веславання — чэмпіёны свету Мікалай Астапковіч і Віктар Вараб’ёў. Ужо там, у саставе зборнай, Уладзіміру пачынаюць шукаць партнёра па экіпажу байдаркі-двойкі. Выбар настаўнікаў быў спынены на Сяргеі Нагорным з украінскага горада Хмяльніцкага — такім жа маладым і здольным спартсмене, як і Уладзімір Раманоўскі.

— На дзіва хутка мы знайшлі агульную мову, у байдарцы пачалі дзейнічаць зладжана і эфектыўна, — прызнаваўся ён. — Заўважылі гэта і трэнеры. І вось ужо мы пачынаем выконваць свае непасрэдныя функцыі: ганяцца па каналу ў Цахкадзоры са сваімі славутымі землякамі-чэмпіёнамі…

Аднак трэніроўкі — трэніроўкамі, а сваю перавагу маладому і неабкатанаму экіпажу трэба было даказваць на справе. І найперш — на ўсесаюзных спаборніцтвах.

Уладзімір Раманоўскі і Сяргей Нагорны пачалі працаваць і над гэтым...

У тым жа 1975-м спачатку на міжнароднай рэгаце ў Маскве, а потым і на чэмпіянаце Савецкага Саюза беларуска-ўкраінскі экіпаж упэўнена выйграў гонку байдарачнікаў на дыстанцыі 500 метраў. Праўда, на тым жа ўсесаюзным першынстве на дыстанцыі ў два разы даўжэйшай — 1000 метраў — Астапковічу і Вараб’ёву яны ўступілі… У доўгай спрэчцы трэнерскі савет зборнай СССР вырашае ўзяць на заключны перадалімпійскі збор на возеры Гальвэ ў Літве абодва экіпажы.

Экзамен на Гальвэ ім наладзілі больш чым сур’ёзны: некалькі гонак-прыкідак. Ды яшчэ з умовай больш чым жорсткай: калі чэмпіёны свету 1975 года Мікалай Астапковіч і Віктар Вараб’ёў выйграюць хоць бы адзін старт, у алімпійскі Манрэаль яны і паедуць! Маўляў, а ваш час, хлопчыкі (Раманоўскаму і Нагорнаму было тады ўсяго толькі па васемнаццаць!), яшчэ наперадзе…

Хлопчыкі ж думалі інакш. Бо іх, як кажуць, было ўжо не спыніць…

Калі галоўны трэнер зборнай па веславанню Аляксандр Сілаеў ставіў задачы перад кожным алімпійскім экіпажам, Уладзіміру і Сяргею вызначыў наступныя рубяжы: золата на 500-метроўцы, бронза — на кіламятроўцы. Весляры не пярэчылі, маўляў, будзем старацца!

Фінал гонкі байдарак-двоек на спрынтэрскай дыстанцыі на манрэальскім алімпійскім канале «Нотр-Дам» не мог не захапіць нават самае спакойнае і раўнадушнае сэрца. Кожны з экіпажаў не толькі працаваў на поўную магутнасць, але і пільна сачыў за сапернікамі, і найперш за тымі, хто рэальна прэтэндаваў на ўзнагароды Гульняў-76. Наперад адразу ж выйшлі іспанскія весляры. Заграбны Уладзімір Раманоўскі прымае іх выклік і павялічвае тэмп, які тут жа падхоплівае Сяргей Нагорны. Іспанцаў дагналі, а вось фінішны спурт Йоахіма Матэр-

на і Бернда Ольбрыхта са зборнай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі проста празявалі.

— Замест запланаванага нам залатога медаля прынеслі ў скарбонку зборнай сярэбраны, — перажываў тады Валодзя. І тут жа дадаў, звяртаючыся да Сяргея: — Выпраўляць памылку будзем праз дзень, на кіламятровай дыстанцыі…

«Работу над памылкамі» яны зрабілі проста бліскуча. Ужо не іспанскія, не венгерскія і не нямецкія сябры-сапернікі дыктавалі тактычныя ўмовы барацьбы, а яны — маладыя савецкія гоншчыкі. Адарваўшыся спачатку ад экіпажа з ГДР, беларус і ўкраінец крыху знізілі тэмп, перавялі дыханне і тут жа зноў запрацавалі так, што і ў іншых членаў экіпажаў, і ў шматтысячнай глядацкай аўдыторыі, што сачыла за захапляльнай гонкай па алімпійскаму каналу, аж дух заняло… Тых жа нямецкіх гоншчыкаў-весляроў Матэрна і Ольбрыхта Раманоўскі і Нагорны апярэдзілі на фінішы ўсяго толькі на 0,03 секунды! Вось такая была цана перамогі на самым высокім спартыўным форуме.

На алімпійскім п’едэстале гонару яны, такім чынам, памяняліся месцамі: экіпаж з ГДР заняў другую прыступку, а савецкія весляры — вышэйшую, першую. Немцы выглядалі стомленымі і пакрыўджанымі, нашы хлопцы — энергічнымі і радаснымі: алімпійскае золата па веславанню на байдарках у 19 гадоў дастаецца далёка не кожнаму…



## *Алена Хлопцава:*

## САМЫ НАДЗЕЙНЫ ПАРТНЁР

*Алена Хлопцава нарадзілася 21 мая 1960 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР па акадэмічнаму веславанню, майстар спорту СССР па плаванню. Чэмпіёнка Гульняў XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) па акадэмічнаму веславанню ў экіпажы-двойцы. Бронзавы прызёр XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне (1992) у экіпажы-чацвёрцы. Чэмпіёнка свету сярод юніёраў 1978 года. Трохразовая чэмпіёнка свету 1981, 1982 і 1983 гадоў. Пераможца міжнародных спаборніцтваў «Дружба-84». Сярэбраны (1985, 1990 і 1991 гг.) і бронзавы (1978) прызёр чэмпіянатаў свету. Пятнаццаціразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза 1977 — 1985 і 1989 — 1991 гадоў у экіпажы-двойцы і экіпажы-чацвёрцы. Чатырохразовая пераможца Спартакіяд народаў СССР 1979, 1983 і 1991 гадоў. Узнагароджана ордэнамі «Знак Пашаны» і Дружбы народаў. Трэнеры — Ядзвіга Руткоўская, Уладзімір і Барыс Алёшыны, Юрый Вілкаў.*

Багатыя патэнцыяльныя магчымасці юная Лена Хлопцава выявіла адразу ў двух відах спорту. І былі гэта настолькі не падобныя паміж сабой віды — плаванне і акадэмічнае веславанне, што і тады, падчас выяўлення тых магчымасцей, і потым, ужо пры асэнсаванні дасягненняў спартсменкі, спецыялісты і трэнеры задаваліся пытаннем: а ці магчыма такое наогул? Так, скажам, у лёгкай атлетыцы можна аднолькава паспяхова выступаць у бегу на спрынтэрскія і так званыя сярэднія дыстанцыі, кіданні молата ці дыска і штурханні ядра; у плаванні — вольным стылем і брасам, а вось дэманстраваць абсалютна аднолькавыя высокія і стабільныя паказчыкі ў такіх рознавагавых і проста палярных дысцыплінах, як плаванне і веславанне, як кажуць, прабачце і даруйце…

Але бліжэй да справы.

У дванаццацігадовым узросце мінчанка-школьніца Лена Хлопцава стала майстрам спорту СССР па плаванню. Маючы проста бліскучыя прыродныя даныя, яна адчувала сябе ў вадзе — без перабольшання — бы сапраўдная рыба! Трэнер па плаванню Рыма Пятроўна Войцік да таго часу дала ўжо пуцёўкі ў вялікі спорт многім сваім выхаванкам, а вось у рабоце з Ленай — і нават пасля таго, як дзяўчынка стала майстрам спорту, — штосьці не атрымлівалася… Ці то псіхалагічны стрэс-надлом, ці то бар'ер іншага характару не давалі практычнага росту далейшых вынікаў, нейкага маральнага і натхнёнага задавальнення. Менавіта гэтыя зусім нябачныя пабочнаму воку матывы паспрыялі зусім нечаканаму павароту падзей: Рыма Пятроўна пакінула працу ў секцыі плавання, а Леначка проста атрымала шанц застацца без справы…

Аднак жа родныя і блізкія людзі, сябры і проста знаёмыя ўжо бачылі і разумелі: рэзервы ў юнай Хлопцавай проста невычарпальныя! Загубіць прыродны талент, не даць, што называецца, выхаду задаткам ад Бога, адмахнуцца ад настойлівай і працавітай вучаніцы — шмат розуму не трэба было ніколі! А тым больш — у спорце. «Не складіся адносіны», «капрызны характар», «зорная хвароба», «бесталанная», і гэтак далей, і да таго падобнага — усё гэта чулі і на свае вочы бачылі сотні, тысячы кіраўнікоў і спецыялістаў спорту, і бацькоў насамрэч юных талентаў, і мы, журналісты і пісьменнікі, схільныя да спартыўнай тэматыкі і праблематыкі. На жаль, не так і шмат знаходзілася тых шчырых і праведных добразычліўцаў, якія, нягледзячы на асабістыя страты і ахвяраванні, усё ж набіраліся сапраўднай мужнасці і смеласці і перадавалі вучням, у якіх на самым важным і адказным этапе — этапе выяўлення і станаўлення іх здольнасцей і магчымасцей — укладвалі свае веды, вопыт і сілы. І хоць не заўсёды гэта былі лепшыя настаўнікі, чым тыя першыя, аднак перамена (ці замена) настаўніка-педагога часцяком і спрацоўвала, і юнае дараванне нібы адчувала за спіной крылы. У прамым сэнсе слова апантана кідаючыся на свае спартыўныя снарады ці аб'екты заняткаў, яны спаўна раскрывалі свае таленты і дараванні…

З Ленай Хлопцавай гэта і здарылася.

Спецыяліст па плаванню Рыма Войцік, як кажуць нашы расійскія сябры, «не мудрствуя лукаво», па-простаму параіла прыглядзецца да яе вучаніц трэнеру па… акадэмічнаму весланню Ядзвізе Руткоўскай. Тая і прыгледзелася… І ўбачыла

яна ў дзяўчынцы талент і вялікі патэнцыял, здольныя прывесці яе да самых высокіх спартыўных вышынь — у тым ліку сусветных і алімпійскіх.

— Тады бяры і працуй з ёй! — прыкладна так сказала Рыма Пятроўна Ядзвізе Леанардаўне…

Вось так у няпоўныя 15 гадоў Алена Хлопцава і звязала свой далейшы спартыўны лёс з зусім новым і таямнічым для сябе відам спорту — акадэмічным веславаннем.

Нікому, акрамя блізкіх сяброў, не прызнавалася яна тады, што душа не вельмі ляжала да веславання, аднак… Так ужо выхавана была Лена, што слова старэйшых для яе было проста законам. Устаноўкі, парады, падказкі, пажаданні Ядзвігі Руткоўскай яна з самых першых крокаў выконвала спаўна і безадмоўна. У спалучэнні з прыроднымі данымі гэта і стала першаасновай яе далейшых дасягненняў.

А тыя дасягненні прыйшлі вельмі хутка. Ужо крыху больш як праз год Лену Хлопцаву выклікалі на першы сур'ёзны трэніровачны збор — у нацыянальную каманду Савецкага Саюза. Такой высокай ацэнкі ў 16-гадовым узросце не давалі проста так, што называецца, за прыгожыя вочы (хоць і гэта варта адзначыць: вочы ў яе вельмі прыгожыя!). Сакрэт жа быў у іншым: і беларускія спецыялісты, і настаўнікі галоўнай зборнай краіны бачылі яе шчырасць у працы, верылі, што тая настойлівасць і самаадданасць, якую праяўляе Хлопцава абсалютна на кожнай трэніроўцы, у спалучэнні з яе выдатнымі фізічнымі данымі абавязкова дадуць вынік!

Бачылі спецыялісты акадэмічнага веславання і іншае: Лена — спартсменка, так бы мовіць, не столькі індывідуальнага складу, колькі камандны баец, няхай сабе тая каманда і з двух ці чатырох чалавек. Гатовая сама ў любы момант спаўна аддацца барацьбе на дыстанцыі, яна, перш за ўсё, умела падтрымаць калектыўны дух, паказаць прыклад іншым, павесці іх за сабой. Такіх у вялікім спорце няшмат, таму іх заўсёды цэняць і берагуць. І хоць маладая спартсменка ў душы, магчыма, і крыўдавала, тым не менш, трэнеры стаялі на сваім: Хлопцавай настойліва шукалі такіх жа, як і яна сама, здольных і самаадданых партнёраў па веславанню.

Ужо з 1977 года настаўнік зборнай Савецкага Саюза па акадэмічнаму веславанню Віктар Алёшын пачаў ажыццяўленне сваёй задумы: фарміраванне і падрыхтоўку парнай двойкі з перспектывай на XXII Алімпіяду-80. Ён прапраца-

ваў добры дзясятак варыянтаў, у думках, а потым і на практыцы пракруціў не адзін эксперыментальны склад той пары спартсменак, якія маглі і павінны былі ўзняцца на алімпійскі п'едэстал гонару. Дарэчы, савецкае акадэмічнае веславанне тады адчувала даволі істотны недахоп высокакваліфікаваных спартсменаў. Ударыць жа тварам у гразь на маскоўскай алімпійскай акадэмічнай рэгаце савецкія атлеты проста не мелі ніякага права…

З першай сваёй напарніцай — эстонкай Рэет Пальм — Алена Хлопцава агульную мову нібыта і знайшла: у тым жа 1977-м юны экіпаж упэўнена выйграў чэмпіянат Савецкага Саюза сярод дарослых спартсменаў. Аднак яўна праваліўшы сусветнае першынство, на якім было толькі дзесятае месца, міні-калектыў тут жа распаўся. Віны Лены ў тым не было, і ёй па-ранейшаму шукалі напарніцу. А каб час дарэмна не марнаваўся, беларускую вяслярку пасадзілі ў экіпаж чацвёркі парнай, якая на першых жа адказных стартах — чэмпіянаце свету 1978 года — таксама паказала даволі-такі прыстойны вынік: заваявала бронзавую ўзнагароду. За ўзлётам адбыўся правал і тут: у сезоне 1979 года пацярпеў фіяска і гэты экіпаж…

Спецыялісты і трэнеры зборнай СССР ірвалі на сваіх галовах валасы: да Гульняў-80 заставалася менш за год, і іхнія галовы ў выніку няўдач, вобразна кажучы, маглі наогул паляцець з плеч!

…У сярэдзіне 1980 года на міжнародных спаборніцтвах «Бурштынавыя вёслы» ў Літве аматары і знаўцы акадэмічнага веславання ўпершыню ўбачылі ў справе экіпаж двойкі парнай у складзе мінчанкі Алены Хлопцавай і Ларысы Паповай з малдаўскага горада Ціраспаля. Гэта быў апошні адборачны турнір для весляроў-«акадэмікаў» перад Алімпіядай у Маскве. Цяжка меркаваць, колькі часу, дзе і ў якіх умовах рыхталіся дзяўчаты, аднак вынікам, паказаным на трасе Тракайскага возера, яны ў прамым сэнсе слова агарошылі ўсіх і кожнага: 1000-метровую трасу за 3 мінуты 10 секунд да таго моманту ніхто з прызнаных майстроў вясла не праходзіў. Настаўнікі зборнай на чале з Віктарам Алёшыным на Хлопцаву і Папову проста маліліся.

…Праблем падчас выступлення на вяслярным канале алімпійскай Масквы-80 у Алены Хлопцавай і Ларысы Паповай таксама не было. Больш чым пераканаўча выйграўшы папярэдні заезд — адставанне румынскага экіпажу склала ажно 2,19 секунды, — савецкія вясляркі выйшлі ў фінал, дзе

іх чакалі куды больш вопытныя і спрактыкаваныя саперніцы: чэмпіёнкі свету 1979 года Карнелія Лінзэ і Хайдзі Вестфаль з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, пераможцы сусветнага першынства 1978 года Светла Ацэтава і Здраўка Йарданава з Балгарыі… Аднак не спалохаліся дэбютанткі Алімпіяды і гэтых вопытных канкурэнтак. Строга выконваючы ўказанне Віктара Сцяпанавіча Алёшына — «Рабіце сваю справу!», Лена і Ларыса з самых першых метраў дыстанцыі захапілі ініцыятыву і фінішавалі першымі, апярэдзіўшы славуты нямецкі экіпаж на 1,36 секунды…

Не, зусім не дарэмна хваляваліся і так моцна перажывалі за вынікі выступленняў савецкіх весляроў на акадэмічных суднах на XX Алімпійскіх гульнях кіраўнікі айчыннага спорту: золата Алены Хлопцавай і Ларысы Паповай аказалася адзіным у скарбонцы зборнай СССР! І ад гэтага іхні трыумф быў яшчэ больш важкім і значным.

Выйграўшы праз чатыры гады міжнародны турнір «Дружба-84», роўны па напалу і напружанню Алімпіядзе-84 у Лос-Анджэлесе, Алена Хлопцава развіталася з вялікім спортам. Аднак неўзабаве вярнулася… Ужо па ініцыятыве беларускага трэнера Анатоля Квяткоўскага перад XXV Алімпіядай-92 для выступлення ў радах аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў была сфарміравана чацвёрка парная ў складзе мінчанак Алены Хлопцавай і Кацярыны Хадатовіч, Таццяны Усцюжанінай з Кіева і масквічкі Антаніны Зеляковіч. Стартаваўшы разам на спаборніцтвах усяго толькі некалькі разоў, дзяўчаты спаўна апраўдалі давер: сталі бронзавымі прызёрамі XXV Гульняў у Барселоне.

Гэта было больш чым бліскучае завяршэнне спартыўнай кар'еры выдатнай беларускай спартсменкі, алімпійскай чэмпіёнкі і шматразовай пераможцы сусветных першынстваў і чэмпіянатаў краіны, заслужанага майстра спорту СССР Алены Іванаўны Хлопцавай!



## *Уладзімір Парфяновіч:*

## МАСКВА НЕ ЎСТАЯЛА ТРОЙЧЫ

*Уладзімір Парфяновіч нарадзіўся 2 снежня 1958 года ў Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Трохразовы алімпійскі чэмпіён: пераможца XXII Гульняў у Маскве (1980) па веславанню на байдарцы-адзіночцы на дыстанцыі 500 метраў і на байдарцы-двойцы разам з украінцам Сяргеем Чухраем на дыстанцыях 500 і 1000 метраў. Дзевяціразовы чэмпіён свету 1979, 1981, 1982 і 1983 гадоў. Дзевяціразовы чэмпіён Еўропы тых жа гадоў. Уладальнік трох сярэбраных узнагарод чэмпіянатаў свету 1978 і 1983 гадоў. Пераможца спаборніцтваў «Дружба-84». Семнаццаціразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1977—1984 гадоў. Дзевятнаццаціразовы ўладальнік Кубка СССР 1977—1984 гадоў. Чатырохразовы пераможца Спартакіяд народаў Савецкага Саюза 1979 і 1983 гадоў. Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і Дружбы народаў. Першы трэнер — Пётр Каўганаў.*

Як і ў кожнага юнага гараджаніна — ды яшчэ жыхара такога вялікага горада, як Мінск, — праблем з выбарам любімага душой і сэрцам занятку ў яго не было. Спачатку паганяў з равеснікамі футбольны мяч у двары, потым — ужо ў пачатковых класах — бегаў, скакаў і падцягваўся на перакладзіне… Калі ж задумаўся аб канчатковым выбары, спыніўся на барацьбе. Амаль тры гады — дзень у дзень — наведваў секцыю, трэнеры хвалілі за настойлівасць і працавітасць, аднак… Захварэў аднойчы Валодзя, і бацькі не пусцілі на трэніроўку. Больш у залу для барацьбы ён не пайшоў: палічыў, што трэнеры пакараюць і проста адлічаць з секцыі.

І пачаў 15-гадовы Валодзя Парфяновіч пошукі новага занятку ў спорце…

Іхняя сям'я жыла тады непадалёку ад Камсамольскага возера. На яго берагах хлопец часта адпачываў, купаўся і загараў. З захапленнем і цікаўнасцю сачыў, як ганялі па воднай роўнядзі возера імклівыя і такія прыгожыя байдаркі і каноэ юныя і сталыя ўжо спартсмены… «А чаму б не паспрабаваць і мне?!» — задаўся аднойчы ён пытаннем.

Прозвішча і імя таго чалавека, які майскім днём 1973 года ацэньваў патэнцыяльныя магчымасці і здольнасці Валодзі, ён, натуральна ж, не запомніў. Ды і навошта гэта было рабіць, калі «злосны і недабразычлівы» дзядзька адразу ж сказаў, нібы адрэзаў: маўляў, з цябе, хлапчанё, нічога не атрымаецца… Ідзі лепш у гімнастыку ці лёгкую атлетыку.

Іншы б і пайшоў. Але не такі характар ужо тады быў у Парфяновіча. Праз месяц-другі зноў прыйшоў да весляроў, зноў папрасіўся: ну, праверце мяне! Яго пазналі і ацанілі — перш за ўсё за настойлівасць! — і запісалі прозвішча ў секцыйны журнал.

Чапляліся — праўда, цяжка ўстанавіць: наўмысна ці не? — да яго і потым, нават не адзін месяц. То без дай прычыны падтрунянць над хлопцам, то прычэпяцца з нагоды якой-небудзь дробнай прамашкі, то проста скажуць: пракаці яшчэ разок дыстанцыю… Апошняе Валодзю толькі радавала, бо ён і сам часцяком, насуперак нават трэнерскаму заданню, заставаўся на вадзе і імчаў дадатковую дыстанцыю проста з неверагодным захапленнем.

Ці не ў апошні раз над Парфяновічам вырашылі пажартаваць падчас правядзення першынства сталічнай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы па веславанню на байдарках і каноэ. Яго выклікалі на старт разам з хлопцамі, якія былі на год старэйшымі і, натуральна, куды больш спрактыкаванымі… Валодзя не надаў гэтаму асаблівага значэння: сеў у байдарку, развіў такую хуткасць, што саперніцтва з боку тых нават і не адчуў.

Першы трэнер Пётр Каўганаў ці не ўпершыню за часы заняткаў пахваліў юнага весляра:

— Вось бачыш: што ні робіцца — усё да лепшага!

Пазней, калі Валодзя стане зорным Уладзімірам Парфяновічам, журналісты не адзін раз спрабавалі высветліць: ці так было на справе ўсё тое, што мы расказалі вышэй. Пётр Каўганаў адмахваўся: маўляў, не памятаю, можа і мела месца, але ж ці гэта галоўнае? Паглядзіце, к і м стаў мой вучань цяпер!..

…У няпоўныя васемнаццаць гадоў ён стаў ужо паўнапраўным членам нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза. Гледзячы

на яго, даючы яму ўстаноўкі, складаючы для яго персанальныя планы-заданні і на сезон у цэлым, і на той ці іншы падрыхтоўчы цыкл, спецыялісты і трэнеры каманды верылі: час Уладзіміра Парфяновіча вось-вось настане.

У 1978-м адбыўся дэбют дваццацігадовага беларускага весляра на чэмпіянаце свету сярод дарослых. Ніхто з сапернікаў практычна не ведаў яго, мала што чуў пра іх і ён. Хаця выйграныя на год раней  чэмпіянат і Кубак Савецкага Саюза давалі спецыялістам і трэнерам падставы прыглядзецца да яго бліжэй, прадказаць бліжэйшыя перспектывы. Так званая разведка ў вялікім спорце была і застаецца справай важнай і сур'ёзнай…

— Хваляваўся? — спытаў я аднойчы ў Валодзі.

— Не тое слова! — адказаў ён. — У першыя мінуты дрыжэў, бы ў ліхаманцы…

Але было тое да першага старту. Упэўненасць прыйшла сама па сабе, і,  выйграўшы папярэдні заезд, чвэрцьфінал і паўфінал, Парфяновіч у рашаючай фінальнай гонцы быў другім. За серабро сусветнага чэмпіянату дэбютанта, вядома ж, папракнуць ніхто не меў ніякага права…

1979 год аказаўся для яго пераломным у шмат якіх адносінах. Па-першае, перадалімпійскі год даваў усім падставы лічыць кожны старт і нават кожную гонку важным кампанентам падрыхтоўкі да будучых алімпійскіх баталій, так што расслабляцца не было ні часу, ні магчымасці. Па-другое, у зборнай краіны мела месца нечаканасць: распадалася двойка байдарачнікаў у складзе беларуса Уладзіміра Тайнікава і ўкраінца Сяргея Чухрая, якія проста ў бліскучым стылі выйгралі згаданы вышэй чэмпіянат свету — 1978. Беларус моцна захварэў, вердыкт быў вынесены неадкладна: да XXII Гульняў-80 падрыхтавацца не паспее. На пошукі замены  часу было так мала…

Нейкай светлай галаве тады і прыйшла думка: аб'яднаць у адзін экіпаж шматвопытнага і спрактыкаванага Сяргея Чухрая і маладога таленавітага Уладзіміра Парфяновіча.

— А як жа з нашай кароннай дыстанцыяй 500 метраў на байдарцы-адзіночцы? — запярэчыў настаўнікам зборнай Пётр Каўганаў.

Тыя, не задумваючыся, адказалі:

— Малады, здаровы, няхай спраўляецца і там, і там…

«І там, і там», — гэта значыла: рыхтавацца табе, Валодзя, да выступленняў адразу ў трох алімпійскіх нумарах вяслярнай праграмы: на байдарцы-адзіночцы на 500 метраў, і ў пары

з Чухраем на той жа пяцісотмятроўцы, і на дыстанцыі ў два разы даўжэйшай — 1000 метраў.

— Адчуў, нарэшце, радасць і задавальненне? — спытаў я пасля Алімпіяды ў Парфяновіча.

Ён не ўтойваў, сказаўшы:

— Я быў на сёмым небе ад шчасця!

Тое сёмае неба, аднак, было на зямлі, а дакладней — на вяслярных каналах краіны і кантынента. Каб канчаткова зацвердзіцца ў нацыянальнай алімпійскай зборнай Савецкага Саюза, і яму асабіста, і ў экіпажы з Сяргеем Чухраем, трэба было не так і шмат: выйграць усе галоўныя перадалімпійскія старты!

Не так і шмат?

Лічыце, што мы пажартавалі…

Спартакіяду народаў СССР і чэмпіянат краіны, першынствы Еўропы і свету на байдарцы-адзіночцы і ў экіпажы з украінцам на дыстанцыях 500 і 1000 метраў беларус выйграў, што называецца, на адным дыханні. Больш таго, Уладзімір і Сяргей на сусветным першынстве ў гонцы на пяцісотмятроўцы паказалі вынік, які потым больш чым 12 гадоў (!) трымаўся ў якасці неафіцыйнага рэкорда свету!

Уявіце: яны апярэдзілі час больш чым на дзесяцігоддзе! І гэта ў тым відзе спорту, у якім магчымасці чалавека практычна бязмежныя…

Аднак наперадзе былі алімпійскія старты, і расслабляцца ім ніхто не мог і не павінен быў даваць магчымасці.

І вось яна, алімпійская Масква!

500 метраў на байдарцы-адзіночцы на алімпійскім канале ў Крылацкім, што бачылі мы на экранах тэлевізараў, Парфяновіч выйграў, што называецца, гуляючы. У папярэднім заездзе даў форы шведу Андэрсану ў 1,66 секунды, у паўфінале апярэдзіў румына Дыбу ўжо на дзве з паловай секунды, а вось у рашаючай, залатой гонцы давялося, як скажа ён потым, і папацець: аўстраліец Самеджы дазволіў беларусу адарвацца ўсяго толькі на 0,69 секунды.

— Адно імгненне?! — задаў я тады ж пытанне.

— Нават менш! — не пагадзіўся Уладзімір.

У той жа дзень, праз 1 гадзіну 20 мінут пасля першага пераможнага фінішу, нашаму спартсмену — ужо ў рангу алімпійскага чэмпіёна — зноў давялося выходзіць на старт: на гэты раз ў экіпажы байдаркі-двойкі. «Сяргей — гэты цуд-чалавек і таленавіты майстар — так хваляваўся, што пачаў нават па-

крыкваць на мяне, — працягваў Уладзімір. — А я, ведаеце, набраўся самага звычайнага нахабства і спакойна, наколькі гэта ўдалося мне, адказаў: маўляў, супакойся, выйграем!»

Ведаючы сціпласць і стрыманасць Парфяновіча, я асабіста ў гэтыя словы тады, пасля Гульняў 1980-га ў Маскве, проста не паверыў…

Але, адчуўшы смак перамогі на вышэйшым спартыўным форуме ў свеце, наш спартсмен не тое што быў саманадзейны ці самасупакоены, а проста адчуваў свае сілы і рэальныя магчымасці. Адчуваў тое ж і Сяргей Чухрай. На адным дыханні выйгралі яны тры заезды на 500-метровай дыстанцыі і, пакінуўшы ззаду сябе экіпажы з Аўстрыі, Францыі і Іспаніі, святкавалі сваю першую сумесную алімпійскую перамогу!

А потым было і другое сумеснае ўзыходжанне беларуса і ўкраінца на вышэйшую прыступку п’едэстала гонару Алімпіяды ў Маскве. Венгры ў папярэднім заездзе, румыны — у паўфінале і тыя ж гоншчыкі з Венгрыі — ужо ў фінале на дыстанцыі 1000 метраў нічога не змаглі супрацьпаставіць іх не тое што зладжаным, а проста апантаным дзеяннем!

Так на працягу некалькіх дзён выхаванец беларускай школы веславання Уладзімір Парфяновіч тройчы (!) упісаў свае імя і прозвішча ў залаты алімпійскі летапіс.

Такіх запісаў у тым летапісе вельмі і вельмі мала!



## *Віктар Рэнейскі:*

## ТАКІ РАННІ ЗОРНЫ ЧАС…

*Віктар Рэнейскі нарадзіўся 24 студзеня 1967 года ў горадзе Бабруйску. Заслужаны майстар спорту СССР. Двухразовы алімпійскі чэмпіён: пераможца XXIV Гульняў у Сеуле (1988) па веславанню на каноэ-двойцы на дыстанцыях 500 і 1000 метраў. Сярэбраны прызёр XXVI Алімпіяды ў Атланце (1996) у складзе каманды Рэспублікі Малдова. Васьміразовы чэмпіён свету 1989 — 1991 гадоў, трохразовы сярэбраны прызёр (1986, 1991 і 1995) і бронзавы (1991) сусветных першынстваў. Чатырнаццаціразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1986 — 1991 гадоў. Двухразовы пераможца Спартакіяды народаў СССР 1991 года. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў і ордэнам Рэспублікі Малдова «За працоўную доблесць». Ганаровы грамадзянін горада Бабруйска. Першы трэнер — Барыс Бірукоў.*

Ягоны зорны час прабіў надзвычай рана. У 21 год сціплы і працавіты малады чалавек стаў уладальнікам адразу дзвюх вышэйшых алімпійскіх узнагарод! І хто ведае, якіх вышынь дасягнуў бы ён надалей, калі б па-іншаму склаўся лёс той краіны, Дзяржаўны гімн якой тады, у 1988-м, двойчы прымушаў цячы слязам па яго твары…

Але аб усім па парадку…

З каноэ ён пазнаёміўся ўпершыню незадоўга да свайго трынаццатага дня нараджэння — у снежні 1979-га. Да першага самастойнага выхаду на ваду яшчэ было далекавата, аднак займацца агульнафізічнай падрыхтоўкай падлетку падабалася. Бо ведаў: веславанне на каноэ — від спорту захапляючы, цікавы і карысны.

Зіма і вясна праляцелі хутка, і вось ён — летні спартыўны сезон, час увасаблення тэарэтычных навыкаў на практыцы. «Сол-

нце, воздух и вода — наши лучшие друзья», — мармыталі сабе пад нос Віктар і яго сябры па секцыі, збіраючыся на першыя трэніроўкі на Бярэзіне. Але… Праз тыдзень-другі Рэнейскі пачынае раз за разам прапускаць заняткі. Што гэта? Расчараванне ці нейкая нявыкрутка па дамашніх абставінах? І трэнер Барыс Бірукоў неадкладна спяшаецца ў дом Рэнейскіх.

Бацька юнага спартсмена — Іосіф Ігнатавіч — аказаўся чалавекам дасціпным і дзелавым. Да спраў сына адразу ж паставіўся сур'ёзна і адказна. Праўда, спачатку трэнер амаль што месяц пераконваў яго ў важнасці спраў будучага чэмпіёна, а ўжо потым яны разам вялі выхаваўчую работу з самім падлеткам. І дабіліся-такі свайго: Віця зноў пачаў наведваць заняткі ў секцыі.

А ўсё ж магло быць і па-іншаму…

Роўна праз пяць гадоў юны бабруйчанін Віктар Рэнейскі прывёз у родны горад першыя ўзнагароды — адразу два залатыя медалі з юніёрскага чэмпіянату свету па веславанню на каноэ.

Пераход з юнацкага, юніёрскага і нават маладзёжнага ўзросту ў дарослы спорт вельмі многім спартсменам даецца няпроста, а часцяком — і хваравіта. Адным складана пераадолець псіхалагічны бар'ер, другім іншы раз замінаюць падвохі старэйшых «таварышаў» — тых, каму ўжо заўтра юны талент можа скласці даволі сур'ёзную канкурэнцыю за месца пад сонцам… Здараюцца і іншыя непераадольныя ці цяжкапераадольныя бар'еры. І тут ужо шмат што залежыць ад самога спартсмена, ягонай камунікабельнасці і самастойнасці, а нярэдка і ўмення пастаяць за сябе.

Ужо ў 19-гадовым узросце Віктару Рэнейскаму прадставілася магчымасць паспрачацца з дарослымі, сталымі па ўзросту і спрактыкаванымі дзесяткамі самых адказных стартаў спартсменамі за тое самае месца пад сонцам. У нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза пра маладога і таленавітага спартсмена з Беларусі ўжо ведалі добра, справа ж заставалася за малы́м — падабраць яму такога ж, па-добраму амбіцыёзнага, настойлівага і самаадданага напарніка.

Трэнер зборнай Аляксандр Кірпічэнка ў той час якраз і быў адказным за камплектаванне экіпажаў канаістаў для будучых самых важных стартаў. Стартам нумар адзін лічыліся, вядома ж, XXIV Алімпійскія гульні 1988 года ў паўднёвакарэйскай сталіцы Сеуле, да якіх заставалася не так і шмат часу — менш за два гады. На адным з пасяджэнняў трэнерскага савета савецкай каманды Аляксандр Кірпічэнка і прапанаваў свой варыянт каноэ-двойкі — беларускі гоншчык Віктар Рэнейскі і прадстаўнік Малдавіі Мікалай Жураўскі.

З трэнера зборнай запатрабавалі важкіх і сур'ёзных аргументаў на карысць такой нечаканай прапановы, той аднак да высноў быў гатовы, таму яго прапанову падтрымалі практычна ўсе спецыялісты зборнай. У сваю ж чаргу Аляксандр Кірпічэнка сказаў хлопцам: глядзіце, думайце і рабіце высновы — я за вас заклаў сваю галаву…

Хлопцы зразумелі словы чулага і прадбачлівага педагога: давер трэба апраўдаць, чаго б тое ні было варта!

Даказваць свае права на паездку ў далёкі Сеул экіпажу Рэнейскі — Жураўскі давялося на добрым дзесятку спаборніцтваў. Найперш — на сусветным першынстве, дзе дэбютанты дарослага чэмпіянату адразу ж заваявалі сярэбраныя ўзнагароды. Ды і чэмпіянат Савецкага Саюза таго ж 1986 года быў не менш адказным і напружаным: і з яго Віктар і Мікалай выйшлі з гонарам, атрымаўшы на сваіх каронных дыстанцыях 500 і 1000 метраў залатыя медалі. Кубак СССР, таксама выйграны імі, канчаткова расставіў кропкі над «і»: дуэт канаістаў Віктар Рэнейскі — Мікалай Жураўскі дастойны выступлення на Гульнях XXIV Алімпіяды ў Паўднёвай Карэі!

І вось першы старт па алімпійскай праграме. Нечакана і для саміх сябе, і для кіраўніцтва зборнай СССР хлопцы прайграюць папярэдні заезд на пяцісотмятроўцы нямецкаму экіпажу. Хто-ніхто адразу ж павёў так званую псіхалагічную апрацоўку маладых сэрцаў і характараў: маўляў, далей будзе горш… Віктар і Мікалай у глыбіні душы, вядома ж, перажывалі і хваляваліся, аднак выгляду зусім не падавалі. Ды і самі настаўнікі савецкай каманды хаця і нерваваліся, але ведалі: дэбютныя старты многім даюцца цяжкавата…

А потым былі адна восьмая фіналу, чвэрцьфінал і паўфінал. Ад гонкі да гонкі Рэнейскі і Жураўскі пераўтвараліся літаральна ўвачавідкі. Як адзначыць потым усё той жа Аляксандр Кірпічэнка, хлопцы на вачах станавіліся мужчынамі і самымі сапраўднымі байцамі!

Фінальны заезд яны правялі, што называецца, на адным дыханні: роўна, бездакорна, упэўнена. Фінішны створ перасеклі першымі, а калі азірнуліся назад, убачылі: грозная нямецкая двойка канаістаў ідзе толькі пятай… За сябе нашы спартсмены парадаваліся, сапернікам, якім усе прарочылі безумоўную перамогу, проста паспачувалі…

А потым былі такія ж напружаныя і яшчэ больш нервовыя спаборніцтвы на дыстанцыі ў два разы даўжэйшай — 1000 метраў. Але на гэты раз ужо яны былі яўнымі фаварытамі Алімпійскіх гульняў. Ужо да іх прыглядаліся сапернікі, жадаючы што-

кольвек пераняць, запазычыць… Толькі якія там маглі быць сакрэты: працуй ды і толькі! Ні датчане, ні палякі, ні немцы нічога не змаглі супрацьпаставіць зладжаным, даведзеным да аўтаматызму дзеянням савецкага экіпажа. І зноў, у другі раз запар на адной і той жа Алімпіядзе, на вышэйшую прыступку п'едэстала гонару ўзняўся адзін і той жа экіпаж. Наш савецкі экіпаж у складзе беларуса Віктара Рэнейскага і малдаваніна Мікалая Жураўскага!

Віктар Рэнейскі і Мікалай Жураўскі мелі ўсе магчымасці выступіць разам і на наступных, XXV Гульнях. Тым больш што яны даволі ўпэўнена перамаглі потым на чэмпіянатах свету і Савецкага Саюза 1989 — 1991 гадоў, на Спартакіядзе народаў СССР — 1991. Аднак у самы апошні момант інтарэсы аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў было прапанавана абараняць выхаванцам нашай беларускай школы веславання на каноэ Дзмітрыю Даўгалёнку і Аляксандру Масяйкову, якія, дарэчы, падтрымалі і прадоўжылі эстафету перамог, вярнуўшыся з Барселоны-92 таксама з залатымі ўзнагародамі XXV Алімпійскіх гульняў.

Рэнейскі і Жураўскі, вядома ж, расчараваліся. Але — не надоўга, і канчаткова рукі не апусцілі. Стэлефанаваліся, не адзін раз сустрэліся і дамовіліся распачаць падрыхтоўку да наступнай, XXVI Алімпіяды 1996 года — на гэты раз пад флагам нацыянальнай зборнай Малдовы. На календары быў 1995-ы, а да Гульняў, такім чынам, менш года…

Падрыхтоўку давялося моцна скарэкціраваць і фарсіраваць, толькі да цяжкасцей мужнаму экіпажу было не прывыкаць. Заняўшы на чэмпіянаце свету таго ж 1995 года другое месца на дыстанцыі 500 метраў і пятае — на тысячамятроўцы, яны абсалютна такія ж вынікі паказалі потым і ў алімпійскай Атланце-96.

Іхняе алімпійскае серабро 1996 года ўсе ў адзін голас прыраўнялі да ўзнагароды самай высокай вартасці. Бо быў гэта сапраўдны спартыўны подзвіг… Подзвіг двух сяброў, якіх нават дзяржаўныя граніцы не змаглі раз'яднаць у памкненні да ажыццяўлення самых высокіх спартыўных ідэалаў!



## *Дзмітрый Даўгалёнак*
## *і Аляксандр Масяйкоў:*

# IX ЗАЛАТОЕ АЛІМПІЙСКАЕ ІМГНЕННЕ

*Дзмітрый Даўгалёнак нарадзіўся 14 снежня 1971 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXV Алімпійскіх гульняў 1992 года ў Барселоне па веславанню на каноэ-двойцы на дыстанцыі 500 метраў. Чэмпіён свету 1994 года на дыстанцыі 200 метраў. Бронзавы прызёр чэмпіянату Савецкага Саюза 1990 года. Уладальнік сярэбранага і бронзавага медалёў Спартакіяды народаў СССР 1991 года на дыстанцыях 500 і 1000 метраў. Першыя трэнеры — Віктар Давыдовіч і Яўген Вараб'ёў.*

*Аляксандр Масяйкоў нарадзіўся 26 ліпеня 1971 года ў горадзе Магілёве. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXV Алімпійскіх гульняў 1992 года ў Барселоне па веславанню на каноэ-двойцы на дыстанцыі 500 метраў. Двухразовы чэмпіён свету: 1994 года на каноэ-двойцы і 1997 года на каноэ-чацвёрцы на дыстанцыях 200 метраў. Сярэбраны прызёр еўрапейскага першынства — 1997 на каноэ-адзіночцы. Двухразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1989 і 1991 гадоў, сярэбраны прызёр першынства — 1990. Двухразовы пераможца юніёрскага чэмпіянату свету 1989 года. Сярэбраны і бронзавы прызёр Спартакіяды народаў СССР 1991 года на дыстанцыях 500 і 1000 метраў. Ганаровы грамадзянін горада Магілёва. Першы трэнер — Аляксандр Пучко.*

Два неразлучныя сябры, сапраўдны «экіпаж машыны баявой»… Не адзін п'едэстал пакарылі разам, дзякуючы зладжанасці дзеянняў ды адпрацаванаму да аўтаматызму разуменню адзін аднаго… А ў жыцці наогул, ды і ў спартыўным — яны такія розныя і непадобныя!

…Карэнны мінчанін Дзіма Даўгалёнак рос і станавіўся на ногі ў Серабранцы. Побач — Чыжоўскае вадасховішча, на

якім у другой палове 1980-х гадоў безупынна ганялі спартыўныя судны — і перш за ўсё каноэ — зусім юныя яшчэ жыхары беларускай сталіцы. Дабразычлівыя і спагадлівыя трэнеры Віктар Давыдовіч і Яўген Вараб'ёў ветліва і ахвотна сустракалі кожнага, хто гарэў жаданнем паспрабаваць свае сілы і майстэрства ў такім захапляльным і адначасова — таямнічым відзе спорту, як веславанне.

Самы першы старт-заезд давесці да паспяховага фінішу ўдавалася далёка не кожнаму: хтосьці не спраўляўся з лодкай і тая перакульвалася, нехта проста веславаў не туды… У Дзімы ж і першы раз, і другі, і трэці ўсё атрымалася найлепшым чынам. Абодва трэнеры секцыі практычна ў адзін голас тады сказалі: «Заставайся!».

Так і пачаўся шлях у вялікі і сапраўдны спорт…

А вось карэнны магіляўчанін Саша Масяйкоў, наадварот, прайшоў не адзін круг выпрабаванняў, пакуль знайшоў сябе, сваё прызванне. Плаванне і фехтаванне, «каралева спорту» — лёгкая атлетыка і лыжныя гонкі, баскетбол і, вядома ж, футбол — усё вабіла і захапляла падлетка. Аднак ён не губляўся, па-ранейшаму настойліва шукаў «свой» від спорту, пераходзячы з адной секцыі ў другую…

І, нарэшце, знайшоў. У новай для сябе секцыі — на гэты раз весляроў-канаістаў, якую ў горадзе на Дняпры арганізаваў вядомы ў мінулым прадстаўнік гэтага віду, былы чэмпіён свету па веславанню сярод юніёраў Аляксандр Пучко.

І пачаліся для Сашы Масяйкова спартыўныя будні: у каноэ з вяслом у руках — з дня ў дзень, з тыдня ў тыдзень…

Першыя поспехі і да Дзмітрыя Даўгалёнка, і да Аляксандра Масяйкова прыйшлі падчас выступленняў іх у суднах-адзіночках. У 1989-м 18-гадовы мінчанін выйграў бронзавую ўзнагароду на першынстве Беларусі. А калі неўзабаве ён перамог на дыстанцыі 500 метраў на чэмпіянаце Савецкага Саюза сярод моладзі, яго прозвішча, натуральна, трапіла ў спісы тых, хто падаваў вялікія надзеі…

Аляксандр жа ў вялікі спорт не ўвайшоў, а, вобразна кажучы, уварваўся! У тым жа 1989-м таксама ў 18-гадовым узросце ён даволі ўпэўнена выйграў залаты медаль чэмпіёна краіны сярод дарослых, потым — адразу дзве ўзнагароды вышэйшай якасці на сусветным першынстве сярод юніёраў. А такімі ў вялікім спорце не грэбуюць… Алімпійскі чэмпіён XXII Гульняў-80 Сяргей Пастрэхін, які да таго часу пакінуў веславанне як спартсмен і пачаў працаваць з маладзёжнай зборнай Са-



*Аляксандр Масяйкоў*

вецкага Саюза ў якасці трэнера, унутраныя магчымасці маладых спартсменаў, тых, хто меў вялікі патэнцыял, адчуваў тонка і тут жа запрасіў абодвух выхаванцаў беларускай школы веславання ў свой калектыў. І не проста запрасіў, але і пасадзіў іх у адну лодку-каноэ…

На працягу 1990 — 1991 гадоў экіпаж каноэ-двойкі ў складзе Дзмітрыя Даўгалёнка і Аляксандра Масяйкова сабраў «ураджай» спартыўных узнагарод самай рознай вартасці на многіх буйных і адказных міжнародных і ўсесаюзных спаборніцтвах. З імі, што называецца, пачалі лічыцца самыя прызнаныя майстры веславання. А беларусы, нібы не зважаючы на свае ранейшыя дасягненні, ад старта да старту працавалі вёсламі ўсё больш і больш упэўнена і пераканаўча даказвалі сваю перавагу над імі… Маладыя спартсмены бачылі перад сабой адну, самую галоўную ў жыцці мэту, — старт на XXV Алімпійскіх гульнях 1992 года ў Барселоне.

Сапраўдная — жорсткая і бескампрамісная — спартыўная канкурэнцыя за месца пад алімпійскім флагам разгарэлася тады паміж двума экіпажамі: залатымі прызёрамі XXIV Гульняў-88 у Сеуле Віктарам Рэнейскім і Мікалаем Жураўскім і імі, Дзмітрыем Даўгалёнкам і Аляксандрам Масяйковым. Аднак вопыт і сталасць першых з іх у вострай прынцыповай барацьбе на вяслярных каналах краіны і свету былі вымушаны ўступіць дарогу на самы важны старт чатырохгоддзя маладой настойлівасці, лепшай падрыхтаванасці і гатоўнасці ў той канкрэтны момант. Цяжка сказаць, наколькі рызыкавалі настаўнікі і спецыялісты зборнай Савецкага Саюза, выносячы канчатковы суровы вердыкт для слынных алімпійскіх чэмпіёнаў 1988 года Рэнейскага і Жураўскага: на Гульні-92 едуць не яны, а Даўгалёнак і Масяйкоў! «Мы былі бязмежна рады такому гонару і адначасова хваляваліся і задумваліся, ці справімся з даверам, ці не падвядзём?!» — расказвалі мне потым Дзмітрый і Аляксандр.

Справіліся! Не падвялі!

На вяслярным канале алімпійскай Барселоны яны дэбютавалі не вельмі ўдала: у папярэднім заездзе занялі толькі чац-

вёртае месца, уступіўшы на даволі кароткай пяцісотмятровай дыстанцыі лідэрам — вяслярам Румыніі — 1,36 секунды. Аднак цвяроза прааналізаваўшы свае памылкі і рэальна ацаніўшы наступныя дзеянні, нашы спартсмены ўжо ў паўфінале былі наперадзе ўсіх: экіпаж з Даніі адстаў ад іх на 0,84 секунды. Рашаючы фінальны заезд чакаўся гарачым і неверагодна напружаным…

Літаральна адразу ж пасля старту яны ўпэўнена выйшлі наперад. 200, 300, 400 метраў — беларускі экіпаж па-ранейшаму ўзначальваў гонку. Аднак нягледзячы на маладосць і на не такі ўжо багаты вопыт барацьбы на вышэйшым узроўні, Даўгалёнак і Масяйкоў нейкім шостым пачуццём адчувалі «дыханне ў спіну» асноўных сапернікаў — экіпажа з Германіі. «Дадай хуткасці!» — за сто метраў да запаветнага фінішу крыкнуў Дзіма Сашу. І той дадаў…

Фінішную рысу сапернікі перасеклі практычна разам…

Менш чым на адно імгненне — усяго толькі на 0,14 секунды (!) — дэбютанты Алімпіяды-92 мінчанін Дзмітрый Даўгалёнак і магіляўчанін Аляксандр Масяйкоў апярэдзілі нямецкіх спартсменаў.

І было гэта іх залатое алімпійскае імгненне!



## *Кацярына Карстэн:*

# ПОДЗВІГ ДАЎЖЫНЁЙ У ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

*Кацярына Карстэн (Хадатовіч) нарадзілася 2 чэрвеня 1972 года ў вёсцы Асечына Крупскага раёна Мінскай вобласці. Заслужаны майстар спорту. Двухразовая алімпійская чэмпіёнка па акадэмічнаму веславанню: пераможца XXVI Гульняў у Атланце (1996) і XXVII Алімпіяды ў Сіднеі (2000). Сярэбраны прызёр XXVIII Алімпійскіх гульняў у Афінах (2004). Двухразовы бронзавы прызёр Гульняў XXV Алімпіяды ў Барселоне (1992) і XXIX Гульняў у Пекіне (2008). Чэмпіёнка свету 1997, 1999, 2005, 2006, 2007 гадоў. Шматразовы сярэбраны і бронзавы прызёр сусветных першынстваў. Уладальніца Кубка свету 1997, 2000, 2005. 2006, 2007 і 2008 гадоў. Узнагароджана ордэнамі «Знак Пашаны», Айчыны III, II і I ступеняў. Першы трэнер — Анатоль Квяткоўскі.*

…Старт быў імклівы і магутны. Вёслы рэзалі ваду нібы нож масла: лёгка, акуратна і пераканаўча. Акадэмічныя судны навыперадкі імчалі да запаветнай фінішнай прамой. Ці ж жартачкі: фінальны заезд алімпійскай рэгаты сярод жанчын!

Некалькі дзесяткаў кінакамер, каля сотні фотатэлевікоў былі скіраваны ў эпіцэнтр самай сапраўднай спартыўнай барацьбы. У ім, тым эпіцэнтры, найперш знаходзілася самая моцная і тытулаваная з васьмі ўдзельніц фінальнай спрэчкі — неаднаразовая чэмпіёнка свету і пераможца многіх буйных міжнародных рэгат трыццацідвухгадовая канадская спартсменка Сілкен Лаўман. Як заўсёды, яна працавала вёсламі акуратна, упэўнена і рашуча. Але што гэта: судна на адной з суседніх водных дарожак раптам пачынае выходзіць наперад і паволі аддаляцца ўсё далей і далей… Такі паварот падзей Лаўман яўна не да спадо-

бы, і яна — шматвопытная і спрактыкаваная вяслярка — тут жа паскарае тэмп. Аднак…

Не, тая гонка была яўна не яе — прызнанага лідэра сусветнага акадэмічнага веславання сярод жанчын Сілкен Лаўман. Убачылі і зразумелі гэта кіна- і тэлеаператары, фотакарэспандэнты, і амаль што адначасова пераключылі сваю пільную ўвагу на тую адчайную і непрадказальную саперніцу канадскай зоркі, якая кінула ёй адкрыты выклік. Так і вялі таго смельчака кінакамеры і фотаапараты да запаветнага фінішу, залатога пераможнага фінішу новай алімпійскай чэмпіёнкі беларускай спартсменкі Кацярыны Хадатовіч.

— Цяжка было? — спыталіся мы ў яе пасля вяртання беларускіх спартсменаў з XXVI Гульняў у Атланце — 1996.

— Не вельмі, — як заўсёды сарамліва, аднак упэўнена адказала Каця. — Галоўнае было вытрымаць графік, складзены і да драбніц адшліфаваны мной разам з трэнерам Анатолем Квяткоўскім. Саперніцы працавалі ў сваім рытме, я — у сваім. А перамог, як кажуць у такіх выпадках, мацнейшы з мацнейшых…

Так, гэта быў пачатак яе трыумфу, яе зорнага часу. І ў тым алімпійскім 1996-м, і ў наступным 1997-м Кацярына не ведала роўных сабе. Упэўнена, больш чым пераканаўча выйграла Кубак свету па акадэмічнаму веславанню, перамогшы на ўсіх трох этапах яго розыгрышу; стала і чэмпіёнкай свету — 97. Майстэрства Хадатовіч дасягнула такога ўзроўню дасканаласці, што канкурэнткі пачалі проста пабойвацца яе… А нашу спартсменку тое ніколькі не засмучала, як, дарэчы, зусім і не цешыла: яна ішла да сваіх перамог праз працу, працу і яшчэ раз працу! Плюс, вядома ж, прыродны талент, фізічныя даныя.

…У акадэмічнае веславанне яна прыйшла, па-сутнасці, выпадкова. Па сельскіх школах Міншчыны ў пошуках юных спартыўных талентаў ездзілі трэнеры самых розных відаў спорту. У невялікую вёску Асечына Крупскага раёна на працягу ўсяго толькі некалькіх дзён завіталі спачатку спецыялісты па лёгкай атлетыцы, потым — па веславанню. І тым, і другім прыглянулася юная Каця Хадатовіч…

Калі ж сталічныя «зазывалы» параіліся з сельскім настаўнікам Леанідам Сіліцкім адносна выбару пятнаццацігадовай выпускніцы мясцовай васьмігодкі, яны разам і спыніліся на акадэмічным веславанні. Неўзабаве яе трэнерам стаў Анатоль Квяткоўскі.

— Што больш за ўсё прывабіла мяне ў Каці, гэта яе характар, — успамінаў ён пазней. — Ураўнаважаны, вытрыманы і адначасова настойлівы і цярплівы… На трэніроўках, здавалася, не ведала стомленасці: гатова была працаваць і працаваць. Штодзённа праходзіла па вадзе да 50, а часам і больш, кіламетраў. Ніхто не мог канкурыраваць з Кацяй, вытрымаць яе рытм заняткаў. Даводзілася яе нават стрымліваць…

На судне-адзіночцы спачатку яна сябе не «знайшла». Не атрымлівалася праца вёсламі, ды і свой тэмп ніяк не знаходзіла. Падслухала аднойчы і выказванне аднаго з трэнераў: маўляў, нічога з Каці не атрымаецца… Тут жа яе перасадзілі ў лодку-васьмёрку, справа нібыта і пайшла: на чэмпіянаце Беларусі той экіпаж заняў адразу ж трэцяе месца. І раптам Хадатовіч заяўляе Квяткоўскаму: пайду я ад вас, не туды трапіла…

Развітвацца яму са здольнай і настойлівай вучаніцай не хацелася, і Кацю зноў вярнулі ў судна-адзіночку.

У 1990-м прыйшла першая буйная перамога ўжо на міжнароднай арэне: Каця Хадатовіч стала чэмпіёнкай свету сярод юніёрак. Дарэчы, з другім прызёрам — балгарскай спартсменкай Румянай Нейкавай — яе рассудзіў толькі фотафініш, аддаўшы адну сотую долю секунды на карысць беларускай вясляркі. Яе літаральна тут жа ўключылі ў састаў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза. Праўда, там да меркаванняў здольнай спартсменкі не надта прыслухаліся і прапанавалі выступаць на двойцы разам з Сарыяй Закіравай.

Перадалімпійскі 1991 год азнаменаваўся першымі перамогамі ў кампаніі дарослых весляроў. Спачатку ў двойцы парнай Кацярына Хадатовіч выйграе залаты медаль для роднай Беларусі на стартах па праграме Спартакіяды народаў СССР: яе напарніцай тады стала алімпійская чэмпіёнка 1980 года мінчанка Алена Хлопцава. Няблага склалася і выступленне ў дуэце з Закіравай: бронзавая ўзнагарода на чэмпіянаце свету ў Аўстрыі таксама была занесена ў актыў экіпажа.

У пошуках аптымальных саставаў акадэмічных суднаў трэнеры зборнай ішлі на самыя розныя эксперыменты і спалучэнні. Так, на спаборніцтвах чэмпіяната Садружнасці Незалежных Дзяржаў у 1992 годзе ў дадатак да экіпажа-двойкі сфарміравалі яшчэ і чацвёрку, і яны тыя абодва старты выйгралі ўпэўнена і пераканаўча. Пры фарміраванні ж алімпійскай зборнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў перавага была аддадзена экіпажу-чацвёрцы…

З Гульняў-92 чацвёрка парная ў складзе Алены Хлопцавай, Антаніны Зеліковіч, Таццяны Усцюжанінай і Кацярыны Хадатовіч вярнулася з бронзавымі ўзнагародамі, дарэчы, адзінымі, заваяванымі тады веслярамі-«акадэмікамі» аб' яднанай каманды СНД.

З утварэннем самастойнай зборнай Беларусі веслярам давялося даволі доўга шукаць сябе. Два гады Кацярына Хадатовіч і Алена Хлопцава выступалі ў двойцы парнай, але, шчыра кажучы, праявіць сябе разам, у дуэце, гэтыя здольныя і таленавітыя спартсменкі так і не змаглі. Пятыя — сёмыя месцы на сусветных чэмпіянатах і самім вясляркам, і трэнерам, і спецыялістам задавальнення, вядома ж, не прыносілі. Больш таго для росту майстэрства нават спартсменам са зборных каманд Беларусі тады не хапала ні інвентару, ні фінансавых сродкаў для правядзення паўнавартасных вучэбна-трэніровачных збораў…

Тады і задумалася таленавітая спартсменка над прапановай сяброўак, а больш за ўсё — спецыялістаў са зборнай Расіі аб пераездзе да іх, у суседнюю краіну…

Пытанне было пастаўлена надзвычай сур'ёзна, яго вырашаў асабіста тагачасны старшыня Камітэта па фізічнай культуры і спорту Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рыжанкоў. І, дзякуй Богу, паразуменне было знойдзена: набыта новая, апошняй моды, лодка-адзіночка, абгавораны ўмовы падрыхтоўкі да будучых выступленняў на міжнародных спаборніцтвах… Зрываў у тых планах потым і насамрэч не было: ні з боку спартыўных функцыянераў, ні з боку самой спартсменкі.

На XXVI Алімпійскія гульні 1996-га, як лічылі яе асноўныя саперніцы, Каця трапіла здаецца ці не выпадкова, заняўшы на чэмпіянаце свету — 1995, які быў адборачным для ўдзелу ў Гульнях, усяго толькі сёмае месца. Тым не менш, планы ў яе былі свае… Памятаецца, падчас праводзінаў беларускіх спартсменаў на спаборніцтвы ў алімпійскую Атланту той жа Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў пацікавіўся ў Кацярыны: «Якія планы-намеры на старт?», на што яна, у прынцыпе нешматслоўная і сціплая, адказала проста і даволі-такі зразумела:

— Мне б толькі ў фінал трапіць…

У фінал яна выйшла даволі ўпэўнена. У папярэднім заездзе выйграла ў заняўшай другое месца бельгійскай гоншчыцы Анжэлікі Брэдаль ажно 4,67 секунды. Праўда, у паўфінале, вырашыўшы з-за тактычных меркаванняў поўнасцю не раскры-

ваццa, сама была другой, прайграўшы канадскай спартсменцы Сілкен Лаўман 2,34 секунды…

А потым быў той пераможны фінальны заезд, які падрабязна апісаны намі ў пачатку гэтага нарыса…

Выйграўшы ўсе без выключэння галоўныя старты наступнага пасляалімпійскага сезона — 1997, у тым ліку — чэмпіянат і Кубак свету, яна пераканаўча даказала галоўнае: права называцца лідэрам сусветнага акадэмічнага веславання. Тое ганаровае, высокае і адказнае права заставалася за нашай спартсменкай яшчэ на працягу больш чым дзесяці (!) гадоў.

Праўда, сезон 1998 года Каця прапусціла. Прычына — больш чым уважлівая. На жыццёвым шляху сустрэла яна свайго спадарожніка — грамадзяніна Германіі Вільфрыда Карстэна. Узялі шлюб, з'явілася на свет непаўторная дачушка Аляксандра…

Знайшліся скептыкі-нядобразычліўцы, якія на яе спартыўнай біяграфіі паставілі, як кажуць, крыж. Нават не перагледзелі яны свае пазіцыі і пасля таго, як, вярнуўшыся на «вялікую ваду» на наступны год, Кацярына Хадатовіч-Карстэн на трэцім этапе розыгрышу Кубка свету ў Канадзе паказала проста фантастычны вынік на дыстанцыі 1000 метраў — 7 мінут 11,68 секунды. І хоць у акадэмічным веславанні афіцыйныя сусветныя рэкорды не фіксуюцца, гэты час, раней нябачны, стане недасягальным на многія гады.

…Такое нечаканае вяртанне беларускай зоркі акадэмічнага веславання прымусіла саперніц значна актывізаваць вучэбна-трэніровачныя працэсы. І перш за ўсё — найбольш здольных і працавітых з іх. Якраз тады, напрыканцы 1999-га, утварылася свайго роду трыо таленавітых спартсменак, якія на працягу некалькіх гадоў будуць весці паміж сабой бескампрамісную барацьбу за пальму першынства на ўсіх без выключэння міжнародных спаборніцтвах. Гэта наша Каця Карстэн, Румяна Нейкава з Балгарыі і прадстаўніца Германіі Катрын Рутшоў-Стампароўска.

На XXVII Алімпіядзе-2000 у Сіднеі Кацярына атрымала залаты медаль толькі пасля ўмяшання фотафінішу ў высвятленне адносін: канкурэнцыя была настолькі вострая і жорсткая, што толькі электроніка змагла расставіць кропкі над «і». Усяго адну сотую секунды (!) выйграла тады наша спартсменка ў Румяны Нейкавай. Катрын Рутшоў-Стампароўска стала ўладальніцай бронзавай узнагароды.

А потым былі старты па праграме XXVIII Гульняў 2004 года на радзіме Алімпіяд — у Грэцыі. Спрабавалі парушыць «манаполію» на алімпійскія медалі згаданага вышэй трыо амерыканка Джулія Дэвайн, іншыя прадстаўніцы акадэмічнага веславання, але дарэмна. На п’едэстал гонару ўзнялася тая ж тройка, што і на папярэдніх Гульнях. Толькі на гэты раз залатую прыступку заняла Катрын, сярэбраную — Кацярына, а бронзавая ў чарговы раз дасталася «няўдачніцы» Румяне. Аднак калі тэлекамеры выхапілі алімпійскі п’едэстал падчас атрымання імі ўзнагарод, твары выдатных спартсменак сучаснасці свяціліся аднолькава радасна і прыгожа!

Румяна Нейкава, гэтаксама як і Кацярына Карстэн, аказалася спартсменкай таленавітай, валявой і настойлівай. На Гульнях XXIX Алімпіяды ў Пекіне ў 2008 годзе, аб’явіўшы напярэдадні аб тым, што яна пасля стартаў пакідае вялікі спорт, балгарская вяслярка дамаглася-такі свайго: выйграла залаты алімпійскі медаль. Захапіўшыся ўпартай і бескампраміснай барацьбой за вышэйшую прыступку п’едэстала гонару са сваёй спрадвечнай саперніцай з Балгарыі, наша Каця «Вялікая», ахрысценая так журналістамі, прапусціла яшчэ наперад сябе і амерыканскую спартсменку, і ў выніку заваявала бронзавую ўзнагароду.

Толькі наўрад ці кіне хто камень у яе агарод: алімпійскія ўзнагароды за проста так не ўручаюць…



## *Аляксандр і Андрэй Багдановічы:*

## БОЛЬШ ЗА ІНШЫХ ІМ ВЕРЫЛА МАМА…

*Аляксандр Багдановіч нарадзіўся 29 красавіка 1982 года ў гарадскім пасёлку Ялізава на Магілёўшчыне. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён Гульняў XXIX Алімпіяды ў Пекіне (2008) па веславанню на каноэ-двойцы. Двухразовы чэмпіён Еўропы 2007 і 2008 гадоў. Першы трэнер — Пётр Яноўскі.*

*Андрэй Багдановіч нарадзіўся 15 кастрычніка 1987 года ў гарадскім пасёлку Ялізава Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) па веславанню на каноэ-двойцы. Двухразовы чэмпіён Еўропы 2007 і 2008 гадоў. Першы трэнер — Пётр Яноўскі.*

…Перад ад’ездам на Гульні ў Пекін самаму дарагому і любімаму чалавеку — сваёй маме — кожны з іх сказаў прыкладна адно і тое ж: чакай нас з узнагародамі! З якімі — ні старэйшы сын Саша, ні малодшы Андрэй — не ўдакладнілі. Ды і не гэта было галоўным для Людмілы Багдановіч. Сама ў мінулым добрая спартсменка, яна выдатна ведала і ведае: другога гатунку медалёў, тым больш алімпійскіх — проста не бывае!

З XXIX Алімпіяды браты Багдановічы вярнуліся самымі сапраўднымі героямі спорту. Слова, дадзенае маме, яны стрымалі і прывезлі дадому ўзнагароды самай высокай, залатой, алімпійскай вартасці!

У вялікі спорт Саша і Андрэй прыйшлі адной і той жа дарогай. Нарадзіліся і раслі яны ў гарадскім пасёлку Ялізава Асіповіцкага раёна. На тамтэйшым шклозаводзе інструктарам-метадыстам па фізічнай культуры працуе іх маці, так што стасункі са спортам у хлопчыкаў пачалі складвацца з самага маленства.

Вось толькі від спорту яны выбралі сабе некалькі незвычайны і для родных, і для сваіх шматлікіх сяброў.

У 1980-я гады сярод ялізаўскіх школьнікаў усё мацней і мацней пачала хадзіць пагалоска, што зусім недалёка, усяго толькі за 25 кіламетраў ад іхняга гарадскога пасёлка, у слынным горадзе Бабруйску ў тамтэйшым вучылішчы алімпійскага рэзерву на ўсю моц працуе аддзяленне па веславанню на каноэ. Пачулі неўзабаве школьнікі і пра тое, што там рыхтуюць нават чэмпіёнаў і прызёраў самых розных спаборніцтваў. Аднаго з іх — Мікалая Стальмакова — ялізаўцы, як кажуць, ведалі нават у твар — іхні ж, ялізаўскі! Маўляў, вось узяўся за справу і чалавекам стаў, нарматыў майстра спорту нават выканаў…

З 1986 года ў Бабруйскім вучылішчы алімпійскага рэзерву пачаў працаваць Пётр Яноўскі — талковы і памяркоўны спецыяліст па веславанню на каноэ. У пошуках ахвочых да яго віду спорту хлопцаў, ён аб'ехаў амаль што ўсе школы суседніх з Бабруйшчынай раёнаў Магілёўскай і Мінскай абласцей. І знаходзіў, і запрашаў да сябе ў вучылішча, і тыя ішлі да яго…

Прыходзілі будучыя вучні да Пятра Фёдаравіча і, так бы мовіць, іншымі шляхамі…

Майстар спорту Мікалай Стальмакоў аднойчы запрасіў Людмілу Багдановіч і яе старэйшага сына на «свае» спаборніцтвы — чэмпіянат Магілёўскай вобласці па веславанню на каноэ. Было гэта ў 1995-м. Сашу толькі што споўнілася трынаццаць — самы ўзрост для вызначэння сваёй будучыні ў спорце. І трэба ж было такому здарыцца: веславанне яму вельмі спадабалася! А вось маме — не… Была тады ці дыскусія, ці спрэчка, сказаць сёння цяжка, аднак памяркоўны Пётр Яноўскі прапанаваў свой варыянт: маўляў, вазьму я Сашку да сябе ў летні трэніровачны спартыўны лагер, няхай паглядзіць больш уважліва — што і да чаго…

Старэйшы сын прыглядаўся, маці таксама думала-меркавала аб лёсе Сашы… Вырашыла: калі ўсё ж такі будзе настойваць на сваім, пярэчыць не буду!

…З верасня таго ж 1995 года Аляксандр Багдановіч стаў навучэнцам Бабруйскага вучылішча алімпійскага рэзерву.

Яшчэ праз некалькі гадоў па ягоных слядах пайшоў і малодшы Багдановіч — Андрэй.

Першы поспех да братоў прыйшоў у 2006 годзе. На Аляксандра і Андрэя Багдановічаў пільную ўвагу звярнулі ўжо трэнеры нацыянальнай зборнай Беларусі, і па прапанове Пятра

Яноўскага іх пасадзілі ў каноэ-двойку. Паганяўшы як мае быць судна па Бярэзіне і іншых вадаёмах і вяслярных каналах, у тым ліку і за межамі рэспублікі, Багдановічы былі заяўлены для ўдзелу ў розыгрышы Кубка свету. Адзін з этапаў яго завяршыўся буйной спартыўнай сенсацыяй: Аляксандр і Андрэй упэўнена перамаглі на сваіх першых сумесных міжнародных спаборніцтвах!



*Андрэй Багдановіч*

Дзеля справядлівасці адзначым: імя старэйшага Багдановіча спартыўнаму свету ўжо было вядома. На Гульнях-2004 у Афінах ён выступаў на каноэ-двойцы ў пары з Аляксандрам Курляндчыкам на дыстанцыях 500 і 1000 метраў, і яны занялі тады 6 і 10 месцы.

Пасля ж перамогі братоў на этапе Кубка свету сумненняў у кіраўнікоў зборнай Беларусі ўжо практычна не было: іх трэба планамерна рыхтаваць да XXIX Алімпіяды 2008 года. Яшчэ менш засталося сумненняў пасля таго, як экіпаж таленавітых канаістаў больш чым пераканаўча выйграў еўрапейскае першынство 2007 года.

Ранняй вясной 2008 года Саша і Андрэй Багдановічы перамаглі на чэмпіянаце Еўропы ў другі раз і, такім чынам, канчаткова супакоілі ўсіх і кожнага: яны — на правільным шляху!

…Алімпійскі канал Шунь-І ў кітайскай сталіцы малодшы з братоў «праверыў» на справе амаль што за год да галоўных стартаў на так званым перадалімпійскім тыдні. Разам жа яны прайшліся па ім напярэдадні заездаў, і ім спадабалася: маўляў, можна перамагаць і тут. Так што выходзячы на тысячаметровую дыстанцыю, непакоіцца і хвалявацца не было падстаў: Багдановічы былі гатовы да самай сапраўднай барацьбы!

Сваімі галоўнымі супернікамі і самі спартсмены, і іх настаўнікі лічылі нямецкіх весляроў Крысціяна Гіле і Томаса Віленжэка — майстроў вопытных і загартаваных, уладальнікаў залатых узнагарод папярэдняй, XXVIII Алімпіяды ў Афінах, чэмпіёнаў свету 2007 года. Менавіта паміж нямецкім і беларускім экіпажамі і разгарэлася на канале Шунь-І спрэчка за вышэйшую прыступку п’едэстала гонару Гульняў-2008…

У фінальным заездзе Гіле і Віленжэк адразу ж выйшлі наперад. На сярэдзіне дыстанцыі яны апярэджвалі беларусаў на дзве секунды — для веславання адрыў не такі ўжо і маленькі… Мільёны аматараў веславання і прыхільнікаў нашага дуэта затаілі дыханне: маўляў, няўжо перагарэлі, растрацілі сілы?.. Аднак Саша і Андрэй, гэтаксама як і настаўнікі зборнай Уладзімір Шантаровіч і Мікалай Банько былі спакойнымі: толькі гэты квартэт ведаў, што ўсё ідзе па загадзя распрацаванаму стратэгічнаму плану барацьбы. І вось браты павялічваюць тэмп, паскараюць судна, што называецца, кідаюць яго наперад і толькі наперад… На адзнацы 750 метраў адставанне ад алімпійскіх чэмпіёнаў — 2004 складала ўжо 1,5 секунды. Вада на канале, вобразна кажучы, закіпала…

Паказаўшы вынік 3 мінуты 36,365 секунды і апярэдзіўшы на самым фінішы славуты нямецкі экіпаж усяго толькі на 0,223 секунды, Аляксандр і Андрэй Багдановічы вырвалі ў іх перамогу. Такога напалу барацьбы, такога мізэрнага адставання сярэбраных прызёраў ад пераможцаў, здаецца мне, гісторыя сусветнага і алімпійскага веславання яшчэ не ведала ніколі!

А мы ў сваю чаргу з вялікім гонарам за справу чэмпіёнаў унеслі імёны братоў Багдановічаў у той алімпійскі летапіс славы, дзе шмат гадоў назад з'віліся імёны іх папярэднікаў — таксама алімпійскіх чэмпіёнаў па веславанню на каноэ-двойцы Леаніда Гейштара і Сяргея Макаранкі (1960 год), Віктара Рэнейскага і Мікалая Жураўскага (1988), Дзмітрыя Даўгалёнка і Аляксандра Масяйкова (1992 год).

Толькі ў нашым беларускім азёрным і рачным краі могуць быць такія вялікія весляры!



## *Раман Петрушэнка, Вадзім Махнеў, Аляксей Абалмасаў, Артур Літвінчук:*

## ЭКІПАЖ БАЙДАРКІ БАЯВОЙ

*Раман Петрушэнка нарадзіўся 25 снежня 1980 года ў горадзе Калінкавічы Гомельскай вобласці. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) па веславанню на байдарцы-чацвёрцы на дыстанцыі 1000 метраў. Двухразовы бронзавы прызёр Алімпіяд: XXVIII Гульняў (2004) у Афінах і XXIX Алімпіяды (2008) у Пекіне па веславанню на байдарцы-двойцы на дыстанцыі 500 метраў. Двухразовы чэмпіён свету 2005 і 2007 гадоў. Чэмпіён Еўропы 2008 года. Бронзавы прызёр еўрапейскага першынства — 2008. Першы трэнер — Дзмітрый Клявакін.*

*Вадзім Махнеў нарадзіўся 21 снежня 1979 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) па веславанню на байдарцы-чацвёрцы на дыстанцыі 1000 метраў. Двухразовы бронзавы прызёр Алімпіяд: XXVIII Гульняў-2004 у Афінах і XXIX Алімпіяды (2008) у Пекіне па веславанню на байдарцы-двойцы на 500-метровай дыстанцыі. Двухразовы чэмпіён свету 2005 і 2007 гадоў. Чэмпіён кантынента — 2008. Бронзавы прызёр еўрапейскага першынства 2008 года. Першыя трэнеры — Генадзь і Ларыса Махневы.*

*Аляксей Абалмасаў нарадзіўся 20 чэрвеня 1980 года ў горадзе Барысаве. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) па веславанню на байдарцы-чацвёрцы на дыстанцыі 1000 метраў. Чэмпіён свету і Еўропы 2005 года. Бронзавы прызёр еўрапейскага першынства — 2008. Першыя трэнеры — Артур Быковіч і Дзмітрый Гошка.*

*Артур Літвінчук нарадзіўся 4 студзеня 1988 года ў горадзе Мазыры. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) па веславанню на байдарцы-чацвёрцы на дыстанцыі 1000 метраў. Бронзавы прызёр еўрапейскага першынства — 2008. Першыя трэнеры — Андрэй Качыеў і Віталь Скрыганаў.*



*Аляксей Абалмасаў*

Тры з чатырох удзельнікаў гэтага зорнага экіпажа алімпійскі порах упершыню панюхалі ў Афінах — на Гульнях-2004. Не маючы на той момант ні багатага вопыту выступлення на вышэйшым узроўні, ні тым больш перамог, перад імі, памятаецца, задачу высокую не ставілі: маўляў, выйдзеце ў фінал, і на тым скажам «Дзякуй!»… Тады байдарка-чацвёрка ў складзе Рамана Петрушэнкі, Вадзіма Махнева, Аляксея Абалмасава і Дзям'яна Турчына, заняўшы ў папярэднім заездзе на дыстанцыі 1000 метраў другое месца, у фінал, зразумела ж, трапіла, аднак у барацьбу за размеркаванне ўзнагарод не ўмяшалася і на фінішы была шостай. Праўда, ужо на наступны дзень двое з чатырох — Петрушэнка і Махнеў — сябе адразу ж рэабілітавалі: перасеўшы ў байдарку-двойку зноў выйшлі на старт — на гэты раз на пяцісотмятроўцы — і заваявалі бронзавыя медалі! Узнагарода ёсць, і прэтэнзій да нашых байдарачнікаў наогул не было…

Да наступнай Алімпіяды было чатыры гады, і беларускія весляры літаральна адразу ж распачалі падрыхтоўку — спланаваную, сур'ёзную і мэтанакіраваную — да будучых стартаў у Пекіне…

— Пасля Гульняў у Афінах наш экіпаж пасталеў і падышоў да Пекіна больш адказна, з дакладным уяўленнем пра Алімпіяду, — сказаў на прэс-канферэнцыі пасля трыумфальнага фінішу ў кітайскай сталіцы Раман Петрушэнка. — Да таго ж мы прайшлі загартоўку чэмпіянатамі свету. Дапамагло і так званае тэсціраванне канала падчас удзелу ў перадалімпійскім тыдні 2007 года. Дзякуючы гэтаму прызвычаіліся да месца алімпійскіх баталій і вылічылі тэрміны, калі лепш прыязджаць у Кітай з тым, каб нармальна адаптавацца. Мяркую, мы разлічылі ўсё…

З дапамогай трэнераў і спецыялістаў зборнай нашы весляры — байдарачнікі і канаісты — насамрэч разлічылі ўсё!

Адной з галоўных задач стала ў той час набыццё міжнароднага спартыўнага вопыту, шліфаванне на трэніроўках і адказных спаборніцтвах майстэрства, выпрацоўка дасканаласці

і дасягненне поўнага ўзаемаразумення. Патрэбны былі экіпажу і свежыя сілы: настаўнікі каманды бачылі, а самі спартсмены выдатна адчувалі, што на фінішы сезона, як скажа потым той жа Раман Петрушэнка, «Дзям'ян Турчын проста не цягне ўжо…». Замену шукалі настойліва і актыўна, і неўзабаве замест Дзям'яна месца ў экіпажы заняў зусім яшчэ юны, але таленавіты і працавіты Артур Літвінчук.



*Артур Літвінчук*

Словам, сабраўшы да 2008 года неблагую калекцыю ўзнагарод, самымі важкімі сярод якіх былі залатыя медалі двух чэмпіянатаў свету і аднаго — еўрапейскага першынства, на алімпійскі канал Шунь-І ў Кітай беларуская чацвёрка байдарачнікаў прыбыла, па сутнасці, лідэрам апошніх сезонаў, адным з галоўных прэтэндэнтаў на ўзнагароду самай высокай вартасці.

Праўда, не драмалі і сапернікі. Калі на Гульнях-2004 нервы нашым веслярам папсавалі венгерскія, шведскія і нямецкія гоншчыкі, дык на гэты раз даць бой, акрамя іх, ірваліся яшчэ і славакі. Ну, а вывесці сапернікаў на тыя прыступкі алімпійскага п'едэстала гонару, якія яны заслугоўвалі, мог (і павінен быў!) толькі фінальны заезд…

Адразу ж пасля старту барацьба распачалася не на жарт, і нават вопытнае вока спецыяліста не магло вызначыць, хто на той момант быў лепш гатовы весці спрэчку — і перш за ўсё тактычную — за лідэрства… На сярэдзіне 1000-мятроўкі электронныя секундамеры зафіксавалі наступныя паказчыкі: Славакія — 1 мінута 24,57 секунды, Беларусь — 1.25,10, Германія — 1 мінута 25,44 секунды. Лідэр беларускага квартэта, так званы заграбны, Раман Петрушэнка і ягоныя партнёры павялічваюць тэмп, і на адзнацы 750 метраў яны ўжо наперадзе… Да перамогі — рукой падаць, але сапернікі не здаюцца: і славакі, і немцы працуюць вёсламі, як аўтаматы!

І вось ён, запаветны фініш: Беларусь — 2 мінуты 55,714 секунды, Славакія — 2.56,593, Германія — 2 мінуты 56,676 секунды.

«Цену победы мир увидит во время церемонии награждения, — напіша ў справаздачы з кітайскага канала Шунь-І па-

пулярны спартыўны штотыднёвік «Прессбол». — Артур Литвинчук едва не потерял сознание, с трудом удержавшись на ногах во время исполнения белорусского гимна…»



*Вадзім Махнеў*

А на наступны дзень — ужо ў рангу алімпійскіх чэмпіёнаў — Раман Петрушэнка і Вадзім Махнеў, як і на Гульнях-2004 у Афінах, зноў селі ў байдарку-двойку і зноў паімчаліся па воднай роўнядзі канала Шунь-І. Зноў тыя ж сапернікі — і перш за ўсё нямецкія майстры вясла Рональд Раухе і Цім Вайскотэр. Захапіўшыся барацьбой між сабой, беларусы і немцы не заўважылі рывок іспанцаў Карласа Пераса і Соль Кравіоты, якія, урэшце, сенсацыйна і сталі алімпійскімі чэмпіёнамі. Нашы ж весляры, стомленыя папярэдняй барацьбой у складзе экіпажа-чацвёркі, прапусцілі наперад і сапернікаў з ФРГ.

Але іх бронза мела тады несумненнае залатое адлюстраванне…

*Раздзел VI*

## ГЭТА НЯЛЁГКАЯ ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

*Кожны раз, калі выпадае рэдкая магчымасць пасачыць за выступленнямі штангістаў, — ці то ўвачавідкі, ці то па тэлебачанню — не перастаю захапляцца волатаўскай сілай, мужнасцю і вытрымкай гэтых сапраўдных гераклаў сучаснасці. Бо сапраўды: колькі ўсяго гэтага трэба, каб адарваць ад памоста, узяць на грудзі, а потым ускінуць высока над галавой на прамых выцягнутых руках сталёвую аграмадзіну, якая — вельмі і вельмі часта! — у два, а то і амаль што ў два з паловай разы цяжэйшая за ўласную вагу таго, Богам надзеленага незвычайнай сілай, моцнага, трэніраванага чалавека, што адважыўся на такі адчайны крок!*

*Першым з беларусаў, хто на ўвесь голас заявіў аб сабе на цяжкаатлетычнай міжнароднай арэне, быў мінскі атлет-паўцяжкавагавік Яўген Новікаў. У далёкім ужо 1955-м ён заваяваў залаты чэмпіёнскі медаль на II Сусветных студэнцкіх гульнях — спаборніцтвах, якія не адно дзесяцігоддзе лічыліся даволі прэстыжнымі і аўтарытэтнымі, з'яўляліся свайго роду пропускам у вялікі спорт. Так, уласна кажучы, атрымалася і з Яўгенам Новікавым: праз два гады ён упэўнена выйграў тытул чэмпіёна Еўропы. На жаль, як гэта вельмі часта здараецца ў цяжкай атлетыцы, пайсці далей па цяжкаатлетычных памостах кантынента і свету Яўгену не дазволіла траўма… Тым не менш вялікаму спорту ён не здрадзіў: Яўген Васільевіч стаў потым спартыўным журналістам і доўгі час узначальваў спартыўную рэдакцыю Беларускага радыё і тэлебачання.*

*Потым — звыш дзесяці гадоў запар — прабіцца ў рады нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза і годна выступіць пад яе флагам беларусам ніяк не ўдавалася. І толькі сярэдзіна 70-х гадоў XX стагоддзя азнаменавалася сапраўдным трыумфам яшчэ аднаго мінскага волата — Валерыя Шарыя, які стаў спачатку чэмпіёнам СССР, потым —*

*свету, і нарэшце — пераможцам XXI Алімпійскіх гульняў 1976 года.*

*А ўжо праз адзін алімпійскі цыкл — у 1980-м — увесь спартыўны свет загаварыў пра самага моцнага чалавека свету: беларускага суперцяжкавагавіка Леаніда Тараненку. Ён выйграў спачатку XXII Алімпійскія гульні—1980 у Маскве, потым — некалькі сусветных і кантынентальных першынстваў, і нарэшце — серабро XXV Гульняў 1992 года. Яшчэ далей пайшоў другі наш прадстаўнік суперцяжкай вагавай катэгорыі Аляксандр Курловіч: залатыя ўзнагароды ён атрымаў на XXIV і XXV Алімпіядах 1988-га і 1992-га гадоў, перамог таксама і на шэрагу чэмпіянатаў свету і Еўропы.*

*XXVIII і XXIX Алімпійскія гульні 2004 і 2008 гадоў таксама азнаменаваліся выдатнымі дасягненнямі беларускіх майстроў «жалезнай гульні». У Афінах, на XXVIII Гульнях, сярэбраныя медалі заваявалі Андрэй Рыбакоў і Ганна Бацюшка, бронзавы — Таццяна Стукалава. А на XXIX Алімпіядзе-2008 у Пекіне свой сярэбраны подзвіг паўтарыў той жа Андрэй Рыбакоў, бронзавую ўзнагароду атрымала Настасся Новікава. У прамым сэнсе слова ўзарваў у кітайскай сталіцы ўвесь спартыўны свет зусім яшчэ малады беларускі паўцяжкавагавік Андрэй Арамнаў: у дваццацігадовым узросце ён ці не першым у гісторыі сусветнай цяжкай атлетыкі не толькі выйграў залаты алімпійскі медаль, але і ўстанавіў пры гэтым адразу тры (!) сусветныя рэкорды!*

*Не, не збяднела зямля беларуская на сапраўдных волатаў-гігантаў!*

*Пераможцамі сусветных і еўрапейскіх першынстваў у мнагаборстве і ў асобных цяжкаатлетычных практыкаваннях, розыгрышаў Кубкаў кантынента і многіх міжнародных турніраў, акрамя згаданых вышэй атлетаў, у розныя гады былі таксама Генадзь Рабаконь, Рафаіл Белянкоў, Арнольд Галубовіч, Віталь Сіняк, Алег Чырыца, Віталь Дзербянёў, Сяргей Лаўрэнаў, Аляксандр Анішчанка, Алег Кячко, Уладзімір Емяльянаў, Руслан Дарашчук, Аляксей Крушэвіч, Вадзім Стральцоў, Юлія Навакові і іншыя.*



## *Валерый Шарый:*

## ЗАСЛУЖАНЫ МАЙСТАР «ЖАЛЕЗНАЙ ГУЛЬНІ»

*Валерый Шарый нарадзіўся 2 студзеня 1947 года ў гарадскім пасёлку Чэрвені Мінскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXI Алімпійскіх гульняў (1976) у Манрэалі па цяжкай атлетыцы. Чэмпіён свету і Еўропы 1975 і 1976 гадоў. Чатырохразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1975, 1977, 1978 і 1979 гадоў. Уладальнік Кубка СССР 1971, 1978 і 1979 гадоў. Уладальнік 13 рэкордаў свету і 15 — Савецкага Саюза. Яго рэкорд у суме класічнага трохборства для атлетаў сярэдняй вагавой катэгорыі — 527,5 кілаграма — застаўся «вечным» у гісторыі цяжкай атлетыкі. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў. Першы трэнер — Барыс Левін.*

**Дэбют**

*— У дзяцінстве я не марыў аб вялікім спорце. Нарадзіўся ў гарадскім пасёлку Чэрвені, вучыўся ў сярэдняй школе № 1. У 1960-м наша сям'я пераехала ў Мінск. Заўсёды дапамагаў старэйшым, імкнуўся любую справу зрабіць як мага лепш. Тады, у дзіцячыя гады, мне, памятаю, вельмі падабалася, калі мяне ставілі ў прыклад іншым. А калі так, то на наступны дзень гарэў жаданнем рабіць усё яшчэ лепш. І гэта, бадай што, дапамагло мне выпрацаваць настойлівасць і мэтанакіраванасць…*

Школьнікаў-васьмікласнікаў сабралі ў іх класе. Кожнаму ўсяго толькі пятнаццаць, а называе іх дырэктар дарослым словам — выпускнікі.

Атрымаў Валерый пасведчанне аб васьмігадовай адукацыі, задумаўся. Падышла настаўніца:

— А я ўсё ж раю табе ісці ў дзевяты клас…

— Мама таксама раіць. Толькі, мусіць, зраблю я па-свойму…

«Працаваць! Толькі на завод!» — вырашыў ён тады.

У аддзеле кадраў завода газсантэхдэталей яго дакументы вывучалі доўга: «А ці не замалы яшчэ? А ці справіцца?».

— Ты, хлопец, відаць, дужы, — сказаў, нарэшце, начальнік аддзела кадраў. — Бадай што возьмем…

Праз два гады ён стаў ужо высокакваліфікаваным рабочым. Пасля рабочага дня заставалася шмат вольнага часу, і Валерый заняўся спортам. Неяк ад сяброў даведаўся, што ў таварыстве «Дынама» аб'яўлены чарговы прыём у секцыю цяжкай атлетыкі. Пасля змены пайшоў у спартыўную залу. Трэнеру Барысу Левіну ён спадабаўся адразу ж.

— Што такое рэжым, ведаеш? Глядзі: даведаюся, што курыш ці, барані Божа, выпіваеш, — выганю! Зразумеў?

— Зразумеў!

І пачаліся настойлівыя трэніроўкі. Не вельмі радасна было цягаць гантэлі, двухпудовыя гіры, штангу. Праз два-тры тыдні на іх не хацелася нават глядзець. Аднак адмаўляцца ад заняткаў і не думаў: упартасць не дазваляла…

У 1966 годзе, калі Валерый быў ужо амаль што першаразраднікам (да гэтага нарматыву ў суме трохборства не хапала ўсяго толькі два кілаграмы), Барыс Левін сустрэўся з маладым армейскім трэнерам Паўлам Зубрыліным. Разгаварыліся.

— Паглядзеў бы ты аднаго майго хлопца, — сказаў Левін. — Шарый яго прозвішча. Па-мойму, здольны…

— Добра, завітаю.

Зубрылін стрымаў сваё слова. Але, убачыўшы Валерыя, не надта каб узрадаваўся.

— Ты лыжніка мне падсоўваеш! — напаў ён на Левіна, калі засталіся ўдвух. — 70 кілаграмаў вагі, ні біцэпсаў, ні рухавасці. Пазбавіцца ад яго хочаш, ці што?

— Правер яго ўсё ж такі, Павел! — параіў Барыс.

Зубрылін згадзіўся. І з красавіка 1966 года Валерый Шарый стаў членам спартыўнага клуба арміі Беларускай вайсковай акругі.

У 1967 годзе трэнеры зборнай Беларусі давяраюць Валерыю выступіць на чэмпіянаце Савецкага Саюза сярод моладзі. І хоць на турнір ён прыехаў ужо майстрам спорту СССР, амаль што ніхто — ні балельшчыкі, ні нават спецыялісты — не чулі пра яго. Пакідаў жа гэтыя спаборніцтвы 20-гадовы мінчанін з залатым медалём чэмпіёна краіны.

Праз два гады яшчэ адзін дэбют: Шарыя ўключаюць у склад дарослай каманды краіны для выступлення на чэмпіянаце свету і Еўропы. У сярэдняй вагавой катэгорыі трэнеры калектыву заявілі двух удзельнікаў — шматвопытнага Барыса Сяліцкага і 22-гадовага Валерыя Шарыя. Чэмпіёнскі тытул на тых спаборніцтвах выйграў японскі атлет Оўці, Сяліцкі быў трэцім, Шарый — пятым. Кіраўнікоў савецкай цяжкай атлетыкі такі дэбют не задаволіў, і мінскага спартсмена «спісваюць» з калектыву.

Аднак такое рашэнне спецыялістаў самога Валерыя не засмуціла. Ён ведаў свае магчымасці і лічыў, што ў 22 гады выходзіць на сусветны цяжкаатлетычны памост яшчэ ранавата. Трэба было назапасіць вопыт выступленняў на міжнародных спаборніцтвах, асвоіць методыку падрыхтоўкі лепшых штангістаў, нарэшце, навучыцца весці тактычную барацьбу…

На гэта пайшлі яшчэ два гады, доўгія, напоўненыя напружанай працай.

Перадалімпійскі 1971 год. Трэнеры зборнай Савецкага Саюза на раздарожжы. У большасці вагавых катэгорый кандыдаты на паездку ў алімпійскі Мюнхен-72 вызначаны даўно і адназначна, а ў катэгорыі да 82,5 кілаграма на месца прэтэндавалі аж пяць (!) штангістаў. Адказ на пытанне: «Хто з іх самыварты?» павінен быў даць розыгрыш Кубка СССР.

Чырвоную майку з гербам Савецкага Саюза і пяццю алімпійскімі кольцамі разам з кубкам краіны заваяваў мінчанін. Ён установіў першы ў сваім жыцці сусветны рэкорд у суме трохборства — 510 кілаграмаў. Валерый апярэдзіў тады ўсіх сваіх грозных і тытулаваных сапернікаў, у тым ліку такіх волатаў, як Барыс Сяліцкі, Уладзімір Каныгін, Барыс Паўлаў, Уладзімір Рыжанкоў. Акрамя яго ў алімпійскую зборную ўключылі Барыса Паўлава.

### Алімпійскі накаўт

*— Цяжка ўспамінаць тое. Цяжка, крыўдна і балюча…*

У сталіцу XX Алімпіяды ў Мюнхен Валерый Шарый прыехаў бясспрэчным лідэрам у сярэдняй вагавой катэгорыі. Яго суму ў трохборстве — 527 кілаграмаў, якую ён паказаў на адным з турніраў, спецыялісты ў адзін голас называлі фантастычнай. Барыс Паўлаў меў 512, астатнія атлеты адставалі на 20 і больш кілаграмаў.

Трэнеры зборнай меркавалі так: два нашы сярэдневагавікі заваююць залаты і сярэбраны медалі. Як высветліцца пазней, гэта была іх вялікая тактычная памылка. Заявіўшы двух удзельнікаў у адной і той жа вагавой катэгорыі, кіраўнікі савецкай каманды, па сутнасці, паставілі перад сваімі ж выхаванцамі пытанне: хто каго? Шарый Паўлава ці Паўлаў Шарыя?

Вынік іхняй барацьбы на алімпійскім памосце Мюнхена доўгі час… цешыў і радаваў супернікаў і нядобразычліўцаў савецкай цяжкай атлетыкі. У трох спробах Шарый і Паўлаў не ўзялі першапачатковай вагі і, атрымаўшы, як кажуць спартсмены, «абаранкі», выбылі з барацьбы за ўзнагароды. Набраўшы ж у суме трохборства ўсяго толькі 507,5 кілаграма, тытул алімпійскага чэмпіёна, запланаваны для нашай каманды, заваяваў атлет з Нарвегіі Лейф Йенсен…

Вярнуўшыся дадому, Валерый вельмі перажываў. Пра штангу і цяжкую атлетыку ўвогуле не хацелася думаць… Наракаў перш за ўсё на самога сябе. «Што рабіць далей?» — гэта пытанне не давала спакою на кожным кроку…

І ён прыняў адзінае правільнае рашэнне: усё пачаць спачатку!

Першы выхад на памост пасля мюнхенскага алімпійскага накаўта і… зноў няўдача. На першынстве Савецкага Саюза 1973 года ў Данецку ў рыўку Шарый устанавіў новы сусветны рэкорд — 160,5 кілаграма. Трохборства было ўжо адменена (Міжнародная федэрацыя цяжкай атлетыкі прыняла рашэнне праводзіць спаборніцтвы толькі ў рыўку і штуршку), і Валерый меў намер устанавіць новае сусветнае дасягненне ўжо ў двухборстве. Аднак… Ён зноў не адолеў першапачатковай вагі і замест тытула чэмпіёна Савецкага Саюза зноў атрымаў… «абаранак».

Тады і ўзнікла пытанне: а, можа, увогуле развітацца са спортам?..

**Вяртанне**

*— Я доўга думаў над гэтым пытаннем… Што і казаць: правалы сур’ёзныя. Мне даверылі, а я… «Аднак ці варта расчароўвацца? — падумалася аднойчы. — Мне — 25: для штангіста самы ўзрост. Кіну спорт — колькі кпінаў будзе! Любы скажа: “Ну што, гора-спартсмен?!”. А ці не лепш даказаць, што гэта былі проста няўдачы, а не памылкі трэнераў у стаўцы на маю кандыдатуру для паездкі на Алімпійскія гульні?» І я зноў пайшоў у цяжкаатлетычны манеж СКА ЧБВА…*

Ён пачаў занава. Дабраў лішняй вагі і перайшоў у паўцяжкую вагавую катэгорыю. Думаў: а раптам знойдзе сябе там? Настойліва трэніраваўся, рыхтаваўся да новых спаборніцтваў.

Толькі нічога не атрымлівалася.

— Адчуў я неўзабаве, — казаў мне аднойчы Валерый, — што не туды трапіў. Побач з Давідам Рыгертам, выдатным атлетам-паўцяжкавагавіком, мне проста не было чаго рабіць…

Лазня, кросы, трэніроўкі ў манежы са штангай — і лішніх кілаграмаў нібы і не было. Валерый Шарый зноў вяртаецца ў сваю вагавую катэгорыю. Выступленне ж сярод паўцяжкавагавікоў, лічыў ён, не было дарэмным. Гэта дапамагло яму супакоіць нервовую сістэму, паверыць у сябе, свае сілы і здольнасці.

…Тым часам наблізіўся чарговы перадалімпійскі год — 1975-ы. Для Шарыя ён стаў годам сусветных рэкордаў і бліскучых перамог.

Чэмпіянат Узброеных Сіл Савецкага Саюза. У суме двухборства мінскі армеец набірае 350 кілаграмаў — нарматыў майстра спорту міжнароднага класа.

Міжнародны турнір на Кубак Дружбы. Сума двухборства — 355 кілаграмаў. У штуршку Валерый устанаўлівае першы ў гэтым руху свой сусветны рэкорд — 203 кілаграмы.

І, нарэшце, — VI Спартакіяда народаў СССР. Старанна рыхтаваўся да яе Шарый.

— Уяўляеце, што такое 180 тон металу? — спытаў ён аднойчы ў мяне.

Я, вядома ж, не ўяўляў.

— Столькі падымаў я за пяць дзён трэніровак…

Вярнуліся ўпэўненасць у сілах, спакой у дзеяннях. Сам спартсмен адчуваў, што можа і павінен перамагчы.

Перад ад'ездам у Вільнюс на спартакіядны турнір ён сказаў:

— Пастараюся ўзяць два сусветныя рэкорды…

На вільнюскім памосце ён устанавіў не два, а тры новыя рэкорды свету: у рыўку паказаў 165,5 кілаграма, у штуршку — 203,5 і ў суме двухборства — 369 кілаграмаў.

Выпадак у цяжкай атлетыцы, скажам прама, даволі рэдкі!

### Трыумф

*— Пасля спаборніцтваў па праграме VI Спартакіяды народаў СССР я вельмі хваляваўся і перажываў. Прачнуся іншы раз сярод ночы і думаю: а ці дастаткова маіх трох сусветных*

*рэкордаў для таго, каб зноў вярнуцца ў зборную Савецкага Саюза? Ці паверацьу мяне трэнеры, ці даверацьзноў выступаць у зборнай краіны?..*

Камплектуючы склад зборнай для выступлення на чэмпіянаце свету і Еўропы, трэнеры раіліся доўга і грунтоўна. Пад увагу бралася шмат што: вопыт і майстэрства, дасягненні і вытрымка, настойлівасць і ўменне весці тактычную барацьбу…

І вось на трэнерскім савеце абмяркоўваецца кандыдатура Валерыя Шарыя — прадстаўніка сярэдняй вагавой катэгорыі. Мінулыя тытулы і рэкорды яго былі добра вядомы кожнаму. Непакоіла іншае: ці можна на яго разлічваць?

— Шарый сёння не той, што тры гады таму назад, — выказаў сваю думку галоўны трэнер зборнай Савецкага Саюза Іван Кудзюкоў. — Я веру ў яго…

…Верасень 1975-га. Палац спорту стадыёна ў Лужніках. Мацнейшыя волаты свету з’ехаліся ў Маскву на чарговае сусветнае першынство па цяжкай атлетыцы. Сярод іх і майстар спорту міжнароднага класа Валерый Шарый.

Вядомы ў мінулым цяжкаатлет і адзін з настаўнікаў зборнай Аляксей Мядзведзеў сказаў Валерыю:

— Ты павінен выйграць. Так лічаць усе. Глядзі: твой лёс зноў у тваіх руках…

У вагавой катэгорыі да 82,5 кілаграма выступалі 11 атлетаў. Хто яны, тыя сапернікі, Шарый ведаў добра. Прэтэндэнтаў на золата маскоўскага першынства было некалькі. У першую чаргу гэта Лейф Йенсен з Нарвегіі — чэмпіён ХХ Алімпійскіх гульняў у Мюнхене. У Маскву ён прыехаў, маючы ў актыве суму ў двухборстве 355 кілаграмаў… Канечне ж, механік з горада Грэзвіг разлічваў на ўзнагароду. З тымі ж 355 кілаграмамі рыхтаваўся да выхаду на памост і малады таленавіты Петэр Бацака — электрамеханік са сталіцы Венгрыі. А два сапернікі былі яшчэ больш небяспечныя: 22-гадовы балгарын Трэндафіл Стойчаў і вопытны фін Юхані Авелан…

Зборная Савецкага Саюза жыла на адной са спартыўных баз Падмаскоўя. У дзень свайго выступлення адразу ж пасля снедання Валерый Шарый сабраўся пайсці… у лес. Сябры па зборнай здзіўлена паціскалі плячамі:

— І чаго ты там не бачыў?

— Пайду ў грыбы, — адказаў Валерый. — Пашукаю баравікоў. Бачыце: Пеця Кароль знайшоў — і чэмпіёнам стаў. Я таксама паспрабую…

У лесе ён быў доўга. Збіраў грыбы і пра нешта думаў. Сябры пачалі хвалявацца: ці не здарылася што-небудзь? Валянцін Міхайлаў ужо хацеў ісці шукаць таварыша…

— Няхай пабудзе адзін, — сказаў Васіль Іванавіч (так у зборнай усе называлі Васіля Аляксеева, прызнанага чэмпіёна-суперцяжкавагавіка).

Грыбоў Шарый назбіраў, як кажуць, дай бог. Трэба было ўжо вяртацца на базу, але ж баравіка ён так і не знайшоў… Захваляваўся больш, чым іншы раз на памосце. Штангісты — народ забабонны… Што ж такое?.. Які ўжо раз зазірае Валерый пад хвою — няма, хоць ты плач. І вось, нарэшце, ёсць! Стаіць прыгажун-баравік: ладны ды моцны… Беражліва, нібы баючыся, каб не пашкодзіць, Валерый зрэзаў яго пад самы корань. «150 грамаў — не менш!» — узрадаваўся і пабег да сяброў на базу…

— Знайшоў? — сустрэлі тыя пытаннем.

— Яшчэ які!

— Быць золату! — сказаў Валянцін Міхайлаў. — Абавязкова быць…

Спаборніцтвы пачаліся з узважвання. Савецкі атлет атрымаў першую перамогу: ён на 350 грамаў лягчэйшы, чым Трэндафіл Стойчаў. Такім чынам, калі яны набяруць аднолькавую суму ў двухборстве, то перавага застанецца за Валерыем Шарыем…

Незадоўга да выхаду на памост пачынаецца размінка. Перш за ўсё гэта — псіхалагічная атака. Тут ужо відаць: хто і на што здатны. Як і ўсе іншыя штангісты, Шарый падыходзіў да сталёвай аграмадзіны, спрабаваў яе на вагу. Трымаўся ж упэўнена і спакойна.

На той жа размінцы не вытрымаў напружання самы тытулаваны з атлетаў — алімпійскі чэмпіён Лейф Йенсен. Паспрабаваў «пацягаць» штангу — не змог узяць нават на грудзі. Зразумеў пераможца XX Алімпіяды ў Мюнхене: няма чаго тут рабіць! Ды і ад траўмы ён яшчэ не зусім ачуняў. Махнуў Йенсен рукой на сталёвую аграмадзіну і пайшоў у гардэроб — дачасна адмовіўся ад барацьбы.

Пачаліся спаборніцтвы. Першае практыкаванне — рывок. Авелан адольвае 155 кілаграмаў, Бацака — 157,5. Шарый і Стойчаў паказваюць аднолькавы вынік — 162,5 кілаграма.

— Вагой гэтай я быў задаволены, — прыгадваў потым Валерый. — Праўда, да майго сусветнага рэкорда не дацяг-

нуў аж тры кілаграмы, але не гэта важна. На такіх адказных спаборніцтвах барацьба іншы раз ідзе не за кілаграмы ці секунды, а за тое, хто каго адолее… І не апошнюю ролю тут адыгрывае тое, у каго са спартсменаў больш вытрымкі, мацнейшыя нервы…

І гэта насамрэч так. Горкага вопыту беларускі цяжкаатлет меў ужо тады больш чым дастаткова.

Штуршок. Пасачыць за барацьбой спартсмена са штангай вагой у 190—200 кілаграмаў — адно задавальненне! Нібы і звычайны чалавек з уласнай вагой 80—82 кілаграмы, а як смела і ўпэўнена ўзнімае ён высока над галавой на выцягнутых руках два цэнтнеры металу! Зноў першым сыходзіць Авелан: за тры падыходы ён адольвае паслядоўна 190, 195 і 197,5 кілаграма. Сума 350 кілаграмаў для фінскага атлета паказчык даволі значны…

На памосце застаюцца двое: Шарый і Стойчаў.

— Мы пачалі са 195 кілаграмаў, — казаў пасля Валерый. — Я ўважліва сачу за Трэндафілам, ён — за мной. Наступная вага — 200 кілаграмаў. Гэта ўжо гросмайстарскі нарматыў. Стойчаў доўга рыхтаваўся, настройваўся. І раптам ён заказвае 202,5. Я раблю тое ж…

Галоўны трэнер зборнай Іван Кудзюкоў кіўнуў у знак згоды галавой. Чалавек з вялікім трэнерскім вопытам, ён верыў у патэнцыял свайго падначаленага. І Шарый адчуваў свае сілы…

Другая спроба. Спачатку да штангі падыходзіць Стойчаў. Тое, што Валерый выступаў пасля асноўнага канкурэнта, таксама плюс. А балгарына напаткала няўдача: вагу ён не ўзяў. Пачынаецца барацьба нерваў. Са сціснутымі кулакамі выходзіць на памост Шарый. Штанга не слухаецца і яго…

Апошні падыход. Трэндафіл падымае штангу, але не ўтрымлівае яе над галавой. Усё: Шарый — чэмпіён свету і Еўропы!

А потым былі XXI Алімпійскія гульні 1976 года ў Манрэалі. Там, на амерыканскім кантыненце, Валерый падвесці ўжо проста не мог, не меў, як казаў ён мне, ніякага маральнага права. І ён насамрэч стаў трыумфатарам Гульняў, паказаўшы ў суме двух практыкаванняў 365 кілаграмаў і апярэдзіўшы цэлае сузор'е штангістаў-сапернікаў: балгар Трэндафіла Стойчава і Благоя Благоева, фіна Юхані Авелана і венгра Петэра Бацаку… Залаты медаль алімпійскага чэмпіёна стаў Валерыю Пятровічу Шарыю ўзнагародай перш за ўсё за мужнасць, трываласць, вытрымку на памосце і, наогул, у жыцці.



## *Леанід Тараненка:*

## АТЛАНТ, ЯКІ ТРЫМАЎ НЕБА

*Леанід Тараненка нарадзіўся 13 чэрвеня 1956 года ў горадзе Маларыта Брэсцкай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве (1980) па цяжкай атлетыцы ў першай цяжкай вазе. Сярэбраны прызёр XXV Алімпіяды ў Барселоне (1992) у другой цяжкай вазе. Чэмпіён свету 1980 года ў першай цяжкай і 1990-га ў другой цяжкай вагавых катэгорыях. Чэмпіён Еўропы 1980 года ў першай цяжкай вазе і трохразовы чэмпіён кантынента — 1988, 1991 і 1992 гадоў — у другой цяжкай вазе. Двухразовы пераможца Спартакіяд народаў СССР 1979 і 1983 гадоў. Пераможца турніру «Дружба-84». Устанавіў 19 сусветных рэкордаў у першай і другой цяжкіх вагавых катэгорыях. Яго сусветныя рэкорды ў штуршку — 266 кілаграмаў, і ў суме двухборства — 475 кілаграмаў, устаноўленыя ў 1988 годзе на розыгрышы міжнароднага Кубка суперцяжкавагавікоў у Канберы (Аўстралія), занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Узнагароджаны ордэнамі Дружбы народаў і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Першы трэнер — Пётр Сацюк.*

Такое ў вялікім спорце здараецца вельмі і вельмі рэдка… «Такое» — гэта маецца на ўвазе сітуацыя, калі да сусветнага, а потым і да алімпійскага п’едэсталаў гонару практычна невядомага да таго часу спартсмена даводзіць… трэнер-аматар! І гэта — у вялікім спорце, у апошняй трэці XX стагоддзя, калі ўсе без выключэння (адзначым гэтую акалічнасць асабліва!) віды спорту, а, значыць, і самі спартсмены былі, так бы мовіць, пераведзены выключна на прафесійную сістэму падрыхтоўкі і выступлення на вышэйшых спартыўных форумах планеты, у тым ліку і на Алімпійскіх гульнях…

Каб не інтрыгаваць больш чытача, зазначым адразу: размова пойдзе пра унікальны лёс самага звычайнага беларускага маладога чалавека, які стане ці не першым «незвычайным» у асяродку зорак сусветнага спорту. Імя яго — Леанід Аркадзьевіч Тараненка.

…У дзяцінстве здаецца ці не ўся падлеткавая Маларыта называла яго Жабацінскім. Хлапчук на гэта не надта каб і крыўдаваў: крыху заводзіўся толькі тады, калі яму тое проста надакучвала… А так — Жабацінскі дык Жабацінскі! Па-першае, імёны ў іх аднолькавыя. Па-другое, а што ў гэтым дрэннага: вунь якія цэнтнеры металу варочае на цяжкаатлетычным памосце той Леанід Жабацінскі! І Алімпійскія гульні выйграў: спачатку ў 1964 годзе ў Токіо, потым — у 1968-м — у Мехіка… Ну а тое, што Тараненка паўнаваты, якая ўжо гэта загана?..

Аднак якраз у тыя гады за Лёню пачынаюць здаецца ці не сапраўдную барацьбу трэнеры і сябры па школе. І ён сам пачынае губляцца: цягне хлопчыка і да барцоў, і да штурхальнікаў ядра і кідальнікаў дыска, ды і штанга ўсё больш і больш цікавіла яго… Лепшыя аргументы і пераканальныя доказы знайшоў урэшце рэшт Пётр Сацюк — пачынаючы маларыцкі трэнер па цяжкай атлетыцы. І пачаліся звычайныя будні ў секцыі: кросы, гімнастычныя практыкаванні, перакладзіна…

Скончыўшы сярэднюю школу, выбіраць дарогу Леаніду не давялося: мама засталася з двума сынамі на руках, і трэба было ісці працаваць. Асвоіўшы спецыяльнасць токара-фрэзероўшчыка, Тараненка пайшоў на адно з мясцовых прадпрыемстваў, а вечарамі па-ранейшаму цягаў штангу.

І тут адбылася падзея, якая неверагодным чынам цалкам змяніць ягоны ўклад жыцця…

— Той дзень я буду памятаць усё жыццё! — скажа ён мне ўжо пазней, пасля аднаго са сваіх трыумфальных выступленняў на сусветным памосце. — А тады на календары было 18 лютага 1974 года…

На сціплым і, па сутнасці, малазначным нават для рэспубліканскага спартыўнага календара першынстве добраахвотнага спартыўнага таварыства «Ураджай» у складзе каманды Брэсцкай вобласці выступаў 18-гадовы юнак Лёня Тараненка. Выступаў смела і ўпэўнена, для свайго ўзросту паказваў добрыя кілаграмы. А пасля закрыцця спаборніцтваў да маларытчаніна падыйшоў зусім незнаёмы чалавек і прадставіўся: «Лагвіновіч… Іван Пятровіч Лагвіновіч…»

— А чаму б нам з вамі разам не папрацаваць? — адразу ж прапанаваў апошні крыху разгубленаму ад нечаканага знаёмства спартсмену.

— А вы, уласна кажучы, хто такі? — набраўшыся смеласці, усё ж такі спытаў Тараненка.

І Іван Лагвіновіч, адчуўшы адразу ж удала знойдзены кантакт, паведаміў Леаніду, што працуе загадчыкам сектара навукова-даследчага Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Нечарназёмнай зоны, з'яўляецца кандыдатам тэхнічных навук… «Але не гэта галоўнае, — тут жа дадаў ён. — У свой час таксама хацеў пацягаць штангу, але не атрымалася. А зараз займаюся з такімі ж, як і вы, маладымі атлетамі… Так бы мовіць, на грамадскіх пачатках».

Так і з'явіўся на свет дуэт 40-гадовага фаната-энтузіяста-трэнера і 18-гадовага вучня — надзвычай таленавітага і не менш апантанага цяжкай атлетыкай… «Творчы саюз гэтых захопленых людзей, кожны з якіх Асоба з вялікай літары, не мог не прынесці выдатных вынікаў», — напіша потым пра іх вядомы беларускі спартыўны журналіст Уладзімір Пісараў у нарысе «Жалезныя гульні» жалезных мужчын». Звярніце ўвагу: словы «жалезных мужчын» мой калега і добры сябар у двукоссе не ўзяў. І зусім не выпадкова…

Праз тры гады мясцовыя беларускія спартыўныя летапісцы запісваюць яго імя ў спіс рэкардсменаў рэспублікі. У першай цяжкай вагавой катэгорыі (да 110 кілаграмаў) Тараненка ў штуршку паказаў 213 кілаграмаў, а ў суме двухборства — 380. Усяго год спатрэбіцца яму, каб першы з паказчыкаў давесці да 222,5 кілаграма, а яшчэ праз паўгода — да 230… Дадаўшы да тых 230-ці 180 кілаграмаў у рыўку, што стала новым рэкордам Савецкага Саюза, наш атлет давёў да новай адзнакі ўсесаюзны рэкорд і ў суме двухборства — 410 кілаграмаў.

Трэнеры нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза адразу ж уносяць яго імя ў свой спіс кандыдатаў на ўдзел у XXII Алімпійскіх гульнях 1980 года!

А нехта з нас, спартыўных журналістаў-летапісцаў, тут жа згадаў дзіцячую мянушку Лёні Тараненкі…

Пасля трыумфальных перамог на пяці (!) Алімпійскіх гульнях запар, атрыманых выдатнымі савецкімі супергігантамі — цяжкавагавікамі Юрыем Уласавым (1960 год), Леанідам Жабацінскім (Гульні 1964 і 1968 гадоў) і Васілём Аляксеевым (Алімпіяды 1972 і 1976 гадоў), у нацыянальнай зборнай з'явіўся новы лідэр — украінскі волат Анатоль Пісарэнка. Як і яго-

ныя папярэднікі, ён быў, па сутнасці, непераможны, так што пайсці на яго ў адкрытую мог толькі… адчайны канкурэнт. Іван Лагвіновіч і Леанід Тараненка, якія былі гатовы ўжо скласці канкурэнцыю і суперцяжкавагавікам, тым не менш дзейнічалі больш разважліва: лепш падтрымліваць «кандыцыі» ў першай цяжкай вагавой катэгорыі, чым, набраўшы вагу, быць на другіх ролях сярод цяжкавагавікоў. Асабістую вагу (нагадаем: да 110 кілаграмаў) утрымаць было няпроста, аднак самому спартсмену, яго настаўніку і спецыялістам зборнай СССР гэта, на іх гонар, удалося…

Сярод атлетаў першай цяжкай катэгорыі тады не ведаў роўных сабе ў свеце проста бліскучы балгарскі волат Валянцін Хрыстаў. І тут, выйграўшы Спартакіяду народаў Савецкага Саюза, на першым у сваім жыцці сусветным першынстве 1979 года на трэцяй прыступцы п'едэстала гонару раптам знаходзіць сабе месца Леанід Тараненка. Трэцяе — вядома ж, не другое, а тым больш — не першае: XXII Алімпіяда ўжо, што называецца, на носе… Лідэры, інакш кажучы, спалі спакойна!

Май 1980-га. Да Гульняў — рукой падаць, а ў стане цяжка атлетаў пануюць ранейшыя цішыня і спакой. І раптам на першынстве Еўропы беларускі спартсмен раскрывае карты: абнаўляе два з трох сусветных рэкордаў. Тады нават далёкія ад цяжкай атлетыкі людзі зразумелі: на памосце ў алімпійскай Маскве будзе па-сапраўднаму горача!

Ягоныя кілаграмы, паказаныя на спаборніцтвах у алімпійскім комплексе «Ізмайлава», уразілі ўсіх: 182,5 кілаграма ў рыўку, 240 — у штуршку і сума двухборства — 422,5 кілаграма! Два апошнія паказчыкі сталі новымі сусветнымі рэкордамі. Адстаўшы на 17,5 кілаграма, Валянцін Хрыстаў першым павіншаваў Леаніда Тараненку з вялікім залатым алімпійскім медалём і пры гэтым заявіў тэлекаментатарам свету: «Пакуль на памосце будзе Тараненка, іншым рабіць там няма чаго!..»

…І раптам — навальніца сярод яснага неба: алімпійскі чэмпіён хворы! Невылечна хворы… Свяцілы маскоўскай медыцыны робяць яму некалькі аперацый, складаных і небяспечных для жыцця наогул. Робяць і… захапляюцца: маўляў, які ж ты мужны і загартаваны, Леанід Аркадзьевіч! Дзякуй Богу, уратавалі, вярнулі з таго свету, паставілі на ногі…

— Толькі вось з вялікім спортам давядзецца развітацца! — вынес вердыкт падчас выпіскі сівагаловы сталічны прафесар.

І гэта — у 24 гады?!

Але зусім інакш думалі ўжо ў той цяжкі час і сам атлет, і ягоны верны старэйшы сябар і настаўнік Іван Пятровіч Лагвіновіч...

«Толькі ў залу, толькі да трэнажораў і снарадаў! Толькі там тваё выратаванне!» — Іван Пятровіч не казаў гэта, а крычаў… «Ты яшчэ ўбачыш неба ў зорках!» — здолеў-такі пераканаць ён паніклага ўжо Леаніда Тараненку.

…Не зусім да месца наступныя два-тры факты-высновы, але ж жыццё ёсць жыццё.

Цяжкая атлетыка, і перш за ўсё — першая і другая цяжкія вагавыя катэгорыі — нярэдка жорстка і проста бесчалавечна паступаюць са сваімі прыхільнікамі. Дачасна адправілі яны на той свет былых рэкардсменаў свету Сержа Рэдзінга з Бельгіі і савецкага гіганта Станіслава Бацішчава. Пасля хірургічных аперацыйных умяшанняў пакінуў памост легендарны Леанід Жабацінскі і наш беларускі перспектыўны цяжкавагавік Генадзь Рабаконь…

Леанід Тараненка не проста выстаяў у барацьбе са штангай. Ён не проста вярнуўся на памост. Леанід Тараненка зноў узышоў на самыя галоўныя ў вялікім спорце вышыні — сусветную і алімпійскую!

Больш таго: першую цяжкую вагавую катэгорыю ён памяняў на другую цяжкую — звыш 110 кілаграмаў.

Ужо ў 1983-м — праз два з паловай гады пасля аперацый! — Тараненка выйграе чарговую Спартакіяду народаў СССР, у 1984-м — міжнародны турнір «Дружба-84», задуманы і праведзены як альтэрнатыва для спартсменаў сацыялістычных краін, па паводле загаду тагачасных партыйна-дзяржаўных структур сваіх дзяржаў байкатавалі XXIII Алімпійскія гульні ў Лос-Анджэлесе.

XXIV Алімпіяда-88 у Сеуле магла (і павінна была!) стаць другой у ягоным складаным спартыўным жыцці. Ды не стала: проста ў бліскучай спартыўнай форме знаходзіўся другі наш волат — Аляксандр Курловіч (пра гэта размова наперадзе). Аднак трэба ведаць характар і мэтанакіраванасць і самога Тараненкі, і Лагвіновіча: яны па-ранейшаму заставаліся ў вялікім спорце! А доказам іхняй вернасці і правільнасці абранага шляху сталі чарговыя перамогі Леаніда на сусветных першынствах 1988, 1991 і 1992 гадоў. У той жа, стаўшай звыклай для іх, новай вагавой катэгорыі — звыш 110 кілаграмаў!

Падчас правядзення XXV Гульняў-92 у Барселоне яму было 36 гадоў. Аддаючы даніну вялікай павагі мужнасці і пра-

цавітасці выдатнага атлета, кіраўніцтва аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў заявіла для ўдзелу ў Алімпіядзе абодвух вялікіх беларусаў. І яны спаўна апраўдалі той давер: Аляксандр Курловіч заваяваў залаты, а Леанід Тараненка — сярэбраны медалі. Гэта быў самы сапраўдны трыумф беларускай школы «жалезнай гульні»!

Той, хто бачыў Леаніда Тараненку на памосце (у тым ліку і аўтар гэтых радкоў), зазвычай здзіўляўся ягонай вытрымцы. Вытрымцы, калі можна так сказаць, замешанай на спакоі, раўнавазе, а ў значнай меры і на ўпэўненасці ў сабе. Упэўненасці, але ж зусім не самаўпэўненасці, што яму, сапраўднаму волату зямлі беларускай, было і не ўласціва, і проста супрацьпаказана…

У вялікую (зноў жа без усякага там перабольшання!) цяжкую атлетыку ён прыйшоў на змену самым моцным людзям зямлі — сваім суайчыннікам — савецкім спартсменам. Прыйшоў і амаль што 20 гадоў (!) бліскуча выступаў на самых «высокіх» арэнах свету. Прыйшоў і дастойна прадоўжыў і годна прымножыў іх насамрэч вялікую справу — сцвярджэнне велічы сілы і моцы духу Славяніна з вялікай літары!



## *Аляксандр Курловіч:*

# САМЫ МОЦНЫ Ў СВЕЦЕ — БЕЛАРУС!

*Аляксандр Курловіч нарадзіўся 28 ліпеня 1961 года ў горадзе Гродна. Заслужаны майстар спорту СССР. Двухразовы алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы: пераможца XXIV Гульняў у Сеуле (1988) і XXV Алімпіяды ў Барселоне (1992) у суперцяжкай вагавой катэгорыі. Чатырохразовы чэмпіён свету 1987, 1989, 1991 і 1994 гадоў. Двухразовы чэмпіён Еўропы 1989 і 1990 гадоў. Уладальнік Кубка свету 1994 года. Дванаццаціразовы рэкардсмен свету. Найвышэйшыя паказчыкі: рывок — 215 кілаграмаў (1989), штуршок — 260 (1987), сума двухборства — 472,5 кілаграма (1987). Суддзя міжнароднай катэгорыі. Член выканаўчых камітэтаў Еўрапейскай і Міжнароднай федэрацый цяжкай атлетыкі. Заслужаны работнік фізічнай культуры Рэспублікі Беларусь. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Ганаровы грамадзянін г. Гродна. Першы трэнер — Генадзь Качкоў.*

Са сваімі сапернікамі — такімі ж моцнымі і таленавітымі, як і ён сам, — Аляксандр Курловіч вёў барацьбу па ўсіх правілах: шчыра і сумленна. З ім жа самім — як са спартсменам і чалавекам — змагаліся, як правіла, таксама справядліва і адкрыта. Аднак — не заўсёды! Відаць, замінаў ён таму-другому: і не толькі (а дакладней — не столькі!) канкрэтнаму чалавеку, колькі, возьмем на сябе смеласць сказаць, цэлай спартыўнай федэрацыі, а, можа, нават і краіне…

Прывядзём прыклады без каментарыяў. Няхай уважлівы чытач сам зробіць адпаведныя высновы…

…Тое паведамленне сродкаў масавай інфармацыі ледзь не ўсіх краін свету прагучала, бы навальніца сярод яснага дня: маўляў, у аэрапорце канадскага горада Таронта падчас пра-

ходжання мытнага кантролю ў маладога савецкага штангіста Аляксандра Курловіча знойдзены забароненыя для ўжывання спартсменамі антыбіётыкі. Кампетэнтныя органы і службы вядуць расследаванне інцыдэнту. Спартсмену пагражае пажыццёвая дыскваліфікацыя…

Дыскваліфікацыя насамрэч адбылася: на два гады Курловічу забаранілі прымаць удзел у спаборніцтвах нават невысокага рангу. Ведаючы, што гэта правакацыя з боку «сяброў» — канкурэнтаў са зборнай Савецкага Саюза, — Саша, сціснуўшы зубы і сабраўшы волю ў кулак, дзень за днём па-ранейшаму спяшаўся ў спартыўную залу… У галаве ўвесь час сядзела адна і тая ж думка: я ім дакажу ўсё!

«Даказаць усё» ён меў намер на справе і толькі на справе…

Амаль праз 10 (!) гадоў — новы інцыдэнт.

Бліскуча выйграўшы дзве Алімпіяды запар — у 1988 і 1992 гадах, 31-гадовы беларускі асілак вырашыў крыху адпачыць ад вялікага спорту. Арыенцірам, так бы мовіць, на перспектыву былі XXVI Гульні-96. Сакрэтаў выступленняў на вышэйшым узроўні для яго, натуральна, не было, і Курловіч, доўга паразважаўшы і шмат што ўзважыўшы, прыняў запрашэнне улад германскага горада Самсвеген выступіць за мясцовую каманду на шэрагу — перш за ўсё камерцыйных — спаборніцтвах. Потым вярнуўся на афіцыйную міжнародную арэну і ў чарговы, у чацвёрты, раз, ужо напрыканцы 1994-га заваяваў тытул чэмпіёна свету, пры гэтым адабраўшы яго ў ненадоўга заняўшага «прастол» нямецкага атлета Роні Велера. Звярніце ўвагу — у нямецкага цяжкавагавіка…

Праз некалькі месяцаў (!) кіраўнік медыцынскага камітэта Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі Вольфганг Петэр (як няцяжка ўстанавіць — немец па паходжанню) на ўвесь свет аб’яўляе вынікі допінг-кантролю, узятага ў беларускага штангіста Аляксандра Курловіча на спаборніцтвах, што праводзіліся ва ўсё той жа Германіі. Проба, маўляў, дала станоўчы вынік: гэта значыць, спартсмен выкарыстоўвае ў сваёй падрыхтоўцы ўсё тыя ж забароненыя антыбіётыкі… Паклапаціўся нямецкі «барон» і аб паўторным аналізе: яго тут жа зрабілі ў лабараторыі горада Кёльна — у той жа Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі.

Наспяваў скандал, якога сусветны спартыўны рух яшчэ ніколі не ведаў! Канчатковы вердыкт павінен быў вынесці выканаўчы камітэт Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі

на сваім пасяджэнні ў Варшаве. Адстойваць інтарэсы двухразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Курловіча (чытайце: гонар усяго беларускага спорту!) у польскую сталіцу накіравалася дэлегацыя нашага Нацыянальнага алімпійскага камітэта на чале з віцэ-прэзідэнтам НАК, намеснікам старшыні Камітэта па фізічнай культуры і спорту Віктарам Піліпавічам Пуцьковым.

Вярнуўшыся з Варшавы, В. Пуцькоў расказваў мне:

— Пакуль што не пішыце аб гэтым, аднак правакацыя не прайшла! Чысціню сусветнага спорту мы зганьбіць не дазволілі. Саша Курловіч ужо сёння — жывая легенда алімпійскага і міжнароднага спартыўнага руху. На XXVI Алімпійскіх гульнях ён будзе выступаць абавязкова.

На спаборніцтвах у алімпійскай Атланце-96 Курловіч выступіў некалькі ніжэй сваіх магчымасцяў. Далі аб сабе знаць і ўзрост (яму было ўжо 35), і траўмы, атрыманыя падчас падрыхтоўкі да Гульняў, і, вядома ж, ажыятаж, што панаваў вакол яго апошнім часам… Толькі за заліковае пятае месца ў суме двухборства ніхто яго не папракнуў!

Хіба што парадаваліся «добразычліўцы»?!

…А да заняткаў штангай — такой непрывабнай на выгляд і цяжкай на вагу — яго далучыў старэйшы брат Мікалай. Тады Сашу было дзевяць (!) гадкоў. І хоць афіцыйна ўрачы дазвалялі брацца за грыф сталёвай аграмадзіны толькі з 12 гадоў, старэйшы і малодшы Курловічы вырашылі паспрабаваць! І ўжо ў 1974-м 13-гадовы падлетак у вагавой катэгорыі да 48 кілаграмаў устанавіў першы рэкорд: праўда, і да сённяшняга дня не ўстаноўлена, да якой узроставай групы яго тады аднеслі…

Затое зафіксавана афіцыйна: за наступныя чатыры гады юны Курловіч 20 разоў (!) паляпшаў юнацкія рэкорды Беларусі.

У 1983-м малады гродзенскі атлет упершыню сустракаецца на вялікім памосце з зоркамі савецкай цяжкай атлетыкі і перш за ўсё з пераемнікам вялікага Васіля Іванавіча Аляксеева — украінскім атлетам Анатолем Пісарэнкам. І не проста сустракаецца, але і сенсацыйна выйграе ў яго і ўстановіць новы сусветны рэкорд у двухборстве — 460 кілаграмаў!

Такіх дзёрзкіх дэбютантаў цяжкая атлетыка практычна не ведала…

Трапіць у зборную Савецкага Саюза для ўдзелу ў Алімпіядзе-88 у Сеуле, тым не менш, нават яму, рэкардсмену свету, было даволі няпроста. Для гэтага, перш за ўсё, трэба было

паказаць максімальна высокія вынікі на апошнім перад выездам у Паўднёвую Карэю сусветным першынстве 1987 года. І Саша выдатна спраўляецца з задачай. Набраўшы ў суме двухборства 472,5 кілаграма і паказаўшы тым самым проста нерэальны для чалавечых магчымасцей вынік, Курловіч апярэдзіў усіх, у тым ліку і самых яркіх зорак таго часу, — балгарскага волата Антоніа Красцева і свайго новага сябра па зборнай (шчырага і сумленнага, а не такіх, як ранейшыя) і земляка Леаніда Тараненку.

Выступленне ў Сеуле стала для 27-гадовага беларуса свайго роду размінкай — лёгкай і надзвычай упэўненай. У рыўку ўзяў 212,5 кілаграма, у штуршку — 250, у суме, такім чынам, аказалася 462,5 кілаграма. Няшмат? Але ж і нямала: бліжэйшыя сапернікі — і перш за ўсё немец Манфрэд Нерлінгер — нават ад такога сярэдняга і зусім звычайнага для Курловіча паказчыка адсталі больш чым на 30 кілаграмаў.

Тыя ж сапернікі — магутныя і сваёй асабістай вагой, і моцныя высокімі паказчыкамі, і агрэсіўна настроеныя на барацьбу — склалі яму канкурэнцыю і праз чатыры гады на Гульнях XXV Алімпіяды ў Барселоне. Гэта згаданы ўжо Манфрэд Нерлінгер з ФРГ, чэх Юрый Зубрыцкі, кубінец Эрнеста Агуэра… Толькі і на гэты раз мудры — без перабольшання! — баец перайграў сваіх канкурэнтаў: цяпер — тактычна. Ды і маральная перавага была на баку нашых атлетаў: у дуэце з Курловічам на гэты раз у суперцяжкай вагавой катэгорыі выступаў, нарэшце, Леанід Тараненка. Тонка і з дакладным разлікам пабудаваўшы тактычную барацьбу з сапернікамі, Аляксандр і Леанід, нават не паказаўшы сваіх лепшых вынікаў, упэўнена ўзышлі на першую, залатую, і другую, сярэбраную прыступку п’едэстала гонару. Для развag і аналізу: Курловічу хапіла для перамогі ў двухборстве 450 кілаграмаў, Тараненку для заваявання серабра — нават 425-ці…

Не ў кілаграмах была справа, а ў вартасці медалёў!

Была ў яго рэальная магчымасць і ў трэці раз узняцца на вышэйшую прыступку алімпійскага п’едэстала. Прайшоўшы сапраўднае гарніла самых вялікіх выпрабаванняў спачатку пад сцягам зборнай Савецкага Саюза, потым — так званай аб’яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў, і трапіўшы, нарэшце, у родны, выключна беларускі калектыў — зборную нашай суверэннай краіны, — Саша Курловіч даволі ўпэўнена выйграў чэмпіянат і Кубак свету 1994 года, шэраг іншых міжнародных турніраў. У вялікай ступені павы-

шалі ягоную асабістую адказнасць і тыя намаганні кіраўніцтва беларускага спорту, што надаваліся, вобразна кажучы, дзеля аднаўлення ісціны і справядлівасці адносна яго як сумленнага спартсмена. Ды на гэты раз ўмяшалася ў ход падзей звычайная… недарэчнасць. Менш чым за месяц да выхаду на памост у Атланце-96 на самай звычайнай трэніроўцы, ускінуўшы на плечы зусім невялікай вагі штангу, двухразовы алімпійскі чэмпіён пашкодзіў пахавыя звязкі. Урачы зборнай Беларусі рабілі ўсё, каб за тры з паловай тыдні вярнуць яго ў строй. Часу, аднак, было так мала…

У рыўку — «усяго» 195 кілаграмаў (4 месца), у штуршку — 230 (7 радок у табліцы), у суме — 425 кілаграмаў і толькі 5 месца — гэта былі, вядома ж, не яго паказчыкі. Наблізіцца ж да сваіх аптымальных вынікаў, паўторым, Аляксандру Курловічу не дазволіла злашчасная траўма…

Амаль 15 гадоў высока над галавой трымаў ён самую вялікую вагу ў свеце. Трымаў не штангу — самае сапраўднае неба!



## *Андрэй Рыбакоў:*

## ДВОЙЧЫ СЯРЭБРАНЫ ТРЫУМФАТАР

*Андрэй Рыбакоў нарадзіўся 4 сакавіка 1982 года ў горадзе Магілёве. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Двухразовы сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў: XXVIII Алімпіяды ў Афінах (2004) і XXIX Гульняў у Пекіне (2008) па цяжкай атлетыцы ў вагавой катэгорыі да 85 кілаграмаў. Двухразовы чэмпіён свету 2006 і 2007 гадоў. Пераможца чэмпіянату Еўропы 2006 года. Неаднаразовы рэкардсмен свету. Першыя трэнеры — Васіль Балахонаў і Аляксандр Ганчароў.*

У алімпійскі Пекін ён ехаў не толькі яўным фаварытам, але і бясспрэчным лідэрам сярод штангістаў вагавой катэгорыі да 85 кілаграмаў. На двух папярэдніх сусветных першынствах — 2006 і 2007 гадоў — магіляўчанін Андрэй Рыбакоў не пакінуў ні ў супернікаў і іхніх настаўнікаў, ні ў шматлікіх прыхільнікаў «жалезнай гульні» ніякіх сумненняў у тым, што ў апошні час канкурэнтаў у яго проста няма. Два сусветныя рэкорды ў рыўку і шматборстве, паказаныя ім у той час, яскрава сведчылі: сёння наш атлет насамрэч мацнейшы ў свеце. Пагадзілася з гэтым і кіраўніцтва Сусветнай фэдэрацыі цяжкай атлетыкі, прызнаўшае Андрэя лепшым цяжкаатлетам свету 2007 года.

У самога Рыбакова былі і так званыя асабістыя матывы для заваявання на Гульнях-2008 залатой (і толькі залатой!) узнагароды. У 2004 годзе — на XXVIII Алімпіядзе ў Афінах — ён стаў сярэбраным прызёрам і цяпер, будучы і ў росквіце сіл, і на вяршыні спартыўнага майстэрства, меў поўнае маральнае права разлічваць на абсалютную перамогу.

…Але вось у маі 2008 года з далёкага Пекіна — сталіцы будучай Алімпіяды — прыходзіць не самая радасная вестка: кітайскі штангіст Лю Юн на нацыянальным чэмпіянаце сваёй краіны набраў суму 393 кілаграмы, што з’явілася паўтарэннем сусветнага рэкорда Рыбакова ў шматборстве. Ведаю дакладна, што гэта навіна нашага атлета і яго настаўнікаў не вельмі і ўзрушыла: маўляў, сустрэнемся твар у твар і высветлім, хто ёсць хто… Самаўпэўненасць? Тады ніхто аб гэтым і не падумаў: проста Андрэй у сваіх паказчыках на так званых «прыкідках» быў гатовы прыняць выклік!

Менш чым праз тры месяцы яны і сышліся на памосце: двухразовы чэмпіён свету, сярэбраны прызёр Гульняў-2004 у Афінах, рэкардсмен свету беларускі волат Андрэй Рыбакоў і ўладальнік сярэбранага медаля сусветнага першынства — 2005 і суўладальнік рэкорда свету кітайскі атлет Лю Юн.

Так званая псіхалагічная барацьба пачалася яшчэ да выхаду атлетаў на памост: беларус аказаўся на 280 (!) грамаў цяжэйшы, чым кітаец, так што ў тым выпадку, калі яны пакажуць аднолькавыя вынікі ў суме двух практыкаванняў, перавага будзе на баку гаспадара Алімпіяды…

У першым практыкаванні — рыўку — Лю Юн узяў спачатку 175, потым — 180 кілаграмаў. Андрэй Рыбакоў з тых 180 кілаграмаў вырашыў толькі пачаць, каб потым, ужо наступнымі падыходамі, менавіта так зрабіць задзел на далейшае тактычнае процістаянне… На жаль, контрвыпад не атрымаўся: 180 беларус узяў, а наступную вагу — 185 кілаграмаў — адолеў толькі з апошняй спробы. Такім чынам і прагучаў першы трывожны званок: 5 кілаграмаў перавагі над Лю Юнам у рыўку перад другім практыкаваннем свяцілі Андрэю Рыбакову вельмі бляклай перспектывай!..

У штуршку, калі быць шчырымі, для нашага штангіста разыгралася самая сапраўдная трагедыя, хоць многія — і спартыўныя каментатары, якія вялі рэпартажы з месца спаборніцтваў, і спецыялісты, якія таксама прысутнічалі на арэне, — спрабавалі зрабіць з яе ледзь не трыумфальнае выступленне… Папершае, сам спартсмен і наш «начальніцкі» цяжкаатлетычны штаб на чале з галоўным трэнерам Аляксандрам Ганчаровым прайгралі гаспадарам тактычную барацьбу за першапачатковую вагу ў гэтым практыкаванні. Спачатку кітайцы заказалі 210-кілаграмовую штангу, потым знізілі вагу да 208. Беларусы ў адказ пагулялі наступнымі лічбамі: спачатку 195, потым — 200. У другім падыходзе Андрэй пайшоў на 204 кілаграмы і паспя-

хова адолеў іх, а ў трэцяй спробе вырашыў пазмагацца з 209 кілаграмовай аграмадзінай, якую да таго моманту наогул не ўзнімаў… А там, у Пекіне, наш майстар яе ўзняў і набраў у суме двух практыкаванняў 394 кілаграмы. Гэта быў новы сусветны рэкорд! Лю, які выступаў пасля асноўнага саперніка, мог разлічваць толькі на сябе: у дзвюх апошніх спробах яго чакала штанга вагой ажно 214 кілаграмаў!

І яе таленавіты кітайскі спартсмен у трэцяй, заключнай спробе ўзняў высока над сваёй галавой! Паказаўшы тыя ж 294 (!) кілаграмы, ён, дзякуючы меншай асабістай вазе, літаральна вырваў залаты алімпійскі медаль з рук ранейшага рэкардсмена свету магіляўчаніна Андрэя Рыбакова.

Аднак і за сярэбраную ўзнагароду, другую запар на Алімпіядах, узнагароду з самым сапраўдным залатым адценнем, папракнуць нашага атлета ніхто не мае аніякага права!

Атрымаўшы сярэбраны медаль, ён быў шчаслівы і задаволены сабой. «Так, крыўдна прайграваць з-за нейкіх там 300 грамаў «лішняй» асабістай вагі, аднак я рады, што змог пабіць свой жа сусветны рэкорд, — сказаў Андрэй Рыбакоў беларускім журналістам у Пекіне. І дадаў: — Калі быць шчырым, ад Лю Юна я такога спрыту не чакаў. Што ж, мы яшчэ, як кажуць, паваюем…»

А пачынаў ён свой шлях да двухразовага ўзыходжання на спартыўны Алімп у сціплым па міжнародных цяжкаатлетычных мерках абласным цэнтры — Магілёве. Два гады займаўся ў секцыі пад кіраўніцтвам вялікага энтузіяста і знаўцы «гульні» з металам Васіля Балахонава. Першым стартам, сапраўднымі «агледзінамі» стала першынство вобласці, на якім ужо тады юнаму Рыбакову не было сапернікаў. Спадабаўся спецыялістам з абласнога вучылішча алімпійскага рэзерву, якія і запрасілі яго да сябе для далейшага росту і ўдасканалення майстэрства.

Звычайная, як бачым, спартыўная біяграфія. Толькі вось характар у заслужанага майстра спорту Рэспублікі Беларусь, двухразовага сярэбранага прызёра XXVIII і XIX Алімпійскіх гульняў далёка не звычайны: цвёрды, упэўнены, накіраваны на дасягненне самых высокіх вышынь. І ён, несумненна, як сказаў вышэй, яшчэ паваюе за іх дасягненне…



## *Андрэй Арамнаў:*

## НАШЧАДАК ВЯЛІКІХ АТЛЕТАЎ

*Андрэй Арамнаў нарадзіўся 17 красавіка 1988 года ў горадзе Барысаве. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXIX Алімпійскіх гульняў у Пекіне (2008) па цяжкай атлетыцы ў вагавой катэгорыі да 105 кілаграмаў. Чэмпіён свету 2007 года сярод дарослых, пераможца сусветнага першынства — 2007 сярод юніёраў. Чэмпіён еўрапейскага першынства 2007 года сярод юніёраў. Уладальнік Кубка Беларусі. Трохразовы рэкардсмен свету і Алімпійскіх гульняў. Першыя трэнеры — Уладзімір Барздакоў і Міхаіл Саладар.*

У вялікі, сусветнага маштабу спорт ён не ўвайшоў, а ўварваўся на працягу толькі аднаго спартыўнага сезона. І гэта — ў няпоўныя дваццаць (!) гадоў… Цяжкая атлетыка ведала і ведае шмат розных сенсацыйных прыкладаў і нечаканых выпадкаў, аднак такіх — нямнога…

20 гадоў для цяжкай атлетыкі — узрост проста дзіцячы. Але ж калі малады чалавек ужо замахнуўся на рэкордныя паказчыкі і заслужана атрымаў вышэйшую спартыўную ўзнагароду — залаты алімпійскі медаль, — ці не маем мы тут магчымасць і падставу гаварыць пра самага сапраўднага супермена, спартсмена будучыні?! Так, вялікі спорт маладзее, абнаўляецца, але ж не такімі тэмпамі, вынікамі і паказчыкамі, якія прадэманстраваў на XXIX Гульнях-2008 цяжкаатлет з Барысава Андрэй Арамнаў…

Сапернікі на алімпійскім памосце Пекіна ў яго былі — мацнейшых і не прыдумаеш: неаднаразовы пераможца першынстваў свету паляк Марцін Далега, сярэбраны прызёр сусветнага чэмпіянату — 2006 расіянін Дзмітрый Лапікаў, зямляк апошня-

га, чэмпіён свету 2005 года Дзмітрый Клокаў… Праўда, і Андрэй быў, што называецца, не лыкам шыты: усё ж такі ўладальнік вялікага залатога медаля чэмпіянату свету 2007-га!

Пра свае планы на Гульні ў кітайскай сталіцы ён задоўга да адкрыцця спаборніцтваў гаварыў шчыра і адкрыта: толькі перамога, толькі залаты алімпійскі медаль! «Так, я маю намер выйграць Алімпіяду і не проста выйграць, але і ўстанавіць сусветны рэкорд, — заяўляў Арамнаў. — З такім разлікам і рыхтуюся да выхаду на памост Пекіна…» Хтосьці ў душы радаваўся ягонай упэўненасці, нехта ўпотай хіхікаў: маўляў, малады, гарачы, пажывём — пабачым…

Што ж: і «пажылі», і «ўбачылі»!

Тое, з якой упэўненасцю і сапраўдным алімпійскім спакоем падыходзіў Андрэй на XXIX Гульнях да штангі, заўважылі і адзначылі многія аматары і спецыялісты цяжкай атлетыкі. І гэта радавала: значыць, псіхалагічна ён быў гатовы да штурму алімпійскага п’едэстала. І ў фізічных кандыцыях збояў не дапусціў: вынікова зрабіў да сталёвай аграмадзіны ўсе шэсць падыходаў — па тры ў кожным з двух практыкаванняў…

Рывок… У трэцім падыходзе канчатковую вагу — 200 кілаграмаў — Андрэй узняў пад неверагоднай магутнасці авацыю, наладжаную яму перш за ўсё кітайскімі прыхільнікамі «жалезнай гульні», якія запоўнілі цяжкаатлетычную алімпійскую арэну. А толк у гэтым відзе спорту яны ўжо ведалі: большасць алімпійскіх залатых узнагарод да таго моманту заваявалі іхнія прадстаўнікі! Ды і сусветныя рэкорды (а яго ўстанавіў наш атлет) даюцца не на ўсіх спаборніцтвах і далёка не кожнаму цяжкаатлету…

Ну а калі дайшла чарга да штуршка, малады атлет не падкачаў і тут. Тая ж надзейнасць і стрыманасць у эмоцыях, разважлівасць і грунтоўнасць у дзеяннях… 236 кілаграмаў, паказаныя ім у гэтым практыкаванні, таксама прымусілі афіцыйных прадстаўнікоў Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі зафіксаваць новы сусветны рэкорд Андрэя Арамнава. Рэкорднай аказалася і сума ў двухборстве — 436 кілаграмаў!

…Больш за ўсіх на свеце радаваліся ў тыя мінуты ў Барысаве мама алімпійскага чэмпіёна Тамара Анатольеўна, першыя спартыўныя настаўнікі Андрэя — Уладзімір Барздакоў і Міхаіл Саладар, дырэктар тамтэйшай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы алімпійскага рэзерву Сяргей Зарэмба. Адзін з іх — Уладзімір Сцяпанавіч Барздакоў — гатовы быў цэлымі гадзінамі расказваць і згадваць, як яшчэ зусім нядаўна, у 1998-м, адзін са знаёмых папрасіў яго «паглядзець» добра складзенага су-

седскага хлапчука… Сарамлівы, аднак надзвычай настойлівы і мэтанакіраваны Андрэйка і стаў неўзабаве самым працавітым наведвальнікам цяжкаатлетычнай секцыі.

Ужо ў 16—17-гадовым узросце ён узнімаў штангі, якія былі не па сілах нават дарослым спартсменам-прафесіяналам. Наступных двух-трох гадоў яму хапіла для таго, каб, як гаворыць сам алімпійскі чэмпіён, «атрымаць неабходны вопыт і адчуць сябе роўным сярод больш старэйшых і аўтарытэтных цяжкаатлетаў…»

У 2006-м 18-гадовы цяжкаатлетычны вундэркінд моцна і ўсур'ёз засмуціў і сваіх родных, і спецыялістаў, і дасведчаных у цяжкай атлетыцы аматараў спорту. Траўмы і пашкоджанні спіны, а потым і рукі не дазволілі яму вытрымліваць строга спланаваны графік трэніровак і як мае быць падрыхтавацца да галоўных спаборніцтваў года. Давялося нават прапусціць чарговы чэмпіянат свету ў Дамініканскай Рэспубліцы, на якім юны штангіст і ягоныя настаўнікі мелі намер заявіць аб сабе на поўны голас. Дэбют прыйшлося перанесці на наступны 2007 год.

2007-ы ж стаў самым сапраўдным зорным годам. Андрэй перамагаў на ўсіх без выключэння спаборніцтвах і турнірах, у якіх удзельнічаў. Спачатку выйграў залаты медаль на еўрапейскім першынстве сярод юніёраў, потым атрымаў вышэйшую ўзнагароду на такім жа сусветным чэмпіянаце. І нарэшце, як кажуць, без праблем «разабраўся» з самымі тытулаванымі сапернікамі і на першынстве свету сярод дарослых… Менавіта тады спецыялісты і аматары «жалезнай гульні» і загаварылі пра з'яўленне ў сусветным спорце цуд-атлета з невялікага беларускага горада Барысава.

…Калі падчас уручэння яму залатой алімпійскай узнагароды пад скляпеннямі пекінскага Палаца спорту загучаў Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, вочы Андрэя Арамнава напоўніліся слязамі… Ён стрымаўся, не заплакаў, аднак усе мы, разам з ім, спаўна адчулі гонар за нашу Бацькаўшчыну. Адчулі гонар і за яго — сціплага і такога звычайнага чалавека, нашага маладога і дастойнага сучасніка і прадстаўніка…

Эстафета славутых беларускіх цяжкаатлетаў Леаніда Тараненкі і Аляксандра Курловіча, якія ў 1980-я — 1990-я гады былі самымі моцнымі людзьмі на планеце, трапіла ў такія ж моцныя і надзейныя рукі. І працяг гэтай традыцыі, у чым я асабіста не сумняваюся, будзе абавязкова!

*Раздзел VII*

## КУЛІ ЛЯЦЯЦЬ У ЦЭЛЬ

*Кулявая стральба — адзін з самых старажытных відаў спорту. Па ўзросту з ёй можа канкурыраваць хіба што толькі барацьба. Гэтак жа, як некалі ў старажытнасці нашы продкі вызначалі самых дужых, выяўлялі і шанавалі яны і тых, у каго былі самае трапнае вока і цвёрдая рука. І таму ў праграму галоўных стартаў на планеце — Алімпійскіх гульняў — кулявая стральба была ўключана адной з першых.*

*Трапнасць вока і цвёрдасць рукі, і сапраўды, у першую чаргу вызначаюць майстравітага стралка. А яшчэ, несумненна ж, прыродны талент і настойлівасць у дасягненні мэты. Плюс, вядома, умовы для шліфавання і ўдасканалення майстэрства, тэхнічная аснашчанасць і дасканаласць зброі…*

*Усё вышэй згаданае ў беларускіх спартсменаў першага, яшчэ пасляваеннага пакалення было. Аднак так чамусьці атрымалася, што на шырокую міжнародную спартыўную арэну нашы майстры кулявой стральбы выйшлі калі і не ў апошнюю чаргу ў параўнанні з прадстаўнікамі іншых відаў спорту, дык, скажам так, крыху са спазненнем. Толькі ў 1961-м, а потым у 1962 і 1963 гадах станавіўся чэмпіёнам свету беларускі майстар Эдуард Яраш. У 1965-м адразу чатыры залатыя і столькі ж сярэбраных медалёў на еўрапейскім першынстве атрымаў Віталь Пархімовіч. Ён жа — наш выдатны майстар трапнага агню ў стральбе з малакаліберная вінтоўкі — пралажыў першую сцяжынку і да алімпійскага п'едэстала гонару: на XIX Гульнях-68 у Мехіка Віталь заваяваў бронзавую ўзнагароду.*

*Такім чынам, пачын быў зроблены неблагі. Першае ж алімпійскае золата прынёс Беларусі стралок па мішэні «бягучы дзік» Аляксандр Газаў у 1976 годзе. Больш*

*таго, там, у канадскім Манрэалі, і сярэбраны медаль у гэтым відзе атрымаў беларускую прапіску: яго заваяваў Аляксандр Кедзяраў. Дарэчы, спрадвечныя сябры-саапернікі, два Аляксандры, станавіліся потым чэмпіёнамі Еўропы і свету, а на XXII Алімпійскіх гульнях 1980 года ў Маскве Газаў папоўніў сваю калекцыю медалёў бронзавай узнагародай.*

*На XXIV Гульнях 1988 года ў Сеуле ўвесь спартыўны свет загаварыў пра спартсменку з Гродна Ірыну Шылаву, якая стала ўладальніцай залатога медаля ў стральбе з малакаліебернай вінтоўкі. Наш пісталетчык Ігар Басінскі быў узнагароджаны там жа бронзавым медалём. На XXV Алімпіядзе-92 у Барселоне заззяла зорка яшчэ аднаго выхаванца спартыўнай арганізацыі з горада над Нёманам: золата заваяваў 17-гадовы Канстанцін Лукашык. У такім юным узросце вышэйшую алімпійскую ўзнагароду не атрымліваў, здаецца, ніводзін спартсмен у свеце. Згаданы ўжо Ігар Басінскі — спартсмен, несумненна, таленавіты і працавіты — у Іспаніі выступіў няўдала, аднак выправіўся на наступных, XXVI Алімпійскіх гульнях 1996 года ў Атланце, дзе заваяваў сярэбраную ўзнагароду.*

*Уладальнікамі Кубкаў свету, чэмпіёнамі Еўропы і прызёрамі іншых буйных міжнародных спаборніцтваў, акрамя пералічаных вышэй майстроў трапнага агню, шматкрат былі таксама Ігар Бакалаў і Любоў Бейдзіна, Сяргей Мартынаў і Ігар Кліменка, Георгій Няхаеў і Юлія Сіняк, Вольга Агلендская і Вікторыя Чайка, Вольга Паграбняк і многія іншыя прадстаўнікі і прадстаўніцы беларускага стралковага спорту.*



## *Віталь Пархімовіч:*

# МАЙСТАР ТРАПНАГА АГНЮ

*Віталь Пархімовіч нарадзіўся 17 ліпеня 1943 года ў Разані. Заслужаны майстар спорту СССР. Бронзавы прызёр XIX Алімпійскіх гульняў у Мехіка (1968) па кулявой стральбе. Дзевяціразовы чэмпіён свету ў асабістым і камандным заліках. Сяміразовы сярэбраны і бронзавы прызёр сусветных першынстваў у асобных практыкаваннях. Пятнаццаціразовы чэмпіён Еўропы ў камандным заліку. Дзесяціразовы сярэбраны і бронзавы прызёр еўрапейскіх чэмпіянатаў у асабістым заліку. Васемнаццаціразовы чэмпіён Савецкага Саюза ў асобных практыкаваннях. Шматразовы рэкардсмен свету, Еўропы і Савецкага Саюза. Трэнеры — Ніна Касіла, Аляксандр Лыкін і Мікалай Сякерын.*

…Цэхавую насценгазету спачатку прачытаў адзін рабочы, потым — другі, трэці.

А да абедзенага перапынку ўжо амаль усе ведалі: «іхні» Віталік на спаборніцтвах па стральбе выканаў нарматыў майстра спорту СССР. Ці ж жартачкі: побач працуе самы сапраўдны майстар спорту! І ўсе без выключэння — нават жанчыны, якіх тая стральба наогул не захапляла, — паспяшаліся віншаваць васемнаццацігадовага юнака з такім паказчыкам, распытваць усе падрабязнасці, жадаць новых дасягненняў.

А ён, бедалага, толькі чырванеў ды заікаўся: маўляў, ну што тут такога? Ды гэта па сілах усім і кожнаму…

— Усім, кажаш? — ветэран вайны, які працаваў на суседнім участку Мінскага радыёзавода і якога Віталь не ведаў нават імя і прозвішча, не пагадзіўся адразу ж. — Я не скажу так! І ты больш нікому не кажы. Бачыў я на фронце, хто і як страляе… А ў тваёй стральбе дакладнасці і вытрымкі патрэбна куды болей!

Спартыўную вінтоўку ўпершыню ў рукі ён узяў у Мінскім Палацы піянераў і школьнікаў. Быў там цір, і хлопчыкі з чырвонымі гальштукамі на грудзях у рэдкія, вольныя ад заняткаў у іншых гуртках хвіліны беглі туды, каб праверыць трапнасць свайго дзіцячага вока. Потым даведаліся і пра вялікі сакрэт: у Палацы працуе спецыяльны стралковы гурток. А сакрэтам гэта было таму, што ад жадаючых займацца ў ім не было адбою. Віталік Пархімовіч выпадкова пазнаёміўся з такім жа, як і сам, падлеткам Эдзікам Ярашам, які, як высветлілася, таксама не супраць быў праверыць цвёрдасць сваёй рукі. Разам яны і знайшлі трэнера па стральбе Ніну Касіла. Убачыўшы і адчуўшы, што хлопчыкі проста так не адстануць, яна і запісала іх у сваю секцыю. Так бы мовіць, звыш устаноўленага ліміту…

А калі б не запісала?!

Менш чым праз год Ніна Касіла адвяла трох хлопчыкаў Віталіка Пархімовіча, Эдзіка Яраша і Колю Старасценку ў бок і ціхім голасам сказала:

— Пойдзем у рэспубліканскі стралковы клуб ДТСААФ. Там з вамі хоча пагаварыць адзін чалавек…

Тым чалавекам аказаўся Мікалай Фёдаравіч Сякерын — былы смелы і адважны франтавік-разведчык, між іншым, майстар спорту па кулявой стральбе. Ніне Васільеўне ён давяраў, бо не сумняваўся ў тым, што малады трэнер-педагог абы-што яму не прапануе…

Пасля той сустрэчы і працяглай гутаркі з Мікалаем Фёдаравічам трое сяброў сталі больш дарослымі адразу на некалькі гадоў. І не дзіва: яны былі прыняты ў стралковы клуб Добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту (ДТСААФ) Беларусі.

На ўсё наступнае жыццё запомніў Віталь Пархімовіч словы, якія Мікалай Сякерын казаў яму здаецца ці не кожны дзень: «Старайся, працуй! Ведай: у вучобе лёгка быць не павінна! Памятай мудрыя словы: цяжка ў вучэнні, лёгка ў баі…»

Спачатку 30 — 40, потым 60 — 90 і, нарэшце, 120 і нават 150 выстралаў за адну трэніроўку. Былі моманты, калі юныя і нават маладыя рукі проста не ў сілах былі трымаць зброю. А яшчэ ж трэба было дакладна «ўзяць на прыцэл» цэль, плаўна спусціць спускавы кручок… Пра незадаволенасць, нейкія там нервы не было калі і думаць!

Юніёрскія і маладзёжныя чэмпіянаты Узброеных Сіл СССР і Савецкага Саюза ўвогуле ён выйграваў упэўнена і без праблем. У 1963-м, калі яму было роўна дваццаць гадоў, у стральбе

з баявой адвольнай вінтоўкі Віталь Пархімовіч паказаў вынік 1128 ачкоў, перад якім зняў капялюш нават алімпійскі чэмпіён 1952 года Анатоль Багданаў: маўляў, я ў свой час Гульні выйграў з вынікам 1123 ачкі…

Яшчэ праз два гады — у 1965-м — Віталю Пархімовічу аказалі высокі гонар выступіць на дарослым чэмпіянаце кантынента. Дэбют аказаўся больш чым паспяховым: наш малады стралок заваяваў залаты медаль у камандным і бронзавы ў асабістым заліках.

У 1966-м на першынстве Беларускай вайсковай акругі на толькі што здадзеным у эксплуатацыю стралковым стадыёне імя маршала Цімашэнкі пад Мінскам, Віталь паказвае проста фантастычны вынік — 599 ачкоў з 600 магчымых! «Выпадковасць!» — здаецца ці не ў адзін голас заявілі спецыялісты і сапернікі. Аднак пасля таго, калі на чарговым чэмпіянаце Савецкага Саюза ён даводзіць гэты паказчык да абсалютнай велічыні — 600 з 600 (!), тыя прыціхлі…

А Пархімовіча было ўжо не спыніць!

Дэбютуючы на Гульнях XIX Алімпіяды ў Мехіка ў 1968 годзе, ён папоўніў сваю калекцыю бронзавым медалём у камандным заліку. Затое на першынствах свету, кантынента і Савецкага Саюза на Віталя зваліўся сапраўдны залаты «зарапад». Чаго вартыя, да прыкладу, 12 медалёў (6 з іх залатыя), што ўпрыгожылі грудзі 27-гадовага капітана Савецкай Арміі з Мінска Віталя Пархімовіча на 40-м чэмпіянаце свету па стралковаму спорту, які прайшоў у 1970-м у амерыканскім горадзе Фініксе! Абсалютныя ж дасягненні ў двух асобных практыкаваннях — 600 з 600 ачкоў — у летапіс сусветных рэкордаў занесены навечна: іх можна паўтарыць, а перасягнуць — немагчыма…

Стралковыя стадыёны Венгрыі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Балгарыі і Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, Злучаных Штатаў Амерыкі і Чэхаславакіі, Кубы і Швейцарыі, Мексікі і Югаславіі, Аўстрыі і Румыніі шчыра і непадробна апладзіравалі трапным выстралам аднаго з першых заслужаных майстроў спорту СССР па стралковаму спорту Віталю Міхайлавічу Пархімовічу. Толькі на чэмпіянатах і першынствах свету, кантынента і Савецкага Саюза ён заваяваў звыш ста (!) залатых, сярэбраных і бронзавых медалёў.

Іх хапіла б на цэлую каманду!



## *Аляксандр Газаў:*

# «ДЗІК» БЕГ, А КУЛЯ ДАГАНЯЛА…

*Аляксандр Газаў нарадзіўся 17 чэрвеня 1946 года ў вёсцы Брыкава Маскоўскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXI Алімпійскіх гульняў у Манрэалі (1976) і бронзавы прызёр XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) па кулявой стральбе. Дзевяціразовы чэмпіён свету і Еўропы 1973, 1974, 1977, 1978, 1979 і 1981 гадоў у асабістым заліку і камандным першынстве. Чатырнаццаціразовы чэмпіён Савецкага Саюза 1969 — 1982 гадоў. Сяміразовы рэкардсмен свету і Еўропы ў стральбе па мішэні «бягучы дзік». Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першыя трэнеры — Уладзімір Ярмішын і Яўген Паліканін.*

Кулявая стральба — спачатку як захапленне, а потым і як прызванне — стала для яго адзінай любоўю. На ўсё жыццё! Бо яшчэ са школьных гадоў памятае сябе Саша Газаў там, на агнявым рубяжы…

Любоў да гэтага зусім не дзіцячага занятку яму прывіў бацька — баявы вайсковец Савецкай Арміі. Спачатку ён з ахвотай браў малога на паляванне, каб той дапамагаў прынесці дадому паляўнічыя трафеі. І Сашка прыносіў: калі зайца, а калі качку… Праўда, адольвала і іншае захапленне — канькі. Калі ж у 14-гадовым узросце выканаў юнацкі разрад па скорасnamу бегу на спрынтэрскіх дыстанцыях, усур'ёз задумаўся: чаму ж аддаць перавагу?..

— Мне здаецца, стралок з цябе атрымаецца адмысловы, — канчатковы вердыкт вынес усё-такі Газаў-старэйшы. — Павер майму вопыту і спрактыкаванаму веку…

І праз два гады — як тое і дазвалялася тагачасным савецкім заканадаўствам — Васіль Газаў даволі ўрачыста ўручыў

сыну сапраўдную зброю — ружжо для спартыўнай стральбы на круглым стэндзе.

У 16 гадоў такі падарунак атрымлівае далёка не кожны юнак!

І ў такім жа ўзросце практычна ніхто не вешае «на цвік» канькі — асабліва тады, калі табе ў канькабежным спорце шмат што свеціць…

З Аляксандрам жа Газавым атрымалася тое, што… атрымалася!

Менш чым праз год ён выканаў нарматыў першага дарослага разраду ў стральбе на круглым стэндзе. Радаваўся бацька, шчыра зайздросцілі сябры: перад Сашам насамрэч адкрываліся даволі неблагія перспектывы.

Тым часам надыйшла пара ісці на тэрміновую вайсковую службу…

— Стральбу не закідвай, — зноў параіў Газаў-старэйшы. — У арміі без яе, сам ведаеш, як без рук…

Спартсмен-першаразраднік для вайсковай часці, у якую ён трапіў, аказаўся самай сапраўднай знаходкай. На палігоне і ў стралковым ціры роўных яму не знаходзілася ніколі. Праз пэўны час падвярнуўся выпадак, які крута памяняў ягоны армейскі ўклад жыцця: трэба было абараняць гонар часці на армейскай спартакіядзе ў стральбе… Толькі не на круглым стэндзе, а па так званых «бягучых» мішэнях. У першы дзень спаборніцтваў гэта быў «бягучы алень», у другі — «бягучы дзік»…

«Алень — дык алень, дзік — дык дзік», — сказаў сам сабе юны салдат і адстраляўся проста на «выдатна».

Па часці, а потым і па ўсёй вайсковай акрузе неўзабаве пайшла пагалоска пра надзвычай таленавітага і здольнага юнага майстра кулявой стральбы…

А на календары тым часам быў ужо 1966-ы.

З Савецкай Арміяй ён, што называецца, вырашыў не парываць. Стабільнасць вынікаў расла пастаянна, перамогі прыходзілі адна за другой… На падыходзе быў нарматыў майстра спорту СССР міжнароднага класа…

— Лепшыя ўмовы, чым у Спартыўным клубе арміі, наўрад ці дзе ёсць, — раілі яму і сябры па спорту, і спецыялісты. Такой жа думкі быў і першы трэнер Уладзімір Ярмішын. Аднак апошняе слова заставалася за самім майстрам кулявой стральбы…

І ён зрабіў той выбар на карысць беларускага армейскага спорту.

У 1973 годзе яго ўпершыню выклікалі на трэніровачны збор у рады зборнай Савецкага Саюза. Амаль сем гадоў чакаў-

спадзяваўся ён на гэты выклік, з аднаго боку, важны і сур'ёзны, з другога — неверагодна адказны! Думкі аб шчасці тут жа перабіваліся разважаннямі аб адказнасці… Калі ж дарваўся да стралковага палігона, адчуў нарэшце поўнае задавальненне. Бо там, у саставе зборнай СССР, трэніравацца дазвалялі столькі, колькі… пажадаеш. «Разам з цёзкам Аляксандрам Кедзяравым, таксама прадстаўніком Беларускай вайсковай акругі, выкліканым, як і я, у нацыянальную каманду ўпершыню, расстрэльвалі за дзень да паўтары тысячы патронаў!», — з гонарам расказваў пасля Саша Газаў.

Першае сусветнае першынство ў яго біяграфіі адбылося ў тым жа 1973-м у Аўстраліі. І 27-гадовы дэбютант надзеі і спадзяванні трэнераў і спецыялістаў апраўдаў проста бліскуча: заваяваў залатыя ўзнагароды і ў камандным першынстве, і ў асабістым заліку ў стральбе па мішэні «бягучы дзік». Ды інакш і быць не магло: мала таго, што беларускі армеец быў у добрай спартыўнай форме, дык яшчэ і калектыў у зборнай падабраўся — лепш не пажадаеш. Побач выступалі тады шматвопытныя алімпійскія чэмпіёны 1972 года Якаў Жалязняк і Валерый Пастаянаў, а таксама не менш таленавітыя навабранцы каманды Аляксандр Кедзяраў, Маці Йыгі і ён, Аляксандр Газаў. Разам, што называецца, у складчыну яны і апярэдзілі сваіх асноўных сапернікаў — амерыканцаў амаль што на 50 ачкоў.

Падахвочаны такім поспехам, на наступны дзень ён не пакінуў сваім сапернікам — у тым ліку і са зборнай краіны — аніякіх шанцаў у барацьбе за залаты медаль у асабістым першынстве.

Толькі і гэтага двайнога набытку для трывалага заваявання месца ў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза было, мякка кажучы, малавата. Стабільнасць і сваю асабістую гатоўнасць трэба было пацвярджаць штогод на пяці-сямі, міжнароднага ўзроўню, спаборніцтвах — не менш. І Газаў з гонарам вытрымліваў гэтыя цяжкія і надзвычай складаныя выпрабаванні. Ведаў: інакш проста нельга! За яўнай перавагай перад усімі без выключэння сапернікамі выйграў чэмпіянат Еўропы 1973 года, а ў наступным — 1974-м — зноў атрымаў дзве залатыя ўзнагароды на чарговым сусветным першынстве.

Каб канчаткова заваяваць пуцёўку на ХХІ Алімпійскія гульні—1976, трэба было ні многа, ні мала — перамагчы на чэмпіянаце Савецкага Саюза, гэта значыць, выйграць перш за ўсё у тых жа сяброў па зборнай Якава Жалезняка, Валерыя Пастаянава, Маці Йыгі, Аляксандра Кедзярава, Ігара Сакалова… Больш таго, кіраўніцтва зборнай раптам прымае рашэнне пра-

весці ў 1976 годзе два чэмпіянаты краіны — вясенні і летні. Нервы, як кажуць, нацягнуты, аднак Аляксандра Газава голымі рукамі ўжо не возьмеш… У бліскучым стылі ён заваёўвае залатыя медалі чэмпіёна СССР і атрымлівае цалкам заслужаную пуцёўку ў алімпійскі Манрэаль.

Наўрад ці падазраваў тады хто-небудзь, нават з самых вядомых і аўтарытэтных спецыялістаў і трэнераў, аб тым, што спрэчка за вышэйшую ўзнагароду ў «паляванні» на «бягучага дзіка» разгорнецца паміж двума прадстаўнікамі беларускай школы стральбы Аляксандрам Газавым і Аляксандрам Кедзяравым. А менавіта так і адбылося. Упэўнена, што называецца, даволі лёгка адарваліся яны ад сапернікаў адразу ж пасля першай серыі стральбы. Толькі прадстаўнік Калумбіі Белінгрот спрабаваў спачатку скласці ім канкурэнцыю, ды урэшце не вытрымаў напружання і ён. Змяняючы адзін аднаго на чале турнірнай табліцы літаральна пасля кожнай серыі выстралаў, два Аляксандры і прыйшлі на алімпійскі п’едэстал гонару: Газаў заняў вышэйшую, залатую прыступку, Кедзяраў — другую, сярэбраную...

Дзяржаўны ж гімн Савецкага Саюза тады прагучаў над Манрэалем для іх абодвух у аднолькавай меры заслужана і заканамерна!

Наступныя тры гады — з 1977-а па 1979-ы — ён таксама трымаўся на сусветных і еўрапейскіх стрэльбішчах упэўнена і надзейна. У 1977-м і 1978-м папоўніў сваю калекцыю залатымі медалямі чэмпіёна кантынента ў асабістым першынстве і камандных спаборніцтвах, у 1979-м быў уганараваны ўзнагародамі вышэйшай пробы ў асабістым заліку і ў каманднай стральбе на чарговым сусветным першынстве… Устанавіў пры гэтым некалькі сусветных рэкордаў, якія, як потым высветліцца, пратрымаюцца не адзін год. Так што шлях і на XXII Гульні 1980 года ў Маскве яму скарыўся па заслугах…

Уступіўшы ўсяго толькі два ачкі сябру па савецкай зборнай Ігару Сакалову — 587 супраць 589, Аляксандр Газаў на той раз атрымаў сярэбраны медаль алімпійскай чаканкі.

Як кажуць у такіх выпадках: сярэбраны, але з залатым адценнем!



## *Ірына Шылава:*

## З ГІМНАСТЫКІ — НА АГНЯВЫ РУБЕЖ

*Ірына Шылава нарадзілася 22 лютага 1960 года ў горадзе Гродна. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) у стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі. Двухразовая чэмпіёнка свету 1990 года ў асабістых і камандных спаборніцтвах. Чэмпіёнка Еўропы 1996 года. Бронзавы прызёр чэмпіянату кантынента 1993 года. Пяціразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза. Рэкардсменка свету, Еўропы, Савецкага Саюза і Беларусі. Узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны». Ганаровы грамадзянін горада Гродна. Першы трэнер — Барыс Грынь.*

Першы камплект узнагарод, што разыгрываецца на тых ці іншых Алімпійскіх гульнях, несумненна, мае асаблівую каштоўнасць і вагу. І перш за ўсё таму, што тыя тры медалі — залаты, сярэбраны і бронзавы, уручаныя самым першым іх уладальнікам, — даюць свайго роду псіхалагічны зарад, унутраны настрой і сканцэнтраванасць на барацьбу ўсім астатнім спартсменам з той ці іншай нацыянальнай зборнай. Ды і ўвага да тых шчаслівўчыкаў асаблівая і, што называецца, непадробная: яны, усё ж такі, — першыя з першых! З аповядаў вельмі многіх алімпійцаў, з якімі мне шматкрат даводзілася сустракацца і надзвычай грунтоўна гутарыць, ведаю: так было і сорак, і трыццаць, і дваццаць гадоў назад.

Так было і зусім нядаўна — на Гульнях-2008 у Пекіне.

Стаць першаадкрывальнікам (а дакладней — першаадкрывальніцай) медаленоснай алімпійскай скарбонкі аднойчы пашчасціла і прадстаўніцы Беларускай фізкультурнай арганізацыі. Было гэта ў Сеуле ў 1988 годзе падчас правядзення там XXIV Алімпіяды…

З самай раніцы, задоўга да пачатку спаборніцтваў, стралковы стадыён «Та Ен Ун» паўднёвакарэйскай сталіцы быў перапоўнены. Тысячы аматараў спорту і гасцей Сеула, звыш 500 журналістаў са сродкаў масавай інфармацыі з усіх куткоў свету паспяшаліся сюды, каб стаць сведкамі нараджэння першай пераможцы Гульняў-88 у стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі сярод жанчын. Натуральна, нястачы прагнозаў, як і звычайна ў такой абстаноўцы, не было. Адны спецыялісты і балельшчыкі аддавалі перавагу тытулаванай амерыканцы Л. Мэйлі, другія — не менш вопытнай прадстаўніцы зборнай Федэратыўнай Рэспублікі Германіі С. Шпербер, трэція схіляліся да перамогі  спартсменкі з Кітая К. Лінь Цзянь… Сярод верагодных прэтэндэнтак на ўзнагароды называліся таксама імёны і прозвішчы канадкі Л. Боус, прадстаўніцы каманды Аўстрыі Р. Балдэсарыні, савецкай спартсменкі Ганны Малухінай… У цэлым, паводле меркаванняў і прагнозаў знаўцаў стральбы з пнеўматычнай зброі прэтэндэнтак на месцы ў прызавой тройцы было не менш дзесяці.

Імя беларускага майстра стральбы Ірыны Шылавай у гэты спіс самых дастойных суіскальнікаў узнагарод практычна нікім са спецыялістаў і трэнераў не ўключалася. Бо, калі казаць шчыра, і падстаў для гэтага асабліва не было… Так, заваёўвала яна высокія ўзнагароды на чэмпіянатах Савецкага Саюза, аднак, як кажуць у такіх выпадках, і не больш таго… Паспяховых выступленняў на міжнароднай арэне ў паслужным спісе спартсменкі з Гродна практычна не было, імя яе амаль што ніхто не ведаў, так што завочна ўключаць Шылаву ў спісы верагодных прэтэндэнтаў на размеркаванне месцаў на алімпійскім п’едэстале гонару ніхто не меў рэальных падстаў і аргументаў.

Але зусім інакш меркавала сама беларуская спартсменка…

За яе плячамі быў ужо багаты вопыт заняткаў стральбой. Хаця трапіла Ірына ў рады аматараў, а потым — і прафесіяналаў гэтага віду спорту зусім выпадкова…

У пачатку і сярэдзіне 1970-х гадоў Гродна жыло і трызніла адным відам спорту — спартыўнай гімнастыкай. Ды ці толькі Гродна: уся Беларусь, увесь Савецкі Саюз і ўвесь свет быў у захапленні ад выступленняў усеагульнай тагачаснай любіміцы Вольгі Корбут. На цуд-гімнастку з таго ж горада над Нёманам раўняліся, з яе стараліся браць прыклад не тое што тысячы — мільёны дзяўчынак ва ўсіх кутках планеты. У гімнастычныя секцыі і спартыўныя школы самай сапраўднай хваляй хлынулі юныя аматары гэтага захапляючага віду спорту.

Не стала выключэннем і юная зямлячка Корбут вучаніца гродзенскай сярэдняй школы № 16 Іра Шэшко: у толькі што створаную новую секцыю спартыўнай гімнастыкі яна запісалася адной з першых. Некалькі гадоў заняткаў у ёй праляцелі імгненна…

Ужо шмат што ўмеючы рабіць у гімнастыцы, аднаго разу з-за звычайнай дзявочай цікаўнасці зазірнула Іра ў стралковы цір. Сяброўкі падгаварылі зрабіць стрэл-другі па мішэні і яе. Зрабіла, спадабалася… І ці не адразу вырашыла паспрабаваць свае сілы ў кулявой стральбе…

Трэнер Барыс Грынь сустрэў юнае папаўненне з насцярожанасцю: вельмі ўжо далёкім ад стральбы відам спорту займалася дзяўчынка раней. Маўляў, ну, умееш ты круціць сальта, шмат што вырабляць на перакладзіне, а як у цябе наконт цвёрдасці рукі і трапнасці вока, прыкладна так сам з сабой разважаў Барыс Адамавіч. Таму і даў ёй выпрабавальны тэрмін, параіўшы як след задумацца над сваім выбарам…

Аднак літаральна праз некалькі дзён Ірына пераканала свайго новага настаўніка ў правільнасці свайго выбару. І пачаліся звычайныя, на першы погляд, такія аднастайныя і зусім не цікавыя будні-трэніроўкі…

За першыя ж два гады заняткаў Ірына Шэшко выканала нарматыў майстра спорту. Неўзабаве прыйшлі і першыя перамогі сярод аднагодкаў: на Усесаюзнай Спартакіядзе школьнікаў, Усесаюзных Спартыўных гульнях моладзі… А ў 1982-м 22-гадовая спартсменка ўпершыню стала чэмпіёнкай Савецкага Саюза ў малакаліберным стандарце.

Наступныя ж некалькі спартыўных сезонаў для Ірыны (якраз у той час яна выйшла замуж за вядомага стралка Уладзіміра Шылава і ўзяла ягонае прозвішча) аказаліся зусім… няўдалымі і безвыніковымі. Прамашкі (і не толькі з яе боку) з падборам стралковай зброі, нелады з трэнерам Барысам Грынем і няўважлівыя адносіны да перспектыўнага майстра стральбы з боку тагачаснага кіраўніцтва рэспубліканскіх і Гродзенскага абласнога фізкультурна-спартыўных органаў праявіліся: нават у складзе зборнай Беларусі Шылава практычна не выступала. Ужо збіралася пакінуць вялікі спорт, як сябры і проста спагадлівыя людзі вывелі яе на вядомага спецыяліста з Масквы Віктара Авілава. «З ім, — прыгадвала потым Ірына, — мы і распрацавалі праграму падрыхтоўкі да чарговых Алімпійскіх гульняў…»

Тых самых Гульняў XXIV Алімпіяды ў Сеуле, якія і сталі яе самым сапраўдным трыумфам!

…У першай серыі Ірына паказала вынік 97 ачкоў і адразу тры ачкі (а ў стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі на дыстанцыі 10 метраў гэта вельмі істотнае адставанне) уступіла саперніцам са Злучаных Штатаў Амерыкі, Кітая, Аўстрыі і Канады. Праўда, ужо ў другой і трэцяй серыях наша спартсменка навярстала страчанае, набраўшы ў кожнай з іх максімальную колькасць ачкоў — па сто! У чацвёртай серыі зноў нявыкрутка — усяго толькі 98 ачкоў… Кропкі над «і» павінна была расставіць фінальная серыя.

Ірына Шылава у той неверагоднай па напружанасці і адказнасці абстаноўцы прадэманстравала высокае выканаўчае майстэрства і надзвычай вялікую адказнасць, сілу волі. Набраўшы ў суме 498,5 ачка, яна не толькі заваявала залаты медаль, але і ўстанавіла новы алімпійскі рэкорд! Аб высокай ступені напружання барацьбы сведчыць хоць бы той факт, што нямецкая спартсменка Соня Шпербер, якая заняла другое месца, адстала ўсяго толькі на адно ачко.

Магчымасць паўтарыць свой бліскучы поспех Ірыне Шылавай быў прадстаўлены і на трох наступных Алімпіядах — 1992, 1996 і 2000 гадоў. На жаль, наблізіцца да самага высокага ў свеце спартыўнага п’едэстала гонару ёй больш не ўдалося…

Толькі ж факт застаўся фактам: залатая алімпійская ўзнагарода плюс алімпійскі рэкорд — такія вынікі заносяцца ў спартыўны летапіс адзін раз і назаўсёды. Ірына Шылава занатавала свае паказчыкі ў тым летапісе навечна!



## *Канстанцін Лукашык:*

## СЕМНАЦЦАЦІГАДОВЫ ЧЭМПІЁН

*Канстанцін Лукашык нарадзіўся 18 верасня 1975 года ў горадзе Гродна. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіён XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне (1992) па кулявой стральбе. Сярэбраны і бронзавы прызёр чэмпіянатаў свету і Еўропы 1998 года. Сярэбраны прызёр першынстваў кантынента 1993 і 1997 гадоў, бронзавы прызёр еўрапейскіх першынстваў 1993, 1996 і 1999 гадоў. Чэмпіён свету сярод юніёраў 1991 года. Чэмпіён Еўропы 1991 года сярод юнакоў. Чэмпіён Садружнасці Незалежных Дзяржаў 1992 года. Першы трэнер — Алег Пішчукевіч.*

У юным, а тым больш — у зусім юным узросце стаць лаўрэатам Алімпійскіх гульняў можна ў нямногіх відах спорту: мастацкай і спартыўнай гімнастыцы, плаванні, з пэўнай нацяжкай — у скачках у ваду. Усе ж іншыя нумары алімпійскай праграмы, зазвычай, што называецца, падуладныя сталым, вопытным і спрактыкаваным спартсменам, якія, перш чым узняцца на тую ці іншую прыступку п’едэстала гонару, трэнеруюцца не адзін год і ўдзельнічаюць не ў адным дзесятку самых адказных спаборніцтваў і турніраў…

Да кулявой стральбы ўсё гэта мае самае прамое дачыненне.

Але ж бываюць і выключэнні, калі, бы навальніца сярод яснага неба, з таго ці іншага стралковага стадыёна прыйдзе раптам паведамленне: маўляў, у спрэчку за ўзнагароды ўмяшаўся малады стралок і, даўшы сапраўдны бой прызнаным лідэрам, заваяваў адзін з медалёў…

Выпадковасць гэта ці, наадварот, заканамернасць, аднак факт застаецца фактам: пераможны трыумф Ірыны Шылавай

на XXIV Алімпіядзе і на наступных Гульнях 1992 года ў Барселоне прадоўжыў і развіў яе зямляк, майстар кулявой стральбы Канстанцін Лукашык. Больш таго, зрабіў ён гэта якраз знаходзячыся ў тым зусім юным узросце, пра які мы і вялі размову некалькі вышэй… У той момант, калі навучэнец Гродзенскага вышэйшага электронна-тэхнічнага прафесіянальнага вучылішча ўзнімаўся на вышэйшую прыступку алімпійскага п’едэстала гонару за вышэйшай узнагародай, яму не было яшчэ і семнаццаці (!) гадоў.

У такім узросце, дарэчы, многія будучыя зоркі кулявой стральбы бяруць у рукі зброю… першы раз у жыцці. Косця Лукашык зрабіў гэта тады, калі яму споўнілася ўсяго толькі трынаццаць. На знаёмства з пісталетам, асваенне азоў кулявой стральбы, шліфаванне майстэрства і дасягненне першых значных перамог «гродзенскаму вундэркінду» (так пасля алімпійскай перамогі ледзь ці не ў адзін голас ахрысцілі яго спартыўныя журналісты многіх краін свету) хапіла літаральна трох (!) гадоў.

Ужо ў 1991 годзе юны стралок з горада над Нёманам на поўны голас заяўляе аб сабе: выйграе юнацкае першынство Еўропы ў англійскім горадзе Манчэстэры. На календары быў месяц люты… А літаральна праз два месяцы Лукашык гэтак жа ўпэўнена і пераканаўча пакінуў ззаду на некалькі гадоў старэйшых за сябе калег па кулявой стральбе, перамогшы на юніёрскім сусветным чэмпіянаце ў горадзе Ставангер (Нарвегія). Настаўнік стралка Алег Пішчукевіч не мог нарадавацца тым вынікам вялікай і самаадданай працы, што была праароблена імі ў сціплым, аднак такім утульным гродзенскім стралковым ціры!

Задумваліся ці не абодва яны аб удзеле ў надыходзячай Алімпіядзе 1992 года, сёння сказаць, вядома ж, цяжка. Хоць, як кажуць у такіх выпадках, а чаму б і не: які салдат не марыць стаць генералам! А тут яшчэ — самы што ні ёсць баявы, армейскі від спорту… Ды і падстава — важкая і надзвычай аргументаваная — неўзабаве з’яўляецца: у тым жа 1992-м «вундэркінд» з горада над Нёманам проста так, гуляючы, выйграе чэмпіянат новага дзяржаўнага ўтварэння — Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Тут ужо пачалі чухаць патыліцы самі «генералы» — кіраўнікі і спецыялісты былога савецкага стралковага спорту…

Правёўшы не адну дыскусію наконт неабходнасці і вартасці вылучэння юнага гродзенскага стралка на Алімпіяду,

кіраўнікі аб'яднанай каманды СНД, як яны тады заявілі, «на свой страх і рызыку», уключылі Косцю Лукашыка ў склад стралковай дружыны.

Кажуць, адзін і той жа снарад двойчы ў адну варонку не трапляе… Так гэта ці не, спрачацца не будзем, аднак яшчэ адзін факт-супадзенне прывядзём: гэтаксама, як і Ірына Шылава на Гульнях 1988 года ў Сеуле, Канстанцін Лукашык у першы дзень Алімпіяды-1992 выйшаў на агнявы рубеж у Барселоне.

Выйшаў — і перамог!

Сказаць, што ягонымі сапернікамі былі больш вопытныя ды тытулаваныя сапернікі, значыць, не сказаць нічога! Якіх толькі ўзнагарод на алімпійскіх, сусветных і кантынентальных спаборніцтвах і турнірах не атрымлівалі да таго моманту і балгарын Тэадор Кіракаў, і кітайскі спартсмен Ван І Фу, і нарвежскі майстар Рагнар Сканакер, які, між іншым, па ўзросце гадзіўся нашаму юнаму стралку не тое што ў бацькі, а нават… у дзядулі: было тады скандынаву амаль што шэсцьдзесят! Косця перамог усіх іх разам: і заслужана ўшанаваных некалі стралкоў, і паважанага па ўзросце ветэрана… 658 ачкоў, набраных Лукашыкам, хапіла для таго, каб апярэдзіць і Ван І Фу, і Рагнара Сканакера.

Калі ж Канстанцін узняўся на алімпійскі п'едэстал за залатым медалём чэмпіёна, ад шчасця і радасці за зусім яшчэ юнага пераможцу плакалі не толькі ягоныя родныя і сябры ў Гродне, але і многія шчырыя і добразычлівыя беларусы!

У няпоўныя семнаццаць стаць сапраўдным героем Алімпійскіх гульняў даецца вельмі і вельмі нямногім у свеце…



## *Сяргей Мартынаў:*

## ВЕТЭРАН! І ГЭТЫМ СКАЗАНА ЎСЁ

*Сяргей Мартынаў нарадзіўся 18 мая 1968 года ў горадзе Верая Маскоўскай вобласці. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Двухразовы бронзавы прызёр Алімпіяд: XXVII у Сіднеі (2000) і XXVIII у Афінах (2004) у стральбе з малакалібернай вінтоўкі лежачы ў асабістым заліку. Пяціразовы чэмпіён Еўропы сярод юніёраў 1987, 1988 гадоў у асабістым і камандным заліках. Шматразовы чэмпіён свету і кантынента ў асабістым і камандным заліках у стральбе з малакалібернай, буйнакалібернай і пнеўматычнай вінтовак. Неаднаразовы ўладальнік Кубка свету. Чэмпіён і бронзавы прызёр Спартакіяды народаў СССР 1987 года. Шматразовы рэкардсмен свету, Еўропы, Савецкага Саюза і Рэспублікі Беларусь. Уладальнік абсалютных рэкордаў свету. Трэнер — Эдуард Яраш.*

На сваіх першых у спартыўным жыцці XXIV Алімпійскіх гульнях 1988 года ён дэбютаваў у дваццацігадовым узросце. На апошніх — Гульнях-2008 — выступіў у сорак! Няхітрая арыфметыка: за гэтыя гады прайшлі-праляцелі шэсць (!) Алімпіяд, а ён, Сяргей Мартынаў, правёў на агнявым рубяжы 20 гадоў — палову свайго жыцця!

Вось вам і яшчэ адзін факт для Кнігі рэкордаў Гінеса!

…У алімпійскім Сеуле — 1988 на яго, што называецца, разлічвалі: Мартынаў, як кажуць у такіх выпадках, павінен быў стварыць сенсацыю… На працягу папярэдніх двух гадоў Сяргей заваяваў пяць залатых узнагарод на юніёрскіх першынствах кантынента, падаўшы, такім чынам, вельмі і вельмі вялікія надзеі на будучыню. Вызначыўся ён і на Спартакіядзе народаў СССР, стаўшы чэмпіёнам і бронзавым прызёрам. Трэнеры нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза пачалі да яго прыглядац-

ца, запрашаць на вучэбна-трэніровачныя зборы. Неўзабаве малады спартсмен устанавіў свой першы сусветны рэкорд, таму на Гульні ў Паўднёвую Карэю сярод стралкоў з пнеўматычнай вінтоўкі ён ехаў яўным фаварытам…

Аднак, адна справа ўзначальваць сусветны рэйтынг, і зусім іншая — сустрэцца з прэтэндэнтамі на ўзнагароды твар у твар і даказаць сваю перавагу над імі. Асабліва — у далёка не сталым яшчэ ўзросце, калі табе ўсяго толькі дваццаць… Словам, Сяргей перагарэў, у кваліфікацыйных спаборніцтвах уступіў югаславу Максімавічу ажно шэсць ачкоў і ў выніку заняў толькі 14 месца. Сенсацыі не атрымалася, але яго не лаялі… Былі і набыткі: гэта перш за ўсё вопыт вядзення тактычнай і псіхалагічнай барацьбы з сапернікамі за самыя каштоўныя, алімпійскія ўзнагароды.

Наступнага выхаду на алімпійскі агнявы рубеж Мартынаву давялося чакаць ажно восем гадоў. На XXV Алімпійскія гульні 1992 года ён не трапіў: не выканаў нарматыў для выступлення ў Барселоне. Перажываў? Яшчэ як: на той момант у стральбе яму належалі не толькі асобныя рэкорды свету, але і так званы абсалютны — 600 ачкоў з 600 магчымых!

XXVI Алімпіяда 1996 года, на якой Беларусь упершыню выступала самастойнай камандай, стала, так бы мовіць, уверцюрай на подступах да алімпійскага п’едэстала для нашага 28-гадовага майстра. У стральбе з малакалібернай вінтоўкі ён заняў шостае месца, а ў малакаліберным трохборстве — восьмае. Зноў не дачакаўся ён пахвалы ў свой адрас, аднак… Вобразна кажучы, кулі клаліся ўсё бліжэй!..

І толькі на трэціх у ягоным спартыўным жыцці Алімпійскіх гульнях — Сідней-2000 — талент, настойлівасць і працавітасць стралка былі, нарэшце, уганараваны. Не дабраўшы ажно 13 ачкоў у параўнанні з лідэрамі ў стральбе з малакалібернай вінтоўкі з трох становішчаў і заняўшы толькі 10 месца, Сяргей усё ж такі знайшоў у сабе ўнутраныя сілы і рэзервы і паказаў «свой» вынік у стральбе лежачы. 700,3 ачка хапіла для бронзавай узнагароды XXVII Алімпіяды.

Тады і прыняў ён рашэнне не вешаць баявую зброю на цвік, рыхтавацца да наступных стартаў…

Свой бронзавы поспех Мартынаў паўтарыў на радзіме Алімпіяд — у Грэцыі ў 2004 годзе. У тым жа практыкаванні — стральбе з малакалібернай вінтоўкі лежачы — у фінале ён палепшыў свой вынік чатырохгадовай даўніны, набраўшы

701,6 ачка, аднак адстаў ад амерыканскага стралка Мэцью Эманса на 1,7 ачка. Што ж, на дзвюх Алімпіядах запар нават на трэцюю прыступку п'едэстала гонару ўзнімаюцца нямногія спартсмены!

XXIX Алімпійскія гульні 2008 года прынеслі і самому Сяргею Мартынаву, і шматлікім прыхільнікам стральбы ў нашай дзяржаве шмат расчараванняў, а вось радасці і задавальнення — нікольні. Ніводзін з беларускіх майстроў стральбы з малакалібернай, буйнакаліբернай і пнеўматычнай зброі не здолеў узняцца на п'едэстал гонару. У тым ліку і ён, 40-гадовы ветэран не толькі беларускай, але і сусветнай стральбы. У сваім каронным практыкаванні — стральбе лежачы Сяргей заняў восьмае месца (дарэчы, гэта свайго роду рэкорд Алімпіяд: на чатырох запар Гульнях ніводзін стралок не выступаў у фіналах па стральбе!), а ў малакаліберным трохборстве быў ажно… 34-ы!

Прычынай яўнага правалу (а інакш Мартынаў сваё выступленне і не назваў) стала катастрафічнае адставанне нашай каманды ў забеспячэнні спартсменаў сучаснай стралковай зброяй і патронамі. Толькі адзін факт: у алімпійскім Пекіне Сяргей і яго таварышы па зборнай выкарыстоўвалі патроны, вырабленыя 20 гадоў (!) назад.

А мы чакаем ад майстроў стральбы новых сусветных рэкордаў і алімпійскіх узнагарод! Як гаворыць мой адзін знаёмы — «Не дачакаемся!»…

А заслужанаму майстру спорту Сяргею Анатольевічу Мартынаву так хочацца ўзняцца на вышэйшую прыступку алімпійскага п'едэстала гонару. І не без падстаў на тое: сваімі абсалютнымі рэкордамі свету і зайздросным спартыўным даўгалеццем ён насамрэч заслугоўвае гэтага…

*Раздзел VIII*

## БУМ ВАКОЛ МЯЧА… РУЧНОГА!

*Афіцыйнай датай нараджэння беларускага гандбола лічыцца пачатак жніўня 1955 года. Менавіта тады ў беларускай сталіцы быў праведзены семінар па падрыхтоўцы трэнераў і суддзяў па ручному мячу. Звыш дзесяці энтузіястам на стадыёне «Спартак» суддзя Усесаюзнай катэгорыі Леанід Пераплётчыкаў (дарэчы, пазней ён стане вядомым спартыўным журналістам) паказваў элементы невядомай ім гульні, тлумачыў правілы. На развітанне госць і гаспадары дамовіліся падтрымліваць кантакты, пры магчымасці сустракацца і паведамляць адзін аднаму «ўсе гандбольныя навінкі». На жаль, далей слоў справа не пайшла…*

*На шчасце, добра пачатая справа літаральна адразу знайшла працяг. З іншага, так бы мовіць, боку, іншымі дзеючымі асобамі…*

*У наступным, 1956 годзе, у Мінск на сталае месца жыхарства пераехаў студэнт Кіеўскага інстытута фізічнай культуры Сяргей Авакумаў. Вучобу ён вырашыў прадоўжыць у Беларускім ІФК, а ў вольны час пачаў шукаць па ўсім горадзе прыхільнікаў… гандбола. Чаму гандбола, пра які ў нашым горадзе практычна ніхто і не чуў? Ды таму, што сам Авакумаў быў у яго проста ўлюбёны. На Украіне гэты від спорту ўжо ведалі добра, а Сяргей у саставе спартыўнага клуба Кіеўскага інстытута фізкультуры двойчы станавіўся чэмпіёнам рэспублікі.*

*У студэнцкіх аўдыторыях і інтэрнатах Беларускага інстытута фізкультуры Авакумаў знайшоў неўзабаве ажно … пяць прыхільнікаў новай гульні. Імі былі баскетбалісты Віталь Ешчанка, Барыс Маршын, Іван Мялешка, Давід Рэзнікаў і Генадзь Федзяеў. Кіраўніцтва ІФК дало афіцыйнае «дабро!», і ў інстытуце пачала працаваць сек-*

*цыя па ручному мячу пад кіраўніцтвам Сяргея Георгіевіча Авакумава.*

*Ужо 9 мая 1956-га — падчас святкавання 11-й гадавіны Вялікай Перамогі — на наспех аднаўленай галоўнай спартыўнай арэне беларускай сталіцы — стадыёне «Дынама» быў праведзены паказальны матч гандбалістаў паміж камандамі Інстытута фізкультуры і сталічных армейцаў. Студэнты перамаглі са сціплым лікам 7:6, і, такім чынам, летапіс гандбольных паядынкаў з удзелам нашых майстроў быў адкрыты!*

*У жніўні 1956-га каманда мінскіх студэнтаў ужо дэбютавала на першым чэмпіянаце краіны, які праходзіў у Вільнюсе. 13-е месца задавальнення і радасці не прынесла, аднак ад дэбютантаў лепшага ніхто і не чакаў!*

*Снежань 1956-га азнаменаваўся стварэннем рэспубліканскай секцыі (федэрацыі) гандбола, у састаў якой увайшлі прадстаўнікі ўсіх шасці абласцей Беларусі. Зусім справядліва яе ўзначаліў Сяргей Авакумаў, ягоным намеснікам і старшынёй трэнерскага савета стаў Давід Рэзнікаў. Па іхняй ініцыятыве ў маі 1957 года прайшоў першы чэмпіянат Мінска, у якім — нават неспадзявана для саміх арганізатараў — прынялі ўдзел 20 мужчынскіх і 7 жаночых каманд! Тады ж правялі і першы чэмпіянат рэспублікі з удзелам васьмі калектываў.*

*У тым жа 1957-м у Мінску з'явіўся яшчэ адзін «ваяжор» (у лепшым значэнні гэтага слова!) з Украіны — Спартак Мірановіч…*



## *Спартак Міранові́ч:*

# ЖЫЦЦЁ ПРАЖЫЦЬ — НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ…

*Спартак Міранович нарадзіўся 20 чэрвеня 1938 года ў горадзе Магнітагорску (Расія). Майстар спорту СССР па ручному мячу. Заслужаны трэнер Савецкага Саюза і Беларусі. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі. Старшы трэнер зборнай школьнікаў БССР — чэмпіёна СССР (1967). Трэнер зборнай каманды юніёраў Савецкага Саюза — пераможцы чэмпіянатаў свету сярод юніёраў 1977, 1979, 1983 і 1985 гадоў. Галоўны трэнер каманды СКА (Мінск) — уладальніцы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў 1987, 1989 і 1990 гадоў; Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін 1983 і 1985 гадоў; Суперкубка кантынента 1989 года; Кубка Савецкага Саюза 1980, 1981 і 1982 гадоў; чэмпіёна Савецкага Саюза 1981, 1984, 1985, 1986, 1988 і 1989 гадоў; шматразовага пераможцы першынства Беларусі. Старшы трэнер зборных каманд Савецкага Саюза і Садружнасці Незалежных Дзяржаў — чэмпіёнаў XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) і XXV Алімпіяды ў Барселоне (1992), Гульняў добрай волі ў Маскве (1986) і Сіэтле (1990). Першы трэнер — Яўген Івахін.*

…Атака атрымалася імклівай і проста непаўторнай. Варатар мінскага СКА Анатоль Галуза, авалодаўшы мячом, хуценька перадаў яго на фланг Юрыю Шаўцову, той маланкай паімчаўся наперад і, нават не паглядзеўшы ні на партнёраў, ні на сапернікаў, накінуў мяч над штрафной пляцоўкай саперніка… У імгненне вока над памостам узляцеў Аляксандр Каршакевіч, злавіў мяч у паветры і, не прызямляючыся, накіраваў яго ў сетку варот. Перапоўнены Мінскі Палац спорту ўзарваўся авацыямі: славутая армейская атака-розыгрыш — так званы «парашут» — быў выкананы проста бліскуча!

Той гол мне сніўся разоў пяць — не менш…

Няма ў нашым айчынным спорце больш аўтарытэтнага, кампетэнтнага, ведаючага таямніцы сваёй справы спецыяліста, чым ён — Спартак Мірановіч.

Гандбол для яго — усё жыццё. А калі ўжо зусім дакладна: яму Спартак аддаў роўна пяцьдзесят гадоў! Амаль дзесяцігоддзе гуляў сам, потым узначаліў каманду Спартыўнага клуба арміі (СКА) Беларускай вайсковай акругі. І прывёў яе (а калі дакладней — узняўся разам з ёй) да вяршынь еўрапейскай і нават сусветнай спартыўнай славы.

А пачыналася ўсё будзённа, нават сумна і трагічна — без усялякіх радужных надзей і светлых перспектыў на будучыню…

У гераічным маі 1945-га яму не было яшчэ і сямі гадкоў. Жыццё ж змусіла хлопчыка да неверагодна ранняй сталасці і дарослацсі: з вайны не вярнуўся бацька-франтавік. Сабраўшы няхітрыя хатнія пажыткі, мама, тры сыны і дачка накіраваліся з Магнітагорска ў Ольгінскі раён на Данеччыне. Менавіта там і прайшоў Спартак сапраўдную школу жыцця. Гэта, акрамя заняткаў у мясцовай школе, была праца грузчыкам на тамтэйшым элеватары, калі, сціснуўшы зубы, ён узвальваў на такія кволыя хлапечыя плечы пяцідзесяцікілаграмовы мех са збожжам і нёс яго, хістаючыся, да вызначанага месца. Так і закончыў сямігодку…

Месцам наступнай вучобы стаў Данецкі тэхнікум фізічнай культуры.

1957 год. Выпускнік-выдатнік тэхнікума атрымлівае накіраванне на далейшую вучобу ў Кіеўскі інстытут фізкультуры. Аднак лёс робіць нечаканы зігзаг: сябры-аднакурснікі па Данецкаму тэхнікуму Мікалай Бабкін і Васіль Туранскі прапанавалі яму паехаць з імі… ў Мінск. І 19-гадовы юнак не ўстаяў…

У Беларускі інстытут фізічнай культуры на завочнае аддзяленне (на дзённае не прайшоў па конкурсе) Спартак Мірановіч паступае без праблем. Праз год ён пазнаёміцца са студэнтам таго ж інстытута Сяргеем Авакумавым, з якім і пачне дапамагаць мінскай моладзі — у асноўным студэнтам ВНУ — асвойваць азы зусім новага для іх, аднак такога захапляючага, дынамічнага і відовішчнага віду спорту, больш вядомага на міжнароднай арэне пад назвай гандбол…

І вось надыходзіць 1960 год. У беларускай сталіцы ствараецца гандбольная каманда «Палітэхнік». Яе настаўнікам становіцца Віталь Аляксандравіч Дабравольскі — выкладчык політэхнічнага інстытута, а душой і мазгавым цэнтрам, вядо-

ма ж, яны — Спартак Мірановіч і Сяргей Авакумаў. Побач з імі сталі, што называецца, на ногі і сфарміраваліся першыя ў гісторыі беларускага гандбола майстры спорту СССР — Анатоль Чаркаскі і Віталь Вальчак, Анатоль Савінскі і Уладзімір Бычкоў, а праз год-другі — Мікалай Шаюк і Ігар Ценін, Юрый Мохаў і Роберт Акопаў… Пачалі праводзіцца чэмпіянаты Беларусі, а ў 1962-м беларускія майстры ручнога мяча дэбютавалі на ўсесаюзным першынстве.

Той дэбют азнаменаваўся спачатку яўным праколам: у першым чэмпіянаце Савецкага Саюза, які праходзіў у літоўскім Каўнасе, мінчане занялі сёмае, перадапошняе, месца. А літаральна праз месяц-другі — ужо такім жа яўным трыумфам: у Івана-Франкоўску беларусы выйгралі першынство краіны сярод мацнейшых каманд таварыства «Спартак».

Імклівa, як заўсёды, ляцеў час. Аднак і набыткі беларускіх гандбалістаў з кожным годам станавіліся больш важкімі і значнымі. У 1963-м пры падтрымцы кіраўніцтва Мінскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы № 5 (дырэктарам яе тады быў таленавіты педагог Леанід Лапуноў) Спартак Мірановіч разам з былым аднакашнікам па Інстытуце фізічнай культуры Анатолем Кабанавым ствараюць на базе толькі што здадзенай у эксплуатацыю сярэдняй школы № 88 гандбольную секцыю. Секцыю, якая крыху больш як праз 15 гадоў дасць сусветнаму спорту сапраўдных зорак першай велічыні.

Зоркі ж раслі, загараліся, вядомая справа, не адразу і не дзесяткамі. Мірановіч і Кабанаў песцілі і «выношвалі» іх, бы немаўлят. Аднымі з першых, чый талент раскрыў Спартак Пятровіч, былі Леанід Гуско, Аляксандр Ласавік, Васіль Сідорык, браты Аляксей і Мікалай Жукі… Настойлівая праца, у прамым сэнсе слова — да сёмага поту, патрабавала шмат часу, энергіі, ведаў, аднак Мірановіч, пакуль мог, адчуваў сілы, гуляў і сам: вялікі гандбол як спартсмен ён пакінуў толькі ў 1970 годзе. І гэта пры тым, што, як і кожнага сапраўднага майстра гандбола, яго не абмінулі і траўмы, і не адзін дзесятак пашкоджанняў. Чаго каштавалі толькі тры пераломы рук…

Спецыялісты і тагачасныя аматары ручнога мяча адзначалі ў ім многія адметныя і характэрныя якасці іграка. Як ніхто іншы, умеў Спартак зрабіць скрытую перадачу мяча партнёру, выводзячы таго на самую што ні ёсць зручную пазіцыю для нанясення завяршальнага выніковага кідка па варотах саперніка. Умеў ён і сам выйсці на выгадную пазіцыю і завяршыць намаганні каманды тым жа голам… Тонка і практычна без прама-

шак выконваў Спартак і пенальці. Усё гэта плюс арыгінальныя перамяшчэнні па гандбольнай пляцоўцы з мэтай заблытаць сапернікаў, непаўторныя фінты і так званыя падкруткі мяча, выкананыя адным з мацнейшых ігракоў краіны Мірановічам, выклікалі ў балельшчыкаў шасцідзесятых гадоў мінулага ўжо стагоддзя неверагодныя эмоцыі і сапраўдную буру авацый.

А яшчэ раней — у 1964-м — яму прапанавалі ўзначаліць зборную школьнікаў Беларусі. Праз два гады (усяго толькі праз два!) гэта неверагодна дружная, з'яднаная агульнымі памкненнямі да барацьбы і перамог каманда заваявала сярэбраныя ўзнагароды на юнацкім першынстве Савецкага Саюза. У 1967-м яна ж пайшла яшчэ вышэй: стала чэмпіёнам краіны, а настаўніку каманды Спартаку Мірановічу першаму ў Беларусі было прысвоена ганаровае званне «Заслужаны трэнер БССР».

Кіраўніцтва спартыўнай галіны Беларусі па вартасцях ацаніла дасягненні юнакоў, і ў Рэспубліканскай школе вышэйшага спартыўнага майстэрства было заснавана аддзяленне па ручному мячу. Акрамя выхаванцаў Мірановіча з СШ № 88 у яго ўліліся вучні 93-й, 100-й і іншых сярэдніх школ сталіцы. Больш таго, гандбол як від спорту пачаў набываць неверагодную папулярнасць сярод школьнікаў і на перыферыі. У Слуцку і Ашмянах, Слоніме і Лепелі, Кобрыне і Шчучыне, Бабруйску і Зэльве, Чавусах і Оршы з'явіліся каманды, якія ўжо з сярэдзіны 60-х пачалі даваць РШВСМ дастойнае юнае папаўненне. Менавіта там зрабілі першыя самастойныя крокі ў вялікі спорт Мікалай Бойка і Сямён Лахненка, Мікалай Масалкоў і Юрый Шаўцоў, Уладзімір Міхута і многія іншыя будучыя зоркі гандбола.

Ягоныя здольнасці як настаўніка, педагога, кіраўніка былі заўважаны літаральна адразу ж. Ужо ў 1971-м Спартаку Мірановічу прапанавалі пасаду старшага трэнера юнацкай зборнай Савецкага Саюза, якая выйграла потым шэраг буйных міжнародных турніраў і чэмпіянатаў. Дарэчы, у састаў той каманды пастаянна ўваходзілі 5—7 юных гандбалістаў з Беларусі, як правіла, ягоныя ж, Спартака Пятровіча, выхаванцы: Аляксандр Ласавік, браты Мікалай і Аляксей Жукі, Аляксандр Чэхаў, Леанід Бразінскі, Аляксандр Кукраш, Васіль Рындаў…

У 1977 годзе адбыўся першы чэмпіянат свету сярод гандбалістаў не старэй за 21 год. Тую юніёрскую зборную ўзначальваў Спартак Мірановіч. І на тым, і на трох наступных сусветных чэмпіянатах 1979, 1983 і 1985 гадоў юныя савецкія майстры нязменна заваёўвалі залатыя ўзнагароды, і нязменна кіраваў імі ён, Спартак Пятровіч. Сярод тых залатых лаўрэатаў было ажно

13 юнакоў з Беларусі, і сярод іх — Аляксандр Каршакевіч і Юрый Шаўцоў, Анатоль Галуза і Уладзімір Міхута, Ігар Кашкан і Георгій Свірыдзенка, Канстанцін Шаравараў і Аляксандр Тучкін…

Паралельна з работай у зборных Савецкага Саюза ў 1975 годзе Спартак Мірановіч стаў і на чале лепшай беларускай клубнай каманды,ператворанай тады ж з «Палітэхніка» ў СКА. У той самы СКА, які ў васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя наводзіў сапраўдны жах на сапернікаў не толькі на чэмпіянатах СССР, але і падчас розыгрышаў самых прэстыжных еўрапейскіх кубкаў.

Ад аднаго толькі пераліку тытулаў, заваяваных камандай Спартака Пятровіча Мірановіча на працягу тых жа васьмідзесятых гадоў, галава, што называецца, можа закружыцца. Шасціразовыя чэмпіёны Савецкага Саюза, трохразовыя ўладальнікі Кубка СССР, трохразовыя — Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў, двухразовыя — Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін і адзін раз — Суперкубка кантынента… Такога паслужнога спіса не было ні ў адной каманды па гульнявых відах спорту ва ўсім Савецкім Саюзе. Ды і на еўрапейскім кантыненце такіх клубаў было няшмат…

А яшчэ былі перамогі, што сапраўднымі залатымі літарамі ўпісаны ў летапіс сусветнага спорту. Восем армейцаў мінскага СКА атрымалі тытулы алімпійскіх чэмпіёнаў на XXIV і XXV Гульнях 1988-га і 1992-га гадоў: Аляксандр Каршакевіч, Юрый Шаўцоў, Георгій Свірыдзенка, Аляксандр Тучкін (пазней, ужо ў саставе расійскай зборнай, ён стане пераможцам Алімпіяды ў другі раз), Канстанцін Шаравараў, Міхаіл Якімовіч, Андрэй Барбашынскі і Аляксандр Мінеўскі. І абодва разы на тых вышэйшых спартыўных форумах свету каля штурвала нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза і каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў (так яна называлася ў 1992-м) стаяў наш вопытны педагог і настаўнік Спартак Пятровіч Мірановіч.

Гісторыя беларускага гандбола — гэта (без перабольшання!) яго, Спартака Мірановіча, біяграфія. З узлётамі і падзеннямі, дасягненнямі і стратамі. Але заўсёды ён ведаў адно: што робіць і куды ідзе! Самым вялікім шчасцем для Спартака Пятровіча былі моманты, калі спартсмены дораць людзям радасць перамогі і натхненне.

— І тады, — прызнаўся мне аднойчы Спартак Пятровіч, — я бачу і адчуваю: жыву на свеце не дарэмна…

Не, зусім не выпадкова імя яго — СПАРТАК!




## *Аляксандр Каршакевіч:*

# АДЗІН КІДОК — І ЦЭЛАЕ ЖЫЦЦЁ…

*Аляксандр Каршакевіч нарадзіўся 6 красавіка 1959 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па ручному мячу. Сярэбраны прызёр XXII Алімпіяды ў Маскве (1980). Чэмпіён свету 1982 года. Сярэбраны прызёр чэмпіянату свету 1990 года. Уладальнік Кубка свету 1984 года. Чэмпіён свету сярод юніёраў 1979 года. Чэмпіён Савецкага Саюза 1981, 1984, 1985, 1986, 1988 і 1989 гадоў. Уладальнік Кубка СССР 1980 і 1981 гадоў. Уладальнік Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў 1987, 1989 і 1990 гадоў. Уладальнік Кубка кубкаў еўрапейскіх краін 1983 і 1985 гадоў. Уладальнік Суперкубка 1989 года. Першы трэнер — Аркадзь Брыцко.*

Віртуоз, чараўнік мяча… Няма больш у багатай беларускай мове слоў, якімі б можна было (і трэба!) ахарактарызаваць такога вялікага майстра сусветнага гандбола, як ён — Аляксандр Каршакевіч. Той, хто хоць аднойчы бачыў яго на спартыўнай пляцоўцы, запомніў дзеянні таленавітага і непаўторнага гандбаліста на ўсё сваё жыццё…

Горача і непадробна яму апладзіравалі шматтысячныя стадыёны і палацы спорту дзесяткаў краін свету. Майстэрствам Сашы захапляліся аматары і спецыялісты ручнога мяча Расіі і Германіі, Харватыі і Швецыі, Румыніі і Іспаніі, Венгрыі і Нарвегіі, Італіі і Даніі, Францыі і Польшчы… І не проста захапляліся, а, па вартасцях ацэньваючы ягоныя непаўторныя кідкі, перадачы мяча партнёрам, падкруткі і навесы, у адзіным парыве ўскоквалі з месц і падоўгу, шчыра і непадробна апладзіравалі яму. У гандболе для Каршакевіча насамрэч не было аніякіх тайнаў і сакрэтаў…

— Мае сакрэты? — перапытаў мяне аднойчы Аляксандр. — Няма іх, ды і быць не можа… Я ж увесь на вачах, бы на далоні — перад вамі і тысячамі аматараў нашай прыгожай, мужнай і такой захапляльнай гульні!

Сапраўднай зоркай сусветнага спорту ён стаў вельмі і вельмі рана — па сутнасці, у 21 год. Менавіта тады — у 1980-м — у Маскве праходзілі XXII Алімпійскія гульні. Савецкая школа гандбола ў той час славілася ўжо на ўвесь свет, а нацыянальная каманда краіны не адзін раз выйгравала сусветныя першынствы і алімпійскія турніры. Моцныя каманды — ЦСКА, «Кунцава», МАІ, «Гранітас», ЗІІ, «Буравеснік», СКА, «Палёт», СКІФ, «Цэлтніекс» — існавалі ў Маскве і Рызе, Тбілісі і Краснадары, Запарожжы і Каўнасе, Чэлябінску і Львове… Выбар ігракоў для галоўнай каманды быў, што называецца, больш чым дастатковы. Тым не менш, рыхтуючыся да Алімпіяды ў родных сценах, кіраўнікі і трэнеры зборнай Савецкага Саюза знайшлі месца і для яго — нікому, па сутнасці, не вядомага яшчэ нападаючага каманды мінскага СКА.

Якраз тады армейцы беларускай сталіцы пачалі настойліва стукаць у дзверы элітнага дывізіёна савецкага гандбола. У сезоне 1979 года каманда, з якой, як кажуць, мала хто і лічыўся, раптам заняла ў вышэйшай лізе ганаровае для сябе шостае месца, у наступным годзе ўзнялася яшчэ вышэй — на чацвёртае, пацiснуўшы ў ніз турнірнай табліцы тбілісцаў і краснадарцаў, чэлябінцаў і каўнасцаў, львавян і запарожцаў… «Выпадковасць», — канстатавалі спецыялісты і балельшчыкі. Аднак зусім па-іншаму думалі-меркавалі самі беларускія майстры ручнога мяча і іхні апантаны, таленавіты ад прыроды настаўнік — Спартак Мірановіч. Менавіта тады пад сталічным армейскім дахам ён пачаў фарміраваць новы ў айчынным гандболе калектыў, які, як пакажа час, на працягу наступнага дзесяцігоддзя ўпіша сваё імя ў самы ганаровы сусветны спартыўны летапіс. А адным з асноўных творцаў таго вялікага і сапраўднага трыумфу стане менавіта ён — Аляксандр Каршакевіч.

…У вялікі спорт ён прыйшоў зусім не выпадкова. Сярэдняя школа № 93 беларускай сталіцы па праву лічылася спартыўнай дзесяцігодкай. Баскетбол і футбол, а найбольш «каралева спорту» — лёгкая атлетыка запаланялі душы і сэрцы дзесяткаў хлопчыкаў і дзяўчынак. Прывыкшы ці не з пялёнак ні ў чым і нікому не ўступаць, Саша Каршакевіч і тут быў,

што называецца, на першых ролях. Ужо ў старэйшых класах скакаў у вышыню на 170—175 сантыметраў, у даўжыню — на 6 метраў 30 сантыметраў, а імклівую і такую захапляльную стометроўку прабягаў за 11 з паловай секунд. Здавалася, займіся атлетыкай усур'ёз — і перспектыва адкрыецца самая што ні ёсць вялікая. Толькі цягнулі хлопца іншыя віды спорту — і найперш гульнявыя. Спаўна аддаўся спачатку футболу, пакарыўшы сэрца сваім высокім індывідуальным майстэрствам самога Міхаіла Міхайлавіча Мустыгіна — славутага цэнтрфорварда мінскага «Дынама» шасцідзесятых гадоў, які тады, у сямідзесятыя, трэніраваў падлеткаў у знакамітай сталічнай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе па футболу. У той час сам Каршакевіч бачыў сябе калі не будучым Блахіным ці Плаціні, дык Мустыгіным ці Малафеевым — не менш!

Ды ў справу ўмяшаўся Яго Вялікасць Выпадак…

Дзесьці ў 1970-м у СШ № 93 на ўрокі фізкультуры пачаў наведвацца трэнер ДзЮСШ № 8 Аркадзь Брыцко. Прыглядаўся да хлопчыкаў, штосьці занатоўваючы ў блакнот, зрэдку перакідваўся словам-другім з настаўнікамі. Аднойчы звярнуў увагу на хуткага, рэзкага і вельмі мэтанакіраванага чацвёртакласніка. Пацікавіўся прозвішчам — Саша Каршакевіч. Разам з іншымі хлопчыкамі запрасіў і яго прыйсці на заняткі ў гандбольную секцыю…

У ДзЮСШ-8, а потым і ў зборнай камандзе школьнікаў Беларусі ён паспрабаваў сябе на самых розных гульнявых пазіцыях. Цэлы год (!) стаяў у варотах — на самым галоўным і адказным гандбольным рубяжы. Потым памяняў кваліфікацыю і заняў месца разыгрываючага — так званага мазгавога цэнтра любой каманды. І толькі потым, ужо трапіўшы ў рукі да Спартака Мірановіча, пачаў гуляць на той пазіцыі, якая і прывяла яго ў сапраўдную эліту спачатку савецкага, а потым — і сусветнага гандбола. Гэта было месца крайняга нападаючага…

Ужо летам 1977-га 18-гадовы Каршакевіч прывёз дадому першую важкую і адметную спартыўную ўзнагароду — залаты медаль чэмпіёна Усесаюзных маладзёжных гульняў. Літаральна адразу ж атрымаў запрашэнне ў сталічны Спартыўны клуб арміі і на наступны год упершыню прадэманстраваў сваё майстэрства ў вышэйшай лізе айчыннага гандбола патрабавальнаму і прыдзірліваму савецкаму аматару ручнога мяча… Добра памятаю: тады ён спадабаўся ўсім без выключэння аматарам

і прыхільнікам нашага СКА. Калі ж у прынцыповым паядынку з латышскім «Цэлтніексам» юны майстар закінуў у вароты сапернікаў адразу 14 мячоў (з 34-х, запісаных тады на свой рахунак усёй камандай), ужо мала хто сумняваўся ў тым, што ў вялікі гандбол ідзе неардынарны і проста таленавіты прафесіянал!

А потым быў выклік-запрашэнне ў нацыянальную зборную СССР для падрыхтоўкі да XXII Алімпіяды 1980 года…

У барацьбе за залатыя ўзнагароды маскоўскіх Гульняў-80 у фінальным паядынку сышліся ці не самыя «непрымірымыя сябры-сапернікі» таго часу — каманды Савецкага Саюза і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Атакай на атаку адказвалі адзін аднаму сусветна вядомыя гандбалісты. Фінальная сірэна зафіксавала нічыйны вынік і, адпаведна з рэгламентам, быў прызначаны дадатковы час…

…Гуляць заставалася ўсяго некалькі секунд, а з перавагай у адзін гол наперадзе былі нямецкія спартсмены. У адно імгненне мяч пераадрасаваны ў лінію атакі савецкай зборнай, і, адпаведна задуманаму плану, на рашаючы кідок выходзіць зусім малады яшчэ дэбютант Саша Каршакевіч. Мінчанін прыгае высока над пляцоўкай, ловіць адрасаваны яму мяч і накіроўвае ў цэль… Ды не, мэта не дасягнута: у самае апошняе імгненне варатар зборнай ГДР кранаецца мяча — і той трапляе ў штангу… Зала ў роспачы замірае: алімпійскае золата дастаецца нямецкім гандбалістам, а гаспадарам — усяго толькі серабро. Схапіўшыся за галаву і моцна-моцна заплюшчыўшы вочы, Каршакевіч горка заплакаў — як ніколі да таго моманту ў жыцці!

Яму быў тады 21 год.

Усяго толькі дваццаць адзін…

Ззаду заставалася першая няўдача…

Наперадзе было цэлае спартыўнае жыццё!

Наступнае дзесяцігоддзе — цэлая спартыўная эпоха! — было сапраўднай эрай Каршакевіча.

Так ужо прынята: у сусветным гандболе так званых імянных камбінацый ці фінтоў няма. Нібы і не заўважаюць спецыялісты, трэнеры, а болей за ўсё — журналісты стваральнікаў непаўторных і непараўнальных перш за ўсё па прыгажосці і выніковасці тых гандбольных момантаў і імгненняў, за якія, уласна кажучы, і паважаюць гэты від спорту мільёны аматараў ва ўсім свеце. А быў бы такі «арсенал», Аляксандр Каршакевіч заняў бы

ў ім самае пачэснае месца. І перш за ўсё — за свой фірменны «парашут»: неверагодна прыгожае выкананне кідка па варотах саперніка прама ў палёце над варатарскай пляцоўкай… У мінскім СКА спачатку Ігар Кашкан, а потым — Юрый Шаўцоў, Канстанцін Шараварaў і іншыя ігракі імкліва прарываліся па флангу, кідалі мяч над варатарскай пляцоўкай саперніка, дзе яго ў неверагодна смелым і адчайна-імклівым кідку-палёце лавіў Аляксандр Каршакевіч і, не прызямляючыся, накіроўваў у вароты… Гэты «парашут» у выкананні беларускіх зорак быў даведзены да аўтаматызму. Дзесяткі разоў дэманстравалі яго і армейцы сталіцы, і зборная Савецкага Саюза, а потым — і нацыянальная каманда Беларусі на многіх спартыўных арэнах свету, кожны раз прыводзячы аматараў гандбола ў захапленне…

На запаветную вышэйшую прыступку алімпійскага п’едэстала гонару ён усё ж такі ўзышоў. Праз восем гадоў пасля маскоўскай асечкі ў далёкім Сеуле Саша Каршакевіч атрымаў залаты медаль чэмпіёна Гульняў-1988.

І зноў заплакаў…

На гэты раз ад звычайнага чалавечага шчасця!



## *Юрый Шаўцоў:*

# НА ІМ ТРЫМАЛІСЯ КАМАНДЫ

*Юрый Шаўцоў нарадзіўся 16 снежня 1959 года ў горадзе Слуцку Мінскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па ручному мячу. Чэмпіён свету 1982 года. Чэмпіён Савецкага Саюза 1981, 1984, 1985, 1986, 1988 і 1989 гадоў. Уладальнік Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў 1987, 1989 і 1990 гадоў. Уладальнік Кубка кубкаў еўрапейскіх краін 1983 і 1985 гадоў. Уладальнік Суперкубка кантынента 1989 года. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Уладзімір Шабунін.*

Ягоны паслужны спіс з пералікам і ўзнагарод, і каманд, у складзе якіх ён выступаў, проста ўражвае. Пералік чэмпіёнскіх тытулаў чытайце вышэй, у папярэднім абзацы, а вось калектывы, у якіх ён у прамым сэнсе слова ззяў сваім высокім выканаўчым майстэрствам, таксама назваць будзе не лішнім… Знаёмцеся з гэтым спісам ды самі рабіце высновы: Юрый Шаўцоў паслядоўна гуляў за Чавускую ДзЮСШ і юнацкую зборную Магілёўскай вобласці, Рэспубліканскую школу-інтэрнат спартыўнага профілю і зборную школьнікаў Беларусі, маладзёжную каманду БССР і юніёрскую — Савецкага Саюза, нарэшце — за славуты мінскі СКА і нацыянальную зборную СССР… Толькі і гэта яшчэ не ўсё: стаўшы славутым ва ўсім спартыўным свеце, ужо напрыканцы сваёй кар’еры Юрый Анатольевіч выступаў яшчэ за германскі «Блау-Вайс Шпандау» (Берлін), які потым жа і трэніраваў. У якасці галоўнага трэнера ўзначальваў таксама каманды «TBW» і «Тусем» з нямецкіх гарадоў Лемго і Эсен…

І яшчэ адзін — ці не самы пачэсны і ганаровы — радок з ягонай спартыўнай біяграфіі: у красавіку 1985 года Юрый Шаўцоў выступаў у саставе зборнай зорак сусветнага гандбо-

ла супраць каманды Даніі ў матчы ў гонар 50-гадовага юбілею нацыянальнай гандбольнай федэрацыі гэтай краіны. Дарэчы, у тым зорным калектыве 25-гадовы мінчанін быў самым маладым па ўзросце…

Самым маладым і адным з самых здольных і таленавітых, аб чым з гонарам за нашага майстра напісала тады самая аўтарытэтная капенгагенская газета…

…На гандбольнай пляцоўцы, як і ў жыцці наогул, ён быў і застаецца інтэлігентам. І гэта кідалася ў вочы не толькі тым, хто ведаў і ведае Шаўцова асабіста ці пастаянна сачыў за ягонай спартыўнай кар'ерай, але і тым, хто бачыў яго хоць аднойчы на свае ўласныя вочы. Тая інтэлігентнасць — гэта перш за ўсё высокасвядомая адказнасць за выбраную справу, поўная самааддача падчас дзеянняў на пляцоўцы, сумленныя адносіны да сяброў па камандзе, павага да супернікаў, бачанне ў кожным з іх перш за ўсё роўнай і такой жа здольнай, як і ён сам, асобы…

«Скромный, застенчивый, Шевцов не любит рассказывать о себе, — пішуць пра яго ў кнізе «Белорусский гандбол: путь к признанию» славуты гандбольны настаўнік Спартак Мірановіч і вядомы беларускі спартыўны журналіст Дзмітрый Беленькі. — Спросите у его друзей или просто знакомых, и они вам непременно скажут, что ценят Юру за добрый, компанейский характер, уравновешенность. Такой он вне гандбола, таким остается и на площадке. Даже в самые критические, кульминационные моменты игры Шевцов не теряет самообладания, рассудительности, хладнокровия, сохраняя присутствие духа и вселяя надежду в партнёров»…

Шмат прыкладаў і фактаў прыводзяць у пацвярджэнне сваіх высноў мае добрыя сябры і знаёмыя Спартак Пятровіч Мірановіч і Дзмітрый Ільіч Беленькі. Нямала такіх прыкладаў і фактаў бачыў і ведаю я асабіста…

…Студзень 1983 года. Мінскі Палац спорту ў прамым сэнсе слова трашчыць ад наведвальнікаў. Звыш трох тысяч шчасліўчыкаў шчыльнымі радамі размясціліся на ягоных трыбунах, яшчэ столькі ж засталося за сценамі арэны, разлічваючы на самы звычайны цуд: купіць білет з рук за неверагодныя грошы… Такога ажыятажу стольны Мінск, здаецца, не ведаў яшчэ ніколі ў сваім багатым, разнапланавым і насычаным спартыўным жыцці. І не без падстаў на тое: на гандбольнай пляцоўцы Палаца спорту ў чвэрцьфінальным матчы высвятлялі адносіны ў спрэчцы за Кубак уладальнікаў кубкаў Еўропы мясцовы СКА і слынны клуб з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі «Гросвальштадт».

Першы паядынак на пляцоўцы «Гросвальштадта» ў невялікім нямецкім гарадку Эльзэнфельдэ непадалёку ад Гросвальштадта выйгралі, вядома ж, куды больш тытулаваныя і спрактыкаваныя на міжнароднай арэне гаспадары — 21:16. Перавага ў пяць мячоў давала нямецкім майстрам права ехаць на сустрэчу ў адказ у беларускую сталіцу са спакойнай душой. Аднак зусім па-іншаму думалі нашы спартсмены. Зазвычай маўклівы і стрыманы ў ацэнках падчас такіх сітуацый Юрый Шаўцоў сказаў тады толькі некалькі слоў: «Адыграем… І не пяць мячоў, а болей…»

Практычна кожнаму са сваіх падначаленых Спартак Мірановіч даў на той матч персанальнае заданне. Васіль Сідорык, напрыклад, павінен быў ні на крок не адпускаць ад сябе грознага бамбардзіра «Гросвальштадта» Увэ Фрэйслера; Уладзімір Міхута — нападаць на вароты саперніка як мага часцей; Георгій Свірыдзенка — ні на момант не затрымліваць мяч на сваёй палове пляцоўкі і раз за разам выводзіць сяброў у прарывы… Ну, а яны, тыя сябры, і перш за ўсё — Саша Каршакевіч і Юрый Шаўцоў, абавязаны былі стрымгалоў кідацца на самы сапраўдны штурм нямецкіх абарончых парадкаў…

З тых парадкаў, вобразна кажучы, літаральна з першых мінут паядынку засталіся самыя звычайныя… беспарадкі. Абодва беларускія флангавыя нападаючыя — і Каршакевіч, і Шаўцоў, што называецца, проста рвалі сапернікаў, імкліва пранікаючы да іхніх варот з самых нечаканых, а іншым разам — з самых неверагодных гульнявых сітуацый. Лічбы на табло Палаца спорту раслі і мяняліся нібы ў калейдаскопе… 26:16 на карысць гаспадароў — такім быў канчатковы вынік матча.

— З такім разгромным лікам мая каманда, калі не здраджвае мне памяць, не прайгравала яшчэ ніколі, — толькі і сказаў нам тады ў пасляматчавым інтэрв'ю мудры і спрактыкаваны настаўнік «Гросвальштадта» Карл-Хайнц Бергстрэсер.

Мы, вядома ж, паверылі госцю і, шчыра кажучы, нават пашкадавалі яго…

А потым быў яшчэ адзін турнір. Той, які, як пераканаецца наш чытач, насамрэч залатымі літарамі ўпісаны ў летапіс і нашага айчыннага, і еўрапейскага ручнога мяча…

…3—10 мая 1987-га. Усяго сем дзён самага светлага і прыгожага месяца. Тыя дні ў прамым сэнсе слова ўзнеслі каманду СКА з Мінска на гандбольны Алімп. А здарылася наступнае.

У фінальных баталіях за самую ганаровую ўзнагароду кантынентальнага гандбола — Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў — лёс звёў беларускіх армейцаў з польскім клубам «Выбжэжэ» з

Гданьска. Аднак для таго, каб прасачыць шлях СКА да рашаючых паядынкаў, адчуць атмасферу і напал барацьбы за той прыз, звернемся да самай справядлівай крыніцы — гандбольнага архіву-летапісу.

…Да тых памятных і насамрэч гістарычных фінальных сустрэч з палякамі мінчане прабіліся праз самае што ні ёсць жорсткае выпрабавальнае «сіта». Нават голая статыстыка-арыфметыка пераконвае ў гэтым. У адной восьмай фіналу падставіць мінчанам падножку вызваўся шведскі «Рэдбергслінд». Вызваўся, ды не ўстаяў, прайграўшы ў Мінску 26:21, а дома, на сваёй пляцоўцы, пры вялікай падтрымцы мясцовых фанатаў наогул пацярпеў фіяска: закінуў у вароты армейцаў 21 мяч, а ў свае прапусціў ажно 36 (!). «Большага расчаравання ў вачах і паводзінах мясцовых балельшчыкаў, чым там, у шведскім Гётэборгу, я, паверце, ніколі не бачыў!» — рэзюмаваў тады вынікі тых матчаў Юрый Шаўцоў.

У адной чацвёртай фіналу супернік армейцам з беларускай сталіцы дастаўся куды больш грозны і тытулаваны — бялградскі клуб «Црвена звезда» з тагачаснай Югаславіі. Наперад, да самых што ні ёсць бліскучых перамог югаслаўскіх армейцаў вёў тады самы зорны гандбаліст свету Мітка Цветкавіч. Дзесяць—дванаццаць і нават больш мячоў у вароты супернікаў было ягонай самай звычайнай нормай. Аднак у першым паядынку ў Мінску Цветкавіч, трапіўшы пад жорсткую, але ў межах правілаў, апеку Аляксандра Маліноўскага, сваю норму недабраў, усяго толькі восем разоў узяўшы вароты СКА. Затое трэба было бачыць, што выраблялі з грозным супернікам гаспадары пляцоўкі! Проста неверагодныя віхурныя атакі выконвалі на флангах Аляксандр Каршакевіч і Юрый Шаўцоў, непрыступнай сцяной стаяў у варотах Анатоль Галуза… Лік на табло — 33:19 — ва ўсіх без выключэння гандбольных дзяржавах Еўропы быў расцэнены як сенсацыя.

— Больш таго, і матч у адказ на пляцоўцы югаславаў у Белградзе нашы хлопцы выйгралі з лікам 32:31, — згадваў пазней Юрый Шаўцоў. — На жаль, выйгралі без нас: я і Саша Тучкін якраз тады, у сярэдзіне студзеня 1987 года, былі выкліканы ў зборную Савецкага Саюза. Аднак… Дзевяць галоў Сашы Каршакевіча і восем — Жоры Свірыдзенкі расставілі ўсе кропкі над «і»…

Ну а найбольш грозны і спрактыкаваны супернік у барацьбе за самы ганаровы трафей кантынентальнага ручнога мяча чакаў мінчан у паўфінальных паядынках. Гэта быў «Тусем»

з заходнегерманскага горада Эсена, той самы «Тусем», у які такі неспадзявана-непрадказальны спартыўны лёс прывядзе Юру Шаўцова літаральна праз паўтара дзесятка гадоў...

Але тое будзе потым. А тады, у сярэдзіне красавіка 1987-га, мінчане, па-ранейшаму арганізаваўшы свае дзеянні на імклівых контратаках, змаглі дабіцца ў гасцях толькі нічыёй — 23:23. Матч у адказ на такой шчаслівай для гаспадароў пляцоўцы Мінскага Палаца спорту абяцаў не толькі жорсткую і бескампрамісную барацьбу, але і самую неверагодную інтрыгу. Яшчэ б — у Мінск прыбываў грозны лідэр самой заходнегерманскай бундэслігі, самай грознай, агрэсіўнай і перадавой ва ўсім гандбольным свеце…

…Прытаілася, замоўкла зала: за 13 мінут да фінальнай сірэны заходнегерманскія віртуозы мяча, сярод якіх ззялі зоркі першай велічыні — немцы Шпрынгель, Фраац, Эперс, ісландзец Гісласан, — выйшлі ў адрыў ажно на чатыры мячы — 22:18. Усе былі ў прадчуванні катастрофы…

Нязменны настаўнік тагачаснага СКА Спартак Міранoвіч адразу ж узяў тайм-аўт. Пранікнёна, так, як умеў рабіць тое толькі ён, паглядзеў у вочы кожнаму з ударнай сямёркі, затрымаўшы пры гэтым позірк на тварах лідэраў — Каршакевіча і Шаўцова. Нібы прасіў: «Зрабіце ўсё, што ўмееце і можаце… І больш таго!..»

Пяці мінут хапіла армейцам, каб аднавіць раўнавагу. З перадач Шаўцова і Свірыдзенкі Тучкін і Каршакевіч вывелі-такі гаспадароў наперад і лік набыў патрэбны выгляд — 25:22. Сем галоў закінулі ў вароты саперніка, а ў свае не прапусцілі ніводнага! Такога павароту падзей у адказным, самага высокага ўзроўню матчы гандбольны летапіс да таго не ведаў… Немцы спахапіліся, ды было позна: два закінутыя ў вароты мінчан мячы іх выратаваць ужо проста не маглі!

І вось, нарэшце, паядынкі з «Выбжэжэ». Выйграўшы ў Мінску з лікам 32:24 і ў Гданьску — 30:25, армейцы, нарэшце, ажыццявілі сваю ці не самую вялікую мару — узняліся на Алімп еўрапейскага клубнага гандбола. «Тады, паверце, і адчулі мы сябе роўнымі сярод роўных у Еўропе!» — як заўсёды коратка і сціпла выказаўся пра тыя вынікі выступленняў Юра Шаўцоў.

Нязздзейсненых мар у аднаго з лідэраў беларускага, савецкага і еўрапейскага гандбола, правага форварда мінскага СКА Юрыя Шаўцова насамрэч станавілася ўсё менш і менш…



## *Георгій Свірыдзенка:*

## ВЯРТАННЕ Ў РОДНЫЯ ПЕНАТЫ

*Георгій Свірыдзенка нарадзіўся 3 снежня 1962 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па гандболу. Сярэбраны прызёр чэмпіянату свету 1990 года. Чэмпіён свету сярод юніёраў 1983 года. Чэмпіён Савецкага Саюза 1984, 1985, 1986, 1988 і 1989 гадоў. Сярэбраны прызёр чэмпіянатаў СССР 1982, 1983 і 1987 гадоў. Уладальнік Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў 1987, 1989 і 1990 гадоў; Кубка кубкаў еўрапейскіх краін 1983 і 1985 гадоў; Суперкубка кантынента 1989 года ў саставе мінскага СКА. Выступаў за клубы Беларусі (СКА), Італіі («Ортыджыа», CUS) і Германіі («Блау-Вайс Шпандау»). Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Анатоль Чукаткін.*

Ён нарадзіўся і вырас у незвычайна спартыўнай сям'і. Малодшая сястра Георгія Ірына стала заслужаным майстрам спорту СССР, спачатку бронзавым прызёрам, а потым — і чэмпіёнкай Алімпійскіх гульняў, пераможцам еўрапейскіх першынстваў і прызёрам сусветных чэмпіянатаў, чэмпіёнкай і прызёрам нацыянальных чэмпіянатаў Расіі і Венгрыі па баскетболу… Старэйшы брат Віктар — той, што праклаў Свірыдзенкам сапраўдную дарогу ў вялікі спорт, быў нядрэнным баксёрам… Ну, а Жора знайшоў сябе ў гандболе…

71-я мінская сярэдняя школа можа (і павінна!) па праву ганарыцца набыткамі і дасягненнямі дынастыі Свірыдзенкаў на самых высокіх спартыўных арэнах!

У маленстве ён вызначаўся сярод аднагодкаў высокім ростам і рухавасцю. Натуральна, што акрамя баскетбола, у якім менавіта гэта і цэніцца, Жора сябе нідзе не бачыў. Таму ўжо падчас вучобы ў чацвёртым класе ён запісаўся ў баскетбольную секцыю.

Год праляцеў хутка і непрыкметна. Аднаго разу на занятку юных баскетбалістаў завітаў кіраўнік сталічнай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы № 8 Анатоль Чукаткін. Паназіраўшы за іхнімі дзеяннямі і звычайнай валтузнёй на пляцоўцы, прапанаваў дзятве пазнаёміцца з новай гульнёй — у ручны мяч.

Першым сярод тых, хто ўсур'ёз захапіўся гандболам, стаў тады юны Жора Свірыдзенка.

Зазначым: у сярэдзіне сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя асобныя школы беларускай сталіцы ахапіла самая сапраўдная гандбольная «эпідэмія». У СШ № 71, 82, 88, 93, 100 і іншых працавалі секцыі ручнога мяча, у якія валам валіла мінская дзятва. Працаваць з дзецьмі трэнераў падахвочваў і той факт, што якраз тады гэты від спорту быў уключаны ў праграму Усесаюзнай спартакіяды школьнікаў, і Міністэрства адукацыі проста вымушана было аддаць распараджэнне сваім падраздзяленням — і перш за ўсё абласным і гарадскім аддзелам — аб падрыхтоўцы каманды да тых адказных спаборніцтваў. Зборную школьнікаў Беларусі ўзначаліў вядомы ў мінулым майстар гандбола Віктар Касінскі. На юнацкім першынстве рэспублікі 1977 года ён і звярнуў увагу на разыгрываючага каманды ДзЮСШ-8 Жору Свірыдзенку.

Віктар Пятровіч бачыў: каманду спартыўнай школы ён перарос і юнага гандбаліста самы час прымацоўваць да больш прафесійнага калектыву. Тады ў Мінску даволі актыўна і шматпланава разгарнула сваю дзейнасць новае фізкультурна-спартыўнае падраздзяленне — Рэспубліканская школа-інтэрнат спартыўнага профілю (РШІСП). Пасля перагавораў Касінскага з бацькамі Свірыдзенкі, Жора атрымаў дабро на далейшую вучобу ў школе-інтэрнаце.

Першым сур'ёзным выпрабаваннем і стала Усесаюзная спартакіяда школьнікаў, якая ў наступным, 1978 годзе, праводзілася ў сонечным Ташкенце. Пад кіраўніцтвам Віктара Касінскага зборная Беларусі стала бронзавым прызёрам спартакіяды, а вёў за сабой каманду школьнікаў яе капітан Георгій Свірыдзенка. Праз два гады ён паспяхова скончыць РШІСП, атрымае атэстат сталасці і паступіць на вучобу ў Беларускі інстытут фізічнай культуры.

…Яшчэ праз год — у верасні 1981-га — Свірыдзенка дэбютуе ў радах лепшай гандбольнай каманды Беларусі — сталічнага Спартыўнага клуба арміі (СКА), з якім і звяжа свой лёс на цэлае дзесяцігоддзе!

Пазіцыя разыгрываючага іграка ў гандболе калі не ключавая, дык адна з галоўных — адназначна. Весці за сабой, трымаць, так сказаць, ніці гульні, імгненна пралічваць адразу некалькі варыянтаў атакуючых ці абарончых дзеянняў калектыву, нарэшце, пры зручным моманце ўзяць і на сябе адказнасць завяршыць атаку — цэлым арсеналам гандбольных навыкаў павінен валодаць сапраўдны майстар гэтага гульнявога амплуа.

Заявіць аб сабе ў вялікім спорце ў няпоўныя 19 гадоў, ды яшчэ не ў індывідуальным відзе спорту, а ў камандным — няпроста і дадзена не кожнаму. Тут шмат што (калі не ўсё!) залежыць і ад атмасферы ў калектыве, і ад кіраўніцтва, і ад сяброў… Жора лічыў і лічыць: яму ва ўсім гэтым проста пашанцавала! СКА — калектыў армейскі, і дысцыпліна там калі не жалезная, дык — патрабавальная і строгая… Кіраўніцтва клуба на чале з мудрым і проста геніяльным спецыялістам Спартаком Пятровічам Мірановічам — лепшага і не пажадаеш! Ну, а сябры? Імі сталі не абыхто, а будучыя зоркі еўрапейскага гандбола: Аляксандр Каршакевіч, Юрый Шаўцоў, Канстанцін Шаравараў, Уладзімір Міхута, Анатоль Галуза, Леанід Гуско, Васіль Сідорык…

Першыя два сезоны было неверагодна цяжка і складана. І не таму што не па сілах былі нагрузкі ці іншыя патрабаванні трэнераў… Проста дэбютанту армейцаў была адведзена (пакуль што) роля другога нумара на пазіцыі разыгрываючага. Асноўным іграком стартавай сямёркі лічыўся Ігар Кашкан — спартсмен больш вопытны, не менш, чым Жора, здольны і майстравіты. Аднак у тыя моманты, калі Спартак Мірановіч выпраўляў на пляцоўку Свірыдзенку, і спецыялісты, і нават простыя аматары ручнога мяча не маглі не заўважыць: у армейцаў падрастае вельмі моцны ігрок.

— Прываблівала сіла характару Жоры, — не адзін раз казаў мне не надта шчодры на пахвалу Спартак Пятровіч. — Не валодаў ён ні арыгінальнымі фінтамі ці падкруткамі, ні магутным кідком па варотах, а вось пляцоўку бачыў лепш і больш выразна, чым хто-небудзь іншы. Мы дапамаглі яму развіць свае лепшыя якасці і здольнасці: дакладны і хітра выкананы апорны кідок, тонкі абход саперніка, імклівае ўрыванне ў лінію атакі… Ну, а арганізатарскія здольнасці яму падарыла сама матухна-прырода!

Першымі ўзнагародамі ў саставе СКА сталі для яго два сярэбраныя медалі чэмпіянату Савецкага Саюза сезонаў 1982 і 1983 гадоў. Тыя ўзнагароды засведчылі: у эліту айчыннага ручнога мяча імкліва ўрываецца новы лідэр — калектыў армейцаў беларускай сталіцы. І ўжо сама Масква не магла не звярнуць

увагу на гэту заканамерную акалічнасць. Узнікла неверагодная для таго часу сітуацыя: у нацыянальную зборную краіны запрашаюць настаўніка перыферыйнай каманды і цэлую групу ягоных выхаванцаў, імёны якіх — ні трэнера, ні ігракоў — нічога нікому ні аб чым не гаварылі… Гэта былі: Спартак Пятровіч Мірановіч, Аляксандр Каршакевіч, Юрый Шаўцоў, Георгій Свірыдзенка, Аляксандр Тучкін і Канстанцін ШараварАў.

А да таго прызнання, як, дарэчы, і пасля яго, мінскія армейцы ў прамым сэнсе слова сакрушалі аднаго гранда еўрапейскага клубнага гандбола за другім. Пад магутным напорам выхаванцаў Мірановіча, сярод якіх адну з ключавых пазіцый ужо займаў Жора Свірыдзенка, на працягу 1984—1990 гадоў не ўстаялі шведскі «Рэдбергслід» і югаслаўская «Црвена звезда», «Тусем» і «Гросвальштадт» з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, «Выбжэжэ» з Польшчы і венгерскі «Волан», румынскае «Дынама» і іспанская «Барселона»… Што ні год — усё новыя і новыя прызы, кубкі і медалі самай высокай і прэстыжнай вартасці везлі ў сталіцу Беларусі майстры ручнога мяча.

Вяршыняй таго трыумфальнага перыяду беларускага гандбола стаў удзел трэнера Спартака Мірановіча і пяці ягоных лепшых вучняў у XXIV Алімпійскіх гульнях 1988 года ў Сеуле. Удзел, азнаменаваны перамогамі нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза над камандамі Югаславіі, Швецыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Алжыра, Ісландыі, а ў фінале — над камандай гаспадароў Алімпіяды — карэйцамі. Ва ўсіх шасці паядынках тон на пляцоўцы задавалі беларусы, а 12 мячоў, закінутыя Георгіем Свірыдзенкам у тых матчах, калі і не сталі вырашальнымі, дык і не сапсавалі іх… Галоўнае, што, як і заўсёды, ён паказваў прыклад, вёў за сабой усю савецкую гандбольную дружыну.

Алімпійскае золата сеульскай чаканкі — самая памятная і дарагая ўзнагарода ў ягонай багатай спартыўнай калекцыі…

Нядоўга — усяго адзін сезон — папрацаваўшы трэнерам мінскага СКА поруч са Спартаком Пятровічам Мірановічам, Георгій Свірыдзенка амаль дзесяць гадоў быў трэнерам нямецкіх каманд «Блау — Вайс Шпандау», «Брэмен» і «Райнікендорферс Фухсэ». Працуючы ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, ён, тым не менш, верыў і спадзяваўся, што ягоныя вопыт і веды спатрэбяцца калі-небудзь і дома…

…У сярэдзіне 2008 года заслужаны майстар спорту, алімпійскі чэмпіён Георгій Уладзіміравіч Свірыдзенка ажыццявіў і гэту сваю мару: ён вярнуўся на трэнерскую працу ў родную дзяржаву і ўзначаліў нацыянальную зборную Беларусі!



## *Міхаіл Якімовіч:*

## СТАТЫСТЫКА ВЕДАЕ ЎСЁ!

*Міхаіл Якімовіч нарадзіўся 13 студзеня 1967 года ў горадзе Слуцку. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне (1992) па гандболу. Сярэбраны прызёр чэмпіянату свету 1990 года. Пяціразовы ўладальнік Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў: 1987, 1989 і 1990 гадоў у саставе мінскага СКА, 1994 года — у саставе клуба «Тэка-Кантабрыя» (Іспанія) і 2004 года — у саставе каманды «Сан-Антоніа» (Іспанія). Чатырохразовы ўладальнік Кубка кубкаў еўрапейскіх краін у саставе СКА (1985), «Тэка-Кантабрыя» (1998) і «Сан-Антоніа» (2000 і 2004). Уладальнік Суперкубка кантынента 1989 года ў саставе СКА. Двухразовы чэмпіён СССР — 1988 і 1989 гадоў, сярэбраны прызёр чэмпіянатаў Савецкага Саюза і Садружнасці Незалежных Дзяржаў 1987, 1990 і 1992 гадоў, бронзавы прызёр чэмпіянату СССР 1991 года. Чэмпіён Іспаніі 1993 і 1994 гадоў у саставе каманды «Тэка-Кантабрыя», сярэбраны (1999) і бронзавы (1995) прызёр у саставе клуба «Сан-Антоніа». Уладальнік Суперкубка Іспаніі 1993, 1994, 1995, 2002 і 2003 гадоў. Ганаровы грамадзянін горада Слуцка. Першы трэнер — Давід Рэзнікаў.*

Гандбольныя статыстыка ведае ўсё. У тым ліку і тое, што па колькасці тытулаў, званняў, закінутых мячоў, рэалізаваных і не рэалізаваных гандбольных пенальці і г. д., і да т. п. сярод слынных беларускіх майстроў ручнога мяча неафіцыйнае першае месца займае заслужаны майстар спорту, алімпійскі чэмпіён Міхаіл Якімовіч. Мы згодныя (бо ведаем!): гэта насамрэч так! А калі хто сумняваецца, пазнаёмцеся хаця б з тытуламі і званнямі Міхаіла Іванавіча, пералічанымі вышэй…

У Слуцку ягонае імя ведае практычна кожны дарослы і юны жыхар. Ды што там у Слуцку: падчас дзвюх маіх паез-

дак у Іспанію ў другой палове 1990-х і пачатку 2000-х гадоў пры сустрэчах на самых розных узроўнях, даведаўшыся, што я з Беларусі, гасцінныя і вельмі ганарлівыя іспанцы адразу ж заводзілі размову пра… гандбол і шчыра віншавалі мяне, калі я прызнаваўся ў знаёмстве з ім, Мішам Якімовічам!

А мы кажам: Іспанія — гэта карыда, ну яшчэ — футбол… Іспанія, як і Беларусь, гэта яшчэ і Яго Вялікасць Гандбол!

Так што Слуцк зусім справядліва ганарыцца сваім земляком і выхаванцам. А сам Якімовіч, дарэчы, бязмежна даражыць і ганарыцца самым слынным і дарагім сваім тытулам — ганаровага грамадзяніна гэтага горада…

…Напрыканцы 1970-х, услед за Мінскам, у некаторых перыферыйных гарадах Беларусі пачаў сваё развіццё гандбол. Дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы ствараліся пры аддзелах адукацыі і спартыўных таварыствах, у іх з ахвотай пачыналі свой шлях як нядаўнія аматары-спартсмены, так і энтузіясты-трэнеры. Адной з першых тады і заявіла аб сабе Слуцкая ДзЮСШ на чале з трэнерам па гандболу Давідам Рэзнікавым.

У 1978 годзе ў пошуках занятку па душы ў спартыўную залу сярэдняй школы № 5 горада Слуцка нясмела зазірнуў 11-гадовы Міша Якімовіч. На тры-чатыры гады старэйшыя хлопцы якраз адпрацоўвалі перадачы і вядзенне мяча, кідкі па варотах з самых нечаканых і неверагодных пазіцый. Хлопчыку спадабалася, што і заўважыў Давід Рэзнікаў.

…Менш чым праз паўгода юны Якімовіч ужо сам узяў у рукі гандбольны мяч. Як пакажа час — назаўсёды!

Бачачы ягоную фанатычную апантанасць гульнёй, Давід Рэзнікаў разумеў: хлопцу патрэбна прастора. Напісаў адну просьбухадайніцтва ў Мінск, другую, трэцюю… Неўзабаве са сталіцы прыйшла так званая разнарадка аб залічэнні Мішы Якімовіча ў Рэспубліканскую школу-інтэрнат спартыўнага профілю. Так і пачалося сапраўднае спартыўнае жыццё, якім ужо тады ён у прамым сэнсе слова трызніў днём і ноччу…

У 1985 годзе каманда Беларусі пад кіраўніцтвам Аркадзя Маўсэсава і Давіда Рэзнікава заваёўвае бронзавыя медалі на Усесаюзных спартыўных юнацкіх гульнях. Задаволеныя настаўнікі адчувалі вялікі гонар за кожнага з юных майстроў мяча, аднак у Рэзнікава была свая, асаблівая падстава для гэтага: тон у дзеяннях той зборнай задаваў ягоны 18-гадовы вучань Міша Якімовіч. Трэнер верыў, вучань апраўдваў надзеі — што трэба яшчэ для поўнага шчасця?!

1987 год: яму ўсяго толькі дваццаць! «Не ўсяго дваццаць, а ўжо дваццаць! — не пагаджаецца юны гандбаліст. — У такім узросце некалі цэлымі вайсковымі падраздзяленнямі камандавалі!» Пра гэта Міша вычытаў у гістарычнай і мемуарнай літаратуры. І вырашыў перанесці ўсё ў мірнае жыццё…

Паглядзеўшы некалькі матчаў з ягоным удзелам, на Якімовіча звяртае нарэшце ўвагу сам Спартак Мірановіч. Уключае ў састаў мінскага СКА для ўдзелу ў міжнародным турніры ў Ленінградзе і ў адным з важных і напружаных матчаў кідае хлопца ў бой. А той не разгубіўся: на выгляд цяжкаваты, няўклюдны, а на пляцоўцы пачаў такія забіваць галы, што публіка проста млела ад задавальнення. Спартак Пятровіч развёў рукамі: маўляў, тое, што трэба, робіць чалавек!

Майка з нумарам 13, якой у многіх відах спорту і ў большасці нават слынных і тытулаваных камандах проста няма, неўзабаве стала ў прамым сэнсе слова візітнай карткай таленавітага беларускага гандбаліста ў камандзе мінскага СКА.

У тым жа 1987-м Якімовіч заваёўвае бронзавую ўзнагароду ў саставе зборнай СССР на чэмпіянаце свету сярод юніёраў. Тады ж разам з родным СКА атрымлівае і першы сярэбраны медаль чэмпіянату Савецкага Саюза. А 10 мая 1987-га святкуе проста трыумфальную перамогу армейцаў: мінчане становяцца ўладальнікамі Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў! «У пазіцыйным нападзенні прыемным адкрыццём сталі смелыя і выніковыя дзеянні маладога Якімовіча, — напішуць пазней аб фінальным матчы за Кубак чэмпіёнаў паміж камандамі СКА і «Выбжэжэ» (Гданьск, Польшча) Спартак Мірановіч і спартыўны журналіст Дзмітрый Беленькі. — Чатыры важныя мячы закінуў у адказным матчы наш левы паўсярэдні…» Ягонымі «кінжальнымі» кідкамі па варотах сапернікаў ужо тады захапляліся тысячы аматараў ручнога мяча амаль што ў дзесяці гандбольных дзяржавах еўрапейскага кантынента.

Ужо да 23-гадовага ўзросту — па-сутнасці, яшчэ зусім маладога — ён быў у зеніце славы. У саставе СКА — трохразовы ўладальнік Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў, Суперкубка кантынента і Кубка кубкаў еўрапейскіх дзяржаў; двухразовы чэмпіён і двойчы сярэбраны прызёр першынстваў Савецкага Саюза; сярэбраны прызёр сусветнага першынства! А наперадзе яшчэ амаль што 15-гадовы спартыўны шлях!

1992 год стаў для нашага грознага гандбаліста і надзвычай радасным, і… неверагодна сумным. Радасным: збылася мара, і разам са зборнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў Міха-

іл Якімовіч стаў алімпійскім чэмпіёнам! Сумным: спыніла існаванне каманда краіны вялікіх майстроў, перад якой не мог устаяць увесь гандбольны свет…

На XXV Гульнях 1992 года аматары і спецыялісты ручнога мяча з вялікай цікаўнасцю чакалі першы матч — зборных СНД і Германіі. За два гады да таго савецкая зборная ўступіла немцам на чэмпіянаце свету… Рэванш ці паўтор пройдзенага? Гэтым пытаннем і задаваліся гандбольныя гурманы…

Рэванш адбыўся! І які: з лікам 25:15 перамаглі спартсмены СНД. Пасля той проста бліскучай і неверагоднай перамогі аб'яднаную каманду ўжо было не спыніць. Францыя і Егіпет, Іспанія і Румынія, Ісландыя і Швецыя былі звычайнымі статыстамі падчас сустрэч з нашымі майстрамі. Паўсярэдняга з Мінска Міхаіла Якімовіча саапернікі так і не стрымалі, а кожны з ягоных 29 мячоў стаў тады сапраўдным упрыгажэннем усіх тых матчаў.

…Сёння тэхнічным сродкам і механізмам па сілах усё! Не ведаем, як правільна называецца тое прыстасаванне, якое можа зафіксаваць скорасць палёту мяча, пушчанага ў цэль футбалістам, хакеістам ці гандбалістам… Не ў назве справа, а якраз у той скорасці: мяч, пушчаны магутнай рукой Мішы Якімовіча, ляцеў са скорасцю 125 кіламетраў у гадзіну!

Ці патрэбны тут каментарыі?!



## *Анатоль Галуза:*

## У ВАРОТАХ — НІБЫ НА ПЕРАДАВОЙ

*Анатоль Галуза нарадзіўся 22 ліпеня 1957 года ў горадзе Бабруйску. Майстар спорту СССР міжнароднага класа па гандболу. Чэмпіён Савецкага Саюза 1981, 1984, 1985, 1986, 1988 і 1989 гадоў. Сярэбраны прызёр першынстваў СССР 1982, 1983, 1987 і 1990 гадоў. Уладальнік Кубка Савецкага Саюза 1980, 1981, 1982 гадоў. Пераможца II Усесаюзных спартыўных гульняў моладзі 1977 года. Чэмпіён свету сярод юніёраў 1977 года. Уладальнік Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін 1983, 1985 гадоў. Уладальнік Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў 1987, 1989 і 1990 гадоў. Уладальнік Суперкубка кантынента 1989 года. Першы трэнер — Леў Рабіновіч.*

…Спартак Міранавіч — мэтр айчыннага і сусветнага гандбола, будучы ў добрым настроі, сказаў мне аднойчы:

— Ва ўсіх перамогах мінскага Спартыўнага клуба арміі 1980-х гадоў вялікая заслуга перш за ўсё варатароў — Толі Галузы і Аліка Васільчанкі. Не будзь іх на апошнім камандным рубяжы, столькі кубкаў і медалёў армейцы не заваявалі б аніколі!

— А менш прапусціць яны маглі? — паспрабаваў я ўнесці ў нашу размову ажыўленыя ноткі…

— Ну, ты і жартаўнік! — падхапіў тон размовы Спартак Пятровіч. — Давай лепш прыгадаем тых, хто атакаваў нашы вароты…

І мы пачалі, што называецца, загінаць пальцы на сваіх руках…

— Маскоўскія армейцы Чарнышоў, Васільеў, Рыманаў, тбілісец Анпілогаў, літовец Навіцкас, Шчэпкін з Запарожжа, немцы Фрэйслер, Вундэрліх, Бранд, Клюшпіс, румыны Сцінга, Драганіца, Думітру, Грабоўскі, венгр Ковач, югаславы Цветка-

віч і Ялезавіч, швед Вісландэр, ісландзец Гісласон (ён гуляў за «Тусем»), паляк Вента…

Усе пальцы на нашых руках ужо былі загнутыя, а Міранавіч працягваў:

— У большасці сваёй двухмятровыя гіганты-грэнадзёры, гэтыя зоркі сусветнага гандбола самай першай велічыні не шкадавалі ні сваіх сіл, ні, тым больш, нашых галкіпераў, укладваючы ў кідкі па варотах усе свае здольнасці і сілы… Аднак жа ты бачыў, як ўдала і спрытна адбівалі нашы хлопцы іхнія магутныя кідкі! А Толя Галуза наогул дзейнічаў бы той стары Хатабыч…

У тыя далёкія ўжо 1980-я беларускія аматары ручнога мяча насамрэч шмат што бачылі…

…Разам з сябрамі-аднагодкамі трынаццацігадовы бабруйскі школьнік Толя Галуза ў пошуках справы па душы зазірнуў аднойчы ў спартыўную залу гарадскога савета спартыўнага таварыства «Спартак». Якраз тады там займаліся гандбалісты. На хлопчыкаў адразу ж звярнуў увагу гаспадар залы і падышоў да іх. Пацікавіўся: чаго завіталі?

— Хацелі б пазаймацца ў вас, — сарамліва адказаў адзін з юных наведвальнікаў.

— Што ж, давайце паспрабуем, — адказаў трэнер і прапанаваў сваім новым сябрам прыступіць да першых заняткаў.

Так і адбылося знаёмства юнага Толі Галузы са сваім першым спартыўным настаўнікам — трэнерам гандбольнай секцыі дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы № 2 горада Бабруйска Львом Рабіновічам.

Ужо пасля некалькіх трэніровак Леў Міхайлавіч прапанаваў хлопчыку стаць у вароты. Хударлявы, аднак з добрай рэакцыяй на перадачы мяча, на першы погляд — няўклюдны, але рашучы і адчайны, Толя прыцягнуў увагу спецыяліста перш за ўсё сваёй самаадданасцю, працавітасцю і настойлівасцю. Ён змог бы праявіць сябе на любым участку гандбольнай пляцоўкі, аднак прапанова трэнера яму прыйшлася даспадобы… А тут яшчэ і атрымлівацца шмат што пачало!

Праз два гады юнага варатара запрасілі ў юнацкую зборную Магілёўскай вобласці для ўдзелу ў першынстве Беларусі. За спаборніцтвамі, як і прынята ў такім выпадку, пільна сачылі сталічныя спецыялісты: камплектавалася каманда рэспублікі для падрыхтоўкі да выступлення на Усесаюзнай спартакіядзе школьнікаў. Дзеянні Галузы ім спадабаліся, і спачатку яму, а потым — і бацькам паступіла прапанова аб пераводзе падлет-

ка на вучобу ў Рэспубліканскую школу-інтэрнат спартыўнага профілю. Як кажуць у такіх выпадках, паразуменне бакі знайшлі, юнак стаў навучэнцам РШІСП, і ўжо ў 1974-м 17-гадовы Анатоль Галуза атрымаў першую ў сваім жыцці высокую спартыўную ўзнагароду — сярэбраны медаль Спартакіяды школьнікаў СССР.

Наступны штрых у біяграфіі гандбольнага варатара аказаўся яшчэ больш важкім і адказным: праз год яго, студэнта-першакурсніка Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры, сам Спартак Мірановіч запрасіў у мінскі гандбольны клуб, які тады яшчэ насіў назву «Палітэхнік»: Спартыўным клубам арміі ён стане з 1976 года.

— Радаваўся? — спытаў я праз шмат гадоў у Анатоля.

Кіўнуўшы галавой у адказ, ён тады дадаў:

— І хваляваўся адначасова…

У тым жа 1975-м адбыўся дэбют Галузы ў першынстве Савецкага Саюза: гэта быў матч у Тбілісі супраць мясцовага «Буравесніка». Мінчане прайгралі з лікам 19:22, аднак ускласці віну за паражэнне на Анатоля ніхто і не падумаў…

Сталеў — у жыцці і гульні — Толя літаральна на вачах. Ранейшыя сур'ёзныя і самаадданыя адносіны да трэніровак і заняткаў з кожным днём давалі плён. І неўзабаве ён стаў, па сутнасці, афіцыйным першым нумарам мінскага СКА!

— Адна з асаблівасцей дзеянняў Галузы ў варотах: ён часта ловіць мяч дзвюма рукамі, — уводзіў мяне ў «лабараторыю» прафесійных сакрэтаў Анатоля Спартак Мірановіч. — Для футбольнага варатара гэта — з'ява характэрная і станоўчая, а вось для гандбольнага — прыкмета галкіпера экстракласа. Ніхто з айчынных вартароў так гуляць проста не ўмее!

Імклівую рэакцыю Галузы на мяч, пушчаны ці то здалёк (часцяком з хуткасцю больш чым 120 кіламетраў у гадзіну!), ці то ўсяго з некалькіх метраў — ва ўпор, адзначалі многія спецыялісты і трэнеры. Адзначалі і надзвычай высока цанілі, часцяком зайздросцячы, што ў Мірановіча ў Мінску такі сучасны і надзейны страж варот…

Умеў прадбачыць Анатоль і дзеянні сапернікаў… Нават самых вопытных і тытулаваных — такіх, як армейцы Масквы Фядзюкін і Краўцоў, літоўцы Каўчукас і Валуцкас, запарожцы Зубкоў і Шчэпкін… Іхнія хітрыя і каверзныя кідкі вельмі часта траплялі туды, дзе мяч чакаў ужо наш варатар.

А як умела і ўдала распачынаў ён атакі! Былі выпадкі, калі пасля так званага першага паса, зробленага ім амаль што праз

усю гандбольную пляцоўку, другім-трэцім дзеяннем Сашы Каршакевіча, Юрыя Шаўцова ці каго-небудзь з іншых партнёраў быў гол у вароты сапернікаў. Зрабіць што-кольвечы ў адказ тыя ніяк не маглі…

Шмат разоў заваяваўшы з мінскім СКА самыя высокія спартыўныя тытулы і ўзнагароды: і чэмпіянаты Савецкага Саюза, і міжнародныя еўрапейскія кубкі, Анатоль, зусім заканамерна, быў «на алоўку» ў кіраўнікоў зборнай краіны, тым больш што якраз тады, у 1980-я гады, адным з іх з'яўляўся Спартак Мірановіч. На жаль, пагуляць у зборнай СССР яму не пашчасціла… Мелі прэтэнзіі да стану здароўя мінскага галкіпера ўрачы галоўнай каманды краіны, ды і канкурэнцыя за месца пад сонцам была тады надзвычай вялікая і прынцыповая. Два варатары экстра-класа — Мікалай Томін з ЦСКА і Міхаіл Ішчанка з Запарожжа — не ведалі роўных сабе ва ўсім сусветным гандболе.

Аднак Галуза не адчайваўся і не крыўдаваў на лёс: ён сумленна і высокапрафесійна рабіў сваю справу ў родным СКА. Нікольк не зайздросціў тым жа Томіну і Ішчанку, а заўсёды імкнуўся пераняць у іх тонкасці варатарскага майстэрства і мудрасці. Падчас выступленняў мінчан у еўрапейскіх кубкавых турнірах шмат чаму навучыўся ў сваіх калег — Ціля з заходнегерманскага «Гумерсбаха», Мунцяну з румынскага клуба «Сцяуа». І гэта таксама давала плён…

Дарэчы, пра матчы мінскіх армейцаў на еўрапейскай арэне.

Тады, у другой палове 1980-х, мы ўвачавідкі бачылі, што вырабляў Галуза ў матчах СКА супраць заходнегерманскіх каманд «Гросвальштадт», «Гумерсбах», «Тусем», бухарэсцкіх «Дынама» і «Сцяуа», югаслаўскіх «Црвены звезды», «Медвешчак», «Металапластык», польскай «Выбжэжэ»… У сапраўднай бітве з грандамі сусветнага гандбола Анатоля часта прызнавалі лепшым іграком матчаў.

Шмат гадоў ён быў капітанам мінскага Спартыўнага клуба арміі — калектыву, які на працягу цэлага дзесяцігоддзя (!) у прамым сэнсе слова знішчаў на ўсесаюзнай і еўрапейскай арэнах усіх і кожнага. Анатоль Галуза паказваў прыклад сябрам па камандзе, вёў за сабой. «Ён быў капітанам і гэтым сказана ўсё!» — адзначыў аднойчы Спартак Пятровіч Мірановіч…

Ну, што тут можна дадаць?!

*Раздзел IX*

## ФУТБОЛ: З МЯЧОМ І БЕЗ МЯЧА

*Гісторыя беларускага футбола — самага масавага і ўсенародна любімага віду спорту — такая ж багатая, цікавая і ў многім характэрная для нашай рэспублікі, як і той жа лёгкай атлетыкі ці барацьбы, веславання ці цяжкай атлетыкі... У ім таксама былі ўзлёты і падзенні, радасці ад вялікіх, проста бліскучых, перамог і засмучэнні ад прыкрых, зусім неспадзяваных паражэнняў. Спорт, як кажуць у такіх выпадках, ёсць спорт: у ім нікому загадзя не гарантаваны поспехі, гэтаксама як ніхто не застрахаваны і ад прамашак...*

*Так званы вялікі футбол развіваўся ў нашай рэспубліцы, па сутнасці, пад сцягам Усесаюзнага фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама», якое было заснавана 18 красавіка 1923 года. І ўжо летам таго ж года рэспубліканскі савет «Дынама» распачаў актыўную прапаганду многіх відаў спорту, і перш за ўсё — футбола.*

*Першыя футбольныя каманды «Дынама» з'явіліся ў Мінску і Віцебску, Полацку і Заслаўлі, пазней — у іншых гарадах. На іх базе пачалі фарміравацца каманды гарадоў і раённых цэнтраў, якія ўжо напрыканцы 1920-х гадоў праводзілі рэспубліканскія і міжраённыя спаборніцтвы. Першы матч на ўзроўні зборных спартыўны летапіс зафіксаваў 12 мая 1928 года, калі па праграме гарадскога спартыўнага свята ў Мінску была праведзена сустрэча паміж камандамі таварыства «Дынама» і мясцовай кавалерыйскай дывізіі. У тым жа годзе зборная Мінска сустрэлася з камандамі Оршы і Барысава і не пакінула ім аніякіх шанцаў на поспех, выйграўшы адпаведна з лікам 7:0 і 7:1.*

*Дарэчы, першае паражэнне мінскія аматары-дынамаўцы пацярпелі толькі ў 1930-м, уступіўшы бабруйчанам — 1:3. У тым жа годзе правялі яны і першы міжна-*

*родны матч супраць каманды рабочых Германіі і таксама прайгралі — 0:3.*

*1934 год азнаменаваўся афіцыйным адкрыццём у беларускай сталіцы стадыёна «Дынама». Гэтаму сапраўднаму святу быў прымеркаваны матч дынамаўцаў супраць чэмпіёна Масквы — каманды «Прамкааперацыя». Гэта тады тысячы мінчан і гасцей горада ўпершыню атрымалі сапраўдную асалоду ад бліскучых дзеянняў на полі братоў Аляксандра, Аляксея і Пятра Старасціных, Германа Пуціліна, Івана Філіпава і Сяргея Леута — першых зорак савецкага футбола.*

*У 1936 і 1937 гадах мінскія дынамаўцы прымалі ўдзел у розыгрышах Кубка СССР па футболу. Сустрэчы з маскоўскімі камандамі «Пралетарская перамога» і «Дынама» закончыліся, як і трэба было чакаць, на карысць больш вопытных і спрактыкаваных сапернікаў — адпаведна 3:0 і 4:1. Дарэчы, у 1937-м прайшоў і першы чэмпіянат Беларусі па футболу, пераможцамі якога зусім заканамерна сталі ігракі сталічнага «Дынама».*

*1941 год. Па рашэнні маскоўскіх спартыўна-фізкультурных улад дынамаўцы Мінска ўпершыню ўключаюцца для ўдзелу ў чэмпіянаце Савецкага Саюза сярод каманд класа «А». Старшым трэнерам калектыву быў прызначаны Леў Карчабокаў, які ў свой час выступаў у саставе зборнай СССР. Гонар мінчан абаранялі Леанід Салаўёў, Анатоль Маляўкін, Віктар Панфілаў, Міхаіл Антаневіч, якія стануць пазней першымі заслужанымі майстрамі спорту СССР. Але будзе гэта ўжо пасля Вялікай Айчыннай вайны…*

*У 1945 годзе быў праведзены першы пасляваенны чэмпіянат краіны. З капітанскай павязкай на рукаве мінскіх дынамаўцаў выводзіў на зялёныя газоны стадыёнаў Савецкага Саюза Аркадзь Чарнышоў, які пазней стане заслужаным майстрам спорту і заслужаным трэнерам СССР па… хакею з шайбай, будзе амаль што тры дзесяцігоддзі (!) узначальваць зборную Савецкага Саюза — шматразовага алімпійскага чэмпіёна, пераможцу 15 чэмпіянатаў свету і Еўропы.*

*Праз восем гадоў, на працягу якіх наша вядучая каманда будзе то пакідаць мацнейшую лігу савецкага футбола, то*

*вяртацца ў яе зноў, «Дынама» узначаліць выхаванец Беларускага інстытута фізічнай культуры, даволі моцны футбаліст і хакеіст Міхаіл Базяненкаў. У наступным, 1954 годзе, калектыў будзе афіцыйна перайменаваны ў «Спартак» і ўпершыню ў гісторыі беларускага футбола ўпіша сваё імя ў спіс лаўрэатаў чэмпіянату Савецкага Саюза. Бронзавымі прызёрамі спаборніцтваў тады стануць заслужаны майстар спорту варатар Аляксей Хоміч і палявыя ігракі майстры спорту Мікалай Макараў, Анатоль Галашчапаў, Павел Мімрык, Анатоль Ягораў, Уладзімір Голубеў, Вячаслаў Арцёмаў, Іван Мозер, Барыс Курнеў, Генадзь Абрамовіч, Уладзімір Маляўкін, Юрый Бачурын і Уладзімір Ходзін.*

*Міне яшчэ дзевяць гадоў, і іхнія вучні і спадкаемцы паўтораць поспех сваіх папярэднікаў — зоймуць трэцяе месца ў чэмпіянаце СССР — 1963. Да поспеху каманду прывядуць Аляксандр Сявідаў і Анатоль Ягораў, а ў яе радах на многіх арэнах гарадоў краіны будуць ззяць сваім майстэрствам варатары Альберт Дзенісенка і Алег Юдзін, ігракі абароны і атакі Ігар Ромін і Эдуард Зарэмба, Хуан Усаторэ і Іван Савосцікаў, Веніямін Арзамасцаў і Віктар Канавалаў, Леанард Адамаў і Юрый Пагальнікаў. Весці за сабой гэты дружны і такі настойлівы калектыў будуць выдатныя форварды Міхаіл Мустыгін і Эдуард Малафееў.*

*Эстафету двух апошніх потым, ужо ў васьмідзесятыя гады XX стагоддзя, падхопяць і панясуць далей іхнія сапраўдныя «залатыя» пераемнікі. Пад кіраўніцтвам старшага трэнера Эдуарда Малафеева, начальніка каманды Леаніда Гарая, трэнераў Веніяміна Арзамасцава і Івана Савосцікава ў 1982-м чэмпіёнамі Савецкага Саюза ўпершыню ў гісторыі савецкага футбола стануць дынамаўцы беларускай сталіцы: Міхаіл Вяргеенка, Юрый Курненін, Віктар Янушэўскі, Сяргей Бароўскі, Віктар Шышкін, Юрый Трухан, Аляксандр Пракапенка, Сяргей Алейнікаў, Юрый Пудышаў, Сяргей Гоцманаў, Андрэй Зыгмантовіч, Людас Румбуціс, Валерый Мельнікаў, Ігар Гурыновіч і Георгій Кандрацьеў. Практычна ў гэтым жа саставе мінчане заваююць бронзавыя медалі чэмпіянату СССР 1983 года.*

*А вось чарговы поспех беларускага футбола «затрымліваецца ў дарозе» да сённяшніх дзён...*



## *Эдуард Малафееў:*

## ІГРОК, ТРЭНЕР, ПЕДАГОГ

*Эдуард Малафееў нарадзіўся 2 чэрвеня 1942 года ў горадзе Краснаярску. Заслужаны майстар спорту СССР. Заслужаны трэнер СССР і Беларусі. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету ў Лондане (1966) па футболу. Сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы ў Мадрыдзе (1964). Бронзавы прызёр першынства Савецкага Саюза 1963 года. Фіналіст розыгрышу Кубка СССР (1965). У складзе мінскага «Дынама» забіў 100 мячоў у вароты сапернікаў. Лепшы бамбардзір чэмпіянату СССР 1971 года (16 мячоў). Галоўны трэнер «Дынама» — чэмпіёна Савецкага Саюза 1982-га, бронзавага прызёра чэмпіянату СССР 1983 года. З'яўляўся галоўным трэнерам зборнай Савецкага Саюза і алімпійскай зборнай СССР. Першы трэнер — Віктар Жаркоў.*

Футбол зачараваў яго з маленства. Балазе, рос, па сутнасці, у футбольнай сям'і. Бацька — Васіль Міхайлавіч Малафееў — яшчэ напрыканцы 30-х гадоў XX стагоддзя з поспехам выступаў за каманду Беларускай вайсковай акругі, якая, дарэчы, мела добрую рэпутацыю сярод чырвонаармейскіх футбольных калектываў краіны. Калі Эдзік падрос, ужо крыху навучыўся валодаць мячом, ягоным сэрцам і ўсёй істотай завалодаў усяго толькі на пяць гадоў старэйшы Міхаіл Мустыгін — кумір усіх без выключэння аматараў футбола падмаскоўнай Каломны, дзе ў той час жыла сям'я Малафеевых.

Такім чынам, каломенскі «Авангард» і даў ім абодвум — Міхаілу Міхайлавічу Мустыгіну і Эдуарду Васільевічу Малафееву — такія запаветныя пуцёўкі ў Яго Вялікасць Футбол. І наўрад ці здагадваўся тады хто-небудзь, што літаральна праз пяць-сем гадоў іх зоркі загарацца на спартыўным небасхіле і яны, пра-

верыўшы свае сілы спачатку ў тым жа «Авангардзе», а потым паспрабаваўшы шчасце ў славутым на ўвесь спартыўны свет маскоўскім «Спартаку», знойдуць сябе так далёка ад футбольнай сталіцы — у нашым родным Мінску…

Праўда, у «Авангардзе» ім пагуляць поруч не давялося: Малафееў быў прыняты ў каманду якраз тады, калі Мустыгін быў ужо ў Маскве… Але гэта не кідала юнака ў роспач: пяць гадоў розніцы ва ўзросце — дыстанцыя, усё ж такі, адметная. Затое ўмеў ужо Эдзік шмат чаго: і мячом пажангліраваць, і на так званым пятачку абгуляць двух-трох сапернікаў, і па варотах нанесці моцны, а часцяком — проста магутны ўдар…

У самым пачатку 60-х гадоў туды, у сталічны «Спартак», услед за Міхаілам Мустыгіным быў запрошаны Эдуард Малафееў. А першы экзамен выканаўчага майстэрства ў яго прымаў не хто-небудзь, а сам Мікалай Пятровіч Старасцін — сапраўдны патрыярх савецкага футбола, адзін з чатырох братоў Старасціных — вядомых майстроў і спецыялістаў гэтай усенародна любімай гульні. Ён і даў такое жаданае дабро 19-гадоваму каломенскаму юнаку.

Але ўжо ў тыя гады, як, дарэчы, і ў наступныя дзесяцігоддзі, праблем з выбарам выканаўцаў на ўсе без выключэння пазіцыі на футбольным полі ў «Спартаку» не было. Тры, а іншым разам і чатыры-пяць раўназначных ігракоў — зазвычай маладых і, бясспрэчна, таленавітых — на адно і тое ж месца ў асноўным саставе для знакамітага і заўсёды моцнага сталічнага клуба было з'явай характэрнай і пастаяннай. У выніку многія з іх проста праседжвалі на лаўцы запасных, задавальняліся ролямі дублёраў, так і не раскрыўшы спаўна свае здольнасці і магчымасці ў вялікім спорце… Аднак некаторыя зусім не адчайваліся і накіроўвалі свае позіркі на іншыя, няхай сабе і менш знакамітыя і вядомыя каманды не толькі вышэйшай, а нават і першай ліг тагачаснага савецкага футбола…

У выніку шматлікіх разваг-роздумаў спачатку Міхаіл Мустыгін, а потым — і Эдуард Малафееў спынілі свой выбар на адной і той жа камандзе — мінскім «Дынама»… Так у 1963 годзе іхнія шляхі-дарогі і перакрыжаваліся ў беларускай сталіцы.

За 9 гадоў да таго, у далёкім 1954-м, выступаючы пад сцягам спартыўнага таварыства «Спартак», футбольны клуб з Мінска выклікаў першую ў гісторыі айчыннага спорту сенсацыю: заваяваў бронзавыя ўзнагароды першынства Савецкага Саюза. У 1963-м з тых шчаслівых уладальнікаў медалёў у калектыве,

натуральна, ужо нікога і не было: футбольны век, як вядома, зусім не працяглы… Аднак сабраўся ў нашай сталіцы неблагі трэнерскі састаў, які сфарміраваў каманду, што літаральна ў той жа год і пакарыланеверагодную вышыню: зноў заваявала бронзавыя ўзнагароды ўсесаюзнага чэмпіянату…

Гульнявую канцэпцыю, строгі стратэгічны план і тонкую тактычную дасканаласць для каманды тады распрацаваў сталы, энергічны і па-тагачаснаму сучасны спецыяліст — Аляксандр Аляксандравіч Сявідаў. Навінка ў дзеяннях ягоных падначаленых заключалася ў тым, што атакаваць, не шкадуючы сябе, павінны былі адразу два цэнтральныя нападаючыя — Міхаіл Мустыгін і Эдуард Малафееў. Справа іх павінен быў падтрымліваць невысокага росту, аднак настойлівы і напорысты Леанард Адамаў, злева — Юрый Пагальнікаў…

— Аб’яднаўшы нас у так званы тандэм цэнтрфорвардаў, — згадваў потым Эдуард, — наш настаўнік прывёў садернікаў у самы звычайны шок: тыя проста не ведалі, каго з нас трымаць…

Эксперымент і сапраўды ўдаўся: філіграння тэхнічная дасканаласць Мустыгіна плюс вялікая працаздольнасць і напорыстасць Малафеева літаральна з самага пачатку першынства СССР 1963 года далі плён. Аб унікальным мінскім дуэце ў складзе Мустыгіна і Малафеева пачалі шмат пісаць газеты і расказваць у сваіх рэпартажах радыё- і тэлежурналісты, а іхнія сакрэты — дасканала вывучаць футбольныя спецыялісты. Апошнія насамрэч былі ў пэўнай разгубленасці: як супрацьстаяць мінчанам, якім чынам іх стрымаць?

Аднак караван, як кажуць у такіх выпадках, ужо ішоў наперад…

Правёўшы ў сезоне-63 38 матчаў у чэмпіянаце Савецкага Саюза, мінскія дынамаўцы атрымалі 18 перамог, 12 паядынкаў закончылі ўнічыю і ўсяго 8 — прайгралі. Яны забілі ў вароты супернікаў 47 мячоў, а ў свае прапусцілі толькі 27. 21 з тых галоў запісаў на свой рахунак Эдуард Малафееў, 11 — Міхаіл Мустыгін. 48 набраных ачкоў прынеслі беларускім майстрам заслужаныя бронзавыя ўзнагароды ў вышэйшай лізе айчыннага футбола.

Прыродны талент, высокае выканаўчае майстэрства і настойлівасць мінскага цэнтрфорварда адразу прымусілі звярнуць на яго ўвагу настаўнікаў галоўнай каманды краіны — зборнай Савецкага Саюза. Эдуарда ўключылі ў склад калектыву, які пра-

водзіў адборачныя матчы да сусветнага першынства 1966 года. Вяршыняй тых напружаных спаборніцтваў стаў выхад нацыянальнай зборнай СССР у фінальную стадыю першынства, якая адбылася ў сталіцы Вялікабрытаніі — Лондане. У першым матчы супраць каманды Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі наш пасланец забіў у вароты сапернікаў два мячы, што і прадвызначыла першы поспех — 3:0. Савецкія футбалісты выйшлі тады ў паўфінал чэмпіянату свету, аднак у роўнай барацьбе ўступілі партугальцам на чале з легендарным Эйсебіа — 1:2. Бронзавы медаль вышэйшага футбольнага форуму тады атрымаў і мінскі дынамавец Эдуард Малафееў.

Ягонымі калегамі-сябрамі па тагачаснай зборнай Савецкага Саюза былі такія сусветна вядомыя майстры скуранога мяча, як Леў Яшын і Альберт Шасцярнёў, Муртаз Хурцылава і Йожэф Саба, Валерый Варонін і Ігар Чысленка, Анатоль Банішэўскі і Галімзян Хусаінаў… Цэлае сузор'ё, набыткамі якога мы да сённяшняга дня маем права даражыць і ганарыцца. Эдуард Малафееў не згубіўся сярод іх, а займаў там годнае і ганаровае месца…

21 лістапада 1965 года яму пашчасціла гуляць на славутым, буйнейшым у свеце стадыёне «Маракана» супраць бразільцаў — сапраўдных віртуозаў мяча на чале з самым легендарным з іх — Пеле. Той паядынак зборных Бразіліі і Савецкага Саюза закончыўся ўнічыю — 2:2, а два цэнтральныя нападаючыя, дзве «дзесяткі» каманд — Пеле і Малафееў — абмяняліся тады сувенірамі…

— Такое запамінаецца на ўсё жыццё, — не адзін раз казаў мне потым Эдуард Васільевіч.

За гады выступленняў у саставе мінскага «Дынама» Эдуард Малафееў забіў у вароты сапернікаў 100 мячоў. Славутыя маскоўскія галкіперы — дынамавец Леў Яшын, спартакавец Уладзімір Маслачэнка і тарпедавец Анзор Кавазашвілі, кіеўскі і тбіліскі аднаклубнікі Віктар Баннікаў і Сяргей Катрыкадзе — так і не змаглі ўтрымаць свае вароты ў супрацьстаянні з мінскім цэнтрфорвардам. Больш таго, шмат разоў клікалі яго да сябе, у свае калектывы настаўнікі «Спартака» і маскоўскага «Дынама» Мікалай Пятровіч Старасцін і Канстанцін Іванавіч Бескаў, Віктар Аляксандравіч Маслаў з Кіева…

— Аднак думку здрадзіць мінскаму «Дынама», гораду і камандзе, дзе мне паверылі і дазволілі спаўна раскрыцца і праявіць сябе, я ніколі нават не дапускаў, — з гонарам адзначаў ён падчас нашых шматлікіх сустрэч.

Ён адчуваў і ведаў: для таго, каб быць на вышыні спартыўнай славы, валодаць сучаснымі ведамі аб тэндэнцыях і перспектывах развіцця футбола, трэба шмат ведаць, чытаць, вучыцца… І не толькі валодаць футбольна-спартыўнымі ведамі. Пасля скончанага ў зусім яшчэ юныя гады Каломенскага машынабудаўнічага тэхнікума, Эдуард атрымаў дыпломы аб вышэйшай адукацыі ў Беларускім інстытуце фізічнай культуры, Вышэйшай школе трэнераў пры Цэнтральным інстытуце фізкультуры ў Маскве, Мінскай вышэйшай партыйнай школе пры ЦК КПБ. Дарэчы, у школе трэнераў Малафееву быў уручаны дыплом № 1, а Мінскую ВПШ ён скончыў з адзнакай…

Ці патрэбны тут каментарыі?!

Скончыўшы кар'еру іграка, Эдуард Васільевіч зусім заканамерна стаў футбольным трэнерам. Яго клікалі ў памочнікі да сябе славутыя настаўнікі і спецыялісты, аднак учарашні дынамавец Мінска застаўся ў Беларусі: ён паехаў у прыгранічны Брэст і ўзначаліў там каманду другой лігі — мясцовае «Дынама». Там бліжэй пазнаёміўся з дырэктарам спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай футбольнай школы Леанідам  Гараем, з якім утварыў новы футбольны «тандэм» — на гэты раз трэнерскі.

— Сышліся нашы погляды на футбол у прыватнасці, на жыццё ўвогуле, — шмат разоў казаў тады Леанід Паўлавіч. — Таму адмовіцца ад прапановы Эдуарда Васільевіча стаць начальнікам брэсцкага «Дынама» я не меў ніякага маральнага права…

У сярэдзіне 1978-га, калі сталічнае «Дынама» неверагодна імкліва цацілася ўніз па турнірнай табліцы першай лігі савецкага футбола, кіраўніцтва Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў Беларусі і рэспубліканскага савета таварыства «Дынама» прапанавала Э. Малафееву і Л. Гараю ўзначаліць флагман беларускага футбола. Абодва (Леанід Гарай таксама выступаў у свой час у радах мінчан) адчувалі высокую адказнасць за даручаную ім справу, таму і ўзяліся за яе закасаўшы рукавы. Памочнікамі ў свой трэнерскі квартэт яны запрасілі былых калег Малафеева па дынамаўскаму ансамблю шасцідзесятых гадоў — Веніяміна Арзамасцава і Івана Савосцікава…

На вяртанне ў вышэйшую лігу савецкага футбола ім спатрэбіўся мінімум — усяго адзін год!

Яшчэ тры гады хапіла Эдуарду Малафееву і ягоным тром аднадумцам для таго, каб не проста замацавацца ў кагорце мацнейшых, але і стаць лепшымі ў ёй — заваяваць залатыя ўзнагароды чэмпіянату Савецкага Саюза 1982 года.

— Гэта быў сапраўдны апагей у развіцці ўсяго беларускага футбола, — з гонарам і годнасцю казаў мне тады Эдуард Васільевіч. — Надзейна, на міжнародным узроўні стаяў у варотах Міхаіл Вяргеенка; непраходнымі для самых вострых і напорыстых форвардаў былі нашы абаронцы Сяргей Бароўскі, Віктар Янушэўскі, Юрый Трухан, Віктар Шышкін; раз за разам ішлі наперад, падтрымліваючы атакуючыя дзеянні дынамаўцаў, Юрый Курненін, Андрэй Зыгмантовіч, Юрый Пудышаў, Сяргей Гоцманаў, Валерый Мельнікаў, Людас Румбуціс; за дваіх, а часам і за траіх змагаліся на перадавой лініі атакі Ігар Гурыновіч і Георгій Кандрацьеў… Ну, а самыя адказныя ролі выконвалі Аляксандр Пракапенка і Сяргей Алейнікаў — футбалісты ад Бога, самыя яркія зоркі тагачаснага савецкага і еўрапейскага футбола.

…Прыгадваю, як хваравіта, у вялікай ступені — амбіцыйна сустрэлі тую перамогу дынамаўцаў Мінска іхнія спрадвечныя сапернікі — і перш за ўсё футбольныя каманды Масквы, Кіева, Тбілісі, Ерэвана, Баку… Інакш як выпадковасцю гэта не называлі і журналісты, і каментатары. Мінскім майстрам скуранога мяча пад кіраўніцтвам Эдуарда Малафеева нічога не заставалася рабіць, як яшчэ раз на справе даказаць свае прэтэнзіі на п’едэстал гонару ў савецкім футболе. І ім гэта ўдалося: у сезоне 1983 года яны сталі ўладальнікамі бронзавых узнагарод усесаюзнага першынства…



## *Аляксандр Пракапенка:*

## ЖЫЦЦЁ — БЫ СЛЕД БЛІСКАВІЦЫ…

*Аляксандр Пракапенка нарадзіўся 15 сакавіка 1953 года ў горадзе Бабруйску. Майстар спорту СССР міжнароднага класа па футболу. Бронзавы прызёр XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве (1980). Чэмпіён Савецкага Саюза 1982-га, бронзавы прызёр чэмпіянату 1983-га. Першыя трэнеры — Уладзімір Сасункевіч і Эдуард Малафееў.*

Па папулярнасці сярод беларускіх аматараў футбола ён — у першай тройцы. Эдуард Малафееў, Міхаіл Мустыгін і ён, Аляксандр Пракапенка, і сёння, праз многа гадоў пасля трыумфальнага выступлення на футбольных арэнах рэспублікі і былога Савецкага Саюза, застаюцца ў памяці аматараў спорту яркімі і непараўнальнымі асобамі.

У мінскім «Дынама» — тагачасным флагмане беларускага футбола — ён з'явіўся напрыканцы 1972 года. У спартыўнай і звычайнай, грамадзянскай біяграфіі было ўсяго некалькі слоў: 19 гадоў, нарадзіўся ў Бабруйску, там і пачаў займацца футболам… Невысокага росту, чарнявы сімпатычны юнак, жвавы — гэта былі ўжо, так бы мовіць, знешнія дапаўненні аблічча юнага Аляксандра Пракапенкі.

Праўда, тыя, хто бліжэй знаёміўся з ім, адразу ж адзначалі: малады хлопец, аднак — з характарам!

Тады «Дынама» было на раздарожжы. Заканчваў свой непаўторны і даволі ўдалы спартыўны шлях Эдуард Малафееў, які на працягу цэлага дзесяцігоддзя быў душой і лідэрам калектыву. Кіраўнікі беларускага футбола выдатна разумелі: патрэбен новы арганізатар. Амаль пяць гадоў (!) разлічвалі-спадзяваліся трэнеры на Уладзіміра С., запрошанага ажно з Куйбышава,

не атрымаўся з яго лідэр. Не змаглі пацягнуць гэту нялёгкую ношу ні Анатоль В., ні Ігар Г., ні Анатоль Б., ні Мікалай Ц., дарэчы, таксама ваяжоры: хто з Масквы, а хто — з Кіева… Вядучымі не становяцца, імі, як пацвердзіў час, нараджаюцца! Свае тры-пяць мячоў у вароты сапернікаў той жа Уладзімір С. забіваў, гол-два запісвалі на асабістыя рахункі іншыя ігракі...

Павесці за сабой ім проста не было наканавана лёсам.

Лідэрам, душой каманды Аляксандр Пракапенка станавіўся спакваля, паступова. У сезоне 1973 года — першым у радах дынамаўцаў — ён забіў у вароты сапернікаў усяго толькі адзін мяч. Сам факт, што ажно пяць (!) футбалістаў сталі тады лепшымі ў радах мінчан з… трыма галамі на асабістым рахунку кожнага, зноў і зноў сведчыў: пошукі арганізатара гульні зацягваліся. А тут яшчэ «Дынама» ажно на два гады выбыла з вышэйшай лігі савецкага футбола ў першую, пасля чаго спартыўнае кіраўніцтва рэспублікі, нарэшце, зразумела: надышоў час заняцца стварэннем новага калектыву.

На пошук і адбор выканаўцаў, фарміраванне і загартоўку новых звенняў і каманды ў цэлым пайшла, па сутнасці, цэлая пяцігодка.

…Сезон 1976 года мінскія дынамаўцы пачыналі ў значна абноўленым саставе. Трывала, што называецца, стаяў ужо на нагах паўабаронца Аляксандр Пракапенка, побач, сталеючы літаральна на вачах ад матча да матча, надзейна дзейнічалі Сяргей Бароўскі і Юрый Курненін, Юрый Пудышаў і Пётр Васілеўскі. Яны даволі хутка знайшлі агульную мову, дапаўняючы свае лепшыя якасці старannасцю, настойлівасцю, шчырасцю — на полі і ў быце. Але… Эксперыментальны сезон — 1976, на працягу якога былі праведзены… два чэмпіянаты Савецкага Саюза (вясновы і асенні), беларуская каманда не вытрымала і зноў была вымушана адправіцца на пераэкзаменоўку ў ніжэйшы клас.

На тыя ранейшыя два гады!

…У чарговым сезоне 1979 года ў вышэйшай лізе «Дынама» з беларускай сталіцы паўстала не толькі ў новым абліччы, але і са сваёй канцэпцыяй і стратэгіяй, тактыкай і дзеяннямі на полі наогул. Да згаданых вышэй Аляксандра Пракапенкі, Сяргея Бароўскага, Юрыя Курненіна, Пятра Васілеўскага і Юрыя Пудышава далучыліся Віктар Янушэўскі і Юрый Трухан — у абароне, Валерый Мельнікаў, Сяргей Гоцманаў і Ігар Гурыновіч — у сярэдняй лініі і нападзенні.

Аляксандр Пракапенка сталеў жа і мужнеў не тое што год ад году, хутчэй — ад матча да матча. А калі ў тым жа 1979-м каманду ўзначаліў Эдуард Малафееў, станаўленне і рост калектыву пайшлі літаральна на вачах. Спаўна адносілася гэта і да яго, Пракапенкі — аднаго з лідэраў новага дынамаўскага ансамбля, паўабаронцы, паводле футбольнага амплуа, душы і завадатара — паводле прыроднага таленту…

За наступныя чатыры сезоны выступленняў у вышэйшай лізе савецкага футбола і мінскае «Дынама», і ён, Аляксандр Пракапенка, выклікалі сапраўдны фурор. З колішняга аўтсайдэра, потым — серадняка вышэйшай лігі беларускія майстры скуранога мяча ператварыліся спачатку ў парушальнікаў спакою, пазней — у небяспеку для аўтарытэтаў. У першай палове 1980-х яны сталі правафланговымі, заканадаўцамі моды ва ўсім савецкім футболе!

І першым сярод іх быў мінскі футбаліст пад нязменным шостым нумарам — Аляксандр Пракапенка.

У сезоне 1979 года дынамаўскі паўабаронца забіў у вароты сапернікаў 14 мячоў. Ніхто з прадстаўнікоў гэтага амплуа — нават зоркі кіеўскага «Дынама», маскоўскага «Спартака», ерэванскага «Арарата», днепрапятроўскага «Дняпра» — пахваліцца такім паказчыкам не мог і блізка. У наступным чэмпіянаце Савецкага Саюза паказчык Пракапенкі напалову меншы — 7 галоў. Няшмат? Але ж і нямала для паўабаронцы… У сезоне-1981 ён забіў 9 мячоў у вароты сапернікаў, у наступным — самым памятным і дарагім для мінскага «Дынама» — яшчэ 11… Такім чынам, за чатыры сезоны — 41 гол!

І гэта — у вышэйшай лізе адной з вядучых на той час футбольных дзяржаў свету!

…Калі ў самым канцы 1982 года чэмпіёнаў Савецкага Саюза па футболу — дынамаўцаў Мінска — ушаноўвалі ў тагачасным сталічным клубе імя Дзяржынскага, у зале яблыку не было дзе ўпасці. У клубе не сціхала авацыя! І калі расчулены такой цеплынёй і ўвагай Аляксандр Пракапенка шчыра і непадробна расплакаўся (больш так на трыумф герояў футбола не адрэагаваў ніхто: ні аматары спорту, ні ігракі, ні трэнеры!), кожны з прысутных зразумеў яго — як Чалавека, Спартсмена, Лідэра… У тое імгненне апладысменты ў зале загучалі яшчэ мацней.

На вялікі жаль, улюбёнец лёсу, ён быў спачатку сапраўдным свавольнікам, а потым стаў ахвярай… Такой жа — сапраўднай.

Цяжка пра такое пісаць. Нават сёння, праз многа гадоў пасля таго, як маэстра футбола Аляксандр Пракапенка пайшоў

з жыцця. Пайшоў на ўзлёце заслужанай славы, непадробнага, усеагульнага прызнання, перад новымі чарговымі спартыўнымі вышынямі…

Як у кожнай вядомай спартыўнай асобы, у яго было шмат сяброў. Шчырых, надзейных і добразычлівых; хапала і сяброў выпадковых. Агрэсіўны і няўступлівы на футбольным полі, Саша быў мяккі, безадмоўны, бездапаможны ў жыцці. Ледзь не кожнаму сустрэчнаму, які часцяком нахабна лез у душу, прыставаў з прапановай прапусціць келіх-другі, ён аніяк не мог адмовіць…

Пракапенку рэгулярна аб'яўлялі папярэджанні, вымовы, пераводзілі з асноўнага саставу каманды ў дубль… З ім не раз і не два гутарылі: кіраўнікі каманды і фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама», Федэрацыі футбола і тагачаснага Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР… Нават вышэйшыя чыны партыйнага кіраўніцтва рэспублікі (футбол тады быў дзяржаўна-ўрадавым відам спорту) часцяком запрашалі яго да сябе: ушчувалі, прасілі спыніцца і задумацца… Аляксандр каяўся, прасіў даравацъ «у апошні раз», нярэдка пускаў слязу перад самымі высокапастаўленымі чыноўнікамі. І было тое зноў жа шчырым і непадробным, бо прыкідвацца, шукаць спагады было не ў ягоным, насамрэч байцоўскім, характары.

Але праз тыдзень-другі ўсё паўтаралася зноў…

…З ім яшчэ доўга валаводзіліся — бы з немаўляткам. Саша і насамрэч быў патрэбен Беларусі, тысячам і мільёнам прыхільнікаў ягонага, Пракапенкі, таленту. І не толькі ў нашай дзесяцімільённай рэспубліцы, але і ва ўсім Савецкім Саюзе — ад Брэста да Уладзівастока…

Праз чатыры гады пасля трыумфу «Дынама» — на старце сезона 1987 года — Саша быў заяўлены ў саставе бакінскага «Нефтчы». У Мінску з ім ужо ніхто не мог справіцца… Убачыўшы ягонае прозвішча сярод бакінцаў, мы шчыра радаваліся: а раптам чалавек і сапраўды вырашыў спыніцца, азірнуцца навокал, пачаць новае жыццё?! Балазе, было яму ўсяго толькі 33 — узрост Ісуса Хрыста…

Не, не атрымалася.

А неўзабаве — 29 сакавіка 1989-га — сэрца чэмпіёна СССР 1982 года, бронзавага прызёра Алімпійскіх гульняў 1980-га, майстра спорту міжнароднага класа Аляксандра Пракапенкі не вытрымала: ён памёр...

У пісьме, адрасаваным сыну Дзіму ў студзені 1989 года і выяўленым потым у хатнім архіве сям'і Пракапенкі вядомым спартыўным журналістам Васілём Сарычавым, Саша пісаў: «Ты уже большой и всё понимаешь. Что бы ни случилось, знай: отец у тебя был и есть. Он никогда не был плохим человеком. Ты растёшь и должен быть другим. Лучше, чем я»...

* * *

Кожны з 41 мяча, забітага ім у вышэйшай лізе савецкага футбола, — нібы ўзор для падручніка па самаму любімаму ва ўсім свеце віду спорту. Гол, забіты Аляксандрам на мінскім стадыёне «Дынама» ў вельмі важным і адказным матчы з кіеўскімі аднаклубнікамі (пяткай, стоячы спінай да варот саперніка), — суперузор!

Той гол і сёння да драбніц згадваецца многімі аматарамі футбола…

Фізкультурна-спартыўныя інстанцыі беларускай сталіцы маюць намер устанавіць на мінскім стадыёне «Дынама», тым самым, дзе ззяў сваім майстэрствам Аляксандр Пракапенка, бронзавы бюст нацыянальнага футбольнага героя Беларусі…



## *Сяргей Алейнікаў:*

## БЫЎ У «ДЫНАМА» ДЫРЫЖОР…

*Сяргей Алейнікаў нарадзіўся 7 лістапада 1961 года ў горадзе Мінску. Майстар спорту СССР міжнароднага класа па футболу. Сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы 1988 года. Чэмпіён Савецкага Саюза 1982-га, бронзавы прызёр першынства 1983-га ў складзе мінскага «Дынама». Выступаў у італьянскіх камандах «Ювентус» і «Лечэ». Уладальнік Кубка УЕФА (1990) і Кубка Італіі (1990) у складзе «Ювентуса». Першы трэнер — Валерый Кавалеўскі.*

Пра Сяргея Алейнікава футбольны свет загаварыў у 1982-м. І хоць дэбютаваў ён у вышэйшай лізе савецкага футбола на сезон раней, у чэмпіянаце краіны — 81, увагу на яго тады звярнулі адзінкі: хіба што спецыялісты ды самыя дальнабачныя аматары спорту.

Першыя ўражанні засталіся добрыя. Мерны бег: ведучы мяч, Сяргей уважліва глядзеў па баках, ацэньваючы сітуацыю, шукаючы працяг атакі… Разлічваў, адным словам, хады таварышаў па камандзе. Іграку з шырокім дыяпазонам мыслення справа знаходзіцца заўсёды, незалежна ад таго, як складваецца матч: выйграе яго каманда ці не…

…На першы самастойны крок ён адважыўся ў дзесяцігадовым узросце. Выхваляліся сябры-аднагодкі: хто на футбол пачаў ужо хадзіць, хто — на хакей, а хто — на плаванне… Прыкінуў, што нявconfigarta адставаць і яму. Прыхапіў аднаго разу майку, кеды, трусы і падаўся не куды-небудзь, а ў спецыялізаваную футбольную дзіцяча-юнацкую школу.

— Форма ж была ў іх надта прыгожая, — тлумачыў пасля Алейнікаў свой выбар. — Уяўляеце: жоўтыя футболкі

з дзвюма зялёнымі палоскамі… У нашым двары кожны хлапчук марыў аб ёй.

Цяжка сёння меркаваць, што ўмеў тады рабіць Сяргей. У дваровых баталіях вызначаўся, аднак хто з нас не імкнуўся гадоў у дзесяць-дванаццаць атрымаць мянушку Пеле, Гарынча ці Блахін…

Валерыю Леанідавічу Кавалеўскаму хлапчуковыя смеласць і рашучасць спадабаліся адразу. Папрасіў паказаць, што канкрэтна ўмее ён рабіць з мячом. Сяргей пажангліраваў, зрабіў некалькі прыцэльных удараў…

— Прыходзь, будзем працаваць, — вынес прысуд першы трэнер.

Шмат гадоў ганарыўся пасля Сяргей Алейнікаў тым, што ў Мінскую спецыялізаваную ДзЮСШ № 5 ён трапіў з першай спробы.

Гэта школа дала беларускаму футболу не адну зорку. Менавіта тут выраслі і загартавалі свае характары Юрый Курбыка і Сяргей Бароўскі, Валерый Шавейка і Пётр Васілеўскі, Андрэй Зыгмантовіч і Андрэй Сацункевіч… Аўтарытэт ДзЮСШ-5 у савецкі час быў прызнаны ва ўсім Савецкім Саюзе.

Працаваў Сяргей шмат, з ахвотай, нават — з задавальненнем. Ні ў Валерыя Леанідавіча Кавалеўскага, ні ў Алега Міхайлавіча Базарнава, пад кіраўніцтвам якога займаўся пазней, прэтэнзій да юнага футбаліста зусім не было.

Скончыўшы ДзЮСШ, а з ёй — і сярэднюю школу, Алейнікаў трапіў у шматтысячны калектыў сталічнага «Гарызонта». Сваёй футбольнай каманды ў аб'яднанні не было, і для таго, каб падтрымліваць спартыўную форму, юнак пачаў гуляць… у хакей.

— Ці атрымлівалася? — спытаў я аднойчы ў Сяргея.

— Штосьці ўмеў, — як заўсёды, сціпла адказаў ён.

…Аднойчы, падчас падрыхтоўкі мінскага «Дынама» да чарговага футбольнага сезона, давялося пабачыць, што ўмеў рабіць Алейнікаў у хакеі. Трэніруючыся разам з сябрамі на лёдзе крытага катка ў парку імя Горкага, ён закручваў каля варот сапернікаў такую «карусель», што міжволі закрадвалася сумненне: футбалісты гэта займаліся ці хакеісты? Сказаў аб гэтым тагачаснаму настаўніку «Дынама» Івану Савосцікаву, і ён, пагадзіўшыся з тым, што савецкі хакей мог бы мець у асобе Алейнікава надзейнага іграка зборнай краіны, дадаў:

— Толькі футболу ён больш патрэбны…

І было штосьці заканамернае ў тым, што менавіта так распарадзіўся спартыўны лёс…

Вяртанне Алейнікава ў футбол адбылося ў 1979 годзе. На гэты раз — назаўсёды. Сяргей паступіў на вучобу ў Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры, а там поле дзейнасці — надзвычай вялікае. Спачатку была інстытуцкая футбольная каманда «Буравеснік», якая выступала ў чэмпіянаце рэспублікі, а потым — нарэшце! — і дубліруючы састаў мінскага «Дынама».

Кіраўнікі галоўнай каманды Беларусі менавіта ў той час вырашылі, нарэшце, пайсці на правільны, хоць і даволі адчайны, крок: зрабіць стаўку на сваіх, выхаваных дома ігракоў. Ваяжоры з іншых рэспублік і гарадоў (у тым ліку — і з Масквы), якія кожны год прыбывалі ў Мінск з мэтай дагуляць навідавоку свой футбольны век, памяняць у чарговы раз аўтамашыну ці набыць без чаргі дэфіцытны, замежнай вытворчасці гарнітур, парадкам надакучылі тады і кіраўніцтву беларускага футбола, і шматтысячным прыхільнікам мінскага «Дынама». Памочнікі галоўнага трэнера каманды Эдуарда Васільевіча Малафеева шмат ездзілі па Беларусі, праглядаючы матчы з удзелам калектываў другой лігі, гульні першынства Беларусі. Мэта ставілася адна: знайсці здольную моладзь, папоўніць ёю рады дынамаўцаў.

Па чыёйсьці парадзе сам Эдуард Малафееў прыгледзеўся да Алейнікава. Прыгадваюцца ягоныя словы падчас адной з нашых сустрэч:

— Юнак не без таленту. Прымае нестандартныя рашэнні, умее ўзяць на сябе больш, чым іншыя. У футбольнай справе гэта надзвычай каштоўныя якасці. Хоча і расці, шмат працуе над сабой. А яшчэ цвяроза і аб’ектыўна ацэньвае як свае здольнасці, так і недахопы…

Пазней я ўжо не сумняваўся, што, знайшоўшы такіх футбалістаў, як Алейнікаў, Эдуард Васільевіч распрацаваў канцэпцыю «свайго» футбола, які ён назваў такім ёмістым словам — «шчыры». Крыўдна было, вядома ж, што не зразумелі гэтага таленавітага настаўніка на ўзроўні зборнай Савецкага Саюза. Ён наладжваў адносіны і паміж ігракамі, і трэнераў з футбалістамі — і ў Мінску, і ў галоўнай камандзе краіны — на прынцыпах чыстасардэчнасці, узаемнага даверу, павагі. Праўда, спачатку ў «Дынама» яго зразумелі, далі, што называецца, папрацаваць, праявіць сябе. У выніку мінчане сталі спачатку чэмпіёнамі Савецкага Саюза 1982 года, потым — бронзавымі прызёрамі — 83. Ды і зборная СССР, давераная яму ў самы крытычны момант, з гонарам выйшла тады з выпрабаванняў: атрымала-такі права ўдзельнічаць у чэмпіянаце свету ў Мексіцы…

Але…

Закруцілася нечаканая інтрыга, калектыў, які заваяваў пуцёўку на сусветнае першынство, проста разагналі, і ў Мексіку паехала іншая каманда з іншым кіраўніцтвам…

Але мы, здаецца, некалькі адхіліліся ад тэмы.

Той, «залатой» у будучым мінскай камандзе, якую спакваля фарміраваў Эдуард Малафееў, ён, Сяргей Алейнікаў, не толькі падыходзіў — ён быў ёй проста неабходны. Функцыі дыспетчара, дырыжора атак, якія па задуме галоўнага трэнера павінен быў асвойваць нававбранец «Дынама», здольны выконваць не кожны нават высокакласны футбаліст. Менавіта для вырашэння гэтых задач патрэбны і інтуіцыя, і бачанне поля, і адчуванне гульні — яе накірунку, тэмпу, калі хочаце — дыхання.

…З'явіўшыся ў асноўным складзе «Дынама», Алейнікаў, як кажуць, трапіў у сваю стыхію. Каб выканаць той аб'ём работы, які давяралі яму, трэба было мець выдатную фізічную падрыхтоўку, вынослівасць. Апорны паўабаронца павінен не толькі падтрымліваць атакуючыя парадкі калектыву, але і не менш, а можа, нават і больш, працаваць у абароне. Давайце разам прыгадаем: колькі разоў хадзілі ў атаку чэмпіёны краіны 1982 года абаронцы Юрый Курненін, Віктар Янушэўскі, Юрый Трухан. А Сяргей Алейнікаў адразу ж займаў іхнія месцы, падстрахоўваючы таварышаў. Тут жа змяняўся рытм гульні, каля варот сапернікаў закручвалася славутая мінская «карусель» — і ўжо сам Алейнікаў выконваў у ёй адну з вядучых роляў. Пацвярджэннем гэтаму можа служыць хоць бы такі паказчык: у першым сезоне, гуляючы за мінскае «Дынама», Сяргей забіў у вароты сапернікаў ажно 8 мячоў.

Вось так і працаваў атакуючы дынамаўскі паўабаронца — ад паядынку да паядынку, як бы ён ні складваўся і разгортваўся: па сцэнарыі мінчан ці наадварот — па задуме іхніх праціўнікаў… А яшчэ — незалежна ад таго, як ты сябе адчуваеш, абсалютна здаровы ты ці з незалечанай траўмай…

Заваяваўшы залатыя ўзнагароды чэмпіёнаў Савецкага Саюза, дынамаўцы Мінска ўпершыню выйшлі тады на афіцыйную еўрапейскую арэну: атрымалі права выступаць у розыгрышы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў па футболу. Большасць ігракоў, у тым ліку і Алейнікаў, выдатна разумелі: гэта не толькі ганарова, але і адказна. І дэбютанты не разгубіліся. Дынамаўцы адразу дайшлі да чвэрцьфіналу спаборніцтваў!

А потым былі матчы за Кубак УЕФА і Кубак уладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін…

Сяргей шматкрат прызнаваўся: самы памятны дзень у ягонай футбольнай біяграфіі — 7 лістапада 1984 года. Дарэчы, 7 лістапада — дзень нараджэння спартсмена. Толькі не аб святочным застоллі вядзецца размова: у розыгрышы Кубка УЕФА мінчане прымалі тады на сваім полі славуты партугальскі клуб «Спортынг». У першым паядынку — на полі партугальцаў — гаспадары выйгралі з лікам 2:0. Што і казаць: яны далі фору… Але… 18 мінут хапіла дынамаўцам, каб на сваім полі забіць у вароты гасцей два мячы і аднавіць статус-кво. Праўда, большага ні ў асноўны час, ні ў дадатковыя паўгадзіны зрабіць на ўдалося. Дайшла чарга да пасляматчавых пенальці...

Па чатыры ўдары з адзінаццацімятровай адзнакі сапернікі нанеслі моцна і дакладна. Апошні, пяты, «Спортынг» не рэалізаваў. Рашаючы ўдар у мінчан выпала наносіць яму, Сяргею Алейнікаву. І ён не прамахнуўся, прабіўшы па цэлі якраз туды, дзе варатар мяча нават і не чакаў…

Нягледзячы на складанасці і супярэчнасці абстаноўкі ў зборнай Савецкага Саюза напярэдадні чэмпіянату свету 1986 года ў Мексіцы, паўабаронцу Алейнікава ў каманду ўсё ж такі ўключылі. І гэта было справядліва: у сезоне 1985—1986 гадоў спецыялісты практычна ў адзін голас назвалі яго лепшым іграком у сваім амплуа. Нават такі строгі і патрабавальны настаўнік, як Валерый Лабаноўскі, ставіўся да мінчаніна вельмі добразычліва. Сяргей расказваў мне, як у Мексіцы напярэдадні матча зборных СССР і Венгрыі ў прысутнасці трэнераў і ўсіх футбалістаў Валерый Васільевіч сказаў: «Многія лічаць, што Алейнікаў знаходзіцца ў зборнай незаслужана. А я веру ў гэтага ігрока, і ты, Сяргей, павінен сёння даказаць, што па праву носіш форму зборнай Савецкага Саюза».

Цяжка меркаваць, якія ацэнкі і авансы раздаваў Лабаноўскі сваім непасрэдным выхаванцам — спартсменам кіеўскага «Дынама», якіх у зборнай тых гадоў было зазвычай не менш дзесяці, а вось заслужыць такое прызнанне футбалісту з іншай каманды было вельмі няпроста. Валерый Васільевіч вызначаўся строгасцю, прынцыповасцю, нават — суровасцю. Значыцца, і насамрэч верыў ён у Алейнікава, разлічваў на яго.

…Той высокі давер Сяргей апраўдаў літаральна праз некалькі мінут пасля пачатку матча СССР—Венгрыя, калі, атрымаўшы мяч, нанёс дакладны ўдар па варотах і адкрыў лік.

Пазней японская фірма «Сэйко» ўручыла яму гадзіннік — прыз за адзін з самых хуткіх галоў на сусветным першынстве.

Ва ўсіх матчах, праведзеных на чэмпіянаце савецкай зборнай, Алейнікаў выконваў персанальныя заданні трэнераў. У гульні з венграмі апякаў іх форварда Дэтэры, потым — славутага французскага майстра атакі Плаціні і таксама вядомага нападаючага бельгійскай зборнай Кулеманса. У гэтых майстроў сусветнага футбола ён шмат чаму навучыўся, пераняў. Ды і сам удзел у паядынках на такім высокім узроўні загартаваў характар футбаліста, дазволіў яшчэ больш паверыць у сябе.

Напрыканцы 1980-х гадоў ён стаў адным з першых савецкіх спартсменаў, якія, вобразна кажучы, праклалі першую сцяжынку ў прафесіянальныя футбольныя каманды з краін далёкага і блізкага замежжа. Доўга і надзвычай прыдзірліва прыглядаліся да беларускага майстра скуранога мяча адны з лепшых футбольных спецыялістаў — трэнеры з Італіі. Урэшце перамовы прайшлі, кампраміс, што задавальняў усе бакі — беларускі, італьянскі і непасрэдна яго, Алейнікава, — быў дасягнуты і яны ўдарылі па руках… Так паўабаронца мінскага «Дынама» і зборнай Савецкага Саюза Сяргей Алейнікаў апынуўся ў даволі вядомай у той час італьянскай камандзе «Ювентус».

Заканчваў жа сваю багатую спартыўную кар’еру іграка ён у яшчэ адной камандзе з Апенінскага паўвострава — «Лечэ».

Напрыканцы рызыкну назваць асноўную рысу характару гэтага аднаго з лепшых у гісторыі беларускага футбола майстра. Гэта — уменне абдумваць і цвяроза ацэньваць тое, што робіш. У жыцці наогул, у футболе — на полі, на трэніроўцы, у адносінах з калегамі — у прыватнасці Сяргей заўсёды і ва ўсім быў роўны з іншымі. Знешне ў вочы гэта не кідалася, але было бачна па ўнутраным змесце…

У некаторых дынамаўцаў ягонага пакалення я шматкрат пытаўся: «Што вабіць вас у Алейнікаве?» «Шчырасць», — любімым малафееўскім словам адказвалі адны. «Бескарыслівасць», — чуў я ад другіх. «Сумленнасць», — казалі трэція.

Тры словы… А ў іх — такая поўная і справядлівая характарыстыка былога капітана «Дынама», дырыжора каманды, сябра ўсіх і кожнага…

Пасля заканчэння футбольнай кар’еры ў Італіі Сяргей Алейнікаў застаўся там жыць і працаваць...



## *Сяргей Бароўскі:*

## ФУТБОЛ — НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ!

*Сяргей Бароўскі нарадзіўся 22 чэрвеня 1956 года ў горадзе Мінску. Майстар спорту СССР міжнароднага класа па футболу. Чэмпіён Савецкага Саюза 1982 года, бронзавы прызёр першынства СССР — 1983. Пераможца юнацкіх міжнародных турніраў у Францыі ў 1973 і 1974 гадах у складзе зборнай Беларусі. Удзельнік чэмпіянату свету 1982 года, які праводзіўся ў Іспаніі. Першы трэнер — Леанід Лапуноў.*

Гартаючы падшыўку маладзёжнай газеты «Чырвоная змена» за 1975 год, я наткнуўся на свой артыкул з такімі радкамі: «18-гадовы правы абаронца мінскага “Дынама” Сяргей Бароўскі настолькі надзейна заняў свой адказны пост, што, гледзячы на яго гульню, застаецца толькі захапляцца. Хочацца пажадаць таленавітаму юнаку поспехаў у далейшым авалоданні сакрэтамі спартыўнага майстэрства…»

Што і казаць: прыемна і радасна, калі надзеі на той ці іншы спартыўны (і не толькі) талент збываюцца…

Футболам ён захапіўся з самага дзяцінства. А сваім першым афіцыйным выхадам на зялёнае поле лічыў выступленне ў складзе каманды «Зорачка», створанай пры домакіраўніцтве № 2 у мікрараёне Мінскага мотавелазавода: яна выступала ў спаборніцтвах на прызы вядомага сярод дзяцей клуба «Скураны мяч».

А потым была спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая спартыўная школа № 5. Азы сапраўднага футбольнага майстэрства Сяргей спасцігаў пад кіраўніцтвам выдатнага педагога, тонкага знаўцы дзіцячых характараў Леаніда Андрэевіча Лапунова. Дарэчы, по-

бач з ім станавіліся на ногі і гартавалі сваё майстэрства аднагодкі і сябры Юрый Курбыка, Валерый Шавейка, Пётр Васілеўскі і іншыя вядомыя пазней майстры скуранога мяча.

Ужо ў 17—18-гадовым узросце яны мелі пэўныя здабыткі, што сведчыла: хлопцы многа чаго ўмеюць на полі. У прыватнасці, у 1973 і 1974 гадах юнацкая зборная Беларусі двойчы выйграла прадстаўнічы міжнародны турнір у Францыі, у якім удзельнічалі лепшыя каманды еўрапейскага кантынента.

Самага здольнага — абаронцу Сяргея Бароўскага — ужо ў наступным сезоне запрасілі ў рады флагмана беларускага футбола — мінскага «Дынама».

— Тады, на маю думку, як ніколі раней, ды, відаць, і пазней, у рэспубліцы існавалі трывалыя сувязі і пераемнасць у дзейнасці ланцуга юнацкая — маладзёжная — дарослая каманды, — тлумачыў мне падставы свайго ўзыходжання Сяргей Бароўскі. — Там, у сталічнай ДзЮСШ № 5, адбылося маё знаёмства з Эдуардам Васільевічам Малафеевым, які працаваў тады трэнерам каманды майстроў мінскага «Дынама». Яго добразычлівасць, надзвычай уважлівыя адносіны да моладзі радавалі нас і натхнялі на штодзённую працу, як кажуць, да сёмага поту…

Дэбютны сезон Бароўскага ў «Дынама» аказаўся складаным і адказным па той простай прычыне, што перад калектывам была пастаўлена задача вярнуцца з першай у вышэйшую лігу савецкага футбола. Вопытных ігракоў-абаронцаў у радах каманды было дастаткова, аднак гулялі яны няўпэўнена і не зусім надзейна. Тады яе кіраўніцтва адважылася на ўвядзенне ў склад дынамаўцаў маладых і нават зусім юных спартсменаў. Адным з іх стаў Сяргей Бароўскі.

…А яшчэ праз сем спартыўных сезонаў мінскія дынамаўцы былі ўжо аднымі з першых у савецкім футболе!

У 1982-м 26-гадовы Сяргей Бароўскі быў ужо адметнай фігурай не толькі роднага «Дынама». У айчынных флагманах папярэдніх гадоў — кіеўскім і тбіліскім «Дынама», маскоўскім «Спартаку» — высокім майстэрствам ззялі абаронцы Анатоль Дзям’яненка і Уладзімір Бяссонаў, Аляксандр Чывадзе і Тэнгіз Сулаквелідзе, Вагіз Хідзіятулін і Аляксандр Бубнаў. Ім, што называецца, былі цвёрда гарантаваны і месцы ў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза. Аднак і сам Бароўскі, і кіраўніцтва беларускай каманды адчувалі: іхнія месцы — таксама сярод лепшых у краіне. Даўшы на футбольных палях (у тым ліку і ў сталіцах Украіны, Саюза ССР і Грузіі) сапраўдны бой тым жа кіяўлянам, спартакаўцам і тбілісцам, мінчане стварылі сенса-

цыю ў футболе ўсяго савецкага часу: выйгралі тытул чэмпіёнаў СССР! Кіраўніцтва айчыннага футбола гэты факт ацаніла даволі высока, і ў спіс лепшых ігракоў сезона — 82, акрамя беларускіх паўабаронцаў Аляксандра Пракапенкі, Сяргея Алейнікава, Юрыя Пудышава і нападаючага Ігара Гурыновіча, увайшлі мінскія абаронцы Юрый Курненін, Віктар Янушэўскі і ён — Сяргей Бароўскі. Больш таго, апошні з іх неўзабаве трывала замацаваўся і ў зборнай краіны…

— Бароўскі — ігрок сучасны і вельмі патрэбны любой камандзе, — так характарызаваў мне яго галоўны трэнер, сапраўдны мэтр футбола ўсяго Савецкага Саюза Валерый Васільевіч Лабаноўскі. — Смеласць і надзейнасць, тэхнічнасць і стабільнасць — вось рысы, якімі ён валодае спаўна.

Тую характарыстыку аўтарытэтнага і надзвычай уплывовага Лабаноўскага Сяргей Бароўскі апраўдаў і ў мінскім «Дынама», і ў зборнай СССР.

Выйгрыш тытула чэмпіёнаў краіны ўсклаў на дынамаўцаў новыя абавязкі — ганаровыя і адказныя: прадстаўляць інтарэсы ўсяго савецкага футбола ў розыгрышах Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў, а потым — і Кубка УЕФА. Кажучы іншымі словамі, каманда з Мінска выходзіла на шырокую міжнародную прастору.

Удзел у еўрапейскіх кубкавых турнірах даў кожнаму з дынамаўцаў бясцэнны вопыт, стаў сапраўдным майстар-класам. Яны атрымалі ганаровую магчымасць прымаць на мінскім стадыёне «Дынама» і выязжаць у госці з матчамі ў адказ да такіх прызнаных у той час на кантыненце каманд, як румынскае «Дынама», польскі «Відзеў», «Спортынг» з Партугаліі, «Жалезнічар» з Югаславіі, «Раба ЭТО» з Венгрыі… Беларускія спартсмены не спалохаліся іх гучных тытулаў і папярэдніх перамог, а навязвалі кожнаму з гэтых сапернікаў сваю, дынамаўскую, гульню: надзейную і самаадданую ў абароне, імклівую і вострую ў атацы… Перакваліфікаваўшыся да таго часу ў цэнтральнага абаронцу, Бароўскі выступаў арганізатарам і адным з галоўных выканаўцаў абарончых функцый каманды. Дзякуючы яму і іншым абаронцам і паўабаронцам, «Дынама» даволі ўпэўнена ператварылася з няўмелых вучняў у даволі строгіх экзаменатараў. Тысячы аматараў футбола не адно дзесяцігоддзе (!) згадваюць, напрыклад, трыумфальную перамогу мінчан над адным з мацнейшых у той час на кантыненце клубаў — партугальскім «Спортынгам». Прайграўшы першы матч у Лісабоне з лікам 0:2, яны знайшлі ў сабе сілы мабіліза-

вацца і спаўна аддацца гульні ў паўторным паядынку. З тым жа лікам 2:0, але ўжо на сваю карысць, дынамаўцы закончылі сустрэчу ў Мінску, а ў пасляматчавых пенальці павергглі ў шок вопытных і слынных партугальцаў, у канчатковым выніку выйграўшы ў іх.

Тыя сустрэчы са «Спортынгам» у асабістай біяграфіі Сяргея Бароўскага пазначаны своеасаблівымі штрыхамі. У першай гульні ў Партугаліі ў даволі бяскрыўднай сітуацыі капітан дынамаўцаў забіў гол... ва ўласныя вароты. Да матча ў адказ усе ночы сталі практычна бяссоннымі. Але верх урэшце ўзяла думка: не ўсё страчана, дынамаўцы могуць і павінны сабрацца, аддаць барацьбе ўсе сілы…

Так яно ўрэшце і атрымалася!

Шмат разоў кіраўнікі слынных савецкіх каманд — у тым ліку і кіеўскага «Дынама» — запрашалі яго да сябе. Аднак Сяргей Бароўскі адмаўляўся. Мінск і сталічнае «Дынама» былі для яго тым асяродкам, дзе спаўна раскрыліся і праявіліся яго талент і характар, воля і працавітасць, дысцыплінаванасць і адказнасць. Здрадзіць Бацькаўшчыне ён, як лічыў сам, не меў ніякага маральнага права…

І гэтым сказана ўсё!



## *Сяргей Гоцманаў:*

## ШУКАЎ СЯБЕ Ў БАРАЦЬБЕ

*Сяргей Гоцманаў нарадзіўся 27 сакавіка 1959 года ў горадзе Мінску. Майстар спорту СССР міжнароднага класа па футболу. Сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы 1988 года. Чэмпіён Савецкага Саюза 1982 года, бронзавы прызёр першынства-1983. Гуляў за мінскае «Дынама», англійскі клуб другога дывізіёна «Брайтан». Першы трэнер — Дзмітрый Тарасаў.*

У складзе мінскага «Дынама» першай і другой паловы 1980-х гадоў кожны футбаліст — і гэта зусім не перабольшанне — быў асобай. Міхаіл Вяргеенка і Сяргей Бароўскі, Юрый Курненін і Віктар Янушэўскі, Аляксандр Пракапенка і Сяргей Алейнікаў, Юрый Пудышаў і Андрэй Зыгмантовіч, Георгій Кандрацьеў і ён, Сяргей Гоцманаў, ведалі свае месцы не толькі на футбольным полі, але і ў жыцці наогул. Ведалі цану сабе, сваім здольнасцям і магчымасцям, што, аднак, нікольні не псавала кожнага з іх, а наадварот, спрыяла станаўленню, фарміраванню і працягламу існаванню той каманды, якая па вартасцях называлася сапраўдным калектывам аднадумцаў. Менавіта гэта, на маю думку, і прывяло тады дынамаўцаў у рады флагманаў савецкага футбола, што, як вядома, было не толькі ганаровай і адказнай місіяй, але і выпадала ўсяго толькі пяці-шасці футбольным сталіцам усяго Савецкага Саюза: Маскве, Кіеву, Тбілісі, Ерэвану, Днепрапятроўску і Мінску, каманды якіх заваёўвалі самы прэстыжны тытул — чэмпіёна СССР!

Сярод выдатных асоб «Дынама» 1980-х Сяргею Гоцманаву належала сваё, адметнае і ўласцівае толькі яму месца…

Для вялікага футбола яго знайшоў, адкрыў і даў пуцёўку ў жыццё вядомы спецыяліст Дзмітрый Тарасаў. Гэта ён, у свой час даволі паспяхова пагуляўшы за мінскія каманды «Спартак» і «Дынама», амаль што ўсё сваё далейшае спартыўнае жыццё прысвяціў падрыхтоўцы юнага пакалення футбалістаў. На вельмі і вельмі сціплым нават па тых часах стадыёне «Працоўныя рэзервы» непадалёку ад сталічнага Палаца спорту, як кажуць, днём і ноччу займаўся ён з падлеткамі і юнакамі, на справе перадаючы ім свае вялікія веды і багаты практычны вопыт. Ягоных вучняў з цягам часу пачалі заўважаць — запрашалі і ў мінскае «Дынама», і ў каманды майстроў з беларускіх абласных цэнтраў. У 1970-я гады Дзмітрыю Тарасаву было прысвоена высокае і ганаровае званне «Заслужаны трэнер БССР», а неўзабаве ці не самы здольны і таленавіты ягоны вучань — Сяргей Гоцманаў — атрымаў запрашэнне ў тое ж «Дынама».

На календары быў 1979 год.

Той час стаў для «Дынама» перыядам рэфарміравання каманды. Практычна спаўна выкарыстаўшы свой патэнцыял, сыходзілі з усесаюзнай футбольнай арэны майстар спорту міжнароднага класа Анатоль Байдачны, майстры спорту Уладзімір Курнеў, Валерый Словак, Віктар Гірко, Валерый Сямёнаў… Калектыву для паўнацэннага функцыянавання насамрэч патрэбны былі новыя людзі!

Імі павінны былі стаць прадстаўнікі новай, зусім маладой яшчэ, хвалі беларускага футбола: 18—20-гадовыя Віця Янушэўскі і Юра Трухан, Сяргей Алейнікаў і Андрэй Зыгмантовіч, Валерый Мельнікаў і Ігар Гурыновіч, Георгій Кандрацьеў і ён — хуткасны, тэхнічны і самаадданы паўабаронца Сяргей Гоцманаў.

Першы сезон свайго выступлення ў дынамаўскім калектыве Гоцманаў азнаменаваў двума мячамі, забітымі ў вароты сапернікаў. Кіраўнікі каманды — і найперш галоўны трэнер Эдуард Малафееў і начальнік «Дынама» Леанід Гарай — пахвалілі маладога футбаліста, адзначыўшы, што дзейнічаць на полі трэба яшчэ больш настойліва і рашуча. Прывучаны да строгага і абавязковага выканання трэнерскіх установак, Сяргей на наступны год смялей пачаў уключацца ў атакуючыя рады дынамаўцаў, і ягоны асабісты рахунак склаў ужо 6 забітых галоў. З паўабаронцаў больш — ажно 9 галоў — забіў толькі Аляксандр Пракапенка — усеагульны любімец і каманды, і тысяч аматараў футбола, дарэчы, самы лепшы сябар і партнёр Гоцманава.

— Ведалі б вы, як утульна і прыемна быць побач з ім на полі, — сказаў мне аднойчы Сяргей падчас нашай сустрэчы

і гутаркі. — Ён — геній футбола! Тое, што сапернікі яшчэ толькі задумваюць, Саша бачыць на пяць імгненняў наперад. Ну, а тэхніку яго вы бачыце самі…

У «залатым» для мінскіх дынамаўцаў сезоне-1982 практычна кожны з названых вышэй футбалістаў адпрацаваў на полі спаўна і да канца, можа нават і больш чым мог і павінен быў… Мільёны балельшчыкаў ва ўсім Савецкім Саюзе захапляліся і не адзін раз шчыра апладзіравалі калектыву з беларускай сталіцы. Гэта тады ў іх з'явіліся прыхільнікі ва ўсіх кутках краіны — ад Калінінграда і да Уладзівастока. У Камітэт па фізкультуры і спорту Беларусі, Федэрацыю футбола, рэдакцыі газет, радыё і тэлебачання прыходзілі тысячы пісьмаў і тэлеграм, у якіх аматары самага папулярнага віду спорту на зямлі — Яго Вялікасці Футбола — выказвалі падзяку і прызнанне нашым ігракам за іх высокае выканаўчае майстэрства, смеласць і рашучасць у барацьбе — перш за ўсё ў паядынках з тагачаснымі грандамі айчыннага футбола: маскоўскімі дынамаўцамі і спартакаўцамі, кіеўскімі і тбіліскімі аднаклубнікамі. Сярод герояў спорту разам з іншымі імёнамі называлася імя Сяргея Гоцманава — футбаліста валявога настрою, стабільнага і акуратнага ў дзеяннях, надзейнага і агрэсіўнага...

А потым былі бронзавыя ўзнагароды ўсесаюзнага першынства 1983 года, матчы за Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў і Кубак УЕФА — паядынкі супраць такіх вядомым на кантыненце каманд, як партугальскі «Спортынг», венгерская «Раба ЭТО»… Мінчане з гонарам выйшлі тады з адказных выпрабаванняў, дабраўшыся нават да чвэрцьфінала ў розыгрышы аднаго з тых трафеяў…

За дзесяць гадоў выступлення ў вышэйшай лізе савецкага футбола дынамаўскі паўабаронца Сяргей Гоцманаў правёў 286 матчаў, забіў у іх 41 мяч. Згуляў 31 афіцыйную гульню за зборную СССР, двойчы вызначыўшыся і ў яе радах. Чатыры разы — у 1983, 1985, 1987 і 1989 гадах — прызнаваўся лепшым беларускім футбалістам, што зноў і зноў сведчыла аб ягоным вялікім і непаўторным футбольным таленце.

…З 1996 года Сяргей Гоцманаў жыве з сям'ёй і працуе ў Злучаных Штатах Амерыкі.

*Раздзел X*

## ЦІ ЛЁГКА БЕГЧЫ ПА ХВАЛЯХ

*Гэты від спорту — адзін з нямногіх, дзе не любяць... фанфар. Не любяць, бо ніяк да іх не могуць прывыкнуць. На буйных міжнародных турнірах, нават на чэмпіянатах кантынента, у чым я пераканаўся тройчы, пабываўшы на спаборніцтвах у Італіі, Вялікабрытаніі і Грэцыі, узнагароды пераможцам і прызёрам уручаюцца зазвычай у сціплай, па-свойму хатняй, абстаноўцы. Не гучаць урачыстыя, святочныя мелодыі і на юбілейных вечарах...*

*Не любілі і не любяць прадстаўнікі гэтага віду спорту і гучных слоў пра сябе. У тым ліку і такія Асобы з вялікай літары, як неаднаразовыя пераможцы і прызёры чэмпіянатаў Еўропы, свету і самых буйных міжнародных матчаў і турніраў, заслужаныя майстры спорту Інеса Потэс, Марына Амяльянчык, Юрый Рыктэр, Вячаслаў Дурноў, Алег Дзевятоўскі, Юлія Грамыка, Вольга Паўлава, Ірына Турэц, майстры спорту міжнароднага класа Таццяна Рэцкая, Аляксандр Мінянок, Аляксандр Кадылінскі, Дзмітрый Яскевіч, Алег Надзін, Алена Мазоўка, Аляксандр Баярын, Аляксей Жарнасек, Наталля БердPнікава, Максім Семавін, Марыя Верамчук... Не любілі і не любяць пампезнасці і гучных слоў і іхнія настаўнікі — заслужаны трэнер Савецкага Саюза і Беларусі Віктар Наважылаў, заслужаныя трэнеры рэспублікі Мікалай, Аркадзь і Уладзімір Гяновы.*

*Дзве школы вадналыжнікаў — мінскія і навапалацкая вось ужо амаль што чатыры дзесяцігоддзі рыхтуюць іх, пералічаных вышэй і дзесяткі іншых, менш вядомых, майстроў гэтага мужнага і экзатычнага віду спорту. Рыхтуюць, спаборнічаючы паміж сабой за прыярытэт прадстаўніцтва ў нацыянальнай зборнай Беларусі. І хоць не заўсёды тое саперніцтва добразычлівае верх бярэ зазвычай галоўнае — перамогі на кантынентальных і сусветных спаборніцтвах, устанаўленне сусветных і еўрапейскіх рэкордаў.*




# *Віктар Наважылаў:*

# ФІЗІК… ВОДНЫХ ЛЫЖАЎ

*Віктар Наважылаў нарадзіўся 22 верасня 1939 года ў горадзе Дзімітраў Маскоўскай вобласці. Заслужаны трэнер Савецкага Саюза і Беларусі. З 1964 года — галоўны трэнер зборнай Беларусі па вадналыжнаму спорту. У 1972—1990 гадах — галоўны трэнер зборнай каманды Савецкага Саюза, старшыня трэнерскага савета Федэрацыі вадналыжнага спорту СССР. Падрыхтаваў каля 100 чэмпіёнаў свету і Еўропы, звыш 30 рэкардсменаў свету і кантынента, 5 заслужаных майстроў спорту. Пад яго кіраўніцтвам зборная Беларусі выйграла каля 20 чэмпіянатаў свету і кантынента ў класічных лыжах і за электрацягай.*

…Ці можна ахарактарызаваць таго ці іншага чалавека адным-адзіным словам?

— Нельга! — адкажа хтосьці.

— Няпроста! — зазначыць другі.

— Можна! — стане на сваім трэці…

І кожны будзе мець рацыю.

Віктара Наважылава ахарактарызаваць адным словам, мне здаецца, можна. І слова тое — эрудыт!

Пагутарыць з ім — адно задавальненне. Пра палітыку, эканоміку, на сацыяльныя і культурныя тэмы… Ну, а ў пытаннях спорту ён — сапраўдны дока. І пры гэтым Віктар Віктаравіч не любіць выдаваць сябе гэткім усёзнайкам. Ён любіць іншае — разважаць, думаць і аналізаваць жыццёвыя турботы разам з суразмоўцам.

Пестуном лёсу, шчаслiўцам у жыцці ён ніколі не быў. Усё, чаго дасягнуў Віктар, здабыта працай і толькі працай: настойлівай, ніколі не рэгламентаванай, што называецца — да сёмага поту. Тут жа абавязкова трэба сказаць і пра талент: ад прыро-

ды, ад бацькоў… Плюс настойлівасць: у пошуках сябе, свайго прызвання, свайго «я» ў жыцці…

У дзяцінстве (як і кожны з нас) ён жыў са штодзённай марай. Яму вельмі хацелася стаць марскім лётчыкам. Чаму менавіта марскім, Наважылаў так і не змог растлумачыць. Аднак да сваёй мары ён ішоў упэўнена, праўда — да першай… перашкоды. Набыўшы навыкі палётаў на «Як-18» і абавязковых скачкоў з парашутам у аэраклубе, Віктар не прайшоў прыёмную медыцынскую камісію з-за павялічаных гландаў. Расчараванню не было мяжы, а каб хоць крыху забыць пра няўдачу, пайшоў працаваць на Мінскі трактарны завод. Зразумеў, што не хапае ведаў, і паступіў у прафтэхвучылішча, скончыўшы якое, апынуўся ўжо на гадзіннікавым заводзе…

— Але адчуваў: не мая гэта справа — працаваць слесарам-інструментальшчыкам, — успамінаў Наважылаў. — Цягнула да вучобы, у студэнцкае асяроддзе…

На фізічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ён паступіў адразу, з першай спробы, хоць фізфак лічыўся прэстыжным і не ўсім і кожнаму даступным… Больш таго, пасля заканчэння БДУ Віктару прапанавалі прадоўжыць вучобу ў аспірантуры. Душа, адчуваў ён, да фізікі ляжала, ды і паспрабаваць сябе ў навуковай дзейнасці паспеў ужо ў студэнцкім навуковым таварыстве… Адным словам, пайшоў Наважылаў далей у навуку.

Ды неўзабаве аспірант паклаў перад сваім навуковым кіраўніком заяву: маўляў, пакідаю Белдзяржуніверсітэт і пераходжу ў спорт… Спачатку па навуковай лабараторыі і факультэце, а потым і па ўсім універсітэце пайшла вялікая пагалоска пра аспіранта-дзівака Віктара Наважылава… Балазе, нешта ўжо меў з напрацовак, нават — вынаходствы…

Яго, натуральна ж, адгаворвалі: калегі і сябры па вучобе, кіраўнікі фізічнага факультэта БДУ. Віктар, хутчэй за ўсё, не здрадзіў бы фізіцы, калі б не… няшчасны выпадак. У выніку моцнагаператамлення арганізма ў яго здарылася кровазліццё ў мозг. У Маскве, у славутай на той час «крамлёўцы», ён вымаліў ва ўрачоў даведку аб тым, што яму забараняецца займацца разумовай дзейнасцю…

Бывай, вялікая фізіка!

Наважылаў жа на справе «хварэў» на водныя лыжы.

Ён пазнаёміўся з гэтым відам спорту ў 1964 годзе. Старэйшы брат Яўген прывёз у Мінск з-за мяжы водныя лыжы. Віктар, убачыўшы і абкатаўшы іх, быў проста ашаломлены.

— Хочаш вер, хочаш — не, але тады я зразумеў: гэта і ёсць маё, калі не прызванне, дык захапленне — не менш, — прыгадваў ён потым тыя далёкія часы.

Сумненні ж (калі яны, вядома, былі) прайшлі менш чым праз год, калі ў 1965-м Віктар стаў першым у гісторыі беларускага спорту чэмпіёнам рэспублікі ў новым для ўсіх, яшчэ таямнічым і загадкавым, але такім прыгожым і мужным, відзе спорту.

Ён адчуваў неабходнасць стварэння хоць якой-небудзь базы для развіццяваднalыжнага спорту. Рызыкнуў рабіць гэта ў адзіночку: прабіваць, пераконваць, даказваць — і найперш спартыўнаму кіраўніцтву. Ведаў: гэта забярэ шмат часу, а найперш — здароўя, якога, як зразумеў чытач, тады ў Наважылава не было. Але трымаўся ён аднаго прынцыпу: акрамя яго за гэта не возьмецца ніхто…

І ў гэтым не было аніякага перабольшання.

На гэты раз яму пашанцавала ў адным, але такім важным: ён знайшоў не толькі поўнае разуменне, але і падтрымку. І не ў каго-небудзь, а ў вышэйшага кіраўніцтва нашай рэспублікі. А калі яшчэ дакладней — у самога Пятра Міронавіча Машэрава.

Тагачасны першы сакратар ЦК КПБ не толькі палюбіў душой і сэрцам ваднalыжны спорт, але і бязмерна захапляўся мужнасцю і смеласцю саміх спартсменаў. А яшчэ прыйшліся даспадобы Пятру Міронавічу характар, кампетэнтнасць, дасведчанасць, тая самая эрудыцыя Віктара Наважылава. Многія са сведак іхніх сустрэч расказвалі мне пра шматлікія і даволі працяглыя гутаркі кіраўніка Беларусі і апантанага новым відам спорту аматара, спартсмена і трэнера адначасова. Прычым, гутарылі яны не толькі на спартыўныя тэмы…

Прыхільнікаў і аднадумцаў Віктар знайшоў даволі хутка. І неўзабаве на вадасховішчы Пціч пад Мінскам з’явіўся ваднalыжны клуб «Алімпія», створаны пры добраахвотным спартыўным таварыстве «Працоўныя рэзервы».

— Чым канкрэтна дапамагаў Машэраў? — перапытаў аднойчы ў мяне Віктар Віктаравіч. — Ды шмат чым. Па-першае, па ягоным прамым указанні дазволілі нам «абжываць» Пціч… Па-другое, першае абсталяванне і тэхнічныя сродкі займелі мы з ягонай дапамогай: самы першы, больш-менш прыстойны, катэр югаслаўскай вытворчасці таксама паставілі нам па заданні Пятра Міронавіча…

І справа пайшла!

Фундамент пад першыя спартыўныя дасягненні закладваўся спакваля, прадумана і мэтанакіравана. Пераймаць чыйсьці во-

пыт, вучыцца ў каго-небудзь не дазвалялі ні сродкі, ні магчымасці. Ды і не было дзе гэта рабіць… Прама на вадзе прыдумвалі свае камбінацыі, непасрэдна на беразе будавалі графікі, выводзілі формулы і табліцы… Вось тут і спатрэбіліся веды Віктара Наважылава ў фізіцы і матэматыцы: многае, і перш за ўсё ў фігурным катанні на водных лыжах, распрацавана ім асабіста. З дапамогай, вядома ж, вучняў…

Ну, а галоўнай умовай будучых набыткаў быў, несумненна, пошук, адбор і выхаванне спартсменаў. Поруч з распрацоўкай метадаў трэніровак і вучэбна-выхаваўчага працэсу вёўся пошук здольных, працавітых, настойлівых хлопчыкаў і дзяўчынак, гатовых ахвяраваць (у прамым і пераносным сэнсах гэтага слова) усім — часам і іншымі захапленнямі — дзеля заняткаў воднымі лыжамі.

— За чатыры дзесяцігоддзі існавання клуба, — падводзіў неяк Наважылаў вынікі сваёй работы, — мы выхавалі сотні сапраўдных людзей. Людзей шчырых, сумленных, загартаваных. І гэта не проста гучныя словы — так яно на справе. Не ўсе яны сталі чэмпіёнамі ці рэкардсменамі, затое ў надзвычай складаным, цяжкім узросце яны займаліся вялікай — без перабольшання — справай. Хлопчыкі і дзяўчынкі бачылі сапраўдныя адносіны да выбранага занятку, ім было на каго раўняцца. І гэта было для нас ці не самым важным і галоўным у штодзённай рабоце.

Першыя поспехі ў вялікім спорце прыйшлі да выхаванцаў Віктара Наважылава роўна праз дзесяць гадоў пасля заснавання клуба. Тады, у 1975—1976 гадах, з’явіліся ў «Алімпіі» і першыя майстры спорту міжнароднага класа: чытай, прызнаныя на еўрапейскай і ўсесаюзнай арэнах асы сваёй справы. Імі сталі Таццяна Рэцкая, Інеса Потэс, Вольга Стальнова, Аляксандр Кадылінскі, Віктар Мельнік… А яшчэ праз два гады самая працавітая і таленавітая з вучаніц Наважылава першага набору Потэс на чэмпіянаце Еўропы заваявала залаты медаль у фігурным катанні. Больш таго, за стабільныя паказчыкі (Інеса шматкрат была чэмпіёнкай і рэкардсменкай Савецкага Саюза) ёй адной з першых у воднalыжным спорце было прысвоена ганаровае званне заслужанага майстра спорту СССР.

Пасля тых першых поспехаў пра «Алімпію», ягоных выхаванцаў і, вядома ж, пра стваральніка і кіраўніка клуба ўсё больш і больш пачалі гаварыць у спартыўным свеце. І не без падстаў на тое. За трыццаць апошніх гадоў выхаванцы Віктара Наважылава атрымалі звыш 120 перамог на чэмпіянатах свету

і кантынента. Усяго заваявана каля 300 медалёў. Дваццаць разоў беларуская зборная станавілася пераможцай чэмпіянатаў Еўропы ў камандным заліку. Устаноўлена звыш 50 сусветных і еўрапейскіх рэкордаў.

— Кожны з маіх выхаванцаў, а тым больш такія, як пералічаныя вышэй, плюс Марына Амяльянчык, Юлія Грамыка, Дзмітрый Яскевіч, Алег Надзін, Вольга Паўлава, Алена Мазоўка, Ірына Турэц, — мая законная гордасць, мая годнасць і маё сумленне, — прызнаўся аднойчы ў нашай нязмушанай сяброўскай гутарцы Віктар Віктаравіч. — У кожнага з іх складаны, непаўторны характар, свае асабістыя погляды на жыццё наогул і на вялікі спорт — у прыватнасці, свае пазіцыі. І, калі хочаш, свае капрызы, патрабаванні…

Так, двух аднолькавых людзей, а тым больш людзей маладых, як кажуць, сучасных — у жыцці, натуральна, не бывае. Тым больш аднолькавымі іх не выхаваеш і не перайначыш. Уласна кажучы, Наважылаў ніколі і не імкнуўся да гэтага. Вось і ўявіце: колькі трэба педагагічнага майстэрства, такту, чалавечага цярпення, вытрымкі, нарэшце — звычайнага ўмення, каб знайсці да кожнага свой падыход, устанавіць з кожным свае, асабістыя і асаблівыя, адносіны…

Віктару Наважылаву гэта ўдавалася!

За шмат гадоў знаёмства з ім, з многімі ягонымі выхаванцамі я не чуў ад яго павышанага тону размовы. Наогул, складваецца такое ўражанне, што Наважылаў не ўмее злавацца, быць незадаволеным. А калі аднойчы спытаў у яго пра гэта: «Адкуль такая вытрымка?» — ён так і не знайшоў, што адказаць мне…

А можа, пытацца аб гэтым не трэба было?!



## *Марына Амяльянчык:*

## ПРЫГАЖУНЯ: У ЖЫЦЦІ І СПОРЦЕ

*Марына Басінская (Амяльянчык) нарадзілася 4 жніўня 1962 года ў Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Неаднаразовая чэмпіёнка Еўропы і Савецкага Саюза па вадналыжнаму спорту. Рэкардсменка Еўропы ў фігурным катанні. Трэнеры — Сяргей Кудлач, Інеса Потэс, Віктар Мельнік і Віктар Наважылаў.*

— Калі я ўпершыню ўбачыў гэту неверагодную прыгажуню і весялуху, я доўга не мог апрытомнець! Калі ж я ўбачыў тое, што яна вырабляе на лыжах на вадзе, — я проста не знаходзіў сабе месца: няўжо гэта насамрэч магчыма?!.

Гэтыя словы, адрасаваныя вядомай беларускай вадналыжніцы Марыне Амяльянчык, сказаў мне ў далёкім 1987-м Андрэа Алесі — вядомы ўжо тады італьянскі майстар водных лыжаў, чэмпіён еўрапейскага кантынента. Мы сядзелі з ім на беразе невялікага штучнага возера ў італьянскай правінцыі Равена, дзе павінна была прайсці традыцыйная матчавая сустрэча паміж зборнымі камандамі Італіі і Беларусі, і вялі гаворку пра жыццё-быццё.

Пазней я перадаў змест нашай размовы самой Марыне Амяльянчык. І трэба было бачыць, з якім шчырым смехам успрыняла наша слынная спартсменка той аповед!

І пры першым знаёмстве з ёй, і потым — падчас пастаянных сустрэч — уражанне адно: яна ніколі і ні пры якіх абставінах не сумуе, не губляе пачуццяў рэальнага ўспрыняцця абставін, сур'ёзнасці і гумару адначасова… На маю думку, ідзе гэта ад упэўненасці (але зусім не ад самаўпэўненасці!) у сваіх сілах і магчымасцях, жыццёвых прынцыпах і пазіцыях, ад поўнага ведання таго, чаму прысвечана жыццё — усё, без астатку!

І за такіх людзей трэба радавацца, прысутнасцю іх сярод нас варта ганарыцца…

Усяго ў жыцці — і перш за ўсё ў вялікім спорце — Марына дасягнула сваёй працай, шчырасцю і самаадданасцю. Колькі памятае сябе, заўсёды перад тым, як штосьці зрабіць, імкнулася, што называецца, зазірнуць за гарызонт, каб убачыць канчатковы вынік. Тое ж атрымалася і з любімым заняткам — воднalыжным спортам…

…Калі першы раз яна ўбачыла катэр і спартсмена, што імкліва мчаў за ім на водных лыжах, душу ахапіла неўтаймаваная радасць, а сэрца на імгненне… спынілася. «Вось гэта кайф!» — іншага выразу Марына тады і не знайшла. І прыйшла да высновы: гэта — для яе!

Заснавальніку і галоўнаму трэнеру вадналыжнага спартыўнага клуба «Алімпія» Віктару Наважылаву яна спачатку прыглянулася. Праўда, сама дзяўчынка спалохалася, на яе думку, суровага і прыдзірлівага настаўніка. Калі ж перадумала (на гэта пайшло дзесяць дзён), сваё меркаванне змяніў Віктар Віктаравіч… І хто ведае, як склаўся б далейшы лёс Марынкі, калі б не звярнулі на яе ўвагу Сяргей Кудлач і Інеса Потэс — людзі ў «Алімпіі» вядомыя, спагадлівыя і добразычлівыя. Абодва яны ў недалёкім мінулым былі надзвычай слыннымі спартсменамі (Інеса Міхайлаўна, як ужо згадвалася вышэй, з'яўлялася першай савецкай чэмпіёнкай Еўропы) і якраз у той час пачыналі рабіць першыя самастойныя крокі ў якасці трэнераў…

Паказчыкі юнай Амяльянчык раслі, што называецца, не па днях, а па гадзінах. І вось яна ўжо — першаразрадніца: спартыўны нарматыў даволі высокі! Як высветліцца пазней, увесь той час неабыякавым заставаўся да яе Наважылаў: і ў Кудлача цікавіўся яе справамі, і зрэдку назіраў за юнай спартсменкай на вадналыжнай трасе. У прынцыпе, гэта было звычкай і добрай традыцыяй Віктара Віктаравіча: кожнага больш-менш здольнага спартсмена трымаць у полі зроку…

Аўтарытэт Наважылава ў вадналыжным спорце ва ўсім Савецкім Саюзе быў вялікі і бясспрэчны. Ён быў адным з нямногіх у савецкім спартыўным руху прадстаўніком так званай перыферыі, хто адначасова з'яўляўся і галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай СССР, і старшынёй трэнерскага савета Федэрацыі вадналыжнага спорту краіны. З аднаго боку, гэта было вельмі высокае даручэнне; з другога — надзвычай вялікая адказнасць і за камплектаванне калектыву, і, вядома ж, за вынікі выступленняў на міжнароднай арэне. Мінскі спецыяліст спраўляўся з усім:

як кажуць, за прыгожыя вочы на працягу амаль што дваццаці гадоў яго на гэтых пасадах наўрад ці трымалі б!

Ужо ў 1983 годзе Марына Амяльянчык стала чэмпіёнкай Савецкага Саюза, уладальніцай рэкорду кантынента. Апошні быў устаноўлены на матчавай сустрэчы зборных каманд Беларусі і Італіі, якія тады па чарзе праводзіліся то на Апенінах, то на беларускай зямлі. Падчас спаборніцтваў у адным з прыгарадаў італьянскай сталіцы Марына і ўстанавіла рэкорд Еўропы ў фігурным катанні за катэрам, які пратрымаецца амаль што 20 (!) гадоў. Аднак… Ні ў маладзёжную, ні, тым больш, у дарослую зборную краіны Віктар Наважылаў яе не рэкамендаваў. І толькі праз некалькі гадоў, калі атрымала цяжкую траўму тагачасны лідэр савецкай зборнай масквічка Вольга Губарэнка, «шэф», як называлі ўсе часам залішне строгага і прынцыповага Наважылава, уключыў нарэшце Амяльянчык у зборную для выступлення на чарговым кантынентальным першынстве. У сваім каронным відзе — фігурным катанні — дэбютантка таго чэмпіянату адразу ж заваявала бронзавую ўзнагароду. Была, дарэчы, на высокім, пятым месцы і ў мнагаборстве, аднак з-за далейшых прынцыповых разыходжанняў з галоўным трэнерам у падыходах да крытэрыяў адбору ўдзельнікаў наступных чэмпіянатаў і турніраў яна па ўласнай ініцыятыве неўзабаве перастала выступаць у двух іншых відах вадналыжнай праграмы — скачках з трампліна і слаламе — і, такім чынам, сканцэнтравалася толькі на сваіх любімых і непаўторных «фігурах» на вадзе…

Сканцэнтравалася, каб потым шматкрат узнімацца на вышэйшую прыступку п’едэстала гонару на чэмпіянатах Еўропы і Савецкага Саюза, многіх іншых важных і адказных міжнародных і ўсесаюзных спаборніцтвах.

У 1991 годзе Марына ўзяла шлюб з вядомым беларускім стралком, неаднаразовым прызёрам Алімпійскіх гульняў, пераможцам сусветных і еўрапейскіх першынстваў Ігарам Басінскім. Неўзабаве ў іх нарадзіўся сын Міша (сёння ён, дарэчы, з поспехам працягвае справу мамы ў іх любімым вадналыжным спорце), і Амяльянчык-Басінская займела сур’ёзны намер назаўсёды пакінуць вадналыжную трасу. Задумала — і пакінула! Аднак праз два гады ёй патэлефанаваў Наважылаў і прапанаваў выступіць на чарговым чэмпіянаце кантынента… «Вырашыўшы паглядзець сама на сябе, праверыць, на што я здольная, — згадвала потым Марына, — я і пагадзілася. І прывезла з еўрапейскага першынства свой чарговы, на той раз — сярэбраны — медаль…»



## *Алег Дзевятоўскі:*

## «ЛЮБОЎ МАЯ — ВОДНЫЯ ЛЫЖЫ…»

*Алег Дзевятоўскі нарадзіўся 18 снежня 1973 года ў горадзе Наваполацку. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чатырохразовы абсалютны чэмпіён Еўропы 1998, 2000, 2002 і 2006 гадоў па вадналыжнаму спорту; шматразовы пераможца і прызёр сусветных і еўрапейскіх першынстваў, розыгрышаў Кубкаў свету і Еўропы ў мнагаборстве, камандных спаборніцтвах, слаламе і фігурным катанні. Першы трэнер — Аркадзь Гяноў.*

…Сачыць за выступленнем Алега Дзевятоўскага — адно задавальненне. Праўда, вельмі часта замірае сэрца і часцей пачынае пульсаваць у жылах кроў, настолькі рызыкоўныя, проста неверагодныя трукі робіць ён на водных лыжах! Калі я сказаў аб гэтым Алегу, ён толькі ўсміхнуўся: маўляў, нічога страшнага, у кожнага з нас свая справа…

Свая справа! Яе Алег Дзевятоўскі абраў (у гэта проста немагчыма паверыць!)… у васьмігадовым узросце.

…У Наваполацкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву па вадналыжнаму спорту імя Мікалая Гянова, якая пачала сваё існаванне ў сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя, ці не з самага пачатку дзейнасці і выкладчыкі, і навучэнцы вядуць летапіс сваіх спраў і здзяйсненняў. Летапіс сціплы і сціслы, аднак — канкрэтны і арыгінальны. У двух-трох абзацах кожны з іх піша і выказвае ўсё, што думае, чым жыве і дыхае… Адзін з выхаванцаў калектыву даражыць, што прайшоў тут «добрую жыццёвую школу»; другі вельмі хоча вярнуцца ў дзяцінства, бо такога, як у іх, не было ні ў кога; трэці ганарыцца, што «жыў у дзяцінстве жыццём клуба і праводзіў тут увесь вольны час»…

Алег Дзевятоўскі таксама занатаваў свае ўражанні. Вось яны: «Упершыню водныя лыжы я ўбачыў у 8 гадоў на возеры Суя, калі адпачываў у піянерскім лагеры "Ленінец". Вельмі спадабалася! Тады і вырашыў, што буду займацца гэтым відам спорту. У клуб запісаўся ў 9 гадоў. Памятаю: самым вялікім першым уражаннем былі фатаграфіі на сценах клуба і ўтульнасць. Ну а потым, вядома ж, строгасць і патрабавальнасць Мікалая Леанідавіча Гянова. На працягу ўсяго часу мяне тут утрымлівае вельмі многае, але самае галоўнае — імкненне дасягнуць высокіх вынікаў у водных лыжах. Але не толькі спорт аб'ядноўваў нас у той час. Думаю, усім запомніліся вечары падвядзення вынікаў, лета на Суі, лазня пад Новы год. Гэта тое, што дарагое ўсім нам…»

Звычайныя, простыя словы… А за імі — гады і нават ужо дзесяцігоддзі ў вялікім спорце, сапраўдны «зорны» шлях заслужанага майстра спорту, аднаго з трох мацнейшых мнагаборцаў-вадналыжнікаў свету Алега Дзевятоўскага.

Наваполацкі школьнік-другакласнік прыйшоў у клуб у 1983-м. Прыйшоў і застаўся тут назаўсёды, нават нягледзячы на «строгасць і патрабавальнасць» трэнераў! «Хутчэй наадварот: тая строгасць і патрабавальнасць, — перакананы першы і адзіны настаўнік Алега, заслужаны трэнер Беларусі Аркадзь Гяноў (сын Мікалая Леанідавіча Гянова — заснавальніка і шматгадовага кіраўніка Наваполацкай школы вадналыжнага спорту), — што панавалі, пануюць і будуць панаваць у нас, дапамагаюць і ўсяляк спрыяюць станаўленню юных спартсменаў…»

Сярэднюю школу ён скончыў з сярэбраным медалём, Полацкі дзяржаўны універсітэт — з адзнакай! Паспяхова вучыўся і ў аспірантуры гэтай ВНУ. Свабодна валодае англійскай і французскай мовамі… Адным словам, самы што ні ёсць сучасны малады чалавек!

— У нацыянальнай зборнай па вадналыжнаму спорту, — працягваў Аркадзь Гяноў, — Алег — аўтарытэт з аўтарытэтаў. Думаю, не сапсуе яго гэта, аднак скажу: ягонымі словамі і меркаваннямі даражылі, да іх прыслухоўваліся не толькі таварышы па камандзе, але і мы — трэнеры і спецыялісты. Бо за ягонай спіной — вялікі вопыт і багатыя веды, не пабаюся яшчэ аднаго гучнага слова — сапраўднае трыумфальнае шэсце па ўсіх без выключэння вадналыжных спартыўных арэнах кантынента і свету. Алег шмат гадоў жыве воднымі лыжамі, ён ведаў і ведае магчымасці і нават гатоўнасць на кожны канкрэтны момант кожнага свайго саперніка. І пры гэтым, адзначу,

ніколі не пераацэньваў, як, дарэчы, і не недаацэньваў, і свае магчымасці, свой стан. У вялікім спорце гэта не тое што важна, а проста бясцэнна!

Мы пазнаёміліся і пасябравалі з ім у 2006 годзе — падчас чэмпіянату Еўропы па водных лыжах у Грэцыі. Алег шмат і з ахвотай расказваў пра старажытную Эладу, якая дарагая і памятная для яго тым, што там ён упершыню ўзняўся на міжнародны п'едэстал гонару: яшчэ ў 1989-м 16-гадовы школьнік з Наваполацка на першынстве кантынента (узрост спартсменаў да 17 гадоў) стаў бронзавым прызёрам у вадналыжным слаламе.

У наступным, 1990 годзе, у галандскім Хандэлі на такога ж узроўню спаборніцтвах юны беларускі спартсмен атрымаў ужо поўны камплект узнагарод: у слаламе — бронзавы, у фігурным катанні — сярэбраны медалі, а ў самым прэстыжным відзе — мнагаборстве — стаў чэмпіёнам Еўропы. Год жа 1991-ы азнаменаваўся першымі дасягненнямі сярод дарослых вадналыжнікаў: Дзевятоўскі заваяваў бронзавую ўзнагароду ў мнагаборстве, сярэбраную — у фігурным катанні і залатую — у камандным першынстве на еўрапейскім чэмпіянаце.

Гэта быў не проста поспех. У прыгожы, аднак такі складаны і рызыкоўны від спорту на міжнародным узроўні не проста ўвайшоў, а ў прамым сэнсе слова ўварваўся грозны, няхай сабе і зусім яшчэ юны атлет: не па гадах мужны і разважлівы, таленавіты, бліскуча падрыхтаваны да барацьбы на самым высокім узроўні.

З таго часу — амаль два дзесяцігоддзі! — Алег Дзевятоўскі нязменна кожны спартыўны сезон адзначаўся новымі і новымі ўзыходжаннямі на п'едэсталы гонару. У ягонай альма-матэр — Наваполацкай спецыялізаванай ДзЮСШ алімпійскага рэзерву па вадналыжнаму спорту імя Мікалая Гянова — настаўнікі і падрастаючыя юныя таленты па-ранейшаму скрупулёзна вядуць летапіс спраў і здзяйсненняў сваіх выхаванцаў. Адзін з лепшых сярод іх, вядома ж, ён. Толькі на чэмпіянатах свету і Еўропы Алег заваяваў 8 залатых, 7 сярэбраных і 15 бронзавых медалёў. 30 узнагарод вышэйшых спартыўных форумаў, на якіх, як вобразна сказаў аднойчы сам Дзевятоўскі, кожны раз не проста горача, а вельмі горача, нават у ветранае, а іншым разам і сцюдзёнае надвор'е…

Дарэчы, і ў многіх іншых выхаванцаў Наваполацкай школы поспехі адметныя і значныя. 31 такую ж ўзнагароду ўсяго толькі за некалькі гадоў выступленняў на міжнароднай арэне заваявала Марыя Верамчук — яна аднолькава паспяхова змагаецца як у класічных водных лыжах (за катэрам), так і ў рык-

сане (на электрычнай цязе). 30 медалёў залатой, сярэбранай і бронзавай вартасці і ў хатнім музеі самага лепшага і надзейнага сябра Дзевятоўскага ў жыцці і ў зборнай Беларусі Аляксея Жарнасека; два з паловай дзесяткі ўзнагарод у актыве зусім юнага яшчэ Германа Белякова; 20 — у Наталлі Берднікавай; па 10 медалёў сусветных і еўрапейскіх чэмпіянатаў у калекцыях заслужаных майстроў спорту Юрыя Рыктэра і Вячаслава Дурнова… І гэта дала толькі адна дзіцяча-юнацкая спартыўная школа алімпійскага рэзерву, сціплая, як кажуць у такіх выпадках, — перыферыйная!

Чатыры разы — у 1998, 2000, 2002 і 2006 гадах — Алег Дзевятоўскі заваёўваў самыя ганаровыя і прэстыжныя ўзнагароды — абсалютнага чэмпіёна Еўропы. Наогул жа мнагаборства для яго — сапраўднае поле для дэманстрацыі сваіх магчымасцей, match-разнабаковых і match-разнапланавых здольнасцей. «З ім, — пажартаваў аднойчы Аркадзь Гяноў, — змагаецца ўвесь еўрапейскі кантынент: англійскія, італьянскія, французскія, бельгійскія, чэшскія вадналыжнікі — такія ж таленавітыя, здольныя і настойлівыя, аднак навапалачанін пастаянна дае ім бой!..»

…Як гэта бывае на справе, я ўбачыў у тым жа 2006-м, на еўрапейскім чэмпіянаце ў Грэцыі. У складаных, неспрыяльных умовах надвор’я наш лідэр, прыняўшы выклік агрэсіўна, насамрэч па-баявому настроеных англічан Томаса Ашэра і Ясана Шэла, італьянца Марка Рывы, упэўнена, магутна і проста прыгожа прадэманстраваў сваю перавагу над імі, перш за ўсё ў самым прэстыжным відзе мнагаборства — фігурным катанні. Што, урэшце, і прывяло Алега Дзевятоўскага ў чарговы раз на вышэйшую ступеньку кантынентальнага п’едэстала гонару…

Ён любіць, даражыць і ганарыцца сваёй справай. Усё гэта плюс несумненны прыродны талент і вядзе заслужанага майстра спорту Алега Дзевятоўскага ад адной вышыні да другой…

*Раздзел XI*

## ГІГАНТЫ СКАРАЮЦЬ АЛІМП

*Як і многія іншыя гульнявыя віды спорту, баскетбол не патрабуе асабліва вялікіх выдаткаў на сябе. Сама назва яго — ад англійскіх слоў «basket» — кошык + «ball» — мяч — сведчыць, што канкрэтна патрэбна для заняткаў ім. Аранжавага колеру мяч плюс два кошыкі (дакладней: кольцы з сеткамі), замацаваныя на спецыяльных шчытах, — вось і ўсё абсталяванне. Ну і вядома ж, галоўныя дзеючыя асобы — па пяць ігракоў у кожнай з дзвюх каманд…*

*У баскетбольных аналах зафіксавана, што першыя правілы гульні распрацаваў яшчэ ў 1891 годзе амерыканец Джон Нейсміт. Праўда, на шырокую міжнародную арэну баскетбол выйшаў намнога пазней. Толькі ў 1936 годзе яго прызнаў Міжнародны алімпійскі камітэт і ўключыў у «мужчынскую» частку праграмы XI Гульняў. Жанчыны ж пачалі выяўляць мацнейшых у свеце толькі праз 40 гадоў — на XXI Алімпіядзе-76 у Манрэалі.*

*На Беларусі баскетбол пачаў развівацца з 1921 года, калі ў Мінску, Гомелі, Віцебску і некаторых іншых гарадах з'явіліся першыя аматарскія каманды. Так бы мовіць, больш стала і сур'ёзна гэты від спорту ў нас пачалі асвойваць ужо пасля Вялікай Айчыннай вайны, калі ім зацікавіліся перш за ўсё ў студэнцкім асяроддзі. У Беларускім дзяржаўным універсітэце, політэхнічным і педагагічным інстытутах з'явіліся каманды, на чале якіх стаялі сапраўдныя энтузіясты гэтай гульні. І ўжо ў 1946 годзе быў праведзены першы чэмпіянат рэспублікі па баскетболу.*

*Сапраўднае ж станаўленне і росквіт беларускага баскетбола прыйшліся на 1960—1980 гады. Менавіта тады ў нас з'явіліся каманды майстроў гэтай гульні, якія прымусілі прызнаць сябе нават баскетбольную эліту ўсяго савецкага баскетбола…*

*У сярэдзіне 1960-х на ўсесаюзнай спартыўнай арэне пачала выступаць беларуская мужчынская баскетбольная каманда са сціплай назвай РТІ. На базе Мінскага радыётэхнічнага інстытута вялікі энтузіяст і прыхільнік гэтай гульні Іван Панін сфарміраваў калектыў, у склад якога ўвайшлі не толькі студэнты-радыётэхнікі, але і прадстаўнікі іншых навучальных устаноў, і нават вытворчых падраздзяленняў. Міне літаральна некалькі гадоў, і каманда атрымае права гуляць у класе «А» першынства Савецкага Саюза.*

*Хто ж былі тыя сапраўдныя аматары баскетбола, якія (праўда, неафіцыйна) былі прызнаны першымі беларускімі майстрамі-прафесіяналамі?*

*Першым нумарам сярод іх і Іван Панін, і самі баскетбалісты, і аматары гульні лічылі Уладзіміра Крысевіча — сталага і разважлівага чалавека, які, калі ўжо браўся за тую ці іншую справу, заўсёды даводзіў яе да канца. «Сцяпанавіч» — так звалі Крысевіча і сябры, і ўсе, хто яго ведаў і нават не ведаў, з'яўляўся не толькі капітанам РТІ, але і самай сапраўднай душой калектыву. На пляцоўцы ён быў узорам: і ў гульні, і ў паводзінах... Нямногія ведалі, што ва Уладзіміра Сцяпанавіча ёсць і яшчэ адно, можа нават і куды большае, чым спорт, захапленне-прызванне, — навука. Тэма ягонай распрацоўкі была тады закрытай, аднак напрыканцы 1960-х многія даведаліся, што Уладзімір Крысевіч — ігрок і капітан баскетбольнай каманды Мінскага радыётэхнічнага інстытута абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені кандыдата фізіка-матэматычных навук!*

*На яго, насамрэч, можна і трэба было раўняцца. І ігракі РТІ раўняліся...*

*Пад яго капітанскім уздзеяннем, поруч з ім выраслі і сфарміраваліся як высокакласныя майстры Аляксей Шукшын і Валерый Акімаў, Мікалай Красніцкі і Аляксандр Барысаў, Канстанцін Шаравера і Уладзімір Краўчанка... Іх вёў наперад Уладзімір Сцяпанавіч Крысевіч — лідэр каманды РТІ, перад якой не-не ды і не маглі ўстаяць нават такія гранды тагачаснага савецкага баскетбола, як ленінградскі «Спартак», кіеўскі «Будаўнік», тбіліскае «Дынама»...*

*У тым жа складзе РТІ, што называецца, «стаў на ногі» і спаўна заявіў аб сабе і будучы алімпійскі чэмпіён, будучы шматгадовы лідэр савецкай зборнай і маскоўскага ЦСКА Іван Ядзешка…*

*Убачыўшы і адчуўшы захапленне баскетболам не толькі мужчын, але і прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва, рэспубліканскі Спорткамітэт і Федэрацыя баскетбола Беларусі вырашылі неадкладна заняцца і станаўленнем жаночага баскетбола. Пасля доўгіх і працяглых дэбатаў, каманду майстроў было вырашана стварыць на базе спартыўнага клуба Мінскага аб'яднання па вытворчасці тэлевізараў «Гарызонт». Балазе, там была ўжо і даволі прыстойная зала, ды і спецыяліст з'явіўся высокакваліфікаваны і проста апантаны — Сямён Халіпскі.*

*Таленты для сваёй каманды Сямён Львовіч шукаў па ўсёй Беларусі. А найбольш — па мінскіх вышэйшых навучальных установах, школах, спартыўных секцыях. І знаходзіў… Ужо ў сярэдзіне 1970-х каманду пад назвай «Гарызонт» ведалі ўсе — і спецыялісты, і аматары баскетбола. Калі ж адна за другой у сусветны спартыўны летапіс запісалі свае імёны выхаванкі «Гарызонта», алімпійскія чэмпіёнкі Таццяна Івінская (Белашапка), Ірына Свірыдзенка (Сумнікава) і Алена Ксенжык (Швайбовіч), чэмпіёнкі кантынента Галіна Крысевіч (Савіцкая), Ірына Губа, Яніна Пякарская, беларускі баскетбол пачалі паважаць у Савецкім Саюзе і на ўсім кантыненце…*

*Чарговую старонку ў гісторыю айчыннага баскетбола ўпісала новае пакаленне айчынных баскетбалістак. Пад кіраўніцтвам самабытнага і таленавітага спецыяліста Анатоля Буяльскага зборная Беларусі заваявала бронзавыя медалі чэмпіянату Еўропы 2007 года. Атрымаўшы потым пуцёўку на XXIX Алімпійскія гульні ў Пекін, нашы дзяўчаты і там выглядалі прыстойна: яны занялі на Гульнях-2008 ганаровае і высокае пятае месца. Імёны многіх з іх — Алены Леўчанка і Настассі Верамеенка, Вольгі Падабед і Наталлі Марчанка, Вольгі Масіленене і Кацярыны Сныцінай, Марыны Крэс і Таццяны Троінай — спецыялісты і балельшчыкі вымаўлялі з павагай і гонарам за нашу Беларусь…*



## *Іван Ядзешка:*

## «ЗАЛАТАЯ» ПЕРАДАЧА

*Іван Ядзешка нарадзіўся 23 сакавіка 1945 года ў вёсцы Стэцкі на Гродзеншчыне. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён ХХ Алімпійскіх гульняў у Мюнхене (1972) па баскетболу. Бронзавы прызёр ХХІ Гульняў у Манрэалі (1976). Чэмпіён свету (1974), сярэбраны прызёр сусветнага першынства (1978). Двухразовы чэмпіён Еўропы — 1971 і 1979 гадоў, сярэбраны прызёр еўрапейскага першынства (1975), бронзавы — чэмпіянату кантынента (1973). Васьміразовы чэмпіён Савецкага Саюза — 1971, 1972, 1973, 1974, 1976, 1977, 1979, 1980 гадоў. Першы трэнер — Анатоль Марцынкевіч.*

…Тры секунды ў спорце — які б гэта від ні быў! — не больш імгнення! А ў гульнявых відах — тым болей. Ну, скажыце, што можна паспець за тыя ж тры секунды ў футболе ці хакеі, валейболе ці гандболе, рэгбі ці баскетболе… Хаця…

Якраз пра баскетбол мы і павядзём зараз гаворку.

…Мюнхен, 1972 год, Гульні ХХ Алімпіяды. Фінальны матч баскетбольнага турніра паміж зборнымі Злучаных Штатаў Амерыкі і Савецкага Саюза. Лік 50:49 на карысць амерыканскіх спартсменаў. Гучыць сірэна: сустрэча спыняецца, секундамер — таксама. Мяч перадаецца зборнай СССР…

Да канца паядынку… тры секунды.

— Амерыканцы літаральна ўсёй камандай высыпаюць на пляцоўку, — па свежых уражаннях ад таго матча расказваў потым наш герой Іван Ядзешка. — Што ж, яны мелі на тое маральнае права: яны і фаварыты, яны і лідэры… А мы? Шэф — Уладзімір Пятровіч Кандрашын — падазваў нас да сябе. Бачым: разгубленасці — аніякай.

«Выводзім на заключны кідок Сашу Бялова, — сказаў настаўнік сваім выхаванцам. — Не спяшайцеся, не гарачыцеся, але ж і не марудзьце… Мяч з-за лініі ўводзіць Ваня Ядзешка. Перадача на Мадэстаса Паўлаўскаса, ты, Мадэстас, адразу ж аддаеш мяч Сашу… Зразумела?»

Ну што магло быць тут незразумелым?! Тры трэнерскія каманды-даручэнні, тры перадачы мяча, і на ўсё гэта — адно імгненне: тыя ж тры секунды…

— Я бяру мяч у рукі, вачамі шукаю Паўлаўскаса, — працягваў свой успамін Іван Ядзешка. — Шукаць дык шукаю, а што карысці: прыкрыты Мадэстас надзейна і жорстка. Стрэлка секундамера пабяжыць толькі пасля таго, як з мячом сустрэнецца хтосьці з нашых, так што і на роздум для прыняцця рашэння часу яшчэ хапала… І раптам бачу: на амерыканскай палове пляцоўкі стаіць Саша Бялоў, сапернік-апякун ці то згубіў яго, ці то проста робіць выгляд, што не ўяўляе ён для супернікаў аніякай небяспекі… Што ж, калі так, то трымай: і я накіроўваю мяч праз усю пляцоўку туды, да амерыканскага кальца…

Проста?

Не сказаў бы…

Безразважна?

Ды аб чым размова…

А вось тонка, разлічана і ўзважана — гэта, як казаў адзін вядомы літаратурны герой, факт!

…Тую сітуацыю дзесяткі тэлеканалаў не адзін год круцілі на ўвесь спартыўны свет. Круцілі як узор выканаўчага майстэрства, самаадданасці і настойлівасці, як найлепшы прыклад барацьбы да самага апошняга імгнення…

Мяч, пасланы беларусам Іванам Ядзешкам, — у паветры; туды ж, увысь, сапраўднай пантэрай узмывае цэнтравы савецкай зборнай, ленінградскі выхаванец Уладзіміра Пятровіча Кандрашына Саша Бялоў… Яшчэ да сустрэчы з мячом ён, прама ў паветры, развярнуўся, а прыняўшы аранжавы шар, імгненна зрабіў два крокі і накіраваў яго ў кальцо саперніка…

Доўга?

Ды што вы…

На ўсё гэта якраз і хапіла тых трох секунд-імгненняў!

На табло лічбы змяніліся — ды як: замест 50:49 на карысць каманды ЗША стала 51:50, але ўжо на карысць зборнай Савецкага Саюза.

…На арэне мюнхенскага Палаца спорту ў імгненне ўтвараецца сапраўдная куча мала. Дарослыя, вялікія (у прамым

і пераносным сэнсах слова) людзі кідаюцца адзін на аднаго і ў парыве радасці і шчасця, здаецца, могуць пазбавіць таго-сяго пачуццяў і адчування рэальнасці… Падставы? Ды аб чым размова: упершыню ў гісторыі сучаснага алімпійскага руху амерыканцы прайграюць фінал у баскетбольным турніры! І каму — савецкай зборнай: тагачаснаму ідэалагічнаму сапернiку і нават «ворагу»…

Кажуць, тую перамогу савецкае партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва на чале з Леанідам Ільічом Брэжневым расцаніла як «самую бліскучую перамогу над заходнім капіталізмам»…

Аднак проста так аддаваць перамогу кіраўніцтва баскетбольнай зборнай ЗША ўсё ж не адважылася. У апеляцыйнае журы Алімпіяды быў пададзены афіцыйны пратэст: маўляў, ну што гэта за справа — выйграць фінал за «нейкія» тры секунды…

І толькі пад раніцу скандал быў уладжаны: за савецкай зборнай перамога была зацверджана афіцыйна!

— Матч мы выйгралі заканамерна і сумленна, — казаў Іван Ядзешка пасля аднаго з чарговых прыездаў у Мінск… У горад, які даў яму, так бы мовіць, афіцыйную пуцёўку і ў вялікі баскетбол наогул, і на Мюнехенскі алімпійскі турнір у прыватнасці…

Спортам ён захапіўся ў Гродне, хаця першай «любоўю» быў не баскетбол, а… бокс. Займаўся настойліва і самааддана, але да таго моманту, пакуль не сустрэў на сваёй жыццёвай дарозе трэнера па баскетболу Анатоля Марцынкевіча. Пазнаёміліся, перагаварылі — і пакрочылі поруч!

Яму заўсёды шанцавала на настаўнікаў: шчырых, сумленных і праведных педагогаў. Першымі трэнерамі будучага алімпійскага героя сталі згаданы ўжо Анатоль Іванавіч Марцынкевіч і Якаў Рыгоравіч Фруман у Гродне, потым ён трапіў у такія ж надзейныя і спрактыкаваныя рукі Вячаслава Аляксандравіча Кудрашова і Івана Аляксандравіча Паніна — у Мінску. Менавіта сталічныя баскетбольныя клубы — спачатку гэта быў «Спартак», а потым каманда Мінскага радыётэхнічнага інстытута — дазволілі развіцца самабытнаму таленту Івана Ядзешкі, стаць яму на ногі, пакрочыць у вялікі спорт далей…

Не будзем утойваць: у беларускай сталіцы яму было «цесна» і няўтульна. У вышэйшай лізе савецкага баскетбола РТІ «жылося» так сабе: вышэй восьмага-дзесятага месца ў турнірнай табліцы каманда не ўзнімалася ніколі… І хоць гулялі ў ёй такія самабытныя і індывідуальна моцныя майстры, як Уладзімір Крысевіч, Аляксей Шукшын, Валерый Акімаў, Мікалай Красніцкі, але высокакласнага калектыву, здольнага на роўных змагацца з тагачаснымі

лідэрамі савецкага баскетбола, у нас, на жаль, не было… Ён жа, Іван Ядзешка, рос і сталеў на вачах. І гэта бачылі не толькі ў беларускай сталіцы, але і «вышэй». У 1970-м, як гэта і было тады звычаёвай нормай, мінскага студэнта РТІ Ядзешку мабілізавалі ў рады Савецкай Арміі, і ён пачаў выступаць за вядомы на еўрапейскім кантыненце клуб ЦСКА.

Тады і «засвяціла» яму такая жаданая і заслужаная майка нацыянальнай зборнай з гербам Саюза ССР…

На лёс іграка каманды ЦСКА пад кіраўніцтвам мэтра сусветнага баскетбола Аляксандра Якаўлевіча Гомельскага Ваня не скардзіўся ніколі. Ды, уласна кажучы, а чаго яму не хапала?! Месцы і ў армейскім клубе, і ў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза, якую якраз тады, на пачатку сямідзесятых, і ўзначальваў Гомельскі, нашаму выхаванцу былі гарантаваны. Хапала і тытулаў, званняў, узнагарод… Нават калі кіраўніцтва зборнай СССР перайшло ў рукі маладога і таленавітага спецыяліста з Ленінграда Уладзіміра Пятровіча Кандрашына, не пакрыўдзіў Ядзешку і той, адкрыта заявіўшы: Іван у нашым ансамблі — на першых ролях…

І Іван Ядзешка ў вялікім баскетболе насамрэч задаваў тон. Дзесяць гадоў выступаў ён у радах нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза і практычна ніколі не быў ценем, не згубіўся ў сузор'і тагачаснага савецкага баскетбола: Сяргея і Аляксандра Бяловых, Генадзя Вальнова, Мадэстаса Паўлаўскаса, Зураба Сакандэлідзе, Анатоля Беласценнага, Міхаіла Коркія…

Некалькі дзесяцігоддзяў мінула ўжо пасля таго, як на баскетбольных пляцоўках Мінска і Масквы, Мюнхена і Тбілісі, Манрэаля і Будапешта, дзесяткаў іншых гарадоў ярка і самабытна ззяў талент выхаванца беларускай фізкультурна-спартыўнай арганізацыі Івана Іванавіча Ядзешкі. Радасна і прыемна ўсведамляць такое! Але ж і крыўдна за тое, што гэта пакуль што — наша адзіная сапраўдная зорка ў такім прыгожым і ўсенародна любімым відзе спорту — мужчынскім баскетболе!



## *Таццяна Белашапка:*

## МАЙСТАР — З ЮНЫХ ГАДОЎ!

*Таццяна Белашапка (Івінская) нарадзілася 27 сакавіка 1958 года ў горадзе Віцебску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве (1980) па баскетболу. Чэмпіёнка свету 1983 года. Чэмпіёнка Еўропы 1985 года. Двухразовая пераможца чэмпіянатаў кантынента 1973 і 1977 гадоў сярод юніёрак. Пераможца міжнародных спаборніцтваў «Дружба-84». Чэмпіёнка Гульняў добрай волі 1986 года. Бронзавы прызёр Спартакіяды народаў СССР 1983 года. Узнагароджана двума медалямі «За працоўную доблесць». Першы трэнер — Людміла Гусева.*

Нашым, беларускім відам спорту на ўсесаюзнай і міжнароднай спартыўных арэнах баскетбол у многім стаў дзякуючы ёй. Бо менавіта яна, Таццяна Івінская-Белашапка з сярэдзіны 1970-х і да сярэдзіны 1980-х гадоў з поспехам выступала ў зборных камандах Савецкага Саюза, вяла за сабой наперад і флагман беларускага баскетбола — сталічны клуб «Гарызонт».

…З’яўленне Тані Івінскай у адной з баскетбольных секцый горада Віцебска нечаканасцю для яе сябровак і знаёмых не стала ніколькі. Гэтым захапляльным і надзвычай эмацыянальным відам спорту ўжо шмат гадоў займаліся яе родныя брат і сястра, дзяўчынка шмат разоў з цікаўнасцю сачыла за іхняй гульнёй. Узрадаваліся яе прыходу ў секцыю і трэнеры Людміла і Аркадзь Гусевы: працавітасць і настойлівасць старэйшых Івінскіх яны паспелі ўжо ацаніць, а ў Тані ў дадатак прываблівалі яшчэ і высокі рост, добрая скаардынаванасць, рухавасць…

Ужо ў 1973-м, калі Таццяне Івінскай ледзь толькі споўнілася 15 гадоў, аматары спорту пачулі яе імя, звярнулі на дзеянні дзяўчынкі самую пільную і прыдзірлівую ўвагу. На Усесаюз-

ных юнацкіх гульнях, што праходзілі ў Вільнюсе, цэнтравая беларускай каманды дзейнічала на пляцоўцы не па гадах стала і разважліва. Менавіта дзякуючы гульні Тані нашы дзяўчаты занялі тады ганаровае трэцяе месца, а яна, лідэр і арганізатар камандных дзеянняў, трапіла «на аловак» баскетбольных спецыялістаў і трэнераў.

У тым жа 1973-м Івінскую запрасілі і на першы трэніровачны збор юніёрскай зборнай Савецкага Саюза. Якое ж было здзіўленне дзяўчынкі, калі яна даведалася аб тым, што новыя сяброўкі па камандзе старэйшыя за яе ажно на тры (!) гады… Дзякуй Богу, і самі трэнеры юніёрскай зборнай, і новыя партнёркі ў пашпарт не зазіралі: месца ў калектыве вызначалася і характарызавалася перш за ўсё гульнёй, пастаяннымі дзеяннямі там, на баскетбольнай пляцоўцы.

1973 год працягваўся: менавіта тады зборная савецкіх юніёрак заваявала залатыя ўзнагароды на першынстве кантынента, а ёй, выхаванцы віцебскага баскетбола Таццяне Івінскай, разам з іншымі юнымі спартсменкамі было прысвоена ганаровае званне «Майстар спорту СССР». Паўторым: ёй было тады пятнаццаць, і ў такім, яшчэ дзіцячым, узросце запаветныя значок і пасведчанне, тым больш — у гульнявых відах спорту — уручаліся адзінкам ва ўсім Савецкім Саюзе.

У юніёрскай, а паралельна — і ў маладзёжнай зборнай краіны яна даволі хутка стала адным з лідэраў. Аднак іх, правафланговых, у гульнявых відах спорту вельмі часта чакаюць траўмы і пашкоджанні. З гэтым Івінская ўшчыльную сутыкнулася ў 1975-м. На трэніроўцы адна са спартсменак зусім няветліва абышлася з ёй, сваёй жа партнёркай, у выніку чаго ў Таццяны аказаўся пашкоджаным меніск. Спартыўныя ўрачы вынеслі сур’ёзны і адназначны вердыкт: сезон давядзецца прапусціць!

Паралельна са зборнымі Івінская з поспехам выступала тады і ў складзе новай для сябе клубнай каманды — мінскім «Гарызонце». У тым жа 1973-м у сталічны калектыў яе запрасіў галоўны трэнер Сямён Халіпскі, які меў проста неверагодную задуму: стварыць у беларускай сталіцы каманду вышэйшай лігі айчыннага баскетбола.

Сярод ігракоў «Гарызонта» яна адразу ж знайшла падтрымку і разуменне. Галіна Крысевіч — дачка слыннага капітана мужчынскай каманды Мінскага радыётэхнічнага інстытута Уладзіміра Крысевіча, зямлячка з Віцебска, выхаванка той жа Людмілы Гусевай Ірына Губа і яна, Таня Івінская, неўзабаве ўтварылі грознае трыо, якое, вобразна кажучы, магло «раза-

рваць» любую каманду першай лігі савецкага жаночага баскетбола. На жаль, праз год-другі Івінская паддалася на спакусы-запрашэнні больш тытулаваных клубаў і апынулася неўзабаве ў ленінградскім «Спартаку». А яшчэ праз два гады — ужо на шчасце беларускіх аматараў спорту — яна вярнулася ў «Гарызонт»… Каманда набыла новае дыханне, адчула пад нагамі глебу, і ў 1979-м заваявала пуцёўку ў вышэйшую лігу.

Тых, хто зрабіў «Гарызонт» камандай лепшага айчыннага тузіна жаночага баскетбола, не толькі ведалі ў твар, але і па заслугах шанавалі кіраўнікі нацыянальнай зборнай. Фарміруючы састаў прэтэндэнтак на ўдзел у Гульнях XXII Алімпіяды ў Маскве, сама галоўны трэнер каманды Лідзія Аляксеева аднoй з першых назвала кандыдатуру Таццяны Івінскай. На пасяджэнні трэнерскага савета зборнай яна так і сказала: «Гэта дзяўчына мне проста патрэбная!»

У 22-гадовым узросце на пляцоўцы савецкай сталіцы яна тварам у твар сутыкнулася з самымі сапраўднымі зоркамі сусветнага баскетбола. Сутыкнулася, аднак жа зусім не разгубілася! Ужо ў першым паядынку па праграме Алімпіяды — з камандай Югаславіі — маладая беларуска набрала 10 ачкоў, зрабіла некалькі ўдалых падбораў мяча на кальцы і перахопаў яго падчас атак саперніц і, такім чынам, унесла свой уклад у перамогу з лікам 97:62, а заадно атрымала ад суровай, але справядлівай настаўніцы зборнай даволі высокую адзнаку за дзеянні… І ў наступных пяці паядынках з удзелам савецкай зборнай Таццяна нiколькі не выпадала са зладжаных камандных дзеянняў, у выніку якіх адна за другой былі перможаны каманды Балгарыі, Італіі, Кубы, Венгрыі і зноў — ужо ў фінальнай сустрэчы — Балгарыі! Разам з іншымі 12 савецкімі баскетбалісткамі — удзельніцамі XXII маскоўскай Алімпіяды-80 — Таццяна Івінская была ўганаравана залатым медалём чэмпіёнкі.

У наступныя шэсць гадоў яе асабістая спартыўная калекцыя медалёў пастаянна папаўнялася ўзнагародамі самай высокай вартасці. Акрамя самага высокага спартыўнага тытула — алімпійскай чэмпіёнкі былі яшчэ залатыя медалі чэмпіёнкі свету і Еўропы, пераможцы альтэрнатыўных Алімпіядзе-84 спаборніцтваў пад назвай «Дружба-84», надзвычай прэстыжных Гульняў добрай волі 1986 года… Вельмі даражыла і даражыць Таццяна Івінская-Белашапка і бронзавай узнагародай Спартакіяды народаў Савецкага Саюза, заваяванай разам з беларускімі сяброўкамі ў 1983 годзе.




## *Ірына Сумнікава:*

## НА АЛІМП — УСЛЕД ЗА БРАТАМ

*Ірына Сумнікава (Свірыдзенка) нарадзілася 15 кастрычніка 1964 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне (1992) па баскетболу. Бронзавы прызёр Гульняў XXIV Алімпіяды ў Сеуле (1988). Сярэбраны прызёр чэмпіянату свету 1986 года. Двухразовая чэмпіёнка Еўропы —1989 і 1991 гадоў. Двухразовы бронзавы прызёр еўрапейскіх першынстваў — 1995 і 1999 гадоў. Двухразовая чэмпіёнка Расіі — 2001 і 2002 гадоў. Сярэбраны прызёр чэмпіянату Савецкага Саюза 1989 года. Бронзавы прызёр Спартакіяды народаў СССР 1983 года. Бронзавы прызёр расійскага першынства 2003 года. Трохразовы прызёр чэмпіянату Венгрыі — 1998, 1999 і 2000 гадоў. Уладальніца бронзавай узнагароды розыгрышу Кубка СССР 1982 года. Выступала за каманды Беларусі, Германіі, Венгрыі, Расіі. Узнагароджана медалём Расійскай Федэрацыі «За выдатныя дасягненні і вынікі ў спорце». Першы трэнер — Таццяна Масіч.*

Дваццаць тры гады ў гульнявых відах спорту, ды яшчэ — на самым высокім узроўні — такім спартыўным даўгалеццем могуць пахваліцца адзінкі айчынных атлетаў. З прадстаўніц прыгожай палавіны чалавецтва (вось вам і слабы пол!) яна, калі мне не здраджвае памяць, наогул адна-адзіная ва ўсёй гісторыі беларускага спорту!

…Калі мяч трапляў у рукі разыгрываючай мінскага «Гарызонта» Ірыны Свірыдзенка, у зале раўнадушных проста не было. Гэта мы бачылі ў беларускай сталіцы ў 1980—1992 гадах на ўласныя вочы… Кажуць, тое ж назіралася і падчас выступленняў Свірыдзенкі-Сумнікавай у нямецкім «Оберхаузене» і венгерскіх камандах «Пошта» і «BSE», расійскім «Ды-

нама» (Масква). Ды і як можна было заставацца абыякавым, калі кожны з аматараў баскетбола, які прыходзіў пасачыць за гульнёй, ведаў: гэта невысокага росту па баскетбольных мерках спартсменка — самая што ні ёсць непрадказальная. Авалодаўшы мячом, яна, адпаведна свайму гульнявому амплуа, павінна была не толькі весці за сабой партнёрак у атаку, але і маланкава задумваць і прапаноўваць ім сам ход атакуючых дзеянняў, напрамак іх развіцця… Не, зусім не выпадкова ўсе лічылі яе самым разумным іграком у жаночым баскетболе!

Спорт у сям'і мінчан Свірыдзенкаў быў самым любімым заняткам. Для ўсіх і кожнага, а для дзяцей — тым больш. Два браты — Вітольд і Георгій і сястра Ірына ці не з пялёнак пасябравалі з лыжамі і веласіпедам. Гледзячы на іх, мама — Таісія Сцяпанаўна толькі радавалася: маўляў, добрай справай займаюцца яе дзеці!

Два з трох яе любімцаў дасягнулі самых высокіх у сусветным спорце вышынь — сталі алімпійскімі чэмпіёнамі: Георгій — па гандболу; Ірына — па баскетболу. Нароўні са спартыўным даўгалеццем Ірыны Сумнікавай-Свірыдзенкі гэты факт таксама варты Кнігі рэкордаў Гінеса!

Як і многія іншыя сталічныя школьнікі, яна «выпрабавала» на сабе многія віды спорту. Мастацкая гімнастыка і фігурнае катанне былі самымі першымі з іх. Аднак… Стаць грацыяй на дыване Іра задумала тады, калі, мякка кажучы, было ўжо пазнавата, а секцыі юных фігурыстаў у тым мікрараёне, дзе жылі Свірыдзенкі, не было зусім. На школьных жа занятках па фізкультуры ёй больш за ўсё падабалася бегаць на кароткія дыстанцыі і скакаць у вышыню. А тут яшчэ прыйшло захапленне плаваннем, знайшла сябе дзяўчынка і ў школьным танцавальным гуртку і хоры… Адным словам, поўнае раздарожжа!

Бачачы і добра разумеючы схільнасці дачкі да спорту, Таісія Сцяпанаўна раіла ёй з канчатковым выбарам не спяшацца, зрабіць яго адзін раз і назаўсёды. З тых жа настаўнікаў і трэнераў, якія спрабавалі схіліць Іру да «свайго» віду спорту, найбольш настойлівай аказалася Таццяна Масіч — спецыяліст па баскетболу. Больш таго, яна змагла пераканаць Таісію Свірыдзенка, што месца яе дачкі — на баскетбольнай пляцоўцы.

Выбар быў зроблены, і Іру запісалі ў спартыўны клас сярэдняй школы № 44 горада Мінска!

Азы баскетбола ёй даліся даволі лёгка. А неўзабаве і амплуа вызначылася: разыгрываючая.

У 1979 годзе хтосьці расказаў пра яе настаўніку мінскай каманды майстроў «Гарызонт» Сямёну Халіпскаму. Мэтр трэнерскага корпуса жаночага баскетбола запрасіў яе на так званы прагляд і на свае вочы пераканаўся: з 15-гадовай школьніцы можа вырасці высокапрафесійны ігрок. І уключыў неўзабаве Іру ў склад свайго калектыву.

Пачалося сапраўднае вялікае спартыўнае жыццё…

Праз пяць гадоў на вядучага іграка «Гарызонта» звярнуў увагу галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза Яўген Гомельскі. І не без падстаў: мінская каманда даволі паспяхова выступала ў чэмпіянаце краіны, а яна, Ірына Свірыдзенка, у прамым сэнсе слова вяла за сабой баявы і здольны калектыў, сфарміраваны і «адшліфаваны» Сямёнам Львовічам Халіпскім. Больш таго, праз год-другі здольнасці і прыродны талент Іры прызналі і ацанілі і «зорныя» сяброўкі па зборнай СССР, і яна стала для іх сапраўдным аўтарытэтам на баскетбольнай пляцоўцы.

1988 год стаў для сям'і Свірыдзенкаў насамрэч святочным: са сталіцы Паўднёвай Карэі Георгій Свірыдзенка і Ірына Сумнікава (за год да Алімпіяды яна выйшла замуж за вядомага беларускага велагоншчыка Ігара Сумнікава і пачала выступаць пад ягоным прозвішчам) прывезлі дзве алімпійскія ўзнагароды: Жора — залаты медаль за выступленне ў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза па ручному мячу, а Іра — бронзу за трэцяе месца каманды СССР па баскетболу. Дарэчы, тады ж бронзавую ўзнагароду атрымала і яе сяброўка па «Гарызонту» Галіна Крысевіч-Савіцкая. Пасля Алімпійскіх гульняў, памятаю, многія задавалі сабе самае што ні ёсць рытарычнае пытанне: «А ці зможа калі-небудзь і Ірына паўтарыць поспех брата?»

Змагла. Паўтарыла!

У 1992 годзе на XXV Алімпіяду — другую ў сваім жыцці — у складзе аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў Ірына Сумнікава ехала ў рангу капітана калектыву. Там, у алімпійскай Барселоне, яўнымі і бясспрэчнымі фаварытамі жаночага баскетбольнага турніра лічыліся спартсменкі зборнай Злучаных Штатаў Амерыкі: яе настаўнікам удалося сабраць пад сцягам нацыянальнай каманды, па сутнасці, два раўназначныя калектывы. Але і намеры баскетбалістак СНД былі самымі што ні ёсць высокімі. Аднак… У першым жа матчы алімпійскага турніру каманда Садружнасці ўсяго толькі два ачкі ўступае зборнай Кубы — 89:91.

Але настаўнікі калектыву і яго капітан змаглі знайсці тыя мабілізуючыя словы, якія з'ядналі яго, настроілі на поўную самааддачу. У наступных матчах зборная СНД паслядоўна выйграла ў каманд Італіі і Бразіліі, а ў паўфінале здзейсніла сапраўдны спартыўны подзвіг: перамагла «непераможную» амерыканскую баскетбольную дружыну з лікам 79:73. Фінальная гульня супраць спартсменак Кітая ўжо не магла спыніць атакуючы парыў і выдатны гульнявы настрой зборнай на чале з Ірынай Сумнікавай: лік 76:61 на карысць зборнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў! Алімпійскае золата XXV Гульняў атрымала прапіску на неабсяжных прасторах СНД… І на гэты раз адной з надзейных і самааддданых сябровак па камандзе была ў Ірыны зямлячка — яшчэ адна мінская баскетбалістка Алена Швайбовіч (Ксенжык).

У складзе зборнай Расіі Ірына Сумнікава прымала таксама ўдзел у Алімпійскіх гульнях 1996 і 2000 гадоў у Атланце і Сіднеі, аднак тым камандам узысці на вышэйшы спартыўны п'едэстал гонару не ўдалося: яны занялі адпаведна пятае і шостае месцы…



## *Алена Швайбовіч:*

# САПРАЎДНАЯ ДУША КАМАНДЫ

*Алена Швайбовіч (Ксенжык) нарадзілася 3 лютага 1966 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіёнка XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне (1992) па баскетболу. Чэмпіёнка Еўропы 1989 года. Чэмпіёнка маладзёжнага першынства свету 1986 года. Сярэбраны прызёр чэмпіянату СССР 1987 года. Чатырохразовая чэмпіёнка Расіі — 1997, 1998, 1999 і 2000 гадоў. Двухразовая чэмпіёнка Польшчы — 1993 і 1994 гадоў. Першы трэнер — Аляксандр Малашка.*

Камплектуючы каманды для ўдзелу ў адказных міжнародных спаборніцтвах, трэнеры і спецыялісты, як правіла, прытрымліваюцца прынцыпу падбору ігракоў па так званай тэрытарыяльнай прыкмеце. Гэта значыць, стараюцца адабраць па некалькі, ну хоць бы па два-тры ігракі з адной і той жа каманды. Узаемаразуменне, выпрацаванае паміж такімі спартсменамі на працягу некалькіх гадоў сумесных выступленняў, рана ці позна спрацуе і абавязкова пойдзе на карысць справе. І гэты прынцып зазвычай апраўдвае сябе…

Выдатны спецыяліст савецкага жаночага баскетбола, заслужаны трэнер СССР Яўген Гомельскі ў сваёй шматгадовай практычнай рабоце з нацыянальнымі камандамі Савецкага Саюза, а потым і СНД «свае» калектывы камплектаваў менавіта так, што і прыносіла ім узнагароды на вельмі і вельмі многіх адказных турнірах. Пры гэтым Яўген Якаўлевіч не абыходзіў сваёй увагай і беларускую школу жаночага баскетбола. На XXIV Алімпійскіх гульнях у Сеуле яго спадзяванні ў многім апраўдаў тандэм Ірына Сумнікава — Галіна Крысевіч: зборная СССР тады заваявала

бронзавыя медалі. Не здрадзіў сваім прынцыпам настаўнік галоўнай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў і падчас фарміравання калектыву для паездкі ў Барселону — на XXV Гульні (1992), калі адначасова з капітанам зборнай мінчанкай Ірынай Сумнікавай даверыў месца ў камандзе і яшчэ адной прадстаўніцы Беларусі — Алене Ксенжык-Швайбовіч.

Шмат разоў назіраючы за гульнёй мінскага «Гарызонта» другой паловы 1980-х гадоў, заўважаў: падчас тайм-аўтаў, якія трэнеры бяруць для ўнясення карэктываў у дзеянні каманд, прэтэнзій да Лены Ксенжык у настаўніка сталічнай каманды — прынцыповага, але заўсёды справядлівага Сямёна Халіпскага — было менш, чым да каго-небудзь з іншых спартсменак. Незаслужаных прыдзірак Сямён Львовіч, як правіла, пазбягаў, аднак даць каштоўную параду, параіць, як дзейнічаць далей, імкнуўся кожнаму. І хоць рабіў гэта трэнер спакойным і стрыманым голасам, мы зрэдку не-не ды чулі, як ён прасіў Лену смялей і часцей атакоўваць з яе любімай пазіцыі — з-за трохачковай зоны…

…Усё сваё спартыўнае жыццё Алена Ксенжык-Швайбовіч дзякавала лёсу, які звёў яе з выдатным спецыялістам баскетбола Аляксандрам Малашкам. Ужо ў далёкім 1977-м, калі дзяўчынцы ледзь толькі споўнілася 11 гадкоў, трапіла яна ў надзейныя, такія клапатлівыя і мілыя рукі Аляксандра Мікалаевіча. Для яго, як іграка, не было асаблівых сакрэтаў у баскетболе, яшчэ больш таямніц і скрытых магчымасцей гэтага прыгожага, эмацыянальнага віду спорту рэалізаваў сталічны спецыяліст Малашка на трэнерскай ніве. Адной з самых перспектыўных, настойлівых і працавітых вучаніц яго і стала Лена Ксенжык…

Фізічнымі дадзенымі — перш за ўсё ростам — сярод сяброўак па секцыі яна зусім не вызначалася. А вось рухавасцю, скаардынаванасцю дзеянняў, гульнявым мысленнем — адрознівалася. Першы трэнер, вопытны і ўдумлівы, і вырашыў як мага паўней развіць гэтыя, такія каштоўныя для гульнявых відаў спорту якасці. Весці па пляцоўцы мяч — адно, праpвацца, што называецца, да кальца саперніка і паспяхова завяршыць атаку — другое, а вось наладзіць камандныя дзеянні, адчуць і прадбачыць ход падзей на імгненне-другое наперад — гэта зусім іншае, трэцяе… Тым іншым, трэцім, адчуваў і бачыў Аляксандр Малашка, ягоная юная таленавітая вучаніца валодае падсвядома, ад прыроды…

У мінскі «Гарызонт» Сямён Халіпскі запрасіў Алену Ксенжык тады, калі ў калектыве ззялі таленты шматвопытных

Таццяны Івінскай (Белашапка) і Галіны Крысевіч (Савіцкай), спаўна заяўлялі ўжо аб сабе і прадстаўніцы маладзейшага пакалення — Ірына Свірыдзенка (Сумнікава) і Яніна Пякарская (Калента)… Прабіцца ў асноўны састаў было няпроста, а тут яшчэ здарылася і такая нявыкрутка: на пазіцыі абаронцы-разыгрываючай, гуляць на якой Лену навучыў Аляксандр Малашка, у галоўнай камандзе рэспублікі надзвычай удала дзейнічала ўсё тая ж Іра Свірыдзенка… Аднак мудры і памяркоўны Сямён Халіпскі тут жа супакоіў дзяўчат: маўляў, няхай вас гэта не хвалюе, спраў хопіць і адной, і другой!

Тых спраў і сапраўды хапала: змяняючы адна другую на баскетбольнай пляцоўцы, маладыя гарызонтаўкі па чарзе ўносілі ў дзеянні каманды свежасць і імпэт, актыўнасць у атацы і рашучасць падчас гульні ў абароне… У многім дзякуючы менавіта іхнім дзеянням «Гарызонт» заявіў тады аб сабе як аб самабытным і здольным калектыве.

Звярнулі на паспяховыя дзеянні абедзвюх мінчанак і настаўнікі зборнай Савецкага Саюза, а потым і каманды СНД, і па чарзе — спачатку Ірыну Свірыдзенка, а потым і Алену Ксенжык запрасілі пад сцягі сваіх калектываў.

Гульні ў алімпійскай Барселоне сталі ў спартыўнай біяграфіі Алены самымі яркімі і запамінальнымі старонкамі. У матчы супраць заўсёды настойлівых і агрэсіўных кубінскіх спартсменак наша прадстаўніца набрала ўсяго толькі 5 ачкоў, а вось у наступным паядынку — супраць італьянак — ужо 11… Вяршыняй, свайго роду бенефісам 26-гадовай мінчанкі стала сустрэча зборнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў з камандай Бразіліі: пры канчатковым выніку 76:64 на карысць баскетбалістак СНД 20 ачкоў (больш чым чвэрць!) запісала ў свой актыў менавіта яна! І ў наступных дзвюх, паўфінальнай і фінальнай сустрэчах — самых адказных і рашаючых — супраць непераможных да таго амерыканскіх і кітайскіх спартсменак Лена гуляла ў сваю гульню: спакойна і ўпэўнена. У выніку два з 12 залатых камандных алімпійскіх медалёў за перамогу аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў у жаночым баскетбольным турніры на XXV Гульнях паехалі з Барселоны ў беларускую сталіцу — у спартыўным багажы Ірыны Свірыдзенка (Сумнікавай) і Алены Ксенжык (Швайбовіч)!

Памятаю: тады іх сустракалі як сапраўдных гераінь вялікага спорту…

*Раздзел XII*

## СЯДЗЕШ І ПРОСТА НАЦІСКАЕШ НА ПЕДАЛЬ…

*Спартыўныя энцыклапедыі тлумачаць веласіпедны спорт як від, які ўключае гонкі на шашы, трэку, велакрос — гонкі па так званай перасечанай мясцовасці, а таксама фігурную язду на веласіпедах і велабол — гульню з мячом на веласіпедах. Акрамя гэтага веласпорт з'яўляецца складнікам трыятлону і велатурызму.*

*У алімпійскай праграме веласпорт з'явіўся ў 1896 годзе — на першых Алімпійскіх гульнях сучаснасці, якія праходзілі 6—15 красавіка таго года ў сталіцы Грэцыі Афінах. Апісваючы гонку на дыстанцыі 100 кіламетраў, відавочца адзначыў: «Пасля 50 кіламетраў на дыстанцыі засталіся толькі два ўдзельнікі — француз Фламан і грэк Калецціс… Пасля спаборніцтваў, якія выйграў француз, усхваляваная публіка вынесла абодвух удзельнікаў са стадыёна на руках…»*

*Незвычайныя афіцыйныя спаборніцтвы па веласіпеднаму спорту адбыліся нашмат раней: у 1869 годзе па маршруце Руан—Парыж дыстанцыю 120 кіламетраў пераадолелі ўдзельнікі на драўляных веласіпедах. З 1893 года пачалі праводзіцца чэмпіянаты свету па гонках на трэку (дарэчы, у закрытых памяшканнях — толькі з 1929 года). Сусветныя першынствы па гонках на шашы праходзяць з 1921-га, а па велакросу — з 1950 года.*

*Акрамя Алімпійскіх гульняў і чэмпіянатаў свету ганаровыя і прэстыжныя ўзнагароды разыгрываюцца на шэрагу сусветна вядомых шматдзённых гонках прафесіяналаў, сярод якіх вось ужо звыш 100 (!) гадоў найбольшай папулярнасцю карыстаецца «Тур дэ Франс».*

*Першыя спаборніцтвы веласіпедыстаў на Беларусі прайшлі ў 1894 годзе ў Віцебску. А першы афіцыйны чэмпіянат нашай рэспублікі быў праведзены ў 1937 годзе, і перамог тады Барыс Бальшакоў, які пазней, ужо пасля Вялікай*

*Айчыннай вайны, стане першым беларусам — заслужаным майстрам спорту СССР, двойчы выйграе чэмпіянаты Савецкага Саюза ў групавой шашэйнай гонцы і спрынтэрскім шматборстве на трэку. Дарэчы, Барыс Аляксеевіч Бальшакоў стане і трохразовым пераможцам першынстваў краіны па канькабежнаму спорту...*

*Выдатнай спартсменкай і трэнерам і па веласіпеднаму, і па канькабежнаму спорту будзе і жонка Барыса Аляксеевіча — Зоя Бальшакова. У 1947 і 1948 гадах яна стане пераможцай чэмпіянатаў Савецкага Саюза ў каманднай гонцы на трэку, а ў 1950-м выйграе каманднае першынство краіны ў шашэйнай гонцы.*

*У 1968 годзе прадстаўнікі Беларусі ўпершыню выйдуць і на алімпійскую арэну. Адразу два нашы веласіпедысты — Віктар Быкаў і Аляксандр Дахлякоў на стартах XIX Гульняў у Мехіка паімкнуцца ўмяшацца ў размеркаванне ўзнагарод, аднак ім не хопіць, як кажуць, ледзь-ледзь... Разам з таварышамі па зборнай Савецкага Саюза Быкаў зойме чацвёртае месца ў каманднай гонцы праследавання на 4 кіламетры, а Дахлякоў і яго сябры будуць 9-мі ў каманднай шашэйнай гонцы на 100 кіламетраў. Заслужаны майстар спорту СССР Віктар Быкаў выступіць і на XX Алімпіядзе ў Мюнхене (1972), дзе, на жаль, таксама застанецца без узнагароды: савецкія майстры веласпорту стануць толькі сёмымі ў той жа каманднай гонцы праследавання...*

*А вось з наступных Алімпійскіх гульняў беларусы прывязуць у Мінск узнагароды, прычым — найвышэйшай, залатой вартасці. На XXI Алімпіядзе ў Манрэалі (1976) вызначыцца Уладзімір Камінскі, а на XXII Гульнях у Маскве (1980) — Алег Логвін: абодва майстры выступяць у складзе зборнай Савецкага Саюза ў каманднай шашэйнай гонцы на 100 кіламетраў, дзе і заваююць залатыя медалі. Атрымае шанц упісаць сваё імя ў алімпійскі летапіс і яшчэ адзін беларускі гоншчык — Ігар Сумнікаў на XXIV Алімпійскіх гульнях 1988 года ў Сеуле, аднак там савецкі квартэт з яго ўдзелам будзе толькі сёмы...*

*На XXV Гульнях 1992 года ў складзе аб'яднанай каманды Садружнасці Незалежных Дзяржаў у той жа каманднай шашэйнай гонцы на 100 кіламетраў прымуць удзел*

*беларускія спартсмены Ігар Патэнка і Ігар Пастуховіч і зоймуць такое «нешчасліваe» чацвёртае месца. Упершыню ў гісторыі беларускага веласіпеднага спорту выйдзе на алімпійскі старт і наша прадстаўніца прыгожай паловы чалавецтва — Зінаіда Стагурская. Яна выступіць у групавой шашэйнай гонцы, аднак каманда СНД стане толькі 16-й. Дарэчы, потым Стагурская прыме ўдзел і яшчэ ў дзвюх Алімпіядах: у 1996-м у Атланце і 2004-м — у Афінах. Але і там алімпійскі п'едэстал нашай слыннай спартсменцы не пакарыцца: Зінаіда будзе толькі на 14-м і 19-м месцах.*

*Двойчы паспрабуе штурмаваць алімпійскі п'едэстал васьміразовая чэмпіёнка свету мінчанка Наталля Цылінская, але калі на XXVIII Гульнях 2004 года на трэкавай 500-метровай дыстанцыі яна заваюе бронзавы медаль, дык на XXIX Алімпіядзе ў Пекіне (2008) застанецца ні з чым… Як, уласна кажучы, і іншыя майстры веласіпеднага спорту суверэннай Рэспублікі Беларусь…*

*Не так, аказваецца, і проста — сесці на веласіпеднае сядло і ціснуць на педалі…*

*«Проста» — толькі ў песні аб гэтым спяваецца…*




## *Уладзімір Камінскі:*

# СОНЦА НА СПІЦАХ, БЛАКІТ НАД ГАЛАВОЙ…

*Уладзімір Камінскі нарадзіўся 18 красавіка 1950 года ў пасёлку торфабрыкетнага завода «Цна» Мінскага раёна сталічнай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXI Алімпіяды ў Манрэалі (1976) у каманднай веласіпеднай гонцы на шашы. Чэмпіён свету 1977 года. Сярэбраны прызёр чэмпіянатаў свету 1974, 1975 і 1978 гадоў. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Аляксандр Сергіенка.*

Ад «падрабязных» апісанняў, дадумванняў і «сенсацыйных» драбніц, знойдзеных у ягонай біяграфіі і спартыўным шляху журналістамі, ад падвохаў і кпінаў калег і зусім невядомых «сяброў» і «аматараў» на ягоным месцы кожны смяротны даўным даўно нажыў бы і процьму нядобразычліўцаў, і самых звычайных ворагаў. Кожны, але толькі не ён, выдатны беларускі гоншчык-веласіпедыст Уладзімір Камінскі. Ну, чапляюцца ўсе да яго сотні, а мабыць, і тысячы ўжо разоў з роспытамі — кпінамі: маўляў, як жа так, Валодзя, нават з авечкай ты не мог размінуцца… Калі ўжо да канца быць мужчынам, дык за такія «пытанні» трэба проста… біць па фізіяноміі.

— Ды што вы! — Валодзя (я чуў і бачыў гэта не адзін раз!) заўсёды ўсміхаўся ў свае неверагодна прыгожыя пшанічныя вусы. — Каму і што я павінен тлумачыць, даказваць і расказваць? Быў выпадак — ну і што з таго?.. Так што няхай даруюць мне ўсе — і пляткары, і так званыя добразычліўцы.

А размова вось аб чым…

Па брытанскай зямлі праходзіла традыцыйная велагонка пад вельмі таямнічай назвай — «Малочны тур». Малочны дык

малочны, не ў назве справа, а ў тым, што карысталася гонка ў міжнародным календары вялікім аўтарытэтам, і бралі ў ёй удзел самыя знакамітыя веласіпедысты. У сярэдзіне 1970-х заявілі на ўдзел у ёй і маладога беларускага спартсмена Уладзіміра Камінскага. Выступаў у меру сваіх маладых сіл: значыўся сярод лідэраў. І тут… На адным з заключных этапаў, што называецца, пад самымі коламі веласіпеда невядома адкуль раптам з'явілася… авечка. Зрэагаваць Валодзя проста не паспеў — і паляцеў з усяго разгону ў кювет. Калі з дапамогай тэхнічных службаў, што абслугоўвалі гонку, выбраўся на трасу, было не да высвятлення адносін наконт таго, зможа ён працягваць выступленне ці не. Зноў у сядло, ногі на педалі — і наперад! Аднак… Траўмы і пашкоджанні, хоць і аказаліся не самымі вялікімі, вярнуцца ў кагорту лідэраў ужо не дазволілі…

Тым не менш у зборнай Савецкага Саюза за год да таго запрошаны ў яе беларускі гоншчык утрымаўся. Кіраўніцтва зборнай на чале з легендарным у мінулым спартсменам Віктарам Капітонавым, праверыўшы яго яшчэ раз — літаральна праз тыдзень — на чэмпіянаце СССР, у другі раз запар заявіла мінчаніна для ўдзелу ў чарговым чэмпіянаце свету.

На двух запар сусветных першынствах — 1974 і 1975 гадоў — беларускі веласіпедыст разам з сябрамі па зборнай краіны атрымліваў сярэбраныя ўзнагароды. На першым з іх, якое праходзіла ў Канадзе, савецкія спартсмены ўсяго дзве секунды ўступілі сапернікам са Швецыі, на другім — у Бельгіі — з інтэрвалам у пяць секунд адсталі ад палякаў. Кожнаму, хто хоць крыху разбіраўся у веласіпедным спорце, стала зразумела: спрэчка на ХХІ Алімпійскіх гульнях будзе, як кажуць, не на жарт…

А пачынаў Валодзя свой шлях у вялікі спорт самым звычайным на той час чынам…

Рос у невялікім пасёлку, да школы было каля двух кіламетраў. Хадзіў на заняткі зазвычай пехатой, праўда, іншы раз «перападаў» і веласіпед… Так што свіст ветру ў вушах, падзенні на калдобінах спазнаў яшчэ тады. Аднак паступова пасябраваў з двухколай машынай надзейна, як потым пакажа час — на доўгія і доўгія гады…

Пакуль Валодзя падрастаў, веласіпедным спортам пачалі займацца два ягоныя старэйшыя браты — Леанід і Анатоль. Менавіта ад іх малодшаму з Камінскіх неўзабаве пачаў даставацца для забавы самы сапраўдны гоначны веласіпед.

Спадабаўся — проста неверагодна! Таму пасля заканчэння васьмігодкі і паступлення на далейшую вучобу ў Мінскі электратэхнікум сувязі пачаў усур'ёз задумвацца і над сваім спартыўным захапленнем…

Як аднаму з відаў алімпійскай праграмы, веласіпеднаму спорту ў беларускай сталіцы тады найбольшую ўвагу надавалі ў рэспубліканскім савеце добраахвотнага фізкультурна-спартыўнага таварыства «Спартак». А паколькі аднайменная каманда на ўсю моц грымела на футбольных арэнах, спартакаўцамі марылі стаць ці не ўсе хлапчукі. Валодзя не стаў выключэннем: даведаўшыся ад сяброў аб тым, што ў мінскім ДФСТ «Спартак» аб'яўлены чарговы набор у секцыю веласпорту, адразу ж паспяшаўся туды з просьбай аб залічэнні.

Трэнер дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы Аляксандр Сямёнавіч Сергіенка пра братоў-велагоншчыкаў Леаніда і Анатоля Камінскіх, вядома ж, што-кольвечы чуў, так што адмовіць Валодзю проста не адважыўся: маўляў, паспрабуй і ты, а раптам і атрымаецца…

Спачатку, як і кожны пачынаючы майстар, ён выйграваў дзіцячыя і юнацкія спаборніцтвы, на якіх перш за ўсё назапашваў вопыт, прыглядаўся да паводзінаў на трасе іншых, больш сталых гоншчыкаў. А неўзабаве яму, як лічыць сам Уладзімір Уладзіміравіч, проста пашанцавала: займацца да сябе ў групу яму прапанаваў перайсці Леанід Корбут — трэнер і спецыяліст аўтарытэтны, з багатым тэарэтычным і практычным вопытам работы з велагоншчыкамі высокага спартыўнага ўзроўню.

У 1970—1971 гадах спачатку на рэспубліканскіх, а потым і на ўсесаюзных спаборніцтвах усё часцей і часцей пачаў вызначацца квартэт беларускіх велагоншчыкаў у складзе Мікалая Дзмітрука, Вікенція Баско, Міхаіла Зорына і Уладзіміра Камінскага. Нашы трэнеры знайшлі падыходы і нейкія спартыўныя сакрэты і аб'ядналі ў адзін баяздольны калектыў гэтых па-свойму розных, аднак шмат у чым адзіных спартсменаў. Камінскі быў сярод іх самым маладым і практычна зусім нявопытным. Аднак Дзмітрук, Баско і Зорын за загану гэта зусім не лічылі. І менавіта яны шмат у чым паспрыялі станаўленню маладога майстра, вывелі яго, што называецца, на вялікую міжнародную спартыўную трасу.

Тады ж і звярнуў увагу на таленавітага мінскага гоншчыка прызнаны ас веласіпедных трас, у недалёкім мінулым — алім-

пійскі чэмпіён, а ў той час — галоўны трэнер зборнай Савецкага Саюза Віктар Арсенавіч Капітонаў. Ён асабіста запрасіў Уладзіміра Камінскага на шматдзённы спартыўна-трэніровачны збор нацыянальнай каманды краіны.

На календары быў 1973 год.

Сказаць, што канкурэнцыя ў галоўнай камандзе Савецкага Саюза была моцнай і вялікай, значыць не сказаць нічога. За чатыры, такія запаветныя і жаданыя, майкі з гербам краіны і літарамі «СССР», якія чакалі сваіх уладальнікаў для выступлення на алімпійскай трасе Манрэаля, бескампрамісную, а часта і проста жорсткую канкурэнцыю вялі, як мінімум, 10—12 спартсменаў. І гэта насамрэч былі роўныя па сілах, выдатна падрыхтаваныя гоншчыкі. Вытрымаць барацьбу, змаглі толькі самыя-самыя з іх…

Да XXI Алімпіяды — 1976 заставалася тры гады. Тысячы (!) кіламетраў трас, у тым ліку і ва ўмовах высакагор'я, пераадолеў у тым сузор'і сапраўдных «зорак» веласіпеднага спорту наш зямляк. Віктар Капітонаў і ягоны трэнерскі штаб заўсёды быў побач: едучы па тых жа трасах на спецыяльным «начальніцкім» аўтамабілі, і ён сам, і іншыя трэнеры і спецыялісты вялі на кожнага гоншчыка самае сапраўднае дасье, адзначалі кожны рух (і асабліва — няправільны)… Заслугі на ранейшых спаборніцтвах, нават самыя гучныя, такія, скажам, як тытулы чэмпіёнаў свету ці алімпійскага пераможцы — пад увагу імі зусім не прымаліся. Мэта была адна, самая галоўная — выбраць для старту ў алімпійскім Манрэалі ў каманднай гонцы на 100 кіламетраў найлепшую чацвёрку гоншчыкаў!

Іх абкатвалі доўга і настойліва, выкарыстоўваючы самыя розныя варыянты. І вось нарэшце сам Віктар Арсенавіч Капітонаў аб'яўляе доўгачаканы вердыкт: на алімпійскай трасе на Транскантынентальнай магістралі барацьбу на 100-кіламетровай дыстанцыі павядуць эстонскі гоншчык Аава Пікус, расійскі майстар Валерый Чаплыгін, украінец Анатоль Чуканаў і беларускі спартсмен Уладзімір Камінскі.

Незадоўга да ад'езду зборнай краіны на амерыканскі кантынент Валодзя атрымаў траўму. Занепакоіліся сябры па камандзе, трэнеры, не знаходзіў сабе месца сам гоншчык. На трэнерскім савеце Віктар Капітонаў заяўляе: «Замены Камінскаму практычна няма. Без яго я не ўяўляю сваю каманду на алімпійскім старце…»

Гэта былі не проста гучныя словы. Паводле трэнерскіх разлікаў, менавіта беларускі гоншчык павінен быў павесці таварышаў за сабой. Урачы і спецыялісты рабілі ўсё, каб паставіць яго на ногі, вярнуць у строй. І ім гэта, дзякуй Богу, удалося.

На XXI Алімпіяду Пікус, Чаплыгін, Чуканаў і Камінскі ехалі абараняць тытул алімпійскіх чэмпіёнаў, заваяваны ў 1972 годзе іх славутымі папярэднікамі па зборнай Савецкага Саюза — Валерыем Ліхачовым, Генадзем Комнатавым, Барысам Шухавым і Валерыем Ярды. «Мы выдатна разумелі, — скажа потым Уладзімір Камінскі, — што выступіць горш, здаць заваяваныя пазіцыі не мелі ніякага права…»

У адпаведнасці з міжнароднымі правіламі правядзення спаборніцтваў, апошнімі — з самай выгаднай пазіцыі! — на Алімпійскіх гульнях стартуюць пераможцы апошняга сусветнага першынства. Тады гэта былі польскія велагоншчыкі на чале з легендарнымі майстрамі трасы Рышардам Шуркоўскім і Станіславам Шоздам. А перадапошнімі, гэта значыць перад палякамі, у дарогу выпраўляліся сярэбраныя прызёры чэмпіянату свету — 1975 — савецкія спартсмены. Яны, нашы майстры, і сталі для слынных і неверагодна моцных польскіх атлетаў самым сапраўдным жывым арыенцірам — перш за ўсё для вядзення тактычнай і псіхалагічнай барацьбы…

Тварам у гразь савецкі квартэт не ўдарыў. Мудра (іншага слова тут і не падбярэш!), па чарзе змяняючы адзін аднаго, вялі тады за сабой сяброў Пікус і Чаплыгін, Чуканаў і Камінскі. Што толькі ні рабілі польскія гоншчыкі, каб абыйсці сапернікаў, выйсці ў лідэры: і раскручвалі педалі да самай неверагоднай скорасці, і мянялі адзін аднаго на чале сваёй чацвёркі як мага часцей, але… Упэўнена трымаючыся на працягу ўсёй стокіламетровай дыстанцыі на чале гонкі, савецкія спартсмены фінішавалі першымі, апярэдзіўшы палякаў на 20 секунд — для веласіпеднага спорту інтэрвал больш чым вялікі…

Гэта было першае алімпійскае золата, разыгранае на XXI Гульнях. «Шлях да яго быў неверагодна цяжкі і складаны!» — ледзь ці не ў адзін голас скажуць Аава Пікус, Анатоль Чуканаў і Валерый Чаплыгін.

А вось Уладзімір Камінскі з імі не пагодзіцца. Яму, паводле ягоных слоў, ехалася лёгка і гэтак жа лёгка дыхалася там, ва ўмовах манрэальскага высакагор’я…



## *Алег Логвін:*

## ПЕРШЫ САВЕЦКІ ПРАФЕСІЯНАЛ

*Алег Логвін нарадзіўся 23 мая 1959 года ў горадзе Барысаве. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) у каманднай велагонцы на шашы. Сярэбраны прызёр чэмпіянату свету 1981 года, бронзавы прызёр сусветнага першынства 1982 года. Уладальнік сярэбранай узнагароды першынства свету 1977 года сярод юніёраў. Двухразовы пераможца Велагонак свету — 1981 і 1984 гадоў. Двухразовы чэмпіён Еўропы і Савецкага Саюза — 1979 і 1980 гадоў. Сярэбраны прызёр першынства СССР 1977-га, бронзавы — 1988 года. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Юрый Суктораў.*

У вялікім аматарскім спорце ён правёў 12 гадоў. Пачаўшы свой спартыўны летапіс у 1977 годзе сярэбраным медалём на чэмпіянаце Савецкага Саюза і такой жа вартасці ўзнагародай на першынстве свету сярод юніёраў, Алег Логвін у 1988-м, на тым жа п'едэстале чэмпіянату СССР, быў уганараваны бронзай і яшчэ ў параўнальна маладым для спорту 29-гадовым узросце сказаў «Бывай!» веласіпедным трасам. За спінай было каля 500 тысяч (!) кіламетраў дарог і бездарожжаў многіх краін і кантынентаў, праведзеных у сядле на такім родным «кані» — веласіпедзе!

Так ужо распарадзілася спартыўнае жыццё, што ў нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза Алег Логвін стаў пераемнікам слыннага ў тыя, васьмідзесятыя гады беларускага майстра веласіпедных трас Уладзіміра Камінскага. Стаў і, як пакажа час, дастойна прадоўжыў традыцыі, закладзеныя Уладзімірам Уладзіміравічам. Праўда, трапіць у зборную краіны было тады неверагодна складана. Па-першае, таму што калектыў савецкіх велагоншчыкаў па добрай і прыемнай для ўсіх — і кіраўнікоў спорту,

і шматтысячнай арміі аматараў — традыцыі выйграў запар некалькі залатых камплектаў узнагарод на самых важных і прэстыжных спаборніцтвах — Алімпійскіх гульнях. Па-другое (што таксама было правільна!), каманду не адно дзесяцігоддзе ўзначальваў ці не самы слынны і вядомы ў спартыўным свеце гоншчык і спецыяліст — Віктар Капітонаў, які сам, яшчэ ў 1960-м, праклаў савецкаму веласпорту шчаслівую і ўпэўненую сцяжынку да залатой прыступкі алімпійскага п’едэстала. Стаўшы на чале зборнай Савецкага Саюза, ён проста не меў маральнага права дазволіць сабе такую сітуацыю, каб ягоныя падначаленыя выступалі на тых жа Гульнях Алімпіяды горш, чым рабіў гэта ў свой час ён сам… Так што зусім заканамерным было тое, што настаўнік шукаў спартсменаў для галоўнай каманды краіны літаральна па ўсім Саюзе ССР. Дзякуй Богу, выбар быў: якраз тады ў нас у веласіпедным спорценазіраўся самы сапраўдны бум! У тым ліку — і ў Беларусі, адной з самых развітых у фізкультурна-спартыўных адносінах саюзных рэспублік СССР.

Цяжка сказаць, з-за якіх меркаванняў Віктар Арсенавіч Капітонаў «не дазволіў» ніводнаму з савецкіх велагоншчыкаў стаць… двухразовым алімпійскім чэмпіёнам. На трох Алімпійскіх гульнях запар — 1972, 1976 і 1980 гадоў — нашы майстры гоначных трас заваёўвалі вышэйшыя ўзнагароды! Гэта былі: у 1972-м — Генадзь Комнатаў, Валерый Ліхачоў, Барыс Шухаў і Валерый Ярды; у 1976-м — Уладзімір Камінскі, Аава Пікус, Валерый Чаплыгін і Анатоль Чуканаў; у 1980-м — Юрый Кашырын, Алег Логвін, Сяргей Шалпакоў і Анатоль Яркін. Што ні імя — цэлая старонка ў гісторыі сусветнага веласпорту, аднак… Ніводнаму з іх — нават такім ад прыроды таленавітым і загартаваным, як эстонец Пікус, расіяне Ліхачоў, Чаплыгін і Кашырын, беларусы Камінскі і Логвін, украінец Чуканаў, — «сам» Капітонаў не даў магчымасці выступіць на Алімпіядзе ў другі раз. І гэта пры тым, што кожны з пералічаных вышэй 12 спартсменаў праз чатыры гады пасля свайго трыумфу знаходзіўся не проста ў добрай, а нават у яшчэ лепшай спартыўнай форме, чым падчас выступлення на Гульнях. Але… Апошняе слова заставалася за галоўным трэнерам, тым больш — трыумфатарам папярэдніх Алімпіяд… І з-за нейкіх, толькі яму аднаму вядомых «прынцыповых» меркаванняў Віктар Арсенавіч кожны раз на ўсе сто працэнтаў абнаўляў нацыянальную зборную краіны.

Аднак вернемся да нашага героя…

Двухколавага «каня» Алег Логвін «асядлаў» у родным Барысаве напрыканцы 1960-х. Спачатку, вядома ж, перабраў не

адзін від спорту: і лёгкую атлетыку, і валейбол, і баскетбол, і бокс, і барацьбу… Падабалася ўсё, толькі вось душа не ляжала. Калі ж упершыню сеў у сядло, адчуў: ёсць і жаданне, і звычайная цікаўнасць! Сеў і, вобразна кажучы, паімчаў — ажно да алімпійскага п'едэстала гонару!

Трапіўшы ў няпоўныя 18 гадоў «на аловак» да кіраўнікоў зборнай Савецкага Саюза, Алег разумеў: праўвацца ў асноўны састаў будзе няпроста. Ды і наўрад ці думаў ён пра гэта. Галоўнае было — зарэкамендаваць сябе, апраўдаць тыя надзеі, што звязвалі з ім спецыялісты і трэнеры падчас уключэння ў каманду для выступлення на тых ці іншых канкрэтных спаборніцтвах. Так, сярод юніёраў ён сябе знайшоў практычна адразу, але і гэта не давала Логвіну ніякіх пераваг ці гарантый.

І беларускі гоншчык спаўна аддаваўся не толькі афіцыйным стартам, а нават самым звычайным, будзённым трэніроўкам і заняткам. Не сумняваўся: шлях да прызнання і перамог адзін — праз працу!

Праз два гады пасля афіцыйнага з'яўлення барысаўчаніна ў зборнай краіны яго ўключаюць у эксперыментальны састаў каманды-чацвёркі для выступлення на чэмпіянаце Савецкага Саюза. Той квартэт склалі тры расіяніны: Юрый Кашырын, Сяргей Шалпакоў, Анатоль Яркін, — і ён, беларус Алег Логвін. Эксперымент удаўся: хлопцы, не пакінуўшы сапернікам аніякіх шанцаў, упэўнена выйгралі залатыя медалі чэмпіёнаў. У свой трэнерскі блакнот-«талмуд», як жартавалі самі гоншчыкі, строгі і неверагодна суровы Віктар Капітонаў гэты квартэт запісаў пад першым нумарам.

Яны разумелі: праверак будзе яшчэ больш чым дастаткова, і ад іх будуць чакаць толькі перамог. Спартсмены яшчэ больш павялічылі нагрузкі, практычна не злазячы з веласіпедаў і трэнажораў! Адказ на пытанне: «Хто найлепш гатовы да алімпійскага старту ў каманднай гонцы на дыстанцыі 100 кіламетраў?» — павінна была даць міжнародная гонка ў Нідэрландах пад «правільнай» і зразумелай назвай — «Алімпійскі тур».

Логвін, Кашырын, Шалпакоў і Яркін даказалі ўсім: перш за ўсё ўсёмагутнаму Капітонаву (а можа, перш за ўсё — сабе?!), а таксама спецыялістам, трэнерам і аматарам веласіпеднага спорту: пуцёўкі на XXII Алімпіяду — 1980 павінны быць выдадзены ім!

…Так ужо ўсталявалася ў алімпійскай праграме: яе адкрываюць веласіпедысты — у каманднай шашэйнай гонцы на стокіламетровай дыстанцыі. Гэта і адна са складаных (хаця,

уласна кажучы, а ці ёсць на Гульнях простыя?!) дысцыплін, і адна з відовішчных… А галоўнае, гонка задае тон і настрой усёй Алімпіядзе, тысячам яе ўдзельнікаў і сотням мільёнаў аматараў спорту. Ды і інтарэсы нацыянальнай зборнай тут на першым плане… Плюс традыцыі выступленняў на папярэдніх Гульнях, пра што мы казалі ўжо вышэй… Так што ад савецкага квартэта чакалі ні многа, ні мала — толькі (і толькі!) залатой алімпійскай узнагароды.

— І на агульным сходзе алімпійцаў перад пачаткам Гульняў, і літаральна на кожным кроку нам прама, у адкрытую казалі адно і тое ж: маўляў, з вас, хлопцы, толькі золата! — расказваў пазней Алег Логвін. — Ды мы, уласна кажучы, на іншае і не настройваліся!

…Ужо на сярэдзіне дыстанцыі Логвін, Кашырын, Шалпакоў і Яркін выйгравалі ў супернікаў 40 секунд. Адрыў добры, аднак з машыны галоўнага трэнера, што імчала услед за камандай, гучала адна і тая ж каманда Капітонава: «Наперад!» Ды і самі хлопцы ўсведамлялі: шматвопытныя і спрактыкаваныя супернікі — і перш за ўсё веласіпедысты Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Польшчы — спакою не дадуць. Алег, Юрый, Сяргей і Анатоль націснулі на педалі яшчэ мацней…

І вось квартэт гоншчыкаў у адзіным — такім зладжаным, нібы адрэпеціраваным, парыве — ускідвае ўверх рукі: Перамога! Толькі праз 1 мінуту 31 секунду (у веласпорце — гэта цэлая вечнасць!) фінішавалі сярэбраныя прызёры — майстры веласіпедных трас з ГДР, за імі — палякі… Прызнаныя гоншчыкі, яны аднымі з першых павіншавалі савецкіх майстроў з залатымі ўзнагародамі, такім чынам прызнаўшы: на алімпійскай трасе вам па-ранейшаму няма роўных!

Напрыканцы 1980-х — на пачатку 1990-х гадоў алімпійскі чэмпіён, двухразовы пераможца сусветна вядомых тады Велагонак свету па маршруце Берлін — Прага — Масква, заслужаны майстар спорту Алег Логвін прыняў удзел у выступленнях першай у гісторыі савецкага веласіпеднага спорту прафесіянальнай каманды пад назвай «Альфалюм». І зноў былі перамогі: на трасах і шашэйных дарогах Бельгіі, Нідэрландаў, Партугаліі, Францыі, Польшчы, Германіі…

Аднак золата-1980 маскоўскай чаканкі — для яго самая дарагая і памятная ўзнагарода.



## *Наталля Цылінская:*

## КАРАЛЕВА ТРЭКУ

*Наталля Цылінская нарадзілася 30 верасня 1975 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Бронзавы прызёр XXVIII Алімпійскіх гульняў у Афінах (2004) па веласпорту ў гіце на дыстанцыі 500 метраў. Васьміразовая чэмпіёнка свету 2000—2008 гадоў у спаборніцтвах на трэку ў спрынце і гіце. Неаднаразовая пераможца і прызёр розыгрышаў Кубка свету. Пераможца першынстваў Савецкага Саюза і Садружнасці Незалежных Дзяржаў 1989, 1990, 1991 і 1992 гадоў. Неаднаразовы прызёр сусветных чэмпіянатаў. Узнагароджана ордэнам Пашаны. Трэнеры — Аляксандр Бяляўскі, Генадзь Хлопікаў, Валянціна Смірнова, Станіслаў Салаўёў.*

Як спартсменка — насамрэч вялікая і таленавітая! — яна стала на ногі, вырасла і загартавалася… удалечыні ад Бацькаўшчыны. Свайго веласіпеднага трэку ў Беларусі тады не было, а аднойчы ўбачыўшы гонкі на ім і адчуўшы, што гэта — яе кроўная справа, — Наташа вырашыла асвоіць азы мужнага, адчайнага, рызыкоўнага віду спорту…

І ёй гэта ўдалося — спаўна, без астатку і таямніц!

Азартныя гульні і забавы ёй падабаліся з самага маленства. Любіла і ўмела Наташа і сама штосьці выдумаць, такое, ад чаго дух займала, і кампанію няўрымслівых ды неспакойных непасед-аднагодак падтрымаць… Была, адным словам, завадатар. Як і кожнае жвавае і няўрымслівае дзяўчо, і відаў спорту перабрала з добры дзясятак: то тое ёй не падабалася, то другое, то трэцяе…

І толькі веласіпед — спачатку дзіцячы, а потым і дарослы, самы сапраўдны — стаў для юнай гарэзы Цылінскай насамрэч верным і надзейным двухколавым спадарожнікам жыцця!

…Першы ў жыцці сур'ёзны і адказны старт Наташа выйграла ў няпоўныя 14 (!) гадоў. Калі на велатрэку з'явілася шчупленькая, мініяцюрная, з надзвычай мілавідным тварыкам дзяўчынка, нешматлікія аматары спорту, якія прысутнічалі на трыбунах, у прамым сэнсе слова анямелі: маўляў, а ці туды гэты цуд прыроды трапіў?! А цуд прыроды ўзяў ды і выйграў, заваяваўшы тытул чэмпіёнкі СССР!

На календары быў 1989-ы…

Першынствы краіны Наташа Цылінская выйграе і праз год, і праз два… Тытуламі чатырохразовай чэмпіёнкі Савецкага Саюза і СНД яна будзе даражыць і бязмерна ганарыцца і тады, у 1989—1992 гадах, і пазней. І як крыўдна і балюча будзе ёй, калі Радзіма разваліцца, падзеліцца на самастойныя і незалежныя дзяржавы… І веласіпедныя трэкі, як і сотні, і тысячы іншых спартыўных збудаванняў і аб'ектаў, апынуцца ў так званым далёкім і бліжнім замежжы, і каб трэніравацца на іх, спатрэбяцца нейкія спецыяльныя пагадненні, «высокія» дамовы, асобныя распараджэнні…

Тым не менш у роспач юная спартсменка не кінецца. Не кінецца і ў пошукі лёгкага хлеба ў тое ж далёкае ці блізкае замежжа. Наталля Цылінская застанецца вернай сваёй Бацькаўшчыне — суверэннай і незалежнай Рэспубліцы Беларусь, яе спорту, які выхаваў і загартаваў яе, Наталлі Цылінскай, волю і характар!

Яе талент і вялікія патэнцыяльныя магчымасці кіраўнікі беларускага спорту выразна бачылі і адчувалі, таму спартсменцы літаральна адразу ж былі створаны самыя спрыяльныя ўмовы для трэніровак і заняткаў. У першую чаргу былі наладжаны больш-менш надзейныя кантакты са спецыялістамі і трэнерамі з Расійскай Федэрацыі, якія выказалі гатоўнасць пайсці насустрач… І ўжо на працягу першых двух-трох гадоў (на календары, нагадаю, была першая палова 1990-х) Цылінская правяла на базах расійскіх веласіпедыстаў-трэкавікоў не адзін вучэбна-трэніровачны збор. Гэта ў вельмі вялікай ступені паспрыяла далейшаму росту яе майстэрства, падтрыманню высокай спартыўнай формы…

Гонкі на трэку сярод жанчын высока каціруюцца ў многіх краінах свету. І найперш — у той жа Расіі, Аўстраліі, Злучаных Штатах Амерыкі, Галандыі, Францыі, Вялікабрытаніі, Германіі… Менавіта прадстаўніцы гэтых зборных і вядуць асноўную спрэчку за ўзнагароды на Алімпійскіх гульнях, сусветных першынствах, іншых спаборніцтвах высокага рангу. З канца 1990-х у іхнія рады

ў прамым сэнсе слова ўварвалася і беларуская велагоншчыца Наталля Цылінская. А калі яна выйграла спачатку некалькі этапаў розыгрышу Кубка свету, потым стала прызёрам сусветнага чэмпіянату, яе прызналі: пачалі і пабойвацца, і паважаць…

У 2000 годзе на велатрэку англійскага горада Манчэстэра Наталля ўпэўнена выйграе залатыя медалі на дыстанцыі 500 метраў адразу ў дзвюх алімпійскіх дысцыплінах — у спрынце і гіце. Яшчэ праз два гады, на гэты раз у сталіцы Даніі Капенгагене, яна паўторыць свой поспех і прывязе ў родны Мінск яшчэ дзве ўзнагароды вышэйшай пробы. Спецыялісты і аматары спорту пачнуць з нецярпеннем чакаць яе выхаду на алімпійскі трэк 2004 года ў Афінах.

Алімпійскі дэбют Цылінскай атрымаецца, у прынцыпе, нядрэнным. У гіце на 500 метраў, уступіўшы пераможцы, сваёй пастаяннай саперніцы на сусветных першынствах аўстралійскай гоншчыцы Ганне Мірс 0,215 секунды, беларуска заваюе бронзавы медаль. А вось у спаборніцтвах спрынтэраў Наташы яўна не хопіць алімпійскага вопыту. У кваліфікацыйным заездзе яна будзе другой — услед за ўсё той жа Ганнай Мірс, у адной восьмай фінала выйграе ў таленавітай і шматвопытнай гоншчыцы з Германіі Катрын Майнке, а вось чвэрцьфінал прайграе Святлане Гранкоўскай з Расіі… Той самай Гранкоўскай, разам з якой з’ела не адзін пуд солі на сумесных трэніроўках і зборах падчас шматгадовай падрыхтоўкі і да сусветных першынстваў, і да XXVIII Алімпіяды ў Афінах. Саперніцы ведалі адна другую не горш, чым самі сябе, а вось скарыстаць гэта выключна ў сваіх мэтах паўней удалося расійскай веласіпедыстцы…

У спаборніцтвах за 5—8 месцы Наталля выйграла ў сваіх канкурэнтак і ў выніку заняла пяты радок сярод спрынтэраў на дыстанцыі 500 метраў.

Выйграўшы пасля XXVIII Гульняў — 2004 яшчэ не адзін тытул чэмпіёнкі свету, Цылінская ехала яўным лідэрам і на XXIX Алімпіяду ў Пекін. На жаль, сітуацыя паўтарылася: саперніцы змаглі лепш за яе падрыхтавацца да адказных спаборніцтваў, і ў выніку наша велагоншчыца на п’едэстал гонару не трапіла наогул. Тым не менш, бронза Алімпійскіх гульняў — 2004 плюс восем (!) тытулаў чэмпіёнкі свету 2000—2008 гадоў прымушаюць усіх: і спецыялістаў спорту, і аматараў — сказаць ёй вялікі і шчыры «Дзякуй!».

За мужнасць, стойкасць, майстэрства!

За ўменне змагацца і перамагаць!

*Раздзел XIII*

## НА АРЭНАХ І ПЛЯЦОЎКАХ

*Лёгкая атлетыка і барацьба, фехтаванне і гімнастыка, веславанне і цяжкая атлетыка, стральба і гандбол, футбол і водныя лыжы, баскетбол і веласпорт... Дванаццаць самых папулярных, захапляльных відаў спорту, якія не адно стагоддзе (так, менавіта стагоддзе!) прымушаюць заміраць сэрцы і шчыра, непадробна радуюць душы мільёнаў людзей ва ўсіх кутках Зямлі. Усяго толькі дванаццаць! А іх жа, тых відаў, толькі ў праграме летніх Алімпійскіх гульняў — 28, а ў зімовых — восем. Некалькі відаў спорту не прызнаны Міжнародным алімпійскім камітэтам: некаторыя — з-за малалікасці нацыянальных федэрацый, што культывуюць іх, іншыя — з-за «неэстэтычнасці» ці небяспечнасці для саміх атлетаў і балельшчыкаў...*

*Тым не менш, ёсць жа і іншыя віды спорту, у якіх беларусы таксама дэманструюць высокае майстэрства, дасягаюць вышынь. У тым ліку — алімпійскіх, сусветных, еўрапейскіх, міжнародных. Сярод летніх відаў гэта — бокс, скачкі ў ваду, конны спорт, плаванне, скачкі на батуце... Сярод зімовых — хакей, канькабежны спорт, фрыстайл...*

*На Алімпійскіх гульнях беларускі бокс дэбютаваў у 1988 годзе ў Сеуле, і адразу ж наш Вячаслаў Яноўскі ўзняўся на вышэйшую прыступку п'едэстала гонару. На XXVIII Алімпіядзе ў Афінах (2004) сярэбранымі медалістамі сталі два спартсмены з Беларусі: Магамед Арыпгаджыеў і Віктар Зуеў. Чэмпіёнамі і прызёрамі еўрапейскіх першынстваў і першынстваў Савецкага Саюза, многіх буйных міжнародных турніраў станавіліся Юрый Торбек, Эдуард Дубоўскі, Анатоль Беразюк, Валерый Сакалоў, Уладзіслаў Пралоўскі, Сяргей Быкоўскі, Сяр-*

*гей Дычкоў, Хаважы Хацыгаў, Міхаіл Бярнадскі, Аляксандр Апанасёнак і іншыя майстры скуранай пальчаткі.*

*Алімпійскія ўзнагароды прывозілі на Бацькаўшчыну скакуны ў ваду. На XXI Гульнях у Манрэалі (1976) бронзавым «дуплетам» стрэлілі Аляксандр Касянкоў на трампліне і Уладзімір Алейнік — на вышцы. Праз чатыры гады — у алімпійскай Маскве Алейнік «пераплавіў» бронзавы медаль на сярэбраны, а яго таварыш з Мінска Аляксандр Партноў стаў алімпійскім чэмпіёнам у скачках з трампліна.*

*Там жа, на XXII Алімпіядзе ў Маскве (1980) адзін раз у гісторыі коннага спорту вызначыўся і беларускі коннік — Віктар Угрумаў. У камандным першынстве ў складзе зборнай Савецкага Саюза ён стаў уладальнікам залатой узнагароды, а ў выездцы — бронзавай. Услед за ім шэраг міжнародных турніраў выйграла і адна з яго вучаніц — Ірына Карачова.*

*Прадстаўнікі Беларусі дасягнулі добрых паказчыкаў і ў плаванні. Сяргей Каплякоў на Гульнях 1976 і 1980 гадоў быў уганараваны двума залатымі і двума сярэбранымі медалямі. У той жа Маскве-1980 Эльвіра Васількова атрымала сярэбраную і бронзавую ўзнагароды, а Вольга Клявакіна — бронзу.*

*У скачках на батуце, якія атрымалі алімпійскі статус толькі ў 2000 годзе, спрабаваў заявіць аб сабе наш слынны атлет Дзмітрый Паляруш — шматразовы пераможца і прызёр першынстваў свету і кантынента, аднак стаў толькі пятым. Тым не менш, і яго месца — сярод лепшых беларускіх спартсменаў.*

*Зімовыя віды спорту на Алімпіядах мелі больш сціплае беларускае прадстаўніцтва, чым летнія. Двойчы спрабаваў узняцца на п’едэстал гонару — у 1964 і 1968 гадах мінскі канькабежац Эдуард Матусевіч, аднак спыніўся на шостым і восьмым месцах. Намнога далей яго пайшоў Ігар Жалязоўскі: на XV зімовых Гульнях у Калгары (1988) ён заваяваў бронзавую ўзнагароду, а на XVII Алімпіядзе ў Лілехамеры (1994) — сярэбраную. Затое на чэмпіянатах свету па спрынтэрскім мнагаборстве наш зямляк не*

*ведаў сабе роўных: лаўровыя вянкі чэмпіёна ён атрымліваў шэсць (!) разоў. У 2002 годзе ўпершыню ў гісторыі жаночага канькабежнага спорту Беларусі на чэмпіянаце свету тысячаметровую дыстанцыю выйграла мінчанка Анжэліка Кацюга.*

*Узнагароды рознай вартасці заваёўвалі прадстаўнікі нашай рэспублікі і на біятлонных трасах. На XVI зімовых Гульнях 1992 года ў Альбервілі былыя расіяне Яўген Рэдзькін і Аляксандр Папоў, пераехаўшыя на жыхарства ў Мінск, заваявалі залаты і сярэбраны медалі. А выхаванка наваполацкай школы біятлону Святлана Парамыгіна на XVII Алімпіядзе 1994 года стала ўладальніцай сярэбранага медаля. Аляксей Айдараў прывёз у беларускую сталіцу бронзавую ўзнагароду з XVIII Алімпіяды ў Нагана (1998).*

*Залатыя, сярэбраныя і бронзавыя медалі на першынствах свету і Еўропы, розыгрышах Кубка свету атрымлівалі Алег Рыжанкоў, Аляксандр Папоў, Вадзім Сашурын, Аляксей Айдараў, Аляксандр Сыман, Святлана Парамыгіна, Наталля Рыжанкова, Вольга Назарава, Ірына Тананайка, Наталля Пермякова, Людміла Ананька, Дар'я Домрачава і іншыя.*

*Усё больш упэўнена і пераканаўча заяўляюць аб сабе прадстаўнікі беларускай школы фрыстайла. Высокае выканаўчае майстэрства, сапраўдную мужнасць і незвычайную вытрымку прадэманстравалі на Алімпійскіх гульнях, сусветных першынствах, розыгрышах Кубка свету заслужаныя майстры спорту Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Дашчынскі і Аляксей Грышын. На XVIII зімовай Алімпіядзе ў Нагана (1998) Дашчынскі заваяваў бронзавую ўзнагароду, а на XIX Гульнях у Солт-Лэйк-Сіці (2002) ягоны «бронзавы» поспех паўтарыў Грышын. Дзмітрый Дашчынскі не спыніўся на дасягнутым: на алімпійскіх стартах 2006 года ў Турыне ён атрымаў сярэбраны медаль. На этапах Кубка свету і іншых буйных міжнародных спаборніцтвах акрамя іх шматкрат вызначаліся Дзмітрый Рак, Ала Цупер, Асоль Слівец…*

*І, нарэшце, хакей. Нягледзячы на яго папулярнасць у рэспубліцы, пакуль што нашы выхаванцы бліскучых пе-*

*рамог і дасягненняў на сваіх рахунках не маюць. Тым не менш, заслугоўваюць добрых слоў і тыя з іх, хто стаяў каля вытокаў беларускага хакея ў 1960—1980 гады: ігракі — Юрый Ніканаў, Станіслаў Малкаў, Сяргей Шыткоўскі, Уладзімір Грымякін, Андрэй Кавалёў, Юрый Крывахіжа, Аляксандр Андрыеўскі, Эдуард Занкавец, Андрэй Расолька, трэнеры — Віталь Стаін, Уладзімір Крыкуноў, Уладзімір Сафонаў; і тыя, хто, атрымаўшы першапачатковую хакейную «адукацыю» пад кіраўніцтвам нашых спецыялістаў і трэнераў, пайшоў потым далей — ажно ў заакіянскі прафесійны хакей: Сяргей Фёдараў, Мікалай Баршчэўскі, Юрый Шыпіцын, Руслан Салей, Міхаіл Грабоўскі, браты Андрэй і Сяргей Касціцыны…*

*Пра лепшых з іх — нашы наступныя аповеды.*




## *Сяргей Шыткоўскі:*

## СПОРТ САПРАЎДНЫХ МУЖЧЫН

*Сяргей Шыткоўскі нарадзіўся ў 1941 годзе ў Пярмі. Майстар спорту СССР па хакею з шайбай. У 1965—1973 гадах — нападаючы каманды майстроў мінскага «Тарпеда», капітан каманды. Першыя трэнеры — Аркадзь Дзёмін і Віталь Костараў.*

У сярэдзіне 1960-х — пачатку 1970-х гадоў пад скляпеннямі адзінага на той час у нашай рэспубліцы Мінскага Палаца спорту словы: «Шайбу закінуў Сяргей Шыткоўскі, нумар семнаццаць!» — выклікалі ў аматараў беларускага хакею сапраўдную буру авацый. І ў адзіным балельшчыцкім парыве ўсхопліваліся са сваіх месцаў некалькі тысяч шчырых прыхільнікаў спорту, радасна вітаючы чарговы поспех свайго куміра…

Нягледзячы на свой невысокі рост, на хакейнай пляцоўцы ён прыкметна вызначаўся сярод іншых спартсменаў. Рухавы, са своеасаблівай стойкай на каньках, Сяргей Шыткоўскі заўсёды быў у цэнтры ўсеагульнай увагі. Не шкадуючы сябе, ён адчайна кідаўся ў гушчу падзей, смела і надзейна вёў барацьбу за шайбу нават з сапернікамі, якія пераўзыходзілі яго па «габарытах» ледзь не ў два разы… Не ўхіляўся ад кантактаў, а гэтак жа, рашуча і ўпэўнена, кідаўся і ў «рукапашную» падчас высвятлення адносінаў з тымі, хто нізавошта не хацеў прызнаваць перавагу над сабой, без чаго, несумненна, хакей ніколі не быў бы хакеем…

На лядовай пляцоўцы ён правёў 15 хакейных сезонаў. І амаль што ўсе яны пазначаны ў лёсе спартсмена адметнымі крокамі і асабістымі набыткамі…

…Дом у Пярмі, дзе жылі Шыткоўскія, жыхары жартам называлі хакейным. Аднак і ў жарце ёсць доля праўды. У мясцо-

вай камандзе майстроў «Молат» спачатку гулялі Юрый Пепяляеў і старэйшы з братоў Шыткоўскіх — Уладзімір, затым у яе былі запрошаны ён, Сяргей Шыткоўскі, за ім — Аляксандр Мінаеў, Мікалай Сілукоў… Цэлая хакейная змена-пяцёрка абараняла гонар Пярмі ў першай групе класа «А» чэмпіянату Савецкага Саюза.

Пачынаў ён з юнацкай каманды, а першым настаўнікам яго стаў вядомы хакейны спецыяліст не толькі ў Сібіры, але і ва ўсім Савецкім Саюзе Аркадзь Іванавіч Дзёмін, вучні якога паспяхова выступалі і ў вышэйшай лізе айчыннага хакея, і ў складзе нацыянальнай зборнай СССР. Сяргею ішоў ужо семнаццаты год, і неўзабаве аднаго са сваіх здольных і працавітых выхаванцаў Аркадзь Іванавіч рэкамендаваў кіраўніцтву «Молата». Галоўны трэнер каманды майстроў Віталь Костараў ужо чуў пра таленавітага юнака, і калі ўбачыў яго ў справе, адразу ж пагадзіўся залічыць у асноўны склад падначаленага калектыву.

У сезоне 1960—1961 гадоў Шыткоўскі забіў у вароты сапернікаў свой першы ў спартыўнай біяграфіі гол. «Было гэта, — расказваў ён мне потым, — у маім родным горадзе, калі “Молат” сустракаўся з камандай “Сібір” з Новасібірска, калектывам, з якім у нас былі своеасаблівыя, так бы мовіць, зямляцкія адносіны і стасункі…»

А праз чатыры гады Сяргей Шыткоўскі дэбютаваў у складзе каманды майстроў мінскага «Тарпеда».

Флагман беларускага хакея ў тыя гады ўзначальваў Віталь Стаін — у недалёкім мінулым ігрок, майстар спорту, выхаванец сібірскай хакейнай школы. У сярэдзіне 1960-х, калі ён ужо павесіў спартыўную амуніцыю на цвік і заняўся трэнерскай практыкай, кіраўніцтва Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў Беларусі прапанавала Стаіну ўзначаліць «Тарпеда». Намінальна каманда належала тады Мінскаму аўтамабільнаму заводу, аднак фактычна справы ў ёй вялі адказныя за хакей супрацоўнікі названага вышэй фізкультурна-спартыўнага ведамства і Федэрацыі хакея рэспублікі. Калі ж казаць шчыра, сваіх выхаванцаў — трэнераў і спецыялістаў, а тым больш — майстроў клюшкі — у нас было небагата, таму і вёўся пошук «патрэбных людзей» ва ўсіх без выключэння рэгіёнах Савецкага Саюза. Прыступіўшы да работы ў нашай сталіцы, Віталь Стаін і прывёз неўзабаве ў «аўтазаводскі» калектыў цэлую плеяду спартсменаў з самых розных гарадоў краіны. Сярод іх аказаўся і 24-гадовы пярмяк Сяргей Шыткоўскі.

Дэбют яго ў «Тарпеда» адбыўся ў Рызе, дзе на спартыўнай базе мясцовых дынамаўцаў рыхтаваліся да сезона мінскія «аўтазаводцы». Паводле задумак кіраўніцтва, тройка хакеістаў у складзе правага нападаючага Пронкіна, цэнтрфорварда Юфы і левага крайняга Шыткоўскага, спаўна раскрыўшы свой патэнцыял, і павінна была стаць галоўным звяном каманды, задаваць у ёй тон і весці за сабой іншых… «Кожны з нас стараўся, выкладваўся да канца, аднак гульня, што называецца, не ішла, — успамінаў Сяргей. — Трэнеры даволі хутка расчараваліся і пачалі шукаць новыя спалучэнні ігракоў…»

Тымі ігракамі па-ранейшаму станавіліся ваяжоры з іншых хакейных сталіц і цэнтраў. Неўзабаве ў Мінску з'явіўся нават выхаванец слыннай ужо тады маскоўскай спартакаўскай школы — Валерый Яраслаўцаў, родны брат вядомага майстра са зборнай Савецкага Саюза Віктара Яраслаўцава, неаднаразовага чэмпіёна краіны, Еўропы і свету, алімпійскага чэмпіёна 1968 года. Праверыўшы на пляцоўцы пару Сяргей Шыткоўскі — Валерый Яраслаўцаў, настаўнікі «Тарпеда» неўзабаве далучылі да іх яшчэ аднаго навабранца каманды — магутнага, тараннага тыпу цэнтральнага нападаючага Уладзіміра Грымякіна. І справа пайшла…

— У маёй спартыўнай біяграфіі, — прызнаваўся мне Шыткоўскі, — засталіся самыя прыемныя ўспаміны і ўражанні ад гульні разам з Валерыем і Уладзімірам. Валерый Яраслаўцаў, як, дарэчы, і ягоны брат Віктар, проста выдатна ацэньваў сітуацыю на пляцоўцы, мог зрабіць вельмі дакладны пас. А Валодзя Грымякін вельмі і вельмі часта быў, як кажуць, ва ўдары на «перадавой» хакейнай лініі — у цэнтры атакі… У яго вельмі высока было развіта пачуццё шайбы, і калі ён ішоў на дабіванне яе, іншыя сапернікі проста трымцелі…

Не горш, а, можа, нават і лепш, гэтымі неацэннымі хакейнымі вартасцямі валодаў і ён, Сяргей Шыткоўскі. Філіграннае валоданне клюшкай, смеласць і рашучасць спрыялі таму, што практычна ў кожным хакейным паядынку з удзелам мінскай каманды левы крайні нападаючы закідваў шайбы ў вароты сапернікаў. А ўсяго спартыўна-хакейныя статыстыкі зафіксавалі звыш 300 (!) узяццяў варот таленавітым мінскім форвардам…

Мінула ўжо не адно дзесяцігоддзе, як Сяргей Уладзіміравіч пакінуў лядовую пляцоўку, а гэты паказчык так і застаецца недасягальным для цэлых пакаленняў беларускіх майстроў клюшкі!



## *Віктар Угрумаў:*

## З ВЕРАЙ У СВАЮ ЗОРКУ

*Віктар Угрумаў нарадзіўся 12 жніўня 1939 года ў горадзе Хабараўску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён Гульняў XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) па коннаму спорту ў камандных спаборніцтвах у выездцы, бронзавы прызёр у асабістым першынстве. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету 1978 года ў камандных спаборніцтвах, сярэбраны прызёр першынстваў Еўропы 1975 і 1979 гадоў у камандных спаборніцтвах. Сяміразовы чэмпіён Савецкага Саюза. Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры БССР. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, медалём «Ветэран працы». Першыя трэнеры — Аляксандр Кісялёў і Аляксандр Каўшоў.*

Ён нарадзіўся ў Хабараўску, вырас — у Ташкенце, а знайшоў сябе ў жыцці — у Мінску. І гэта не нейкія там крутыя віражы лёсу. Гэта — самы звычайны жыццёвы шлях савецкага чалавека — таленавітага спартсмена і не менш здольнага спецыяліста сваёй справы. Справы, абранай адзін раз — і назаўсёды!

На вышэйшую ступеньку алімпійскага п’едэстала гонару ён узняўся ўжо ў тым узросце, калі яго звалі не проста Віця ці Віктар, а — Віктар Пятровіч. Гэта было адначасова і звычайнай чалавечай увагай, і прызнаннем аўтарытэту, і данінай павагі за вернасць Справе…

Да дарослай справы ён прызвычаіўся даволі рана — дзесьці пасля шостага класа. Ды і захапленне 15-гадовага хлопца конным спортам — відам мужных і адважных людзей — сведчыць аб тым жа. Прыйшоўшы аднойчы ў Ташкенцкую коннаспартыўную школу, Віктар іншых відаў нават і не шукаў.

«Мабыць, знайшлі мы адзін аднаго адразу ж і на ўсё жыццё!» — не аднойчы скажа ён потым.

У першыя пасляваенныя гады і дзесяцігоддзі Узбекістан рыхтаваў і даваў спорту добрых спартсменаў-коннікаў. Асабліва — у канкуры (пераадоленне на конях перашкод) і трохборстве. А вось у выездцы справы ішлі не вельмі добра. Віктар Угрумаў хоць і моцна захапляўся канкурам, але ўжо ў шасцідзесятыя гады, узважыўшы свае рэальныя магчымасці і падарасламу ўсур'ёз ацаніўшы перспектывы, усё ж такі зрабіў канчатковы выбар на карысць выездкі. Адобрыў ягоны выбар і першы трэнер Аляксандр Кісялёў. І хоць неахвотна ён расставаўся з адным са сваіх лепшых вучняў, аднак перадаў Віцю ў рукі спецыяліста па выездцы Аляксандра Каўшова з вялікай надзеяй на будучыя набыткі дваццацігадовага Угрумава.

Першым канём, з якім пачаў займацца Віктар, быў конь па мянушцы Ліхі. Ліхі — дык Ліхі. Толькі быў ён… аднавокі. Для пераадолення перашкод ці нават трохборства ён, мабыць, і падышоў бы, а вось для выездкі… Аднак Угрумаў ужо тады змог даказаць, што невырашальных пытанняў няма. Звыш года займаўся ён на Ліхім, разам з канём асвойваючы азы гэтага даволі працаёмкага віду коннага спорту. А неўзабаве прыйшоў і першы поспех: на чэмпіянаце Савецкага Саюза ў розыгрышы так званага «Уступнага прыза» Віктар на сваім Ліхім заняў трэцяе месца. Яшчэ праз год малады перспектыўны коннік дэбютуе на ўсесаюзным першынстве ўжо ў алімпійскім практыкаванні — розыгрышы «Вялікага прыза». І калі «Уступны прыз» скарыўся, дык «Вялікі…», наадварот, не паддаўся, дазволіўшы запісаць імя спартсмена і ягонага каня ўсяго толькі трынаццатым радком у турнірнай табліцы. Больш таго, многія спецыялісты, трэнеры і нават звычайныя аматары коннага спорту, даведаўшыся аб загане каня, ледзь ці не ў адкрытую пасміхаліся не толькі з Віктара і Ліхога, а нават з усяго Узбекістана: маўляў, ужо і добрага каня знайсці не могуць…

Тым не менш, азнаменаваўся той дэбютны выезд Віктара Угрумава і добрай навіной: шматвопытныя спецыялісты ледзь не ў адзін голас даволі высока ацанілі асабістае майстэрства невядомага ім раней спартсмена.

Далейшымі прыступкамі ягонай жыццёвай дзейнасці былі служба ў радах Савецкай Арміі, вучоба ў інстытуце фізічнай культуры і, нарэшце, работа трэнерам па навучальным працэсе ў той жа коннаспартыўнай школе, а паралельна — і выступленне ў складзе зборнай Узбекістана… Справы ішлі нібыта больш-менш добра, аднак… Падчас выступлення зборнай

Узбекскай ССР на Спартакіядзе народаў СССР здарылася прыкрае непаразуменне, у выніку якога каманда, ад якой спартыўнае кіраўніцтва рэспублікі чакала ўзнагарод і толькі ўзнагарод, была наогул дыскваліфікавана. «Крайнім» зрабілі Віктара і абвінавацілі ва ўсіх грахах…

…Зімой 1971 года ён быў ужо ў Мінску.

Перадаючы маладому і, безумоўна, перспектыўнаму пакаленню беларускіх аматараў і майстроў коннага спорту свае ўжо даволі багатыя веды і набыткі, Угрумаў шмат часу прысвячаў і асабістай падрыхтоўцы. Выездка — з тых відаў спорту, дзе ў пашпарт зазіраць не прынята. Высокае тваё майстэрства, умееш працаваць на манежы, ёсць у цябе паразуменне з чатырохногім сябрам — калі ласка, выступай хоць да пяцідзесяці, хоць нават і да сямідзесяці! Ды і верыў ён сам: ягоны час яшчэ наперадзе…

Праз год (!) пасля пераезду Віктара Угрумава ў нашу сталіцу і пра беларускую каманду, і пра яе настаўніка (а адначасова — і ўдзельніка) загаварыў увесь спартыўны свет. На чарговым першынстве Савецкага Саюза тры прадстаўнікі зборнай Беларусі па коннаму спорту заваёўваюць медалі, а сам Віктар становіцца чэмпіёнам краіны па выездцы ў розыгрышы таго ж «Уступнага прыза». Конніка і яго баявога сябра — каня Саіда ўжо пачынаюць пазнаваць і прызнаваць і на спаборніцтвах па праграме алімпійскага «Вялікага прыза». У 1973-м дуэт Угрумаў — Саід займае 10-е месца, у 1974-м — 6-е, потым — 4-е… Беларускага майстра ўключаюць у склад нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза, і ён з гонарам выходзіць літаральна з першага ж выпрабавання: становіцца сярэбраным прызёрам еўрапейскага першынства!

І гэта пры тым, што не толькі на еўрапейскім кантыненце, а і ўнутры зборнай Савецкага Саюза было, што называецца, незвычайна горача. Ды што казаць пра нейкія там спаборніцтвы па праграме першынства СССР ці чэмпіяната Еўропы, калі нават на алімпійскіх манежах асноўную спрэчку за медалі самай высокай вартасці вялі прадстаўнікі нашай, савецкай школы коннага спорту: дасягненні Івана Кізімава, Алены Петушковай, Івана Каліты былі ўганараваны залатымі ўзнагародамі Алімпіяд. І раптам ім дае самы сапраўдны бой мінчанін Віктар Угрумаў: апярэджвае ўсіх трох (!) на спаборніцтвах мацнейшых савецкіх майстроў выездкі, потым гэтак жа ўпэўнена і пераканаўча займае першае месца на буйным міжнародным турніры ў Аўстрыі з удзелам прадстаўнікоў 11 краін…

Два Іваны і Алена прызнаюць: замена ў асобе 36-гадовага Віктара Угрумава ім падрасла надзейная і трывалая!

Ягоны алімпійскі дэбют адбыўся ў 1976-м у Манрэалі. Зоркі коннага спорту самай першай велічыні — савецкі спартсмен Іван Кізімаў з Ленінграда, немцы Габрыэла Грыла, Райнер Кліпе і Гары Больдт, швейцарка Крысціна Штукельбергер, амерыканка Дароці Моркіс, ды і ён — мінчанін Віктар Угрумаў мелі прыкладна аднолькавыя шанцы ўзняцца на п'едэстал гонару. І не толькі кожны з іх асабіста, але і каманды тых краін, гонар якіх яны абаранялі. Але — спорт непрадказальны. «Заваліў» справу Кізімаў, і ў камандных спаборніцтвах зборная Савецкага Саюза апынулася толькі на чацвёртым месцы. Не пашанцавала і ў асабістай выездцы: лепшым з нашых быў Угрумаў, які заняў шостае месца.

Адразу ж пасля вяртання з Алімпіяды ў Мінск ён паставіў перад сабой новую мэту: выступіць на наступных Гульнях у 1980 годзе ў Маскве. Той жа манеж у Ратамцы, ранейшыя дзве трохгадзінныя трэніроўкі ў дзень, звыклы чатырохногі сябар Саід… Усё па плану, па загадзя і дакладна распрацаванаму графіку… І раптам у Саіда выяўляецца тромб, і ветэрынарныя ўрачы выносяць прысуд аб немагчымасці выступлення на ім на спаборніцтвах. Віктар не расчароўваецца: у ягоным распараджэнні ёсць яшчэ конь па мянушцы Шквал. Інтэнсіўнасць заняткаў павялічылася: да XXII Алімпіяды часу заставалася зусім нямнога.

Выступленне савецкай зборнай у складзе Віктара Угрумава з Мінска, Веры Місевіч з Кіева і Юрыя Каўшова з Ташкента на алімпійскім коннаспартыўным комплексе «Бітцэ» стала трыумфальным. Трыо таленавітых майстроў выездкі набрала 4383 балы і, апярэдзіўшы адразу на 803 балы (!) сярэбраных медалістаў Гульняў — спартсменаў з Балгарыі, заваявала залатыя алімпійскія ўзнагароды. Двое з трох савецкіх спартсменаў узняліся тады ж на п'едэстал і за медалямі ў асабістым першынстве: Юрый Каўшоў атрымаў серабро, а Віктар Угрумаў — бронзу.

Уклад Віктара Пятровіча Угрумава ў станаўленне і развіццё беларускай школы коннага спорту ацэнены ганаровымі званнямі «Заслужаны дзеяч фізічнай культуры БССР» і «Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь».



## *Сяргей Каплякоў:*

## ПА ВАДЗЕ — ДА СЛАВЫ І ПРЫЗНАННЯ

*Сяргей Каплякоў нарадзіўся 23 студзеня 1959 года ў горадзе Орша. Заслужаны майстар спорту СССР. Двухразовы алімпійскі чэмпіён: пераможца XXII Алімпіяды ў Маскве (1980) у плаванні на дыстанцыі 200 метраў і ў эстафеце 4 х 200 метраў вольным стылем. Сярэбраны прызёр XXI Алімпійскіх гульняў у Манрэалі (1976) у эстафеце 4 х 200 метраў вольным стылем і XXII Гульняў (1980) у камбінаванай эстафеце 4 х 100 метраў. Сяміразовы чэмпіён Еўропы. Дванаццаціразовы пераможца першынстваў Савецкага Саюза. Чэмпіён Спартакіяды народаў СССР. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Першы трэнер — Эдуард Чавус.*

У тыя часы трапіць у абойму ўдзельнікаў зборнай Савецкага Саюза па плаванні, ды яшчэ з перыферыі, было практычна немагчыма. Дзве плавальныя школы — маскоўская і ленінградская — рыхтавалі плыўцоў, скажам так, сярэдняга ўзроўню, якія і задавалі тон у савецкім спорце. У савецкім — і не больш за тое… Іх выхаванцы толькі зрэдку ўмешваліся ў размеркаванне месцаў на п’едэсталах гонару на Алімпійскіх гульнях і сусветных першынствах, на якіх зазвычай непадзельна ўладарылі амерыканскія, аўстралійскія і нямецкія майстры водных дарожак. Праўда, яшчэ у 1960-я — на пачатку 1970-х гадоў тую манаполію парушылі савецкія плыўцы Галіна Празуменшчыкава, Сямён Беліц-Гейман і іншыя.

Аднак больш-менш акрэсленая атака на, здавалася б, непахісныя пазіцыі ў сусветным плаванні тых жа амерыканцаў, аўстралійцаў і немцаў была здзейснена напрыканцы 1970-х — на пачатку 1980-х гадоў. Адным з тых, хто імкліва і ўпэўнена ўварваўся ў эліту сусветнага спорту, стаў выхаванец беларускай школы плавання Сяргей Каплякоў.

Першым з сапраўдных спецыялістаў плавання, хто заўважыў яго, быў Эдуард Станіслававіч Чавус. Убачыўшы хлопчыка ў басейне, ён адразу ж адзначыў для сябе яго гнуткасць, плывучасць, свабоднае трыманне на вадзе… Рашэнне было прынята адразу і без ваганняў: з Сярожам можна і трэба працаваць!

Тая праца — штодзённая, настойлівая і самаадданая — літаральна адразу ж прынесла і першы вынік: ужо ў дзесяцігадовым узросце (!) Каплякоў выйграў першынство Беларусі сярод школьнікаў… А ў няпоўныя 15 гадоў стаў майстрам спорту СССР.

Такім чынам, перспектывы былі відавочнымі: іх можна было ўбачыць няўзброеным вокам падчас аднаго-адзінага заплыву юнага спартсмена. Аднак здарылася тое, чаго больш за ўсё баяліся і першы настаўнік Сяргея Эдуард Чавус, і спецыялісты беларускай зборнай, Федэрацыі плавання рэспублікі, і нават тагачасныя кіраўнікі Камітэта па фізічнай культуры і спорту Беларусі: за таленавітым плыўцом пачалося сапраўднае паляванне прадстаўнікоў і адказных асоб тых жа маскоўскай, ленін градскай ды і некаторых іншых плавальных школ. І не толькі за ім, а і за іншымі нашымі юнымі выхаванцамі: Святланай Клявакінай, Наталляй Яршовай… Тыя ваяжоры-спецыялісты, якія афіцыйна і тайна наведваліся ў Мінск, пытанне зазвычай ставілі рубам: маўляў, без пераезду ў тую ці іншую сталіцу плавання вашым выхаванцам не свеціць нічога!..

Не ўдаючыся ў іншыя падрабязнасці той закуліснай валтузні, адзначым: у выніку ўсяго гэтага Сяргей Каплякоў, ужо будучы залічаным у склад нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза, па настойлівай прапанове-просьбе яе кіраўніцтва «зрабіў выбар» і апынуўся ў паўночнай сталіцы Расіі — Ленінградзе. Дзякуй Богу, трапіў ён у рукі даволі здольнага і ўдумлівага спецыяліста — Генрыха Яроцкага. Перад імі — трэнерам і яго новым вучнем — была пастаўлена надзвычай канкрэтная, высокая і адказная задача: падрыхтоўка да XXI Алімпійскіх гульняў 1976 года ў Манрэалі.

Да гонару нашага юнага земляка, у вялікім і тлумным горадзе на Няве ён не разгубіўся і не згубіўся. І гэта пры тым, што Каплякоў адразу ж трапіў у кампанію (у добрым сэнсе слова) намнога больш вопытных і ўжо тытулаваных сяброў-сапернікаў. Па настойлівай прапанове Генрыха Яроцкага Сяргея ўключылі ў эстафетную каманду на дыстанцыі 4 х 200 метраў вольным стылем разам з майстрамі спорту СССР міжнароднага класа Андрэем Крыловым, Уладзімірам Раскатавым і Андрэем Багданавым, які і пачаў планамерную падрыхтоўку да алімпійскага старту ў Канадзе.

Як і чакалася, эстафету 4 х 200 метраў вольным стылем на XXI Алімпіядзе —1976 выйгралі плыўцы Злучаных Штатаў Амерыкі. Серабро ж савецкага квартэта таксама было ацэнена надзвычай высока: на алімпійскі п'едэстал у гэтым відзе плавальнай праграмы нашы спартсмены ўзняліся ўпершыню ў гісторыі Гульняў. Сярод тых трыумфатараў быў і ён, выхаванец беларускага плавання Сяргей Каплякоў.

Усе: аматары спорту, спецыялісты і трэнеры — пачалі з нецярпеннем чакаць працягу спрэчкі за ўзнагароды на наступнай Алімпіядзе — 1980 года ў Маскве…

На жаль, вочнай спрэчкі не адбылося: кіраўнікі алімпійскага руху ЗША, Аўстраліі, ФРГ, іншых дзяржаў Захаду Гульні ў савецкай сталіцы, як вядома, байкатавалі… Але гэта нікольکі не зменшыла і не прынізіла вартасці тых узнагарод, якія заваяваў на водных дарожках алімпійскай Масквы плывец Сяргей Каплякоў. Яшчэ за год да Алімпіяды, у 1979-м, на матчавай сустрэчы спартсменаў Савецкага Саюза і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ён у плаванні на дыстанцыі 200 метраў вольным стылем устанавіў сусветны рэкорд, паказаўшы проста неверагодны для таго часу вынік — 1 мінута 49,83 секунды. Як кажуць самі спартсмены, «скінуўшы» з гэтага паказчыка яшчэ адно імгненне, наш выхаванец заваяваў залаты алімпійскі медаль з новым сусветным рэкордам — 1 мінута 49,81 секунды — і ў спаборніцтвах па алімпійскай праграме.

Была ў алімпійскай Маскве і яшчэ адна вышэйшая ўзнагарода — золата ў эстафеце 4 х 200 метраў усё тым жа вольным стылем. І хоць шмат хто са спецыялістаў і звычайных нядобразычліўцаў лічыў і лічыць тую перамогу савецкага квартэта ў складзе Сяргея Каплякова, Андрэя Крылова, славутага трохразовага алімпійскага чэмпіёна Уладзіміра Сальнікава і Івара Стуколкіна загадзя запланаванай: маўляў, галоўных прэтэндэнтаў на перамогу — амерыканцаў не было ж, — тым не менш, сапраўдныя знаўцы плавання былі і застаюцца на іншай пазіцыі: на той момант роўных у свеце камандзе плыўцоў Савецкага Саюза проста не было!

Сем залатых узнагарод за перамогі на чэмпіянатах Еўропы, трынаццаць медалёў такой жа вартасці за выступленні на першынствах Савецкага Саюза і Спартакіядзе народаў СССР таксама сведчаць аб тым, што ў гісторыі беларускага спорту ў цэлым і плавання — у прыватнасці Сяргею Каплякову варта аддаваць дастойнае і самае ганаровае месца…



## *Аляксандр Партноў:*

# ГРОСМАЙСТАР ТРАМПЛІНА

*Аляксандр Партноў нарадзіўся 17 верасня 1961 года ў горадзе Баку (Азербайджан). Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве (1980) па скачках у ваду. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету 1982 года. Чэмпіён Еўропы 1981 года. Пераможца міжнародных спаборніцтваў «Дружба-84». Шматразовы чэмпіён Савецкага Саюза. Бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы 1976 года сярод юнакоў. Узнагароджаны двума ордэнамі «Знак Пашаны». Першыя трэнеры — Анатоль Андрэеў, Веніямін Загуляеў і Сталій Партноў.*

Многія, вельмі і вельмі многія спартсмены, перш чым дасягнуць алімпійскай і сусветнай славы, праходзяць праз не адзін від спорту, пакуль нарэшце не знойдуць сябе, з дапамогай шчырых і сумленных старэйшых сяброў — сваіх настаўнікаў і трэнераў, адчуюць свой патэнцыял. І ў гэтым ёсць пэўная заканамернасць: шлях да агульнапрызнаных вышынь ляжыць толькі праз выпрабаванні! Ведаю: зоркі самай першай велічыні, як правіла, пагаджаюцца з гэтым довадам…

Праўда, бываюць і выключэнні, калі той ці іншы падлетак, нават яшчэ зусім дзіця, раптам знаходзіць сябе — як кажуць у такіх выпадках, адзін раз і назаўсёды. Шчасліўчык? Улюбёнец лёсу?

Няхай сабе будзе і так!

Да такіх сапраўдных майстроў вялікага спорту адносіцца і скакун у ваду Аляксандр Партноў.

Першы раз, паводле аповеду самога спартсмена, у ваду ён скокнуў тады, калі яму споўнілася ўсяго толькі… тры гады.

Бацька — Сталій Львовіч — узяў хлопчыка на рукі і, ці то жартуючы, ці то ўсур'ёз, скокнуў з ім з трохметровай вышкі. Праўда, Саша тады не запомніў, спадабалася гэта яму ці не…

А калі казаць шчыра, выбар спартыўнага занятку яму быў, скажам так, наканаваны лёсам. Бацька Сталій Львовіч і маці Лідзія Міхайлаўна былі прафесіянальнымі трэнерамі па скачках у ваду, так што з'яўленне трохгадовага сына ў басейне і той гістарычны скачок Партновых — старэйшага і малодшага быў зусім не выпадковым… А калі ён падрос, трохі загартаваў свой арганізм, і перш за ўсё — на школьных уроках фізкультуры, — з нававбранцам дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы па скачках у ваду пачаў займацца ягоны першы ў жыцці трэнер — Анатоль Андрэеў.

Аднак неўзабаве юнага спартсмена, ды і яго бацькоў, напаткала першая няўдача. Падчас выканання скачка з дзесяціметровай вышкі Саша памыліўся пры ўваходжанні ў ваду і атрымаў вельмі моцную і хваравітую траўму. Бацькоўскі трэнерскі савет з удзелам Анатоля Андрэева прыняў рашэнне: каверзную вышку пакінуць, а ўсю падрыхтоўку сканцэнтраваць на трохметровым трампліне. Спачатку з Партновым-малодшым пазаймаўся Веніямін Загуляеў, а потым пад сваю апеку сына ўзяў Партноў-старэйшы.

Як і ў маленстве, па агульнафізічных нагрузках скідак і паблажак сыну Сталій Львовіч не рабіў. Так, ніхто не будзе адмаўляць, што ўвагі яму ўдзяляў больш, у тым ліку — і пасля заняткаў, і дома, аднак з самых першых крокаў трэнер-бацька прывучваў Сашу ўсё рабіць адказна, сур'ёзна, дыхтоўна… І гэтыя настойлівасць, самастойнасць і працавітасць, з аднаго боку, плюс строгасць і патрабавальнасць — з другога рана ці позна павінны былі прынесці плён і аддачу…

У пятнаццацігадовым узросце Саша Партноў перамог у традыцыйнай матчавай сустрэчы спартсменаў Савецкага Саюза і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, а потым, у тым жа 1976-м, заваяваў бронзавы медаль на юнацкім першынстве кантынента. Сталій Львовіч бязмерна радаваўся за сынавы набыткі, аднак падрыхтоўку яго не фарсіраваў, а паволі ўскладняў усё новымі і новымі элементамі. Галоўнай задачай вопытнага спецыяліста і яго вучня былі не перамогі на ўнутрысаюзных спаборніцтвах, нават не ўдзел у міжнародных турнірах і сустрэчах, а планамерная, прадуманая падрыхтоўка адшліфаванай, даведзенай да аўтаматызму, праграмы — максімальна складанай, віртуозна выконваемай,

арыгінальнай і непаўторнай у параўнанні з праграмамі іншых спартсменаў, у тым ліку і заканадаўцаў моды ў скачках у ваду — італьянцаў, мексіканцаў, амерыканцаў…

Да пачатку алімпійскага 1980 года такая праграма бацькам і сынам Партновымі была распрацавана, развучана, апрабавана. Яе мы і ўбачылі тады ў Мінску — на традыцыйным міжнародным турніры пад такой мілагучнай і непаўторнай назвай — «Вясновыя ластаўкі».

…Цяжка нават уявіць: як спартсмен, скокнуўшы ўсяго толькі з трохметровай вышыні і знаходзячыся ў палёце некалькі імгненняў, паспявае выканаць проста неверагодныя трукі?! Адна з тых камбінацый, распрацаваная і прапанаваная тады Партновымі прыдзірлівым суддзям і малакампетэнтным у большасці сваёй аматарам спорту, называлася «скачок у два з паловай абароты з вінтом»… Трыбуны басейна ў парку Чалюскінцаў на момант замерлі, Саша сканцэнтраваўся і скокнуў…

Авацыя не змаўкала некалькі мінут!

Аднак куды больш важкай узнагародай стала пуцёўка на Гульні XXII Алімпіяды ў Маскве…

24 скакуны з 16 краін свету вялі ў савецкай сталіцы барацьбу за камплект з трох алімпійскіх медалёў. У фінал у прамым сэнсе слова прабіліся самыя таленавітыя і загартаваныя з іх, тыя, хто адмыслова выканаў 11 скачкоў у папярэдніх спаборніцтвах. Спецыялісты і аматары спорту адразу ж запрыкмецілі: асноўную барацьбу за золата маскоўскай чаканкі павядуць мексіканскі атлет Карлас Хірон і савецкі спартсмен Аляксандр Партноў. У кваліфікацыйных спаборніцтвах наш прадстаўнік уступіў госцю з-за акіяна нязначна — усяго толькі 0,09 бала. Як кажуць у такіх выпадках, усе кропкі над «і» павінны былі быць расстаўлены на заключным этапе барацьбы за ўзнагароды…

У фінале беларускі скакун быў проста непараўнальны. Кожны скачок, выкананы ім, адрозніваўся высокай ступенню складанасці і дакладнасцю ўваходжання ў ваду — якраз тымі кампанентамі, якія ў гэтым відзе спорту цэняцца перш за ўсё. Яго сума балаў — 905,025 — у адзін голас была названа гросмайстарскай! Уступіўшы Партнову амаль 13 балаў, Карлас Хірон першым павіншаваў яго з бліскучым і непараўнальным выступленнем…

Той залаты алімпійскі медаль сярод беларускіх скакуноў у ваду па-ранейшаму адзіны, а значыць, і самы дарагі!



## *Вячаслаў Яноўскі:*

# АД ПЕРШАГА ІМГНЕННЯ ДА АПОШНЯГА…

*Вячаслаў Яноўскі нарадзіўся 24 жніўня 1957 года ў Віцебску. Заслужаны майстар спорту СССР. Чэмпіён XXIV Алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) па боксу ў вагавой катэгорыі да 63,5 кілаграма. Сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы 1987 года, бронзавы — еўрапейскага першынства 1985 года. Уладальнік Кубка свету 1987 года. Пераможца міжнародных спаборніцтваў «Дружба-84». Двухразовы чэмпіён Савецкага Саюза — 1987 і 1988 гадоў, неаднаразовы прызёр першынстваў краіны, Спартакіяды народаў СССР. Шасціразовы чэмпіён Японіі па прафесіянальнаму боксу. Пераможца першынства Германіі сярод баксёраў-прафесіяналаў. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Першы трэнер — Вілій Ільчанка.*

Баксёрскі рынг ён пакідаў… тройчы. Спачатку — у 25 гадоў, потым — у 30… Не вытрымлівалі нервы? Не сказаў бы. Тым не менш, было шмат людзей, якія выдатна разумелі Славу Яноўскага. Разумелі — і рабілі ўсё, каб ён вяртаўся ў вялікі спорт.

Вяртаўся і перамагаў!

Дык у чым жа была сутнасць справы?

— У 1982-м мне было 25, — згадваў ён пазней. — Хапала прызнання, не быў абдзелены і званнямі: майстар спорту СССР міжнароднага класа, прызёр двух чэмпіянатаў Савецкага Саюза… Радасці ж у жыцці — аніякай! Адзін з нямногіх міжнародных майстроў на перыферыі, а жыць няма дзе… Спачатку туліліся ў сціплым бацькоўскім доме на Зялёнай вуліцы ў Віцебску, потым — жонцы далі нейкую плошчу на падсяленне… Свой куток займелі тады, калі ўжо былі ў нас з Галінай два сыны і старэйшы з іх — Сярога — пайшоў у школу… Вось і задумаўся аднойчы: а каму я ў родным Віцебску патрэбны?

…Тое ж, што ён патрэбны спорту і — рана ці позна — стане прызнаным майстрам, яму шматкрат сцвярджалі — і такім чынам вярталі на рынг ягоныя настаўнікі.

Першым з іх быў Вілій Ільчанка. Не адзін дзесятак віцебскіх «пеўняў»-забіяк ледзь не сілай прымусіў ён спыніць высвятленне адносінаў па завуголлю і запрасіў да сябе — у баксёрскую секцыю. Слава Яноўскі, дарэчы, тым «пеўнем» ніколі і не быў. У 13-гадовым узросце ён сам знайшоў Ільчанку і створаную ім групу падрыхтоўкі і папрасіў праверыць яго…

Той праверыў, упэўніўся: характар у падлетка ёсць! Прапанаваў застацца, запісацца ў секцыю… Даў самыя сапраўдныя пальчаткі, даволі хутка навучыў правільнай стойцы на рынгу… І пачаліся будні-трэніроўкі: спачатку — праз дзень, неўзабаве — штодзённа.

А праз некалькі гадоў Вілій Ільчанка перадаў свайго лепшага і любімага вучня аднаму з настаўнікаў зборнай Віцебскай вобласці Валерыю Кандрацэнку.

Дэвізам гэтага здольнага спецыяліста заўсёды і ва ўсім былі такія простыя і зразумелыя словы: «Ніколі не стой на месцы!» «Не стой!» — у жыцці наогул, а падчас баксёрскага паядынку — тым больш. Спыніш актыўныя дзеянні, станеш — хоць бы на імгненне! — і цябе тут жа абыдуць, пакінуць ззаду. Вярнуцца ж наперад, у першы рад — можаш і не паспець, а могуць і не дазволіць іншыя…

Такі вось філасофскі сэнс дэвіза Кандрацэнкі «Ніколі не стой на месцы!» Яноўскі раскруціў сам. І не проста раскруціў, а і прытрымліваўся гэтага сэнсу на працягу ўсяго свайго спартыўнага шляху!

Ён быў рэалістам, таму разумеў: поспеху можна дасягнуць толькі праз працу. І ён працаваў: па некалькі гадзін у дзень, з месяца ў месяц, з года ў год… У 23 гады, прызнаваўся Слава, нарэшце адчуў: што-нішто рабіць умею!

Яшчэ праз год — у 1981-м — Валерый Кандрацэнка і Вячаслаў Яноўскі атрымліваюць нарэшце тэлефанаграму-выклік у зборную Савецкага Саюза. Той выклік стаў зусім заслужаным дадаткам да двух медалёў (няхай сабе пакуль што і не залатых), заваяваных на чэмпіянатах краіны ў 1979 і 1980 гадах…

Мара аб самым што ні ёсць вялікім рынгу пачынала станавіцца явай. І раптам Яноўскі заяўляе Кандрацэнку аб тым, што пакідае спорт…

— Не рабі глупстваў! — як ніколі раней катэгарычна сказаў трэнер. — Твае перамогі наперадзе!

— Уяўляеце, — неяк па-свойму непаўторна і тонка павёў падчас нашай размовы Яноўскі сваімі неверагодна прыгожымі вусамі, — а я ж мог і не паслухаць яго…

Паслухаў, вярнуўся.

Адной з першых, ці не самых памятных на той час, «перамог наперадзе», пра якія казаў Валерый Кандраценка, стаў выйгрыш у традыцыйным матчы баксёраў Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў Амерыкі. На амерыканскім рынгу ў невялікім гарадку Рына Слава так «апрацаваў» гаспадара, што арганізатарам нічога іншага не заставалася, як прызнаць спартсмена з Беларусі лепшым баксёрам турніра.

— А ты ўжо хацеў ісці рамантаваць аўтамашыны! — не прамінуў Кандраценка магчымасці падкузьміць Яноўскага, маючы на ўвазе яго намеры падчас нядаўняга жадання развітацца з боксам. — І гэта яшчэ не ўсё, а толькі пачатак. Твае перамогі — наперадзе…

І тыя перамогі, праўда, у перамешку з некалькімі паражэннямі ў паўфіналах і фіналах, што называецца, пайшлі… Залаты медаль пераможцы буйнога міжнароднага турніра «Дружба-84» быў праз тры гады падмацаваны адным з самых прэстыжных аматарскіх прызоў — Кубкам свету! Бронзавая прыступка п'едэстала гонару Спартакіяды народаў СССР атрымала такі ж працяг і на чэмпіянаце Еўропы… Ужо не толькі амерыканскія майстры скураной пальчаткі, а нават і новыя на той час віртуозы — кубінцы не могуць знайсці аргументаў, каб супрацьстаяць Яноўскаму на міжнародным рынгу.

І зноў з Вячаславам адбываецца нейкі толькі яму зразумелы канфуз: вялікі спорт ён пакідае ў другі раз. «Зноў штосьці зламалася ўнутры, — згадваў ён потым. — Пакінуў зборную краіны, уладкаваўся трэнерам у родным Віцебску. Пра што думаў? Ат, так сабе: маўляў, за спінай — ужо трыццатнік, на рахунку — звыш 300 баёў… Каму я больш патрэбны?!»

Дзякуй Богу, і на гэты раз ён знайшоў у сабе сілы, унутраныя рэзервы, каб перагледзець рашэнне. Яноўскі вярнуўся на рынг зноў! І як вярнуўся: двойчы — у 1987 і 1988 гадах — на чэмпіянатах Савецкага Саюза проста ў бліскучым стылі даказаў усім без выключэння сапернікам і спецыялістам, што мацней за яго ў вагавой катэгорыі да 63,5 кілаграма ў краіне проста няма…

Тады лёс звёў яго з сусветна вядомым чалавекам — лётчыкам-касманаўтам, Героем Савецкага Саюза Паўлам Паповічам. Чым яны спадабаліся адзін аднаму — вядома, як кажуць

у такіх выпадках, аднаму толькі Богу. Яны не толькі пазнаёміліся, але і моцна, па-мужчынску пасябравалі. Шмат разоў згадваў потым Вячаслаў Яўгенавіч словы Паўла Раманавіча: «Стаць пераможцам Алімпійскіх гульняў — усё роўна, што злётаць у космас!»

Алімпійскі Сеул стаў вяршыняй ягонага трыумфу. У яго магчымасцях, дарэчы, настаўнікі зборнай… сумняваліся ледзь не да першага выхаду Славы на алімпійскі рынг. Колькі разоў — зрэдку нават прама ў вочы! — чуў ён і ад так званых дасведчаных людзей, і ад нейкіх зусім невядомых чыіхсьці памочнікаў, і нават ад высокапастаўленых чыноўнікаў Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў СССР і Федэрацыі бокса краіны ледзь не адно і тое: маўляў, шанцаў у цябе — аніякіх!..

— Злавала гэта вас? — спытаў я аднойчы ў яго.

І ён, баксёр-прафесіянал, здавалася б, чалавек, якому няма чаго ні баяцца, ні задумвацца аб якіх-небудзь наступствах (хоць яны маглі быць, і яшчэ якія!), тады адказаў вельмі і вельмі нечакана:

— Спытайце пра што-небудзь іншае…

Я зразумеў: яму той недавер даваў аб сабе знаць яшчэ доўга…

Так ужо склалася сітуацыя перад XXIV Алімпіядай: у ягонай вагавой катэгорыі да 63,5 кілаграма традыцыйна моцна выступалі ў баксёры Італіі і Францыі, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і Даніі, ну а бясспрэчнымі фаварытамі, вядома ж, лічыліся амерыканцы і кубінцы. Дзякуй Богу, удала склалася для савецкага спартсмена жараб'ёўка: у папярэдніх паядынках яна развяла Яноўскага з імі…

Паядынкі з першымі алімпійскімі сапернікамі адзін за другім складваліся на яго карысць. Нічога не ведаў пра іх ён, цёмным конікам быў і ён для іх: прадстаўніка зборнай Даніі Сондэгара, баксёра з таямнічай і загадкавай Танзаніі Матумплу, француза Прота, — таму і даказваў сваю перавагу самым звычайным спосабам — валоданнем ініцыятывай, вядзеннем бою ў сваёй манеры, сваім стылі… Праўда, далей прыйшлося складаней. У чвэрцьфінале спартсмен з Замбіі Мвамбу кінуўся на Яноўскага бы на нейкую зусім натуральную ахвяру! Слава тут жа паставіў чорнаскурага на месца: адзін «крук», другі, — і таму неўзабаве дайшло — хто ёсць хто!

Сапернік па паўфінале заходнегерманскі баксёр Гіс быў больш дасведчаны аб тым, з кім мае справу: ён, канешне ж,

чуў пра поспехі Яноўскага і на чэмпіянатах кантынента, і на розыгрышах Кубка свету, і на іншых буйных міжнародных турнірах… Асцярожнічаў Гіс, не рызыкаваў, але ўрэшце ўступіў і ён.

І вось — фінальны паядынак за самы ганаровы тытул у аматарскім боксе — алімпійскага чэмпіёна. Аўстраліец Грэхам Чыні, такі ж, як і Вячаслаў Яноўскі, дэбютант у барацьбе за золата. І для таго, і для другога цана бою — проста неверагодная! Абодва — сама сканцэнтраванасць, асцярожнасць, адказнасць: за кожны ўдар, кожны рух, кожнае дзеянне на рынгу! Аднак у суддзяў сумненняў не было: лепшы ў вазе да 63,5 кілаграма ён — Вячаслаў Яноўскі са зборнай каманды Савецкага Саюза!

— Сеул у маёй памяці назаўжды! — скажа ён нам адразу ж пасля вяртання ў родную Беларусь. — Шэсць паядынкаў за два тыдні — нібы марафон на 100-кіламетровай дыстанцыі. Затое шэсць гадзін паміж узнагароджваннем і вяртаннем у Алімпійскую вёску — як самыя вялікія і незабыўныя імгненні!

А ўвогуле ён, Вячаслаў Яноўскі, не толькі наш нацыянальны герой спорту, але і яшчэ дзвюх краін, у якіх бокс — і перш за ўсё прафесійны! — з’яўляецца нацыянальным відам спорту. Задумайцеся самі: шэсць тытулаў чэмпіёна Японіі і адзін — пераможцы першынства Германіі сярод баксёраў-прафесіяналаў, як кажуць, за прыгожыя вочы (а яны ў Вячаслава Яўгенавіча насамрэч неверагодна прыгожыя!) наўрад ці хто ўступіў бы!..



## *Ігар Жалязоўскі:*

# СКОРАСЦІ КРУТЫЯ ВІРАЖЫ

*Ігар Жалязоўскі нарадзіўся 1 ліпеня 1963 года ў горадзе Орша. Заслужаны майстар спорту СССР. Шасціразовы чэмпіён свету — 1985, 1986, 1989, 1991, 1992 і 1993 гадоў, уладальнік Кубка свету 1992 і 1993 гадоў у спрынтэрскім мнагаборстве па скорасным бегу на каньках. Сярэбраны прызёр XVII зімовых Алімпійскіх гульняў 1988 года, бронзавы — XVI Алімпіяды 1984 года на дыстанцыі 1000 метраў. Рэкардсмен свету на дыстанцыі 1500 метраў. Пераможца Спартакіяды народаў СССР 1986 года на дыстанцыях 1000 і 1500 метраў. Шматразовы чэмпіён і рэкардсмен Савецкага Саюза на дыстанцыях 500, 1000 і 1500 метраў. Першы трэнер — Мікалай Гапеенка.*

Лёд, да бляску адпаліраваны спецыяльнай машынай, рэзаў і туманіў вочы. Ці бачыў што-небудзь вакол сябе канькабежац, які стралой імчаў па дарожцы, сказаць цяжка: сам ён у той момант думаў аб іншым. Наперад і толькі наперад — да запаветнай фінішнай лініі! Адзінае, што адчуваў тады Ігар Жалязоўскі, — дыханне саперніка. І не абы-якога, а двухразовага алімпійскага чэмпіёна, пераможцы папярэдняга сусветнага першынства па спрынтэрскім мнагаборстве канадца Гаэтана Бушэ. Так, славуты і, як здавалася многім, непераможны Бушэ ўжо на некалькі крокаў адставаў…

На дарожцы яны — уладальнік шматлікіх тытулаў і ўзнагарод Гаэтан Бушэ і дэбютант міжнародных спаборніцтваў такога высокага рангу Ігар Жалязоўскі сустрэліся ўпершыню ў галандскім горадзе Херэнвене, дзе праходзіў чэмпіянат свету 1985 года. У атэлі і сталоўцы, на трэніроўцы і размінцы перад самым стартам глядзелі адзін на аднаго са зразумелай толькі ім самім цікаўнасцю. Абодва адчувалі: спрэчка за залаты медаль

і лаўровы вянок чэмпіёна свету ў мнагаборстве хутчэй за ўсё разгарыцца менавіта паміж імі.

Важкіх і аргументаваных падстаў стаць яшчэ на адзін год лідэрам сусветнага канькабежнага спрынту ў Гаэтана Бушэ было, несумненна, больш, чым у каго-небудзь іншага. Аднак спецыялісты і трэнеры, шматлікія балельшчыкі ды, відаць, і самі спартсмены меркавалі, што кінуць выклік прызнанаму фаварыту мае падставы перш за ўсё Ігар Жалязоўскі. Аб гэтым, прынамсі, яскрава сведчылі два выдатныя сусветныя рэкорды беларускага скарахода, устаноўленыя ім незадоўга да першынства свету ў Карл-Маркс-Штаце на традыцыйным матчы канькабежцаў тагачаснай Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і тагачаснага ж Савецкага Саюза: на дыстанцыі 500 метраў — 37,66 секунды і ў суме спрынтэрскага мнагаборства — 150,470 ачка. Вядома, не выключаліся са спісу прэтэндэнтаў на высокія ўзнагароды і іншыя вопытныя саапернікі. Свае самыя высокія намеры, у прыватнасці, не ўтойвалі пераможца зімовых Алімпійскіх гульняў у Сараеве ў бегу на 500 метраў масквіч Сяргей Фокічаў, яго зямляк, чэмпіён свету 1984 года ў класічным мнагаборстве Алег Бож'еў, таленавіты нарвежац Фродэ Рэнінг, чэмпіён свету 1983 года японец Акіра Кураіва… За плячыма кожнага з іх былі дзесяткі выступленняў на спаборніцтвах самага высокага рангу, у тым ліку і на галоўных з іх — алімпіядах і сусветных чэмпіянатах.

Ігар Жалязоўскі прыехаў на першынство свету ўпершыню…

У першы дзень спаборніцтваў на дыстанцыі 500 метраў маладога мінчаніна экзаменаваў Акіра Кураіва. Ігар упэўнена правёў увесь забег, і на фінішы секундамеры зафіксавалі выдатны час — 37,91 секунды. Назаўтра на той жа пяцісотметроўцы ён пакажа абсалютна такі ж вынік! У гісторыі канькабежнага спорту, нагадаюць потым спартыўныя спецыялісты, на адных і тых жа спаборніцтвах ніхто і ніколі не паўтараў самога сябе з такой вось дакладнасцю. Што гэта — бег, блізкі да ідэалу?! Калі я спытаў пазней аб гэтым у самога Жалязоўскага, ён хітравата ўсміхнуўся: маўляў, не, да ідэальнага бегу мне яшчэ вельмі далёка, проста ў другі дзень спаборніцтваў, калі я быў ужо лідэрам, бег па дарожцы з поўнай аддачай сіл і дакладным уяўленнем пра сваё становішча…

Сітуацыя ж складвалася надзвычай загадкавая. Кіламетровую дыстанцыю ў першы дзень чэмпіянату выйграў, як і чакалася, Гаэтан Бушэ. Што ж, яна ў яго каронная. Аднак Ігар Жалязоўскі прайграў алімпійскаму чэмпіёну ўсяго пяць сотых секунды — адно імгненне, зафіксаванае толькі электрон-

ным секундамерам. Назаўтра жэрабя звяло іх, як кажуць, твар у твар менавіта на гэтай дыстанцыі (а на чэмпіянатах па спрынтэрскім мнагаборстве спартсмены стартуюць па два разы на 500 і 1000 метраў).

— Ён вельмі вопытны, гэты канадскі канькабежац, — расказваў мне потым Ігар. — У Гаэтана добрая стартавая скорасць і тэхніка бегу. Ужо на першым двухсотметровым адрэзку, на якім спрынтэры, як правіла, набіраюць разбег, ён выйграў у мяне чатыры сотыя секунды…

Здавалася, славуты канадзец, вядомы ўсім сваёй неўтаймоўнай энергіяй, ужо не дазволіць абысці сябе. Але… Жалязоўскі раптам павялічвае тэмп, і вось яны побач, ідуць крок у крок. Яшчэ праз некалькі імгненняў Ігар адрываецца ад саперніка…

— Тры дыстанцыі з чатырох выйграў я на тых спаборніцтвах у Херэнвене, — працягваў Жалязоўскі. — Гаэтан Бушэ — адну. Але ці віна яго ў гэтым?! Канадзец, між іншым, паказаў тады свае лепшыя вынікі. Значыць…

Ігар задумаўся. Я не чакаў працягу ягонай думкі: і так было зразумела, што тоіцца за адным, але такім важкім і аргументаваным словам «Значыць…». Значыць, на той дзень (а можа, і на больш працяглы час!) беларускі скараход быў мацней не толькі за яго, уладальніка двух залатых медалёў Алімпіяды-84 Гаэтана Бушэ: тады Жалязоўскі стаў самым хуткім канькабежцам у свеце! Дарэчы, вынік, паказаны ім у тым рашаючым забегу, — 1 мінута 14,30 секунды — зрабіўся новым сусветным рэкордам.

Тры малыя залатыя медалі за перамогу на асобных дыстанцыях, вялікі медаль такой жа вартасці за мнагаборства і лаўровы вянок чэмпіёна свету — столькі ўзнагарод прывёз тады з Галандыі дэбютант спаборніцтваў Ігар Жалязоўскі. Такіх дэбютаў сусветны канькабежны спорт у сваёй багатай гісторыі яшчэ не ведаў.

А ішоў да сусветнага прызнання ён настойліва і доўга — цэлых дзесяць гадоў…

У 1974 годзе на ўрок фізічнага выхавання ў сярэднюю школу № 6 горада Оршы прыйшоў малады трэнер Мікалай Гапеенка. Пры дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе мясцовага льнокамбіната ён, вядомы ў той час у рэспубліцы канькабежац, ствараў новую секцыю. Па ўсёй Оршы шукаў Мікалай Фёдаравіч школьнікаў, якія не супраць былі паспрабаваць свае сілы і здольнасці на лядовай дарожцы. У школе № 6 адным з першых тады і запісаўся ў секцыю Ігар Жалязоўскі.

— На маё здзіўленне, — прыгадваў пазней Гапеенка, — жадаючых займацца канькабежным спортам аказалася вельмі многа. Натуральна, адбор давялося правесці вельмі строга і прынцыпова. І вытрымаць яго здолелі толькі строгія да сябе і свайго новага захаплення падлеткі, настойлівыя і адданыя ў вучобе і працы…

Ігар аказаўся адным з тых, хто цалкам адолеў вялікія нагрузкі і высокія патрабаванні новага настаўніка. А калі праз чатыры гады — вясной 1978-га — разам з Мікалаем Фёдаравічам ён перайшоў у дзіцяча-юнацкую спартыўную школу № 6 таварыства «Спартак», вынікі ў юнага канькабежца былі ўжо даволі значныя.

І сам Жалязоўскі, і ягоны нязменны настаўнік прызналіся мне аднойчы, што ў свой час Ігар збіраўся кінуць заняткі. Ужо ў сёмым класе ён трапіў у юнацкую зборную нашай рэспублікі, крыху пазней — у такую ж каманду Савецкага Саюза… Зборы, спаборніцтвы, пераезды, трэніроўкі патрабавалі поўнай самааддачы, ахвяравання вольным часам. Прыгадалі яны разам і такі выпадак. Аднойчы Ігар свядома не прыйшоў на трэніроўку: стаміўся, перагарэў… Гапеенка ўзяў таксі, аб’ехаў паў-Оршы, пакуль знайшоў яго, і прывёз у школу.

— Ігар павінен трэніравацца менавіта ў такім рэжыме і напружаным рытме, — неаднойчы казаў Мікалай Фёдаравіч маці спартсмена Ганне Пятроўне. — Пабачыце: ён будзе вялікім канькабежцам. Але для гэтага трэба старацца, працаваць і працаваць…

Так, гэта зусім не перабольшанне: настаўнік ужо тады бачыў і высока ацэньваў вялікі патэнцыял свайго вучня. І Ганна Пятроўна, і яе муж Мікалай Пятровіч паверылі ў сына, усяляк імкнуліся падтрымліваць і заахвочваць яго захапленне.

Пасля паспяховага заканчэння дзесяцігодкі Ігар ужо выразна ўяўляў свой далейшы шлях. У Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры ён паступіў на спецыялізацыю «канькабежны спорт». Натуральна, прыбавілася спраў у вучобе, намнога павысілася інтэнсіўнасць трэніровак. Не прымусілі чакаць сябе і поспехі…

1980 год: Жалязоўскі выйграе першынство Савецкага Саюза сярод юнакоў. 1982-гі: заваёўвае вялікі сярэбраны медаль ў мнагаборстве на чэмпіянаце свету сярод юніёраў. Яшчэ праз два гады ён становіцца бронзавым прызёрам першынства СССР у спрынтэрскім мнагаборстве сярод дарослых. Ігар трывала займае месца ў нацыянальнай зборнай краіны, пачынае

падрыхтоўку да чэмпіянату свету і XIV зімовых Алімпійскіх гульняў у Сараеве.

Трэнеры зборнай Савецкага Саюза сказалі яму адназначна: твая дыстанцыя — 1500 метраў. Гэты вердыкт быў не выпадковым: яшчэ вясной 1983 года на катку Медэо Жалязоўскі паказаў на той дыстанцыі 1 мінуту 53,46 секунды, перавысіўшы сусветны рэкорд славутага амерыканскага спартсмена Эрыка Хайдэна. Сваю падрыхтоўку да Алімпіяды беларускі канькабежац і скіраваў на выпрацоўку ўласнай раскладкі сіл і тэмпу менавіта на паўтара кіламетра…

Аднак трапіць на Гульні-84 Ігару, на жаль, не ўдалося.

— Летам 1983-га мы рыхтаваліся да новага сезона ў Цахкадзоры, — з горыччу расказваў ён мне аднойчы. — Ехалі з таварышам на веласіпедах, з гары развілі скорасць кіламетраў 70, не менш. Сутыкнуліся і разляцеліся ў розныя бакі… Моцна мне перапала: плячо звіхнуў, нагу пашкодзіў… Паўтара месяца нагой зусім не валодаў. А гэта ж столькі часу марна было страчана! Толькі на гэтым ліхія прыгоды не скончыліся. Ужо, здаецца, і сілы аднавіў, і форму патрэбную набраў, словам, гатовы быў прадоўжыць спрэчку за паездку ў Сараева… Аднак на чэмпіянаце краіны, адборачным перад Алімпіядай, раптам зламаўся канёк… Крыўдна і балюча было на душы — не ўяўляеце як!..

Пуцёўку на зімовую Алімпіяду-1984 аддалі іншаму спартсмену…

Затое сезон 1984—1985 гадоў быў сапраўдным зорным часам таленавітага беларускага канькабежца. Гэтаксама, як і чэмпіянат свету, пра які гаворка — напачатку нарыса, ён бліскуча выйграў першынство Савецкага Саюза, пакінуўшы за сабой  Сяргея Фокічава, Алега Бож’ева, Сяргея Хлебнікава, Віктара Шашэрына і іншых знакамітых савецкіх чэмпіёнаў.

— Рэзервы для росту, паляпшэння паказчыкаў у мяне ёсць, і немалыя, — сказаў мне ён аднойчы. — Возьмем пяцісотметроўку… Калі бягу другі паварот па малой дарожцы, не спраўляюся з уласнай хуткасцю, і яна выносіць мяне на вялікую дарожку. Гэтыя агрэхі — вынік маёй сціплай канькабежнай адукацыі на пачатку спартыўнай кар’еры. Вось выпраўлю гэты хіб, тады і паказчыкі пойдуць угору…

На працягу 1985—1993 гадоў Ігар Жалязоўскі шэсць разоў (!) выйграў чэмпіянаты свету па спрынтэрскім мнагаборстве. Прымаў удзел у трох Алімпіядах. На жаль, золата не скарылася ніводнага разу, а вось дзве сярэбраныя і адна бронзавая ўзнагароды мінскую прапіску ўсё ж такі атрымалі!



## *Алена Рудкоўская:*

## ЛЁС УСМІХАЕЦЦА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ!

*Алена Рудкоўская нарадзілася 21 красавіка 1973 года ў горадзе Гомелі. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Чэмпіёнка XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне (1992) па плаванню на дыстанцыі 100 метраў брасам, бронзавы прызёр у камбінаванай эстафеце 4 х 100 метраў. Трохразовая чэмпіёнка Еўропы 1991 года на дыстанцыях 100 і 200 метраў і ў камбінаванай эстафеце 4 х 100 метраў. Бронзавы прызёр еўрапейскага першынства 1993 года на дыстанцыі 100 метраў брасам. Чэмпіёнка Спартакіяды народаў СССР 1991 года на дыстанцыях 100 і 200 метраў брасам. Пераможца юнацкага першынства Савецкага Саюза 1987 года. Сярэбраны прызёр маладзёжнага чэмпіянату Еўропы 1988 года. Першыя трэнеры — Вера Лаўрова і Леанід Каўфман.*

Гучных слоў яна ніколі не любіла. Ні ў свой адрас, ні ў адрас тых, хто, як кажуць у такіх выпадках, знайшоў яе ці адкрыў для вялікага спорту, даў дарогу ў яго… Затое пры кожным выпадку Лена падкрэслівала адно: любога чалавека да вяршынь славы ці прызнання можа прывесці толькі праца! А ў пацвярджэнне гэтага расказвала пра сябе…

Як і кожнае жвавае і гарэзлівае гарадское дзіця, яна імкнулася паспрабаваць сябе ва ўсім і ўсюды. Зімой — а гэту пару года Рудкоўская любіла ледзь ці не з пялёнак — гатовая была цэлымі гадзінамі ганяцца на каньках ці лыжах; вясной, летам і восенню — на веласіпедзе. А калі літаральна з другога-трэцяга класа ўрокі пачалі праводзіцца ў басейне, не магла ўжо адарвацца і ад вады… Адной з першых гэта заўважыла мама і нават нечакана для самой сябе прапанавала:

— Дачушка, табе трэба ў секцыю плавання запісацца…

Аднак першая спроба ўсур'ёз заняцца плаваннем аказалася няўдалай. Падчас бліжэйшага знаёмства з мамай і самой дзяўчынкай трэнер з секцыі сказала прама ў вочы: маўляў, на вадзе ты трымаешся добра, для плыўца-аматара гэтага дастаткова, аднак у секцыю мы прымаем адораных і здольных, тых, хто падае надзеі…

Мама засмуцілася, а Лена — нікольні! «Ну няма ў мяне таленту — дык няма, — не па-дзіцячы сур'ёзна паімкнулася яна супакоіць свайго самага дарагога чалавека. — Буду плаваць для сябе…»

А праз месяц лёс усміхнуўся ёй шчыра і, па сутнасці, на ўсё жыццё. «Звычайны» трэнер па плаванню Вера Зіноўеўна Лаўрова, праводзячы заняткі са сваімі групамі ў тым жа гомельскім басейне, дзе «плавала для сябе» і Лена Рудкоўская, сама звярнула ўвагу на дзесяцігадовую дзяўчынку. Пазнаёмілася спачатку з ёй самой, потым — з яе мамай і татам… Кантакты і паразуменне знайшлі адразу, і трэцякласніца пачала пастаянна наведваць заняткі секцыі.

Сказаць, што ў групе Веры Лаўровай яна была самай стараннай і настойлівай, значыць не сказаць нічога. Проста не ўмела ўжо тады, у дзесяцігадовым узросце, дзяўчынка рабіць штосьці абы-як, для выгляду… «Нібы тады ўжо адчувала і ведала я, што раблю ўсё выключна для сябе», — скажа яна потым, падчас свайго трыумфу.

Добразычліва, можна сказаць больш — проста ласкава адносілася і да Лены, і да кожнай іншай сваёй вучаніцы і Вера Зіноўеўна. У кожнай з дзяўчынак яна бачыла індывідуальнасць — не менш. Песціць — не песціла, але ж і не выкарыстоўвала жорсткасць, не зневажала і не прыніжала сваіх юных выхаванак, не злоўжывала сваімі правамі ці перавагамі. І потым, стаўшы дарослай і славутай, Алена Рудкоўская увесь час даражыла і ганарылася сваёй першай спартыўнай настаўніцай.

Дэбют юнай плыўчыхі адбыўся на першынстве Гомельскай вобласці па плаванню. Вера Лаўрова вельмі разлічвала на Лену, і тая, як і належыць лепшай і любімай вучаніцы, спаўна апраўдала тыя надзеі. 50 метраў брасам пераадолела хутка і ўпэўнена, праўда, без рэкордных секунд, аднак першае месца было за ёй. І першыя віншаванні — такія ж шчырыя і заслужаныя — былі, вядома ж, ад Веры Зіноўеўны!

Адразу ж пасля тых спаборніцтваў Рудкоўскай у другі раз у жыцці пашанцавала на сустрэчу з добрым і шчырым чала-

векам. Гэта быў на той час добра вядомы на Гомельшчыне і ў Беларусі спецыяліст па плаванні Леанід Каўфман. Дзе, як не на чэмпіянаце вобласці, было яму шукаць здольных юных плыўцоў для папаўнення сваёй каманды для выступлення на рэспубліканскіх спаборніцтвах… Павіншаваўшы Лену ўслед за Верай Зіноўеўнай, ён адразу ж адвёў яе крыху ў бок і пачаў распытваць аб жыцці-быцці.

— Тая прапанова Леаніда Яфімавіча проста агарошыла мяне, — успамінала Рудкоўская пазней. — «А ці не хацела б ты ўсур'ёз заняцца плаваннем?» — сказаў ён мне. Хацела спачатку адказаць незнаёмаму мне чалавеку, што я і так сур'ёзна займаюся ім, але прамаўчала. Сітуацыю выратавала Лаўрова: маўляў, Леначка хоча і будзе займацца толькі ў вас!

— Ты — мая надзея! — толькі і скажа вопытны педагог і трэнер, пасля таго як убачыць, з якой настойлівасцю і самаадданасцю трэніруецца ягоная новая вучаніца.

Поспехі і прызнанне прыйшлі да яе адразу ж — імкліва і спаўна. Ужо ў чатырнаццацігадовым узросце ў Лены практычна не было сапернікаў на дыстанцыі 200 метраў брасам у юнацкай і маладзёжнай зборных Савецкага Саюза. У 15 гадоў Рудкоўская выконвае нарматыў майстра спорту міжнароднага класа і становіцца нароўні са спартсменкамі з «дарослай» зборнай краіны. Да чарговых Алімпійскіх гульняў у Барселоне было роўна чатыры гады, і так званыя трэнеры-селекцыянеры з нацыянальнай каманды СССР пачалі ўсур'ёз звязваць з ёй алімпійскія спадзяванні на будучыню. Адзін з тых трэнераў — Аляксей Красікаў — так і сказаў ёй аднойчы:

— Твой час — наперадзе!

Шмат гадоў папрацаваўшы і ў дзіцяча-юнацкай школе, і ў зборных камандах краіны, Аляксей Фёдаравіч бачыў і разумеў: патэнцыял юнай гомельскай спартсменкі яшчэ далёка не раскрыты…

1991-ы стаў для 18-гадовай плыўчыхі з Беларусі насамрэч трыумфальным і пераможным. Старты на спаборніцтвах па праграме чарговай, юбілейнай X Спартакіяды народаў Савецкага Саюза — і два залатыя медалі на дыстанцыях 100 і 200 метраў брасам. Першае ў жыцці выступленне на чэмпіянаце Еўропы ў сталіцы Грэцыі Афінах — і адразу ж тры (!) вышэйшыя ўзнагароды: акрамя стометроўкі і двухсотметроўкі гэта і золата ў саставе зборнай каманды краіны ў камбінаванай эстафеце 4 х 100 метраў.

XXV Гульні ў сталіцы Каталоніі набліжаліся неверагодна імкліва, а насупраць прозвішча трохразовай чэмпіёнкі канты-

нента па плаванню Алены Рудкоўскай стаяў вялізны… пытальнік. Так званы кантрольны нарматыў для ўключэння ў склад нацыянальнай зборнай кімсьці свядома быў завышаны, і беларуская спартсменка ніяк не магла адолець яго… На закрытым пасяджэнні трэнерскага савета каманды ніхто з кіраўнікоў зборнай і прадстаўнікоў усесаюзнага Камітэта па фізічнай культуры і спорту адказнасці на сябе браць не хацеў, і тады слова папрасіў Аляксей Красікаў.

— Не ўзяўшы Рудкоўскую на Алімпіяду, мы пазбавім самі сябе адной залатой узнагароды, — голас Аляксея Фёдаравіча прагучаў упэўнена, нават катэгарычна. — Здарыцца, крый Божа, правал — спытаецe з мяне…

Такая гучная і смелая заява трэнера паўздзейнічала на большасць членаў трэнерскага савета, і Алену Рудкоўскую ўключылі ў састаў нацыянальнай каманды «пад асабістую адказнасць Аляксея Красікава»…

«Моду» на Алімпійскіх гульнях і сусветных першынствах у плаванні брасам спаконвеку дыктавалі і дыктуюць амерыканскія і аўстралійскія плыўчыхі. Яны зазвычай дзеляць паміж сабой залатыя медалі, ім належалі і належаць усе алімпійскія і сусветныя рэкорды. І раптам… У алімпійскім басейне XXV Гульняў у Барселоне-1992 было адчуванне хуткай сенсацыі: на дыстанцыі 100 метраў брасам лепшы час у папярэдніх заплывах паказвае наша прадстаўніца Алена Рудкоўская — 1 мінута 8,75 секунды. Той, хто разбіраецца ў тонкасцях і нюансах барацьбы ў плаванні на вышэйшым узроўні, тут жа палічыў, што фаварыты — тыя ж амерыканкі і аўстралійкі — проста не раскрываюць свае карты. Маўляў, фінал расставіць усе кропкі над «і»…

І ён сапраўды расставіў тыя кропкі!

Упэўнена прыняўшы старт, ідэальна адпрацаваўшы кожны метр (ды не — кожны сантыметр!) дыстанцыі, дзевятнаццацігадовая дэбютантка Алімпіяды Алена Рудкоўская не пакінула сваім грозным саперніцам аніякіх шанцаў на поспех. Свой вынік, паказаны ў папярэднім заплыве, яна выправіла на 1 мінуту 8 секунд, пакінуўшы ззаду ўсяго толькі на 0,16 секунды Анжэлу Нол са Злучаных Штатаў Амерыкі і на некалькі імгненняў — Соню Райлі з Аўстраліі.

Збянтэжаныя саперніцы, тым не менш, першымі павіншавалі такую шчаслівую ўладальніцу залатога алімпійскага медаля з зусім невядомага ім горада Гомеля…



## *Дзмітрый Паляруш:*

## ВІРТУОЗ ПАДНЯБЕССЯ

*Дзмітрый Паляруш нарадзіўся 23 лютага 1967 года ў горадзе Беразнякі Пермскай вобласці. Заслужаны майстар спорту СССР. Пяціразовы чэмпіён свету па скачках на батуце. Шматразовы ўладальнік Кубка свету, пераможца і прызёр многіх міжнародных турніраў і спаборніцтваў. Трэнеры — Васіль Шулікін і Валерый Вайгель.*

Першы раз вялікі спорт ён пакінуў у 1998-м. Стаўшы ў тым годзе чэмпіёнам свету ў індывідуальных скачках на батуце, а да таго атрымаўшы залатыя ўзнагароды ў сінхронных скачках і камандных спаборніцтвах, Дзмітрый сам сабе сказаў: «Хопіць!» Па-першае, адчуваў ужо фізічную і маральную стомленасць: у вялікім спорце Паляруш быў ужо каля 15 гадоў, і, прызнаваўся ён мне, штодзённая нудлівая і аднастайная справа яму проста надакучыла! Па-другое, і стымулу асаблівага таксама не было: скачкі на батуце — не хакей, не вялікі тэніс і не прафесійны бокс, тут асабліва не засвецішся і не праявішся…

І падаўся ён у новую для сябе сферу дзейнасці — прафесійнае шоу…

…Мы пазнаёміліся з ім напрыканцы чэрвеня 2000 года ў сталіцы Аўстрыі. У прыгожай, непаўторнай Вене праходзіў пяты этап розыгрышу Кубка свету па скачках на батуце, і мне кіраўніцтвам Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь быў аказаны вялікі гонар узначаліць беларускую спартыўную дэлегацыю на гэтых спаборніцтвах. Шэсць удзельнікаў дэлегацыі ляцелі ў Аўстрыю з Мінска, а пяціразовы чэмпіён свету Дзмітрый Паляруш і адзін з ягоных настаўнікаў — Вале-

рый Вагель, прыбыўшы ў Вену са Злучаных Штатаў Амерыкі, ужо чакалі нас там…

За акіянам Дзіма, як высветлілася потым, апынуўся не выпадкова. Пасля развітання з вялікім спортам у 1998-м даўнія сябры з кампаніі ISF, якая займалася арганізацыяй і правядзеннем спартыўных шоу, запрасілі яго выступаць у сваім калектыве. Паляруш згадзіўся. «Месцам дыслакацыі» ягонай новай «каманды» стаў невялікі горад Лафает у штаце Луізіяна. Выступаць жа калектыву даводзілася ў вельмі многіх гарадах Злучаных Штатаў.

— Сумесныя выступленні прафесіяналаў гімнастыкі і батута збіраюць у залах вельмі многа гледачоў, — расказваў Дзіма. — Ім гэта падабаецца, прыносіць асалоду і задавальненне. Нам плацяць не вельмі каб вялікія, але па нашых мерках — зусім і неблагія грошы… На жыццё хапае. А батутны цэнтр Лафаета, што адпавядае самым сучасным патрабаванням, прадастаўлены мне для трэніровак зусім бясплатна…

Амаль што два гады Дзіма выступаў у гэтым шоу. Пахваліўся, што «даслужыўся» да менеджэра, пачаў нават сам трэніраваць маладых спартсменаў. Аднак напрыканцы 1999-га — на пачатку 2000 года «працэс» давялося перапыніць…

У самым канцы 1990-х гадоў кіраўніцтва Міжнароднага алімпійскага камітэта прыняло рашэнне аб уключэнні скачкоў на батуце ў праграму XXVII Алімпійскіх гульняў — 2000. Гэта і прымусіла Дзмітрыя Паляруша вярнуцца ў вялікі спорт.

— Думаю, няма ў свеце больш-менш прыстойнага і паважаючага сябе атлета, які б не марыў выступіць на такім грандыёзным спартыўным форуме, як Алімпіяда, — пераконваў ён мяне. — Я марыў аб гэтым з дзяцінства. І вось з'явіўся шанц гэтай мары ажыццявіцца…

Менавіта ў тым самым дзяцінстве, на пачатку 1980-х гадоў, ён і пазнаёміўся з батутам. Пазнаёміўся, каб палюбіць — адзін раз і назаўсёды!

Нарадзіўся Дзіма ў горадзе Беразнякі Пермскай вобласці, хаця па нацыянальнасці — украінец. Потым ужо, асвоіўшы батут, выступаў за каманду Узбекістана. А ў 1993-м атрымаў запрашэнне ад беларускіх спецыялістаў па скачках на батуце і пераехаў на сталае месца жыхарства ў Віцебск. Гэты горад стаў родным і дарагім: менавіта тут і раскрыліся спаўна талент і здольнасці Паляруша… Іменна пад кіраўніцтвам мясцовых трэнераў Васіля Шулікіна і Валерыя Вайгеля ён і выйшаў на

сусветную спартыўную арэну, пяць разоў (!) заваяваўшы залатыя ўзнагароды на чэмпіянатах свету.

— Беларуская школа скачкоў на батуце даўно прызнана ва ўсім свеце, — гаварыў мне пяціразовы чэмпіён свету. — Беларусы не адзін раз выйгравалі медалі на сусветных і еўрапейскіх чэмпіянатах, пастаянна выступалі ў радах зборнай былога Саюза ССР. Так што мой выбар быў свядомы і заканамерны…

…А потым быў Сідней, XXVII Алімпіяда —2000.

Алімпійскі старт быў першым не толькі ў ягоным жыцці, але і ў біяграфіях усіх іншых мацнейшых батутыстаў свету. Усяго 12 лепшых з лепшых атлетаў планеты былі дапушчаны да ўдзелу ў спаборніцтвах па праграме Гульняў — па адным з вядучых дзяржаў у гэтым прыгожым і мужным відзе спорту. І кожны з іх — расіянін Аляксандр Маскаленка, украінец Юрый Нікіцін, італьянец Флавіа Канонэ, немец Хенрык Штэнлік і, вядома ж, ён, Дзмітрый Паляруш, — аднолькава рэальна прэтэндаваў на ўзнагароды Алімпіяды…

У кваліфікацыйных спаборніцтвах наш спартсмен набраў 68,30 бала і заняў трэцяе месца: лідэру Аляксандру Маскаленку ён прайграваў усяго толькі 0,70 бала. Да алімпійскага медаля заставаўся адзін крок… Аднак падчас выступлення ў фінальных спаборніцтвах ён дапусціў невялікі збой, да якога суддзі аднесліся надзвычай прыдзірліва, і ў выніку апынуўся толькі на пятым месцы.

Але ж хто скажа, што месца ў пяцёрцы лепшых на Зямлі — не зусім ганаровае і пачэснае?..

Скачкі на батуце, дарэчы, пачынаюцца, так бы мовіць, на зямлі, гэта значыць, непасрэдна на спартыўным снарадзе, а іх кульмінацыя, самы «цымус» выпадае падчас знаходжання спартсмена на вышыні шэсць метраў — ну, у самым паднябессі! Бачылі б вы, што вырабляў там наш Паляруш! Калі я выказаў яму сваё захапленне і здзіўленне, Дзіма, сама дабрыня і чалавечая спагада, толькі заўсміхаўся ў адказ: маўляў, і вы ж штосьці ўмееце з таго, што зусім не дадзена мне…



## *Дзмітрый Дашчынскі:*

# «Я АДЧУВАЮ ЗА САБОЙ БАЦЬКАЎШЧЫНУ…»

*Дзмітрый Дашчынскі нарадзіўся 23 лютага 1977 года ў горадзе Мінску. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Бронзавы прызёр XVIII зімовых Алімпійскіх гульняў у Нагана (1998) па фрыстайлу. Сярэбраны прызёр Гульняў XX Алімпіяды ў Турыне (2006). Сярэбраны і бронзавы прызёр чэмпіянатаў свету і этапаў розыгрышаў Кубка свету 1998—2008 гадоў, пераможца і прызёр многіх міжнародных турніраў. Першыя трэнеры — Мікалай Казека і Уладзімір Дашчынскі.*

…Тую тэлевізійную карцінку з алімпійскага Турына-2006 убачыў увесь шматмільённы спартыўны свет. Сотні ж тысяч аматараў зімовых відаў спорту з Беларусі запомнілі яе надоўга, а можа, і на ўсё жыццё… Калі на алімпійскім трампліне ў вячэрняе італьянскае неба высока ўзляцеў беларускі фрыстайліст Дзмітрый Дашчынскі і пачаў там вырабляць неверагодныя піруэты і кульбіты, а праз імгненне паспяхова прызямліўся і ўпэўнена ўтрымаўся на нагах, непадалёку ад месца спаборніцтваў прама ў снег паваліўся-рухнуў чалавек у спартыўным касцюме з надпісам на спіне — «Belarus». Што здарылася? Наўрад ці зразумеў тады хто-небудзь… А ў тым чалавеку толькі вельмі і вельмі нямногія — родныя і сябры, трэнеры ды кіраўнікі беларускага спорту — пазналі Мікалая Іванавіча Казеку — спецыяліста па фрыстайлу, першага і адзінага настаўніка спартсмена, які толькі што так бліскуча закончыў сваю алімпійскую праграму!

«Што здарылася?» — пазней, пасля вяртання беларускіх алімпійцаў з Турына ў Мінск, мы паўторна задалі гэта пытан-

не Мікалаю Іванавічу. Сціплы і абаяльны чалавек, таленавіты педагог-выхавальнік, ён, некалькі засаромеўшыся, адказаў:

— Паддаўся эмоцыям! Ды і перахваляваўся я вельмі і вельмі моцна…

Усяго некалькі слоў… А за імі — дзесяткі, ды не — сотні сумесна праведзеных з вучнем штодзённых (а іншым разам — і па дзве-тры ў дзень!) трэніровак, гады і дзесяцігоддзі працы, напружанага і такога адказнага жыцця на самым пярэднім рубяжы — у вялікім спорце.

…Адукацыю ў пачатковай школе і засваенне азоў скачкоў на батуце Дзіма Дашчынскі пачаў, па сутнасці, адначасова. Балазе, у гэтым экзатычным і такім рызыкоўным відзе спорту працаваў бацька, так што пытанне: «Куды пайсці і чым заняцца?» — перад юным мінчанінам і не паўставала…

Аднак (на шчасце ці не, гэта адназначна вызначыць ужо зусім немагчыма) у жыццё наогул, і ў вялікі спорт — у прыватнасці вельмі і вельмі часта ўрываецца Яго Вялікасць Выпадак. Тады, у 70—80-я гады XX стагоддзя, у Беларусі надзвычай імклівыя тэмпы развіцця пачаў набіраць новы від спорту — фрыстайл. Першымі з ім зблізіліся і зразумелі яго трэнеры па скачках на батуце Мікалай Казека і Уладзімір Дашчынскі. І ўжо пачынаючы з 1988 года ў фрыстайл прыйшлі адразу тры аматары і фанаты адначасова — бацька і сын Дашчынскія і Мікалай Казека.

Для пільных аматараў статыстыкі канстатуем яшчэ раз: на календары быў 1988 год…

Міне яшчэ дзесяцігоддзе, на календары будзе 1998-ы. Дзіму Дашчынскаму «ўжо» 21 гадок, за ягонай спіной будуць перамогі на чэмпіянатах Беларусі і некаторых міжнародных турнірах і спаборніцтвах, званне майстра спорту… З аднаго боку — не так і мала, а з другога, як лічылі трэнеры і сам спартсмен, — нічога асаблівага…

1998-ы быў, акрамя ўсяго іншага, і чарговым алімпійскім годам.

У японскім горадзе Нагана маладога беларускага фрыстайліста Дзмітрыя Дашчынскага будзе чакаць першае, неверагоднай адказнасці выпрабаванне: XVIII зімовыя Алімпійскія гульні!

Выпрабаванне — выпрабаваннем, аднак ужо тады для Дзмітрыя сакрэтаў і нейкіх там таямніц у фрыстайле не было. І Мікалай Іванавіч Казека, і Уладзімір Іванавіч Дашчынскі, авалодаўшы лепшай на той час сусветнай методыкай і практыкай наладжвання вучэбна-выхаваўчага працэсу, трэніровачнага

і аднаўляльнага цыклаў, здолелі (ці не ў гэтым і заключаецца талент сапраўдных трэнераў-педагогаў?!) спланаваць і паставіць справу так, што з іх вучнем, у большасці сваёй — завочна, сапернікі пачынаюць лічыцца як з адным з асноўных прэтэндэнтаў на алімпійскія ўзнагароды. Удакладнім: не столькі самі тыя сапернікі, колькі іх настаўнікі — так званыя спартыўныя эксперты і «разведчыкі»…

Алімпіяда ў Нагана (1998) стала для Дзмітрыя выпрабаваннем ва ўсіх без выключэння адносінах. Па-першае, перад самым пачаткам Гульняў, падчас заняткаў на батуце, не вытрымала нагрузкі адна са спружын і… стрэліла спартсмену прама ў галаву. Шпіталь, беласнежны ложак, швы, забарона трэніровак… Калі ж беларуская нацыянальная зборная прыбыла ўжо ў Японію, на Дзіму звалілася яшчэ адна навала — ён прастудзіўся.

Аднак… Ні неспрыяльныя ўмовы падрыхтоўкі да Алімпіяды, ні высокая тэмпература непасрэдна падчас выступленняў у Нагана не перашкодзілі яму прадэманстраваць свае здольнасці і навыкі, на поўны голас заявіць аб сабе, у прамым сэнсе слова ўварвацца ў эліту сусветнага фрыстайла… Сканцэнтраваўшы волю і сабраўшы ў кулак сілы, спаўна аддаўшыся барацьбе, Дашчынскі выканаў тады трайное сальта з чатырма вінтамі — на той час скачок з разраду ультра-сі, што, урэшце, і прывяло яго на трэцюю, «бронзавую» прыступку п’едэстала гонару XVIII Алімпійскіх гульняў.

На шматлікіх этапах розыгрышаў Кубка свету 1998—2001 гадоў, сусветным чэмпіянаце — 2001 Дзіма нязменна выходзіў у фіналы, перыядычна атрымліваючы сярэбраныя медалі. Выйграў буйны міжнародны турнір у ЗША… Аднак галоўным арыенцірам, вядома ж, заставалася XIX зімовая Алімпіяда 2002 года ў Солт-Лэйк-Сіці.

За некалькі дзён да алімпійскага старту Дашчынскі выйграў адну залатую і дзве сярэбраныя ўзнагароды на этапах Кубка свету. Гэта засведчыла: спартсмен у добрай спартыўнай форме. І раптам… На адной з трэніровак у канадскім горадзе Блэкомбе ён няўдала прызямліўся і зламаў ключыцу. У Ванкуверскім медыцынскім цэнтры 31 студзеня 2002 года Дзіму зрабілі аперацыю — імплантавалі пласцінку для фіксацыі ключыцы. Урачы, трэнеры і спецыялісты настойвалі, каб ён адмовіўся ад выступлення на Гульнях. Аднак усяго праз два тыдні беларускі спартсмен выйшаў на старт. На жаль, да траўмы, на якую ён не звяртаў аніякай увагі, дабавіліся іншыя фактары: вялі-

кі вецер падчас выканання ім практыкавання, ды і суддзі яўна недааціанілі яго выступленне. У выніку ў фінале мужны атлет апынуўся не на «сваім», сёмым месцы…

Аднак Дзмітрый па-ранейшаму верыў у свой зорны час!

…Турын-2006 наблізіўся даволі хутка. Да трэцяй у сваім спартыўным жыцці Алімпіяды Дашчынскі рыхтаваўся з яшчэ большай сур'ёзнасцю і адказнасцю, чым да ранейшых стартаў. І ён сам, і спецыялісты — і найперш, вядома ж, галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Мікалай Казека і настаўнік маладзёжнай каманды Уладзімір Дашчынскі — выдатна ўсведамлялі, што ад Дзімы ўсе чакаюць толькі ўзнагароды!

Галоўнымі сапернікамі нашага спартсмена тады з'яўляліся амерыканец Джарэт Петэрсан, Хан Сяо Пен з Кітая і расійскі фрыстайліст Уладзімір Лебедзь. Пасля першай спробы ў Турыне лідэрства захапіў мінчанін — 131,42 ачка. Амерыканец адставаў на 6,5 ачка, кітаец усяго толькі на 0,89. Усё павінен быў вырашыць другі скачок…

Трайное сальта з чатырма вінтамі пры каэфіцыенце 4,425 павінна было пакінуць яго ў лідэрах. Аднак… Зусім невялікая недакладнасць падчас прызямлення плюс ранейшая прадузятасць суддзяў перамясцілі Дзмітрыя на другую, «сярэбраную» прыступку п'едэстала гонару. «Золата» служыцелі спартыўнай Феміды аддалі Хан Сяо Пену, «бронзу» — Уладзіміру Лебедзю.

Дарэчы, гэта была адзіная ўзнагарода, заваяваная беларускімі спартсменамі на XX зімовых Алімпійскіх гульнях у Турыне.

Нямногім атлетам свету спартыўны лёс наканаваў выступленні на трох Алімпійскіх гульнях запар. Дзмітрый Дашчынскі — адзін з іх. Наогул жа ён пакуль што адзіны фрыстайліст у свеце, які мае ўзнагароды, заваяваныя на дзвюх Алімпіядах. «Я займаюся любімай справай, адчуваю за сабой Бацькаўшчыну — значыць трэба было апраўдваць надзеі і спадзяванні беларусаў!» — коратка і зразумела сфармуляваў ён аднойчы свой жыццёвы і спартыўны дэвіз.

Што тут можна дадаць да слоў сапраўднага героя спорту?!..

*Раздзел XIV*

## ПРАВА ВЕСЦІ ЗА САБОЙ

*Яшчэ зусім нядаўна гэтых людзей называлі простымі і зразумелымі словамі — спартыўныя функцыянеры. Сёння ж яны крыўдзяцца: маўляў, мы — дзяржаўныя служачыя... Толькі не ў назвах пасад справа: галоўнае, што выконвалі і выконваюць гэтыя людзі вялікую, дзяржаўнай важнасці працу. Яны арганізоўваюць і наладжваюць фізкультурна-спартыўную дзейнасць у рэспубліцы ў цэлым, каардынуюць міжнародныя сувязі і кантакты органаў і арганізацый галіны, а таксама нашых нацыянальных зборных, прагназуюць і накіроўваюць далейшае развіццё як алімпійскіх, так і неалімпійскіх відаў спорту, трымаюць пад пастаянным кантролем сённяшняе становішча ў іх, прымаюць рашэнні аб адкрыцці новых фізкультурна-спартыўных школ, цэнтраў і нават секцый... Ды ці мала службовых абавязкаў у іх, спартыўных функцыянераў-чыноўнікаў!..*

*У апошняе паўстагоддзе, калі Беларуская рэспубліканская фізкультурна-спартыўная арганізацыя выйшла на міжнародную арэну і напоўніцу заявіла аб сабе, перш за ўсё дзякуючы выдатным дасягненням нашых лепшых прадстаўнікоў на Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету і Еўропы, на буйных міжнародных турнірах і спаборніцтвах, галоўным дзяржаўным органам кіравання галіной спачатку быў Камітэт па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР, а потым, з сярэдзіны 1990-х, — Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. Іх узначальвалі Віктар Лівенцаў, Валянцін Сазановіч, Уладзімір Рыжанкоў, Уладзімір Макейчык, Мікалай Ананьеў, Яўген Ворсін, Юрый Сівакоў, а з сярэдзіны 2004 года — Аляксандр Грыгараў. І яны самі, і многія з іхніх саслужыўцаў і падначаленых права весці за сабой, наканаванае ім лёсам, ажыццявілі годна і спаўна.*



## *Віктар Лівенцаў:*

## ГЕРОЙ: У ЖЫЦЦІ, НА ВАЙНЕ, У СПОРЦЕ

*Віктар Лівенцаў нарадзіўся 21 красавіка 1918 года ў гарадскім пасёлку Давыдаўка Варонежскай вобласці. Скончыў Гродзенскае ваенна-палітычнае вучылішча, Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ, Мінскі педагагічны інстытут. Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1944). У жніўні — лістападзе 1941 года — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Бабруйскага патрыятычнага падполля, з лютага 1943-га — камандзір 1-й Бабруйскай партызанскай брыгады. У 1944—1950 гадах — загадчык аддзела, сакратар, сакратар Цэнтральнага камітэта камсамола Беларусі. З 1958 па 1978 год — старшыня Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў Беларусі. У 1978—1986 гадах — кіраўнік спраў Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР 1959—1989 гадоў. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры рэспублікі.*

Не адзін дзесятак гадоў не адно пакаленне беларусаў звала яго проста і, што называецца, зразумела — «Таварыш камбрыг!». За некалькі дзесяцігоддзяў знаёмства з ім пераканаўся: Віктар Ільіч нікольки не крыўдаваў за гэта, а, наадварот, употай шчыра ганарыўся… Камбрыг — камандзір брыгады. А яна, брыгада, як аб’яднанне людзей, і найперш — аднадумцаў, калег, верных і адданых сяброў — заўсёды была, ёсць і будзе самым надзейным фарміраваннем! У якой бы ні было абстаноўцы — мірнай, стваральнай, ці, наадварот, баявой, выпрабавальнай — камбрыг ёсць камбрыг. А самае галоўнае прызначэнне яго — весці за сабой, натхняць на новыя справы і здзяйсненні, паказваць асабісты прыклад…

Усё сваё свядомае, такое, дзякуй Богу, доўгае і актыўнае жыццё Віктар Лівенцаў менавіта гэта і рабіў: вёў за сабой, словам і справай натхняў сотні і тысячы людзей, паказваў ім прыклад!

…Вестка аб нападзенні гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз заспела яго ў Гродне. Незадоўга да таго чорнага і жудаснага дня ён, 23-гадовы чырвонаармеец Віктар Лівенцаў, адслужыўшы тры гады тэрміновай службы, з поспехам закончыў Гродзенскае ваеннае вучылішча і быў пакінуты там жа, у горадзе над Нёманам, для прадаўжэння вайсковай службы.

На досвітку акупанты абрушылі на пазіцыі савецкіх байцоў сапраўднае мора агню. Агонь, дым і пыл змяшаліся ў суцэльнае смяротнае воблака. З'явіліся дзесяткі і сотні забітых і параненых. Сувязь са штабамі дывізіі і арміі была знішчана літаральна адразу ж.

— Мы трымаліся тры дні і тры ночы, — расказваў мне Віктар Ільіч. — З нашай мінамётнай роты выжылі некалькі шчаслівчыкаў, ад дывізіі засталося крыху больш ста чалавек…

Боепрыпасы скончыліся. Камандаванне аддало загад выходзіць з акружэння невялікімі групамі… Рэшткі 3-й і 10-й армій з-пад Гродна і Ваўкавыска накіраваліся ўглыб ужо акупіраванай Беларусі. З невялікай групай акружэнцаў ураджэнец гарадскога пасёлка Давыдаўка Варонежскай вобласці, афіцэр Чырвонай Арміі Віктар Лівенцаў узяў накірунак на Бабруйск…

Апынуўшыся ў незнаёмым горадзе, ён не разгубіўся. Захоўваючы асцярожнасць і канспірацыю, уважліва прыглядваўся да мясцовых жыхароў, паступова заводзіў з імі знаёмствы. Неўзабаве лёс звёў яго з Паўлам Маслёнкам, мясцовым камуністам, накіраваным у Бабруйск Цэнтральным камітэтам КПБ для наладжвання і патрыятычнага падполля.

Ужо да пачатку верасня 1941 года ў Бабруйску дзейнічалі больш як 20 падпольных груп, створаных і ўзначаленых Віктарам Лівенцавым і яго баявымі мясцовымі паплечнікамі Сяргеем Сыраквашыным, Аляксеем Сарафанавым, Уладзімірам Якавенкам, Валянцінам Бутараевым, Міхаілам Сямісалавым, Васілём Калеснікавым, Сяргеем Крамнёвым, Пятром Сцяржанавым, Іванам Бондарам і іншымі. Праводзячы дыверсійную дзейнасць на мясцовай чыгунцы, прадпрыемствах і ва ўстановах, яны вялі шырокую прапагандысцкую і растлумачальную работу, арганізоўваючы і рыхтуючы насельніцтва да падпольнай і партызанскай барацьбы. Выбухі і дыверсіі на лесакамбінаце, хлебазаводзе, электрастанцыі, радыёзаводзе, суднарамонтным і шпаларэзным заводах, вывад ваеннапалонных з мясцовага канцлагера і зняволеных з турмаў і

гета — гэтыя акцыі сталі іх першымі практычнымі крокамі ў рызыкоўнай, але такой важнай і патрэбнай справе.

У студзені 1942 года на агульным сходзе народных мсціўцаў Віктар Лівенцаў быў абраны камандзірам 752-га партызанскага атрада. Пачаліся штодзённыя партызанскія будні, поўныя мужных і самаадданых учынкаў, здзяйсненняў, сапраўдных подзвігаў — з радасцю перамог і гонарам за зробленае, болем страт і прыкрасцю за няўдачы… Былі дзесяткі паходаў і баёў, засад і аперацый, многія з якіх залатымі літарамі ўпісаны ў летапіс баявой партызанскай славы ўсяго беларускага народа.

Крыху больш чым праз год — у лютым 1943-га — з двух атрадаў, якімі камандавалі Віктар Лівенцаў і Павел Завадскі, была ўтворана новая партызанская брыгада якую, паводле афіцыйнага тэрытарыяльнага падзелу, назвалі 1-й Бабруйскай. Яе і ўзначаліў 25-гадовы кадравы афіцэр Чырвонай Арміі Віктар Лівенцаў.

З лютага 1943 года і да дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — 3 ліпеня 1944-га — народныя мсціўцы 1-й Бабруйскай брыгады падарвалі і знішчылі 55 варожых эшалонаў, 388 аўтамашын, 19 чыгуначных і 6 шасэйных мастоў, разграмілі 4 гарнізоны, 15 паліцэйскіх участкаў. Падчас славутай «рэйкавай вайны» байцы падарвалі 1305 чыгуначных рэек…

За ўмелае кіраўніцтва партызанскай брыгадай, вялікі асабісты ўклад у барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 1 студзеня 1944 года Віктару Ільічу Лівенцаву было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Адразу пасля вызвалення Беларусі ён актыўна ўключыўся ў грамадскае жыццё — жыццё рэспублікі, якая стала для яго самай роднай і дарагой. Шэсць гадоў працаваў у Цэнтральным камітэце камсамола, шмат сіл, энергіі і часу аддаўшы аднаўленню разбуранай вайной гаспадаркі. А потым лёс звязаў яго з не менш адказным участкам жыцця нашага грамадства — фізічнай культурай і спортам.

Роўна 20 гадоў (!) — з 1958-га па 1978-ы — Віктар Ільіч Лівенцаў узначальваў галоўнае фізкультурна-спартыўнае ведамства рэспублікі — Камітэт па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР. Устаноўлена дакладна: на працягу такога вялікага адрэзка часу пасаду міністра (а па статусу старшыня Дзяржкамітэта з'яўляўся членам урада) у дасавецкі, савецкі і постсавецкі перыяды не займаў ніводзін беларускі чыноўнік!

— Гэта была адказная, цікавая і патрэбная народу праца, — дзяліўся ён са мной сваімі думкамі-згадкамі. — Трэба было

будаваць спартыўныя аб’екты, арганізоўваць насельніцтва на ўдзел у фізкультурна-масавым руху, адкрываць новыя секцыі і спартыўныя школы, удзяляць паўсядзённую ўвагу станаўленню і развіццю вялікага спорту, падрыхтоўцы лепшых спартсменаў да ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету і кантынента… І мы насамрэч рабілі шмат чаго.

Так, гэта была — без перабольшання — вялікая справа. І каб расказаць пра яе, спатрэбілася б яшчэ не адна старонка… Таму толькі зазначым: менавіта тады, у шасцідзесятыя — сямідзесятыя гады XX стагоддзя пад кіраўніцтвам і пры самым непасрэдным удзеле старшыні Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР Віктара Лівенцава Беларусь выйшла ў тагачасным Савецкім Саюзе на перадавыя пазіцыі ў развіцці масавай фізкультуры, а яе выхаванцы з поспехам выступалі ў радах нацыянальных зборных СССР па многіх відах спорту на самых важных і адказных міжнародных спаборніцтвах і турнірах. Гэта тады былі пабудаваны Мінскі Палац спорту, воднаспартыўны камбінат, стралковы комплекс імя маршала Савецкага Саюза Цімашэнкі, спецыялізаваныя спартыўныя базы «Стайкі», «Ратамка», «Уручча», «Раўбічы», заснаваны добра вядомыя ва ўсім спартыўным свеце беларускія школы па фехтаванню, спартыўнай і мастацкай гімнастыцы, вольнай і класічнай (грэка-рымскай) барацьбе, лёгкай атлетыцы, веславанню на байдарках і каноэ, ручному мячу і іншых відах спорту. Менавіта ў тыя гады на арэнах і стадыёнах свету і Еўропы на ўсю моц загучалі імёны Аляксандра Мядзведзя, Алега Караваева, Уладзіміра Зубкова, Таццяны Самусенка, Алены Бяловай, Аляксея Ніканчыкава, Віктара Сідзяка, Міхаіла Крыванасава, Рамуальда Кліма, Марыі Іткінай, Леаніда Гейштара, Сяргея Макаранкі, Мікалая Гарбачова, Алены Валчэцкай, Ларысы Петрык, Вольгі Корбут, Тамары Лазаковіч, Эдуарда Малафеева, Міхаіла Мустыгіна і многіх іншых слынных беларускіх атлетаў.

А колькі будзённай, нябачнай простым вокам працы давялося праводзіць за кулісамі вялікага спорту, адстойваючы законныя і заслужаныя інтарэсы выхаванцаў беларускага спорту, у тым ліку і правa іх удзелу ў самых буйных і важных спаборніцтвах! Вось толькі некалькі прыкладаў…

Напярэдадні ад’езду савецкай гімнастычнай зборнай на XX Алімпійскія гульні ў Мюнхен (1972) маскоўскія спецыялісты, і перш за ўсё Ларыса Латыніна, Юрый Цітоў і Віктар Чукарын, галасы якіх падчас вызначэння складу калектыву былі рашаючымі і самымі важкімі, раптам спахапіліся: маўляў, а ці не зашмат — ажно тры з шасці! — прадстаўніц Беларусі ў галоў-

най камандзе?! Так, нічога не мелі яны супраць зорнай Вольгі Корбут, практычна не было прэтэнзій і да абсалютнай чэмпіёнкі кантынента — 1971, пераможцы сусветнага першынства ў камандных спаборніцтвах таго ж года Тамары Лазаковіч, а вось кандыдатура Антаніны Кошаль, мякка кажучы, іх нервавала… Нібы і забыліся гранды савецкага трэнерскага корпуса, што ў 1970-м Тоня выйграла адразу чатыры залатыя ўзнагароды на маладзёжным першынстве краіны, а ў наступным, 1971-м — стала пераможцай Спартакіяды народаў СССР, задаючы тон у беларускай дружыне… Сітуацыя набывала пікантнасць, і на заключным зборы гімнастак у Мінску кіраўнік беларускага спорту Віктар Лівенцаў параіў сталічным мэтрам-спецыялістам аб'ектыўна і ўважліва аднесціся да вынясення канчатковага вердыкту…

Антаніна Кошаль на Гульні XX Алімпіяды паехала паўнапраўнай удзельніцай савецкай каманды, і надвор'е ў ёй ніколькі не сапсавала: яе ўклад у заваяванне той зборнай залатых медалёў у камандным першынстве тады прызналі ўсе і кожны…

У яшчэ больш цікавай сітуацыі апынуўся праз чатыры гады беларускі стралок Аляксандр Газаў. На XXI Алімпійскія гульні 1976 года ён прыехаў двухразовым чэмпіёнам свету ў асабістым першынстве і камандных спаборніцтвах, шматразовым рэкардсменам свету, васьміразовым пераможцам першынстваў Савецкага Саюза… Здавалася, нумар адзін зборнай — не менш! Ды не: у настаўнікаў савецкай каманды былі свае ўлюбёнцы — перш за ўсё іхнія асабістыя вучні… І літаральна перад самым выхадам на зыходны агнявы рубеж трэнеры вырашылі зрабіць перазаяўку і замяніць Газава іншым спартсменам. Падпісаць жа новую заяўку меў права толькі афіцыйны кіраўнік зборнай па кулявой стральбе, а ім з'яўляўся… старшыня беларускага спорткамітэта Віктар Лівенцаў. Цяжка сказаць, хто папярэдзіў яго аб задуманай аферы, аднак з раніцы таго дня Віктар Ільіч… знік: на ўвесь дзень ён пайшоў гуляць па Манрэалі… А гэты горад — не Пухавічы і нават не Мінск: знайсці ў шматмільённым мегаполісе канкрэтнага чалавека практычна немагчыма… Карацей кажучы, Аляксандр Газаў у заяўцы застаўся, а на наступны дзень ён прымаў віншаванні з новымі сусветным і алімпійскім рэкордамі і залатой узнагародай чэмпіёна XXI Алімпіяды!

— Гэта толькі буйныя сітуацыі, — сказаў аднойчы Віктар Лівенцаў. — А колькі было іншых, менш значных, але ж такіх лёсавызначальных і сур'ёзных!.. Няпроста было змагацца за ісціну і праўду, але мы змагаліся… І перамагалі!

І ў гэтых словах увесь ён — Чалавек і Кіраўнік!



## *Уладзімір Рыжанкоў:*

## САМЫ ПЕРШЫ ПРЭЗІДЭНТ

*Уладзімір Рыжанкоў нарадзіўся 11 верасня 1945 года ў горадзе Добрушы. Пасля заканчэння Гомельскага дарожна-будаўнічага тэхнікума служыў у радах Савецкай Арміі, затым працаваў тэхнікам дарожна-эксплуатацыйнага ўчастка № 172 у Клімавічах. У 1973 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры. Працаваў выкладчыкам кафедры спартыўных гульняў БДІФК, узначальваў метадычны кабінет і аддзел фізкультуры Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. Быў намеснікам старшыні Цэнтральнага савета спартыўнага таварыства «Ураджай», начальнікам упраўлення фізічнага выхавання насельніцтва Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР, інструктарам, а потым — загадчыкам сектара фізкультуры і спорту ЦК КПБ. З 1990 года — старшыня Дзяржаўнага камітэта па фізічнай культуры і спорту Беларусі, са студзеня 1995-га — старшыня Камітэта па спорту Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. З лістапада 1995-га па снежань 1996 года — міністр спорту і турызму Беларусі. Першы ў гісторыі беларускага спорту Прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь.*

…Мы стэлефанаваліся напярэдадні. Абмяняліся, як і зазвычай, апошнімі навінамі, пацікавіліся адзін у аднаго асабістымі справамі. Ён, як і заўсёды, адказаў коратка: «Нармальна!»

— Неўзабаве гадавы алімпійскі сход, можа, зробім інтэрв'ю, падвядзём вынікі года, — прапанаваў я.

— Можна, — пагадзіўся Уладзімір Мікалаевіч. — Прыходзьце заўтра раніцай…

Назаўтра на рабоце яго не дачакаліся. А неўзабаве усе мы даведаліся пра жахлівую вестку: у Рыжанкова інсульт…

…У апошні шлях у снежні 1996-га яго праводзілі на высокім дзяржаўным узроўні, з усімі грамадзянскімі ўшанаваннямі. Няспынным патокам да труны з целам Уладзіміра Мікалаевіча ішлі людзі. Было некалькі дзесяткаў вянкоў і не адна сотня руж і гваздзікоў… Прэзідэнт краіны і супрацоўнікі ягонай Адміністрацыі, кіраўнікі ўрада, міністры і старшыні дзяржаўных камітэтаў, спартыўныя работнікі, сябры, знаёмыя і зусім незнаёмыя людзі ў жалобе схілялі галовы, аддаючы даніну павагі яму — Чалавеку, Патрыёту, Грамадзяніну зямлі беларускай.

Яго добра ведалі ва ўсіх куточках нашай рэспублікі. І не проста ведалі, але і паважалі і цанілі. За справу! За нястомную, надзвычай насычаную дзейнасць на вельмі вялікім, шматпланавым, адказным участку. Тым участку, які — хочам мы таго ці не — закранае ўсіх і кожнага з нас паасобку. Бо размова — аб нашым здароўі, фізічным стане, дасканаласці, загартаванасці…

Сферы фізічнай культуры і спорту Уладзімір Рыжанкоў аддаў звыш 30 гадоў. Выбраўшы яе адзін раз і назаўсёды, ён і прысвяціў ёй усяго сябе — без астатку.

У многіх справах і здзяйсненнях ён быў першым. Уладзімір не мог не быць ім. Высокі, энергічны і рухавы, ён захапляў і заражаў іншых сваімі ідэямі і задумамі адразу ж, без роздумаў і разваг. Памятаю, як у сярэдзіне 1970-х Уладзімір Рыжанкоў — тагачасны сакратар камітэта камсамола інстытута фізічнай культуры — асабіста выводзіў студэнтаў і выкладчыкаў на здачу нарматываў Усесаюзнага комплексу «Гатоў да працы і абароны СССР», узначальваў шматдзённыя «зорныя» паходы інстытуцкай моладзі па месцах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы беларускага народа… Ён быў «нічый» (тады ў пашане былі, як мы любілі жартаваць, маленькія дзеткі вялікіх бацькоў), тым не менш яго прыкмецілі, далі дарогу… На наступных пасадах — у Белсаўпрофе, спартыўным таварыстве «Ураджай», Камітэце па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР, ЦК КПБ — Уладзімір Мікалаевіч сцвярджаў сябе сам: тымі ж шляхамі і метадамі — практычнымі справамі… За што ён ні браўся — заўсёды даводзіў да канца!

Стаўшы старшынёй Дзяржаўнага камітэта па фізічнай культуры і спорту Беларусі, а потым — міністрам, ён узначаліў адначасова і грамадскую арганізацыю — Нацыянальны алімпійскі камітэт нашай суверэннай краіны. Такім чынам, у гісторыю беларускага спорту і алімпізму Рыжанкоў увайшоў як першы прэзідэнт НАК.

І зноў жа не магу абысціся без успаміну, можа, і не самага прыемнага… Сумяшчэнне Рыжанковым дзвюх пасад многім, нават вельмі высокапастаўленым чыноўнікам, не падабалася: найбольш — зайздроснікам, злым на язык людзям… Аднак тыя (а іх была большасць!), хто ведаў чым штодня, штохвілінна жыў і займаўся міністр і прэзідэнт, пагаджаліся з правільнасцю такога сумяшчэння.

Падчас наведвання беларускай сталіцы ў 1992 годзе прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуан Антоніа Самаранч не ўтойваў задавальнення ад знаёмства з Уладзімірам Рыжанковым, падкрэсліваючы пры гэтым тую вялікую арганізацыйную і прапагандысцкую працу, што праводзіў ён на пасадзе кіраўніка Беларускай фізкультурна-спартыўнай арганізацыі. І гэта была для Уладзіміра Мікалаевіча надзвычай высокая маральная ўзнагарода.

Гэтаксама шчыра і самааддана працаваў ён і надалей. І толькі потым, калі было ўжо позна, усе мы зразумелі: працаваў Уладзімір Мікалаевіч на знос, не шкадуючы сябе, сваіх сіл і здароўя. Урэшце, ён і згарэў прама на рабоце…

На вялікі жаль, былі ў яго нядобразычліўцы і сярод супрацоўнікаў некаторых сродкаў масавай інфармацыі. Яго «кусалі» — не за справу, а так сабе, мімаходзь… Рыжанкоў рэагаваў на гэтыя «ўкусы» хваравіта, крыўдаваў іншым разам на тых, хто без дай прычыны спрабаваў зводзіць з ім нейкія надуманыя рахункі. Але працягвалася тое нядоўга: падчас першай жа сустрэчы з тымі ж гора-майстрамі пяра і мікрафона Уладзімір Мікалаевіч першы падаваў ім руку, і тыя сарамліва апускалі долу вочы…

Што ж, няхай Бог будзе ім суддзёй!

… Зноў і зноў праслухоўваю дыктафонныя стужкі з запісамі інтэрв'ю з Уладзімірам Мікалаевічам, ягонага даклада на Форуме спартыўнай грамадскасці Рэспублікі Беларусь, што адбыўся ў сярэдзіне кастрычніка 1996 года. Цвёрдым, сваім непаўторным, непадробным і такім упэўненым голасам міністр спорту і турызму і прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Уладзімір Рыжанкоў дакладваў аб справах, а найбольш — маляваў рэальныя перспектывы развіцця даручанай яму галіны. Моцна занепакоены сам, ён заклікаў неадкладна павярнуцца тварам да праблем і нявырашаных пытанняў фізкультурна-масавай работы з насельніцтвам па месцы жыхарства: здароўе нашага народа яго турбавала болей за ўсё. У будучыню скіроўваў

Уладзімір Мікалаевіч і свой позірк у развіцці вялікага спорту, турызму. Яго радавала і задавальняла больш за ўсё адно, самае, несумненна, галоўнае — тое, што ў рэспубліцы была захавана сістэма і структура дзейнасці ў сферы спорту вышэйшых дасягненняў, і ён вельмі прасіў калег і кіраўніцтва Беларусі актыўна дзейнічаць у гэтым накірунку і надалей… Ад падначаленых жа патрабаваў і прасіў аднаго: прафесіянальных адносінаў да справы, да работы на кожным канкрэтным участку…

— Сутнасць маёй асабістай незадаволенасці справамі ў спартыўным жыцці рэспублікі ў тым, што не дае мне спакою тая ж міграцыя нашых спартыўных талентаў і іхніх настаўнікаў за мяжу, — гучыць з дыктафоннай стужкі, што адносіцца да канца 1995 года, голас Рыжанкова. — Нізкая заработная плата, не самыя лепшыя ўмовы для штодзённых заняткаў не могуць утрымаць дома нават самых адданых патрыётаў Бацькаўшчыны. З аднаго боку, я гэта добра разумею… А з другога — не магу зрабіць нічога для выпраўлення сітуацыі. Нам трэба як мага хутчэй прыняць меры і захады на дзяржаўным узроўні, каб матэрыяльна зацікавіць людзей працаваць на родную дзяржаву, у імя праслаўлення яе на міжнароднай спартыўнай арэне. Што-кольвечы робіцца ўжо… Самыя таленавітыя спартсмены атрымліваюць алімпійскія стыпендыі і стыпендыі Міністэрства спорту, трэнеры і спецыялісты, якія выхоўваюць чэмпіёнаў і прызёраў сусветных і еўрапейскіх першынстваў, заахвочваюцца прымальнымі прэміямі, жыллём і аўтамабілямі. Я асабіста не сумняваюся, што ў недалёкай будучыні жыццё дома наогул стане больш цікавым, радасным і ўпарадкаваным…

Такое жыццё сёння ўсё больш становіцца явай.

— Наперадзе вялікая і сур’ёзная праца, — не аднойчы паўтараў мне Уладзімір Мікалаевіч. — Так што спраў хопіць усім і кожнаму…

У гэтых справах Рэспублікі Беларусь не хапае і доўга будзе не хапаць самога Уладзіміра Рыжанкова…



## *Барыс і Зоя Бальшаковы:*

# ІМ ПАКАРЫЛІСЯ ШАША І ЛЁД

*Барыс Бальшакоў нарадзіўся 26 верасня 1910 года ў горадзе Архангельску. Заслужаны майстар спорту СССР. Шматразовы чэмпіён Беларусі па канькабежнаму і веласіпеднаму спорту. Трохразовы чэмпіён Савецкага Саюза па канькабежнаму спорту на дыстанцыях 500 і 1500 метраў (1941, 1947 і 1948 гады). Трохразовы чэмпіён СССР па веласіпеднаму спорту ў групавой шашэйнай гонцы на 150 кіламетраў і ў спрынтэрскім мнагаборстве на трэку (1947 і 1949 гг.). Пераможца і прызёр многіх міжнародных і ўсесаюзных спаборніцтваў.*

*Зоя Бальшакова нарадзілася 25 снежня 1912 года ў горадзе Вільня. Заслужаны майстар спорту СССР. Заслужаны трэнер БССР. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі. Трохразовая чэмпіёнка Савецкага Саюза па веласпорту ў каманднай гонцы на трэку і ў шашэйнай каманднай гонцы (1947, 1948 і 1950 гады). З 1951 года — старшы трэнер зборнай каманды Беларусі па канькабежнаму спорту.*

Гэта былі ўсебакова развітыя, кампетэнтныя і глыбока дасведчаныя людзі. Барыса і Зою Бальшаковых высока цанілі і паважалі ўсе, хто іх ведаў ці то па працы, ці то па жыцці… З імі можна было падзяліць і радасці жыцця, і гора ды няўдачу. Людзей не падманіш, што называецца, не правядзеш: яны бачаць, наколькі ты ў адносінах да іншых шчыры, сумленны і праведны!

А больш за ўсё вабіла і цягнула да іх людзей тое, што самі яны — Барыс Аляксеевіч і Зоя Францаўна — штодзённа і штогадзінна паказвалі іншым, як трэба жыць і працаваць…

…Яшчэ ў 1930-я гады, калі на Беларусі толькі-толькі пачалі займацца наладжваннем фізкультурна-спартыўнага жыцця, Барыс Бальшакоў сабраў у Мінску сяброў-аднадумцаў і разам з імі прапанаваў мясцовым уладам у зімовы час заліваць на гарадскіх

пляцоўках і ўскраінах каткі і канькабежныя дарожкі, «прыладкоўваць» для гэтага і замерзлую Свіслач… Зазвычай рабілі ўсё сваімі рукамі, аднак дапамагала і ўлада. Тыя ж энтузіясты спакою начальнікам не давалі і ў 1933 годзе прапанавалі арганізаваць і правесці масавыя спаборніцтвы па канькабежнаму спорту. Ахвочых выступаць на стаерскіх дыстанцыях 5000 і 10000 метраў не знайшлося, а вось высветліць, хто хутчэй за ўсіх адолее 500 і 1500 метраў, — хапала.

І ў тым, 1933-м, і на наступных чэмпіянатах рэспублікі арганізатар і натхняльнік гэтых стартаў Барыс Бальшакоў роўных сабе на лёдавых дарожках не ведаў… І тымі перамогамі ён заўсёды даражыў і ганарыўся.

У 1937 годзе зноў жа пры актыўным удзеле Бальшакова быў арганізаваны і праведзены і першы чэмпіянат Беларусі па веласіпедных гонках на шашы і па перасечанай мясцовасці. Павагаўшыся крыху перад самым пачаткам спаборніцтваў, Барыс усё ж такі прыняў рашэнне і самому выйсці на старт. Стартаваў — і выйграў!

У самы апошні мірны год — 1941-ы — мінскі дынамавец Барыс Бальшакоў адзначыўся і на ўсесаюзнай арэне: ён перамог на чэмпіянаце Савецкага Саюза па канькабежнаму спорту на дыстанцыі 500 метраў. І хто ведае, як бы склаўся далейшы спартыўны лёс выхаванца спартыўнай арганізацыі нашай рэспублікі, калі б мірнае жыццё не парушыла вайна…

А так… Чатыры гады было не да трэніровак і заняткаў, і, перамогшы яшчэ двойчы на першых пасляваенных чэмпіянатах краіны на дыстанцыях 500 і 1500 метраў, Барыс зразумеў: час — беззваротны, трэба заняцца трэнерскай работай. На пасадзе трэнера Мінскага абласнога савета спартыўна-фізкультурнага таварыства «Дынама» ён сканцэнтроўвае ўсе свае сілы і бясцэнны вопыт на падрыхтоўцы маладых спартсменаў.

На жаль, лёс не даў яму магчымасці спаўна праявіць сябе на педагагічнай ніве: 27 верасня 1950 года жыццё заслужанага майстра спорту СССР Барыса Аляксеевіча Бальшакова трагічна абарвалася…

Выдатнай спартсменкай і трэнерам была і жонка Барыса Бальшакова — Зоя Францаўна. Сканцэнтраваўшы свае прыродныя даныя і выдатную фізічную падрыхтоўку на выступленнях у веласіпедным спорце, яна таксама дасягнула вялікіх вышынь.

Ёй было ўжо 35 — узрост, мабыць, не самы спрыяльны для дасягнення высокіх паказчыкаў у вялікім спорце. Аднак была Зоя ў меру амбіцыйная і прынцыповая, любіла (і ўмела!) паста-



*Зоя Бальшакова*

віць перад сабой канкрэтную мэту. У 1947-м папрасіла кіраўніцтва беларускага спорту заявіць яе на ўдзел у чэмпіянаце Савецкага Саюза па веласпорту ў каманднай гонцы на трэку, і ёй пайшлі насустрач… Цяжка меркаваць, дзе, калі і ў якіх абставінах паспела яна праверыць свае сілы і магчымасці менавіта на велатрэку (у Беларусі яго не было тады), аднак… Калі Зоя Бальшакова прывезла ў беларускую сталіцу залаты медаль чэмпіёнкі краіны, яе віталі як самую сапраўдную гераіню спорту…

У 1948-м яна паўтарыла свой поспех на чэмпіянаце СССР у гонцы на трэку, а ў 1950 годзе — і зноў сенсацыйна! — разам з сяброўкамі выйграла на першынстве краіны камандную… шашэйную гонку.

Перайшоўшы ў наступным, 1951 годзе, на трэнерскую работу, Зоя Бальшакова сканцэнтравала сваю ўвагу, сілы і вопыт на падрыхтоўцы маладога пакалення беларускіх канькабежцаў. І літаральна праз некалькі гадоў яна «знайшла» і вывела ў вялікі спорт самага першага беларускага чэмпіёна і рэкардсмена…

Юнага мінскага канькабежца Эдзіка Матусевіча Зоя Францаўна ўпершыню ўбачыла на адной з дваровых лядовых пляцовак. Запрасіла да сябе — у канькабежную школу абласнога савета таварыства «Дынама». Хлопчык аказаўся старанным і працавітым, і настаўніца з вучнем узяліся за справу…

Вынікамі той сумеснай, плённай і такой шчырай і самааддана працы сталі наступныя дасягненні нашага майстра лядовай дарожкі Эдуарда Матусевіча. На працягу 1965—1968 гадоў ён стаў абсалютным чэмпіёнам Еўропы (1965), двойчы — чэмпіёнам кантынента на дыстанцыі 1500 метраў, сярэбраным і бронзавым прызёрам першынства Еўропы ў мнагаборстве і на дыстанцыях 500, 1500 і 5000 метраў, уладальнікам бронзавых медалёў сусветнага чэмпіянату на дыстанцыях 1500 і 5000 метраў. Чатыры разы — у 1964, 1965, 1966 і 1968 гадах — Эдуард быў абсалютным чэмпіёнам Савецкага Саюза, столькі ж — пераможцам на асобных дыстанцыях. У 1968 годзе ён першым з беларускіх канькабежцаў устанавіў сусветны рэкорд — на дыстанцыі 1500 метраў.



## *Герман і Ларыса Бокуны:*

# ДУЭТАМ — ПА ЖЫЦЦІ І Ў СПОРЦЕ

*Герман Бокун нарадзіўся 27 жніўня 1922 года ў вёсцы Ясень Узденскага раёна Мінскай вобласці. Майстар спорту СССР. Заслужаны трэнер СССР і БССР. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі. Удзельнік XV Алімпійскіх гульняў (1952) у Хельсінкі па фехтаванню на рапірах. Чэмпіён Савецкага Саюза 1954 года ў камандных спаборніцтвах. З 1950 па 1957 год — у Беларускім і Мінскім абласным саветах фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама»; з 1957-га па 1962-і — трэнер Цэнтральнага савета Саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый БССР. У 1964—1977 гадах — намеснік старшыні Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў Беларусі.*

*Ларыса Бокун нарадзілася 11 лютага 1926 года ў горадзе Навасійску. Майстар спорту СССР. Заслужаны трэнер СССР і БССР. Заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі. Чэмпіёнка Савецкага Саюза 1947 года па фехтаванні на рапірах у камандным першынстве. У 1947—1949 гадах — на трэнерскай рабоце ў Мінску. З 1975 па 1984 год — трэнер Рэспубліканскай школы вышэйшага спартыўнага майстэрства. З'яўлялася трэнерам зборнай СССР.*

Спачатку яны самі, а потым ужо і іхнія вучні сталі легендамі яшчэ пры жыцці. Я не бачыў іх на фехтавальнай дарожцы як спартсменаў, аднак чуў ад аўтарытэтных і дасведчаных людзей аб тым, што майстрамі і Герман Мацвеевіч, і Ларыса Пятроўна былі адмысловымі. Па-першае, тады, у першыя пасляваенныя гады, стаць майстрам спорту СССР было не так і проста; а, па-другое, трапіць Герману Бокуну на першыя ў гісторыі савецкага спорту Алімпійскія гульні давялося ў выніку жорсткага і бескампраміснага адбору непасрэдна на фех-

тавальнай дарожцы. Ды і Ларыса Бокун стала чэмпіёнкай Савецкага Саюза, што называецца, не за прыгожыя вочы…

А вось іхнія вучні пайшлі далей — па вялікай дарозе, пракладзенай імі, у самы што ні ёсць вялікі спорт. Пайшлі, каб прымножыць славу і дасягненні беларускай школы фехтавання, заснаванай імі — Германам Мацвеевічам і Ларысай Пятроўнай Бокунамі.

Першае пасляваеннае дзесяцігоддзе для беларускага спорту азнаменавалася выхадам спачатку на ўсесаюзную, а потым — і на міжнародную спартыўныя арэны. Было цяжка і складана — і ўсёй народнай гаспадарцы, разбуранай, па сутнасці, дашчэнту знішчанай вайной, і кожнаму рэгіёну нашай Бацькаўшчыны, і кожнай беларускай сям’і… Тым не менш, тагачаснае кіраўніцтва Беларусі, з аднаго боку — арыентуючыся на цэнтр, на Маскву, з другога — самастойна разумеючы і безумоўна падтрымліваючы ўнутраную і знешнюю палітыку савецкай дзяржавы, на ўзняцце прэстыжу і аўтарытэту краіны на міжнароднай арэне, усведамляла, што спорт становіцца мірным палітыкам нумар адзін.

І час пацвердзіць гэта.

…У першы пасляваенны год Герману Бокуну — простаму сялянскаму маладому чалавеку — было ўжо за дваццаць. Цяжка сёння меркаваць, чым ён збіраўся заняцца ў жыцці, па якой пайсці дарозе, аднак аднойчы, трапіўшы ў Мінск, убачыў абвестку аб тым, што аб’яўлены конкурс для паступлення ў Беларускі інстытут фізічнай культуры. Спорт для яго быў справай звычнай: і падчас вучобы ў школе, і потым, пасля заканчэння дзесяцігодкі, Гера любіў усё, аднак футбол і лёгкую атлетыку — найбольш. Таму і зрабіў выбар адразу ж — інстытут фізкультуры!

Конкурсныя выпрабаванні Бокун вытрымаў паспяхова, і восенню стаў студэнтам. А неўзабаве ўбачыў яшчэ адну аб’яву — аб наборы ў спартыўную секцыю па фехтаванню на рапірах. Вясковы чалавек, ён і рапіру тую ніколі не бачыў у вочы, аднак жа… Цікаўнасць узяла верх, і неўзабаве Гера ўжо выробляў з ёй неверагодна складаныя і цікавыя трукі і рухі…

У выпускным 1949-м адначасова з дыпломам аб заканчэнні Інстытута фізкультуры, Герман Бокун адным з першых у Беларусі атрымаў пасведчанне і нагрудны знак «Майстар спорту СССР». На працу маладога спецыяліста з ахвотай прынялі ў фізкультурна-спартыўнае таварыства «Дынама»,



*Ларыса Бокун*

дзе — і гэта ўжо тады не было аніякім сакрэтам — больш часу адводзілася трэніроўкам, чым «нейкай там» бюракратычна-папяровай рабоце…

У тыя гады ўсе без выключэння спартыўныя арганізацыі і ўстановы Савецкага Саюза рыхталіся да надзвычай важнага і адказнага выпрабавання — удзелу ў першых у гісторыі савецкага спорту Алімпійскіх гульнях — 1952 у Хельсінкі. Была праведзена вельмі вялікая колькасць так званых адборачных і «праглядных» спаборніцтваў і турніраў, на якіх і прайшлі загартоўку і праверку лепшыя з лепшых, тыя, каму і былі ўручаны запаветныя і такія ганаровыя пуцёўкі на спаборніцтвы ў сталіцу Фінляндыі. Беларусаў сярод тых шчаслівчыкаў было сямёра: лёгкаатлеты Анатоль Юлін, Цімафей Лунёў, Міхаіл Салтыкоў, Міхаіл Крываносаў, вясляр Стэфан Міхайлаў і два фехтавальшчыкі — Юрый Дэксбах і ён, Герман Бокун.

Алімпійскіх лаўраў на XV Гульнях-1952 беларусы не атрымалі; тым не менш, лепшы з іх — Анатоль Юлін у бегу на 400 метраў з бар’ерамі заняў 4 месца. Першых узнагарод вышэйшага сусветнага спартыўнага форуму давялося чакаць яшчэ чатыры гады…

Герману Бокуну было ўжо за трыццаць, і рэальна разлічваць на ўдзел у Алімпіядзе 1956 года яму наўрад ці даводзілася. Аднак ва ўнутрысаюзных спаборніцвах ён яшчэ ўдзельнічаў, больш таго, у 1954 годзе зборная каманда рапірыстаў Беларусі ў складзе Г. Бокуна, А. Аўсянкіна, П. Зелікмана і А. Разжывіна выйграла залатыя ўзнагароды на чэмпіянаце Савецкага Саюза. Практычна тады ж ён развітаўся з фехтавальнай дарожкай і заняўся пошукамі і выхаваннем маладой спартыўнай змены.

Ужо на XVI Гульні ў Мельбурн (1956) у складзе савецкай зборнай паехаў 23-гадовы выхаванец Германа Бокуна Арнольд Чарнушэвіч. Набраўшыся бясцэннага вопыту, панюхаўшы, што называецца, алімпійскага пораху, на наступнай Алімпія-

дзе — у Рыме (1960) ён разам з яшчэ адным вучнем Германа Мацвеевіча — Аляксандрам Паўлоўскім — упершыню ў гісторыі беларускага фехтавання атрымае бронзавы медаль. Больш таго, на тых жа Гульнях 1960 сваю першую залатую ўзнагароду ў складзе жаночай зборнай Савецкага Саюза атрымае Таццяна Пятрэнка (Самусенка) — ці не самая таленавітая і «зорная» з выхаванак пачынаючага трэнера. З таго часу і пачнецца трыумфальнае шэсце выхаванцаў заснавальніка беларускай школы «мушкецёраў» Германа Бокуна па алімпійскіх, сусветных, еўрапейскіх і ўсесаюзных спартыўных арэнах.

Адзін пералік імёнаў яго вучняў і іх тытулаў прымушае зняць капялюш перад справамі і здзяйсненнямі Германа Мацвеевіча: трохразовая алімпійская чэмпіёнка і пераможца пяці першынстваў свету Таццяна Самусенка, неаднаразовыя чэмпіёны свету і прызёры Алімпіяд Аляксей і Дзіяна Ніканчыкавы, Юрый Смалякоў, Аляксандр Паўлоўскі, Арнольд Чарнушэвіч… Не адзін дзесятак (!) медалёў самай рознай вартасці заваявалі яны на працягу больш чым дваццацігадовай трэнерскай дзейнасці свайго любімага і адзінага настаўніка і педагога… Нямала паспрыяў ён і выхаванцам іншых спецыялістаў і трэнераў — і не толькі па фехтаванню, але і іншым відам спорту, амаль 15 гадоў — з 1964-га па 1977-ы — з’яўляючыся намеснікам старшыні Камітэта па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР. Герман Бокун курыраваў спорт вышэйшых дасягненняў, так што праз яго рукі праходзілі лёсы, справы і дасягненні практычна ўсіх тагачасных беларускіх зорак.

Поруч з ім — сваім верным спадарожнікам, дарадчыкам і аднадумцам — па жыццёвым і працоўным шляху крочыла Ларыса Пятроўна Бокун — жонка, маці, спартсменка і трэнер-педагог…

У 1947 годзе на чэмпіянаце Савецкага Саюза па фехтаванню на рапірах залатыя ўзнагароды выйграла каманда, у складзе якой была і 21-гадовая Ларыса. Тады і ўзялі яны шлюб з Германам Бокунам, і былая новарасійка на ўсё далейшае жыццё стала мінчанкай…

Папрацаваўшы амаль тры гады ў Беларускім інстытуце фізічнай культуры, Ларыса Пятроўна шмат гадоў аддала пошукам і падрыхтоўцы юных фехтавальшчыкаў у дзіцяча-юнацкіх спартыўных школах, вучылішчах алімпійскага рэзерву. Усё сваё жыццё яна даражыла і ганарылася тым, што ў

1971 годзе гасцінна сустрэла, грунтоўна пагутарыла, прыняла ў секцыю пры таварыстве «Дынама» і раскрыла потым усе сакрэты высокага фехтавальнага майстэрства перад юнай, 14-гадовай мінчанкай Ленай Новікавай, якая, у сваю чаргу, змагла потым спаўна праявіць свой прыродны талент і надзвычай вялікі патэнцыял. На Алімпійскіх гульнях 1968, 1972, 1976 і 1980 гадоў Алена Бялова (Новікава), стаўшая да таго часу ўжо вучаніцай Германа Бокуна, заваявала чатыры залатыя, адзін сярэбраны і адзін бронзавы медалі! Восем разоў (!) станавілася яна чэмпіёнкай свету… А колькі атрымана ёю іншых, такіх жа высокіх і прэстыжных медалёў, кубкаў, спецыяльных прызоў на чэмпіянатах Еўропы і Савецкага Саюза, буйных міжнародных турнірах!..

Беларускай фехтавальнай школе, якая атрымала шырокае прызнанне ва ўсім спартыўным свеце, можна па праву прысвоіць імёны Германа Мацвеевіча і Ларысы Пятроўны Бокунаў!



## *Мікалай, Уладзімір і Аркадзь Гяновы:*

## ШКОЛА ІМЯ БАЦЬКІ…

*Мікалай Гяноў нарадзіўся 3 студзеня 1930 года ў горадзе Полацку. Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь. Арганізатар і стваральнік Наваполацкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву па вадналыжнаму спорту, якая цяпер носіць яго імя. Сярод яго выхаванцаў — тры заслужаныя майстры спорту, 20 майстроў спорту міжнароднага класа, 44 майстры спорту. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», Ганаровым знакам «За развіццё фізічнай культуры і спорту ў Рэспубліцы Беларусь». Ганаровы грамадзянін горада Наваполацка.*

*Уладзімір Гяноў нарадзіўся 19 чэрвеня 1954 года ў горадзе Архангельску. Трэнер-выкладчык Наваполацкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву па вадналыжнаму спорту імя Мікалая Гянова. Майстар спорту СССР. Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь. Узнагароджаны медалём «За заслугі». Сярод яго вучняў — неаднаразовыя чэмпіёны свету і Еўропы, заслужаныя майстры спорту Алег Дзевятоўскі, Вячаслаў Дурноў, Юрый Рыктэр, майстры спорту міжнароднага класа Аляксей Жарнасек, Мікіта Папакуль, Святлана Урбан, Дзмітрый Рыклін.*

*Аркадзь Гяноў нарадзіўся 15 снежня 1961 года ў горадзе Наваполацку. Трэнер-выкладчык Наваполацкай СДзЮШАР па ваднальжнаму спорту імя Мікалая Гянова. Майстар спорту СССР міжнароднага класа. Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь. Рэкардсмен СССР у фігурным катанні на водных лыжах, пераможца і прызёр чэмпіянатаў Савецкага Саюза і Беларусі 1978—1984 гадоў. Сярод яго вучняў — неаднаразовыя чэмпіёны свету і Еўропы, майстры спорту міжнароднага класа Наталля Берднікава, Герман Белякоў, Марыя Верамчук, Максім Семавін.*

Дынастыя гэтых Людзей з вялікай літары дастойная быць занесенай у Кнігу рэкордаў Гінеса. Бо тое, што зрабілі для беларускага і сусветнага спорту Мікалай Гяноў і два яго сыны — Уладзімір і Аркадзь, — сапраўды вартае ўсеагульнай павагі і прызнання…



*Уладзімір Гяноў*

…Кім ён быў па прызванні, па закліку сэрца і душы, — сказаць сёння цяжка. Хацеў жа быць шмат кім і займацца шмат чым… Падчас галоднага і халоднага пасляваеннага дзяцінства, працуючы ў Полацкай радыёмайстэрні, Мікалай Гяноў вучыўся аднachасова ў вячэрняй школе, а нешматлікія вольныя мінуты прысвячаў заняткам самымі рознымі відамі спорту. Лыжныя гонкі і лёгкая атлетыка, футбол і валейбол, плаванне і бокс — усё цягнула, вабіла юнака. Калі ж у 1951-м яго выклікалі на медыцынскую камісію для вызначэння роду войскаў для службы ў радах Савецкай Арміі, вердыкт выдатна загартаванаму і фізічна падрыхтаванаму прызыўніку быў вынесены самы ганаровы і пачэсны — прыгодны да службы ў ваенна-марскім флоце. Зайздросцілі Гянову — усе і кожны!

Падчас заканчэння тэрміну службы на Паўночным флоце Мікалай сустрэў сваю любоў — Ніну Панфілаву — адзіную і на ўсё жыццё. А праз год — у чэрвені 1954-га — у іх з’явіўся першы сын Уладзімір, які потым, праз многа гадоў, стане першым, але не апошнім памочнікам і паслядоўнікам у зусім новай і для іх, Гяновых, і для роднай Бацькаўшчыны справе… Не апошнім, таму што праз 7 гадоў, ужо на Полаччыне, у Мікалая Леанідавіча і Ніны Аляксандраўны Гяновых народзіцца другі сын — Аркадзь — такі ж самы прыхільнік і спаткаемец бацькоўскай справы, як і першы… Але аб гэтым — крыху ніжэй.

Пасля службы на флоце Мікалай змяніў не адну мірную прафесію. У родным Полацку працаваў цесляром і выратавальнікам на лодачнай станцыі; у мястэчку Нямвозера каля Мурманска — машыністам крана і трактарыстам… «У душы, — згадваў старэйшы сын Уладзімір, — ён заўсёды заставаўся будаўніком і вельмі ганарыўся сваімі будаўнічымі “аўтографамі”, пакінутымі на многіх аб’ектах краіны…»

Найбольш тых «аўтографаў» Гянова-старэйшага засталося на старажытнай Полацкай зямлі. І не толькі будаўнічых…

У 1959-м Гяновы зноў вяртаюцца на Бацькаўшчыну. На гэты раз — назаўсёды. Мікалай Леанідавіч пайшоў працаваць кранаўшчыком у калектыў Нафтабуда, які непадалёку ад старажытнага Полацка за рэкордна кароткі тэрмін узвядзе гігант айчыннай прамысловасці — Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод, а потым — і шэраг іншых новабудоўляў другой паловы ХХ стагоддзя. Яго асабісты ўклад у гэту справу будзе адзначаны высокай урадавай узнагародай — ордэнам «Знак Пашаны».



*Аркадзь Гяноў*

Калектыў Нафтабуда ў цэлым, практычна ўсе яго падраздзяленні складаліся ў асноўным з моладзі — юнакоў і дзяўчат, якія ўмелі не толькі шчыра і ахвотна працаваць, але і любілі весела і разнастайна адпачыць. А які ж адпачынак без заняткаў фізічнай культурай і спортам?! Адна за другой, бы грыбы пасля добрага дажджу, пачалі з’яўляцца ў Наваполацку спартыўныя секцыі і каманды: па валейболу, баскетболу і футболу, лыжных гонках і боксу, цяжкай і лёгкай атлетыцы, веславанню на байдарках і каноэ, барацьбе і тэнісу, веласіпеднаму і стралковаму спорту. Услед за простымі спартыўнымі пляцоўкамі наваполачане атрымалі ад тых жа будаўнікоў першыя спартзалы, басейны і базы інвентару.

…Летам 1966 года Мікалай Гяноў паехаў на адпачынак у Еўпаторыю. Там і ўбачыў ён «за справай» прадстаўнікоў новага для сябе, такога непаўторнага віду спорту, як водныя лыжы. Яны і сталі ягоным чарговым захапленнем — на гэты раз на ўсё жыццё!

Ужо ў тым жа 1966-м па Заходняй Дзвіне, побач з выратавальнай станцыяй Наваполацка, сябры і знаёмыя Гянова пачалі катацца на самаробных водных лыжах. Хтосьці з зайздрасцю назіраў за імі, хто-кольвечы з’едліва насміхаўся. Аднак меў рацыю класік беларускай літаратуры: смяецца той, хто смяецца апошнім…

Роўна праз год — у 1967-м — каманда наваполацкіх воднalыжнікаў заняла трэцяе месца на чэмпіянаце Беларусі. Тады ж

на штучным Мінскім моры яны ўпершыню ўбачылі і на справе праверылі трамплін для скачкоў на лыжах і трасу для слалама. Арыенціры для далейшай работы былі выбраны адразу ж і даволі канкрэтныя, і 19 мая 1968 года ў Наваполацку быў афіцыйна адкрыты вадналыжны клуб імя Юрыя Гагарына.

На працягу наступных васьмі гадоў Мікалай Гяноў на грамадскіх пачатках, па сутнасці, узначальваў клуб. Яго папулярнасць расла і памнажалася літаральна з кожным днём. А калі ў кастрычніку 1973 года адной з лепшых вучаніц Мікалая Леанідавіча — 16-гадовай Таццяне Борыс першай сярод спартсменак клуба было прысвоена званне «Майстар спорту СССР», у Наваполацку было самае сапраўднае свята… Дарэчы, крыху больш чым праз год, у лістападзе 1974-га яна стала і першым майстрам спорту міжнароднага класа.

У 12-гадовым узросце ўпершыню стаў на водныя лыжы і неўзабаве імкліва паімчаў па Заходняй Дзвіне старэйшы сын Гянова — Уладзімір. Паімчаў настолькі смела, рашуча і ўпэўнена, што таксама стаў потым майстрам спорту.

Энтузіястаў і шчырых прыхільнікаў водных лыж усяляк падтрымлівалі мясцовыя ўлады Наваполацка. Не адно дзесяцігоддзе згадвалі, згадваюць і будуць згадваць тут імёны сапраўдных энтузіястаў і прыхільнікаў спорту: былога партыйнага важака наваполацкіх камуністаў Артура Бязлюдава і дырэктара вытворчага аб’яднання «Палімір» Льва Наважылава, якія, дарэчы, на грамадскіх пачатках узначальвалі адпаведна Беларускую рэспубліканскую і Віцебскую абласную федэрацыі вадналыжнага спорту. Той жа «Палімір», між іншым, доўгі час поўнасцю ўтрымліваў на сваім балансе вадналыжны клуб імя Гагарына...

Наўрад ці патрэбны каментарыі да такіх фактаў!

Далей за свайго старэйшага брата Уладзіміра пайшоў малодшы Гяноў — Аркадзь. У 1978-м ён надзвычай упэўнена выступіў на міжнароднай матчавай сустрэчы вадналыжнікаў Беларусі і Чэхаславакіі на новай спартыўнай базе навапалачан на возеры Суя і выканаў нарматыў майстра спорту СССР міжнароднага класа. Дарэчы, на тых спаборніцтвах было ўстаноўлена адразу пяць рэкордаў Савецкага Саюза, і навапалачане змаглі перамагчы нават шматразовага чэмпіёна Еўропы і прызёра сусветных першынстваў, рэкардсмена свету чэха Францішка Сцягно.

Высокія паказчыкі наваполацкіх вадналыжнікаў на поўную моц загучалі ў 1980-я гады. Першым сярод мясцовых выха-

ванцаў чэмпіёнам Савецкага Саюза стаў Аляксандр Баярын, першым уладальнікам Кубка СССР і чэмпіёнам сусветнай студэнцкай Універсіяды — Юрый Рыктэр. Усё больш і больш упэўнена заяўляў аб сабе юны Алег Дзевятоўскі — гонар і гордасць Наваполацка, ён стане потым чатырохразовым абсалютным чэмпіёнам Еўропы!

Пакінуўшы вялікі спорт як дзеючыя спартсмены, і не падумалі развітацца з воднымі лыжамі сыны Мікалая Леанідавіча — Уладзімір і Аркадзь. За падрыхтоўку на наваполацкай вадналыжнай трасе майстроў высокага міжнароднага класа першаму з іх у 1989 годзе, а другому — у 1992-м былі прысвоены званні заслужанага трэнера Беларусі. І калі ўлічыць, што такім тытулам яшчэ раней быў уганараваны і сам Мікалай Гяноў, неабходна адзначыць: гэты факт сапраўдыварты быць занесеным у Кнігу рэкордаў Гінеса.

…Сёння вадналыжная школа Гяновых — адна з самых вядомых і прызнаных на еўрапейскім кантыненце!

*Замест заключэння*

## ПРАЦЯГ БУДЗЕ!

*Хочам мы таго ці не, прызнаем тое ці, наадварот, будзем шукаць аргументы для абвяржэння, аднак факт застаецца фактам: сёння спорт у жыцці кожнага суверэннага грамадства, ва ўзаемаадносінах чалавецтва з'яўляецца палітыкам нумар адзін. І супраць гэтага доваду наўрад ці знойдзе хто-небудзь факты, матывы, падставы для сумнення... Бо гэта — адзін з фактараў сёння шняй рэчаіснасці, той фактар, які вызначае і, несумненна, яшчэ доўга будзе вызначаць прынцыпы і падыходы ў выпрацоўцы і ажыццяўленні кантактаў і супрацоўніцтва народаў, дзяржаў і нават цэлых кантынентаў.*

*Шматвяковая гісторыя, тысячы і мільёны прыкладаў з жыцця сведчаць: так было і ёсць!*

*І пераконваюць: так і павінна быць!*

*Вышэйшыя спартыўныя форумы — Алімпійскія гульні, чэмпіянаты свету і кожнага з пяці кантынентаў — і ў другой палове мінулага, XX, і на самым пачатку новага, XXI стагоддзя пераканаўча пацвердзілі: спорт — пасол свету і міру на Зямлі!*

*Як і кожная іншая справа — вялікая і малая — спорт стаў на ногі, прайшоў загартоўку і зараз радуе нас сваімі, часам проста неверагоднымі, дасягненнямі і паказчыкамі, дзякуючы чалавеку. Гэта яго, чалавека, розум і інтэлект, фізічныя і фізіялагічныя магчымасці спрыялі, спрыяюць і будуць спрыяць дасягненню новых, яшчэ больш адметных вышынь і спартыўных рэкордаў. І мы, і наступныя пакаленні стануць сведкамі з'яўлення новых герояў спорту, тых, каго алімпійскі дэвіз «Хутчэй, вышэй, мацней!» выведзе на новыя сусветныя дасягненні, якімі па праву будзе ганарыцца чалавецтва. Ганарыцца так, як мы ганарымся сёння імёнамі, справамі і здзяйсненнямі нашых землякоў і суайчыннікаў.*

*О спорт! Ты — мір!*

# ЗМЕСТ

